# КУЗЬМА ЧОРНЫ



## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ВАСЬМІ ТАМАХ



*Рэдакцыйная калегія:*
В. В. БАРЫСЕНКА,
М. Ц. ЛЫНЬКОЎ,
А. М. АДАМОВІЧ,
Ю. С. ПШЫРКОЎ



ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1974

# КУЗЬМА ЧОРНЫ

ТОМ
ШОСТЫ

РАМАНЫ
«ПОШУКІ БУДУЧЫНІ»,
«МЛЕЧНЫ ШЛЯХ»,
«ВЯЛІКІ ДЗЕНЬ»

АПОВЕСЦЬ
«СКІП'ЁЎСКІ ЛЕС»

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1974

# ПЕРШАЯ ЧАСТКА

## УКРАДЗЕНАЕ МАЛЕНСТВА

Пладзецеся і размножвайцеся,
і напаўняйце зямлю...
*(Біблія—«Кніга быцця».)*

### I

Той дзень быў ціхі, хмурны, сухі і цёплы. Стаяў верасень месяц. І даўно гэта было. Час быў такі, што нашы бацькі былі на вайне. Ішла вайна з немцамі 1914—1918 гадоў. Усе мы былі або малыя, або самыя зялёныя падросткі. Асенні дзень ужо хіліўся да вечара свайго. Мы былі ў полі. Тыя гады прымусілі нас змалку дзён прывучвацца да плуга і касы, да пілы і сякеры, да гэбля і долата, да молата і кавадла. Гэтае начынне і прыладдзе, па якім яшчэ нядаўна хадзілі бацькавы рукі, было яшчэ і цяжкае і вялікае кожнаму з нас, але ў той меры, у якой ішоў час, усё больш звыкласць, як светлы ратунак, прыходзіла да нас, і, тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, сталася так, што дзесяцігодныя дзяўчаткі жалі жыта, дванаццацігодныя хлапчукі аралі як мае быць, а пятнаццацігодныя самі вялі гаспадарку, кармілі сем'і працай сваіх рук, ведалі, дзе, што і як сеяць, умелі зрабіць новы панарад і драбіны і давалі слушныя заўвагі кавалю, калі той не так як трэба нацягваў шыну на кола. Шаснаццацігодныя хлопцы хадзілі па пілоўцы, а семнаццацігодныя пачыналі пераймаць цяслярства.

Пакуль змеркне, кожны з нас стараўся ўправіцца з работаю. Унь на самым крайнім палетку ходзіць за плугам чатырнаццацігодняя Волечка Нявадавых. Сам Нявада больш як паўгода не шле пісем з вайны. Волеччын голас, калі яна паганяла каня, чуўся па полі круглы дзень. Сама яна даволі рослая, і ранняя праца выраўняла яе, твар яе абветрыўся, рукі папрутчэлі і паходка стала цвёрдай. Асмугласць ляжала на яе шчоках, і босыя ногі не баяліся ржэўя. Подых восені ціхай задуменасцю клаўся на поле, і ўдалечыні сіняя істужка лясоў здавалася разасланай цераз усю зямлю. Каржакаватая хвоя, якая расла на фоне

лесу і далёка ад яго, здавалася рухавай: яна як бы ішла ў наш бок.

Дзень бадай-што ўжо канчаўся. Наша мястэчка стаяла ў лагчыне і ўжо ледзь відно было ў засцілах першых прыцемкаў. Сярод поля бялелася роўная істужка дарогі — гэта быў вялікі стары шлях паміж усходам і захадам. Нам дзіўна было бачыць, што ён цяпер пусты. Яшчэ некалькі дзён назад тут дзень і ноч грукацелі выгнанскія фурманкі. Тут праехалі польскія сяляне, нашы гародненцы, беластачане, віленцы і вілейчане. Паабапал гэтай дарогі навыростала многа магіл і крыжоў. Усе дні далёкая артылерыйская кананада па той бок Баранавіч глуха аддавалася ў нашых прасторах і абуджвала ў нашых душах трывогу і няясныя чаканні самага горшага.

Ужо Волечка Нявадавых кончыла работу і збіралася дадому. Сонца вісела над яснай далечынёй за нашым мястэчкам. Усе бачылі, як Волечка стаяла тварам на захад і, прыклаўшы руку да лба, углядалася ўдалечыню. Што яна там бачыць? Усе заўважылі нейкі невялікі рух пад тою адзінокаю хвояй. Тры чалавечыя постаці, воз з канём. Добра відно было, што двое паволі ідуць полем да трэцяга, які стаяў на шашы ля воза і трымаў каня. Ад шашы да хвоі зусім недалёка. Неўзабаве мы бачылі, як двое селі на воз і нешта вельмі высока сядзелі на ім. Нешта было пад імі на возе. Трэці ішоў ззаду, а воз набліжаўся да нас.

— Чаго глядзець,— сказала Волечка і рухава сабралася рушыць дадому. Я вельмі добра аж дагэтуль памятаю тыя яе словы: хіба яна магла тады падумаць, што гэта едзе на старой растрэсенай фурманцы яе лёс?..

Фурманка спынілася на дарозе ў мястэчка, непадалёку ад Волечкі, якая ўжо выводзіла на тую ж дарогу свайго каня. Усё гэта было даволі дзіўнае. На старым, пазвязваным дротам і вяроўкамі возе стаяла зачыненая труна, на ёй, у задку воза, спіною к каню, сядзеў нейкі чалавек. Гэта была істота, на якую мы глядзелі з непаразуменнем: вочы чырвоныя і прыпухлыя, позірк вялы, твар спушчан уніз да грудзей, чалавек увесь сціснуты, скамечаны. Чым больш мы прыглядаліся, тым больш здагадваліся: гэта палонны немец. Ззаду за возам прыйшоў і канвойны рускі салдат. Цяпер ён стаяў з вінтоўкай пры кані і сказаў да Волечкі:

— Што гэта за мястэчка унь відно ў лагчыне?

— Сумлічы,— адказала Волечка.

— А ці знойдзецца там, каб у каго пакласці нанач гэтага немца?

— Дык дзіва што знойдзецца,— адказалі мы ўсе хорам, зацікаўленыя тым, што ў нашым мястэчку будзе начаваць палонны немец.

— Ён хворы,— растлумачыў нам салдат.— Трэба даць яму паляжаць, а то ён не дойдзе да месца. І так дарогаю колькі разоў лажыўся каля дарогі. Унь пад той хваінай у полі нешта гадзін дзве ляжаў. Гэта добра, што гэты хлопец з возам якраз натрапіўся на дарозе. А то мне было хоць скачы каля яго. Не ўстае, дый годзе. А яшчэ далёка асталося мне яго канваіраваць.

— Але, добры інтэрас! — з пратэстам у голасе і тоне абазваўся трэці з гэтых людзей. Гэта быў хлапчук год шаснаццаці. З усяго відно было, што ён гаспадар каня і воза. Ён сядзеў на другім канцы труны, у перадку воза, тварам к каню і спіною да немца, і трымаў у руках лейцы.— Табе трэба яго канваіраваць ці каб ён вылежваўся, а мне — вазіся з ім і вазі ў труне непахаванага бацьку. Табе добра, у цябе немец, чорт яго бяры, яны з гармат смалілі па нашай вёсцы і нас у свет выгналі, а ў мяне хворы бацька ўчора памёр на дарозе, хворы і з дому выехаў, і маці памерла на тым тыдні, пры дарозе пахавана, і сястра памерла.

— Ну дык таго што было не вернеш. Давай падвязём яго ў мястэчка.

— Не павязу я яго! Пакуль не пахаваю бацькі — нікога слухаць не буду! Я яго хацеў хаваць пад той хваінай, а ты казаў, што паможаш мне дзе-небудзь тут пахаваць. Забыўся? Ну дык памагай.

— Дзе ў вас тут могільнік? — сказаў салдат у наш бок. Мы оступам стаялі каля гэтага растрыбушанага воза з трunoю. Ужо сонца вісела на самым пункце свайго захаду: к вечару неба расчысцілася, і восень нарадзіла ясноту хоць перад скананнем дня.

— Могілкі унь, бярозы відны перад мястэчкам.

— Паедзем хаваць,— сказаў салдат.

Хлапчук закруціў над канём канцамі лейцаў, пачаў нокаць і цмокаць. Конь раней угнуў галаву, рэбры пад яго скурай захадзілі ходарам, ён зрушыў з месца воз, салдат пайшоў ззаду, за салдатам Волечка павяла свайго каня, які цягнуў плуг на саначках, а следам мы — з коньмі, плу-

гамі, баронамі. Хлапчук сядзеў у перадку на канцы труны, а немец на другім канцы труны, угнуты, скурчаны, безуважны да ўсяго. Так праз хвілін дзесяць гэтая дзіўная працэсія спынілася каля местачковых могілак, за якімі пачыналіся ўжо местачковыя хаты. Хлапчук саскочыў з воза і скамандаваў:

— Прынясіце рыдлёвак.

Выгляд у яго быў такі, як быццам бы ён быў вялікі спецыяліст хаваць такім парадкам нябожчыкаў.

Добра было слухаць чужую каманду, але як яе адразу паслухаць? Мы ж былі гаспадары! Нашы ж бацькі былі на вайне! Быццам на тое ішлося, каб Волечка першая памагла невядомаму ў мястэчку госцю хаваць бацьку: салдат вырваў з яе рук повад і перадаў мне яе каня: — Пастаў нанач яе каня, а яна прынясе рыдлёўкі.— Тут жа ўсе разышліся, але, як змеркла, ужо ўсе зноў былі тут. Перашкаджаючы адзін аднаму, мы капалі вялікім гуртам магілу невядомаму нам чалавеку. Пасля мы патурбавалі немца. Салдат памог яму злезці на зямлю, і ён лёг на траве. Цяжка было нам апусціць труну ў яму, але нас быў вялікі гурт. Калі ўжо была насыпана магіла, мы зноў уссадзілі немца на воз, і ён на возе лёг, крэкчучы і стогнучы. Волечка пазбірала рыдлёўкі. Працэсія, але ўжо без труны, зноў рушыла. Мы ішлі за возам. Хлапчук сказаў да Волечкі:

— На, падвядзі каня, а я хоць душу пражыўлю крыху: не было часу за цалюткі дзень нават закурыць.

Волечка ўзяла лейцы і пайшла побач каня, недарослы гаспадар якога скруціў у паперы нейкае пацёртае лісце і так зацягнуўся дымам, што здавалася, гэта ён ратуецца ад вялікае навалы.

— Куды ж ехаць? — сказала Волечка.

— Ну вядзі ў сваю хату,— сказаў салдат.

Волечка ўвяла каня з возам у свой двор. Сама яна адразу пайшла ў хату: у яе была гаспадарка. Трэба было падаіць карову, а на дварэ ўжо зусім сцямнела. Следам за Волечкай увайшоў у хату і малады выгнанец, які толькі што пахаваў бацьку. Ён быў босы і ў салдацкай шапцы з пераломаным казырком. Хоць было яшчэ і цёпла, на ім нязграбна сядзела шырокая, не на яго рост, жакетка з самаробнага сукна, вядома ў дарозе. Каўнер абгамтаўся навокал шыі, і, напэўна, ён як адзеўся ў жакетку колькі дзён да гэтага, дык усё ўтрапенне апошніх дзён так і перабыў, не раздзеючыся. Светлага воласу, з абветра-

ным тварам і з рэдкімі вяснушкамі на пераноссі, ён здаваўся ціхманым і не вельмі рухавым. Льга было падумаць, на яго гледзячы, што ён так будзе стаяць доўга ў парозе і чакаць, як і куды пойдуць далейшыя справы. А тым часам Волечка даставала з паліцы збанок і накрывала яго цадзілкай.

— Пойдзеш карову даіць? — сказаў ён з няпэўнай інтанацыяй няпрошанага госця.

— Пайду. Гэта ж ужо так позна, з усім гэтым заваждаліся.

— Няхай яно ўсё прападзе, як нядобра, гадка і цяжка.

З аднаго толькі яго хрыпатага голасу можна было чуць, як сапраўды яму цяжка прыйшлося. Ён далей сказаў:

— Я хіба тут у вас з канём на двары пераначую, бо немаведама куды падацца: цёмна, позна, чужая старана. А заўтра буду брацца далей куды. А дзе ж усе, што ты адна дома?

— Маці я свае не памятаю, яна даўно памерла, і маладзейшая сястра мая памерла, як малая была, а бацька на вайне і нічога не піша мне.

Яна пайшла, і ён за ёю. Ідучы за ёю, ён запытаў:

— Дзе гэта дастаць чаго, каб каня накарміць?

Яна нічога не адказала, а ён больш не пытаў: яны ўбачылі, як салдат ссаджваў з воза хворага немца: трымаючы яго пад плячо, салдат бадай-што нёс немца да сенечных дзвярэй, і той вяла перабіраў нагамі, гнучыся ў крук. Волечка і яе нечаканы госць пачалі памагаць салдату. Гуртам увялі яны немца ў хату і паклалі на лаву. Салдат сеў каля яго курыць. Волечка даіла карову. Малады выгнанец стаяў каля яе і ўсё парываўся нешта сказаць. Нарэшце вось што ён сказаў:

— Мы з-пад Вілейкі. (Волечка маўчала, як самая сталая з усіх жанчын свету.) Слухай, я там за равамі бачыў стагі. Паеду прывязу сена, дык і твайму каню будзе.

— А калі хто ўбачыць?

— Я не баюся, я выгнанец.

— Але ж гэта чужое.

— Але ж мяне не пыталі, калі з хворым бацькам з хаты выганялі.

І зноў вялікая сталасць агарнула Волечку.

— Дык я паеду, а ты брамы не зачыняй.

Тут яна адарвалася ад свае работы і паважна сказала:

— А тут ящчэ гэты немец хворы ў хаце.

— Небыт. І я папаездзіў з ім.

Так яны быццам згаварыліся ў нейкай ім толькі адным вядомай справе. Разумеючы адзін аднаго да канца, яны, як змоўшчыкі, зірнулі адно аднаму ў вочы. Яна зноў пачала даіць карову, а ён ціха выехаў на пустым возе з двара.

Прайшло гадзін паўтары, калі ён вярнуўся. Каля аднаго акна ў Вольчынай хаце гарэў агонь. Ён увайшоў. Волечка спала на тапчане ля печы. Салдат паіў ляжачага немца малаком з лыжкі. Волечка ўсхапілася, як бы электрычны ток праця́ў яе сонную, калі толькі яе госць увайшоў у хату. Абое разам яны выйшлі ў сенцы.

— Прывёз,— сказаў ён.— Я дам і твайму каню.

— Стаў і свайго да майго ў хлеў.

— А ты ідзі спаць.

Сонная, яна хістанулася на нагах і шпарка пайшла ў хату. А ён ціха і спакойна зачыніў за сабою сенечныя дзверы. Верасвёвая ноч стаяла над зямлёй. Уся яго істота напоўнілася натхнёным адчуваннем гэтай зорнай і ціхай ночы. Ён доўга стаяў пасярод незнаёмага яму двара, на новым сваім месцы, аб існаванні якога раней і не здагадваўся. Свайго і Вольчынага каня ён паставіў да сена і сам лёг на воз, тварам у зоры. Чорныя сілуэты вялікіх дрэў вырысоўваліся перад ім, дзесьці за гэтай цеснай сялібай, за ціхай вуліцай, за пахучымі паплавамі, дзе ён нядаўна браў сена. І такая стаяла цішыня, што здавалася — восень сочыць, ці не парушае што яе спакою. Чутно было, як грукалі коні, пережоўваючы сена. Сонная птушка спалохалася, крыкнула і сціхла, і залапатаў крылламі певень. Яблыка адарвалася ад галіны і стукнулася аб зямлю. І зноў надоўга ўстанавілася цішыня. Ён спаў на сваім возе доўга і раптам усхапіўся і сеў. Зорнае неба ўсё таксама распасціралася ў шырокай вышыні. І смутак лажыўся на яго душу. «Скора дзень. Трэба зноў ехаць. Куды? Чаго? Павошта? Чаго шукаць у шырокім свеце? Не знойдзецца тое, што прайшло, мінулася і загінула ў гарматным агні і попел ад чаго развейваецца вятрамі далёка адсюль. Адзін клапатны, з утрапеннем і небытам дзень адышоў у вечнасць, а гэта новы ідзе на яго месца».

Ён звесіў ногі з воза, угнуў плечы і заныў так у маўклівасці ночы і свае душы. Ён нават не заўважыў, што ў адным акенцы хаты гарыць святло. Пачынала цадзіцца

павольнае світанне. Зоры радзейшыя сталі. Як бы хто высыпаў неба на ўсходзе белым попелам. І раптам стукнулі сенечныя дзверы. На ганку стаяла босая Волечка.

— Што?— сказаў ён, быццам меў тут права на такі гаспадарскі тон.

Вострая радасць агарнула Волечку: яна не адна, тут ёсць асоба, з якою яны ўчора сталі ўдваіх як бы вялікімі на ўвесь свет змоўшчыкамі, разам яны як бы хацелі адгарадзіцца ад усяго свету, які для іх абаіх быў такім бязлітасным. Яна падбегла да яго і паклала руку на яго калена і зашаптала:

— У хаце немец, мусіць, умірае. Нешта лапоча і нечага хоча, але ні я, ні салдат здагадацца не можам.

Ён саскочыў з воза, і пакуль яна застыла ў нерухомай паставе чакання: што ён будзе рабіць у такой нязвыклай справе. І якраз ён тут павінен даць рады, а не яна. Вельмі можа быць, што тут, і ўпершыню, у яе з'явіліся пачаткі спадзявання жанчыны мець дапамогу ад мужчыны і ісці за ім. Ён жа стаяў і адчуваў цяжар ускладзенага жыццём на яго клопату. Ён мае дачыненне да ўсёй гэтай нечаканай, цяжкай справы, і выйсці з яе нельга. Раптам ён нейк устрапянуўся і шпарка рушыў у хату. Волька подбегам кінулася за ім. Немец ляжаў на лаве і шпарка нешта стараўся сказаць. Твар яго яшчэ больш умарнеў, але ўчарашняй вяласці ў вачах не было. У вачах свяціўся бляск і, можа, гэта з гарачкі, ніхто тут нічога не ведаў, і што ён сказаць хацеў — невядома. Салдат сказаў хлопцу:

— Немец можа памерці, трэба доктара.

— А хіба я ведаю, дзе той доктар?— развёў хлопец рукамі, і ў яго голасе было многа пратэсту: «Што вы маеце да мяне? І так мяне ўчора валтузілі, не давалі бацьку пахаваць!» Волечка стаяла за ім нейкая малая, ціхая.

— Пакажы мне, дзе ў вас доктар,— сказаў да яе салдат,— хадзем.

— У нашым мястэчку цяпер няма доктара,— адказала яна ўзбуджана,— ён на вайне.

— А дзе ж вы лечыцеся, калі хто захварэе?

— Калі хто захварэе, дык паляжыць і сам ачуняе.

— Дык дзе ж дастаць доктара?

— Дык можа ён і так паправіцца?

— Можа і паправіцца. Але доктар усё роўна патрэбен, напісаць акт або аб смерці, або аб тым, што ён хварэў і правіўся, і таму я так павольна яго вёў.

— Доктар ёсць у другім мястэчку за дзесяць вёрст.

— Запражы каня,— сказаў салдат да хлопца,— і прывязем доктара.

— Добра,— узбуджана адказаў хлопец. Магло здавацца, што ён нечаму ўзрадаваўся.

— А калі ехаць? — сказаў ён ахвотна.

— Трэба хутка.

— Дай яму чаго паесці,— сказаў салдат да Волькі.

Хлопец і Волька выйшлі ў сенцы і сталі раіцца. Яна сказала:

— Я звару чыгунок бульбы, ёсць накопаная, і салдата накормім, а немцу малака дам.— Выходзіла так, што і хлопец тут як бы гаспадар і з ім трэба раіцца.

— Добра,— адказаў ён,— пакуль ты ўправішся, дык я воз абладжу.

— Мне яшчэ трэба карову падаіць.

З якой ахвотай ён узяўся за работу! Як гэта ўсё добра! Ён прымацован да нейкай справы, і надалей адышла неабходнасць выбірацца ў невядомую дарогу шукаць немаведама чаго ў беспрытульным свеце. Ён абгледзеў воз: стары ён быў, раз'езджаны, паламаны. Пакуль у дарогу — трэба яшчэ пазмацоўваць яго. Ён за гэта і ўзяўся. Пасля пайшоў да коней. Коні паелі сена і абнюхваліся. З выглядам знаўцы гэтай справы ён падняў Вольчынаму каню верхнюю губу і агледзеў зубы. Вымасціў сенам воз, напаіў коні і запрог у воз свайго каня. Снедаючы разам з салдатам і Волькаю, ён сказаў да яе:

— Твой конь вельмі стары, я яму ў зубы глядзеў. Дзіва што ён такі худы, у яго жаваць няма чым.

— І твой худы,— адказала яна.

— Але ён малады, яму ўсяго пяць год. Ён здарожаны. Калі яму даць харч і спакой, то я б яго на ляльку вырабіў бы.

Волька паказала яму, куды ехаць, і ён выехаў з салдатам у дарогу. Салдату рупела хутчэй адчапіцца ад усёй гэтай валаводзіны, і ён падварушваў свайго фурманшчыка, а той выконваў свае абавязкі з заўзятасцю чалавека, які з гэтага хлеб есць. Так што яны шпарка даскочылі да мястэчка, але доктара і там не засталі: ён паехаў у нейкае сяло да хворых, але затое там яны здабылі фельчара, казённага, з амбулаторыі, і салдату ўдалося вельмі хутка выехаць назад з фельчарам. Гэты фельчар быў чалавек

мясцовы. Служачы пры доктару, ён за доўгія гады набыў вялікую практыку і ведаў практыку жыцця і на хваробах знаўся. Усю дарогу ён распытваў — а адкуль, а як, а што, салдату было весялей, таму і ехалі павальней. І вось праз усю дарогу назад, не спяшаючыся ехаць, малады фурманшчык разглядаў наваколле паабапал дарогі. Дзень гэты быў сонечны. На бярозах трапяталася жоўтае лісце. У чыстым полі адзінокі лісток на дарозе імкнуўся з ветрам удалячынь. Лясы паўз дарогу нерухома вартавалі спакой восені. На пустым іржышчы і на пакошах хадзіла жывёла. Ясны сум восені, здавалася, плыве з ветрам, і ўсё вісіць, як доўгачаканая ласкавасць. Шыпшына кустамі стаяла без лісця і з чырвонымі пладамі. Патузваючы лейцы, малады фурманшчык перажываў дзіцячае жаданне спыніць каня, адысціся да шыпшынніку і нарваць, немаведама дзеля чаго, поўную шапку ягад. Душа яго ўціхамірвалася дарогай, павольнай яздой, восенню і цішынёй. Яму здавалася, што ўжо з гэтых мясцін яму нікуды не трэба ад'язджаць, нікуды і ніколі, што не трэба ўжо шукаць у свеце прыстанку і што тут усё вельмі падобна на той родны кут, з якога ён з блізкімі сваімі і роднымі выехаў. З такім станам свае душы ён уехаў у Сумлічы і пад'ехаў да добра ўжо яму вядомай Волеччынай хаты. Салдат шпарка саскочыў з воза і пабег у хату, а следам і фельчар. Калі ж малады фурманшчык увайшоў у хату, ён убачыў, што немец ляжыць усё на тым жа месцы, а Волечка поіць яго з лыжкі малаком. Салдат сядзіць у одуме, а фельчар пільна прыглядаецца да немца. Калі ж Волечка з пустой міскай ад малака адышлася к печы, фельчар пачаў абслухваць і абмацваць хворага немца. Паваждаўшыся так з ім некалькі хвілін, ён зірнуў немцу ў пачырванелыя вочы і жвава сказаў:

— Э, пане-браце, немец! Дык жа мяне дарма з табой напалохалі. Ты ж зараз сто вёрст без аддыхі пешкам зробіш. Ну што ж, праўся ды разумней. Такі і не шкодзіла б, каб вы ўсе папруцянелі, а то гэтулькі неспакою праз вас. Аж да Баранавіч даперлі. Чаго? Навошта?

— Дык ён паправіцца? — нясмела і з надзеяй сказала Волечка.

— А хіба табе не ўсё роўна?

— Гэта ж мая хата. Лепш жа, калі ён сам адсюль выйдзе, чым мёртвы заваліць мне хату. Што я тады з ім рабіць буду.

— Чуеш?— сказаў фельчар да немца.— Праўся, а то хату гэтай малой заваліш.

— Напішам акт, што ён хворы і што я не мог у тэрмін яго сканваіраваць,— сказаў салдат.

— Давайце паперы.

З паперай была цяжкая справа. Яе не было ў гэтай хаце. Фельчар стаў церабіць свае кішэні і сваю фельчарскую пакоўню. Немец тым часам больш ачомаўся. Ён стаў рухавейшы, ажывіўся, пачаў паднімаць галаву і пільна прыглядацца да людзей і да ўсяго, што было ў хаце. Нейкі неспакой з'явіўся ў яго вачах. Было відно, што трывога агарнула яго і што яна ўсё пабольшваецца. І чым больш ён трывожыўся, тым здаравеўшы рабіўся колер і выраз яго твару. І раптам, як вада з прабітага лёду, рванулася і лягла на яго твар пячаць недавер'я да ўсяго навакольнага і да людзей, якія былі каля яго. І пасля гэтага страх праступіў на рысах яго твару. І гэта ўсе заўважылі. Фельчар нейк крыва ўсміхнуўся і сказаў немцу:

— Чаго ты баішся? Дурань ты. Нямецкая галава. Машыну якую ці гармату новую ты ўмееш выдумаць, а бачыць, што чалавек мае душу і сэрца — на гэта ў цябе няма нічога... На, выпі гэты парашок, можа ўбачыш, што мы цябе лечым, а не бязвечым.— Немец выпіў парашок, і новы неспакой з'явіўся ў яго вачах. Ён нешта пачаў гаварыць і паказваць рукамі.

— Гэта ж ён думае, што я яму даў атруты! — моцна сказаў фельчар.— Цьфу! Каб ты навек запаветраў!.. Што ты лапочаш? Павальней кажы, можа я разбяру што, цераз дзесятае ў пятае.

Фельчар нарэшце абмацаў у сваёй кішэні вучнёўскі сшытак. Немец убачыў паперу і пацягнуўся да яе абедзвюма рукамі.

Практычны ў жыцці фельчар адразу здагадаўся і адарваў ад сшытка ліст. Як сасмаглы ваду, так хапіў немец паперу і аловак. Не ведаю, ці прыйшла немцу ў галаву думка, што калі ён так жвава ўзяўся за паперу, а не ляжыць з паблеклым позіркам на лаве, то ён перамог ужо сваю хваробу. Але такая думка павінна была б быць у яго. Пры лаве стаяў стол, немец прыпёрся да яго бокам і пачаў выводзіць на паперы алоўкам слова за словам. Фельчар бачыў, што яму так нядобра пісаць, сеў сам на лаву і падпёр немца сваёю спіною. Немец спісаў абодвэ бакі паперы і ўжо распісаўся, як раптам як бы што

ўспомніў, пакінуў пісаць, і на твар яго лягла пячаць просьбы. Ён штосьці пачаў гаварыць фельчару, які ў гэты час якраз даў яму зноў парашок. Фельчар пачаў прыслухоўвацца і нарэшце штосьці двума ці трыма словамі, к здзіўленню ўсіх, па-нямецку запытаў у немца. Праўда, яго гаворка па-нямецку была нясмелая, ён лавіў словы, як глухі прыглядаецца на вусны таго, з кім гаворыць. Але ён зразумеў немца: той прасіў назваць яму адрас таго кутка, дзе ён цяпер хварэе. Фельчар прадыктаваў яму адрас на мястэчка Сумлічы так, каб сюды льга было трапіць адкуль сабе хочаш, хоць з усяго свету. Пасля гэтага фельчар напісаў акт аб хваробе немца. Праверылі па паперы ў салдата і запыталі ў самога немца, і ўсім стала вядома, што немец завецца Густаў Шрэдэр. Салдат тады сказаў распісацца ў акце за сведак Вольцы і яе маладому госцю. Волечка напісала: «Вольга Нявада», а той напісаў: «Кастусь Лукашэвіч, выгнанец з-пад Вілейкі». Вельмі можа быць, што апошнія словы яго подпісу ішлі з яго абязвечанай цяжкай зменай у яго жыцці псіхалогіі. Ён страціў з-пад сваіх ног той грунт, на якім стаяў на сваёй Вілейшчыне. Нездарма ён на світанні таго дня так ныў душой перад тварам бадзяння па свеце. Салдат схаваў акт сабе ў кішэню, падзякаваў фельчара і сказаў:

— Сёння ў дарогу позна, ды і немец яшчэ слабы. А цераз ноч ён у мяне пойдзе як падмецены, так што мы да Слуцка даклыбаем як з перуна. Эй ты, хворы немчык, кладзіся і спі гэтыя паўсутак, каб заўтра ты ў мяне быў, як шустры бычок.

Немец недаверліва паглядзеў на салдата, і з яго ўмомант зляцела тая ажыўленасць, першыя адзнакі якой ужо былі з'явіліся ў яго. Ён глыбей пасунуўся ў лаву, дастаў з нетраў свае змятай і вываленай у зямлі адзежы некалькі закручаных у хустачку канвертаў з раней напісаным на іх адрасам у Германію і ў адзін з гэтых канвертаў паклаў толькі што напісанае пісьмо, заклеіў і словамі і знакамі растлумачыў фельчару, што гэта пісьмо, а не што іншае. Мусіць, фельчару тут ён найбольш мог даверыцца. Пасля гэтага ён паклаў пісьмо сабе пад галаву і неўзабаве глыбока задрамаў. Дзень ішоў к вечару. Сонца стала ніжэй і пачало біцца ў акно. У хаце стала ясна, шырэй і прастарней. Немец спаў. Салдат курыў, Волечка займалася дробнай хатняй таўкатнёй, як самая руплівая з усіх жанчын на свеце. Малады яе госць стаяў

на двары пры возе і глядзеў, як коні ядуць сена. Фельчар моўчкі сядзеў і пасля разгаварыўся з Волечкай.

— Дык і табе, дзяўчо, прыйшлося горка,— казаў ён.— Ну, бацька твой, дарма што пісем не шле, а можа быць жыў і здароў і хутка вернецца дадому. Дык ты нічога кепскага не думай, а жыві сабе памалу. Ведай, што кожны пражыты дзень адкідае тое, што ёсць, і набліжае тое, што будзе. Горачы на свеце многа, але і ў самай большай на свеце пасудзіне ёсць дно, няхай сабе яна хоць і да краёў наліта атрутай. А ты стаіш перад векам сваім, дык атрута і горач выветрацца і высахнуць, а ты жыць будзеш... Дык як жа мне,— сказаў ён нарэшце да салдата,— трэба дадому брацца.

— Я пайду да старасты, каб даў фурманку вам,— прагаварыў салдат.— А мы з немцам у дарогу заўтра.

І гэтулькі было ў салдацкім голасе спакойнай ураўнаважанасці, гэтулькі было ў ім упэўненасці, што ўсё на свеце ідзе да таго, да чаго яно ідзе, што здавалася, ніякае хваляванне не пройме гэтага чалавека. Салдат выйшаў, і ўсе ў хаце чулі, як ён на двары гаварыў з маладым выгнанцам. Немец крыху прыўзняў галаву, павярнуўся тварам угару і ляжаў так, гледзячы ў столь. Фельчар даў яму яшчэ парашок, і той, мусіць, ужо як мае быць убачыўшы, што яго не страляюць і не рвуць на кавалкі, а лечаць, выпіў лякарства і зноў спакойна ляжаў. Тым часам хлопец увайшоў у хату і, ні на кога не гледзячы, як бы сам сабе, моцна сказаў:

— Дык можна ж было і ўчора пайсці да старасты, каб даў фурманку, а то мяне ганяў у мястэчка. Знайшоў сабе вазюра! Добры інтэрас! Што ён да мяне мае! Прычапіўся!

— Намнога ты за яе старэйшы? — сказаў фельчар хлопцу і паказваючы на Вольку.

— Адкуль жа я магу ведаць? — паціснуў плячыма хлопец.

— Як гэта? Хіба яна не сястра твая?

— Я на выгнанства ад вайны еду.

— Тут асталяваўся жыць?

— Не, я тут бацьку хаваў.

— Куды думаеш ехаць?

— І сам не ведаю.

— Кожная дарога куды-небудзь вядзе, але ты выбірай тую, якая не вядзе ў прорву.

Прыйшоў салдат і сказаў, што фурманка пад'едзе пад хату.

Волечка тым часам нешта занадта рухава пачала завіхацца ля печы.

— Прынясі мне лому,— сказала яна да Кастуся без якой бы там ні было выразнай інтанацыі ў голасе, і ён ахвотна прынёс лом.

— Увапхні ў печ і запалі, бо я вельмі спяшаюся.

Сонца спускалася ўсё ніжэй, праменне яго з кожнай хвілінай зменьвала свой колер, і нарэшце ў яго роўным чырванаватым бляску ажыла задумёнасць ціхага змяркання. І тут пачалася паэзія спакойнага адвячорка ў хаце. Усе ціха сядзелі, кожны на сваім месцы і са сваімі думкамі. У рухавым клопаце была толькі адна Волечка, малая гаспадыня гэтай хаты, дзе так нечакана сабраліся так не падобныя адзін на другога людзі, далёкія адзін ад аднаго і месцам на зямлі, і прывычкамі, і звычаямі, і жаданнямі, і натурай. У печы зырка гарэў агонь і пры ім кіпеў вялікі гаршчок. Волечка то выходзіла ў сенцы, то зноў уваходзіла ў хату і кожны раз прыносіла то цыбулю, то моркву, то бульбіну, то нейкае карэнне, то лісце і падкідала ў гаршчок.

— Што гэта ты варыш такое? — запытаў фельчар, сочачы за рухавай Волечкай.

— Вару яду.

— А як жа гэтая патрава завецца?

— Нейк завецца,— злёгку прыбянтэжылася Волечка.

— А чым жа ты яе закрашваць будзеш?

Волечка як аслупянела. Нерухомая яна стаяла, і твар яе загарэўся чырвоным колерам.

— Малаком,— нарэшце адказала яна так, быццам кожнае слова важыла сто пудоў і цяжка было яго спусціць з языка.

— Як жа ты будзеш гэтую патраву малаком закрашваць, калі ты ў яе цыбулю кідала?

Волечка выбегла ў сенцы, і вочы яе напоўніліся слязьмі. Стары фельчар адчыніў дзверы ў сенцы і сеў на парозе.

— А чаго ў цябе, дзяўчо, твар так зачырванеўся? (Ён не пытаў: «чаго ў цябе слёзы?»)

— Бо я ля печы стаяла.

— У цябе няма сала?

— Няма,— як з-пад зямлі сказала яна.

— А каму ты так многа варыш?

— Усім... нам... Ужо другі дзень у мяне ў хаце чужыя людзі, а я ім нічога нават перакусіць не дала.

— А немца ты малаком паіла?

— Дык ён жа хворы.

— А малая ты мая, а галубка ты мая!

— Нічога, я пастаўлю новы гаршчок, без цыбулі... Гэта я забылася...

Кастусь у момант вока праскочыў праз сенцы на двор, развярнуў на возе сена і з бадай-што пустой зашмальцованай торбы дастаў усё, што ў ёй было. Гэта быў раздушаны крышан сала. Аж босыя пяты яго мігцелі, як маланка, калі ён ускочыў назад у сенцы з моцным шпаркім шэптам. На твары яго ляжаў таемны выраз вялікага змоўшчыка:

— Волька, выйдзі к возу на момант.

І сам скінуў з сябе дзіцячую трапятлівасць і сталай хадой падаўся з сянец. Так жа паволі і стала Волька пайшла за ім. Абое сталі яны ля воза, дзе двое коней бесперапынна жавалі сена.

— На табе сала, на гаршчок будзе. І нікому не кажы, што гэта я табе даў. Няхай думаюць, што гэта ў цябе было, але ты не хацела спавядацца перад усімі і сказала, што няма.

Трэба было бачыць у гэты момант Волечку. Як заваёўніца свету, яна з ганарлівай павольнасцю ўвайшла ў хату і зноў пачала хадзіць ля печы. Салдат дастаў з свайго ранца бляшанку кансерваў, паставіў на стол і сказаў:

— Можа гэтым добра закрасіць гаршчок?

— Я ўжо закрасіла салам.

— А ты ж казала...

— Мала што я казала...

Немец сядзеў на лаве і прыглядаўся да ўсяго, што рабілася ў гэтай чужой яму хаце. Ужо быў прыцемак. Ужо агонь у печы згасаў. Ужо вераснёвы вечар апаноўваў ціхі шынёй свет. Хвіліна за хвілінай, і ўсе гэтыя людзі паселі навокал стала. Волечка частавала іх патравай, якую, можа быць, і сама прыдумала з прычыны свае неспрактыкаванасці ў гаспадыньскіх справах. Еў салдат, еў фельчар, еў Кастусь, еў і немец. І ўсім падабалася яда. Фельчар раптам паварушыў сваю медыцынскую дарожную пакоўню і паставіў на стол пляскатую пляшку.

— А гэтую мікстурку я ўзяў з сабою, бо думаў, што прыйдзецца ею лячыць немца. Аж яно і добра, што ўзяў.

Гэтую чыстую, як сляза, мікстуру адным заходам выпілі ўтрох: фельчар, салдат і немец. Пасля гэтага неўзабаве шумна стала ў гэтай хаце. Салдат, заглядаючы ўсім у вочы, даводзіў, што няма на свеце лепшых дзяцей, як яго, недзе там далёка адсюль. Фельчар крычаў салдату ў твар цераз стол, што ён верыць, што ў яго слаўныя дзеці. А цяпер ён скажа пра капусту, якую ён сам садзіў, а расаду прывозіў аж з-за Слуцка. «Такое капусты свет не бачыў». Тут фельчар апомніўся, збянтэжыўся і павярнуўся да Кастуся:

— А нашто табе шукаць якой-небудзь дарогі ў свет на бадзянне? Жыві ў гэтай хаце і памагай гэтай малой жыць на свеце. Вам жа цяпер абаім важна, каб абы дзень перабыць. У яе вернецца бацька, і жыццё пачнецца, а ты — скончыцца вайна, і вернешся на сваю Вілейшчыну.

І раптам пасля гэтых слоў штосьці сталася з Кастусём. Незаўважна выйшаў ён з хаты і ўзлёг грудзьмі на біла ў возе. Цяжкі, як стопудовы камень, смутак наваліўся на яго. Родныя мясціны на Вілейшчыне, куды яму прарочыў вярнуцца стары фельчар, звязваліся ў яго ўяўленнях з бацькам. Як жа ён вернецца туды, калі ўжо бацькі няма? А калі і вернецца, то цяпер гэта ўжо не тое будзе. Коні пацерліся мысамі аб яго плечы. Ён устрапянуўся і падклаў ім сена. Як увайшоў у хату, убачыў, што Волечка спіць не раздзеўшыся на тапчане пры печы і без нічога пад галавою. Спяць дзе хто — немец, фельчар і салдат. Ён выйшаў зноў і лёг на воз. І зноў, як і тая ноч — з зорамі і цішынёй. Яна яму здалася доўгай. І вядома: вераснёвыя ночы доўгія. На світанні ён моцна заснуў. Сонца пабудзіла яго. Яно біла яму ў твар, але гэта было восеннае сонца, мяккае і лагоднае, як шчокі любага дзіцяці. З вуліцы чуліся гукі напоўненай працай раніцы. З коміна Волеччынай хаты ішоў дым. Ён спалохаўся, што праспаў нешта важнае, усхапіўся і застаў у хаце дзіўную сцэну: у залітай сонцам хаце цесна было каля той лавы, на якой раней ляжаў хворы немец. У печы палаў агонь. Ружовенькі і свежы тварам немец адной рукой гладзіў па галаве Волечку, а ў другой трымаў сваё ўчарашняе пісьмо і соваў яго ў фельчаравы рукі і штосьці ўсё гаварыў, гаварыў, да чаго фельчар прыслухоўваўся.

— Ага,— зразумеў нарэшце фельчар,— ты рад, ты

шчаслівы, што ачуняў і ўжо здаровы? А ты думаў, што памрэш, адзін сярод чужых людзей? Аж ты ўбачыў, што гэтыя людзі цябе ратавалі і паставілі на ногі? Ты кажаш, што ў цябе ёсць дома сын, якому цяпер ужо дзесяць год? Ён таксама, як і ты, завецца Густаў Шрэдэр? Тое, што ён ёсць на свеце і што ты ачуняў, радуе цябе? Ага, ты хочаш чым-небудзь аддзякаваць нас усіх і найбольш гэтую малую? Ну дык яна завецца Волька.

Вядома, немец нічога не ведаў, што кажа фельчар. Але ён, і не чуючы і нічога не слухаючы, гледзячы сам у сваю душу, раптам прыгарнуў да сваіх грудзей Волеччыну галаву, і твар яго перасмыкнуўся момантным рухам шчасця. У наступны момант ён пачаў шнырыць па патайных кішэнях і пад падшэўкай свае адзежы. Ён дастаў адтуль два ці, можа, і тры залатыя гадзіннікі, некалькі залатых пярсцёнкаў, звязаных ніткай, і залаты нацельны крыжык праваслаўнай царквы — васьміканцовы з мініяцюрным абразком на адваротным баку рускага барадатага святога. Усё гэта ён загарнуў у прыгаршчы і сунуў у рукі Волечцы. Яна збянтэжылася і апусціла рукі. Немец сілаю даваў ёй гэты дарагі падарунак. Было вельмі падобна, што гэтыя рэчы душаць яго і ён стараецца вырятавацца ад іх.

— Гэта табе,— гаварыў ён,— каб ты была шчаслівая за маю радасць. Мой Густаў цяпер мае свайго бацьку.

Твар яго свяціўся радасцю. Пячаць вялікай праўды ляжала на яго вачах: ён уладар свету, бо ўжо зноў ходзіць па зямлі і трохдзённае змрочнае ўтрапенне яго мінулася навек. А ўсё золата, якое толькі ёсць на свеце,— нікчэмная драбяза і непатрэбшчына перад самім жыццём. Здавалася, праменне ідзе ад яго ўсмешкі. Усміхаўся шчасцем і салдат, і фельчар, і нават Кастусь, толькі Волечка стаяла чамусьці маўклівая. Гэта была сцэна як бы бурнай чалавечай радасці.

Салдат раптам сказаў:

— Ну што ж, бог дасць, скончыцца вайна, і жыць будзем у сваю волю.

Немец усё гаварыў раз-поразу:

— Густаў, Густаў...

Фельчар як бы раіўся сам з сабою і сам сабе ўсміхаючыся:

— Прыехаўшы дадому — адразу забегчы ў сад...— І тут жа растлумачыў, усё не спускаючы з губ усмешкі.

— Густаў... Густаў...— выварочваў немец перад гэтымі людзьмі сваю душу.

Здавалася, што няма на свеце ні вайны, ні выгнанства, а толькі радасць чалавека жыць сваею воляй.

Раптам салдат спахмурнеў, устаў і сказаў:

— Ну, немец, у дарогу.

Немец здагадаўся і таксама спахмурнеў.

Значыцца, і вайна была, і трэба было мець непрыемны абавязак гнаць палоннага чужынца, якога сюды загнала ліха, і трэба было ісці пад канвоем.

Немец памахаў рукой Волечцы, і апошні промень усмешкі патух на яго твары. Салдат апанураў адразу і выйшаў следам за немцам адразу выконваць свой прыкры абавязак. Фельчар устаў, паглядзеў на залатыя рэчы, якія ляжалі на стале, і панура прамармытаў: — Гэта рускія афіцэрскія рэчы. Эйш, сукін сын, паздзіраў з мёртвых або раненых.— Тут ён убачыў, што на стале ляжыць тое нямецкае пісьмо. Ён стаў яго разбіраць, і многа прайшло часу, пакуль ён сказаў:

— Гэта жах, што ён піша! Ён навек развітваецца са сваім Густавам. Дзіва што ён так узрадаваўся, калі ўбачыў, што жыў астаўся. Ці гэта ён мне гэтае пісьмо даваў, каб я прачытаў яго? Ці яно яму ўжо не трэба? А ліха яго бяры, здам на пошту, няхай ідзе туды, да таго Густава.

Тут пад'ехала фурманка, і хата апусцела. Так гэтыя людзі, якія не ведалі адзін аднаго і перажылі разам момант радасці, сабраўшыся на гэты момант у незнаёмай хаце, разышліся хто куды, кожны ў свой бок. Залатыя гадзіннікі, пярсцёнкі і крыжык ляжалі на стале, і двое маладых людзей, якія стаялі яшчэ перад векам сваім і толькі што выходзілі яшчэ з свайго маленства, не ведалі, што рабіць з гэтым золатам. Можна сказаць, што яны не ведалі і цаны яму. Волечка з непаразуменнем падтуліла плечы і адышлася ад стала, трэба сказаць — задаволеная, што, нарэшце, хата была пустая ад чужых людзей і ніхто ёй не перашкаджае цяпер даіць і карміць карову, прыбіраць у хаце, пазіраць у вокны, ці не сышлі з двара дзве куры, што былі ў яе гаспадарцы. Гэта не гаворачы ўжо аб тым, што адзін за адным ішлі вераснёвыя дні, а ў яе яшчэ не было пасеяна жыта. Пра непасеянае жыта яна і ўспомніла цяпер. Парыў смутлівай заклапочанасці рвануўся ў яе душы. Яна, як сталая, заламала рукі:

— А божа мой, жыта не пасеяна. А восень ідзе.

— Дык я табе пасею,— сказаў, устрапянуўшыся, Кастусь.

— А хіба ты ўмееш?

— Я раз авёс сеяў, як бацька мой хварэў.

— А калі ж ты думаеш?

— Калі хочаш. Толькі, каб не марудзіць, мне ж трэба яшчэ і ў сваю дарогу выбрацца.

— Хоць заўтра.

— А насенне ёсць?

— Не намалочана. Снапы я звезла, сама і пажала. А сеяў яшчэ бацька.

— Дык я табе і намалачу.

У хвіліны гэтай гаворкі ў яго білася ў жыццё вострае жаданне хоць якім заняткам, хоць якой работай адцягнуць як надалей страшную неабходнасць ехаць немаведама куды. Цяпер ён выразна падумаў: пакуль намалоціцца і пасеецца, то пройдзе некалькі дзён. Якое шчасце яшчэ некалькі дзён спакою!

Вялікі доктар усялякай хворасці ў чалавечай душы — час — мае вечнага свайго дапаможніка — працу. Можна сказаць з упэўненасцю, што праз гадзіну якую пасля гэтай гаворкі Кастусь Лукашэвіч не меў у душы ні смутку, ні трывогі. Перш за ўсё яны агледзелі з Волечкай пуню з снапамі. У пуні ж быў і ток. Пасля ён праверыў Нявадаўскія цапы. Відаць, добры гаспадар быў Нявада! Біччы ў цапах былі важкія і зручныя. Гужы шчыльныя, і завязкі з добрага сурамцу. Цапільны ж ужо мусіць за цэлыя гады добра абгладзіліся аб малацьбітовы рукі. Кастусь выбраў цэп самы размашны, расклаў на таку снапы і пачаў.

— Давай у два цапы,— сказала Волечка.

— Куды ты, малая! Нашто табе таміцца! Колькі тут той работы! Глядзі лепш хаты.

Браткі мае, што гэта быў за тон! Можна было падумаць, што ён век яе ведаў і быў блізак ёй. І як гэты тон быў падобен на тон самога Нявады, бацькі, калі, бывала, ён з ласкай загадваў ёй што-небудзь! Апанованая одумам, Волечка і сапраўды пайшла ў хату. Да самага адвячорка яна чула ў хаце, як роўна стукаў на таку цэп. Гэты гук нагадваў ёй яе нядаўняе маленства і восень. Бывала (тады не было вайны і маці была жыва) асеннімі днямі бацька ўставаў прыцемкам малаціць, і маці старалася, каб як найлепш накарміць бацьку. Ва ўспамінах і інстынктыўным адчуванні гэтага стук цэпа еднаўся з тым, бывалішнім.

Дзеці часта гуляюць у дарослых. Тут жа не было гульні, была самая бязлітасная неабходнасць, але Волеччын твар быў цяпер так падобен да твару зусім малой дзяўчынкі, якая пераймае ўчынкі свае маці! Пакуль Кастусь збіў два пасады, яна не адыходзіла ад печы. Многа разоў яна ў клопаце хадзіла ў агарод, у клець, у склеп, у прыгрэбку і ўсё думала, і ўсё шукала, і глядзела, чаго б яшчэ пакласці ў гаршчок, і колькі (каб было ў меру) малака ўліць, і колькі каб кіпела. Але тут яна ўжо мела практыку. Куды горш было з хлебам. Яна яшчэ не ўмела пячы хлеба. Хлеб кожны раз быў то адпечаны, то ацеслівы. Цяпер хлеб быў ацеслівы. Праўда, ён ужо быў трэці тыдзень, і чорствасць зменшыла ацесліваець, але ўсё роўна сорам добрай гаспадыні даваць такі хлеб чужым людзям. А што ж інакш рабіць? Што ж, няхай ён выбачае. І вось, нарэшце, настала хвіліна есці. Як добра ён адчуваў сябе пасля работы! А як была рада яна, калі ён весела сеў за стол. Яны елі з адной міскі, і абое не заўважалі, што хлеб ацеслівы. Ён усё гаварыў, гаварыў і наіўнымі, бадай-што дзіцячымі жартамі рассмешваў яе, наіўную, малую, рухавую. Кудысьці далёка, у невядомую туманную далечыню адплыў прыкры клопат думаць, куды б ехаць далей, у тую брадзячую беспрытульнасць.

— Але ж ты і гаспадыня! У цябе ж мышэй больш, як таго жыта. Я калі варухнуў снапы, дык мышэй цэлых дзве плоймы і яшчэ маленькая плоймачка бяжыць ззаду.

Яна зарагатала і выліла з лыжкі на стол. Тады зарагатаў і ён.

— Бо ката няма, дык і мышы,— тонам апраўдання сказала яна.

— А што ў цябе ёсць! Няма ні ката, ні сабакі, ні пеўня. Нават павука добрага няма. У пуні адзін вісіць на павуцінні, дык такі худы і дробны, што аж рэбры з-пад скуры відны. Я тыя рэбры мацаў. Восем абмацаў, а дзевятага дык і зусім няма. А ён пішчыць, брыкаецца...

Каб хто чуў, як пасля гэтага рагатала Волечка! Яна ўжо зусім не магла есці. Рагатаў і ён. Можа, з гэтай часіны пачало ў гэтай хаце віць сабе гняздо шчасце. Усю другую палавіну дня і да самых прыцемкаў зноў стукаў цэп на Волеччыным таку. Ужо бралася на змярканне, калі яна раптам штосьці ўспомніла і як бы нават з трывогаю нейкаю палезла на гару. А там вяртлявым рухам апынулася на вышках і доўга штосьці выглядала ў сябе над галавою.

Нарэшце твар яе стаў такі, як бы яна прыгатавалася сказаць: «дзякуй табе, божа!» У самым высокім месцы пад страхою вісеў як бы забыты кавалачак сухой каўбасы. Сукаватым прутам яна яго адарвала ад вешала і неўзабаве прымчалася з ім у пуню.

— Слухай, годзе ўжо ляскаць цэпам. Ужо змяркаецца. Ведаеш што? Бачыш? Гэта ж я зусім была забыла, што кавалак каўбасы астаўся. На з'еш.

— А ты сама?

— Ты намалаціўся.

— Не буду есці.

— Ну дык я табе на вячэру схаваю.

І пайшла. А яму — хоць ты плач. Яму так захацелася гэтай каўбасы! Ён жа так даўно не еў нічога такога! Ён аж выглянуў з пуні на двор: а можа, яна гэта паджартавала і стаіць дзе за вуглом з каўбасою! Але дзе там жартаваць! Ёй было не да гэтага. Яна ўжо выходзіла з двара на вуліцу, каб спаткаць і вылучыць з чарады сваю карову. Ён увайшоў у хату. Плечы і рукі яго такі здорава нылі ад цэпа. Ён сеў на лаву і ўбачыў, што на стале ляжыць тая каўбаса. Зірнуўшы ў акно, ці не відно дзе паблізу яе, ён пакруціў каўбасу ў руках, адарваў драбок і паклаў у рот. Што ж гэта ён робіць? Яна заўважыць, і брыдка будзе перад ёю. Збянтэжана азіраючыся, ён раптам убачыў на стале тое нямецкае золата. «Каб ён быў згарэў! Намучыўся я з гэтым немцам! І бацьку якраз хаваў...»

Цяжкі боль здушыў яму грудзі. Ён выйшаў на двор. Пачынаўся дробны дождж, мусіць, на ўсю ноч. Ён пайшоў класці нанач коням апошняе сена. Волечка ўвагнала ў двор карову і пайшла ў хату па дайніцу. Каўбаса ляжала на стале. Волечка адламала драбок ад каўбасы і паклала ў рот. Якая асалода жаваць каўбасу! Як даўно яна не ела смачнай яды! А што, калі ён заўважыць, што яна ела каўбасу? Гэта ж яму абяцанае. Да таго ж — ён увесь дзень малаціў, а яна так сабе круцілася каля хаты. Як злоўлены злодзей, яна шпарка паклала каўбасу і пайшла даіць карову. Ён стаў збоку і глядзеў, як яна працуе.

— А хто ж табе на жыта ўзараў?

— Я сама.

Ён і не падумаў пра гэта. Якая яна маладзец! Ворыва ж у яго ўяўленні заўсёды звязвалася з вобразам здаровага мужчыны. Калі яны прыйшлі ў хату і запалілі агонь, ніхто з іх не хацеў есці каўбасы.

— Ты малаціў цэлы дзень!

— А ты арала можа цэлы месяц!

Каўбаса так і асталася на стале, і толькі назаўтра зранку яны з'елі яе ўдваіх, кусаючы, як згаварыўшыся, многа хлеба і мала каўбасы, каб надалей расцягнуць прыемнасць. Тры дні ліў дождж. Кастусь толькі і займаўся тым, што зранку малаціў, а адвячоркамі ўкошваў травы коням нанач. На чацвёрты дзень падзьмуў вецер, і шэрыя засцілы восеннага неба падняліся ўгару. Уночы зырка ўзышлі зоры, і пачаліся дні з ціхім сонцам і жаўталісцем на дрэвах і пад дрэвамі. «Можа я рассеяў жыта і не вельмі мерна, але затое добра забаранаваў. Зерне ў зямлі, то яно ўзыдзе». Так думаў ён. І на душы ў яго было лёгка: ён жа скончыў такую важную работу! «А цяпер ужо хутка можа прыйдзецца і ехаць куды-небудзь». І ён узяўся адпасваць у дарогу свайго каня. Ён важдаўся з параю коней і днямі і начамі. То карміў іх, то пасвіў. Нарэшце зноў прыйшла шчаслівая часіна: Волечка сказала яму: — Можа, ты мне паможаш на зіму дроў навазіць?

Трэба думаць, што яна адчувала яго смутак перад невядомасцю будучыні. Часамі яе агортаў одум. Яна думала пра яго і шкадавала яго. Можа гэта ўжо фармавалася жаночая душа, у якой многа месца для чужой бяды. Ёй было вялікай радасцю бачыць, як ён шчасліва ажывіўся і ўхапіўся за прычыну яшчэ тут астацца. Яна ўжо разумела яго навылёт. І гэта пачалося куды раней, чым ён пачаў угадваць яе думкі і патрэбы. Кожны дзень яны пачалі ездзіць у лес. І так засталі іх ужо добрыя прымаразкі. Рэчка з берагоў пачала прымярзаць, вада ў ёй стала чыстая, і на сонцы дно прасвечвала ў ёй усюды. Гэта былі дні апошняга смутку Кастуся Лукашэвіча. Раней смутак з'яўляўся ў яго парывамі. Цяпер ужо час прайшоў, востры боль душы прытупіўся. Час лячыў душу. Смутак аб бацьку, аб родным кутку, аб усім тым, што страцілася і што ўжо вярнуць было цяжка, і на гэта надзей не было — смутак аб гэтым ападаў і зменшваўся, і аставаўся без выбухаў і болю. Ужо з'яўляліся ў душы першыя адзнакі таго, што ўжо тут, на гэтым месцы, душа знойдзе радасць быць у сваей радасці. Ясныя былі дні, і марозлівыя, і, як заўсёды ў тую восень, ціхія. Цішыня і спрыяла ўраўнаважанню яго душы. Гэта была мясцовасць, дзе як бы сышлося ўсё, да чаго ён прывыкаў некалі ў маленстве. На даляглядах сінелі лясы. Вялікія дрэвы раслі пры дарогах, і чым вышэй

яны ішлі ў неба, тым неба здавалася вышэйшым. Мерзла і нікла трава, але над вадою яна стаяла зялёная і тырчэла з прыбярэжнага лёду. З дзікіх ігруш на межах і выганах ляцела ў вецер счарнелае лісце. Камень пры дарозе абростаў імхом, уночы абзываўся воўк у пушчы, на вялікую разлегласць грукацелі колы па мерзлай зямлі, кожны дзень на ўсходзе і захадзе неба доўга палала ясным хараством, і не было той ночы, каб зырка не свяцілі зоры. Гэтымі начамі Кастусь не спаў моцна і глыбока, як гэта бывала з ім раней. Не нуда і не смутак ужо, а руплівая ўзбуджанасць падкрадалася да яго ў гэтыя ночы. Ён паднімаў галаву і прыпадаў тварам да шыбы. Яшчэ далёка было да світання. Увосень ночы доўгія. Так па некалькі разоў на ноч ён выходзіў слухаць, ці ядуць коні. Але найбольш еў адзін конь, яго. Волеччын жа быў зусім стары. З'едзенымі зубамі ён склычваў сена ў мокрыя камякі і, утаміўшыся, стаяў над ім. Кастусь падкладаў яму свежага сена і ішоў дасыпаць ночы, каб аднак жа яшчэ ўстаць некалькі разоў. Душа яго чула і вочы бачылі, што стаіць хараство зорнай ночы і восень позняя пагодная, але аднак жа цяпер ужо сталасць заклапочанага чалавека панавала над усім у яго душы, і гэта было яго шчасце, бо ён не аддаваўся голым пачуццям, а паўнаце жыцця, якое яно ёсць. І гэта ратавала яго ад хваравітых парываў, якія навек могуць сапсаваць маладую натуру. Шчаслівасць укрывала ад гэтага і Волечку. Цэлымі начамі яна ціха і глыбока спала і ўставала тады, калі пачынала цадзіцца світанне. Пры лучыне абое яны рыхтаваліся, як толькі развіднее, выехаць у лес. Дровы вазілі на Кастусёвым кані. Волеччын ніяк не правіўся, а яшчэ больш худнеў. Волечка раз была сказала:

— Яшчэ тата казаў, што трэба перамяніць каня.

— Я табе яго перамяню, — адказаў ён ёй на гэта, і яна не прыняла яго адказу за пустыя словы. Незаўважна ні для кога з іх яна пачынала адчуваць у ім нейкі для сябе аўтарытэт. Дзень за днём, і куткі Волеччынага двара былі ўжо завалены галлём і тонкім сухастоем. Ужо на зіму даволі будзе апалу. Але што гэта за дровы! Калі везлі з лесу апошні воз, Кастусь нагледзеў у гушчырні, у баку ад дарогі, добрую хваёвую сухастоіну.

— Я яе ўночы спілую і за дзве ночы перавязу. Вось гэта дык будуць дровы! На самыя маразы, і хлеб пячы. А з самага камля пастаўлю шулы ў браму, а то двор не зачыняецца.

— Як жа яе спілаваць? А ляснік звон пачуе.

— Не пачуе. Трэба вышэй пілы камель шчыльна абкруціць кажухом і цесна перавязаць, а тады пілаваць. І ніякага звону не будзе. Толькі кажуха няма.

— А вон жа! — ускінула яна ўгару плячыма: яна была ў старым, на яе велікаватым кажушку.— Толькі хіба можа ён малы будзе.

— Якраз добра.

Яна ацаніла яго руплівасць. У гэтыя часы свайго жыцця, калі яна многа думала пра бацьку, яна была абыякавая да шулаў і да продажу старога каня, але ёй было шчасце мець каля сябе такога блізкага ўжо і аўтарытэтнага Кастуся Лукашэвіча. Усё, што ён скажа — усё добра. З якой ахвотай яна будзе пілаваць з ім уночы гэтае сухое дрэва! Гэтая гаворка зноў зрабіла іх як бы нейкімі змоўшчыкамі. Яна сядзела наверсе воза, а ён ішоў збоку і павярнуў каня на кругавую дарогу:

— Зробім круг, але паглядзімо, як узышло жыта,— сказаў ён.

Ён хітрыў перад ёю. Ужо разоў некалькі ён хадзіў глядзець жыта, а цяпер таму і павёз сюды Волечку, што яно ўзышло добра. Як сявец ён вытрымаў экзамен як найлепш. Волечка саскочыла з воза і стала над сваім палеткам. Густа і роўна стаяла над прымерзлай зямлёй рунь. Кастусь аж падкінуў каню сена, каб Волечка не спяшалася і як трэба ўглядзелася ў яго работу. У яго быў такі выгляд, як бы гэта ён сам выдумаў на свеце, што раней сеюць, а пасля пасеянае ўзыходзіць. Волечка змерзла стоячы. Раней у іх былі думкі задаволення аб тым, што двор завален дрывамі, пасля некалькі дзён думалася аб добра пасеяным жыце. А пасля надышла чарга той сухой хвоі. Так і праходзілі ў іх дні. Ноч, калі трэба было ехаць спілоўваць хвою, выбрала яна. Ён сумысля маўчаў. Ён такі пабойваўся гэтай, выдуманай ім самім, справы. Хаця каб не здарылася якой-небудзь злой прыгоды! Якой радасцю ўстрапянулася яго сэрца, калі з самага вечара яна сказала яму: — Узняўся вецер, у лесе будзе шумець і трашчаць. Пілу цяжэй чуць будзе. Ці не паехаць сёння?

Не кажучы больш адзін аднаму ні слова, яны, адзетыя, пасядзелі ўпоцемку, паслухалі, як гудзе на дварэ вецер, паглядзелі, як стаіць сярпок месяца, і выехалі з двара. У вышыні лесу гуло і трашчала, быццам над лесам цягло-ся што гулкае і неспакойнае. Ён адразу знайшоў патрэб-

нае дрэва. Яшчэ тады, удзень, ён вымеркаваў, у які бок яно павінна ўпасці. І цяпер ён вобмацкам прыставіў пілу. «Няхай сабе звініць,— думаў ён,— абы хутчэй». Але яна не вытрымала. Яна скінула з сябе кажушок, і ён зразумеў яе трывогу. І ў яго душа ныла. Скінуў ён і з сябе світу. Калі кажушком і світай, згамтанымі разам, ён абкруціў дрэва вышэй пілы і перацягнуў сваёю папружкай, звон і сапраўды стаў глушэйшы. Як ні стараліся яны цягаць пілу, прайшло даволі многа часу, пакуль дрэва лягло.

— Пачалі — дык трэба канчаць,— сказала яна, і ён з-за ветру ледзьве пачуў яе. Пакуль яны распілавалі хвою на кавалкі, з абаіх ішоў пот, і вецер працінаў іх.

— Садзіся хутчэй на воз і накідайся паверх кажуха маею світай,— цвёрда скамандаваў ён.— А я хуценька завязу цябе дадому, бо захалодзішся.

— Тут жа недалёка, я шпарка пайду.

— Садзіся! — крыкнуў ён, і яна паслушна села. Дома ён загадаў ёй класціся спаць, а сам зноў пагнаў каня ў лес. Калі ён вярнуўся дадому, ужо спявалі пеўні. Разгрузіўшы воз і паставіўшы каня, ён увайшоў у хату ціхенька, каб не пабудзіць яе, і ўбачыў, што яна не спіць, а стаіць ціха, прыпаўшы да аконнай шыбы. Узбуджана яна сказала, што з трывогай чакала яго і баялася якой-небудзь злой прыгоды.

— Не стой, а кладзіся і каб ты мне да раніцы выспалася! А я пайду ставіць каня і прыхаваю ў пуньку бярвенні.

З хаты ён выйшаў не раней як тады, калі яна лягла і сціішылася. Ён доўга важдаўся на двары і ў пуні. Ужо цадзіцца пачынала кастрычніцкае рассвітанне; пеўні галасілі, здавалася, па ўсім свеце. «Ці спіць яна, такая клапатлівая?» Увайшоў у хату і прыслухаўся. Яна цяжка, не так, як заўсёды, дыхала. А ў яго балелі плечы, нылі ногі, цяжэла галава, і хіліла на кашаль. З вялікай сілай яго цягнула ў пасцель. Шпарка ён запаліў лучыну і падышоў да Волечкі. Ён здзівіўся — такі чырвоны і неспакойны быў яе твар. Ён стаяў над ёю. Яна раскрыла вочы, і абыякавасць да ўсяго была відна ў іх. Гэта была небывалая ніколі раней рыса ў яе, і ён жахнуўся:

— Волечка, што з табою. Табе што-небудзь баліць?

— Нічога, толькі ў грудзях.

— А больш?

— Больш не, толькі галава.

— А больш нічога не баліць?

— Нічога, толькі ў горле.

— Ну а яшчэ дзе баліць?

— Ані ідзе.

— Дык ведаеш што? Ты ляжы сабе, а я цябе зараз гарачым напаю і памчуся па таго самага фельчара. Ён практык. Той немец вось які хворы быў, а ён яго, як бачыш, падняў. А ты не бойся, хутка ўстанеш.

— А я не баюся.— Бледная ўсмешка прайшла па яе губах. Ён лепш акрыў яе і пайшоў у рух. Перш за ўсё ён падпаліў у печы і зрабіў гарачае ёй выпіць. Пасля, надаваўшы ёй сотню наказаў — ляжаць і не ўставаць, грэцца і чакаць яго з фельчарам, ён зазірнуў ёй у твар і жахнуўся. Няўжо яна так адразу заснула?! Абыякавая да ўсяго, яна зноў цяжка дыхала, твар яе яшчэ больш гарэў, і вочы заплюшчыліся.

— Я буду ляжаць і чакаць,— ледзьве вымавіла яна, і ён, увесь уздрыгануўшыся, выскачыў на двор, дрыжачымі рукамі ледзьве патрапляў перавязваць і перакрыжоўваць вяроўкі, вымошчваючы сядзенне ў возе, запрог свайго каня, свіснуў пугаю і рынуўся ў дарогу. Цяпер конь яго ўжо не быў той здарожанай, хоць і маладой, худзізнай. Гэта быў ужо выгладжаны бягун, і імчаўся ён на злом шыі, аднак жа яшчэ ўсё чуючы над вушыма свіст пугі. Кастусь даімчаўся так да мастка над неглыбокаю рэчкай і раптам убачыў, што вада, пасля былых дажджоў, яшчэ ўсё стаяла даволі высока і сарваны ёю масток толькі палавінай сваёй трымаецца пад той бераг, а бліжэйшая палавіна расплылася бярвеннямі. Ён павярнуў каня берагам паўз рэчку, выглядаючы броду. Паплаўны бераг замакрэў — пачыналася адліга. Колы клалі след на вялістай траве. Конь замакрэў, а ён усё гнаў яго. «Божа мой, спазнюся!» І вось ён убачыў пратву. Плыткая вада дробна білася ў пясчаны бераг. Ён нацягнуў ляйчыну і ўвагнаў каня ў ваду. Усё больш падаючыся ў рэчку, ён ужо стаў на ногі, пасля стаяў на сядзенні, каб вышэй быць над вадою. А вада ўсё паднімалася. Вада ўжо ў яго ў халявах і вышэй кален. Сэрца яго разрывала грудзі. Але як выбрацца з рэчкі? Той бераг вельмі крутлы. А божа, як жа ён павязе так цераз ваду фельчара? Ён пачаў заварочваць каня назад і ледзь выехаў назад на плыткі бераг. Вада з яго лілася цурком, а на лбе стаялі кроплі поту. Тузаючы лейцы і круцячы пугай, ён доўга гнаў каня берагам, выглядаючы новага броду. І такі ўба-

чыў: нават след чужых калёс вёў у ваду. Адным махам ён пераскочыў рэчку і аж да самага мястэчка не даў каню перадыхнуць. Ён жа і так колькі часу праваждаўся ў гэтай вадзе! Тады ў вадзе яму было горача ў галаву, цяпер ён дрыжэў з холаду. Здавалася, мокрая адзежа яго лубянее на ветры. Да фельчаравага дома ён даскочыў тады, калі ўжо на небе цяжка валакліся хмары і збіваліся ў адзін на ўсё неба засціл. Імгла зацярусілася густа. Фельчар, з раскудлычаным сівым кліночкам барады, выскачыў на двор насустрач мокрай фурманцы. Вельмі можа быць, што ён не ведаў, за што ўзяцца ў такі нудны дзень, і таму быў такі рухавы, калі ўбачыў праз акно, што нехта пад'ехаў. У яго пасярод двара стаяла карова і ела з кучы капуснік. Певень хацеў умасціцца на мокрую жэрдку і з крыкам саскочыў на зямлю. Божа, як непрытульна і нудна! Але ўсё гэта глупства, бо ёсць самае важнае: «а можа, там Волечцы яшчэ горш стала? Хутчэй трэба, хутчэй!» Мокры хлапец сам сябе падганяў. Як падстрэлены кінуўся ён да фельчара:

— Дзянь добры вам, я так імчаўся па вас, што траха не астаўся ў рэчцы з канём...

— Праўда, масток сарвала,— разважліва сказаў прыўыклы да ўсяго фельчар і пагнаў у хлеў карову і, ідучы, запытаў:

— Сам адкуль? А што здарылася?

— З Волечкай вельмі дрэнна!

— З якой гэта Волечкай?

— Ну а з той, што вы прыязджалі да яе ў хату палоннага немца лячыць.

— А-а, дык ты з Сумліч? Той самы выгнанскі сын? Ну, бачыш, як добра, што я параіў табе астацца там жыць. Хто б цяпер аб хворай Волечцы падбаў бы? Ну, ідзі ў хату сушыся. А то з цябе, пане-браце, вада, як з рукава, джгае.

— Няма калі сушыцца, трэба назад імчацца, яна там ледзьве жыве.

— А што з ею?

— Ляжыць без памяці.

— Можа аб'елася чаго?

— Не, у яе баліць галава, горла і грудзі.

— Пастаў каня ў хлеў, а пасля паедзем, калі на небе расчысціць.

— Не, родненькі мой, паедзем цяпер.

— Чаго ты гэтак спалохаўся? Відаць, што ніколі хворых не бачыў.

— Як гэта не бачыў! У мяне бацька па дарозе памёр!

Фельчар нічога не адказаў і моўчкі стаў корпацца ў шафе. Кастусь так жа моўчкі чакаў. Нецярплівасці яго не было меры. Аднак жа ён вытрымаў і аж уздрыгануўся, калі фельчар сказаў, што можна ехаць. Ён сам сваім вушам не верыў, ён баяўся, што фельчар не захоча ехаць. А тым часам на небе і сапраўды расчышчалася. Фельчар сказаў:

— Па паўдні зусім распагодзіцца.

Кастусь пагнаў змучанага каня з усіх сіл. Дождж усё пабольшваўся. Цераз брод праскочылі ў момант. Фельчар сам пачаў пакрыкваць на каня. Кастусь бесперастанку тузаў лейцы. Як уехалі ў двор, фельчар не даў Кастусю апомніцца, сагнаў яго з воза адразу і ўвапхнуў у хату.

— Ты ўвесь ссінеў і калоцішся, як святы на споведзі. Каб ты не смеў мне да самага вечара з печы злазіць! А то Волечцы прыйдзецца ехаць па мяне і ў бродзе плаваць. Ну, а ты, малая, дзе ты там? Як маешся? А, вось ты якая. Ну, нічога, пакажы шыю. Каб ты мне цэлы тыдзень вылежала, а тады ўставай сабе і рабі што табе трэба. Ляжы, Волечка, ляжы. Пакажы язык. А ты там на печы? Яшчэ ўсё дрыжыш? Не глядзі, што ты на печы, а на табе гэтую адзежыну, акрыйся і дыхай сабе ў жывот. Але ж і кажушок злубянелы! Чый гэта? Твой?

— Не, гэта Волеччын.

— Грэйся! З цябе павінна выйсці сем патоў, толькі тады маеш права з печы злезці! Ты мне глядзі! Шэсць патоў сыдзе, а ты не злазь. Чакай сёмага.

— А як жа іх лічыць тыя паты? — ледзьве адцягнуў голас Кастусь.

— Выцірай лоб і чакай, пакуль зноў замакрэе. І так да сёмага разу.

— Добра, толькі я раней пайду каня пастаўлю.

— Не смей! Нічога каню не зробіцца, калі і пастаіць па свежым паветры. Каня кожны вецерынар можа вылечыць. А няхай паспрабуе цябе вылечыць! Толькі я цябе магу лячыць! А дзеля гэтага Волечцы прыйдзецца ў бродзе купацца. Чуеш?

— Чую,— прахрыпеў Кастусь, сцішваючыся за халодным комінам.

— А цяпер і я павінен аптэчнага ўзяць, бо і я прамок і дрыжу, як нячысты пад крыжам.— Ён дастаў з кішэні пляскатую бутэльку і напалам разліў усё, што ў ёй было.

— Гэта мне, а гэта табе, хлопча. Ні, не бойся. Бачыш, я не атруціўся. Гэта самы чысцейшы на свеце аптэчны спірытус! А табе, малая, гэтыя пілюлі, глытай па тры на дзень. На! Глыні першую. Так ляжыце і мяне чакайце. А я пайду. Тут у мяне інтэрас ёсць на мястэчку. У Дарахвея Трыбуховіча парсюка пайду старгую. Ты не бойся, у брод больш не палезеш. Мяне сам Трыбуховіч заімчыць назад. Разам з парсюком. Хэ-хэ! А, і ты, малая, усміхаешся! Ну, дык я на тваім вяселлі буду гуляць.

І фельчар выйшаў з хаты. Кастусь высадзіў галаву з-пад кажуха. Ад спірытусу галава яго ўжо кружылася. Ён глянуў на Волечку. Гэта ж ён, гэты фельчар, выдумаў, што Волечка смяялася. Гэта быў адзін з яго метадаў хутчэй паднімаць хворых на ногі — найцудоўнейшае лякарства, якое, на вялікі жаль, не ў пашане ў нашых вучоных медыкаў, лякарства, без якога мала памагаюць усялякія уратрапіны і дзіурацін з папаверыні, нават і тады, калі іх змяшаць разам, абліць магнезіумам-сульфурыкумам і прысыпаць зверху лакрычным парашком.

Волечка ляжала сціпшыўшыся. Відзён быў яе твар, ружовы і спацелы. «Няўжо ў яе і раней быў такі востры нос?» — думаў ён, гледзячы на яе. Сам жа ён, колькі ні чакаў, ніводнага поту не прычакаў. Але яму стала горача, і пакрысе ён пачаў вылазіць з-пад кажуха. А Волечка нават і не варушылася. Можа яна спала? Тым часам фельчар, вясёлы, рухавы і схільны да гаварлівасці, увайшоў у хату і паведаміў, што ўжо як мае быць выбілася на пагоду і што ён старгаваў у Трыбуховіча япрука. Ён усё гаварыў і гаварыў:

— Хутка пад'едзе Трыбуховіч, і я паеду. Добра, што ясна робіцца. Вы ж тут праўцеся і сцеражэцеся... А, дай божа памяць! Ці схавалі ж вы хаця добра тыя гадзіннікі і пярсцёнкі, што той немец вам пакінуў? Бо гэта, бачыце, чаму я пытаю? Ведайце, бо можа вы і не ведаеце, што ён вам пакінуў, гэты немец. Гэта чыстае золата. Вы за гэтае золата можаце фальварак купіць! Вось што, калі хочаце ведаць! Вы цяпер багатыя! Чуеце? Вы багатыя! На ўсе Сумлічы няма нікога такога багатага, як вы цяпер! А дзе вы схавалі гэтае сваё багацце?

— У шуфлядзе ў стале.

Фельчар аж зірнуў на печ, дзе абзываўся і слухаў яго Кастусь Лукашэвіч, малады чалавек, які не ведаў і апошнія часы не думаў, куды ідзе яго дарога і ў які бок горнец-

ца яго жыццё. Кожнае фельчарава слова ён глытаў, як высмаглы воду.

— Як, у шуфлядзе? (Фельчар выцягнуў шуфляду ў стале.) Тут, побач іржавага відэльца, пагнутых нажніц, згрызенага мышамі клубка нітак, сярод паленых цвікоў, нейкіх старасвецкіх нажоў і ануч з паўтыканымі голкамі, сярод усёй гэтай непатрэбшчыны, вы хаваеце свой спосаб каб жыць? О, залаты ланцужок ад гадзінніка ўблытаўся ў іржавы відэлец! (Фельчар быў занадта гаварлівы, відаць, і ў Трыбуховіча ён лячыўся ад холаду.) Дык слухайце! Гэта не толькі простае багацце. Тут яшчэ, каля гэтых пярсцёнкаў і гадзіннікаў, чалавечая душа такі танец справіла, што аж след ад гэтага на чужую душу кладзецца. Слухайце! Я ведаю што-ніштo пра гэтыя пярсцёнкі і крыжык. Гэты немец, пакуль не трапіў у палон, на фронце, паміж баямі і пасля іх, выходзіў на здабыткі: брадзіў па полі і высочваў, дзе ляжыць забіты або ранены рускі афіцэр, і знімаў з яго дарагія рэчы, якія той меў. Такім парадкам у яго назбіралася вось гэтае золата. Ну добра. Але вось ён захварэў і хворы трапіў у палон. Або трапіў у палон і пасля захварэў. Ён і сапраўды такі быў моцна хворы. І калі мяне да яго прывезлі, ён хваробу перамог ужо, але яшчэ быў слабы і дрэнна яму было. А тое, што яго вядуць у палон, чужыя людзі і зямля наганялі на яго чорны сум. Ён аніяк не спадзяваўся, што выжыве і што ўбачыць калі-небудзь свайго Густава, якога вельмі любіў і ныў па ім. Ён так і думаў ужо, што Густаў астанецца сіратой без бацькі навек. І вось ён, як з-пад зямлі ўжо, пасылаў вечнае развітанне свайму Густаву і ўсім, каго меў там, у Германіі. Вось тое пісьмо. Цэлымі вечарамі я калупаўся над ім. Узяў слоўнічак і нямецкую граматыку і пералажыў яго слова за словам на нашу мову: «Густаў, сынок мой, і Анна, і Берта, і ўсе, каго я люблю і сохну па кім у апошнюю сваю часіну! Нам суджана больш ніколі не ўбачыцца. Я ўміраю ў чужых людзей у палоне. Ведайце навек, што я толькі і думаў, што пра вас і асабліва пра цябе, мой любы Густаў. Дзеля твае, Густаў, будучыні я ваяваў. Я прынёс бы табе спосаб на цудоўнае жыццё да самай твае старасці. З арандатараў чужой зямлі мы сталі б уласнікамі хоць і не аграмаднага, але маёнтка. Ты быў бы памешчыкам, а не арандатарам. Я ўжо ўсё быў зрабіў дзеля гэтага, але смерць, якая стаіць каля мяне, ужо вырывае з мяне душу і тваю будучыню. Божа, злітуйся! Але надзеі ўжо няма. Побач са смерцю

стаяць каля мяне чужыя людзі. Бывайце навек. Вось месца, дзе я ўміраю. Ведайце і яго, усё ў жыцці можа быць, можа, калі каго з вас лёс занясе сюды, дзе будуць мае косці. Я ўміраю ў палоне... Грудзі мне муляе тое, што я здабыў табе, Густаў, на вайне і што не суджана ўзяць табе ў рукі. Канец мой падышоў».

— Ну, чулі? Гэта яму золата муляла. Гэта за яго Густаў стаў бы намешчыкам. Я і сам дзіўлюся — няўжо за яго цэлы маёнтак льга купіць? А можа, у Нямеччыне цана па зямлю такая малая? Э, ого, ого! Дык жа ў адным пярсцёнку дарагое каменне! А божа! А на гадзінніку што выпісана! Граф Паліводскі! Ну няўжо і граф на вайне бывае забіты або ранены? Як той казаў — вайна не толькі лье кроў, але і кожную брудную душу выверне на паказ свету. А ты, Паліводскі, быў граф, а пасля нейкі Густаў панаваў бы за тое, чым ты зіхацеў. А я — дык лепш капусту буду садзіць і карову карміць. Якая цяпер карысць таму Паліводскаму, што ён быў графам! Я большы за яго граф, бо калі я каго ад крываўкі вылечу, то мяне добрым словам успамінаюць і пры спатканні дзякуюць. Чуеш, ты там, за комінам! Не лезь у графы, а будзь чалавекам!.. Нешта ж Трыбуховіч з парасюком не пад'язджае. А ўжо і дзень праходзіць. Ну як вы абое? Каму што баліць? Я казаў, што па паўдні распагодзіцца. Бач ты, ужо і сонца выблiснула. Дзе ж гэты Трыбуховіч дзеўся? Хіба яго чэрці на мерку схапілі? Ах, чортава па́ра!.. Ну, на дварэ весялей робіцца, сонца бляша як мае быць... А тым часам салдат, як бачыш, сканваіраваў гэтага немца куды трэба і назад варочаўся адзін, таксама куды яму трэба. Дык вось гэты салдат то пешкам ішоў, то ехаў, як траплялася. У нашым мястэчку ён нейкага сабе спадарожнага грузавіка чакаў і, успомніўшы, да мяне начаваць прыйшоў. Вечарам мы з ім сабе слова за слова, а ён мне расказвае пра таго немца. Божа мой, кажа ён, не пазнаць стала немца. Як толькі, кажа, выйшлі за Сумлічы, дык той немец адразу пачаў высвістваць, выспеўваць, ганяць пры дарозе птушак, вітацца з кожным, хто па дарозе праязджае, гэтакі ў яго шчаслівы час настаў. Вы чуеце? У яго радасць жыцця стаптала пад ногі смутак смерці. І вось на першай папасцы, выпрасіўшы ў салдата колькі лісткоў паперы з запісной кніжачкі і алавічок, дробна і густа нешта ўсё пісаў і пісаў, а пасля запячатаў у канверт і даў салдату, каб той на першай пошце, ці дзе іх здаюць такія пісьмы, ад-

правіў. Эй, ты там, за комінам, ты думаеш, я вытрымаў, каб не прачытаць і гэтае пісьмо, якое яшчэ ляжала ў салдата ў кішэні? Пакуль салдат спаў да раніцы, я і гэтае пераґнаў на нашу мову. Слухайце: «Густаў, сынок мой, Анна, Берта! Шчасце і радасць, я жывы! Я іду дарогаю, і нада мной свеціць сонца. Усе людзі на зямлі добрыя і мілыя. Каб вы толькі ведалі, як аба мне дбалі і пра мяне клапаціліся тыя чужыя людзі, у хаце якіх я ляжаў! З'явіўся нейкі стары доктар і лячыў мяне, дай божа яму здароўя. А нейкая дзяўчынка! Сама малая, а глядзела мяне, як родная. Яна адпойвала мяне малаком, а назаўтра нешта такое смачнае зварыла, чаго мне ніколі датуль есці не даводзілася. Гэта ўжо не чужыя мне людзі, яны выратавалі мяне, і, калі я ўстаў на ногі і ўбачыў, што жыву і ўжо здаровы, я мог бы на каленях паўзці перад імі ўсімі і на развітанне я не вытрымаў і... Густаў, маё сэрца баліць аб табе, што ты астанешся арандатарам... Я аддаў той дзяўчынцы тое, што было тваё. Бог дасць, я вярнуся дадому і буду доўга-доўга расказваць табе пра гэта. Але ўсё яшчэ можа быць, можа я здолею зноў здабыць тут табе тваё, любы мой Густаў. Выбачай мяне, але я не хачу гэтымі цяжкімі думкамі душыць сваю светлую радасць аб тым, што мне добра цяпер і што чужыя людзі мяне вярнулі да жыцця. Калі ты падрасцеш, ты можа і асудзіш мяне, што ты не маеш маёнтка, але само жыццё і ўсё, што будзе з намі далей, згладзіць усё і перада мной можа зноў паставіць магчымасць здабыць табе тое, чаго ты варт, мой сын. Што ж, гэта адзіны раз у жыцці ў мяне так ірванулася душа і павяла мяне на гэты ўчынак...»

— Вы чуеце, як яго ўжо точыць чарвяк, што ён так ірвануўся душой? От бо нямецкая душа! Ніякіх там парываў, а ўсё павінна быць вылічана: колькі аршын радасці, колькі ўдзячнасці, колькі сяброўства і колькі дабра другому, каб не перадаць лішне. А можа ён яшчэ і з жывога гэтага Паліводскага здымаў, якое там к чорту знімаў! Здзіраў тое золата! Дык тады пісара пры ім не трэба было, каб запісваць, колькі немец скур з чалавека здзярэ. А вось калі душа яго на момант зварухнулася на справядлівую ўдзячнасць, дык ён адумаўся, што не паставіў пры душы таго пісара, які б падлічыў і запісаў, ці не залішне ён перадаў да чалавека ўдзячнасці, не гаворачы ўжо аб простым, бескарысным пачуцці. О, я немцаў ведаю. Яшчэ калі быў малады, служыў пры вялікім доктары, і ён мя-

не браў з сабою ў Германію, калі ездзіў паказваць свой спосаб, як рак вырэзваць... Ну, ты там, за комінам! Калі толькі адагрэешся добра, то злезеш і дасі ёй паесці, і набольш каб яна піла, цёплага і гарачага. Бывайце і праўцеся, галубчыкі мае, унь Трыбуховіч пад'ехаў, дзякуй богу, што на пагоду выбілася!

І ён пайшоў з хаты. Праз колькі хвілін ён знадворку прыклаў твар да шыбы і гукнуў:

— А калі ёй праз дзён два-тры не будзе рабіцца лепш, дык падскоч зноў да мяне, я прыеду банькі паставіць.

І пасля гэтага колы загрукацелі па вуліцы. У хаце стала зусім ціха. Кастусь быў рад, што гаваруна ўжо не было ў хаце, аднак жа штосьці нядобрае, ці як бы трывожнае павісла над ім. Яму рупела, што і конь на двары склее на холадзе, і што золата, знятае немцам з графа Паліводскага, ляжыць недзе тут у шуфлядзе, і што яму трэба яшчэ чакаць нейкага поту, і што яму не можна адразу ж устаць і пачаць гаспадарыць. Але самае большае — тыя гадзіннікі і пярсцёнкі як бы душылі яго. Чамусьці яны пасля фельчаравай гаворкі сталі яму страшнымі і агіднымі, што да іх дакранацца нядобра было. Так ён ляжаў, ляжаў, чакаў поту, але яму не было ўжо холадна. Ён не вытрымаў, збрыкнуў з сябе нагамі кажух і паволі сышоў з печы. У галаве злёгку кружылася, але ці мала што калі здараецца — ён прайшоў па хаце, пераабуўся, абмацаў на сабе рубашку — ужо яна была зусім сухая. «Дзякуй табе, божа, абышлося і без патоў». З радасным пачуццём ён рушыў у свой даўно прыспелы занятак. Перш за ўсё ён напхаў у печ дроў і падпаліў. Праз дзесяць хвілін ужо была падоена карова, хвіліна спатрэбілася на тое, каб вывесці з аглабель вымучанага каня і ўвагнаць у хлеў. Яшчэ праз хвілін дзесяць ён нясмела глядзеў у Волеччын твар і ўсё ўгаворваў яе падняцца і напіцца гарачага малака. Ён прыўзняў яе, падтрымаў за плечы і напаіў, і яна сказала:

— Трэба, каб у хаце было зусім-зусім ціха, дык я засну.— Тады ён адзеўся ў тую сваю, што яшчэ з дому, суконную жакетку і ціхом выйшаў. Тым часам і дзень блізак быў да вечара. Надвор'е зусім расчысцілася, і свяціла сонца. На душы ў яго стала лягчэй. Ён выцер саломаю каня, акінуў вокам двор і ціха ўвайшоў у хату. Хоць і ціха, але Волечка прачнулася. Шпарка і яшчэ цішэй ён выйшаў з хаты і зірнуў у акно. Відна была Волечка на пасцелі. «Ну,

цянер яна спіць. Доўга не пайду ў хату, няхай спіць, не буду будзіць». Ужо захад згарэў чырвоным полымем і патух, і ўжо зоры загусціліся ў небе, ужо і шырокі серп месяца ўзышоў, а ён усё баяўся ісці ў хату. Пахаваў у пуню пад салому ўсе тыя хваёвыя бервеньчукі, разоў некалькі падкладаў коням сена, перачакаў ужо і позні вечар, змерз, многа разоў зазіраў у акно і Волечкі не мог убачыць, а ў хату не ішоў. «Няхай спіць». Стаяў гадзінамі, тросся з холаду, а не ішоў. І яму было добра берагчы яе сон. Нарэшце пайшоў. Так адчыняў дзверы, быццам гэта ён нёс на галаве паўнюткую шклянку вады, не вады, а дарагой вадкасці, або я́ду, кропля якога прапаліць навылёт яму галаву. Якая ж была яго радасць, калі ён нарэшце апынуўся ў хаце і ўбачыў, што Волечка спіць. Але яна не спала, а бачыла, як ён увайшоў і стаў каля яе.

— Дзе ты быў дагэтуль? Ужо табе нікуды больш не трэба ісці? Нейк адной нядобра, сумна...

Адчуванне вялікага шчасця апанавала ім. Ён будзе тут! Каля яе! Усю ноч ён не будзе спаць! А вартаваць будзе яе сон і спакой!

— Не, не пайду, толькі трэба дзе гэтае золата схаваць, няхай яно агнём пойдзе.

— Вазьмі ў шуфлядзе медны ключык, адамкні ў клеці куфар і ўкінь туды, хай яно прападзе, няхай бы лепш немец яго панёс з сабою, а то...

— Праўда, праўда.

Калі ён адамкнуў куфар і паклаў у прыскрынак золата, быццам з душы яго спала што цяжкае. У хаце ён пачуў ад Волечкі:

— Добра, што ўжо няма ў хаце, гэты фельчар, як пачытаў тыя пісьмы... Божачка, што той немец перажыў, як ён мучыўся! Не ідзі ўжо нікуды, а будзь тут і спі, ужо ноч...

— Добра, а за клопат вазьмуся можа нават і заўтра.

— А за які клопат?

— Ну, каня табе змяніць, рэштку бервеньчукоў перавезці з лесу, падабраўшы ноч, шулы паставіць, браму зрабіць, жыта ў млын, змалоць...

І пайшла тая ноч, месячная, добрая, ціхая, а к раніцы зноў схмурнела неба і пачаў падаць мокры снег. Тады пад раніцу яны, кожны па-свойму, сасніліі нейкага высокага чалавека ў чорнай адзежы і з заплюшчанымі вачыма. Ён не спаў, а быў нежывы — гэта ў яе, а ў яго — рагатаў і тан-

цаваў, але вымагаў, каб яму аддалі боты і кашулю. Гэта быў граф Паліводскі. Кастусь прачнуўся і думаў, ці сапраўды гэтакі мог быць той невядомы Паліводскі, а Волечка прахапілася з енкам і крыкам: «ой, ой, божачка!».

— Што, што? — абазваўся ён.

— Ой, ой, Паліводскі!.. А хто гэта тут у хаце?

— Гэта я,— крыкнуў Кастусь.

— Хто?

Яна яшчэ не адвыкла ад свае адзіноты і не прывыкла да яго. Ён падбег да яе і ўбачыў, што яна дрыжыць.

Колькі раз, жывучы ўжо адна, без бацькі, яна так прачыналася раніцамі ад непрыемных ці страшных сноў! І прывыкала ў адзіноце сваімі сіламі гнаць ад сябе цяжкае ўражанне ад кашмараў. Цяпер жа яна падумала, што недзе каля яе ёсць ён. Як лёгка і адразу згінуў сон, і яна ўсміхнулася, яшчэ з заплюшчанымі вачыма.

— О так, а то крычыш немаведама чаго. Гэта ж сон.

І па яе твары ён здагадаўся, што яна ачуньвае.

— Уночы я выходзіў глядзець коней, ужо на дзень ішло. Мокры снег гразі даў. А конь твой ужо ані нічога не з'еў — нават і не зачапіў сена. Ты нічога не думай. Мой конь зусім малады. Ведай, што гэта твой. Ты толькі папраўляйся.

— Я ж папраўляюся. Хіба ты не бачыш?

— А на двары ўжо і апошняе лісце з ігрушы асыпалася за ўчарашні дзень. Чорнае, як сажа, ляжыць мокрае.

Праз два дні ён пачаў карміць худога каня паранкаю, не адыходзіў ад яго, рабіў яму нейкае адмысловае пойла, а праз два тыдні сказаў Вольцы, што конь крыху абгладзіўся і ўжо льга яго збываць. Аднойчы ўдосвецця ён накрыў каня мяшком і сеў зверху. Конна выехаў ён з двара. Торба з акрайцам хлеба была ў яго руках. На конным рынку ў дробным гарадку, вёрст за сорак ад Сумліч, ён, як спрактыкаваны конскі перакупшчык, расхвальваў старога і худога каня, бажыўся і падпускаў часам заядлую лаянку. «Без гэтага каня не прадасі»,— думаў ён і запрашаў усіх паглядзець каню ў зубы. «Галоўнае — смела казаць, каб глядзелі ў зубы, дык ніхто і не гляне, і паверыць, што конь малады». Стары і высокі цыган, які тут жа побач прадаваў яшчэ мусіць старэйшага каня, сказаў:

— Ты, чалавеча, прасі, каб глядзелі твайму каню не ў зубы, а ў хвост, тады хутчэй усіх ашукаеш.

Навокал зарагаталі, і Кастусь, праклінаючы гэты дзень,

адвёў свайго каня ўбок, але і адтуль два перакупшчыкі прагналі яго. Скончылася так, што ён вярнуўся на ранейшае месца. За гэты кароткі час цыган паспеў прадаць ужо таго каня, купіць другога і ўжо гэтага расхваліць. Кастусь прадаў свайго каня перад самым вечарам, вельмі затанна, але ён быў рад, што развязаў рукі. «Волечка не будзе ў крыўдзе, я ж ёй аддаю свайго каня». Якое было яму шчасце цэлую асеннюю ноч ісці дадому. Ён адчуваў сябе так, быццам вырваўся на волю. Яшчэ на выхадзе з горада ён убачыў вясковую бабу, якая трымала пад пахаю пеўня.

— А ці добра спявае? — некалькі разоў пытаўся ён у бабы.

— Галубчык мой,— адказвала кожны раз баба,— гэта не певень, а музыка. Пад яго песню можна цэлы вечар танцаваць.

Ён купіў пеўня і падумаў: «Прыйдзецца ж зімаваць. Няхай спявае сабе. А калі Вольцы не спадабаецца — я ёй грошы вярну». Яшчэ не пачынала світаць, калі ён быў дома. Пеўня ён укінуў у пуню і ўсё прыслухоўваўся, ці скора той заспявае. І толькі цяпер ён падумаў аб сваёй віне перад Волькай: «Я ж задарма аддаў каня». Пакуль развіднела, ён, не заходзячы ў хату, выкаціў з пуні два бервеньчукі з той сухой хвоі і стаў часаць. «Пакуль зіма не ўмарозіла зямлю, я яшчэ пастаўлю шулы на браму». І душа яго ачысцілася ад прыкрасці. Раптам у пуні заспяваў певень. І гэта як бы хто сказаў яму радасную навіну. Ён пакінуў часаць бервяно і стаў над ім. Цадзіўся дзень позняй восені. У хатніх вокнах засвяціўся агонь. «Волечка ўстае. А можа пайсці ў хату?» Волька выйшла на ганак і ўбачыла яго над бервяном. І загаласіла:

— А братачка, чаму ж ты надумаўся ўночы бярвенне часаць? Ну як жа табе ўчора там паводзілася?

— Ну, каня прадаў, пеўня купіў... спявае, ліха яму, як на скрыпцы грае... А над лесам, учора нáдвечар, вельмі хмара ссінела. Мусіць, неўзабаве ляжа сапраўдны снег.

Снег, вецер, галасны певень, пах сена з пуні, крык зімовай птушкі, счарнелы ад прымаразкаў лісток з саду на ветры, ясны захад сонца, пах свежага хлеба ў хаце, вымалачаны колас, узняты ветрам на бязлісты куст бэзу, зорнасць марознай ночы, бесперапынная плынь часу — дзень за днём, дзень за днём,— і пайшло яно, з вялікай радасцю аб тым малым, што толькі і патрэбна чалавеку. Ні зайздрасць і ні сквапнасць, ні злое нездаваленне, ні прыкрая

паняверка, што ўсё мала і трэба больш, ні горач, што нехта вышэйшы за цябе ростам... Тут не бытавала пустое імкненне немаведама куды. Колер і пах свежага абчэсанага хваёвага бервенчука гаварыў душы больш за тое золата ў куфарным прыскрынку, страчанае невядомым і таемным графам Паліводскім і набытае, і таксама страчанае Густавам Шрэдэрам.

Дзень за днём і месяц за месяцам. Зіма за восенню. Нарэшце буйная кропля вады ўпала марозлівым і сонечным днём са страхі. Неба было такое ж сіняе, як і высокае. Але пад ім яшчэ на ўсе палявыя прасторы ляжалі вышэйшыя за рост чалавека пласты перамерзлага снегу. І да вясны і да лета яшчэ далёка было. А яшчэ далей да зорнага мігцення на вераснёвым небе. Тады будзе год, як ён, гэты ціхманы Кастусь Лукашэвіч, асталяваўся тут, у Сумлічах. Але сонца ішло ўжо высока, і здавалася, што вось неўзабаве над бліскучай разлегласцю снягоў цвыркне першы жаўранак. Начамі свяціў месяц, поўны і даўгавечны. У такія ночы, кажуць, ведзьма, натанцаваўшыся з вечара да поту, ратуецца ад гарачыні тым, што кладзецца спаць на голым таку, а пад дзень мерзне і накрываецца бараной. Колькі разоў Кастусь гаварыў на досвітку Вольцы, каб яна ішла на ток грэцца пад барану, ведзьме пад бок! І колькі разоў яна называла яго за гэта ведзьмаком! Гэта не былі жарты сталых людзей, бо вельмі многа тут было дзіцячай наіўнасці. Але і дзіцячага тут было мала. Мала было і сталага. Для іх яшчэ не прыйшоў час знайсці сваю сталасць у іхняй блізасці адзін да аднаго. У той меры, у якой ішоў час, ён рабіўся больш маўклівы, чым гаваркі. Яна ж любіла, калі ён жартаваў, і рагатала яшчэ загадзя. Можна было падумаць, што гэта фармуецца натура вясёлая і нават легкадумная. Аднак жа ён бачыў, што нешта як бы ляжыць у яе на душы і што ў вачах яе вялікая задума. Раз яна сказала:

— А ўжо вельмі доўга вайна цягнецца, а ад бацькі ні разу пісьма не было. Я ўжо ведаю, што яго няма жывога.

Адкуль жа яна можа ведаць? Вось ён дык ведае, што яго бацькі ўжо няма!

Як гояцца раны зямлі! Ззяе ямінамі разварочаная рыдлёўкамі зямля. Або ляжыць перад чалавечымі вачыма земляное калецтва, калі пройдзе па ёй, як гэта сёння, у нашы ганебныя для чалавецтва дні, ганьба чалавечага генія, танк — стварэнне чалавека дзеля смерці чалавека. Або крывавыя раны зямлі, прабітыя бомбамі. Чорная зямля па

краях і дзеля напамінку чалавеку, што ён горш за звера і жывёлу,— травіна, прыліплая да земляной раны. Сонца сушыць скалечанае месца, палошчуць дажджы, абвяваюць вятры. Ідзе час. І няма калецтва: ужо ўсё зарасло травой, ужо і дрэўца пасеялася і ўзышло. Расце ўсё вышэй і ўжо здалёк відно. І на месцы, дзе ззяла рана, красуе хараство, і, здаецца, ніякае ўтрапенне не кране тут жыцця прыроды і чалавека. Вялікі доктар — час — спакойна і безупынна ідзе па свеце і лечыць, і гоіць.

Скруха і смутак тупелі і ўсыхалі. Яны ішлі да свайго поўнага знікнення. Кастусь і сам стараўся гнаць ад сябе думкі аб нядаўным мінулым. Праца ўраўнаважвала яго душу. Цяпер ён рыхтаваў немудрашчую Волеччыну гаспадарку да вясны. Льга думаць, што ён, у гэты час сваё маладосці, вельмі мала закідаў думкі далёка наперад. Вельмі можа быць, што тут і пачыналася яго шчасце: прынамсі цяжкая паняверка не гняла яго душы і не сеяла ў ёй смутку. Чалавек меў радасць ад усяго таго, што рабіў кожны дзень. Так гартавалася і яго дужасць. Ён браў у пуні на плечы цэлы мех збожжа і сумысля праносіў перад вокнамі хаты, каб Волечка бачыла, што ён за чалавек. Тая ж Волечка быццам бы старалася патрапляць яму ў тон: ён не любіў, калі яна бывала вудная:

— Ты зноў расскоглілася? Баба дурная! Бацька пісем не шле, а возьме і сам калі-небудзь з'явіцца ў хаце. Лепш бы пайшла паглядзець карову, можа яна цяліцца скора будзе.

— А хіба я магу пазнаць, калі яна там будзе цяліцца?!

— Дык навучыся пазнаваць, калі хочаш быць добрай гаспадыняй!

А хіба яна хацела ці не хацела быць гаспадыняй? Яна жыла так як жылося. Так жа было і з ім. Яны абое належалі да таго пакалення, якое не ведала сапраўднага маленства. Але затое перад імі стаяла ўжо іхняя маладосць. А каб хто ім сказаў, што другое пасля іх пакаленне (іх дзеці) ужо і маладосці мець не будуць, што іх маладосць з'есць чужы прышэлец? Хіба была б у іх вера ў гэта? Яны ж так моцна якраз цяпер пачыналі адчуваць блізасць усемагутнай маладосці!

Прыйшла і прайшла вясна. Кастусь узараў усё і пасеяў. Грошы за таго Вольчынага каня ляжалі ў прыскрынку, разам з тым золатам. Прыйшло лета. Удваіх з Волькаю яны жалі дзень пры дні. Ужо аднекуль з лесу ці з саду

на ржышча пад свежы сноп заляцеў жоўты лісток. Першая яна заўважыла яго:

— Глядзі, глядзі, восень! — І ўздыхнула.

Ён адагнуўся ад жніва і сказаў:

— Калі я сюды прыехаў — восень была пазнейшая.

Каб хто бачыў, як яны паглядзелі адно аднаму ў вочы! «Добра, што прыйшла восень. А яшчэ лепш, што ўсё мае свой час». Пасля жніва ён пачаў угаворваць яе не шкадаваць тых грошай за каня і набраць крамніны на плацце. Доўга ішлі гэтыя ўгаворы, а нарэшце, ужо-такі ў сапраўдную восень, ён убачыў яе ў новай сукенцы. Гэта праўда, што чалавек упрыгожвае рэчы і свет. Але і яны не так сабе існуюць навакол чалавека. Трэба было паглядзець збоку, як ён акідаў яе вачыма! Цяпер нават ён як бы і пабойваўся яе. Яна, сваім жаночым пачуццём, угадала гэта і старалася быць пры ім у тым старым зношаным адзенні. А пасля стала ўгаворваць яго набраць і сабе новай крамніны — грошы яшчэ былі. Як гэта, ён сам не здолее прыадзецца? Гэта не быў пусты гонар. Гэта ён ужо адчуў у сабе мужчыну. Якія яны аднак жа сталі за гэты нядоўгі яшчэ час! Усю восень ён наймаўся на чужую работу з канём, а ранняй зімой выфранціўся сам, купіў ёй блучкóвую хустку і чаравікі і пачаў саромецца глянуць ёй у вочы. І зноў было нядобра. Яна адчувала, што яна першая павінна нешта такое сказаць ці зрабіць, каб усё зноў стала на сваё месца. Але як і што? Гэта была пакута. Надыходзіла новая пара ў іхнім жыцці. Яны не спяшаліся ёй насустрач. Яно само ўсё ішлося, а яны мелі радасць ад свае кожнадзённасці. Зноў вясна, зноў ён араў і сеяў. Пасля вясны будзе лета... Так і новыя падзеі прыйшлі. Канчалася вайна, а з-пад Сумліч згінулі паны. Кастусь вазіў з панскага лесу дрэва не таму, што надумаўся на месцы старой Нявадаўскай хаты або дзе інакш будаваць новую, а таму, што ўсе вазілі дрэва. Ён складаў яго на вуліцы, і к лету перад вокнамі Нявадаўскай хаты навалена было бярвення да самых гэтых вокан. Так ён пакінуў быць выгнанцам і бяздомнікам і стаў тубыльцам тут. Ужо яму здавалася, што ніколі і не было такога часу, што ён жыў дзе-небудзь інакш. Поле добра радзіла. Нават ужо і клянок, пасаджаны ім дзеля забаўкі на Нявадавым двары ў першы год прыезду сюды, рос і ўкарапяўся. Прыйшло юнацтва і сталасць натуры. Волечка была ўжо мажная і паважнейшая ў рухах. І калі ён называў яе не «Воль-

ка», а «Волечка», яна чырванела і бянтэжылася. Тым жа летам гэтая саромлівасць паміж імі дайшла да найвышэйшага сваяго пункта. Ці не сам лёс прывёў яго сюды, каб ён дзеля яе і клён каля бацькаўскай хаты пасадзіў, і поле ратаваў ад дзікай травы, і падтрымаў яе ў тым яе адзінокім сіроцтве, і сам пачаў тут станавіцца на ногі? Нашто ж было ім дзе-небудзь інакш шукаць тае невядомасці замест ужо знойдзенага шчасця? Канчалася лета. І хоць далёка яшчэ было да верасня месяца, але зорная ноч была падобна на тую, калі ён тады прыехаў сюды. Абое яны стаялі моўчкі каля свае хаты і як бы слухалі цішыню. Калі яго рука злавіла яе плячо, яна хістанулася да яго, як бы цвёрда ведаючы, што вызначанага не пераступіш і што ёй не можна быць далёка ад яго. І абодвум ім жыццё стала вялікім шчасцем.

## II

Зіма ў тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе пачыналася вельмі рана. Ужо ў пачатку лістапада станавіўся сухі холад, а пад сярэдзіну таго ж месяца нападаў змёрзлы і сцёрты ветрам на муку снег. Сухія вятры дзьмулі да канца лістапада. Скрозь у полі снег пазганяла ў лагчыны і прыдарожныя рыштокі. Поле асталося голае, толькі дзе-нідзе прыснежанае, скрозь тырчэла пачарнелае ржышча і месцамі нават з крохкім зяленівам не з'едзенай жывёлаї і высушанай марозам травы. Дзіўная пачыналася зіма ў гэтых месцах. Бярозавы гасцінец, што ішоў цераз Сумлічы з усходу на захад, ляжаў пад снегам, але на два крокі ў бок ад яго былі голыя палявыя прасторы з іржэўем і раллёй і жоўтыя з зеленаватым адценнем паплавы. Рэчкі цяклі пад чыстым лёдам, і праз яго свіцілася жвірыстае дно і багавінне з вечным сваім павольным рухам. Сонца свяціла цэлымі днямі, і водбліск яго на голым полі будзіў успаміны аб былым зіхаценні летніх дзён. Ад Сумліч на захад гасцінец праходзіў праз дробны горад Нясвіж. Паміж Сумлічамі і Нясвіжам па гасцінцы ёсць яшчэ некалькі мястэчак, і апошняе з іх к Нясвіжу — Цімкавічы. На сярэдзіне ж дарогі паміж гэтым мястэчкам і Нясвіжам стаяла тады старая карчма, як і належыць ёй, з стадолай і прасторнай хатай на падлозе і з бакоўкамі. Карчма стаяла пры самым гасцінцы на ўездзе ў сяло Кукавічы і называлася «Кукавіцкая карчма». У першыя месяцы пасля міру з Польшчай

(зімою 1920 і 1921 гг.), пакуль не вызначана была і не адзначана цвёрдая лінія граніцы з Польшчай, гэтая карчма была тым пунктам, на які арыентаваўся кожны, хто хацеў цвёрда дазнацца, дзе Савецкая зямля, а дзе ўладанні Польскай дзяржавы. Калі па гасцінцы ты ступіш ад карчмы крок на захад, дык апынішся ў Польскай дзяржаве, а крок на ўсход — будзеш на Савецкай зямлі. Тады не было яшчэ ні пагранічнікаў, ні пагранічных заставаў і можа нават і цвёрда вызначанай дзяржаўнымі планамі засылкі шпіёнаў. Хто ведае з нас, простых людзей. Можа тады аб гэтым толькі пачыналі думаць у міністэрскіх кабінетах. А ўрэшце — за факты не паручуся, чаго не ведаю, таго не скажу. Такія словы як «шпіён», «дыверсант», «кантрабандыст» тады яшчэ ў гэтай мясцовасці не ўбіліся ў вушы народа. Што ж наогул да еўрапейскіх народаў, то гарадскія малатабойцы і сталявары, механікі і слесары, шаўцы і пекары, і сельскія земляробы ў той час або з радасцю варочаліся дадому, або яшчэ марылі аб гэтым. У нашы дні спрабавала забытаваць пропаведзь, што кожны народ любіць вайну. Горкая практыка паказала, што ваяўнічае геройства народа нараджаецца і выпрацоўваецца не ад замілаванасці да рэк крыві на полі вайны, а ад неабходнасці сцерці з твару зямлі такую погань, якая ў нашы дні ў вобразе Гітлера заявіла, што нармальны стан мужчыны вечна быць у вайне. Гэтая пропаведзь спазнілася на мільёны год. Што ж да скопішча тыхваласатых нашых продкаў, якія яшчэ мелі пляскаты лоб і вечна ваявалі адзін з адным, каб адзін аднаго есці нават без перцу і солі, то нават далучыўшы да іх усё гітлераўскае войска, наўрад ці льга назваць усё гэтае зборышча народам. Гэтая развага мела б у тыя часы да Кукавіцкай карчмы тое дачыненне, што ў ёй тады часта падначоўвалі людзі, ваяўнічы дух якіх абмяжоўваўся радасцю аб тым, што скончылася вялікая вайна, якая займала паўсвету, паканчаліся меншыя войны, а ў гэтых вайна з Польшчай, а на адной шостай часціне зямлі прагучэла на ўвесь свет «Мір народам». Можа нарэшце хоць спакойна дыхаць льга стане! Хтосьці, начуючы ў Кукавіцкай карчме, напісаў у ёй на сцяне, як бы на ўспамін тутэйшым людзям, сваё прозвішча і слова радасці, што варочаецца ў родны кут да блізкіх і родных. З гэтага прыкладу пайшлі і больш тут пісаць на карчомных сценах. За шэсць год вайны і за дзве акупацыі на гэтай бітай дарозе перавярнулася бездань людзей. А кажуць жа, што

кожны чалавек — гэта цэлы свет. Як толькі маглі ўмясціць на сабе гэтулькі надпісаў сцены гэтай старой будыніны! Апошнімі днямі лістапада месяца тысяча дзевяцьсот дваццатага года, калі сухі скавыш ламаў на гасцінцы бярозавае голле, змятаў з поля апошні снег і скавытаў у коміне Кукавіцкаіі карчмы, перад самым вечарам нейкі падарожны з такім змучаным тварам, што на ім ужо страцілася пячаць чалавечага вобліку, роўнай хадой ішоў гасцінцам з захаду на ўсход. У тыя хвіліны, калі сонца вісела над самым лесам, ужо гатовае спусціцца за яго, чалавек падышоў да самай карчмы і абышоў яе навокал. Уваход у карчму і ўезд у стадолу былі проста з гасцінца. За задняй карчомнаіі сцяной было выгараджана жэрдкамі месца, падобнае і на двор, і на агарод. Чалавек успёрся локцямі на гэтую агароджу і так стаяў у задуме. Рыжая карова трэслася з холаду і тыцкалася пысай у мерзлыя грады, дзе яшчэ аставаліся рэшткі скарэжанага на марозе капусніку і бурачніку. Карова шукала яды. Чалавек доўга глядзеў на яе і ўсё стаяў. Магло здавацца, што яму вельмі соладка стаяць на холадзе. Яно і можа быць, бо кожны яго рух сведчыў, што ён быў такі змучаны, што яму соладка было стаяць у нерухомасці. Можа чалавек крыху адпачыў стоячы, бо праз нейкі час вочы яго як бы ажывіліся, і, як бы развясельваючы сам сябе, ён сказаў:

— Усё на тым самым месцы, і карова тая самая. Дай жа божа, каб і дома ўсё было ў шчасці і радасці. Ах, божа мой, божа, колькі было бадзяння і пакуты. Жартачкі — цэлыя гады! — Ён уздрыгануўся, адарваўся ад плота і рушыў у карчму праз чорны, ці задні, ход з агарода. Здавалася, што ў гэтым чалавеку няма і кроплі крыві. Твар худы і выцягнуты нос. Здавалася, што скура на твары хутка стане празрыстая, як шкло, і праз яе льга будзе ўбачыць чалавека ў сярэдзіне. Кароткае шчаціннe выстрыжанай барады тырчэла ва ўсе бакі, а адзежа — адкуль толькі ён мог і назбіраць яе?! На нагах падшытыя кавалкамі скурата лапці. Нагавіцы нямецкія, салдацкія і вылатаныя дзесяткамі рознакаляровых кавалачкаў. Кароткая вопратка, можа нават і на ваце, цывільная, з плеч простага чалавека, якога-небудзь рабочага або панскага парабка, міжнацыянальнага і разам — няпэўнага выгляду, падпяразаная вяроўкай. А шапка — рэшткі польскай канфедэраткі: без казырка, з адарванымі рагамі і залатанымі дзірамі на месцы іх. Пад гэтым падабенствам галаўнога ўбрання на галаву была за-

кручана і закрывала вушы ні то хустка, ні то ручнік, брудны і дзіравы. Усё гэта тырчэла гузамі і камякамі на чалавечай галаве.

Гэты чалавек увайшоў у карчомную кухеньку, дзе ў адзіноце сядзеў за сталом, у адных сподніках і чорнай камізэльцы, стары карчмар, падобны да Майсея. Ён браў з талеркі вывараныя косці і абсмоктваў іх. Чалавек згроб з галавы канфедэратку з дзіравым ручнікам, пацёр вушы і прывітаўся з карчмаром:

— Здароў, Шымха! Жывеш? Можа і пазнаеш мяне. Не пазнаеш? З Сумліч. Бывала, калі вязу што або каго ў Нясвіж, дык заўсёды начаваў або папасваўся ў цябе. Не пазнаў?

— Чаму не! Сумліцкі Нявада. Але ж вайна з цябе і штуку вырабіла! Ні да кога і сам да сябе ты цяпер не падобен. Адкуль жа ты і куды ідзеш?

— А ты як жыў?

— Як жыў! Усяго бывала. Тут жа і немцы былі, і палякі былі... А кожны ж прышэлец ідзе на чужую зямлю не на тое, каб што-небудзь прынесці ёй, а каб сабе з яе ўварваць. А цяпер жа не канец яшчэ. Я апынуўся ў шчыліне паміж двума дзяржавамі. Стадола і хата стаяць на савецкай старане, а града з рэдзькаю пры хаце і прызба пад вокнамі — гэта Польшча. Я яшчэ чакаю, што хлеў, дзе стаіць карова, будзе абвешчан нямецкім, а унь тая бяроза на гасцінцы ангельскай. Я табе зайздрошчу. Адкуль бы ты ні ішоў, то ты ідзеш у свае Сумлічы. А калі нават твая там хата і згніла да рэшты, ты ўсё роўна ідзеш дадому. А мне трэба адсюль выбірацца. Цяпер жа рэвалюцыя. Ты набярэш зямлі і паставіш хату. Ты адпакутаваў на вайне, але тваё шчасце прыйшло да цябе. А я праз усё жыццё збіраўся ехаць за мора ў Амерыку, а цяпер позна... Адкуль ты ідзеш?

— Іду з нямецкага палону.

— Што ж ты так запазніўся? Унь адзін кукавіцкі даўно ўжо як дома.

— Мала што, тоі можа з прычыны мірнага дагавору, а я з лагера ўцёк яшчэ да міру з немцамі. Да Польшчы дабраўся, а з Польшчы ледзь выбраўся. У лагерах цяжка было выжыць, але і палякі такія заядлыя, што разоў некалькі ў турму саджалі, калі лавілі на дарозе. Лічылі мяне за нейкага такога, хто хоча згубіць іх уваскрослую дзяржаву. Так усё і дапытвалі мяне — а ці не маю я намераў

пусціць на паветра цэлую дзяржаву! А божа мой! Нашто мне Польская дзяржава?! Яна мне патрэбна не больш, як Англія разам з Францыяй, Амерыкай і Турэччынай у прыдачу. Бойцеся, кажу бога! Пазбірайце вы, кажу, золата з усяго свету, зрабіце з яго трон, пасадзіце на яго мяне кіраваць паўсветам, а каб увесь свет выхваляў мяне, дык я перад вамі буду прасіцца і маліцца: пусціце, калі ласка, дайце мне шчасце спаўзці з гэтага трона: я колькі год жыта не сеяў, кала нават не зачасаў, у кузні каня не каваў, у млыне мукі не малоў, раллі не нюхаў, ботаў не мазаў, капусты не сёрбаў, не наслухаўся ўволю, як пеўні спяваюць, як людзі па-людску гавораць. (Вочы яго пачырванелі.) А ў мяне ж у Сумлічах асталася адна як ёсць малая Волечка. Што яе ўжо на свеце даўно няма — гэта ўжо няма чаго і казаць.

— Бог дасць, нейк выкідалася.

— Як!? Пакінуў адну ўжо колькі год таму! Дзіця горкае!

— Пройдзем далей адгэтуль. Прыйдуць дзеўкі — дадуць табе гарачага есці, тады будзеш спаць да раніцы. Дарога яшчэ табе вялікая.

Удвух яны ўвайшлі ў карчомную хату. Карчмар сеў на лаву, а Нявада прыпёрся плячыма да печы грэцца. Ён змагаўся з дрымотаю. Соннымі вачыма ён аглядаў здаўных знаёмыя яму сцэны. Ён разбіраў там надпісы, некаторыя былі размашыста напісаны ці выразаны нажом. Каб хутчэй перабыць чаканне, ён прачытваў іх моцным шэптам. Адзін надпіс быў вось які: «Памажы мне, божа, знайсці дзверы ў маю будучыню. Граф Паліводскі». Нічога гэты надпіс Нявадавай душы не сказаў, і на твары яго нічога жывога не адлюстравалася. Трагедыя нейкага невядомага Паліводскага, які не мог знайсці дзвярэй у сваю будучыню, была вельмі далёкая ад розуму і сэрца гэтага чалавека, які праз каторы ўжо год сам таіў у сабе ўласную трагедыю і цяпер, варочаючыся да свае Волечкі, баяўся, што знойдзе там можа нават сляды цяжкай драмы. Як бы там ні было, ён холадна прачытаў яшчэ некалькі надпісаў і паглыбіўся зноў у маўклівае і дрымотнае чаканне. Тым часам стары гаспадар карчмы ў задуме пачаў пагойдвацца на лаве ў бакі і замармытаў сабе пад нос нейкую песеньку ці малітву і глянуў на Няваду:

— Цяпер, кажуць, Сумлічы разбудоўвацца пачалі панскімі лясамі. О, колькі такіх, як гэты Паліводскі, за гэтыя

часы бралася гасцінцам на Нясвіж праз маю карчму, ратуючыся ад рэвалюцыі!

— А што гэта за Паліводскі такі?

— Я не вінават, што ты не чуў пра яго. Я табе скажу, ты чалавек запечны, ты ціха жыў век у Сумлічах, пакуль на вайну не пайшоў. Я хоць таксама жыў запечнікам, але яшчэ мой дзед, пакуль не прыехаў сюды, расказваў, бывала, мне малому пра паноў і князёў, і графоў. Яны нават давалі яму ў схованку грошы, ён быў паваронам у іх. Дык і графа Паліводскага ўспамінаў. Той быў дзед гэтага, што тут на сцяне пісаў. Той дзед дастаў сабе тытул графа, бо мець гэтулькі маёнткаў і быць без тытула — гэта не работа. А маёнткі яго былі — і за Воршай, у бок Дуброўны, і ў Віцебскім краі, і на Смаленшчыне, і каля Міра, пад Карэлічы, але гэты Мірскі маёнтак ужо гэты, што пісаў тут на сцяне, унук таго дзеда, прагуляў у карты, спадзеючыся на ўсе астатнія маёнткі, з якіх ён браў чысты прыбытак, а сам ніколі там не быў. Сам ён вельмі малады, тонкі, высокі і афіцэр яшчэ царскай арміі, а цяпер афіцэр польскай арміі. Яму не пашанцавала. Рэвалюцыя пайшла яму на згубу і вайна таксама. Бо некаторыя, такога калена як ён, на вайне нажыліся. З нажыткам у кішэні яны мінулі маю карчму, з усходу на захад і па той бок мае прызбы сталі смелыя ад рэвалюцыі. А гэты павінен, каб жыць, служыць палякам, як той казаў, не для Езуса, а для хлеба куса. Які ён там быў ваяка на нямецкай вайне — хто яго ведае, мусіць не сказаць, каб вельмі, бо на вайне трэба навучыцца спаць у балоце, а ён вазіў з сабою пяць лёкаяў, пераадзетых за дзеншчыкоў. А шосты дзяншчык быў казённы. Хто ведае, дзе былі тыя шэсць дзеншчыкоў, калі на вайне куля ўрэзалася яму ў рэбры. Ён зваліўся з каня, свайго ўласнага, за якога адзін з блізкіх да цара генералаў даваў яму пяць паўсотняў звыш дваццаці пяці тысяч... Хэ-хэ, да дваццаці пяці тысяч прыткнулі пяць паўсотняў і за іх таргаваліся, як мы за паўрубля. І граф, і царскі генерал, а з таго ж цеста... Конь паімчаўся немаведама куды, а Паліводскі сыходзіў крывёй, лежачы ў вадзе і гразі, скрыты ад людскога вока асакой і аерам. Каля яго і рускія хадзілі, і немцы хадзілі, і ніхто яго не ўбачыў. Тым часам ён ачомаўся ўночы і сеў. Ён быў рад, што ўсюды ціха. Абсмактаў свае мокрыя пальцы і памацнеў. Да дня ён выпаўз на палявую дарогу і сеў, а пасля лёг чакаць збавення. К канцу дня нейкі чалавек у лапцях і з мяшком за плячыма ўзышоў з

поля на дарогу. Гэты абарванец з цвёрдымі, як косці, мазалямі на руках і даў яму збавенне. Што ж, граф Паліводскі, які праз усё сваё жыццё ўмеў толькі крычаць на людзей, пачаў енчыць і прасіць гэтага чалавека:

— Галубчык ты мой, вазьмі мяне да сябе, знайдзі доктара, памажы мне дайсці да здароўя, век будзеш пачаваць. Я табе дам золата многа з дарагімі каменнямі і нават зніму з шыі залаты з каменнямі фамільны крыж і аддам табе, і апішу адзін з сваіх маёнткаў, я — граф Паліводскі.

Чалавек паклаў на зямлю боты з нямецкіх, мусіць мёртвых, ног. Боты разам з пустым мяшком былі ў яго за плячыма. Ён сказаў:

— Які ты к чорту граф, калі ты ў крыві і няшчасны. І князь, і цар, і міністар, кожны той, хто камандуе людзьмі, хто мае права ў руках, каб саджаць іх у турмы і там рабіць з імі што сам захоча, кожны, хто стаіць над людзьмі, толькі датуль граф, пакуль у яго з парэбрын кроў не ідзе. Ну, давай плечы, апірайся на мяне, хадзем. Тут недалёка. Гэта я, каб ты ведаў, хадзіў туды пад рэчку. Босы хаджу, а там немцы ў ботах ляжаць, зараз гніць пачнуць. На чорта, думаю сабе, мёртваму боты, калі жывы босы ходзіць... Стой, адпачні, перадыхні. Унь пры ляску хата.

Босы абарванец давалок Паліводскага да свае трухлявай хаціны і паклаў на папраўку. І лекара дастаў, не за грошы, а за добрае сэрца. Яшчэ толькі лёгшы на пасцель, Паліводскі пачаў абмацвацца і заныў душой: пакуль ён ляжаў ледзьве жывы ў балоце, нехта абчысціў яго пазухі і кішэні так старанна, што ўжо не было чым аддзячыць абарванаму збавіцелю. Тым часам пайшлі тыдні і месяцы. Больш за год Паліводскі то лежачы, то седзячы, то спацыруючы па лесе пражыў у свайго збавіцеля, які дзяліў з ім напалам усё, што сам меў. Паліводскі зноў стаў здаровы і спрытны, як і быў раней. Страшная думка тачыла яго: ужо ў яго не было больш золата з каменнямі. Хоць з рэбраў кроў ужо і не ішла, але і графам ён ужо не быў. Бо ўжо адбылася рэвалюцыя і маёнткі ўжо былі не яго. Ён стаў зусім голы. Згалеў адразу. Яму ўжо не было дзе дзецца, і ён сядзеў у свайго абарванца-збавіцеля. Праўда, абарванец абуў ужо добрыя боты і вопратку, узяў панскай зямлі і з панскага лесу паставіў сабе хату і стаў повен свайго шчасця. Паліводскі і рабіць нічога не ўмеў. Змалку і да гэтага часу ён мог толькі гатовае праядаць. Аж душа яго рвалася на кавалкі. Тым часам збавіцель раз і кажа яму:

— Таварыш, прывучайся да якой-небудзь работы. Бяры дзе тут кавалак зямлі і жыві шчасліва.— Паліводскі як пачуў гэтае слова, дык адразу падумаў пра тое, што на захад ад той мясцовасці, дзе жыў той яго збавіцель, збіраецца польскае войска: ён чуў пра гэта.

— Хам! — закрычаў ён на свайго збавіцеля.— Перад кім ты стаіш! Шапку знімі!

— Я цябе выратаваў, я даў табе жыццё,— адказаў чалавек.— Не за золата і маёнткі, якія ты мне абяцаў, а ад таго, што я мог зрабіць табе дабро. Я думаў, што ты ў душы будзеш удзячан мне, ажно ж ты горнешся да таго, каб мець толькі маёнткі, а не душу. Ты мяне называеш хамам? За тое, што я зрабіў табе — я чалавек, а за тое, як ты са мной абышоўся — ты хам!

Што было далей, мне невядома, а вядома толькі, што Паліводскі выхапіў рэвальвер, каб аддзячыць свайму збавіцелю за хамства, а той хапіў качаргу і аперазаў Паліводскага па спіне і выгнаў вон з хаты, ён яшчэ не ведаў, што на захадзе тутэйшай зямлі рэвалюцыі прыйшоў канец, а ўсё гэта было на захад ад мае карчмы. Там ужо рыхтавалася да свайго ўстанаўлення Польшча, і ўсе паны, каторыя яшчэ ліпелі дзе на ўсходзе, рынуліся туды. Паліводскі неўзабаве стаў афіцэрам польскага войска і добра ваяваў з бальшавікамі, а пасля міру, калі ўжо тут граніцу пачалі вызначаць, стаў афіцэрам у пагранічным войску. Божа мой, які бліскучы шык! Хоць у кішэні ні капейкі, але затое зверху! Увесь блішчыць.

— Ну добра, адкуль жа ты ўсё гэта ведаеш?

— На тым тыдні ён ехаў уздоўж граніцы з сваімі жаўнерамі і цэлую ноч з другім афіцэрам праседзеў тут, чакаючы, пакуль аціхне вецер і пакіне засыпаць вочы мёрзлым снегам. Той другі афіцэр быў стары і ўсё енчыў па сваіх маёнтках, якія таксама, як і ў Паліводскага, асталіся на бальшавіцкай старане. Так яны цэлую ноч і праспавядаліся адзін аднаму, а я з бакоўкі слухаў. Але Паліводскі не плыў па сваіх маёнтках, а прагаварыўся таму старому плаксуну, што ў яго галаве спеюць шырокія планы, так што ён нават і тое золата, якое нехта невядомы ўкраў у яго, у сто столак верне. Што гэта за планы — ён, аднак, не сказаў. Толькі ён сказаў, што мае падазрэнне, што яго абчысціў той самы яго збавіцель, калі яшчэ ён ляжаў слабы на дарозе або калі яны ішлі, прыціснуўшыся адзін да аднаго. Можа яно і праўда, з людзьмі не разбярэш. Ну, як толькі

развіднела, яны з карчмы і паехалі. Вось і ўсё, чалавеча. Усё бедавалі аб тым, што прыйшлося службай зарабляць, каб пражыць.

— А каторы можа з іх успамінаў пра што такое, чаго ад душы не адарваць, ці ўсё толькі пра маёмасць гаварылі, як гэты ж Паліводскі, які, добра кажа, ні разу тае зямлі і не бачыў, з якое ён прыбыткі меў.

— Бойся бога, чалавеча, ты ўсё на свой капыл гнеш. Ты з куста травы пражывеш, як верабей, дык табе і міл той куст. А яны — паўсвету ў думках маюць. Дзе ў іх там што мілае будзе! Хэ-хэ! — карчмар усміхнуўся пагардліва да Нявады.

— Што табе за смех! Гэта праўда, што мне міл куст травы. Мне ўжо сорак год зараз будзе. А як быў я малы, разростаўся тады збоку ад гасцінца пад Сумлічамі куст шыпшыны. А калі я ішоў на вайну, куст быў ужо цэлым зараснікам. Божа мой, я ж, пакутуючы душой у той праклятай Нямеччыне, толькі і думаў што пра Волечку і пра тую шыпшыну. Без Волечкі і без шыпшыны няма для мяне і роднай бацькаўшчыны. Для мяне будзе радасць, калі я прайду паўз той зараснік, уваходзячы ў Сумлічы. Як жа гэта так жыць, каб чалавеку на свеце не было за што душой зачапіцца. А гэты Паліводскі што? Ён і не нюхаў роднай зямлі, толькі жыў з яе. Хіба ён дзе на ёй хату паставіў, ці дом, ці дрэва пасадзіў? Як на мой розум — дык толькі той чалавек, што калі яго вырвуць з роднага месца, дык ён, пакуль жыў, будзе рвацца туды. А калі дарвецца і ўбачыць, што там усё спустошана, дык ён другі раз жыць пачне: дрэвы пасадзіць і дом паставіць. А будуць яго зноў ірваць з месца, дык ён зямлю грызе, а не даецца або галаву адарве таму, хто становіцца ў яго над душой. Бо няма мне жыцця там, дзе не расце тая шыпшына, што ў маім маленстве цешыла мне вочы. Лепш грызці зямлю ў родным кутку, чым каб цябе ліхім ветрам кідала па чужым свеце.

— Ну, адзін любіць родную зямлю грызці, а другі на чужой старане пірагі есці.

— Чужая старана пірагамі не накорміць, калі ёй свае душы не аддасі. А я сваю душу магу аддаць толькі таму, хто мяне на свет пусціў. Я гэта ведаю, бо даволі перахварэў па ўсім тым, чаго ад сэрца не адарвеш... Калі я жыць буду ў родным месцы, дык я не дапушчу, каб на ім было гола і пуста... А божа мой...

Карчмар даўно ўжо драмаў седзячы, пасля выйшаў у

бакоўку, а Нявада ўсё яшчэ гаварыў пра родны кут, пра Волечку, пра шыпшыну. Гаворка яго скончылася шэптам і дрымотай, пасля яго паклікалі есці, а пасля ён спаў на ляжанцы і мусіць вельмі доўга, бо калі ён прахапіўся ад вялікага смутку па малой Волечцы, было цёмна і ціха, толькі роўна шумеў за вокнамі на гасцінцы вецер. Праз вокны відны былі на небе рэдкія зоры.

— Божа мой... Волечка...— прагаварыў сам сабе гэты змучаны і душой і целам чалавек, азіраючыся па карчомнай хаце,— і зоры свецяць, і вецер на гасцінцы спявае... і мусіць сярпок месяца яшчэ ёсць... А каб не вецер — на гасцінцы ціхата была б. Ну, у дарогу!

Ох, як даўно ўжо гэты чалавек не глядзеў на зоры над сваёй роднай зямлёй! Сэрца яго білася моцна, калі ён усцягваў на сябе сваю сабраную з усяго свету адзежу, пасля хадзіў у кухню мыцца, пасля выціраўся тым, што было ўчора павязана ў яго на галаве пад шапкай. Ён у ціхім парыве рухава збіраўся ў дарогу. І сапраўды серп месяца паднімаўся над бярозай, за гасцінцам. У бакоўцы Нявада сунуў руку пад коўдру соннаму карчмару і пайшоў да дзвярэй.

— Ацапеў ты, чалавеча,— абазваўся карчмар.— Куды ты? Яшчэ ноч на дварэ. Удзень ісці смялей. Тут каля граніцы кожны пытацца будзе, а куды, а адкуль, а чаго. Ды яшчэ ўночы!

— Няхай пытае. Чаго мне баяцца. Я іду з чужыны дадому. Па роднай зямлі іду.

— Ты думаеш, што родная зямля козыр на ўвесь свет... Дык вазьмі хоць хлеба за пазуху са стала.

Нявада хістануўся да стала, адламаў хлеба і выйшаў з карчмы на гасцінец. Якія вялікія прасторы былі перад ім! Удзень усё было як бы сціснута то познім усходам сонца, то ранніім лістападаўскім змяркканнем, то нежывым бляскам халоднага сонца. Нявада ішоў абочынай гасцінца, адкуль увесь снег змяло ў прыдарожныя лагчыны. Вецер дзьмуў яму ў твар. Цёмныя істужкі лясоў заўважалі яго вочы на даляглядах. Выйшаў ён з карчмы роўнай і шпаркай хадою, але ўжо можа праз кіламетр хада яго спавольнілася, і ён пакінуў разглядаць далягляды. Вочы глядзелі на сцежку пад ногі, і зноў ён ужо ішоў так, як і ўсе дні, пакуль не дайшоў да карчмы. Кожны крок набліжаў яго да роднага кута, але — а ці не згубіўся гэты кут у гэтым, няхай сабе хоць і родным, прасторы?

Можа яго стапталі чужынцы, якія так многа тут хадзілі? А можа трэба будзе пачынаць жыць спачатку? А можа малое Волечкі жывое няма? А можа ўжо тут няма нічога, за што так трымалася душа? Якое тады гора будзе чалавеку на ўсё жыццё! Зашарэла неба, і сонца ўзышло. Дарога паўзла вельмі марудна. Але крок зменьваўся крокам. Прайшоў і скончыўся дзень, прайшла і яшчэ ноч у прыдарожнай хаце. І зноў ішоў дзень, і паўзла дарога. Другія гэта былі ці трэція суткі пасля карчмы? Надвор'е змякчэла, схмурнела, і вецер ужо дзьмуў Няваду не ў твар, а ў плечы. Раптам вецер сціх. Смутак ужо даўно перарабіўся ў роўнае забыццё. Ніводнай успышкі вострага пачуцця ўжо не з'яўлялася на твары. Але ў адным месцы дарогі чалавек стаў і пачаў углядацца ў прастору. Ледзь пратаптаная сцежка вяла з дарогі ўбок. Чалавек узышоў на яе, і твар яго адразу ажывіўся. Сцежка прывяла яго да палявой дарогі, і ён пайшоў па ёй. Неўзабаве ён дайшоў да густога зарасніку шыпшыны і стаў перад ім. У момант вялікіх душэўных зрухаў або напружанай змены падзей ці жыццёвых акалічнасцей людзі і старыя робяцца як дзеці. Гэты чалавек цяпер, з дзіцячым выразам на твары, убачыў, што адзін-адзінюткі лісток, скручаны ад холаду, аставаўся на шыпшынніку. Ён не страціў яшчэ жоўтага колеру. Чалавек сарваў лісток, прыклаў яго да губ, і твар яго адразу пасуравеў, і ўвесь ён цвёрда выпрастаўся. Цвёрдай і роўнай хадой ён пайшоў далей. Адчувалася першае змярканне, калі перад ім вырысаваліся абрысы першых сумліцкіх будынкаў. Хада яго зрабілася вельмі шпаркай. І пячаць вялікай напружанасці думак лягла на твар. Углядаючыся перад сабой, як быццам баючыся ўбачыць штосьці ўжо вядомае яму і да жудасці страшнае, ён сцішанай хадой падышоў да так вядомага яму ясеня на вуліцы. А крокаў за дзесяць ад ясеня родная хата. Цяпер яна ўжо струхлела яшчэ больш, як была. Не паспеў ён калісьці, ідучы на вайну, і брамы паднавіць. Да рэшты згніла ўжо! Добра, на хату ён гляне пасля. Ён спачатку толькі заўважыць яе сілуэт і будзе глядзець на браму. А пасля — божа! А можа і суджана яму такое шчасце: можа і Волечка жыва і здарова і, малая, адразу кінецца да яго. З маўклівым тварам ён стаў, як аслупянелы, перад брамаю. Яна была не толькі не гнілая, але і не тая самая. На чэсаных слупох і з габляваных брускоў. І новая. Ну можа год як пастаўлена. Трывога кальнула яго: тут пахадзіла чужая рука. А можа

гэта чыя літасць да малое Волечкі, і на дабро ўсё гэта? Сілуэт хаты мільгануўся збоку, але толькі цяпер ён глянуў на яе. Тая самая, і сапраўды больш патрухлела. Але як ён дагэтуль не заўважыў: сцірта дошчак, чэсанае бярвенне — усё складзена паўз сцены. Тут нехта чужы гаспадарыць! Унь ля ганка і каменьчыкі тыя, якімі ён вылажыў — як даўно ўжо! — сцежку цераз двор, каб посуху хадзіць у дажджы. Але ўздоўж сцяны і тратуарчык з аполкаў. Ён стаяў і не смеў як бы рушыць далей. Ужо ён быў упэўнен, што Волечкі няма жывое. Дзіця не перажыла ўсяго, што адбывалася тут гэтымі гадамі. Ён стаяў і чакаў цуду. А можа яшчэ Волечка малая і выйдзе і кінецца да яго. І цуд адбыўся. Ціха адчыніліся сенечныя дзверы, і Волечка выйшла і стала на ганку, пільна ўглядаючыся на чалавека, адзетага на здзіўленне ўсяму свету. Гэта Волечка! Тая самая. Як дзве кроплі вады падобная да нябожчыцы маці. Тыя самыя рысы на твары, з якім калісьці яна сядзела ў яго на руках. Але чаму яна не бяжыць подскакам яму насустрач, а стаіць, як анямелая, і не адрывае ад яго вачэй?! Яна высокая ростам, з пышнымі бландзіністымі валасамі, густа прычэсанымі пад хусцінку. І сукенка на ёй стракатая, лёгенькая, і яна мерзне ў ёй, так стоячы. І пазнае і не пазнае яго. Твар яе так пільна напружаны, і лоб моршчыцца. Карціны пражытага маленства ўстаюць перад ёю.

— Татачка! Галубчык мой!

Як гэта ён так адчуваў, што яна якраз скажа так: сталая, паважная і павольная ў руках. Дужымі сваімі рукамі яна пацягнула яго да сябе:

«Я ўсё думала, думала... Ты жывы, родны мой!.. Не стой так, хадзем, хадзем...» Вялікае, як навальніца, шчасце ахапіла яго, і востры боль разануў яму сэрца: гэта ўжо не тая малая Волечка. Гэта моцны чалавек, апірышча яму самому, а ён ужо не будзе трымаць на руках свае Волечкі, яна вырасла без яго. Хтосьці злы адабраў ад яго яе маленства. Ён задушыў у сабе боль і разам з ёю ўвайшоў у хату.

— Бацька, бацька... прыйшоў!..— крычала яна яшчэ з сянец камусьці ў хату. І Нявада ўбачыў, як яму насустрач нясмела і спешна падняўся той, аб кім ён і сам ужо здагадаўся, што ён ёсць, што ён іспуе. З гэтага моманту пачала ўціхамірвацца душа гэтага чалавека. Ён зноў пачаў цешыцца і з яснoты неба на захадзе сонца, і з таго, як

вецер гнаў па двары саломіну. Змрокам таго дня ён пачаў абыходзіць увесь той родны кут, па якім гэтулькі бедаваў: і сумліцкія вуліцы, і ўсе куткі свае сялібы. Ужо ўночы ён з гараччу ўспамін пайшоў глянуць у куфар: там ляжаў матузок ад плацця, у якім ён, ужо многа год таму, пахаваў сваю нябожчыцу. У тым жа плацці яна ў сваёй маладосці францiла. Ён адчуваў сябе так, быццам перахварэў цяжкую хваробу. Паставіў лямпу ў клеці на паліцу і падняў цяжкае куфарнае века. Адчыніў прыскрынак і зазірнуў у яго. Спачатку ён стаяў з шырока расплюшчанымі вачыма, зусім забыўшыся, чаго ён увайшоў сюды. Пасля, як адважыўшыся на рашучы ўчынак, ён згарнуў разам пярсцёнкі, гадзіннікі, крыж і адхапіў назад руку, як ад агню. Не магло быць іншых думак, гэта чыстае золата. Гэта цуд нейкі! А каменні на крыжы і на пярсцёнках — ён анічога не разумеў у іх, каб яшчэ аддаваць ім увагу. Ён нават і не заўважыў, што на золаце яшчэ ёсць штосьці. Асмеліўшыся, ён узяў першы гадзіннік і адчыніў у ім вечка. Пакручваючы ў руках гэтую рэч, ён раптам заўважыў на ёй з сярэдзіны нейкі надпіс. Прыгнуўшыся, ён прачытаў выгравіраваныя літары: «Граф Палiводскі». Містычны жах агарнуў яго. Ён шпарка зачыніў куфар і яшчэ шпарчэй увайшоў у хату. Як бы з рашучым допытам ён падышоў да Волечкі:

— Дзе вы ўзялі гадзіннікі і пярсцёнкі графа Палiводскага?!

— Гэта мне даў палонны немец Густаў Шрэдэр. Ён у нас у хаце хварэў, і я яго карміла і дагледала. А калі ён ачуняў, ён так быў рад, што абнімаў мяне і пацалаваў у галаву і паклаў на стол тыя гадзіннікі. Мы з Кастусём не ведалі, што з імі рабіць. Так яны і ляжаць нечапаныя.

Яму стала лягчэй на душы, і зусім свядома ён з гэтага моманту стараўся забыцца на гэты дзіўны выпадак. Цяжка было, але яму ўдалося гэта як мае быць. Перш за ўсё — тут у яго не было прывычкі калі-небудзь думаць аб золаце і чапляцца душой за якое б там ні было багацце. Пасля — ужо з тых жа самых дзён, ён паглыбіўся ў шчасце жыць тут, дзе жыў з малых і маладых год, і займацца тым, да чаго праз усе апошнія цяжкія гады імкнулася яго душа. Здавалася, што ён не заўважаў хады часу. Усё былое аддалялася ў вечнасць і ўжо здавалася сном. За кароткі час сышла з яго твару тая змучанасць, якую ён нёс сюды з свайго вандравання па чужой зямлі. І тыя чужацкія не-

даноскі — і нямецкія нагавіцы, і польская канфедэратка — ужо з'ядаліся моллю ў глухім застрэшшы. За кароткі час ён ажыў. Выслухоўваючы ад Кастуся і Волькі сумнае апавяданне аб тым, як яны жылі тут, ён успрымаў яго як прошласць, якая ўжо больш не існуе і існаваць не будзе. І думкамі сваімі не быў у мінулым. Ён жыў тым, што было і ішлося. Так незаўважна прыйшла пара, калі з Кастусём яны скончылі новы дом, а калісьці пасаджаны Кастусём клянок даваў улетку ўжо вялікі цень. І гэтак усё адно за адным, ціха і роўна. І толькі раз ён як бы страсянуўся ад нечаканай думкі: як бязлітасна імчыцца час! І колькі ён ужо адкінуў назад усяго, што было і цяжкім, і страшным! У тую хвіліну ён больш як калі ўглядаўся ў сваю Волечку: рослая, мажная, шчырая сяброўка Кастуся Лукашэвіча, мала падобнага ўжо да таго выгнанскага хлопца, што хаваў тут свайго бацьку і вазіў хворага немца, яна стаяла раз пасярод двара ў задуме. Прыйшла пара і ёй аддаць жыццю самае вялікае і важнае: яна была цяжарная. Нявада пачаў наглядаць за ею і ўсё чакаў.

Хоць і даўно ўжо жылі ў новым доме, але ён меў прывычку часамі начаваць у старой хаце, пакуль яна яшчэ стаяла. У гэты час свайго жыцця, калі ён, як ніколі раней, не мучыўся вялікім клопатам і думкамі аб будучыні свае Волечкі, ён любіў адзін у той хаце, у якой прайшло яго маленства, сустракаць дзень і праз акно бачыць, як папялеюць на небе зоры. У адну з такіх часін ён адчуў усей сваей істотай, што адбылася вялікая падзея. Быццам нейкая сіла адабрала ад яго спакой. Была восень, бадай-што такая самая пара, калі ён, тады, даўно ішоў па роднай зямлі, гасцінцам, з чужацкага палону. Ціхая стаяла раніца. Ледзь толькі развіднелася. Першая драбнюткая сняжынка ўпала яму на руку, калі ён падыходзіў да новага дома. І ў трывожным, і ў нецярплівым чаканні ён стаў на ганку і прыслухоўваўся да цішыні, што панавала навокал дома і ў ім. Настаў момант, дзеля якога можа ён так сумаваў калісьці па сваёй Волечцы і аддаваў ёй сваю душу. Ён вельмі выразна пачуў з ганка, як у доме закрычала дзіця. Ён уздрыгануўся і стукаючы ботамі ўвайшоў у дом.

III

У тыя гады, а можа і пазней на які год ці паўтара, у мясцовасці, далёкай ад Сумліч, ад іх кіламетраў за сто, кірункам паміж поўднем і ўсходам, з'явіўся нейкі невя-

домы нікому Сымон Ракуцька, чалавек не першай маладосьці і з выгляду вельмі здаровы. А ўрэшце, у яго быў такі няпэўны выгляд, што цяжка было ўгадаць, колькі яму год. Магло быць і дваццаць шэсць, а можа і трыццаць пяць, калі не ўсе трыццаць сем. Ёсць сярод людзей такія твары. Хада яго была цвёрдая, і на кожным кроку ён накіўваўся наперад, быццам на секунду ўгінаўся. Той куток, куды ён явіўся, быў вельмі глухі. Ад чыгункі далёка, хоць, праўда, кіламетраў за дваццаць убок праходзіла старая Маскоўска-Варшаўская шаша. Але, як вядома, гэтая, калісьці вельмі жывая дарога ў тыя часы ўжо даўно была ў глухім заняпадзе. Расказвалі, што гэты Сымон Ракуцька, пакуль выбраць сабе для аселасці месца, доўга выглядаў, дзе каб цішэй і глушэй. Нарэшце ён асеў. Гэта была мясцовасць, дзе павявала першымі адзнакамі Палесся. Ніхто не сказаў бы, што тут было палескага, але яно такі было — ці можа тое, што многа расло параскіданых усюды дубоў, ці неба мела густыя, як над Палессем, колеры, ці роўных нізін больш было, як крутых узгоркаў. Праз колькі першых год Сымон Ракуцька жыў ужо ў сваёй сялібе. Тут цякла невялікая рэчачка, поўная дробнай і сярэдняй рыбы. З таго боку за рэчкай было поле. Праз рэчку бярвенчатая кладка, як прайсці двум адразу. Проста з кладкі праз вузкую палосу сухога тарфянага балота вілася паміж куп'я сцежка, чорная і калючая. Яна выходзіла на палявую дарогу паміж гэтым тарфянікам і зноў полем, роўным і з рэдкім асіннікам. Уласна кажучы, гэтая дарога, як праехаць з калясьмі, служыла вуліцай двум дзесяткам хат, пастаўленым у адзін рад, вокнамі на тарфянік цераз дарогу. Зусім блізка, па той бок рэчкі і поля, быў кіламетраў на дзесяць хвойны лес, і паўднёвы вецер гнаў сюды пах смалы. Паветра было, як лагодныя лекі, а краявід — увасабленне ціхага хараства. Заход сонца быў тут нейкі незвычайны. Можа таму, што былі і лясы, але яны нейк не абмяжоўвалі даляглядаў, і «лясны прастор» увесь зіхацеў сонцам. І цішыня. Самае важнае — глуш і цішыня! Можна было падумаць, што гэты Ракуцька, явіўшыся сюды аднекуль вельмі здалёку, шукаў не зямлі і не хлеба, а толькі цішыні. Колькі разоў чулі ад яго, калі ён гаварыў не тое, што каму, а сам сабе: «от жа ціхата, дзякуй богу». Чалавек гэты быў дзіўны. Так, як ніхто, ён пільнаваўся свайго гнязда, якое стала, хоць і марудна, складаў, саломіна за саломінай. Падазравалі, што з ім нешта здарылася ў

жыцці непрыемнае і, можа, нават цяжкае. Можа на яго ўпала была якая цяжкая навала, і ён ратаваўся, бараніўся, як мог, і, напэўна, усімі спосабамі даводзіў, што ён справядлівы чалавек і што пакутаваць не павінен. Можа тут у яго і рэфлекс пэўны выпрацаваўся, бо казалі, што, як толькі ён прыйшоў сюды, адразу абышоў усе тутэйшыя і меншыя і большыя ўстановы і ўсё мясцовае начальства, пры гэтым не разбіраўся, хто з іх большы, а хто меншы, а з усімі аднолькава гаварыў як самы вялікі просьбіт. Відаць, навучан быў жыццём чалавек! А тым часам усяго і было таго, што ён хацеў выказаць: я чалавек і хачу жыць. Можа хто з яго і пасмяецца, можа хто і асудзіць. Але наўрад ці гэты «суддзя» сам здолее так рабіць з клёпак пасуду, паставіць хату, часаць гонту, змайстраваць колы, вырабіць зямлю, выгадаваць каня, угадаць за тыдзень наперад надвор'е, памагчы чалавеку ў бядзе і стрымаць слова, як гэта ўмеў Сымон Ракуцька. Кожнаму начальніку ці таму, каго ён лічыў за начальніка, і ў райвыканкоме, і ў сельсавеце, і нават раз у канторы сельскай кааперацыі, Сымон Ракуцька перш за ўсё паказваў паперку, у якой было сказана, што гэты чалавек быў затрыман органамі ГПУ і выпушчан на волю і мае права жыць усюды, дзе толькі захоча, па ўсім СССР, але толькі не ў пагранічных з Польшчаю раёнах. Пасля гэтай свае паперкі ён з вялікай адкрытасцю душы выказваў сваё жаданне ў форме просьбы: «Я хачу, каб дзе тут асесці жыць». «Падай заяву ў сельсавет»,— сказалі яму.

— Дзіва што падам! Адразу! Мне здаецца, што лепшага месца і на свеце няма, як тут. От жа мясціна! А іхата якая! Будзеш сабе жыць...

Колькі было таго клопату з той заявай! Можна сказаць з упэўненасцю, што ён у тысячу разоў лепш бы згадзіўся адзін, сваімі рукамі, паставіць вялікі дом, як надаваць тую заяву. Ён раіўся з незнаёмымі людзьмі (знаёмых тут у яго не было). Некалькі разоў тую заяву яму прачытвалі, а ён слухаў і меркаваў — а ці ўсё хаця ўпісана, што трэба. І вось нарэшце яму сказалі, каб ён сам сабе выбраў месца, з якога каб узяць сабе кавалак зямлі. Тут таксама без клопату не абышлося. Жартачкі? Гэта ж мо не парасюка прадаць або купіць! Гэта ж зямля! На ёй жа калі і не век векаваць, дык доўгімі гадамі жыць! Ён пайшоў па людзях распытваць, дзе тут што і як расце. Дзе родзіць жыта, а дзе ячмень, а дзе бульба. І так выбраў сабе месца.

Але тут гладкасці адразу не было. Зямлі надзялялі на душы. А сям'і ў яго і было, што ён сам, адзін. Ён бажыўся і кляўся, што ў яго ёсць жонка і двое дзяцей — сын і дачка, і нават казаў, што жонка завецца Ульяна, сын Тамаш, а дачка Лізавета, але яму на гэта адказвалі:

— То дзе ж яны? Ты ж адзін.

— Мала што адзін! Яны сюды явяцца да мяне! Яны мяне знойдуць!

Апошнімі словамі ён якраз і прагаварыўся. Выходзіла, што каб прыйшла да яго сям'я, то яшчэ трэба, каб яна знайшла яго, значыцца, ні жонка, ні дзеці не ведаюць, дзе ён. А гэта не так сабе. Нешта ў гэтага чалавека ёсць такое, што ён адразу не выказвае.

— Дык як жа табе даваць зямлю на чатыры душы, калі ты адзін і нават сказаць не хочаш, дзе твая сям'я і чаму яна не з табою разам. Можа, хіба ты што дрэннае зрабіў, ды казаць не хочаш?

Рад-няволя, а трэба было або сказаць праўду, або што добрае выдумаць. Але выдумляць не хацелася, і цяжка было, каб гладка ўсё ішлося. «А чаго ж мне праўды баяцца, ды яшчэ і добрае».—Так думаў ён, і пакуль яму вымяралі і рэзалі зямлю на чатыры душы, разоў з дзесяць расказаў сваю гісторыю. І раптам ён стаў цікавым чалавекам усім тутэйшым людзям. Вось гэтая гісторыя, як яе чулі і як ведалі ўсе.

Сымон Ракуцька быў родам з Дзісеншчыны і астаўся адзін без блізкіх і родных з той прычыны, што ў тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе, калі абозы і натоўпы выгнанцаў плылі з захаду на ўсход, той натоўп, у якім ён ішоў з бацькам і з дзвюма сёстрамі, на самым выхадзе з роднага сяла трапіў пад абстрэл дальнабойных нямецкіх батарэй. Людзі бягом вярнуліся назад, пакінуўшы на дарозе забітых. Дарога на ўсход была адрэзана. Цяпер ужо кожны сам сабою, як мог, браўся на ўсход і кіраваўся сам. Сымон Ракуцька пакінуў на дарозе забітага бацьку і сястру, а сам, з другою сястрою, ледзьве паспеўшы пахаваць сваіх нябожчыкаў, вярнуўся да свае хаты. Але што ён там убачыў? Хаты не было. Палавіна сяла выгарала, а зямля дрыжэла ад кананады. Ён і сястра адразу рушылі як найдалей адсюль. Яшчэ раз яны паспрабавалі выбіцца на дарогу, але там ужо акопваліся немцы. Яны пайшлі куды вочы глядзяць, абы дзе цішэй і зацішней.

Цэлую ноч яны ішлі, і ім здавалася, што гэта ўсё на ўсход. А ў першую раніцу яны апынуліся на краі нейкага ляска, дзе трухлявая хаціна адна-адзінюткая стаяла з забітымі дошкамі вокнамі і дзвярыма. Усё было так спустошана, што—хто не ўбачыў бы, што гаспадары рушылі на выгнанне, тым больш, што паблізу валяліся салдацкія рэчы. Тут ужо адбыўся вайсковы рух. Але тут цяпер так было ціха і мірна, ніякае знадворнае ўтрапенне не мучыла чалавечай душы, а гром вайны чуўся, хоць ужо і зводдалеку, але і на ўсходзе, і на поўдні, што страх было нават падумаць не пабыць тут хоць дзень. Не закідаючы думкамі далёка наперад, абое яны ўвайшлі ў хату і знайшлі там ціхі спачын. І дзень прайшоў, і ноч, пасля зноў пачаўся дзень, а яны ўсё былі тут. Ужо і восень як мае быць усталёўвацца пачынала. Ужо і вайна спынілася недзе тут, ужо і рускія салдаты пачалі заходзіць сюды. Брат і сястра знайшлі пры хаце пусты пограб і да самых маразоў запасілі сабе на зіму бульбу з залеснага поля. Сымону Ракуцьку было тады год можа васемнаццаць. Першы пух на барадзе і губе ўжо здорава высядаў у яго. Баявыя сутычкі вялікіх і невялікіх груп адбывацца пачалі ўжо часта. Але месца ўжо тут стала наседжаным. Ракуцька хадзіў босы, аж пакуль зямля не прыпякла яму холадам ногі. Тады ён пачаў мудраваць, як бы гэта эбуцца. Ён дапаў да думкі пашукаць сабе ботаў там, дзе яны нікому не патрэбны. З ботамі ён ішоў з месца нядаўняга бою і натрапіўся па дарозе на Палівodскага, які ў яго і вярнуўся да жыцця і здароўя і пражыў на яго галетніцкім хлебе больш як год, спачатку лечачыся, а пасля чакаючы — а ці не задушаць царскія генералы рэвалюцыю і ці не можна будзе тады зноў стаць графам і ўласнікам маёнткаў. Яго гаспадар Сымон Ракуцька здоравамакі яму апрацівеў сваёю хатняю гаворкаю заўсёды аб хлебе і вопратцы. Графа брала на ваніты ад гэтага Ракуцькавага мужыцтва. Што ж да далейшага, то да пэўнай верагоднасці тут дайсці цяжка. Як казаў сам Ракуцька, пасля таго, калі Паліводскі наставіў на яго пісталет, ён пачаў выганяць Паліводскага з хаты. Паліводскі зноў наставіў пісталет і выстраліў, але прамахнуўся, бо калаціўся ад злосці і гневу. І зноў пачаў цэліцца ў Ракуцьку. Тым часам Ракуцька, бачачы, што справа дрэнь, хапіў замашны кій і пагнаўся за Паліводскім, які бег і

страляў не цэлячыся. Перапалоханы Ракуцька бег за ім і крычаў:

— Кінь зброю, а то кіем смальну!

Паліводскі зброі не кінуў, а ўскочыў на худую кабылу, што без патрэбы стаяла пад Ракуцькавымі вокнамі, і паімчаўся на ёй у дарогу. Гэтая кабыла была ранена на вайне ў нагу. Ракуцька вылечыў яе і ўжо асвойтваць пачынаў пры сваёй немудрашчай рабоце.

— Куды кабылу пагнаў!? — крыкнуў ён наўздагон Паліводскаму, але таго ўжо і не відаць было. А тым часам стары карчмар Шымха, расказваючы Няваду аб гэтым здарэнні са слоў самога Паліводскага, ні пра якую кабылу не ўспамінаў. Вядома, тут, напэўна, было так, што афіцэр польскага пагранічнага войска граф Паліводскі сумысля не гаварыў нікому, што ён у нейкага Ракуцькі ўкраў худую кабылу. Як бы там ні было, Сымон Ракуцька ўзяў сабе панскай зямлі і з панскага лесу паставіў новую хату, побач з той старой. Ён ужо жыў у новай хаце, ужо абгарадзіўся, абсталяваўся, абараўся і абсеяўся, як раптам вярнулася з уцякацтва гаспадыня той старой хаты. Яна была адна. Чалавека свайго і дваіх малых дзяцей яна страціла яшчэ ў першым годзе выгнанства. Муж не вярнуўся з вайны, а дзеці памерлі. Гора яе душы пачало залечвацца часам, і асабліва тады, калі яна пасля такога доўгага бяздомнага бадзяння дапала да роднага кутка. Ёй яшчэ не было і трыццаці год. Родны кут быў ужо крыху з'іначан: побач ужо стаяла невядомая новая хата, каля якое і ў якой усё было ў вялікім парадку. Нават чыста вымытая старызна была вельмі акуратна развешана на плоце. Відаць, тут шанавалі сваю дамоўку. Вядома, на некалькі год маладзейшаму за яе Сымону Ракуцьку яна, можа, і не была парай. Але там была адзінота, к таму ж маладыя гады, штодзённыя сустрэчы каля дома і праца разам, і жыццё на воку адзін у аднаго. Маладая і адзінокая жанчына неўзабаве перайшла ў новую хату нязнанага раней маладога суседа, які, здавалася, бесперапынна піў вялікую асалоду даводзіць да дасканаласці сваю новую дамоўку. Ашчасліўленая такім паваротам свайго лёсу, жанчына вельмі часта чула ад свайго мужа: «Цяпер рэвалюцыя, а не тое, што раней, калі дзе б ні глянуў, усюды не чалавечую, а панскую зямлю бачыш». Вельмі хутка ён адбудаваў сваю сялібу. Цяпер ужо льга павальней. Год за годам — і ўсё дойдзе да дасканаласці. Ён думаў: «Пой-

дуць дзеці. Ім трэба прыгатаваць жыццё. Няхай у іх будзе людская аселасць, каб не бадзяліся па свеце, не маючы прытулку. У іх будучыня будзе не такая, як у мяне і майго бацькі... Не можа быць, каб зноў войны і згіненне. Пагібелі больш не будзе». У гэтых сваіх думках ён яшчэ больш укараніўся, калі ў яго нарадзіўся сын. Сына ён назваў Тамашом і яшчэ больш пачаў старацца. Дзіўна было, што ён, такі малады, больш думае аб будучыні дзяцей, чым аб сваім жыцці. Празмерная сталасць нашых год! Скажу прасцей: ад год той, першай за нашу памяць вайны з немцамі і да дзён нашых, сённяшніх, калі ўжо вырысоўваецца як бы канец і Вялікай Айчыннай вайне, за ўсю гэтую жорсткую эпоху, па мільёнах дзіцячых ілбоў мы бачылі і бачым маршчыну старасці. Калі Ракуцькаў Тамаш пачынаў вучыцца хадзіць, у самым разгары была польская вайна. Яна ўжо канчалася, як у Ракуцькі нарадзілася дачка. Толькі што яе ахрысцілі і назвалі Лізаветай, як па ўсіх, хто за гады рэвалюцыі ў тых мясцовасцях забудаваўся на панскай зямлі і панскім лесам, прайшла трывога: тут ужо «больш няма рэвалюцыі, гэтая зямля падпала пад Польшчу, і паны варочаюцца назад». Ракуцька аціх. Калі трэба было дзе загнаць загваздку ці прыбіць дошку — так і аставалася. Гэтак ён ліпеў як да часу, і ў яго жыцці вялікіх змен не адбывалася. Ужо граніца паміж Польшчай і СССР цвёрда вызначылася, і паабапал яе ўжо стала варта дзвюх дзяржаў. Ужо і малы Тамаш шпарка бегаў, трымаючыся за матчыну спадніцу. А Лізавету пакінулі ўжо спавіваць. Пан жа не прыязджаў. Ужо думалася, што, можа, так і абыдзецца і ніхто не зачэпіць злой рукой таго, што Ракуцька нарыхтаваў на будучыню сваім дзецям. Тым часам жонка сказала яму, што будзе яшчэ і трэцяе дзіця. З горкай трывогай ён падумаў аб невядомасці той будучыні, якая раней ужо здавалася яму зусім яснай. У тыя якраз часы і з'явіўся перад Ракуцькам Паліводскі, але ўжо не так, як першы раз, з акрываўленым бокам і з пакутнай просьбай у няшчасных вачах. А ва ўсім бляску афіцэра польскага войска ўсходняй граніцы. Ён явіўся не з ранейшым няшчасцем, а з цяперашняй сілай. Ракуцька адразу пазнаў яго і ўныў душой. А той адразу і пачаў тое, дзеля чаго і явіўся сюды.

— Слухай, Ракуцька,— сказаў ён.— Ты паспеў ужо з чужога лесу і на чужой зямлі новую хату паставіць? Ну нічога, не ты адзін так, калі была рэвалюцыя. Але давай

так, каб мы з табою больш не спатыкаліся. Аддай тое, што ты ў мяне забраў, і ты мяне больш тут не ўбачыш.

— Што я ў вас, пане, такое забраў?

— Золата! Ты абчысціў мае кішэні, пакуль я ляжаў хворы!

— Бойцеся бога! Я вам сваё аддаваў, што меў!

— З каменнямі крыжык, пярсцёнкі, імянны гадзіннік і яшчэ два гадзіннікі, якія былі пры мне!

— Бойцеся бога! Бойцеся бога!

Разгневаны Паліводскі замахнуўся, каб даць у твар Ракуцьку. Не менш разгневаны Ракуцька стаў на ўвесь рост перад Паліводскім і прагаварыў, як абухам стукаў у бервяно:

— Я, пане, выратаваў вас і вярнуў вам жыццё, а вы замест падзякі стралялі ў мяне, а цяпер робіце мяне злодзеем. Гэта ж вы самі ў мяне худую кабылу ўкралі. Дык хто з нас злодзей?

Паліводскі адумаўся і сказаў:

— Я прашу ў цябе толькі маё золата.

— Я яго і ў вочы не бачыў!

— Лжэш! Лжэш!

Паліводскі выйшаў. Слуга падвёў яму каня, і ён махнуў ходу і знік. Аднак жа Ракуцька паспеў заўважыць, што, перад тым як прыняць ад слугі каня, Паліводскі ні то пастаяў у кароткай задуме, ні то нават можа і памаліўся. Ракуцька падумаў: «А можа я яго чым пакрыўдзіў». Калі ён выказаў гэтую думку жонцы, яна, даволі-такі энергічная жанчына, адказала яму, што гэтага Паліводскага варта было б кіем змясіць на калатушу, але найлепш быць ціхім, бо ён мае сілу, а наконт крыўды, дык яго ні крыўдаю, ні праўдаю, нават жалезным шворнам не праймеш. Такім парадкам Ракуцька стаў спакоен душой. Але ненадоўга. У тым жа самым годзе, пад сярэдзіну восені, ён атрымаў позву ў гміну. Ён так і ведаў чаго: ён жа жыве на чужой зямлі і з чужога дрэва хату паставіў! Ён жа не мог пайсці супроць дзяржаўнага закона і першымі замаразкамі выбраўся ў тую самую старую жончыну хату. А новаю яго сялібай заўладаў маёнтак. Жонка яго чакала трэцяга дзіцяці, ён жа стаў, як сугней, угнуў галаву і ўсё маўчаў, маўчаў. Колькі год працы загінула марна! А разам пайшлі ў нябыт і надзеі. Ні ў якую будучыню сваім дзецям ён ужо не верыў. Лягчэй памерці, чым астацца навек без надзеі і веры! Сымон Ракуцька пачаў

змагацца з бязвер'ем і безнадзейнасцю. Ён пачаў шукаць, каб па чым пэўным спыніцца думкаю. У гэты якраз час і нагадзілася яму злая прыгода. Жонцы прыйшоў час раджаць. Дзіця радзілася нежывым, і жанчына асталася на некалькі месяцаў ляжаць у хваробе. Ён высах каля яе і каля дзяцей. Пасля пайшоў па свеце шукаць спосабу, каб жыць. Ён абышоў, можа, з паўдзяржавы і нічога не знайшоў, але затое наслухаўся ад людзей усялякіх чутак аб жыцці па той бок граніцы. Больш як паўгода ён думаў і меркаваў у думках. І нічога іншага вымеркаваць не мог. Так ужо ім апанавала цвёрдая думка. «Гэта ж не жарты! Там зямлі бяры! Там жыві сабе!» І нарэшце настаў момант. Перш за ўсё ён, як перад каменнай сцяной, стаў перад неабходнасцю вырашыць вялікую задачу: ён жа не адзін! З гэтага часу і найшло на яго вялікае ўтрапенне. Раней ён быў спакойны і цягавіты. Цяпер, праўда, трапяткім ён не стаў, але спакой свой, як рысу натуры, страціў. Ён выбраў цёмную ноч, ні зор, ні месяца. Ён назаўсёды пакінуў тую гнілую хату, якая дала яму прытулак у цяжкія часы яго маладосці. Апошні раз ён зірнуў на сваю новую сялібу, у якой думаў гадаваць дзяцей і якой цяпер заўладаў нехта чужы. Малы Тамаш ішоў подбегам, трымаючыся за бацькаву руку. Яна, спадарожніца яго жыцця, несла на руках малую Лізавету. За дзве ночы яны дайшлі да граніцы. Больш тыдня яны чакалі ў лесе навальнічнай ночы. Перад самым змрокам, выбіраючы зручнейшае месца, каб з яго рушыць у гэтую страшную дарогу, усе яны ўбачылі чалавечыя ногі. Ракуцька пабялеў і прыгледзеўся. Ужо тхнула адтуль трупным духам. Мярцвяк ляжаў увесь пад накідам моху. Самога яго не відно было. Малады ён ці стары? І хто ён? Можа шпіён, які ішоў туды і быў падстрэлен чужой ці сваёй куляй? А ці стаў ён шпіёнам ад гадаўскай прыроды свае, ці няшчасце яго павяло па гэтай дарозе, ці стопудовае зло, якому патрэбны граніцы і шпіёны, прыкавала яго навек да гэтага месца? Ці можа гэта проста няшчасны чалавек тутэйшай зямлі, каля ціхай хаты якога лягла тая граніца і, як пякельная жудасць, заўсёды была перад яго бяззлобнымі вачыма? Ракуцька анямеў ад жаху, што такі лёс можа спасцігнуць і яго з усімі тымі, хто дораг і люб яго сэрцу. Аднак жа хутка і ноч настала. Такое ночы ён толькі і чакаў. Пярун ляскаў кожны момант. Ліло, як з бяздоннага мора. Змучаны Тамаш трымаўся за бацьку

ішоў, як святы на пакуту. Пасля двухгадзінных блуканняў яны пачулі, што недзе тут поблізу страляюць. І гэтаму канца няма. Душа яго апала. Яна шапнула яму:

— Назад. У сваю гнілую хату! Лепш там памерці з голаду, чым тут валяцца непахаванаму.

Пошапкам яны дайшлі да згоды. Яна з дзецьмі пойдзе назад першая, а ён следам, каб было незаўважней, бо маланка штохвіліну і натоўп вялікі. Ён стаў пад дрэвам тварам ад таго боку, у які ішоў і сям'ю вёў. За кожнай маланкай ён акідаў вачыма мясцовасць. Іх няма. Але нарэшце — радасць, радасць! На самай той дарозе, якою проста дойдзеш да той старой хаты, стаялі яны. Яна, любая, родная, разважлівая, працавітая, верная яго сяброўка, Тамаш, босы, малы, падкасаны. І маленькая Лізавета ў яе на руках, маленькая, кірпаценькая, птушанё... Гэта яны, якіх ён вёў у будучыню. Што яны стаялі на патрэбнай дарозе, ён ведаў з таго, што над імі гойдала веццем знаёмае яму сагнутае дрэва. Яшчэ адна маланка, і ён убачыў, як яны ішлі далей дарогай. Яны ўжо далёка ад страшнага месца. Зараз і ён рушыць за імі. Зноў маланка і крык пагранічніка ў зялёнай шапцы. Ён стаяў на другім баку. Падкасаныя худыя Тамашовы ногі назаўсёды асталіся ўваччу яго. А першыя Лізавеціны ўсмешкі! Смутак наваліўся на яго душу. Якая чакае і іх і яго будучыня? Дзе ім суджана знайсці яе? Але трэба ісці, пагранічнік грозіць, што будзе страляць. Па калені ў вадзе і ўвесь мокры, ён замаршыраваў перад пагранічнікам. Сцяна, глухая і бязлітасная, як вечнасць, замкнулася паміж імі. Бывай, верная сяброўка! Бывайце, дзеці! А можа, адбудзецца цуд? Можа, міне вас лёс без будучыні? Але лепш ні аб чым не думаць, бо навала смутку забівае душу.

Сымон Ракуцька быў пад арыштам доўга. Пакуль у яго руках апынулася даведка, што ён мае права жыць усюды, толькі не ў пагранічных з Польшчай раёнах, ён больш за год усё даводзіў як мог, што ён не шпіён, а проста чалавек з той зямлі, па якой прайшла граніца. А тым часам вялікі ўпарадкавальнік усялякіх хібаў і непарадкаў — час — абтрос і абгладзіў усё, што было не на сваім месцы, і шмат што забылася, шмат прытупілася, а сам чалавек знайшоў сабе месца, і лягчэй яму стала. Але час не меў сілы перад тупым смуткам па малым Тамашу, па першых Лізавеціных усмешках і па ёй, вер-

пай сяброўцы. Гэты смутак, здавалася, апанаваў чалавека назаўсёды. Яму не было адхлання, і ад яго не было ратунку.

Сымону Ракуцьку спачатку здавалася, што варта яму толькі зноў звіць сабе гняздо, як ён скіне з душы цяжар свой. Тым часам ужо і хата ў яго была новая, зноў новая, вокнамі на дарогу, і ціха і спакойна ўсё тут было, і зямлі было на чатыры душы, і не трэба стала з жахам заглядваць у заўтрае, а спакой у душу не варочаўся. «А Тамаш, а Лізавета!» Сымон Ракуцька наладзіў сваё жыццё так, як жадала яго натура. Яго ціхманую працавітасць льга было ставіць паўсвету ў прыклад, калі лічыць яе за дабрачыннасць. І дзіўна было. Ён адзін, а ўпраўляўся з полем і з домам. І яшчэ кожны дзень меў часіну сядзець на калодзе і босы пасярод свайго двара. Ці то прывычка, ці то ашчаджанне абутку, але ён цяплом ніколі абуты не хадзіў. Ён яшчэ людзям і колы рабіў, і драбіны з панарадамі майстраваў. Жыў сам-насам. У той меры, у якой ішоў час, смутак яго ператвараўся ў вялікую мару. Гэтая мара заўладала ім, ён ёю жыў і служыў ёй. А пачалі нарэшце прыходзіць моманты, калі і вера, і надзея, хоць здалёк, паказвалі яму свае ясныя твары. Гэты новы час у яго жыцці пачаўся з таго, калі яму прыйшла ў галаву такая думка: яна тады з дзецьмі вярнулася ў тую старую хату. Хто ведае, можа, і цяпер яны жывуць там? А кажуць жа людзі, што поштай можна з Польшчы сюды пісаць, а адсюль у Польшчу. Як страсянула яго гэтая думка! Ён не меў ні сну, ні спакою, пакуль не паслаў пісьма на адрас той старой хаты. Ён дакладна выпісаў і цяперашні свой адрас. Паведаміў аб той мясціне, у якой цяпер жыў. Яно ж магло быць і так, што і адтуль сюды прыйдзе пісьмо. Цяпер яго жыццё стала чаканнем перш за ўсё пісьма, пасля — нейкага невядомага лёсу. «Адтуль прыйдзе вестка. Яны жывыя і здаровыя, і можа нават не галодныя. А хіба хто можа сказаць цвёрда, што на свеце можа быць, а чаго можа не быць? Нават такое магло здарыцца, што граф Палівodскі прасіў ласкі сярод дарогі ў абарванага хлопца. А можа лёс прывядзе іх сюды. Але што такое лёс? Ён сам дойдзе да думкі, што зрабіць. Ён будзе думаць, ён будзе раіцца з людзьмі, ён будзе слухаць па свеце. Слухаць па свеце!» Самае далёкае, дзе ён быў — гэта яго поле. Але практыка з самага маленства і інстынкт падказвалі яму, што яшчэ многае папераздзе,

што яшчэ многа дзе прыйдзецца быць, многае панава рабіць, многае бачыць і чуць і за многае нечаканае брацца. Мара, чаканне, надзея, упартасць думкі і фантазіі! Гэтым ён цяпер і жыў. Колькі яму аднаму трэба было? Ён задавольваўся самай простай ядой. Улетку ён палуднаваў халодным квасам з зялёнай цыбуляй. Старанна выробленае поле радзіла ў яго лепш, як у каго тут. У яго пачалі заводзіцца грошы. «Божа мой, вось быў бы спосаб Тамашу!» Нават не маючы намеру купляць што, ён пачаў хадзіць у каапeрацыю і прыглядацца да тавараў. Аднойчы ён купіў з сіняга сукна ватоўку, хлопцу гадоў на пятнаццаць. «Калі ж небудзь Тамаш будзе такі, што яму якраз прыйдзецца гэтая вопратка. А толькі невядома, у якія годы з Тамашом суджана спаткацца бацьку. Такім парадкам за доўгі час у Тамаша стала многа ўсялякай адзежы на ўсялякія ўзросты: і на дзесяць год, і на дванаццаць, і на пятнаццаць, і на васемнаццаць, і на дваццаць. Усё купляў бацька. Віселі на вешале ў клеці парамі боты, нагавіцы, вопраткі. Былі плацці для Лізаветы і хустачкі, чаравікі і панчохі... Часамі ж на яго находзіла прасвятленне. Ён як бы адпіхаў ад сябе гэты пусты занятак і ўпадаў у думку, што рабіць, сапраўднае, вялікае, выразнае і сапраўды патрэбнае, каб убачыць дзяцей. Нарэшце прыйшоў канец яго ціхай цярплівасці. Нават сядня на калодзе сярод двара пакінула яму быць прыемнай. Ён нейк пацягнуўся да людзей і як бы затрапятаўся. Яго ўжо бачылі ў навакольных мястэчках на кірмашах, каля цэркваў і касцёлаў на фэстах, у сельсавеце ён бываў часта і без прычыны. Ён пытаўся і раіўся. У тую старую хату ён цяпер слаў пісьмы бадай-што цераз дзень.

Усім пачало здавацца, што ён рабіўся больш гаваркім, і панурасць сыходзіла з яго. Аднак жа ніхто не ведаў, што ён сябе пачуваў так, быццам кожны дзень піў атруту. І дзіўная рэч. Хоць час ішоў, нават ужо год за годам, з яго вачэй не сыходзілі босыя Тамашовы ногі, калі ён, у тую навальнічную ноч, асветлены маланкаї, стаяў на дарозе пад сагнутым дрэвам. Яго ўяўленне рысавала яму Тамаша толькі малога і Лізавету толькі ў маці на руках. Па-сапраўднаму ён ніколі не задумаўся аб тым, што годы ідуць. Сам ён пачаў сталець так шпарка, што часамі ўжо льга было ў ім заўважыць першыя рысы далёкай яшчэ старасці. Гэта была празмерная на яго гады сталасць. Апошняя бачаная ім усмешка малой Лізаветы! Маланка,

і свет уздрыгануўся ад грому. Тамаш стаіць мокры, як вада. Босыя ногі яго! Постаць худзенькага хлопчыка! Ён жа вёў свайго Тамаша ў будучыню! На добрае, на шчаслівае! Нехта злы і чорствы, нехта той, што і яму самому праз увесь век не дае спакою, загарадзіў малому Тамашу дарогу ў будучыню. Не туманныя прывіды, а выразная ява: гром і маланка, навальніца разрывае зямлю і, здаецца, крышыць на ёй усё. І ўсё ахоплена страшным сваім утрапеннем. Пад громам і агнём, пасярод дарогі, постаць худзенькага хлопчыка.

Аднойчы ён, як і часта цяпер, цёрся сярод людзей у мястэчковай кааперацыі. Там прадаваліся люстэркі. Адно вісела на сцяне. Сымон Ракуцька глянуў у люстэрка і сумеўся: ён такі даўно не бачыў сябе і не ведаў, што каля вушэй у яго спрэс сівыя валасы. «Божа мой, дык я ж ужо не малады! Няўжо гэта прайшло гэтулькі год?! А колькі? Мусіць, многа?! Як жа гэта я ніколі не лічыў гадоў?» Увесь той дзень ён правёў у одуме і суме. Каму расказаць? З чаго пачаць, каб не ішло далей жыццё так, як яму не хацелася? Ён хацеў не толькі есці хлеб, але каб разам з ім елі яго і Тамаш, і Лізавета. Каб не мучыць самога сябе, ён больш ужо ніколі не глядзеўся ў люстэрка.

## IV

У тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевятым годзе Сымон Ракуцька даехаў па чыгунцы да горада Слуцка і выйшаў адтуль пешкам у дарогу на захад па старой Варшаўска-Маскоўскай шашы. Была глыбокая восень. Толькі што мінулася пара безупынных дажджоў. Паабапал шашы стаяла вада на полі. Не кранутая яшчэ марозам трава была зялёная, і, калі сонца высвечвала з-за высокіх хмар, адзінокі падарожны, як здзіўленае дзіця, прыглядаўся да яснай зеляніны, і твар яго свяціўся, як і шырокі свет у той момант. Ён усё ішоў і ішоў шпарка. За адзін дзень ён дайшоў да Пілінавіч, дзе тырчэлі каля шашы яшчэ некаторыя адзнакі былой граніцы. Да гэтага месца ён ішоў яшчэ, як бы раздумваючы і сам сабе не верачы. Тут жа ён увесь змяніўся. Каб чалавек, які добра ведаў яго дагэтуль, бачыў яго ў гэты момант, калі ён, мінуўшы Пілінавічы, спыніўся на палявой дарозе, кожны заўважыў бы, як адразу Сымон Ракуцька [скінуў] пячаць таго шматгодняга чакання, якое ўжо часамі ператваралася ў свядо-

масць як бы нейкай асуджанасці навек. Магло б здавацца, што ён зараз скажа: «Яно было. А вы хіба хочаце, каб ніколі ніякай прыкрасці не было? Затое цяпер!» Уся яго пастава і выраз твару былі ў часе гэтага падарожжа рухавымі вельмі. На станцыі Гарадзеі ён сеў у поезд і праз паўдня выйшаў з вагона на нейкім занадта ўжо ціхім паўстанку. Доўгі рад старых і высокіх дрэў — ліп, дубоў, бяроз, явараў і вязаў — ішоў ад паўстанка проста ў чыстае поле і там канчаўся. Лісцё пад дрэвамі ляжала яшчэ жоўтае, і, здавалася, чалавечая нага яшчэ не ступала па яго. Сымон Ракуцька мінуў дрэвы і пасля пядоўгіх пошукаў знайшоў у полі вялікі камень. На абымшэлай яго паверхні аставаліся сляды таго, што тут начавалі птушкі. І гэта як бы ўзрадавала гэтага чалавека. З усмешкай ён абгледзеў камень і стаў кіравацца ад яго да вузкай і доўгай грады лесу. Добра ўтаптаная сцяжынка вілася паміж і навокал кустоў шыпшыны і паўз удзірванелыя межы. Пасля яна выбілася ў той дубняк. Якая была восень! Ахоплены радасным узбуджэннем, чалавек як бы думаў, што другой такой восені ніколі не было і не будзе. Рудымі жалудамі была засыпана спрэс уся зямля. Крушыннік густа стаяў над сваім уласным лісцём, ядловец быў повен чорных ягад, дзюбастая птушка кінулася ў куст, драбнюткае лісце, як жоўты дождж, сыпанулася з дрэва, чэзлая кветка на высокім сцябле звесіла жоўтую галаву — «божа, як яна так захавалася аж дагэтуль!?» А неба! Сонца ў той дзень не было, але на небе адлюстроўвалася яго блізасць. Недзе тут блізка ідзе ціхае асенняе сонца! Хіба на свеце няма дзеля чаго берагчы знойдзеную радасць і шукаць і дамагацца яе вечна!? Якое неба над нашай зямлёй бывае ўвосень!

Сымон Ракуцька ўжо даўно мінуў дубняк, а сцежка ўсё ішла і вяла яго далей, праз поле, праз некалькі хвойных лясоў і куп'істых паплавоў. Доўга, вельмі доўга ішоў Сымон Ракуцька, дзівячыся, як жа гэта праз гэтулькі год тая самая сцежка вядзе яго, як быццам бы тут усё застыла на вечную нерухомасць. Ён прайшоў сцежкай да самага змяркання. Начаваў у людзей і вельмі многа расказваў пра сябе, так што, пакуль у хаце патушылі агонь і паснулі, ужо ўсе ведалі яго гісторыю. Назаўтра ён сабраўся далей у дарогу яшчэ зацемна. Нават яшчэ зоры свяцілі. Тут ужо недалёка, толькі зоры сыдуць з неба, як ён будзе на месцы. Зноў тая самая сцежка! Тут яна пай-

шла зялёнай азімінай. Свежая рунь дрыжала пад ветрам, і ў нізінах стаяла чыстая, як сляза, вада. Сонца пачало ўзыходзіць чыста, і вышыня неба пабольшала. Усё заззяла, і прасторы сталі неабдымнымі. Тут, у гэтай яснай шырыні, ужо зусім блізка! Вельмі хутка ён дойдзе. Ужо не было ў яго ні смутку, ні радасці. Хваляванне ўсёй яго істоты і нават нецярплівасць. Цяпер, калі ўжо так блізка перад ім была яго мэта, ён чамусьці як бы зноў апанураў з постаці. Яго заўсёды такім рабіла шпаркая хада. Ён улёг у хаду і ўжо не заўважаў гэтае адзінае на ўсе часы восені. Але чаму сцежка такая доўгая? Тут ужо ёй канец павінен быць. Яшчэ два дрэвы над палявым каменем, і там тады пачыналася выезджаная сялянскімі калясьмі дарога. І ўсё. Чубок лесу будзе з-пад каменя і дрэў перад вачыма.

Вялікае шчасце раптам страсянула яго душу: там, дзе канчалася сцежка і пачыналася дарога, ён убачыў тыя самыя і такія самыя дрэвы. Адно што з карэння пайшлі ў іх парасткі і самі ўжо станавіліся дрэвамі. І камень той самы і такі самы. І нават... Як бы лёс паслаў яму гэты малюнак на тое, каб душа яго ў гэты рашучы момант пазнала да канца ўвесь жах думкі, што мінулае не варочаецца і ўвесь атрутны слодыч успамін. Божа літасцівы! На гэтым жа камені, у ранні вечар, калі яшчэ толькі захад змываў з сябе колеры, ён згаварыўся з ёю стаць яму вернай сяброўкай. Яна сядзела тады на камені, паклаўшы на прыпол згорнутыя рукі, а ён стаяў перад ею. Здань! Прывід! У такой самай паставе, і так жа паклаўшы на прыпол згорнутыя рукі, на камені сядзела жанчына. Дзяўчына, яна нядаўна яшчэ выйшла з падросткаў. На прыполе ў яе ляжаў хлеб, і яна ела яго. Але чаму яна так здаецца знаёмай яму? Як быццам бы ён яе ўжо бачыў дзе, або ведаў даўно, або знаў, што яна якраз тут будзе сядзець? І чаму яна так нагадвае яе, каго ён доўгія годы не бачыў? Чаму — ён не мог бы сказаць, але вельмі нясмела ён глядзеў на яе і баяўся, што перарвуць гэтае яго шчасце. Ён не вытрымаў і пачаў гаварыць з ёю:

— Вы падарожная, што клунак каля вашых ног ляжыць?

— Падарожная.

— А здалёку?

— Здалёку. Цягніком ехала. А гэта іду. Мне тут трэба дапільнаваць брата.

— А дзе ж твой брат?

— Мой брат у польскім войску быў, а што з ім цяпер — невядома. Калі ён, можа, у палоне на савецкай старане — то на гэта ўся надзея. Бо з гэтага палону радавых салдатаў пускаюць, і яны многія папрыязджалі і папрыходзілі ўжо. Вось і я яго сюды чакаць прыехала.

— Як жа гэта сюды чакаць?

— Тут стаіць наша хата, у якой мы выраслі. З гэтае хаты ён і ў войска пайшоў, яшчэ гады за два да вайны, а можа, і больш. Хата наша такая старая, што ў ёй ужо апошнім годам жыць нельга было. Аставалася толькі я з маткай. Мы пакінулі гэтую хату і пераехалі туды, далёка, адкуль я цяпер сюды прыехала. Там я і матка знайшлі працу ў панскім маёнтку. Мы напісалі брату, што ўжо не жывём тут. Пісьмо тое яшчэ, напэўна, не дайшло да яго, як пачалася вайна з немцамі. Цяпер ён можа сюды прыехаць і не ведацьме, дзе мы і дзе знайсці нас. Калі ж яго яшчэ няма дзе-небудзь тут, то я ў суседзяў пакіну яму наш адрас.

Яна змоўкла і паглядзела на яго, быццам думала, ці варта было гэтаму незнаёмаму даверыць сваю душу.

— А калі вам прыйдзецца тут начаваць, дык дзе, калі ваша хата такая дрэнная?

— У суседа. Мы з ім добра жылі.

Яна, гэтая адкрытая душа, шпарка пайшла, а ён назіркам, як баючыся, рушыў за ёю зводдалеку. Чуб хвойнага лесу быў перад імі. Унь дзве хаты. Адна ледзьве ліпіць яшчэ, і страха на ёй упала. Ужо без вокан яна. Побач яе здаровая, вялікая хата з смольнага кругляка. У яе адразу і пайшла дзяўчына. Ён жа, калоцячыся разам са сваім сэрцам, спыніўся перад старой хатай і зводдалеку бачыў, што ў ёй сцены патрухлелі і пагнілі, і стаяць мокрыя і цвілыя. Ён бачыў праз аконную дзіру нават тыя цвікі, якія калісьці ўбіваў у сцены. А гэтая, новая, здаровая, з кругляка хата, куды пайшла дзяўчына! Ён жа ведае хто гэта, толькі сам сабе баіцца прызнацца. Гэта яго хата! Гэта ён яе ставіў. І гэта з яе яго выгналі. А гэтая старая! Унь тое месца, дзе ляжаў Паліводскі. Там тады стаяў лажак. З гэтай хаты ён і сястру яшчэ замуж аддаваў. І адзін жыў у ёй. Ён стаяў і душыўся мінулым, якое адарвалася ад яго з часткаю душы і нават вялікі доктар — час — не загаіў гэтую рану ў душы. Ён ужо ведаў, як на-

зваць тое, што лягло на яго жыццё. Але ён маўчаў і стаяў. «Дык яны тут жылі аж пакуль ужо нельга было! Ці даходзілі сюды яго пісьмы? Тады, калі ён жыў у новых прасторных сценах, гэтая трухліна гатова была ўпасці на іх. Можа ён вельмі мала стараўся, каб выратаваць іх адгэтуль! А ці не вінават ён перад худзенькім хлопчыкам Тамашом і перад маткаю сваіх дзяцей, і перад Лізаветаю?!» Голас пратэсту перад самім сабою ўзняў ён у сабе: «Не! Я ішоў у гром і невядомасць!» «Але ж я жыў гэтулькі год у мілай мне працы, і жыццё гэтае само па сабе льга назваць шчасцем, каб не смутак мой. А ці хоць раз падумаў я, каб ісці сюды да іх і ратаваць іх?» Раптам у яго пахаладзела ў вушах: «Чаму ж я не запытаў у гэтай дзяўчыны — а ці хоць адно пісьмо прыйшло было да іх ад іх бацькі?» «Але я яшчэ ўбачу яе, да вечара я дапільную яе тут, а заўтра зранку пайду гаварыць з ёю». Адразу цяпер ён не мог ісці ў сваю, новую, некалі пастаўленую ім хату, ён баяўся свайго смутку. Да вечара ён праседзеў пад ігрушаю на лаўцы, у двары старой хаты, і пільнаваў яе. Але яна з новай хаты не выходзіла. Як пачало змяркацца, ён увайшоў у старую хату і лёг на голы тапчан. Парыў ветру ўвагнаў у хату на яго праз аконную дзіру віхор жоўтага лісця з ігрушы. Ён накрыў галаву торбаю ад хлеба, стараючыся заснуць. Цішыні не было! Нешта шастала па сценах і патрэсквала ў столі. А пасля яму здалося, што нешта шарганулася аб яго. Ён падняўся і стаў з шчаслівай думкай: «Не канешне мучыць сябе ляжбой, можна стаяць і сядзець». Свяціў месяц. Ноч была глыбокая. Праз дзіркі і шчыліны ў сценах лілося ў гэтую гнілую пустэльню месячнае святло, а па сценах нешта невядомае ўсё шастала. «Каб хоць хутчэй дзень». З нейкай надзеяй ён выйшаў на двор і зноў сеў на лаўку пад ігрушаю. За ноч з яе апала ўжо апошняе лісцё. Месяц быў якраз у яе чорным голлі. А да дня яшчэ было вельмі далёка. Ён цясней зашпіліўся ў сваёй суконнай жакетцы і лёг на лаўку. Холад не даў яму спаць. З поля цягло роўным шумам. Узняўся вецер. Месяц стаяў нізка. Сымон Ракуцька спаць не хацеў. Седзячы на лаўцы, прычакаў ён дня і больш у старую хату не заходзіў. Як адважыўшыся на вялікі подзвіг, ён закінуў сваю торбу за плечы і пайшоў у суседнюю хату. Там яна была адна, сядзела за сталом і пісала. Як прыгавораны да кары, ён стаў у парозе і сказаў: — Добры дзень у хату.— Ён нават і не чуў, што яна адказала яму. Ён

не мог адарваць вачэй ад акеннай шуфляды, калі ён устаўляў яе, быў такі самы хмурны дзень позняй восені.

— Гэта я з вамі ўчора гаварыў на дарозе, калі вы сядзелі на камені.

— Я пазнала вас.

— Ну што, няма брата?

— Няма. Я пакіну яму тут гэтае пісьмо. Чакаць яго — мне няма як.

— Што вы яму пішаце?

— Вам хочацца ведаць?

Нават і без здзіўлення яна глядзела на яго, і вочы яе былі такія добрыя, і здавалася, яна абяцае праз іх шчырасць усяму свету.

— Пачытайце мне, што вы яму напісалі.

Яна нават не здзівілася: што гэта за дзіва такое з гэтым чалавекам.

— Калі вам хочацца, я прачытаю. Але я дапішу раней.

Ён сеў на лаву і чакаў, пакуль яна скончыць пісаць. Сочачы за кожным яе рухам, ён час ад часу падаваў голас: — А ці ведаеце вы, што гэта ваш бацька ставіў гэтую хату?

Не адрываючыся ад пісьма, яна адказала: — Ведаю. Маці мне расказвала ўсё.

— Дык вы пра свайго бацьку ведаеце?

— А як жа! Але нашто вам усё гэта? Хто вы такі?

— Як нашто! Бо вашага бацьку я ведаў так, як ён сам сябе ведаў.

— Мой бацька быў слаўны чалавек, з душой і сэрцам. У яго былі залатыя рукі і разумная галава. І добрае сэрца.

— А дзе ваш бацька цяпер?

— Мы заўсёды ведалі, дзе ён.

— Як жа вы ведалі?

— Ужо вельмі даўно ад яго прыйшло было пісьмо з яго адрасам.

Ён адчуваў, як сэрца распірае яму грудзі, але ён не мог так пайсці адразу. Ён хацеў усё высветліць.

— А пра графа Паліводскага вы што-небудзь чулі?

— Мой бацька выратаваў яго ад смерці... Я яго сама бачыла.

— Паліводскага? Як? Калі?

— Незадоўга да вайны. Ён сам быў у нас, калі жылі ў старой хаце.

— Ён вам якое-небудзь зло зрабіў?

— Гэты стары гад два дні і адну ноч не выходзіў ад нас і мучыў нас дамаганнямі, каб мы аддалі яму нейкае золата, якое нібыта наш бацька ўзяў у яго, калі паднімаў раненага на дарозе. Ён прасіў, пасля крычаў, пасля рамянём пасадзіў маме крывавы знак цераз твар. Пасля сунуў мне ў рукі свой адрас, калі мы адумаемся і захочам аддаць яму яго дабро. Ён служыў на нямецкай граніцы. Нарэшце ён казаў, каб аддалі хоць палову, а палова нам... Але мне трэба пісьмо дапісаць.— Яна пісала, і ён стаў на ўвесь рост у парозе і душыўся смуткам, гледзячы на яе. Гэта яна. Нязнаны ім чалавек. Без яго яна вырасла. Ён ні разу не меў шчасця трымаць яе на руках і гаварыць з ёю малою і падоўгу глядзець на яе дзіцячую ўсмешку. Нехта злы і бязлітасны ўкраў у яго яе маленства.

— Вы казалі, каб я пачытала вам. Я ўжо напісала. «Дарагі братка Тамаш. Мы табе пісалі, што прымушаны былі выехаць з роднага кутка, але пачалася вайна, і пісьмо наша магло да цябе не дайсці. Дык шукай нас у мястэчку Сталецці на Навагрудчыне. А таксама напамінаю табе, калі ты згубіў адрас, што ў Гомельскай вобласці, за Бабруйскам, жыве наш бацька. Граніцы ўжо больш няма...» Ногі ў Сымона Ракуцькі падгіналіся. Ён сеў на лаву. Яна яшчэ ўгнулася над пісьмом, штосьці ў ім дапісваючы. Ён ціхом падняўся і знік з хаты. Не прыпыняючыся нідзе, ён дайшоў да таго самага паўстанка і сеў у поезд. На другія суткі ён ужо ішоў пешкам цяперашнімі сваімі месцамі. Ён радаваўся, што з кожным крокам надыходзіць да гэтай, ужо трэцяй на яго веку хаты. Можа цяпер тут ён знойдзе спакой душы. Было вельмі рана. І цёплае стаяла надвор'е. Было ясна. На хвіліну магло здацца, што гэта ўлетку пасля дажджу. Ён ішоў сцежкаю паўз дарогу, краем сухога тарфяніку, на той бок якога сугліністы ўзгорак трымаў на сабе край неба. Польныя кусты шыпшыны, быльніку і піжмы бачыў ён, і думка яго спынілася на тым, што ў карэннях піжмы, пад тым кустом, жывуць мурашкі. Там яшчэ ўлетку чабор цвіў, і над ім гусцілася жоўтае зелле святога Яна. Куп'істы тарфянік быў увесь мокры, на шчыльна збітай у мяккі дыван нізкарослай траве на ім блішчэлі пад сонцам кроплі чыстай вады, як раса ўлетку. Вятрак махаў крыллямі дзесьці за балотам, над рачулкай стаялі голыя вербы, адна была рудога

колеру, другая жоўтага, трэцяя сiняватага, чацвёртая чырванаватага. І гэтая каляровасць дрэў дапаўняла вялiкае багацце i мноства ўсяго, што было ў чалавека перад вачыма. Дрэвы стаялi скрозь, iх было многа. Многа лётала i сядзела ўсюды гатовых спаткаць зiму птушак, многа было колераў i фарбаў, многа было i прастору, i неба, i вады, i ласкавай цiшынi. Брама яго дома была зачынена. Брамка збоку крыху прыадчынена. Ён увайшоў у двор. Усё было на месцы i ў парадку. Ён прайшоў праз увесь двор i агарод, i сад i назад вярнуўся. Густая сям'я дрэў, iм пасаджаных, расла ў кутку агарода над загарадзю з жэрдак. Там былi бяроза, лiпа, клён, каштан, вяз i таполя. Улетку i ў раннюю восень тут заўсёды шумеў вецер у лiсцi, i на ўдзiрванелай пад дрэвамi зямлi густа i высока расла трава i красавала мятлiца. Там была i лаўка, дзе ён, бывала, праз колькi год, аддаваўся сваiм думкам. Ён зiрнуў у гэтае месца, дзе якой-небудзь ураўнаважанай душы век льга было б мець шчасце ад цiхай адзiноты, i сумеўся. Ён аж уздрыгануўся: з яго, i, можа, ужо доўгi час, не сыходзiў чалавечы позiрк. Там на лаўцы сядзела жанчына. Постаць яе была нерухомая, i вочы не сыходзiлi з яго. Хоць яна i не была ўжо такая, як калiсьцi, хоць гэта была ўжо старая жанчына, але ён з першага ж позiрку пазнаў яе. І дыхаць яму стала цяжка. Гэта яна! Такая! Без яго такая стала! Як бы страцiла яна ранейшы рух сваiх вачэй. І ён з'iначыўся без яе. Ужо i старасць не вельмi далёка стаiць за плячыма. І ў яе таксама. Нехта злы i бязлiтасны ўкраў у яго яе маладосць, i яе самую ўкраў. І яго маладосць украў. А ўсё ж жыццё яго з ёю разам было б падобна на маладосць. Злы ён i жорсткi, гэты страшны злодзей. І нiякая кара нiдзе i нiколi не спасцiгне яго. Гэта ён бесперапынна вiсеў над яго душою, як стопудовы камень! Пракляцце яму, гэтаму страшнаму злодзею! І прэч ад чалавека гэтую калоду пасярод двара, i гэтую лаўку пад дрэвамi, якiя шумам сваiм так заўсёды ўцiхамiрвалi душу! Сказаць дзецям... (але дзе ж тыя дзецi, iх жа ўкраў вялiкi злодзей), сказаць усiм i самому сабе: нi моманту спакою! Усе на пошукi вялiкага злодзея! Знайсцi яго i высвецiць дакладна, хто ж ён такi?! І зняць з яго галаву i паказаць усяму свету: глядзiце, i ганаровае месца мне! Я абезгаловiў страшнага злодзея! Я больш не вечны выгнанец з свайго месца. Я на сваiм месцы, i страшны злодзей больш не будзе мяне

абкрадаць! «Што ж перш за ўсё сказаць ёй такое, чым узрадаваць яе? Ага, я пакажу ёй усё, што я запасіў дзецям. Я чакаў іх, я думаў пра іх! Вісяць жа поўныя вешалы ботаў і сукенак, вопратак простых і ўбёраў святочных!»

У тую восень доўга трымалася мяккае надвор'е. Сёмага лістапада зранку нападаў мокры снег, а к вечару таго ж дня яго ўжо не было анізвання нідзе. Вада сцякла ў нізкія месцы і стаяла там, і ў ёй адлюстравалася хмарыстае неба. Хмары віселі нізка, а на другі дзень паміж іх высвечвала сонца, і на ўзлессі мокрая лаза здавалася гатовай распусціць першае лісцейка. Усё блішчэла, і здавалася, што гэта свеціцца вада ў лагчынах.

Той дарогай, што ішла паміж тарфяніку і роўна пастаўленых у адну лінію хат, вельмі шпарка ішоў чалавек. Гэта была хада таго, хто прывык да таго, каб доўгі час бачыць перад сабою тое, з чым трэба хутчэй расквітацца, каб пасля гэтага мець што лепшае. Чалавек гэты трымаў галаву высока і як бы нічога не заўважаў навокал сябе, перад сабой жа бачыў як бы толькі тое, да чаго хацеў хутчэй дайсці, але здавалася, што і гэты пункт больш жыў у яго думках і свядомасці, чым стаяў выразна ў вачах. Ён так ішоў, што здавалася, ён упэўнен у тым, што нішто не стане на яго дарозе. Аднак жа, можа быць, тут найбольш было ад знадворнага выгляду чалавека. У гэтым выпадку можа і не да месца прымаўка, што твар ёсць люстра душы. Бо часамі рашучая пастава і хада чалавека на момант былі такія, што як быццам бы ён хацеў вярнуцца. Аднак жа ён усё ішоў і нават паддаваў ходу. Пачаліся хаты паўз дарогу. Ён паклікаў да сябе нейкага малога, што натрапіўся яму на вочы:

— Дзе хата Сымона Ракуцькі?

— А унь, дзе тых дрэў многа.

Чалавек глянуў на тыя дрэвы і хацеў усміхнуцца, але выйшла, што ён як бы здзівіўся. Верхняя губа яго з нізка выстрыжанымі чарнявымі вусамі ўздрыганулася.

— І я пайду з вамі да Ракуцькі,— сказаў ахвотны да ўсяго малы.

— Не, я адзін пайду.

Малы пабег шукаць іншага занятку, а чалавек той жа хадой, як і раней, падышоў да зялёнай брамкі і адчыніў яе. Двор не быў пусты, і ён астаўся стаяць у брамцы. Незнаёмы яму чалавек стаяў пасярод двара і ціха гаварыў

з жанчынай. У чалавека былі сівыя валасы над вушамі. Ён падняў твар і пачаў углядацца ў незнаёмага прышэльца, які не сыходзіў са свайго месца ля брамкі. На твары чалавека з сівымі валасамі над вушамі напісалася здагадка, чаканне і нарыхтаванасць цвёрда сустрэць усялякую няўхільнасць. А той, што ўвайшоў у яго двор і стаяў цяпер ля брамкі, меў такі выгляд, як бы хацеў сказаць: ну што ж, і я гатоў да ўсяго так як яно ёсць. Мы ні ў чым не вінаваты. Гэта быў чалавек вельмі яшчэ малады, можа яму не было яшчэ і дваццаці пяці год. Але ён быў такі мажны і дужы, што, калі не глядзець на яго твар, ён мог здавацца мужчынам, які ўжо разбыўся за многія гады жыцця і працы. Верхняя губа яго была нізка выстрыжана, і гэта клала на яго твар пячаць як бы нейкага здзіўлення. Ён быў у польскім салдацкім шынялі і ў салдацкіх чаравіках з абмоткамі. З шапкі былі ўжо сарваны ўсе тыя бляшкі, якія раней паказвалі, да войска якой дзяржавы гэты салдат належаў. Ён здаваўся такі здаровы і энергічны, што дзіўна было, як ён так нерухома ўсё стаіць на адным месцы. Тут яго ўбачыла і жанчына.

— Тамаш прыйшоў! — закрычала яна і, як бы забыўшыся на ўсё, кінулася яму насустрач.

Сымон Ракуцька аднак жа сышоў адразу з свае гатоўнасці сустрэць усялякую няўхільнасць. Твар яго перасмыкнуўся, і магло здавацца, што ён не ведае, дзе падзецца. Як бы раскрыўшы вялікую таямніцу, да якой яму раней не было доступу, ён застыў на паўкроку, калі быў ірвануўся сысці з месца. Хіба гэта Тамаш стаіць перад ім? То ж быў худзенькі хлопчык, якога трэба было шкадаваць, песціць і гадаваць, і аддаваць яму бацькаўскую ласку. Усю душу і сэрца аддаваць яму. Няма хлопчыка Тамаша, ёсць салдат чужой арміі, і хіба вядома, якая ў яго душа? Бацька ж не мог сеяць добрае насенне ў гэтай душы. Тамашова маленства ўкралі ад бацькі: жалезная нага таго страшнага злодзея зноў душыла Сымона Ракуцьку. Абкрадзены, ён стаяў перад салдатам чужога яму войска і сумаваў па худым хлопчыку Тамашу, маленства якога ўкраў страшны злодзей.

## ДРУГАЯ ЧАСТКА

# ВЯЛІКАЕ СКРЫЖАВАННЕ

Прасторны шлях, калі ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?

*(Якуб Колас. «Новая зямля».)*

## I

Вялікі шлях з усходу на захад праходзіць каля мястэчка Сумліч, але не праз іх. Нават і не паўз самае мястэчка, а крыху зводдалеку. Гэты шлях — старая Маскоўска-Варшаўская шаша. На яе з Сумліч зроблен выезд: вузкая, як размінуцца двум вазам, дарога, брукаваная буйным каменнем. Брук гэты пакладзен год за дзесяць да цяперашняй вялікай вайны. Гэтай брукаванай дарогі хопіць на добрыя пятнаццаць хвілін шпаркай язды на найлепшым кані. Тое месца, дзе яна падыходзіць да шашы, не дазваляе ёй адразу ўліцца ў шашу. Гэта шырокае месца сярод жыта, ярыны і сенажацей, як бы вялікі круглы пляц, плошча, у якую ўліваецца адусюль некалькі вялікіх і малых дарог. Сама вялікая шаша рэжа гэтае месца напалам. Некалькі палявых дарог, крывых і вузкіх, крыжуюцца тут. Тут крыжуецца з шашою вялікі груптавы шлях з Палесся. На поўдзень ад шашы ён ідзе на Вызну, Морач, Страхінь і Орлік і ўваходзіць у самыя Агаркаўскія балоты. На поўнач жа ад шашы, пасля свайго перакрыжавання з ёю, шлях ідзе на Семежава, Лешню, Цімкавічы, Капыль, Старыцу, Перавоз, Самахвалавічы і такім парадкам кіруецца на Мінск. Так што гэтая дарога злучае два беларускія абшары, сваей прыродай, характарам і выглядам далёкія адзін ад аднаго. Крыжуецца тут з шашою і яшчэ адна, не менш вялікая дарога. Яна ідзе недзе з мясцовасці паміж Бабруйскам і Гомелем. Недзе адтуль, дзе хвоя саступае месца ясеню і дубу і дзе менш цудоўнай мяккай нахмуранасці і задумёнасці ў пейзажы, як у тых укрытых хвояй краявідах, куды яна ідзе цераз шашу. Гэтая дарога, няроўная, выкручастая і больш ціхая, чым людная, канчаецца недзе паміж Нясвіжам і Клецкам, праходзіць праз Цапру і Балвань і такім парадкам злучае

дзве разлегласці нашай Бацькаўшчыны, у кожнай з якіх наша гісторыя запісана па-свойму і своеасабліва. Калі адбылася Вялікая Рэвалюцыя і калі скончылася польская акупацыя, туды, дзе канчаецца гэтая дарога на захадзе, пабеглі з сваіх маёнткаў зямельныя магнаты, а з фальваркаў драбнейшая шляхта. І дзедзічы і пасэсары там на захадзе зраўняліся і два дзесяткі год жылі аднымі думкамі аб устанаўленні пальшчызны на ўсходзе, дзе яе няма і ў прыродзе. Касцёл для фальваркоўца аставаўся вызначэннем не веравызнання, а нацыянальнасці, а беларускую мову ён ламаў аб польскую і думаў, што гэтым жаргонам ён далучыўся да культуры, якая ўкладвалася ў яго ў словы — пан, маёнтак, фальварак. Дзеці іх, што радзіліся ў эміграцыі або малымі выехалі туды, за два дзесяткі год выраслі і знайшлі сабе свой спосаб да жыцця. Замест таго каб крычаць на парабкаў у сваім маёнтку ці фальварку, яны сталі службоўцамі ў дзяржаве, чыноўнікамі і ахавальнікамі старое, як свет, ідэі заваёўнага руху на ўсход. Іх думкі не пакідалі іх аж да семнаццатага верасня трыццаць дзевятага года. Яшчэ з маленства яны не забыліся гэтых дарог тут і памяталі нават лясныя і палявыя сцежкі.

Тая круглая пляцоўка, дзе скрыжоўваюцца з шашою вялікія і малыя дарогі, была ўся вытаптана нагамі і выезджана калясьмі. Тут былі лапіны і дзірвану з чубамі блёкату і шчаўлюку і голая, убітая зямля. Упартая піжма купчасцілася побач дробнай лазы, і чабор цвіў разам з святыянскім зеллем над густым дыванам спарышу і дзяцельніку. Трыпутнік разростаўся над каляінамі. Навокал жа, пакуль да палеткаў і лясоў, ішлі роўныя паплавы. Гэта былі самыя далёкія сумліцкія сенажаці. Да калектывізацыі яны былі падзелены сумлічанамі на вузенькія палоскі, і кожны касіў сабе, як хацеў. Крайняя ад шашы палоса сенажаці належала тады гаспадарцы Канстанціна Лукашэвіча, і стары Нявада, косячы тут у адзіноце або сушачы сена, знаходзіў тут сабе вялікую разрыўку ад тае псіхалагічнай траўмы, што пачала развівацца ў яго пасля першых пасляваенных год. Расказвалі пра яго, што ён ні тое што каб сказаць астарэў вельмі. Больш таго, у добрым жыцці дома ён выраўняўся і скінуў з сябе тую лушпавіну, што нарасла на ім за час бадзянняў па чужыне і па чужых людзях. Ён здаваўся кожнаму здаровым і зусім не падобным на самога сябе тады, калі толькі яшчэ сцягваў

з плеч чужацкія транты. Некаторыя казалі, што ён аднак жа насіў у сабе нейкую хваравітасць, хоць нічым ніколі і не хварэў. Як бы там ні было, але можа і сапраўды ён насіў у сабе або хворасць, або можа толькі нейкія непатрэбныя думкі, якія тачылі яго. Быў час, што ён нават з твару асунуўся, і гэтая хударлявасць дала яму некалькі новых рысаў старасці. Часамі нават ён пачынаў ні то гаварыць, ні то штосьці разважаць сам з сабою. Усе гэтыя моманты, новыя, раней не ўласцівыя яму, асабліва пачалі заўважацца ўсімі з аднаго выпадку, які адбыўся не вельмі даўно, ужо ў часы, якія могуць належаць да нашых дзён.

На тых сумліцкіх сенажацях, што былі пры дарожным скрыжаванні, сена было заўсёды змешана з мноствам скошаных аднагодніх дрэўцаў. Яны скошваліся з травою разам штогод і штогод зноў насяваліся і пасля зноў скошваліся. Без канца і меры іх рассявала тут усюды старая таполя, памераў незвычайных. Дрэва расло на самым скрыжаванні дарог. Гэта быў волат на рост і таўшчыню. Сумлічане казалі, што на ўсю вялікую акругу тут не знойдзеш другога такога вялікага дрэва. Адно на ўсю разлегласць, яно ўзнімалася над дарожным скрыжаваннем і відно было здалёку, дзе б хто ні ехаў. Кара яго пабілася на гузы, з якіх ад карэння да вяршаліны раслі парасткі, і так гэты волат на ўвесь свой рост стаяў спрэс зялёны. Хоць дрэва і было падобна на магутную скалу, але дзіва брала: як гэта яно магло даваць гэтулькі насення. На сенажацях штогод густа вылазілі з зямлі скрозь маладыя дрэўцы і гінулі пад касою. На навакольным полі плугі вывaрочвалі іх сотнямі. На абочынах дарог іх тапталі пешаходы. Разам з травой іх усюды з'ядала жывёла. Іх ламалі дзеці дзеля забаўкі. А праз год іх зноў было густа, і зноў усё ішло намарна. Але крокаў за дзвесце ад самога дрэва быў куток, дзе не ездзілі з калясьмі, і куды не дабівалася жывёла, і дзе не хадзіла каса. Год за дзесяць да Айчыннай вайны, да гэтых дзён, калі завяршыліся і дайшлі да новых сваіх ператварэнняў справы, крыўды, прыкрасці і радасці тых людзей, пра якіх я тут расказваў, з Сумліч да шашы забрукавалі выезд і ў адным месцы клалі мост цераз лог, даволі-такі вялікі. Падымалі насыпам дарогу і зямлю на гэта бралі з таго месца, што крокаў за дзвесце ад вялікага дрэва. Там стварылася вялікая яма і два дугаватыя равы — як дзе капалі. З самай вясны тут стаяла вада, і ўвосень таксама. Берагі да вады былі крутыя,

к таму ж асталося тут скрозь бітае каменне, кучамі і рассыпанае, і ў гэтым месцы патомства вялікага дрэва за дзесяць год густа ўзялося. Мацнейшае дрэва глушыла слабейшае і само ішло ўгару, а пад ім слабейшае гнулася ў каржак, пускала рост у бакі і глушыла суседа, які таксама выбіраўся голлем у разлегласць. Такім парадкам за дзесяць год тут стварыўся куток з густым зараснікам. Зараснік аблямоўваў яму і спускаўся на самае дно яе і хаваў пад сабою два равы. Над гэтай непраходнай раслліннасцю ўзнімалася колькі даволі ўжо высокіх таполяў, ужо сапраўдных вялікіх дрэў, а наводдалек, як асілак і аглядальнік на цэлую навакольнасць, узвышалася вялікае дрэва, усёй вышынёй зялёнае і ўпартае ў бесперапынным змаганні з навакольным светам за сваё патомства. Толькі адна-адзінюсенькая галіна на ім, над сярэдзіну яго вышыні, была сухая і вытыркала з густой зеляніны. Гэта было вельмі высока. Чалавек павінен быў крута закідаць галаву і трымаць шапку, каб глянуць на гэтую сухую галіну. На ёй нагледзелі сабе месца адпачываць удзень ад клапатлівай стомы палявыя каршачкі і заблудныя здалёку птушкі. Гэты куток на скрыжаванні дарог быў як бы месцам ратунку ад цяжару доўгага падарожжа на вялікіх дарогах і ад цяжкіх думак аб невядомасці канца дарогі. Больш як за дзесяць кіламетраў ад гэтага месца падарожныя ўгадвалі, ці скора ўзыдзе сонца. Яшчэ змрок ночы вісеў над зямлёю, а вяршаліна дрэва ўжо была ў сонцы. На ёй ужо ляжала сонечнае праменне, хоць сонца было яшчэ дзесьці глыбока і далёка.

Косячы тут раз на гэтых сенажацях, Нявада падлічыў, колькі ён адным махам касы зрэзвае маладых дрэўцаў. Выйшла нешта больш дзесятка. Ён тады перасадзіў з сенажаці некалькі самых большых дрэўцаў бліжэй к вялікаму дрэву. Калі ён назаўтра паглядзеў на іх, убачыў, што нечыя ногі паспелі ўжо стаптаць іх. Ён зноў перасадзіў некалькі дрэўцаў, але ўжо ў іншае месца. Праз два дні ён выразна ўбачыў: і гэтыя былі стаптаны нечымі ботамі з шырокімі абцасамі. З таго часу ён наглядаў і бачыў: кожнае перасаджанае дрэўца тапталася. Сляды паказвалі, што дрэўцы тапталіся і ботамі, і лапцямі, і босымі нагамі, і жаночымі абцасікамі. Гэтыя таптуны хадзілі тут кожны дзень. Кудысьці яны ішлі ўсё гэтымі дарогамі. За працаю ў полі і на сенажаці Нявада пачаў кідаць вачыма на дарогі і глядзець на гэтых людзей. Гэта

ўсё быў той невядомы і шматлікі, хто таптаў яго дрэўцы. Абочынай шашы ён ішоў і ў лапцях, і ў ботах. Адзін з торбай за плячыма, другі з чамаданчыкам у руках і ў капелюшы. Часамі таптун з'яўляўся ў вобразе падарожнай жанчыны, часам у выглядзе маладога франта, часам гэта быў прысутулены абарванец. Вельмі часта ён садзіўся ці лажыўся пад вялікім дрэвам на скрыжаванні і спачываў там. Нявада нават забыўся на доўгі час перасаджваць дрэвы. Ён пакідаў у памяці на доўгі час кожнага падарожнага. Ён бачыў, як шафёры спынялі машыны і ішлі пад дрэва піць і закусваць, фурманшчыкі папасвалі сенам і аўсом тут коні. Можа і многа ўжо часу прайшло, як Нявада сачыў за падарожнымі. Можа ўжо не сотні, а тысячы перавярнулася іх перад яго вачыма. Раз, у дзень сухой хмурнасці і ветру, Нявада ўбачыў, як на скрыжаванні спынілася грузавая машына. Малады шафёр з зайздроснай усмешкай высадзіў галаву з кабіны і сачыў, як з самога грузавіка злезла зусім маладая дзяўчына. Яна скланілася яму, быццам дзякавала ці развітвалася, а ён нехаця схаваўся ў кабіну і паехаў далей проста шашою на ўсход, а ехаў ён з захаду. Дзяўчына асталася адна. Яна была такая з постаці, што здавалася маладзейшая за свае гады. Як толькі машына знікла, яна вельмі шпарка пайшла назад шашою, пасля рушыла ў палескую дарогу, пасля вярнулася і беспарадна азірнулася. Позірк яе даўжэй за ўсё затрымаўся на вялікім дрэве, яна як бы дзівілася, што бачыць перад сабою такога волата. Неспакойныя вочы яе ўбачылі Няваду. Ён глядзеў на яе і думаў: няўжо яна, такая дасціпная, лёгкая, спрытная, зараз стопча дрэўца, якое ён у гэты ж самы дзень, зранку, перасадзіў. Не больш як паўгадзіны таму ён глядзеў: дрэўца расло як мае быць. Дзяўчына была ў цёмным гарнітуры і густавалосая. Нейкая малая яна здалася Няваду, хоць адзежа яе была дарослай жанчыны. Быццам адумаўшыся, яна раптам зменшыла сваю рухавасць і моцна, каб чутно было здалёк, сказала да Нявады: — Да бліжэйшай станцыі на чыгунцы? Як ісці? Далёка?

— Унь туды. На Цімкавічы... Не. Недалёка.

Яна падзякавала яму і яшчэ акінула вачыма скрыжаванне дарог. Густы зараснік над ямай і равамі ўзяў на сябе яе ўвагу. Яна падышла туды. Нявада з непакоем глядзеў, ці зараз стопча яна яго дрэўца. Яна не дайшла да яго, а адразу села на траву пад першым веццем. Яна ся-

дзела на ўдзірванелым капцы, над якім і навокал якога дробна траслося на ветры таполевае лісце, абаперлася локцем на траву і адразу задрамала. «Ага, яна стамілася за вялікую дарогу»,— думаў Нявада і пачаў шукаць вачыма свайго таго дрэўца. Яно не было блізка ад соннай дзяўчыны. Паўгадзіны таму яно было на сваім месцы і ў добрым сваім стане. Але ці гэта яму здалося, ці сапраўды? Унь ён бачыць яго, утаптанае ў зямлю. Яно ляжыць бокам і тырчыць угару адной галінкай. Незразумелая трывога разанула яго. Калі ж ён паспеў быць тут, той невядомы падарожны? Нявада падышоў да дрэўца. Яно ўсё было ўвагнана ў зямлю ботам з здаравенным абцасам. След ад абцаса быў глыбокі і шырокі. Незразумелая трывога павялічылася і ўжо мяжавалася са страхам перад тым невядомым. Калі ён паспеў прайсці тут і куды знікнуць?

Дзяўчына сапраўды-такі спала, прыпаўшы галавой на руку. І яго душа страсянулася. Як быццам ён сумысля шукаў болю па сваю рану, якую не мог да канца залячыць час. К таму ж — трывога і неспакой, што тут хадзіў нейкі невядомы. Ужо адразу яго ўяўленне і думкі нарысавалі карціну: такая яна маладая і нейкая адзінокая на гэтых вялікіх дарогах. Куды яна спяшае, да чаго так нястрымна імкнецца? І тут ужо адразу з гэтай карціны паўстала другая, як злая пакапаванасць, як смутак яго душы. Ён жа не бачыў і не ведаў калісьці, як Волечка, так як цяпер гэтая невядомая, можа, так жа адна спяшалася дарогамі і ў стоме падала на прыдарожную траву. Волечка, не цяперашняя жанчына, а тая дзяўчынка паўставала перад ім. Яна, тая Волечка, жыла ў яго душы, як вечны застылы вобраз, ці то ў мінуўшчыне, ці то ў сучаснасці, ці то ў будучыні. «Што было, тое прайшло»,— мог бы прыдумаць ён сабе ўцеху. Але ж не. Дзе ўжо там да Волечкі! Ужо не Волечка, а другая, вельмі цяпер на тую Волечку падобная, стаяла перад ім. Яна, як кропля вады на кроплю, удалася ў сваю маці і, як жывое ўвасабленне той Волечкі, была перад вачыма. Заўсёды ён думаў: гэтай не трэба будзе шукаць сабе шчасця для будучыні. Яна будзе жыць так, як будзе жыцца, а жыцца будзе добра. Ён гэта бачыў па сваёй Волечцы і па маленстве гэтай. І яго мучыла крыўда за Волечку, якая ўведала гора, а гэтая радзілася адразу на шчасце. «Тая варта большага замілавання, чым гэтая, што будзе думаць аб жыцці, як

аб вясёлым свяце». З цяжарам на душы, з трывожным адчуваннем, што нешта жудаснае неўзабаве адбудзецца, ён аж прыгнуўся над увагнаным у зямлю дрэўцам, дзе вельмі выразна вызначаўся глыбокі след ад абцаса. Ён не мог больш быць у адзіноце і нарыхтаваўся ісці ў Сумлічы. Калі ён зрабіў першы крок, пачуў, што сонная дзяўчына глыбока кашлянула. Ён бачыў: яна прачнулася і прыўзнялася з локця. «Кашляе, захаладзілася на вільготнай зямлі, дзе ж, у нейкім клопаце, на дарозе, можа, за светам ад свайго месца». Ён быў схілен бачыць усюды самае горшае. «Мусіць у мяне выгляд дзіўны, што яна на мяне так глядзіць». У высокіх ботах, у выцертым плашчы і чорнай кепцы з гузікам на версе, ён рашуча зрабіў колькі крокаў да дзяўчыны, быццам бы маючы да яе самую найпільнейшую справу. Пячаць асцярогі лягла на дзяўчынін твар. «Яна мусіць хацела адпачыць адна — і далей у сваю дарогу». Але было позна ўжо моўчкі прайсці паўз яе.

— А вы далёка куды едзеце?

— А я і сама не ведаю, ці гэта далёка адсюль, ці блізка.

— Дзе гэта?

— Туды, за Бабруйскам, у бок Гомеля. («Не, яна вельмі ахвотна і ветліва гаворыць»). Ужо з учарашняй раніцы ў дарозе.

— Вы дадому едзеце ці з дому?

Ён бачыў: яна як бы нават сумелася. Перш за ўсё яна сапраўды ўпала ў задуму. Яна думала над тым, што зараз скажа. Гэта было не зусім звычайна. Пасярод дарогі, упершыню, на адну можа хвіліну, яна ўбачыла незнаёмага ёй Няваду. Тут бы абы-што адказаць, таксама як і ён абы-што пытае. А яна думала. «Чыстая, справядлівая душа, яна цэніць свае слова». Нявада аж ступіў яшчэ крок бліжэй.

— Я-то еду дадому, але таксама і з дому... Я еду з дому да бацькі.

— А дзе ж ваш бацька жыве?

— Дома.

— А вы едзеце да яго з дому?

— З дому.

— Гм... значыцца...

Слова за словам, маўчанне пасля слова і перад ім, і яна расказала яму гісторыю, і хто яго ведае, больш тут

было суму ці радасці? Калісьці даўно, калі яе яшчэ на свеце не было, бацька яе паставіў сабе новую хату на панскай зямлі і з панскага лесу. Скончылася там права рэвалюцыі, і ён сюды пайшоў і жыў па гэты бок граніцы, а хатаю заўладаў пан. Калі скончылася і гэтая граніца, пан раптам убачыў, што, каб мець шчасце, даволі мець адзін дом, а тым больш панскія пакоі, і не канешне ўладаць у дадатак яшчэ сотняю хат, пастаўленых калісьці простымі людзьмі.

— Гэта пан сам да гэтага дадумаўся ці гэтак павучылі яго, як цаніць чалавечае шчасце? — панура запытаў Нявада. «Як яна гаворыць, як бы з жорсткай насмешкай».

— Гэтай праўдзе пана навучылі.

Адным словам, бацька яе мае цяпер і тую хату, што ставіў у маладосці, і тую, у якой тут жыў. А яна ж з першага года свайго жыцця два дзесяткі год пражыла без бацькі.

— Значыцца, і ў твайго бацькі ўкралі тваё маленства?

— А чыйго бацьку яшчэ так абакралі?

— Бацьку мае дачкі.

— Значыцца — вас?

Яна ўстала і з сумнай усмешкай глядзела на яго.

— З тае хаты едзеш у гэтую?

— У гэтую.

— Бацьку бачыла ўжо?

— Ужо мы пазнаёміліся.

— То чаго ж вам на чыгунку? Па шашы ў той бок машын многа. Махнуць рукой, і шафёр падвязе аж да месца.

— Я ўчора, пакуль машыну злавіла, выстаяла на шашы цэлае ранне.

— То чаго ж вы ўсталі? Чаму не спачываеце? Дарога вам яшчэ вялікая.

Яна паслушна зноў села на ранейшае месца, і вочы яе сталі такімі даверлівымі.

— Я вырасла без бацькі. А бацька пастарэў без мяне. Нам шкада таго, што мы адзін без аднаго былі. Гэта бацька мне маю душу на гэта настроіў, і добра ён зрабіў. Цяпер я ведаю, што не можна так жыць, абы жыць. Трэба шукаць таго, каго трэба з замілаванасцю ведаць і каго трэба ненавідзець.

— Ненавідзець? Вы такая маладая і гаворыце аб нянавісці?

— Аб чым жа мне гаварыць, калі жыццё майму бацьку скалечылі, і маё маленства...

Яна недагаварыла і як бы засаромелася свае ўспышкі перад незнаёмым чалавекам тут, на дарозе.

Гэта было ўвасабленне наіўнасці, напасрэднасці, парыў маладой натуры, калі ўсё, што ляжыць на душы, просіцца ў свет. У маладосці душа і думкі не абцяжараны развагаю аб мэтазгоднасці. Стоячы цяпер перад маўклівым Нявадам, гэтая маладая дзяўчына не ведала, што яна ўзварушыла ў душы гэтага старога перад ёю незнаёмца.

«Яна хоча ведаць, каго ёй ненавідзець за ўкрадзенае маленства? А каго я павінен ненавідзець за гэта ж самае?» І зноў вобраз малой Волечкі вырысаваўся перад ім. І вобраз гэты раздвоіўся. Побач з Волечкай стаяла тая, цяперашняя, так падобная на сваю маці.

— А чаму ж вы жылі цяпер не з бацькам?

— Я вучылася і на лета еду.

— А як жа вы завецеся?

— Лізавета.

— Што ж гэта так усё сыходзіцца! У мае дачкі таксама дачка Ліза. Год ёй ужо будзе ці не чатырнаццаць.

— Ой! — крыкнула раптам Лізавета і шатнулася, як сядзела, назад. Нявада са здзіўленнем сачыў за ею, а яна паказала пальцам уніз перад сабою, і Нявада глянуў туды. Там быў адзін з тых двух равоў. Увесь ён быў скрыты ў густым таполевым зарасніку. На дне яго расла густая і высокая трава і цвілі кветкі. Яны, блакітныя і жоўтыя, відны былі праз трапяткое лісце зараснікаў, якія шчыльнай сцяной купчасціліся паабапал рова. Лісце шумела і траслося на ветры. Нявада ўгнуў твар над ровам і, прыглядаючыся, пачаў заўважаць на дне яго, у траве і пад нахіленым нізка веццем маладых парасткаў, чалавечыя ногі, абутыя ў боты з вялікімі абцасамі. Абцас аднаго бота быў у жвірыстай зямлі. Гэты абцас і стаптаў тое дрэўца! Нявада шатнуўся ад рова і беспарадна глянуў на дзяўчыну, якая як бы чакала першых захадаў ад Нявады. Але ён стараўся перамагчы ў сабе трывожную прыкрасць і разважыў думкамі сам сябе: «Падарожны нейкі спіць. А чаго ж ён залез у самы роў? У вільгаць? Калі тут трава сухая? Мала што,— душыў у сабе трывогу Нявада.— Усялякая прыгода з чалавекам можа здарыцца».

— А чаго ж вы самі так устрывожыліся?

— Хіба? Ты, нябога, нешта выдумляеш.

— То я пайду. На станцыю. Ніякай машыны ідзе няма.

Нявада ўбачыў, што яна і сапраўды зараз пойдзе. Яна прыгнулася і перашнуравала свой чаравік і паправіла на галаве хусцінку. Сэрца ў Нявады заныла. Што такое здарылася? Хто яна такая, што яму так не хочацца больш ніколі не бачыць яе? Ён і сам не мог разабрацца ў той праўдзе, што яна якраз напала сваім расказам аб сабе на боль у яго душы. Можа нават толькі на тое, каб яшчэ затрымаць яе каля сябе, ён сказаў:

— Можа ўжо больш не будзе такога няшчасця з людзьмі, каб аддзялялі бацькоў ад дзяцей.

— Можа і не будзе. А можа будзе.

— Будзе. Цяпер я ўжо ведаю, што будзе,— раптам устрапянуўся ён.— Бо і так сказаць, чым жа свет і людзі з'іначыліся? У мяне ўкралі маленства мае дачкі.

— А ў мяне на дваццаць год укралі бацьку.

Вялікая трывога раптам ахапіла яго. Ён сам не мог саўладаць са сваім парывам. Зрабіў рух да самага рова і ўставіўся вачыма ў абцас, які (ён у гэтым быў упэўнен) растаптаў яго дрэўца.— Чалавеча, скажы ты мне, чаго ты лёг тут?

Бот зварухнуўся, і чалавечая постаць з'явілася з-пад трапяткога веццця. Гэта быў чалавек малады і нерашучы, нават вялы рухам сваім. Ён хваляваўся і дзіка пазіраў на Няваду і Лізавету. Ён вылез з рова і сеў на краі яго. Некалькі кропак рабаціння было на яго твары, і валасы на галаве мелі нахіл да кучаравасці. Або ён выглядаў на многа маладзейшы сваіх год, або і сапраўды быў толькі ў першым сваім юнацтве. Адзежа на ім не мела пашаноўлі і догляду, у ёй заўсёды валяліся па мокрай траве і па пяску, яе рвалі аб сукі ў лясным гушчары, падсцілалі пад сябе нанач або, яшчэ лепш, спалі ў ёй. Яна была простая, як і ва ўсіх людзей на дарозе, але больш мятая і ўбруджаная. Ці было ўсё гэта непрыемна чалавеку? Ніякіх адзнакаў гэтага не было, хоць і льга было заўважыць, што на плячы ў пінжаку брудную лапіну не вельмі даўно так старанна церлі, што аж сукно выцерлі. Пакуль ён так сядзеў над ровам, Лізавета і Нявада глядзелі на яго, а ён маўчаў, пазяхаў і як бы чакаў. Пасля спрытна скруціў з махоркі папяросу, дастаўшы канцамі пальцаў махорку проста з кішэні. Закурыўшы, ён, надзьмуты і злы, паглядзеў на Няваду і абазваўся:

— Ну, чаго мяне пабудзілі? Дарогі пытацца ці што?

Нявада збянтэжыўся, адчуў, што немаведама на што пабудзіў чалавека.

— Дарогі пытацца? Не, я тутэйшы... Бачу — ляжыць чалавек у рове, у вільгаці, у мурашках, у яме. Як бы наверсе не знайшлося ўжо чыстай травы.

Чалавек, ці, можа, лепш называць яго «хлопец», пацягнуўся ўсімі сваімі суставамі і стаў, выплюнуўшы з рота недакурак. Пасля зірнуў на шашу і, як бы сам сабе, сказаў: — Як на тое ліха, ніводнай машыны.

— А вам куды? — устрапянулася дзяўчына. Так і відно было, што яна была б рада знайсці спадарожніка дзеля свае дарогі, на якой трэба чакаць і пільнаваць выпадковых машын, пытацца, у які бок кіравацца, адпачываць на прыдарожнай траве, сустракацца з незнаёмымі людзьмі...

— А вам куды? — адказаў запытаннем хлопец.

— Мне за Бабруйск.

— Э, мне зусім у іншы бок. Мне пад Пяцеўшчыну, пад Самахвалавічы... На Мінск.

— А-а,— працягнула з расчараваннем дзяўчына.

— То калі вам на Мінск, дык чаго ж вы паглядаеце на шашу,— абазваўся Нявада.— Вам трэба пільнаваць машыну на гэтай вось дарозе. На Капыль, на Кучанку, на Перавоз, на Пырашава... Хоць, праўда, вы можаце на Слуцк, калі па шашы, а там на Мінскі тракт...

— Ведаю,— сказаў зноў злы і надзьмуты хлопец. Здавалася, ён ненавідзіць гэтых людзей, што выпаралі яго з рова. Дзяўчына заўважыла ў ім гэтую рысу і адразу адышла ўбок. Нявада адчуў тут сябе лішнім. Тым часам з захаду на ўсход ішлі дзве машыны. Адна па шашы, другая па дарозе на Мінск. Дзяўчына заварушылася, выбегла на шашу і падняла руку ўгару. Хлопец жа, здавалася, і не заўважаў, што якраз яго ідзе машына.

— Унь жа машына ў ваш бок! — не вытрымаў Нявада.

Хлопец паволі рушыў на сваю дарогу, яшчэ больш злы і нахмураны. Было падобна, што гэта ён збіраецца змясіць кулакамі і нагамі Няваду. Хлопец нехаця падняў руку, але невысока і на самы кароткі момант. Тым часам дзве машыны, не зважаючы ні на што, прайшлі далей, кожная ў сваю дарогу, і неўзабаве скрыліся з вачэй. Задаволены хлопец урачыста зірнуў на Няваду: «ну што, стары дурань, трэшся тут, лезеш не ў сваё. Я сам ведаю, што

мне рабіць». Вядома, Няваду сапраўды варта было б ісці ў свае Сумлічы. Што яму тут з гэтымі людзьмі? Але незразумелы смутак прыгнятаў яго душу. «Як гэты хлопец мог так незаўважна стаптаць дрэўца, і чаго ён хаваўся ў рове, і чаму ашуквае людзей, што яму трэба на Мінск, калі ён нават як належыць не спрабаваў спыніць машыну? А відно, што ён здалёк, што ён у вялікай дарозе. Можа і дзяўчына гэтая хлусіць пра сябе і сваіго бацьку. Можа ўвесь свет такі дзікі, што чалавеку не можна гаварыць праўду і баяцца другога чалавека. І можа ўжо скора пачнецца тая зноў навала? Можа ўжо зноў тут блізка ходзіць той вялікі злодзей, што ўкраў у яго Волеччына маленства?! Душачыся нейкім страшным пачуццём, Нявада не зводзіў вачэй з хлопца, і той раптам уздрыгануўся: — Чаго ты так разглядаеш мяне? Я табе падазроны які ці што? Я цябе не баюся!

— А хіба я хачу, каб ты мяне баяўся? Каб ты, сынку, ведаў, што мяне за душу трымае...

— Ведаю! У цябе ўкралі маленства твае дачкі. А ў мяне ўкралі самога мяне. Так што ідзі сабе ў свой бок, а я ў свой.

Нявада пачырванеў і адвярнуўся. У наступны момант ён угнуў плечы і выйшаў на брукаваную дарогу з гэтага месца да Сумліч. Ідучы ён гаварыў нешта сам з сабою. Праз чвэртку кіламетра ён азірнуўся і ўбачыў таго хлопца: гнучыся паўз жыта, ён ішоў у глыб поля, дзе сінявілася далёкая істужка лесу. Што ж да дзяўчыны, то Нявада бачыў, як яна запыніла на дарозе машыну і паехала ў сваю дарогу. Але ён не бачыў, як машына праз паўкіламетра стала і шафёр падлез пад яе і, лежачы на спіне, заваждаўся з рамонтам. Ужо і дзень схіліўся к вечару, а машына не была гатова. Нарэшце шафёр сказаў, што далей язды не будзе і трэба чакаць выпадку, каб узяцца ў каго на буксір. Дзяўчына пацісгула плячыма ад прыкрасці і шпарка пайшла назад на скрыжаванне. Яна ўсё ўглядалася ў дарогу: іншае рады ёй не было, як спадзявацца на шчасце з новай машынай. Змяркалася, а яна, можа, і не адважылася б напрощі ночы ісці адна да станцыі. Яна села пад вялікім дрэвам, прытулілася да яго і не зводзіла вачэй з дарогі. Два разы яна выбягала на дарогу і паднімала руку ўгару, але машыны прайшлі, і яна зноў апынулася на ранейшым месцы пад дрэвам. Бадай-што ўжо зусім змеркла. Дзяўчына пачала бесладна кідаць вачыма на

дарогі і навокал сябе. У далечыні льга было заўважыць цёмныя абрысы мястэчка Сумлічы. Дзяўчына ўжо была намкнулася ісці туды, як раптам, непадалёку ад сябе, у гушчырні таполевых зараснікаў над ровам, выразна заўважыла чалавечую постаць. Нехта сядзеў і, як бы паўзучы, знік у кустах. Ёй здалося, што яна нават пачула трэск сухога ламачча. Ветру ўжо не было і ўсталёўвалася цішыня. Дзяўчына ўздрыганулася і рашуча пайшла на сумліцкую дарогу. Адразу яна азірнулася і ўбачыла, што ён стаіць пад кустамі.— Хто там? — крыкнула дзяўчына, апанаваная страхам. Ён так шпарка сеў, што ёй здалося, быццам гэта ён упаў. Душа яе заныла ад жаху. Яна дала шпаркую хаду ў сумліцкую дарогу, але ў гэты момант на шашы выплылі з-за далечыні фары, і машына шпарка пайшла сюды. Дзяўчына выбегла на шашу, каб падняць рукі. Ужо тут машына прыцішыла ходу і ўз'ехала на мінскі кірунак. Дзяўчына апусціла рукі. На завароце машыны святло з фар асвяціла зараснік над ровам, і дзяўчына зноў убачыла і пазнала яго. Гэта быў той самы хлопец, якога ўдзень Нявада выпараў з рова. Цяпер ён кідаў вачыма то на дзяўчыну, то ўслед машыне. Дзяўчына гэта выразна заўважыла і, не азіраючыся больш, а толькі прыслухоўваючыся, як мага шпарчэй пайшла на Сумлічы. Ён жа пільна сачыў за ёю, аж пакуль яе льга было заўважаць у вячорнай цемені. Ён доўга прыглядаўся і прыслухоўваўся. Нідзе нікога і нічога не заўважалася. Стаяла цішыня. Ён пачаў асцярожна станавіцца на ногі. Бадай-што бегам ён даскочыў да вялікага дрэва і як бы ўліп у яго. Зноў пільныя абгледзіны ўсяго навокал і прыслухоўванне. Пасля ён узвёў вочы ў неба. У вышыні мільгацелі дзе-нідзе зоры. Зноў як бы ўзнімаўся вецер і халадала. Яшчэ раз прыслухаўшыся, ён раптам перахрысціўся па-каталіцку. Губы яго пачалі шаптаць. «Божа, няхай жа хутчэй прыйдзе да мяне мая тая будучыня, і няхай яна будзе такая, як думаю я. Каб хутчэй скончылася бадзянне маё і каб хутчэй на гэтай зямлі настаў канец таму, што на ёй цяпер ёсць. Няхай хутчэй прыйдзе час, і каб я адразу знайшоў сваю будучыню». Пасля гэтай складнай малітвы, якая, відаць, гаварылася не ўпершыню, ён зноў прыглядаўся і прыслухоўваўся. Пасля сціснуўся ў жмут і сеў пад кустамі драмаць. Націскаючыся з холаду, ён прахапіўся, калі ўжо свяціла сонца. Яно яшчэ невысока стаяла над непаспелым жытам, і ён устрывожана пабраўся з-пад дрэва ў кусты над ровам.

Тым часам яго ўвагу ўзяла на сябе грузавая машына, што імчалася па шашы з захаду на ўсход. Многа людзей сядзела ў ёй, найбольш жанчыны і дзеці, і сярод іх здалёк відна была сівая барада старога чалавека. На самым скрыжаванні машына крута спынілася, і шафёр, узбуджаны і ўстрывожаны, выскачыў з кабіны. Жанчына ў машыне моцна заплакала: «Не трэба спыняцца, хутчэй далей, далей ехаць». Другая каля яе залямантавала: «А божачка мой, а хлопчык жа мой маленькі, а нават і костачак тваіх я не пазбірала...»

Усё гэта было вельмі падазрона і нязвыкла. На твары маладога чалавека напісалася надзея і радасць чакання. Ён не вытрымаў і выйшаў на шашу. Шафёр адразу падскочыў да яго:

— Тут машына з дзецьмі не праязджала? Вы тут даўно?

— Я тут нядаўна, але машына праехала.

— Даўно?

— Кажу, што нядаўна. А што вы так устрывожыліся?

— Ён нічога не ведае, шчаслівы! — залямантавала ўсё тая ж жанчына.— Няшчасце! Бяда! Вялікае гора! Пагібель! Час той страшны настаў! Немец напаў! Б'е з неба і з зямлі, паліць, губіць... А хлопчык мой маленькі!..

Яна закрыла твар рукамі і зарыдала дзікім лямантам.

— Дык адкуль вы едзеце? — з раптоўным вясёлым натхненнем сказаў малады чалавек да шафёра.

— З Брэста. Ледзьве вырваліся. А машына з дзецьмі даўно?

— Нядаўна! — хлусіў малады чалавек і з радасцю ўбачыў, што шафёр ускочыў у сваю кабіну. Машына рванулася ў далейшую дарогу на ўсход, а ён, лёгкай хадой, з пячаццю шчасця на твары, угнуўся ў зямлю над стаптаным маладым дрэўцам, выцягнуў дрэўца і выграб на тым месцы з зямлі звязак нейкіх паперак. Дзве паперкі выцягнуў са звязку, а рэшту зноў загроб і пасадзіў наверх абы-як тое самае абязвечанае дрэўца. Дзве паперкі выпрастаў у пальцах, дастаў з кішэні восем цвічкоў з вялікімі плешкамі, прыбіў дзве паперкі да дрэва, наабапал ствала, шпарка дайшоў да жыта, паляжаў у ім, бачыў адтуль і чуў, як па шашы яшчэ праімчаліся з захаду на ўсход машыны з людзьмі, і пайшоў полем да лесу. Там ён доўга шукаў падкрыўчыстай асіны і пад ею выграб з зямлі новы звязак паперак, адну прыбіў да дрэва, а астатнія вынес на дарогу

і там раскідаў. А сам зайшоў на той бок лесу, сеў у гушчырні на пень і нешта думаў. Можа ён так сядзеў вельмі доўга, ён не заўважаў. Душа яго поўпілася шчасцем. Ён адчуваў сябе так, як выкінуты хваляй з мора на бераг. «Цяпер чакаць толькі далейшай радасці». Каб хто бачыў яго ў гэтыя моманты, заўважыў бы, як свяціліся яго вочы і пячаць усмешкі час ад часу перасмыквала яго твар. Здавалася, ён зараз увойдзе ў нейкі незвычайны рух, і гэта будзе выяўленне яго душэўнага захаплення. Губы яго пачалі нешта шаптаць. Можна было б злавіць словы: «дзякуй табе, божа». Калі ўспомніць тую яго малітву пад дрэвам, то льга было б падумаць, што бог пачуў яго і ўжо да яго прыйшла тая яго будучыня, аб якой ён так прасіў бога. Або як бы ён адчуў блізасць шчаслівай будучыні, як толькі пачуў на дарозе дзікі лямант жанчыны аб сваім хлопчыку. Ён пакрысе аднак жа адумаўся, стаў пахмурны і задумёны і скрыўся ў лясной гушчырні.

Там ён распароў нейкае шво ў піпжачнай падшэўцы, выцягнуў адтуль некалькі пасведчанняў з пячаткамі і штампамі, выбраў адно і схаваў у кішэню. А рэшту парваў і загроб пад купіну моху. Неўзабаве ён паказаўся на ўзлессі і, нічога не баючыся, пайшоў цераз поле сцежкаю да скрыжавання. Мусіць пэўнае мэты ён на гэты час ужо не меў, а цягло яго да шашы, можа дзеля таго, што тут маглі быць хутчэй навіны з захаду. Ён здалёк наглядаў, як тая ўчарашняя дзяўчына вельмі шпарка ішла з сумліцкай дарогі да шашы. Ён добра бачыў, што яна, як толькі выйшла на шашу, стала тварам на захад і падняла руку. Проста на яе імчалася некалькі машын, поўных людзьмі. Але ўсе яны прайшлі далей, і яна зноў асталася адна на дарозе. Яшчэ раз угледзеўшыся ўдалячынь і нічога там не заўважыўшы, яна паглядзела на вялікае дрэва, шпарка падышла да яго і пачала чытаць паперку на ім. Твар яе змяніўся адразу. Скончыўшы чытаць, яна нейкі час стаяла ў аслупянелай задуме і раптам прытулілася лбом да дрэва і заплакала. У наступную хвіліну яна адкінулася ад дрэва і ўбачыла перад сабою яго, таго самага. Заплаканая, збянтэжаная, яна ўздрыганулася і сказала з балючай прыкрасцю: — Што, вы прыкуты да гэтага месца?

— Але ж тое самае я магу сказаць і вам. Вы яшчэ ўсё тут?

— Тут. Я ніяк не магу на машыну сесці,— адсекла яна.

— Ну, і я тое самае. (Ён гаварыў не так, як яна, раз-

дражнена, а нават з адценнем ветласці на твары і ў голасе.) Што вы такая змрочная, сама не свая?

Яна, замест адказу, ткнула пальцам у паперу на дрэве.

— Э, нічога. Трэба трымаць сябе ў руках. Гэта не нам адным, а ўсім. Будзе тое, што будзе.

— Мала што будзе, што будзе! Гэта кепская ўцеха. Бо ўсё пайшло намарна, што я ўжо зрабіла дзеля мае ж будучыні. У мяне не было бацькі, і раптам я стала мець роднага бацьку. Мы былі выгнаны з роднай хаты, і зноў хата стала нашай. Я дбала аб тым, кім я жыцьму праз усё сваё жыццё. Гэты год я ўжо вучылася ў Беластоку. І раптам канец маім студэнцкім марам аб будучыні.

Усё гэта яна сказала прыгнечаным голасам і глядзела яму ў вочы, а на твары яго напісалася абыякавасць і паглыбленне ва ўласныя думкі. Як толькі з'явілася на дарозе машына, дзяўчына падняла руку, машына прайшла далей. Пасля пайшлі машыны адна за другой — з дзецьмі, з жанчынамі. Дзяўчына нават і не спыняла машыны, а на адну з іх узлезла на ходзе. Цэлая калона машын прайшла праз скрыжаванне з захаду на ўсход. І шаша стала пустая. Не было ўжо тут і дзяўчыны. Малады чалавек таксама знік. Ён зноў рушыў полем у лес. Цяпер ён ужо ўпэўніўся, што чаканы момант сапраўды настаў. Сонца паднімалася высока, а ён ужо тут на скрыжаванні зусім не з'яўляўся. Было яшчэ не позна, да паўдня яшчэ не дайшло. Машыны па шашы пачалі ісці ўсё часцей. З вышыні ледзь пачуўся гул самалётаў. Ёнірваўся і тузаўся ў падхмар'і і ўсё зніжаўся. Машыны на шашы спынялі рух і з'язджалі ў бакі, і зноў ірваліся наперад. Самалёты з'явіліся над самай шашою. Яны плылі над ёю, нізка і павольна. Ужо яны праплылі над скрыжаваннем, і неўзабаве з усходняй стараны ад гэтага месца, блізка, уздрыганулася зямля і паветра некалькі разоў засаб. Над вялікім дрэвам узвіўся спуджаны каршачок, над жытам узляцела многа птушак, вецер нацягнуў дыму і пылу, самалёты зрабілі над шашой круг. На шашы, у розных месцах, спыніліся ўсе машыны. Дзельга было, яны з'язджалі на поле. Пакуль самалёты зусім зніклі, прайшло, можа, з паўгадзіны. Сонца ўзнімалася ўсё вышэй. Ужо яно моцна пякло. Тым часам над шашою і ў наваколлі зусім ціха стала. Машына за машынай, і зноў пачынаўся на шашы рух. Але зноў праляцеў самалёт. І гэты над шашою ляцеў нізка. Так што на яго хвасце відна была знізу чорная свастыка. З шашы ён крута пай-

шоў на Сумлічы. І льга было заўважыць, як ён доўга кружыўся над мястэчкам. А пасля і там уздрыганулася паветра і зямля, і над Сумлічамі падняўся слуп агню і дыму. Тым часам з Сумліч пачалі ісці і бегчы людзі. І ў лес ішлі праз жытні палетак, і ў жыце аставаліся, і назад варочаліся, і паўз шашу ішлі далей па ўсход. З сумліцкай дарогі на перакрыжаванне ўз'ехала фурманка. Малады канюк бег вельмі шпарка. У драбінках сядзеў Нявада, і поплеч яго малая дзяўчына гадоў пятнаццаці. Проста шашою Нявада пагнаў каня на ўсход. Ужо скрыжаванне асталося за імі, і дарога раптам стала перад імі загароджана. Гэта была страшная барыкада, якую мала калі бачыць свет. Недаломкі грузавых машын ляжалі бясформеннай кучай на ўсю шырыню шашы. Каля гэтага пагнутага і парванага калецтва, і пад ім, ляжалі чалавечыя ногі, рукі, тулавы без рук і галоў, і галовы без тулаваў. Чырвоная ад нявысахлай яшчэ крыві чалавечая постаць захавала ў раскінутых руках і нагах імклівасць бегу. Галава без цела захавала ў адным незаплюшчаным воку цьмяную застыласць пакуты. Стогны і енкі чуліся з-пад гэтага жахлівага награмаджэння. Нявада крута спыніў каня, саскочыў з воза, і следам за ім саскочыла дзяўчына. Нявада пачаў заварочваць каня назад. Пачуўся енк: — Злітуйся, завязі да людзей ці куды з дарогі.— Нявада аслупянеў. У наступны момант ён прыгнуўся над жывым яшчэ дзіцем і паклаў яго на воз. Ён стаў шукаць тут жывых дзяцей і забіраць іх.

— Бяжы дадому,— сказаў ён да свае дзяўчыны,— скажы, што тут яшчэ меніш спакою, чым каля дому. А я павязу дзяцей. Трымайцеся там разам утраіх. Калі зноў бяда прыйдзе, ратуйцеся, як прыйдзецца. Бяжы, Ліза, бяжы, Лізаветка!

Ліза подбегам пайшла ў бок Сумліч, і ён не мог адарваць ад яе свайго позірку. «Гэта тая, пра якую я думаў, што яна будзе шчаслівая! Вось і прыйшла ёй будучыня! Божа мой, божа мой». Здаецца, ён пабраў усіх яшчэ жывых дзяцей. Жанчыны пакінулі стагнаць і енчыць над абломкамі, калі ён гаварыў:

— Дзеткі мае, малыя мае, перацярпіце да канца, я павязу вас на ваш ратунак. Ціха, няхай вашы вочы засвецяць скора шчасцем.

Ні адна жанчына больш не застагнала. Жаночае сэрца робіцца вялікае, як свет, калі яно чуе боль знявечанага дзіцяці. Нявада ўжо ўзяўся за лейцы, як раптам убачыў




Аўтарскі малюнак да рамана «Пошукі будучыні».

перад сабою таго самага маладога чалавека. Ён як з-пад зямлі раптам вырас тут і сказаў да Нявады: — Немцы ўжо занялі Мінск і Бабруйск. Слуцак гарыць, а Баранавічы і Вільня ўжо спалены. Чырвоная Армія ўжо за сённяшнюю ноч разбіта і разбягаецца. Сталін і Молатаў невядома дзе дзеліся з Масквы.

— Што ты гаворыш, дзе ты чуў! — крыкнуў Нявада, бялеючы як палатно і халадзеючы сэрцам.

— А вось я прачытаў тут,— адказаў той, даючы Няваду такую ж паперку, якую раней прыбіў да вялікага дрэва.

— Ты рад гэтаму? Што ты тут мне гаворыш! — крыкнуў Нявада, гатовы цяпер накінуцца на ўвесь свет.

— Ужо няма ні Чырвонай Арміі, ні Сталіна, ні ўлады, і ўжо немцы ідуць і ідуць наперад. Яшчэ колькі дзён — і немцы зоймуць усё. Трэба гэта ўсім казаць, каб усе загадзя ведалі і падрыхтаваліся спаткаць немцаў, як сваіх, і каб лавілі і аддавалі немцам кожнага, хто бальшавік. Немцаў ніякая сіла не возьме. Перад імі ўжо ляжыць увесь свет.

Нявада, як стаяў, хапіў у сябе з-пад ног нейкі гнуты прэнт з раструшчанага грузавіка і з першага размаху апусціў яго на галаву маладога чалавека, які так добра ўсё ведаў і так складна гаварыў. У наступны момант Нявада тузануў лейцы і пайшоў побач воза. Страшнае месца ён пакінуў за сабою і не бачыў, як той, каму ён апусціў на галаву жалеза, пахістаўся з момант на месцы і ўпаў на шашу як скошаны. Сонца пякло моцна, і парывамі ўзнімаўся вецер і гнаў па шашы пыл. Малады чалавек ляжаў як непрытомны. Калі дзьмуў вецер, яму было як бы лепш, ён ляжаў спакойна. Калі вецер сцішваўся і мацней пякло сонца, ён неспакойна абмацваў каля сябе зямлю, а пасля пачаў скуголіць тонкім перарывістым голасам. Але яго голас тануў у енках і стогнах няшчасных людзей з-пад абломкаў машын. Некалькі разоў ён чуў, як гулі ўгары самалёты, як дзесьці поблізу праходзілі машыны, як у старане гаварылі людзі, як далей бухалі ўзрывы. Але ён не паднімаў галавы. Як бы сто пудоў жалеза было навалена на яго, так ён быў прыкован да таго месца, на якім ляжаў. Ён быў як бы на мяжы сваго выхаду з навакольнага свету. Там, дзе пачынаецца абыякавасць, там недалёка гібель. Так праходзіў дзень, а ён усё ляжаў з заплюшчанымі вачыма. Што-нішто адбывалася тут каля яго, але да яго гэта не даходзіла. Калі сонца зрушыла з паўдня

і пайшло ніжэй, вецер перамяніўся, і як бы прыхаладала. Тады з-пад самага споду абломкаў, трупаў і жывых зняверчаных пачала выпоўзваць тая самая дзяўчына, Лізавета, што так многа чакала на скрыжаванні машыны. Яна ледзьве перасоўвала рукі і ногі, і страшна было б глядзець, як ёй цяжка вызваляцца з-пад таго цяжару, які прыдушыў яе да зямлі. Вельмі доўга яна траціла апошнія сілы на свой ратунак. Сонца ўжо вісела зусім нізка, а ногі яе яшчэ ўсё аставаліся пад цяжарам. Яна вызвалілася толькі тады, калі паветра зусім ахаладала і вецер сціх. Сонца блізка было да захаду. Яна доўга ляжала пасярод шашы, і нарэшце да яе свядомасці пачаў даходзіць вялы голас: час ад часу падаваў енк мужчына. Яна паспрабавала свае сілы сесці і ўбачыла, што сонца зайшло. Светлая палоса ішла цераз увесь захад і ападала кудысьці за далягляд проста над шашою. Толькі цяпер, седзячы тут, на дарозе, яна ўбачыла, што было блізка пры ёй. Тут, у гэтым страшным нагрмаджэнні, яшчэ жылі людзі. Смутак здушыў ёй сэрца. Ёй было горна думаць аб мінулым, а наперадзе стаяла сцяна страшнай невядомасці, праз якую не пачуць і не пабачыць. Нават найбліжэйшая будучыня губілася ў гэтай страшнай невядомасці.

— Хто тут? — ледзьве магла яна адцягнуць голас. І ніякага адказу ёй не было. Гэтае маўчанне было тым страшнейшае, што ў вышыні бесперапынна рваўся гул самалёта. Яна пачала спрабаваць падняцца і ўбачыла, як постаць мужчыны ўстала поблізу яе і, хістаючыся ў бакі, знікла пры шашы ў полі. Больш ужо не чутно было мужчынскага стогну. Настала ноч, з цішынёй і зорамі. Дзяўчына ўстала і пайшла абочынай дарогі ў той бок, у які стаяла тварам. Ледзьве трымаючыся на нагах, яна дайшла да скрыжавання дарог і села пад вялікім дрэвам. Росная трава была пад ёю. Рух па шашы і на іншых дарогах павялічваўся. Машыны раз-поразу праходзілі скрыжаваннем паўз вялікае дрэва. Часам некаторыя спыняліся на хвіліны, шафёр выходзіў з кабіны, штосьці папраўляў і зноў гнаў машыну. Спакою тут не было. Раптам зноў гул нямецкіх самалётаў і страляніна зверху. Вогненныя істужкі падалі з неба. Яна пайшла назад на шашу і села на яе абочыне. Зноў усё стала ціха, і зноў пайшлі машыны дарогаю. Але яны ішлі з патушанымі фарамі, і ніхто не бачыў, што вельмі доўга перад кожнай машынай дзяўчына паднімала руку. Абяссіленая, яна адышлася ў бок ад

шашы і села на мокрую траву ў жудаснай дрымоце. Чэрвеньская ноч была кароткая. Неўзабаве пачало світаць. Цяпер яе могуць убачыць. Яна зноў выйшла на шашу падымаць рукі. Толькі цяпер яна ўбачыла, што рабілася на шашы і каля яе. Машыны і людзі, жанчыны і дзеці, маладыя і старыя, параненыя і здаровыя. Ішлі і ехалі і ўсе глядзелі ўгару. На самым скрыжаванні спынілася машына. З яе выйшаў Сымон Ракуцька.

— Дык бывайце здаровы і дзякуй, што падвезлі,— сказаў ён да шафёра.

— А дакументы вашы прыйдзецца паглядзець,— сказаў лейтэнант з перавязанай рукой, які сядзеў поплеч шафёра. Ракуцька паказаў дакумент.

— Дык вы дадому? — сказаў лейтэнант, разглядаючы дакумент.

— Дадому.

— А што вы там рабілі, адкуль едзеце?

— Адкуль я еду — я там радзіўся і вырас. Я там завёў сям'ю. У мяне там радзіліся дзеці. У рэвалюцыю я там паставіў сабе новую хату. Калі скончылася там права рэвалюцыі і зноў нахлынула туды панства, мяне выгналі з хаты, хату прысвоілі сабе, і я падумаў: што ж чакае маіх дзяцей у будучыні? Я перабраўся на гэты бок граніцы і завёў сабе тут такую дамоўку, што толькі бедаваў, што дзеці мае не бачаць яе. Цяпер зноў там стала права рэвалюцыі. Я забраў назад сваю хату і зацвердзіў гэта дакументамі, а дачка мая пазаўчора выехала адтуль сюды. Меўся і я сёння выехаць. А тым часам учора нямецкі пярун спаліў маю хату. Цяпер я да сябе ў дамоўку, дачка Лізавета ўжо там. Каб як бог даў мне дабрацца. Далёка, туды немец не павінен дакаціцца. Там і жонка, і сын Тамаш...

Лейтэнант ледзь даслухаў і сказаў шафёру ехаць.

— Таварыш дарагі,— сказаў яшчэ Ракуцька,— яшчэ дзякую вам і за шклянку гарэлкі, калі я ў страшэнным утрапенні сядзеў на дарозе. Спішыце з майго дакумента сабе мой адрас. Калі што якое — да мяне, як к сабе дадому.

Машына неўзабаве пайшла шашою на ўсход. Ракуцька ж звярнуў з скрыжавання на грунтавы шлях і падаўся ў роўную, але шпаркую хаду. Лізавета з шашы бачыла яго прысутуленую постаць, але яна так мала з ім разам яшчэ жыла, што не здагадалася адразу, што гэта ён там пай-

шоў у гэты ранні час і па гэтай далёкай і незнаёмай дарозе. Сумуючы і ў непакоі аб яго лёсе, яна наважыла, як бы там ні сталася, спыніць машыну. Яна стаяла на шашы, падняўшы руку, і чакала. Раптам гул і жалезны скогат. І жах агарнуў яе. На апусцелай і прыціхлай шашы, проста на яе, ішлі чатыры нямецкія танкеткі. Яна не заўважыла дзе, але выразна бачыла перад сабой чорную свастыку. З шашы яна спаўзла высокім адкосам і прыпала да яго ўсім целам. Яна чула, як танкеткі прайшлі над ёю і пасля ўсё сціхла. Калі яна глянула на шашу, убачыла, што ўжо не было таго страшнага нагрувашчэння знявечаных людзей і машын. Усё адразу расплылося, раструшчылася і ўвагналася ў зямлю скогатным ходам танкетак. Боль яе сэрца і смутак душы перавысіў вялікую слабасць яе цела. Агорнутая бядою і горам, яна пакінула гэтае сумнае месца. Ісці ёй было цяжка. Яна хісталася ў бакі, і так постаць яе злілася з прасторам поля і дарогі. Пачало ўзыходзіць сонца. Успамінаючы пасля гэтыя часы, яна казала, што ў моманты адыходу ад страшнага месца на шашы яна больш за ўсё мучылася думкамі пра бацьку. Цяпер яна была ўпэўнена, што гэта яго прысутуленая постаць прагойдалася па грунтовай шырокай дарозе, скрыжованай з шашою. Гэтая сям'я сабралася зноў і пажыла разам каля паўтара год, і Лізавета ведала з бацькавых расказаў, як ён мучыўся тут адзін па іх усіх і асабліва па Тамашу. З гэтага і Тамаш цяпер здаваўся ёй больш родным, а бацька здольным на пакуту за яе, Тамаша і маці. Яна скіравалася на тую ж дарогу і ішла ўсё, ішла, пытаючыся ў падарожных людзей, але без надзеі дагнаць бацьку. І гэта больш за ўсё мучыла яе. Сіл у яе ледзьве хапіла, каб не зваліцца з ног да заходу сонца. Захад сонца гэтага дня ўжо не быў падобен да ўчарашняга. Хоць яна ўжо і была даволі далёка ад шашы, аднак-жа бачыла, як толькі пачало цямнець і сцямнела, што на шашы, і, мусіць, на ўсю ноч, пачалося пекла. З неба ліўся агонь істужкамі з вузламі. Зямля ўзнімалася ўгару, і неба спускалася нізка. Тонка свістала і гулка выла і суха грымела і ўздрыгвала на ўвесь свет. Людзі дабягалі сюды з шашы і яшчэ аднекуль з поля, з цемені ночы, стагналі, гаварылі, пагражалі і ішлі. Уздоўж шашы ішоў бой. А яна ўсё не спыняла сваю хаду. Нервовае ўзбуджанне гнала ранейшую слабасць. На ўсходзе запалавела неба, а грымучае пекла не мела ўнімку. Калі паднялося сонца, вялікая цішыня запанавала на зямлі. І гэта

падбадзёрыла дзяўчыну. Яна скранулася з месца і рушыла зноў у дарогу. Яна ўбачыла ў траве мёртвага чырвонаармейца. У старане чуўся гул танкаў. Уночы чырвонаармейская часць боем ссадзіла немцаў з шашы, і яны цяпер ірваліся стараной. Не спаткаўшыся з імі, дзяўчына ішла далей паўз дарогу, увесь час трымаючыся кустоў, жыта і дрэваў. Сонца пякло моцна, і ў траве блішчэла раса. І яна неўзабаве выйшла з той зоны, у якой уночы адбыўся бой. Немцы вялікім кругам абыходзілі гэтае месца. На поўдзень ад скрыжавання, за жытнім прасторам, быў рэдкі хваёвы лес, невысокі і без падлеска. Паўз гэты лес, палявою дарогаю, і браліся цяпер на ўсход немцы. Спачатку там прайшлі танкі, пасля пайшлі грузавыя машыны з салдатамі, а пасля — дарога то пусцела, то пройдуць грузавікі, то легкавая машына, то зноў грузавікі, то зноў пуста рабілася. Пад каржакаватаю хваінай, непадалёку ад дарогі, увесь у сухім моху і хвойных голках, ляжаў той самы малады чалавек. Выгляд яго быў страшны. Бледны твар з крывавымі падцёкамі, парваная адзежа. Відно было, што ён перажыў страшную ноч. Ці то ён бягой ратаваўся з зоны бою, ці, можа, якая іншая з ім здарылася прыгода, але ён цяпер ляскаў зубамі, і вочы яго бегалі ад дрэва да дрэва. А можа ён яшчэ не адышоў ад таго, што Нявада даў па ім гнутым жалезам. Тым часам падышла легкавая машына і спынілася. З яе выйшлі два нямецкія салдаты і афіцэр з біноклем і картай. Салдаты стаялі, як на варце, а афіцэр глядзеў у поле праз бінокль. Малады чалавек узвалокся на ногі і пайшоў проста на афіцэра. Салдат наставіў на яго аўтамат. Ён падняў рукі ўгару і па-нямецку прывітаў афіцэра і яшчэ дадаў нейкае слова, ад якога афіцэр пільна на яго паглядзеў. Яны пачалі гаварыць нямецкай мовай.

— Ці няма тут бальшавіцкіх салдат? — запытаў афіцэр.

— Няма. А ці даўно заняты немцамі Баранавічы? І ці ўстанаўляецца ўжо ў занятых немцамі месцах цывільная нямецкая ўлада?

— Устанаўляецца.

— Ці пастаўлены ўжо высокія начальнікі акругаў, абласцей. І, можа, сярод іх або сярод іх памочнікаў ці вялікіх службоўцаў чуцён дзе граф Паліводскі?

Афіцэр падазрона і з непаразуменнем паглядзеў на абшарпанага маладога чалавека, і той зноў сказаў нейкае тое слова. Афіцэр паціснуў плячыма і сеў у машыну.

Малады чалавек папрасіў есці. Афіцэр кінуў у перацёрты на пыл дарожны пясок пачак галетаў, і машына зрушыла з месца. Малады абшарпанец падняў галеты і жуючы іх, падаўся глыбей у гэты непрытульны лес без ценю і травы і лёг на хвойныя голкі, апанаваны прыступам слабасці. Тым часам па ўсёй гэтай мясцовасці не спыняліся то дробныя баявыя сутычкі, то рух машын, то разрывы авіябомб у розных месцах, то людзі ішлі, і так, і натоўпамі з дзецьмі, і чырвонаармейцы ішлі на ўсход, туляючыся дзе якое ўкрыццё было — лесам ці полем. За тыя дні немцы далёка ўвайшлі на ўсход ад дарожнага скрыжавання. Таксама і на поўдзень ад усходу. У Сумлічах гаварылі, што немцы ўжо мінулі Бабруйск. Сумлічы асталіся цэлыя. Пажар ад авіябомбы ў той першы страшны дзень сумлічане патушылі. Агонь з'еў усяго паўвуліцы. Першыя нямецкія калоны ў мястэчку нават не заходзілі: Сумлічы ад шашы былі ўбаку. Артылерыйская кананада і авіяцыйныя налёты аддаляліся, і, дзень за днём, настала часіна, калі ў вулічных закутках было чутно, як дзе-небудзь, дзе на сонцы спёка і бляск, загудзе муха. І птушыны шчэбет чуцён усюды. Ужо многа станавілася цішыні, і чалавечая душа магла ўтапіць у ёй сваё ўтрапенне.

Тры новыя вуліцы пашырылі мястэчка Сумлічы на поўдзень яшчэ ў першыя гады пасля рэвалюцыі. За ўсе ж апошнія гады гэтае месца яшчэ разбудавалася, і тут стварылася як бы новае мястэчка пры старым, усё ў маладых, яшчэ невысокіх дрэвах, тады калі над старым мястэчкам узнімаліся ў неба купчастыя вяршаліны магутных стагодніх дрэў. Хаты старога мястэчка саступілі месца дамам і дамкам новага мястэчка, дзе маляваныя вокны і дзверы прасвечваліся праз зяленіва кустоў, скрозь панасаджваных ад вуліцы і ў дварах. Тут быў адзін дом, сцены якога, з смольнага кругляка, ужо ад часу пацямнелі, але не так яшчэ, каб скрыць свае годы. Яшчэ ўсюды відно было, што дом гэты новы. Дрэвы навокал яго яшчэ толькі ўбіраліся ў сілу. Яшчэ і смала на бярвенні не выветрылася і нават не высахла, а бліпчэла сваёй празрыстасцю, так як выступіла з дрэва год, можа, якіх пятнаццаць таму назад. Дом гэты ўвесь скрываўся ў маладых дрэвах. Вузенькая брамка вяла з вуліцы ў сад за задняй сцяной дома. Брамка ўціснута была ў таўшчэзныя шулы, вымаляваныя зялёнаю фарбаю. Здавалася, што гаспадар меў перад сабою мэту паставіць будынак і абгарадзіць яго навек. З гэтага боку

мястэчка пачыналіся паплавы, найбольш груд, а месцам прыбалочаныя. Даўжэзная, можа на кіламетры, сцежка ішла з далёкага поля праз гэтыя паплавы да самага мястэчка. Сцежка канчалася паміж выгараджаных дубовым коллем завулкаў, вулачак, двароў і закуткаў. Доўгая вулачка паміж платамі была працягам гэтай сцежкі і праходзіла паўз сад пры тым бярвенчатым доме. Сад быў абгароджан стаячым плотам з кароткіх аполкаў, па якіх зверху цягнуліся, адна над другой, дзве калючыя драціны, дзе-нідзе з шкуматамі з адзежы тых малых смелякоў, што мелі ахвоту бываць без патрэбы гаспадару ў гэтым садзе, у якім не было аніводнага старога дрэва. Усё маладыя яблынькі і ігрушы. Вішняк ужо аж плот, здаецца, глушыў, так ён разростаўся тут кустамі на ўсю даўжыню саду, і куры павыгрэбалі пад ім да самага пяску гнёзды на дрымоту гарачым поўднем. У гэтым скрытым вішняком плоце адзін аполак быў сарваны з цвікоў і так стаяў на сваім месцы, прыстаўлены да жэрдак. Да гэтага месца раз перад вечарам з паплаўной той сцежкі падышоў Нявада. Ён быў такі ж самы, як і тады, калі павёз на шашы параненых дзяцей: у высокіх ботах, у выцертым і злінялым плашчы, з сукаватаю палкаю. На палку ён апіраўся і злёгку накульгваў. Спачатку ён хацеў увайсці ў брамку з вуліцы, але яна была ўзята на засаўку з сярэдзіны. Нявада пастукаў і, не прычакаўшы адказу, пайшоў да адарванага аполка. Прыгнуўшыся, ён улез праз дзірку ў вішняк і хістануўся назад ад нечаканасці: проста перад ім, на перагрэбенай курамі зямлі, пад запыленым вішняком, ляжаў незнаёмы яму чалавек, і як бы нават нежывы. Нявада адумаўся не адразу. Можа хвілін пяць ён стаяў, сагнуўшыся ў дзірцы, і глядзеў на чалавека. Барада яго была задрана ўгару, і левая рука адкінута. Дробная птушка спусцілася на гнуткай галінцы да самага яго твару і паляцела. Нявада пасмялеў і прайшоў у двор паўз чалавека. Яго ўразіла жудасная цішыня ўсюды. Свіронак быў адчынены, і на парозе яго спакойна сядзеў пацук і шморгаў пярэдняй лапаю сабе па носе. Хвост яго звісаў з парога на самы ганак. Верабей напрамілы бог крычаў перад ганкам і дабіваўся таго, каб пацук ачысціў яму дарогу ў свіран. Гэты малюнак кальнуў Нявадаву душу мацней, як выгляд нежывога чалавека, пад вішняком. Тут ужо было не чалавечае ўладанне, тут ужо няма чаго рабіць чалавеку. Апанаваны бадай-што містычным жахам, Нявада ўбег у хату. Дзеля гэтага ён

адарваў замок ад прабоя. Замок быў зусім немудрашчы і пагнуты. А сапраўдным замком, добрым, была замкнута брамка з сярэдзіны, з двара. Брама ж была забіта цвікамі. Усё было зроблена сталым парадкам і па-гаспадарску, і гэта ўвяло Няваду ў раўнавагу: значыцца, яны пакінулі дом у добрым одуме, могучы агледзецца. У гэтым ён цяпер быў упэўнен. А ці дабегла тады малая дадому? Напэўна, бо унь сярод двара валяецца жоўты чаравік з той пары, у якой яна тады ехала з ім. А як усё адбылося і ці разам усе яны? А чаму ж ім не быць разам? Дзіўная рэч, але ў часе гэтых сваіх меркаванняў ён нават і не падумаў, што гэта за мярцвяк і чаму ляжыць у яго ў двары. Можа ён за гэтыя дні, пакуль вёз дзяцей і назад дадому дабіраўся, нагледзеўся ўсяго і ўтупеў на ўражанні як мае быць, а можа, натуру меў такую, але цяпер ён разважаў сам з сабою і азіраў усе куткі, як бы развітваўся з імі. «О, яны сапраўды добра выйшлі адсюль: шафы пустыя і вешала пустое. Адзежу ўсю пабралі. Вось і куфар стаіць, пусценькі, як ёсць. Нават адчынены. І мае новыя боты забралі. Маладцы. Але ж куды яны выбраліся? Што ж, я ў гэтых старых чаравіках буду? Яшчэ калі я іх і дзе знайду?»

Ён быў упэўнен, што ў адчыненым куфры і прыскрынак пусты, але, пакідаючы, і (хто ведае), можа, назаўсёды свой дом, ён адкінуў у прыскрынку вечка ўгару. Цэлы жмут панчох, як і заўсёды. Зялёныя рукавічкі. Ён адгроб з месца гэтую драбязу і бадай-што не крыкнуў: «Дык яны ж у неспакоі пакідалі дом! Бо не пакінулі б яны тут усяго гэтага». Вялікае ўтрапенне ахапіла яго. Ён выграб з прыскрынка гадзіннікі, пярсцёнкі і крыж, з бразгатам спусціў усё гэта ў кішэні свайго пінжака пад плашчом і пакінуў дом. Як бы яго хто гнаў адгэтуль. «Божа мой, іх можа ўжо і жывых не быць». Зноў ён прайшоў паўз нежывога чалавека і выйшаў з сялібы праз дзірку. Нідзе не было ні душы. Сонца стаяла над захадам. Нявада абстукаў хат дзесяць, і ўсюды панавала ціхая пустэча. «Няма і дазнацца ў каго, дзе яны». Ён ішоў пустымі вуліцамі і нідзе не спаткаў ні душы. Рой мошак віўся перад яго тварам. Вялікая жудасць ад гэтай пустэчы ўладала ім. Няўжо ён дажыўся да поўнай адзіноты на сваю старасць? Пустое паселішча страшней за ноч над пустыняй. Ён пачаў выходзіць з мястэчка і на самым выхадзе ўбачыў выклееныя аб'явы. Адна была на вялікім лісце паперы, астатнія — на меншых. Усе яны ліпелі на сцяне самай крайняй хаты, ма-

лой і старой Было падобпа, што той, хто выклейваў аб'явы, баяўся ўвайсці глыбей у мястэчка і, абы-як прыткнуўшы да першай сцяны паперу, даў ходу з вулічнай пустэльні. Нявада пачаў чытаць аб'явы. Самая большая была аб тым, як павінна трымаць сябе насельніцтва ў занятых нямецкім войскам вобласцях, а значыцца, і ў тутэйшай акрузе, і дзе па акрузе ўстанаўляюцца камендатуры, валасці і паліцэйскія цэнтры. Пасля там гаварылася аб абавязку кожнага, хто не хоча быць расстраляным або павешаным, вывіжоўваць армейскіх камандзіраў, камісараў і камуністаў. Аб'ява, ці, праўдзівей сказаць, загад быў выдрукаваны густымі літарамі, а ўнізе чорнымі літарамі стаяла: «Акруговы камісар цывільнай нямецкай улады Густаў Шрэдэр». А ўпоперак цераз увесь загад сінім алавіком размахнулася рэзалюцыя: «Пацалуй сабаку ў сківіцу». Побач гэтай была другая, меншая аб'ява. Валасны бургамістр загадваў усім сумлічанам вярнуцца ў мястэчка і ўзяцца кожнаму за сваю работу, а калі гэтага не будзе, то...

Нявада не паспеў дачытаць да канца. Страшны смутак здушыў яму душу. Тады страшны злодзей украў у яго Волеччына маленства. І вось цяпер прыйшоў час развітацца з усім тым, што, як трава на руінах, вырасла на ўтаймаваным болю. Нічога ўжо няма больш у яго. Ён адзін. Адарваўшыся ад нямецкай паперыны, ён паклыбаў назад у вуліцу і завярнуў у двор чацвёртай хаты. Гэта была яго старая хата. Ужо многа год яна пуставала з забітымі дошкамі вокнамі, але не дзвярыма: тут стаялі кросны, і час ад часу Волька прыходзіла сюды ткаць зрэб'е на мяшкі і ручнікі. Ключа ад дзвярэй у яго не было. Гэта быў вялікі ключ. Праз дзірку, пракручаную ў вушаку, ён пасоўваў засаўку з сярэдзіны. Ёнададраў дошкі ад куткавога акна ў двары, улез праз акно ў хату і адчыніў сенцы. Паліцы на сценах, жорны ў кутку, старасвецкая засаўка пры вушаку, лескі на гару, вешала ўздоўж сцяны, шчылістыя дзверы ў клець і акенца без шкла, прапілованае ў адным бервяне,— усё захавалася ў гэтых сенцах, як было дваццаць год таму, і нават больш, тады, калі яго Волечка была малая і адна жыла тут, калі ён быў на вайне. Больш таго. Усё гэта было тут і тады, калі ён сам быў зусім малады. Ён і сваё вяселле гуляў у гэтай хаце. Божа мой, як пражылося гэтулькі часу! І заўважыць цяжка. Успаміны апанавалі яго. Ён зачыніў сенцы, увайшоў у хату і прылёг на голы палок. Зусім вечарэла. Ён усё ляжаў і думаў. І ўяўлялася

яму, што гэта ён павінен зноў пачаць сваё жыццё спачатку. Але ж не! Тады гэтая хата была новая, а цяпер унь жа трухліна сыплецца са сцяны! І Волечка ўжо старэць пачала, і малая Лізавета, Ліза, стаіць перад сваім юнацтвам, усё ж гэта ўжо заняло навекі сваё месца, і ёсць, і існуе, і знікнуць не можа. І калі ўсяго гэтага няма, дык, значыцца, страшны злодзей зноў з'явіўся і адрывае ад душы жывасілам усё, чым жыве яна. Зноў пустошаць душу! Забіваюць дых! Абкрадаюць! Жывяцца чужой душой і жыццём яе! Нявада прахапіўся і прайшоўся па хаце. Стаяла ранняя ноч. Месяц свяціў праз адбітае акно. І ў палавіне хаты даволі відно было. Цішыню, якая стаяла на мястэчку, цяжка было вытрымаць чалавеку. Але горш за цішыню была адзінота. Гэта была магільная адзінота, але чалавек аставаўся жывы. Нявада рашуча пайшоў да парога, каб зусім пакінуць не толькі хату, але і Сумлічы. Як толькі ён спусціўся з трох каменняў, якія на месцы ганка ляжалі пад парогам, ён убачыў, што Волька ўвайшла з вуліцы ў двор і ўбачыла і пазнала яго. Яна пайшла проста да яго. І ў гэты момант скончылася яго адзінота. З якой радасцю ён цяпер падначаліўся Вольцы, такой, якую ён бадай-што і не ведаў. Бачачы гэтую жанчыну, ён адчуваў, як знікае з яго душы смутак па Волечцы і па яе двайніку — цяперашняй Лізе.

— Дзе ж ты так доўга быў? — шпарка шаптала яна.

— Пакуль я знайшоў, хто б гэтых дзяцей адправіў куды лячыць,— як апраўдваўся ён.

— А чаму ты кульгаеш?

— Падбіўся, назад ідучы.

— А чаго ты сядзіш адзін тут?

— А дзе ж я мог каго знайсці? Што гэта з нашым домам адбылося? Хто гэта ляжыць там мёртвы пад вішняком?

— У нашым доме было тое, што і ў іншых дамах. Мы ўжо ведалі, што немцы ўжо мінулі нас. А ўсе датуль спадзяваліся, што іх адгоняць. Усе і Костусь пайшлі мабілізавацца і не знайшлі нікога нідзе і вялікім натоўпам вароччаліся назад. На шашы яны адабралі кулямёт у нейкага лейтэнанта, які імчаўся з фронта на грузавіку. Нашто ім быў той кулямёт? «Каб было смялей»,— казалі ўсе. Тым часам ён і спатрэбіўся. Іх было чалавек сорак. Немцы зайшлі абходам і сядзелі паўз дарогу. І пачалі іх абстрэльваць. Мужчыны навялі на немцаў кулямёт. Немцы пры-

ціхлі, і мужчыны з кулямётам вярнуліся ў мястэчка. Наш дом, прызналі, стаіць у глушэйшым месцы, і кулямёт паставілі да нас, а самі разышліся па хатах. Прыціхлі ўсе і заняліся кожны сваім. А было сярод мужчын чалавек пяць невядомых, што таксама не знайшлі дзе мабілізавацца і варочаліся назад. Адзін з іх пабег да немцаў і навёў іх на мястэчка і на наш дом. Немцы забралі кулямёт і палічылі, што Костусь, раз у яго кулямёт, камандзір нейкага атрада супроць немцаў, і ўжо былі забралі яго, але яму ўдалося выскачыць і ўцячы. Невядома, дзе ён цяпер. Немцы запісалі сабе яго і нас усіх. Яны абчысцілі наш дом як ёсць — і тое, у што адзявацца, і тое, што есці. На адыходзе яны ў нас на двары застрэлілі таго, што навёў іх на мястэчка і паказаў, што ў нас кулямёт, і згінулі некуды, пакінуўшы выклееную на нашай браме паперку, пісаную рукою, што калі наш Костусь сам не явіцца да немцаў, то ўсё мястэчка будзе спалена, а мястачкоўцы, кожны дзесяты, будуць расстраляны. Прайшло два дні. Як на тое ішлося, што Костусь увечары прыйшоў дадому. Аж якраз за нашым домам падглядалі і ўбачылі Костуся дома. Ноч прайшла спакойна. А ў познюю раніцу назаўтра наехала поўнае мястэчка немцаў, але і не толькі немцаў. Былі ўжо і тутэйшыя, каторыя да немцаў у паліцыю паспелі падацца. Сагналі ўсіх, каго запарвáлі, бургомістр загад прачытаў, што каб выказалі ўсіх сумліцкіх камуністаў, а некаторых, каторых ведалі, тут жа прозвішчы і прачыталі з спісаў. А пасля Костуся ўспомнілі: ён нават кулямёт меў і арганізоўваў атрад. Дзе ён? Хто ведае? Мы ўсе стаялі ў натоўпе — я, Костусь і Ліза. Нас як захапілі дома, так і прыгналі разам з усімі. «А унь ён!» — паказаў на Костуся пальцам цераз галовы ўсіх адзін тутэйшы баязлівы дурань. А кругом натоўпу немцы стаяць з аўтаматамі, густа, як плот. Костусь як стаяў, так і пайшоў праз натоўп скрыцца. Усе расступіліся, каб яму вальней было. Але за ім ужо беглі два паліцэйскія і чатыры немцы. Ён бег, па ім стралялі, ён кінуўся ў разору паміж буракамі, Ліза гэта бачыла. Па ўсіх агародах пачалі страляць. Тым часам усе людзі пачалі разбягацца. Мы з Лізай яшчэ забеглі дадому, замкнулі сенцы і забілі цвікамі браму. Каля таго мерцвяка пралезлі ў дзірку і з таго часу туляемся па полі і лесе. Некаторыя пачалі варочацца назад у мястэчка. А дзе Костусь — мы не ведаем. Можа і ён нас шукае, але натрапіць адно на другое не можам.

— А дзе Ліза?

— На вуліцы сочыць, каб не ішоў хто. Мы з ею пасля заходу сонца прыйшлі дадому — можа, Костусь, а можа, і ты дома. Як аполак да дзіркі прыстаўлен — быў ты, бачым, гэта твой спосаб аполак так прыстаўляць. А той нежывы ляжыць, смярдзіць ужо. Божа, увесь двор запагаціць! Мы з Лізай выкапалі яму пасярод завулка, каб не ў сваім двары, выцяглі гэтую падлу паскам за ногі і засыпалі ў яму. Як бачыш управіліся.

— Ці глыбока хаця яму выкапалі? — гаспадарскім тонам абазваўся Нявада.

— Глыбока. Будзе з яго... Мы падумалі, што ты тут. Дзе ж ты інакш будзеш.

— Гэта мая родная хата!

— Божачка! Чаго ты! І мне гэтыя сцены многа даюць сціску ў грудзях... Але цяпер я пайду падмяню Лізу, няхай прыйдзе паспіць хоць на голым тапчане, а ты таксама паспі, калі аж закульгавеў бродзячы.

Яна адразу знікла дзесьці на вуліцы, высокая ў цемені, тонкая, у гаматной мужчынскай вопратцы. «Божа, хіба я спаць буду»,— падумаў ён і шпарка рушыў услед за ею на вуліцу. Ён ужо ледзь бачыў у змроку яе постаць, але да яго ішла Ліза, яна здалася яму высокай. Было падобна, што ён у момант вылечыўся ад свае балячкі, што так мучыла яго яшчэ здаўных: дарэмна балела яго душа аб ей, як аб бездапаможнай і беспараднай пакутніцы, калі яна цягла паскам у яму мерцвяка і нібыта-што. Божа, як ён глядзеў цяпер на яе — яна ішла паволі і як бы не ведаючы, што ён тут. Здаецца, яна зараз пройдзе далей. «У каго ж яна ўдалася такая сталая?» Але ж ён не бачыў і не ведаў, якая была Волечка, калі жыла калісьці адна і арала зямлю.

— Ведаеш што,— сказала Ліза да Нявады,— не трэба спаць, нехта ідзе агародамі, я глядзела, як ён то прыгнецца, то выпрастаецца. У вуліцу ён не пайшоў. Мацi стаіць ля канцавой хаты.

— Дык няхай сабе ідзе хто там дзе ходзіць!

— Дык мы ж бацькі чакаем! А можа ён гэта.

Гэта быў ён. І ўся сям'я яго апапавала. Здавалася, што ён сам не чакаў такога шчасця. Вось што ён сказаў: — Немцы злавілі на дарозе нейкага чалавека. Ён ім здаўся падазроным. Яго пыталі пра тутэйшых камуністаў. Бургамістр і пра мяне запытаў. А той, каб трапіць пальцам у

неба, сказаў, што ён чуў пра мяне, як пра самага завадатара. Я гэта ведаю вось як: мы злавілі аднаго паліцая, а ён ад страху ўсё і расказаў нам. То калі мы раней так сабе хаваліся, дык цяпер, рад-няволя, а трэба здабываць зброю. Мне жыцця ўжо не будзе, а праз мяне і вам. Камуніста ніводнага яны цяпер у Сумлічах не знойдуць, бо іх няма ў мястэчку.

Ён быў такі ўзбуджаны, што аж заікаўся:

— Тут на мястэчку будуць чуцца людзі, дык вы не бойцеся. Гэта нашы сумлічане варочвацьмуцца дадому. Вам лепш сядзець у старой хаце, нават ад вуліцы і дошчак з вокан не знімайце. Сюды менш дабівацца будуць. Прыбяжыш, Ліза, зранку да мяне на Драчы Лужок, скажаш, як ноч прайшла.

Ён перацалаваў усіх і пайшоў у канец вуліцы. Утраіх яны вярнуліся ў старую хату і на голых дошках прычакалі раніцы. Трэба было жыць далей, а яно не жылося. З іх траіх адна Ліза не заўважала, што гэтая старая хата стала над жыццём, як помнік над магілаю. Яна ніколі не жыла ў гэтай хаце і не ведала, што ў ёй так было і дваццаць пяць год таму назад і ў ёй пакутавала Волечка. А цяпер Волечка ў новым вобразе зноў вярнулася ў гэтую хату. Але Волечка ўжо гэтулькі пражыла на свеце і назад прыйшла, але не з лёгкім сэрцам, а з пакутаю ў сто разоў цяжэйшаю, як тады. Ліза нічога гэтага не ведала. Шчасце гэтай маладой душы было ў тым, што яна жыла тым днём, які бачыла, і не мела карэнняў для думак у глыбіні чалавечага веку. Раніцаю яна знайшла бацьку ў Драчым Лужку і ўбачыла там усё сваіх сумлічан. Яна зноў убачыла такі самы кулямёт, які тады быў у іх доме, і яшчэ такую зброю, якой дагэтуль не ведала. Яна сказала яму, што ноч была спакойная. І вось здарылася тое, што выходзіла за межы звычайнага: бацька прытуліў яе да сябе і цалаваў яе ў галаву, гаворачы:

— Дзяўчынка ты мая, дачушка.

Яна бачыла: прыйшла часіна такая, што нават такі аўтарытэт, як родны бацька, перайначыўся, і рукі яго дрыжэлі, калі ён трымаў яе плечы. Сама не свая, яна ішла назад той сцежкаю праз паплавы і ўбачыла, што брама таго дома, дзе яна радзілася і вырасла, адчынена і ў двары там поўна людзей, і ніводнага знаёмага твару. Сэрца яе заныла: там, перад вокнамі, на круглай градцы, раслі два кусты ружовага кракосу, якія яна садзіла і палівала.

Больш яна ўжо не падыдзе да іх! Каб не гэты кракос, можа яна і не адчула б усяго, што сталася. Калі яна паспрабавала расказаць мацеры, што бачыла дома чужых людзей, маці ёй сказала:

— На нас вялікая напасць: нашага тату лічаць не тым, хто ён ёсць: ён жабы ніколі сумысля не забіў, а думаюць, што ён набраў сабе войска і камандуе ім. Наш дом займае пад пастой паліцыя. Цяпер тата дадому не паткнецца. Ідзі зноў да яго і раскажы гэта яму.

— Я сам паїду! — быццам раззлаваны чым, абазваўся Нявада.

Твар яго быў белы, і плечы калаціліся. Здавалася, што яго ўразіла громам і ён праз цуд астаўся жывы. Нейкі ўскудлачаны, з дробнаю падстрыжанаю бародкаю, у нязменным сваім вылінялым і пазацыроўваным плашчы і высокіх ботах, ён, як вецер, рушыў з хаты. Ліза ледзь паспела гукнуць яму наўздагон:

— У Драчым Лужку! Спяшайся. Бо надвечар іх ужо там не будзе!

На вуліцы было многа людзей: сумлічане варочаліся дахаты. Гэта спадабалася Няваду і дало яму больш спакою. Хоць і кульгаючы, але вельмі шпарка, даляцеў ён да Драчага Лужка. Кастуся ён знайшоў у заклапочаным небыце. Не зважаючы на гарачае надвор'е, ён стаяў у суконнай жакетцы і курыў, высокі, танклявы паводле росту, з рыжаватым шчаціннем з тыдзень няголенай барады.

— Ну што? — спаткаў ён нават як бы нявятліва Няваду.

Нявада расчырванеўся тварам і, як пачаў гаварыць, закашляўся, і на адным воку ў яго блiснула сляза — ад хвалявання ці ад ветру.

— Костусь, я прыйшоў, каб параіцца з табою. Цяпер стаіць справа так, што трэба дбаць як мага аб тым, што каб жыццё захаваць дзеля таго, што прыйдзе пасля, дзеля будучыні, не мае, не, я ўжо стары, а дзеля твае дачкі Лізаветы. Яна ж стаіць папроці свайго веку. Люты звер, што сеў цяпер жалезным азадкам на галаву нашу, не вытрымае век-вечны. Дык хто ж тады будзе жыць, калі жыццё змарнуецца? Чалавеку жыццё раз даецца.

— Дык жа жыць не даюць! Але да чаго гэта ты ўсё гаворыш?!

— Я не гавару, я раюся. Як лепш зрабіць? Можа, каб ты прыціх дзе, каб пра цябе і куры не пялі, і так доўгі,

доўгі час, аж пакуль забудуцца ўсе, што ты ёсць, ці быў на свеце, а тады ўсё мінецца на свеце, і зноў жыць! Жыцця не ўхаваеш — сам толькі на сябе ў апошнюю хвілю наракацьмеш. Ты ціхом можаш ад усіх жыць, і ўсе пра цябе забудуць. А ты будзеш чакаць прыходу спакою і радасці для твае Лізы. Ці памятаеш ты, як было Волечцы, калі ты застаў яе адну ў хаце? Бо калі натурыцца, то ты адзін ці вас хоць тысяча збярэцца, цяжка парадзіць што. Бо гэта жалезны звер! Я на дарозе бачыў, як толькі дзіцячыя косці трашчалі пад жалезным колам. Божа мой, божа мой, нявіннае дзіцячае вока глядзіць на жалезнае кола і ведае, што над колам чалавечая галава. А галава кіруе кола на дзіця, і трэск дзіцячага чэрапа так страсяне чалавечую душу, што яна павек-вечны спакою мець не будзе, пакуль смерць не выветрыць яе з цела і яна стане нічым. У маіх вушах стаіць трэск дзіцячых касцей, хоць нада мною ціхае неба ў зорах і захад датлявае спакоем, і ціхая ноч стаіць як шчасце маё, што я сам з сабою...

— Не рві ты мае душы! — панура і злосна абазваўся Костусь Лукашэвіч.— Каб ты не зачапіў мне сэрца, можа б я і паслухаў цябе. Бо я нават лаяцца не мог, а ні тое каб... Ці гэта мая натура такая, што конча мне трэба бадзяцца тут... Здаецца б, зараз пацалаваў бы сваю малую Лізавету ў ногі і за гэтую пакуту маю нямецкімі галовамі выбрукаваў бы дарогу, па якой яна ішла б у свой шчаслівы дом... Давёў ты мяне да слёз, стары. Я цябе не паслухаю. Я не паверу табе, што будзе ціхае чаканне...

— Што ціхае чаканне! А так да чаго ты дойдзеш?! У тваім доме ўжо асталёўваюцца паліцаі.

— Дык няхай не будзе ні дома, але ж не будзе і паліцаяў! Многа іх?

— Я іх не бачыў.

— Я дрэвы садзіў, і яны раслі разам са мною! Каля твае старое хаты я быў клён пасадзіў. Дык як жа я пакіну іх, каб яны былі, а мяне не будзе! Мне ж жыць не даюць. Дык у мяне кіпіць усё ў душы. Мне хочацца рваць яго на кавалкі за тое, што ён прыйшоў да мяне і хапіў мяне за горла!

Нявада выслухаў і прыгнуўся, быццам бы пераскочыць праз што хацеў.

— Дык хоць дзе ты будзеш, дзе шукаць цябе? І што рабіць Волечцы і Лізавеце?

— Няхай пабудуць у старой хаце.

Нявада занадта добра ведаў Лукашэвічаву натуру, каб не бачыць цяпер, што можа хіба толькі калі пасля льга будзе ўцягнуць яго ў ціхае чаканне таго добрага, што прыйдзе.

— Я сам вам абзавуся,— сказаў сумна Кастусь Лукашэвіч, і Нявада пайшоў з прыгнечанай душой. Але ў Сумлічы ўвайсці яму не можна было. Усюды стаялі паліцэйскія вартавыя, мястэчка было абкружана, і па хатах хадзілі і шукалі зброю. Няваду запынілі на дарозе і грозна запыталі, ці не ведае ён, дзе тыя, што не варочаюцца ў мястэчка і збіраюць зброю. «Не ведаю, каб я так жыў»,— так схлусіў ён і таму, што хлусіў, закалаціўся, заныў, спалохаўся.

— А дзе ты быў? — запытаў паліцай.

— Я хадзіў глядзець ягад, можа, ёсць.

— Ягадак захацеў.

— Не, якія там мне ягады.

— Бач ты, ласунчык на ягадкі! Франт з падстрыжаною бародкаю,— здзекаваўся з Нявады нейкі тутэйшы хамула ў форме нямецкага паліцэйскага. У Нявады ўсё сціснулася ўсярэдзіне. Быццам бы ён праглынуў жывую жабу і яна ў ім жыве і скача, халодная.

— Я пайду,— сказаў Нявада.

— Ідзі, ідзі,— дазволіў вялы хамула, дробна міргаючы вачыма на сонцы.— Калі табе так хочацца, дык ідзі, толькі не азірайся, хэ-хэ-хэ...

Нявада ўгнуў плечы ад гэтага рогату і рушыў у мястэчка. Яму вельмі хацелася азірнуцца, але ён баяўся. Ён ад утрапення і сам не ўсвядомліваў сабе, што паліцай пратрымаў яго на дарозе даволі-такі доўга. Яго здзівіла цішыня ў мястэчку, зноў як бы ўсе пакінулі сваё жытло. Калі ён дайшоў да свае старое хаты, заўважыў, што ў ёй і каля яе пануе страшнае маўчанне. Пячаць пустэльні ляжала тут вельмі выразна. З вушачнага лежака над сенечнымі дзвярыма на нітачцы павуціння вісеў драбнюткі павучок і то спускаўся да самага нізу дзвярэй, то зноў падымаўся.

— Што ты дарогу загарадзіў! Паскудства! — буркнуў Нявада і парваў плячом павуцінне, уваходзячы ў сенцы. Божа! Тут усё стаіць дагары нагамі, нават сіні куфар ляжыць бокам і века ў ім адламана. У хаце тапчан адсунены ад сцяны, і на ім чамусьці жмуты кудзелі. Няваду больш узнепакоіла агульная сумліцкая пустыня, чым пустыня гэтай хаты. Нідзе ні душы, як вымерла ўсё. Гадзін са дзве

ён чакаў, і ніхто не з'яўляўся. Тым часам і дзень хіліўся з паўдня. Узнепакоены, Нявада пайшоў па хатах, ён не хадзіў, а кідаўся з хаты ў хату — і нікога нідзе. Так ён прамучыўся да захаду сонца. А тады, як п'яны, паклыбаў у свой дом. У гэтыя хвіліны ён быў як атупелы. Бяды навалілася на яго гэтулькі, што ён не бачыў ужо ні канца, ні пачатку ў ёй. У двары свайго дома ён застаў паліцэйскіх. Яны сядзелі на лаўцы пад клёнам і моцна гаварылі. Яшчэ калі ён толькі ўвайшоў у двор, ён пачуў, ці гэта яму толькі здалося, што паліцыянты гавораць паміж сабою пра Паліводскага. Нейкая трывога кальнула яго; уражаны, ён пачаў прыслухоўвацца, сцішыўшы хаду да ганка.

— Ты чаго? Хто ты? — сказаў адзін паліцэйскі.

— Як хто? Я гаспадар гэтага дома.

— То чаго ты ходзіш тут, калі ты гаспадар. Тут цяпер гаспадар герман!

І паліцыянт зарагатаў.

— Я іду ўзяць з хаты сваю старую вопратку,— прыдумаў ён што сказаць і ўвайшоў у дом. Дзеля прыклёпу ён там і сапраўды сцягнуў з печы нейкую адзежыну і выйшаў з ёю на ганак. Паліцыянты сапраўды-такі гаварылі пра Паліводскага.

— Дурань ты! — крычаў адзін другому,— гэта не той Паліводскі. Таго немцы не паставілі б за такога вялікага начальніка, бо ён не немец. Той жа з нашай стараны. Маёнтак таго быў якраз каля нашага сяла, дык я таго ведаю, я яго бачыў маладога яшчэ, калі ён толькі адзеўся ў афіцэрскую форму.

— Дык гэта той самы і ёсць! Бо і я яго ведаў, як ён толькі адзеўся ў афіцэрскую форму. Каля вас быў у яго адзін маёнтак, а ў нашай старане два. Яго бацька жыў якраз каля нас у маёнтку, а не каля вас. Цяпер я дома быў, яшчэ ў паліцаі не падаваўся, на тым тыдні, дык ён прыехаў тыя свае два маёнткі паглядзець. Дзве машыны. У адной сам, а ў другой аўтаматчыкі. Доўга не быў. Закруціўся, прабег свіным трухам каля саду і назад шмаргануў. Там ужо і знаку няма, што гэта быў маёнтак. Хаты стаяць, капуста і садавіна, і дзеці гуляюць. А ён сам у цывільнай адзежы, але жалезны крыж мае і значок нейкі на рукаве.

— Дык якую ж ён пасаду займае?

— Якую — не ведаю, але вельмі вялікую. Бо пры ім такая ахова вялікая...

— Не можа быць! Ён жа не немец!

— А можа ён для Нямеччыны больш зрабіў, як які-небудзь немец! На, глядзі! Вось надрукавана: «прысутнічаў грамадзянскі»... не... Ды хіба ты не ведаеш, што Паліводскі начальнік вобласці, начальнік усёй грамадзянскай улады цэлай вобласці.

— Дурань ты, я гэта ведаю, але толькі не веры ў, што гэта той самы Паліводскі.

Можа, яны і больш яшчэ спрачаліся, але Нявада далей не чуў. Вельмі ўражаны, ён прайшоў дваром да выхада на вуліцу, і паліцаі гукнуў яму наўздагон:

— Ну што, забраў адзежыну?

— Ага, забраў.

— Ну дык ідзі спаць.

— Пайду спаць,— шпарка адказаў Нявада, не могучы пазбавіцца свае трывогі.

— Такі і праўда пойдзеш спаць? Хіба ў цябе нікога не забралі? — абазваўся паліцыянт.

— Ат, я сабе так,— мармытнуў Нявада, нічога не разумеючы і жадаючы хутчэй адзіноты. Быццам вылупцаваны дзеля чужой забаўкі перад усімі людзьмі, ён дайшоў, унурыўшыся, да свае старое хаты і ўбачыў там Вольку ў смутку і адчаі. Толькі цяпер ён дазнаўся, што было ў гэты дзень у мястэчку. У гэты дзень забралі ўсіх маладых дзяўчат і хлопцаў, якія траляліся на вочы. На вочы трапілася і Ліза. І ўсіх павезлі на грузавіках кудысьці брукаваным выездам да шашы. Волька выбегла следам за мястэчка і, пакуль не зніклі машыны, бачыла, як вецер ірве хусцінку на Лізінай галаве. Машыны зніклі за ўзгоркам, Волька вярнулася ў старую хату і ўпала тварам на стол.

— Я буду думаць, што рабіць,— нясмелым голасам сказаў Нявада.

— Што ж ты прыдумаеш?! Машына з Лізаю ўжо за сотні вёрст.

— Я прыдумаю,— упарта яшчэ сказаў Нявада, адчуваючы сябе, як смертнік у камеры перад канцом сваім, і чуючы дрыжанне сэрца і ўзбуджанне ад адной толькі думкі, якая фармавалася ў яго галаве. «Божа, памажы мне, каб усё так і было добра, тады я зберагу яе, малую, дзеля таго, што пасля пастане, дзеля таго, што добрае будзе, памажы мне выратаваць яе»,— так ныла яго душа, губы ж былі жорстка сціснутыя, і твар нахмураны. Усю ноч ён не спаў і чуў, як уздыхала Волька. Для яго яна зноў стала

малой Волечкай, і зноў вобраз яе зліўся з вобразам Лізы, якая цяпер — хто ведае, дзе ўжо яна і што ўжо яны зрабілі з ею? Ён пайшоў шукаць Кастуся і нідзе яго не знайшоў. Тыя некалькі дзён, што прайшлі пакуль немаведама дзе дзелася Волька, варты былі яму многіх месяцаў. Вочы яго сталі глыбокімі і цёмнымі, і голас пацішэў. Дзе дзелася Волька? Людзі, што зноў адзін за адным варочаліся ў Сумлічы, расказвалі, што грузавікі з дзяўчатамі і хлопцамі пайшлі да шапы, проста выехалі на скрыжаванне і адтуль рушылі па дарозе той, што вядзе на Бабруйшчыну і далей. У дарозе яны і зніклі, і як быццам бы назад не варочаліся. Прынамсі, ні ў той дзень, ні назаўтра ніякіх машын праз скрыжаванне не праходзіла. Так казалі ў Сумлічах. А хто гэта дапільнаваў аж праз двое сутак, што на скрыжаванні не было машын, пра гэта ніхто не ведаў. Тым часам уночы многія заўважылі, што праз Нясвіжскую вуліцу прайшло многа нейкіх людзей і за імі ехала некалькі фурманак. Ці мела гэта якое дачыненне да таго, што немцы павезлі некуды сумліцкіх дзяўчат і хлопцаў, не ведалі, але некаторыя яшчэ больш уныл і душою, а некаторыя ўзрадаваліся. Прайшло не больш як двое сутак, і Нявада дайшоў выразнасці: нарэшце-такі! Волька вярнулася! Нявада аж пошапкам гаварыць стаў, так ён чакаў, што скажа Волька. А што яна новае сказала? Ён жа загадзя ўсё гэта ведаў! Ён жа казаў яму: жалезнага звера голым пальцам не задушыш. А трэба перахавацца і перачакаць, пакуль звера даб'юць. На гэта ёсць войска. Армія ж недзе павінна даць яму ў косці. А то — дзе гэта хто бачыў! Волька сказала, што Костусь з усімі, з кім ён быў разам, выходзілі на шашу, запынілі дзве нямецкія машыны, збілі з іх немцаў і на гэтых машынах вялікім гуртам дагналі тыя чатыры машыны з сумліцкімі хлопцамі і дзяўчатамі. Дзве заднія машыны яны збілі з дарогі, перабілі канвойных, і ўсе, хто быў пад канвоем, пайшлі з імі, пабраўшы зброю ад мёртвых немцаў. Але дзве пярэднія машыны вырваліся далей у дарогу і зніклі туды, куды ехалі. «Ліза асталася там, божа найвышшы!»

— А самога Костуся ты бачыла?

— Я была з ім разам.

— А сам ён прыйдзе дадому?

— Не, я да яго пайду.

— Ну то не чакайце мяне хутка. Я пайду ў дарогу. Можа, гэтая мая дарога будзе не меншая, як тая, што я

пекалі з нямецкага палону варочаўся, не нагамі я гэтую дарогу мераць буду, а душою. (Вочы яго пачырванелі, і ён дакрануўся да канца носа нацягнутым на кулак рукавом.)

— А куды ж ты гэта пойдзеш?

— Дык чаго ж ты так грозна пытаеш мяне? Ты і сама была малая і звалася Волечка. Я толькі пра цябе такую і думаю. Ці ты верыш, што чалавек не вытрымае, каб вечна быць зверам? Вырві ты з чалавека сэрца і ўстаў на яго месца звярынае, дык у чалавечых грудзях і звярынае сэрца стане чалавечым.

— Звер лагаднейшы за чалавека, ён, калі не галодны,— тады ён, як дробная птушка. А гэтаму двуногаму чорту вечна ўнімку няма.

— Каб адно пайшлося добра, я выратую Лізу і ўхаваю яе да лепшай часіны. Бывай, Волечка.

Твар яго ўздрыгваў. Ён узяў тонкі кіёк і выйшаў з хаты. Волька таксама выйшла з хаты, замкнула дзверы, вальней распусціла на галаве хустку і праз некалькі хвілін ішла ўжо сцежкаю ў полі.

## II

Часамі днём позняга лета пачынае хмурнецъ дзень, і гэта не збіраецца на дождж, а незаўважна падплылі павевы восені. Лёгкая плынь ветру зноў заціхне, і дзень зноў зіхаціць сонцам, але ўжо астаецца пячаць летняга адцвітання. У поўнай сіле сваёй цвітуць летнія кветкі, і трава адрастае пасля касы, а сэрца чуе, што не так ужо гудзе пчала над жоўтым малачайнікам, і вада ў рэчцы плыве, здаецца, цішэй. Яшчэ ў пачатку ліпеня бывае зжаўцее адзін-адзінюткі лісток на бярозе, і так ён сярод пышнай зеляніны трымаецца доўга. А ў гэты дзень ён адарвецца і кружыцца ў паветры, пакуль ляжа ў траву. К вечару пакідае звінець неабдымная шырыня летняга дня, і кладзецца цішыня па зямлю. Жоўты лісток з бярозы ляжыць у траве і відзён здалёку, і без яго, здаецца, не пахнуў бы так чабор, не такі прывабны здаваўся б верас і не было б такога вялікага шчасця ў душы бачыць траву і дрэвы, сіратлівы куст шыпшыны і вяршаліну высокай хвоі, на якой ціха ляжыць праменне блізкага да заходу сонца.

К вечару вецер сціх. І бязлюдная лясная дарога была зусім ціхая. У нізкіх месцах на ёй стаяла вада. Велічэз-

ная бяроза ўзнімалася і над дарогай і, здавалася, над усім лесам. Жоўты лісток з бярозы заблытаўся ў траве і вісеў у ёй. Многа было верасу, выносістыя хвоі ішлі ўгару, сонца ляжала на іх вяршалінах. Блізка быў вечар. Пры самай дарозе, у густым зарасніку ядлоўцу і крушыны, на паваленым навальніцаю і ўжо струхлелым дрэве сядзеў Сымон Ракуцька, еў хлеб і глядзеў на жоўты бярозавы лісток у траве. Ён быў нейкі нерухомы. Твар задумёны, маўклівы, жаваў ён павольна, як бы смакуючы або да чаго прыслухоўваючыся. Ці можа жоўты ліст абудзіў у ім журботны сум. Вечарэла. Час ад часу Ракуцька паднімаўся, вытыкаўся на дарогу, акідаў яе позіркам у два бакі і зноў адыходзіўся ў гушчар сядзець, жаваць хлеб і глядзець на жоўты лісток. Калі пачало змяркацца, ён узнепакоіўся: стаў часцей выглядаць на дарогу, схаваў у торбу недаедзены хлеб, скінуў боты, перакруціў на нагах анучы і зноў абуўся. Твар яго меў нахіл быць даўгаватым. Тыдняў два няголеная барада ўжо густа адрастала. Ужо добра ўмеркла, ужо і лісток ледзь відзён стаў, а чалавек трымаў сябе на гэтым месцы ўсё так жа. Ён быў як прывязан тут. Некалькі разоў засаб ён уздыхнуў. «Божа мой, божа мой». Здавалася, што яму цяжка тут чакаць таго, чаго ён чакае. Нарэшце, калі ўжо зусім сцямнела, ён выйшаў на дарогу і стаў у нерухомасці, прыпёршыся плячуком да вялікай бярозы. Ён не ўглядаўся, а толькі прыслухоўваўся. Над лесам засвяціліся зоры, а ён усё стаяў. І так, можа, некалькі гадзін. Ужо і зоры ночы позняга лета папялець сталі. Ён апошні раз уздыхнуў, успамянуўшы бога, знайшоў папацёмку сваё ранейшае месца пры паваленым дрэве, лёг на зямлю галавой на трухлявы ствол і адразу заснуў, як самы стомлены чалавек. Ні разу ён не паварушыўся, аж пакуль высокае сонца новага дня не засвяціла яму проста ў твар. Тады ён шпарка прахапіўся, затрапятаўся, плюнуў і ўздыхнуў і зноў вызірнуў на дарогу. Непамыты пасля сну і змяты твар яго быў шэры, і смутак ляжаў на ім. Ён дастаў з торбы абкусаны ўчора хлеб і зноў стаў есці яго. Цягавіта, як добры гаспадар ходзіць за плугам, ён зноў стаў акідаць у два бакі вачыма дарогу і зноў час ад часу садзіўся на паваленае дрэва. Прыйшла хвіліна яму, нарэшце, пачуць штосьці такое, чаго ён можа так доўга і чакаў тут. Гэта ішоў хтосьці паблізу. Тут выразна чулася чалавечая хада: ціхая ў самой сабе і лёгкая, але яна чутна была здалёку, вядома ў лесе, дзе пад нагамі

ўсяго многа. Твар у Ракуцькі адразу ажыў, як толькі ён пачуў нечую хаду. Здаецца, рукі яго задрыжэлі. Позірк пацвярдзеў, і настава выпрасталася. Ён прыліп да вялікай бярозы над дарогаю, сярод такіх жа вялікіх хвояў і пачаў углядацца туды, адкуль чуўся чалавек. Дзень быў ужо ў самай сіле. А ўдзень, калі ціха, у лесе здалёку чуваць. Так што гэтаму чалавеку прыйшлося доўга чакаць, пакуль наблізіўся той, хто недзе тут ішоў. З-за свайго дрэва Ракуцька ўбачыў незнаёмую яму постаць дзіўнага выгляду. Гэта быў малады чалавек з парыжэлымі ад сонца валасамі на галаве і палупленай ад ветру скурай на твары. Ён быў такі бледны, што яго не брала загара, і такі худы, што адзежына на ім матлялася як на калу. А ішоў ён так павольна і так яго вадзіла ў бакі, што льга было думаць, што ён некалькі тыдняў нічога ў рот не браў або яго месяц мучылі і спаць не давалі. Ён вяла, як не свае, пераставляў ногі і прысутульваўся ідучы. На твары яго было напісана гэтулькі абыякавасці да ўсяго навакольнага і да ўсіх мэт, калі яны былі ў яго, што было падобна, што ў яго навек патухлі ўсе жаданні і імкненні. Сымон Ракуцька бачыў гэты холад на маладым твары невядомага падарожнага і пачаў траціць сваю ранейшую ажыўленасць. Ён хутчэй дзівіўся, чым трывожыўся, або ўзбуджваўся. Ён стаяў і чакаў, пакуль невядомы падыдзе блізка, каб ціха гаварыць з ім, а не крычаць яму здалёку. А той, пакуль прыклыбаў да вялікай бярозы, Ракуцька паспеў даесці хлеб і скруціць у жмут пустую торбу.

— Стой, хто? — рашуча сказаў Сымон Ракуцька і толькі цяпер заўважыў, што адзежа на маладым незнаёмцу ўся матляецца шматкамі, зіхаціць дзірамі і што голае цела пабліскваe праз дзіры. І ніводная дзіра нідзе не латалася, і ўсе гэтыя транты вываленыя ў зямлі і выфарбаваны ў колеры зялепіва і ляснoй цвілі.

Невядомы ўздрыгануўся, але адразу ж ізноў унурыўся і спыніўся перад Ракуцькам.

— Куды ты ідзеш, і хто ты такі? — даволі-такі мякка сказаў Ракуцька.

Невядомы маўчаў, як бы мову яму зацяло. Ракуцька бачыў: некалькі разоў ён праглынуў сліну і язык яго не варочаецца, каб сказаць што-небудзь. Ён быў падобен на вельмі хворага чалавека. Сэрца ў Ракуцькі зашчымела. Ён дакрануўся да рукава незнаёмага абарванца і бадай-што шэптам прагаварыў:

— Дык што ты? Захварэў ідучы?

Незнаёмец шпарка перавёў вочы з зямлі на Ракуцькаў твар. Здавалася, што ён як бы ўстрапянуўся. І гэта, напэўна, так і было. Не дзіва: калі ў пустэльні загучыць чалавечы голас ад сэрца, то, здаецца, ён можа падняць на ногі мёртвага.

— Ці няма тут дзе поблізу, каб мясціны прымятае: паляжаць.

— Унь! — ткнуў Ракуцька пальцам у гушчар. Невядомы з такім выглядам, як бы ён быў тут адзін, адразу сунуўся туды і адразу лёг пры паваленым дрэве на ўмятую ў зямлю траву. Гэта было тое месца, дзе ўночы спаў Ракуцька. Малады абарванец заснуў адразу, як толькі заплюшчыў вочы. Ракуцька паглядзеў на яго, уздыхнуў і зноў выткнуўся на дарогу, каб наглядаць яе. Учарашняга жоўтага лістка ўжо не было, а на яго месцы ляжалі два свежыя, і трэці кружыўся ў паветры.

— І восень падкралася, божа мой найвышшы,— уздыхнуў Ракуцька і пільным вокам акінуў дарогу ў два бакі. На дарозе было пуста, але ўзнімаўся вецер, і ў дрэвах загуло і зашапталася. Ракуцька пачаў часцей вытыкацца на дарогу. Надвечар надвор'е схмурнела і вецер аціх. Малады абарванец ужо сядзеў і вяла вадзіў навокал сябе вачыма. Ракуцька, здавалася, забыўся пра яго: стаў неспакойны і не сыходзіў з дарогі. Нават раз ён шаптаў сам сабе: «дзесяты дзень, жартачкі! І няма». І вось зноў настаў момант: нехта шпарка і шумна ішоў дарогаю. Ракуцька застыў на месцы. Расчырвонены і спацелы падарожнік неўзабаве быў тут. Ракуцька шпарка рушыў яму насустрач, і яны імкліва абняліся. Гэта быў Тамаш. Ён быў у ботах і пінжаку паверх рубашкі, і торба з хлебам вісела на яго левай руцэ.

— Я дзесяць дзён усё стаю на гэтым месцы,— сказаў Ракуцька.— А цябе доўга не было.

— Бо мне было нялёгка дабіцца пад Перабродскую Злыбяду. Там густа нямецкія гарнізоны стаяць і на дарогах варты многа, дык я такога даваў кругу, што ўтройчы дарога мая пабольшылася.

— Ну што, як там?

— Гэта праўда, што там лагер для забраных немцы зрабілі. Кажуць, што ў лагеры пяць тысяч людзей, але цяпер менш, бо нядаўна, можа, больш як палавіну пагналі недзе на работу. А хіба льга дазнацца — асталася яна ў

лагеры ці на рабоце? Я падбіраўся пад самы лагер. Уночы я ляжаў у траве і глядзеў на калючую загарадзь. Калі ісці з поўдня, то льга праз куп'істы торф падысці ціхом, і ніхто не заўважыць. Там бадзяюцца людзі: у таго жонка, а ў тае муж у лагеры. Ну добра. Я туды зноў вярнуся, мяне чакаюць. Я ім расхваліў удачу, калі толькі гэта праўда, што з гэтага боку варушацца людзі. Ты, мусіць, тут дзесяць дзён сядзеў і нічога не дазнаўся?

— Як гэта не! Я, праўда, сам не быў там, пад Сумлічамі, але гэта праўда, што там людзі варушыцца пачалі. Праўда і тое, што на шашы, ці недзе там ля Вялікага скрыжавання, яны дзве машыны з арыштаванымі ад немцаў адбілі. Я нават больш дазнаўся. Гэта там сабраў іх усіх сумлічанін Кастусь Лукашэвіч, а ў гэтага Лукашэвіча дачка, малая яшчэ, у лагеры сядзіць. Цяпер там, пад Сумлічамі, немцы салдат больш наслалі і вынюхваюць усе норы, каб напасці на след. Дык яны, тыя сумлічане, сюды падбіраюцца, тут быццам вальней. Вось і раскідай розумам як хочаш. Яны далі мне так ведаць. Калі я захачу яшчэ з імі пагаварыць, то на Вялікім скрыжаванні трэба толькі знак ім падаць, а знак такі: трэба там пад вялікім дрэвам тры разы засаб зрабіць што-небудзь такое, чаго сталы чалавек ніколі не робіць, і чакаць, пакуль хто-небудзь ад іх абзавецца. Але мне сказалі: пасябруюцца яны з намі толькі тады, калі ў нас кулакі здаровыя знойдуцца. А так, калі толькі каб пабедаваць — дык яны і гаварыць не будуць.

— Дык гэта і добра. Ідзі туды, зрабі там пад дрэвам, чаго добрыя людзі не робяць, і скажы, што я ведаю, з якога боку і калі падысці да лагера. Я павяду ўсіх. Няхай ідуць сюды, адгэтуль бліжэй і зручней. Я пайду і прывяду сюды людзей. І мы тут спаткаемся, каб разам ісці на Перабродскую Злыбяду.

— Добра.

— Я толькі падрамлю тут, і заўтра зранку разыдземся кожны ў свой бок.

— Ну, а Лізаветы нідзе так і не чуваць?

— Няма.

— Божа мой найвышшы, як жа так брыдка павярнулася ўсё.

— Чакай, давай лепш паямо з мае торбы і падрэмлем. Дзе тут каб зацішней.

Тамаш страсянуў сваю торбу на руцэ і ступіў крокаў тры ў гушчар. І адразу спыніўся як аслупянелы. Там ся-

дзеў малады абарванец з вялым позіркам. Каб не празмерная хударлявасць яго твару і каб не смуглявая загарэласць Тамашовага твару, можна было б адразу сказаць, што яны аднагодкі.

— Што ты тут робіш, хто ты?! — абрывіста і моцна сказаў Тамаш.

Абарванец паволі крутнуў направа і налева галавой, і за яго адказаў Сымон Ракуцька:

— Божа мой, я забыўся, што ён тут сядзіць, а мы ўсё гаварылі!

— Хто ён такі?

— Каб жа я ведаў. Дарогаю ішоў. Паспаць папрасіўся.

— Гэта ж не хата, што каб начаваць прасіліся! Хто гэта ў каго просіцца спаць пад куст!? Э ты, ну абзывайся, не маўчы, кажы, хто ты такі?!

— Есці дайце,— сказаў невядомы.

— На табе хлеба і сала,— Тамаш падсунуў яму яду,— але кажы, хто, адкуль? Куды цягнешся, да каго? Каму служыш? Каму служыш, немцам ці людзям? Ну, чаго ж ты жуеш моўчкі?! (Тамаш падняў кулак.) Расказвай усё чыста! А то зараз больш не дажджэш на зямлі сядзець! Калі што ўтоіш — на месцы палажу! (Тамаш выцягнуў з кішэні пісталет.) Спавядайся!

Малады абарванец зварухнуўся. Па яго твары пайшла хваравітая грымаса. Ён наморшчыў лоб і пачаў:

— Я ўсё чуў, што вы паміж сябе гаварылі. Я ведаю, хто вы, і кажу вам: і я ненавіджу тое і таго, што і каго вы ненавідзіце. Але я скончу есці і тады пачакаю і раскажу ўсё пра сябе. Бо я так згаладаўся і аслабеў, што ледзьве сядзець магу, ні тое, каб доўга гаварыць.

— Так і кажы, што гаварыць не хочаш!

— Не, не, я сам хачу паспавядацца, тады з мае душы спадзе цяжар, які душыць мяне.

— Скажы коратка: па кім-небудзь у цябе душа баліць?

— Па самім сабе.

— І нікога ў цябе няма? — выйшаў з панурасці Сымон Ракуцька.

— Няма.

— Дзе ж ты ўсіх патраціў?

Той маўчаў. Тамаш стаяў над ім і не спускаў з яго вачэй. Сымон Ракуцька пачуваўся так, быццам зараз лясне над ім гром. Малады абарванец так увайшоў у сябе і дум-

камі сваімі і пачуццямі, што, здавалася, ён і позірк вачэй сваіх паставіў у сярэдзіну самога сябе. Вочы яго і сапраўды ў гэты момант глядзелі самі ў сваю глыбіню. Пачалося маўклівае чаканне. Невядомы раптам ірвануўся на ногі, адзін момант пастаяў і сеў на паваленае дрэва. І як толькі сеў, з першай жа секунды пачаў гаварыць:

— Я завуся Люцыян Акаловіч. Спавядаюся вам ад сэрца, бо можа я ў свае дваццаць год ужо дажываю апошнія дні свайго жыцця. Я радзіўся там, дзе і вырас, гэта дробны фальварак паміж Клецкам і Нясвіжам, бліжэй да Клецка. Гэты фальварак мой бацька арандаваў з дзевяцьсот дваццаць першага года. А ў дваццатым годзе мой бацька, разам з маею, цяжарнаю мноіі, маткаю, выехалі туды, пад Клецак, следам за польскім войскам, якое адыходзіла з усходняй Беларусі на захад. Мой бацька пакінуў над Бабруйскам свой невялікі маёнтачак, дзесяцін на сто. У гэтым маёнтку датуль і праходзіла яго жыццё. Мой бацька меў многа польскіх грошай і каля Клецка адразу заарандаваў фальварак, мог бы яго і купіць, але ён меў думку, якая не дазваляла яму рабіць гэтага. Думка яго была такая, што ён належаў да тых небагатых землеўласнікаў, якія былі ў блізасці з вялікімі тутэйшымі зямельнымі магнатамі цераз польскую думку. Спачатку гэтая думка была такая, што Польшча павінна быць ад мора і да мора. А калі прыйшлося ўсім выехаць на выгнанне ад бальшавікоў, то думка гэтая стала такой: ад мора да мора як сабе там хоча, а самае важнае, каб Польшча стала шырэй — ад Нясвіжа да Бабруйска, каб хоць так, тады можна будзе вярнуцца ў свае маёнткі. Тады пачалася мара аб пашырэнні Польшчы на ўсход хоць на малую разлегласць. Арандуючы фальварак пад Клецкам, мой бацька толькі і думаў, што аб звароце ў свой маёнтачак. А дзеля гэтага ідэя пашырэння Польшчы на ўсход стала яго як бы мэтай у жыцці. І ўсё сваё жыццё ён гэтага чакаў. Раней ён проста жыў, а з гэтага часу пачаў ненавідзець усё, што не польскае. Радзіўся і пачаў расці я. Мне бацька і прышчапіў свае жаданні. Яго думкі сталі маімі думкамі, калі я даростаў ужо да свайго юнацтва. Я вырас з думкаю: калі-небудзь адбудзецца паход на ўсход і Польшча асталюецца па ўсёй усходняй Беларусі. А з слова «Беларусь» мы смяяліся. Ніякаі Беларусі няма, а ёсць Польшча! Гэта была і мая вера. Я скончыў гімназію і праходзіў факультэт у Вілен-

скім універсітэце і мог стаць высокаасвечаным юрыстам, але шчасця не было ў душы маей. Бо я вечна думаў пра тое, што недзе каля Бабруйска ёсць месца, якое чакае мяне і дачакацца не можа і што там гучыць мова такая, якая там ёсць, і гэта мае няшчасце, бо мне трэба, каб там анічога (нават і шум ветру) не чулася, а толькі каб з таго месца, а не з Варшавы каб гучэла толькі польская мова. Я любіў той фальварак пад Клецкам, але ён жа быў і маей атрутай. Там ёсць нізкае і шырокае дрэва, клён, які ўрэзаўся ў маю душу змалку, але і ён мне здаецца нечым несапраўдным, хоць мне і цяжка ведаць, што можа ўжо я ніколі там не буду і гэтага дрэва не ўбачу. «Усё гэта так сабе, а сапраўднае там, на ўсходзе, дзе павінна стаць Польшча». Так мне здаваўся ўвесь свет, і я жыў як сярод прывідаў і зданяў. Тым часам у нас пачалося расчараванне, бо ніякага паходу на ўсход не было, а годы ішлі, і мой бацька стаў старым чалавекам. Мы пачалі думаць супроць нашага ўрада, бо ён яшчэ ўсё не скамандаваў войску рынуцца на ўсход. А тут з'явіўся стары афіцэр пагранічнай службы Паліводскі, які дзеля сваіх мэт перавёўся з усходняй граніцы на граніцу з Германіяй. Мэты яго былі такія: ён быў у змове з нямецкімі агентамі і стаў завярбоўваць нашу моладзь для ўдзелу ў тым паходзе на ўсход, які пэдрыхтоўваўся ў Германіі. Служачы на германскай граніцы, ён сам накіроўваў нас у Германію праз граніцу, а там нас аддавалі ў школы шпіёнаў, змоўшчыкаў, агітатараў і дэсантнікаў. Я пайшоў на гэта вельмі ахвотна, мой бацька благаславіў мяне ў дарогу і сказаў, што Паліводскі не які-небудзь адзінокі авантурыст і што яго добра ведае нават такая высокая асоба, як міністр Бэк. Адным словам, я пакінуў, як цяпер сам бачу, бацьку і матку, клён у фальварку і замілаванасць да навукі ў Віленскім універсітэце, сваю маладосць і жыццё будучае маё ў сталасці, сціснуў зубы і рынуўся, як мы ўсе думалі, насустрач нашай будучыні, якую мы спадзяваліся знайсці, трымаючыся за абцас нямецкага бота. Паліводскі быў нашым шэфам. Ён наведваў нашы школы і казаў нам, што служыць Германіі цяпер — гэта значыцца, дбаць аб Польшчы. У тыя часы ён ужо зусім пакінуў службу ў польскім войску, а служыў і жыў недзе ў самой Германіі. А тым часам нас вучылі не толькі шпіёнству, а і ўлівалі ў нас па кроплі атруту спачатку абыякавасці, а пасля і непрыязні да Польшчы.

Ужо тады я пачынаў задумвацца над усім гэтым, але трымаўся, зацяўшы душу, бо спадзяваўся на прыход будучыні, калі мы паможам Германіі пакласці пад польскія ногі ўсходнія землі. Восень дзевяцьсот трыццаць дзевятага года нас пратрымалі пад пільным наглядам, і, калі Польшчы ўжо не было, мы вытрымалі экзамен на гатоўнасць да вялікага паходу па ўсход. Нарэшце гэты паход пачаўся. Больш як за месяц да яго я перайшоў ля Брэста граніцу і пабраўся сюды, прайшоўшы праз той мой фальварак каля Нясвіжа і Клецка. Бацька, маці і старая жанчына, мая былая нянька, і цяпер благаславілі мяне. Бацька мне сказаў: «Як толькі Германія знішчыць Савецкую дзяржаву на ўсходзе, то Польшча зноў устане». Я не задумаўся, адкуль бацька ведае гэтакую праўду, і рушыў далей на ўсход. Я бадзяўся па полі і лесе, адзічэў і чакаў. Калі Германія рынулася на ўсход, я калаціўся ад радасці. За гэтую радасць нейкі чалавек на дарозе даў мне жалезам па галаве. Я зваліўся і некалькі тыдняў качаўся каля дарог, баючыся кожнага чалавека і разам з сабакамі і свіннямі едучы траву і ўсялякае паскудства ў ямах і канавах. Мяне апанавала крываўка. Я ляжаў тры тыдні пад кустамі і вылечыўся голадам. Але лежачы так, я захаладзіўся і, мусіць, перанёс запаленне лёгкіх. Дык я пачаў лячыцца сонцам. І вось ужо трэці дзень, як цягнуся пакрысе. Зайсці куды да людзей мне няма як. Мяне могуць забіць, калі дазнаюцца, хто я такі. Але мне цяпер ужо ўсё роўна. Будучыня мая прыйшла, вось яна якая! Як валачашчы сабака, адзін і без нáраду, без надзеі і веры. Пазаўчора я яшчэ думаў дабрысці як-небудзь да таго фальварка, ужо ішоў у той бок і напаткаў на дарозе жанчыну адтуль, яна шукае сваіх дзяцей. Ад яе я дазнаўся, што маю матку немцы спалілі жывую ў доме, а бацьку павесілі перад домам з падазронасці, што яны нібыта кагосьці хавалі. Я спрабаваў прыстаць да немцаў, якім я ўжо зрабіў сваю справу. Але ж я і не немец, і не паляк, а тутэйшы, з-пад Клецка. У душы ў мяне так жа пуста, як і ў кішэнях. За плячыма ў мяне ганьба, а перад вачыма пустэча. Немцы мяне страляць хацелі, я ледзьве ўратаваўся.

— Бо ты,— абазваўся Сымон Ракуцька,— па-сабачы спадзяваўся на сваё шчасце. Няхай бы ты зерне сеяў і хлеб жаў, а то ты бачыў сваю радасць у тым, што нехта поўдзе, як ты кажаш, на ўсход, чалавечыя косці трушчыць і кроў ліць. Як свет стаіць, то яшчэ не было вядо-

ма, каб на нянавісці вырасла шчасце, а радасць на чужой бядзе.

— Дык куды ты цяпер маеш ісці? — панура запытаўся Тамаш.— А ці ведаеш ты, што калі разабрацца, то я сам павінен быў бы табе адразу галаву зняць за тое, што я вырас без права чалавекам звацца на сваёй роднай зямлі!

Акаловіч змоўчаў, а пасля адказаў:

— Куды маю ісці? Мне цяпер трэба, каб хто павёў мяне за руку. Але ў мяне ажывае і ўжо гарыць прага расквітацца з Паліводскім. Ён згубіў мяне. І не толькі мяне аднаго ён пацягнуў на гэтую сцежку.

— А Паліводскі хіба чуцён дзе!? — ажывіўся Сымон Ракуцька.

— Паліводскі начальнік акругі. І цяпер бывае часта ў тым сваім маёнтку, які калісьці прагуляў у карты, калі мяне яшчэ на свеце не было. Я спатыкаў тут нашых, а яны ведаюць. Гэты маёнтак тут, па гэтай самай дарозе, мне казалі, там ідуць радзей хваёвыя лясы. Маёнтак захаваўся цалкам, і дом, і паркі, і сады, і ўся будоўля. Але пакуль Паліводскі ўспомніў пра маёнтак, ваенны начальнік акругі абгледзеў яго і хоча сабе прысвоіць. Паліводскі жыве ў маёнтку і спрачаецца з ваенным немцам.

— Але куды ты ідзеш?! — крыкнуў Тамаш.

— Я іду ў той маёнтак. Можа мне там пашанцуе расквітацца з Паліводскім!

— А тады што?

— А тады куды закіне вецер, або хоць канец.

— А дзе табе жалезам галаву растаўклі?

— У Вялікім скрыжаванні.

— Ты там доўга быў?

— Я там перабыў усе свае хваробы.

— Што там чуваць? Каго ты там баяўся?

— Немцаў баяўся, ім стараўся на вочы не трапляцца. Яны і слухаць не хацелі, што я ім служыў. Тамашніх людзей баяўся. Там нейкі Лукашэвіч чуцён. Якраз на Вялікім скрыжаванні, калі я яшчэ ў тым баку быў, ён напаў на цэлую калону нямецкіх грузавых машын, і ўсе яны там на дарозе і асталіся. Я дрыжаў, каб і яны мяне не ўбачылі дзе. Вось я, як голы, тут перад вамі, я нічога не ўтаіў і нічога не выдумаў. Я даўно ўжо так не еў, як цяпер з вашых рук.

— У цябе зброя ёсць?

— Аніякае.

— А чым жа ты з Паліводскім квітацца будзеш?

— Я там на месцы што-небудзь прыдумаю, а так мне смялей ісці.

— Вывернi кішэні і пакажы пазухі.

— Добра... Добра...

— Ну вось так. А цяпер скажы, як на споведзі: уночы не ўцячэш, калі цябе не вартаваць?

— А куды мне ад вас уцякаць?!

— Ну дык кладзіся на траву і спі, бо ўжо вечар нахапіўся. Яшчэ пакуль сонца зойдзе, можаш выспацца.

Акаловіч скруціўся ў жмут і стаў густа дыхаць у ствол павалепага дрэва. Бліжэй к дарозе лёг Тамаш. Сымон Ракуцька прыпёрся плячыма да бярозы і задрамаў. Ноч прайшла, як адзін момант. Першы прахапіўся Сымон Ракуцька і штурхануў Тамаша.

— Пакідаю яго табе,— сказаў Тамаш да бацькі і паказваючы на соннага Акаловіча.— Каб ён нам не нашкодзіў.— Яны абняліся і пацалаваліся, і Тамаш адразу рушыў у дарогу. Ракуцька штурхануў Акаловіча. Той шпарка заварушыўся і ўстаў, нейкі занадта рухавы.

— Мне трэба ісці зараз,— сказаў Ракуцька.

— І я пайду,— узбуджаным тонам абазваўся Акаловіч.

— Куды?

— Я з'яўлюся да Паліводскага і вазьму яго за горла.

— А чаго ты такі трапяткі сёння стаў? Учора ты быў вялы, як п'яўка.

— Мне сёння лягчэй. І на душы лягчэй, калі я скінуў з яе камень гаворкаю з вамі. Мне можна ісці?

— Пачакай, пачакай. Я цябе павінен тут раней прыкончыць, а ты сабе ідзі куды хочаш. Гэта ж і ты абкрадаў мяне, калі ад мяне ўкралі маіх дзяцей!

Сымон Ракуцька дастаў з-пад жакеткі рэвальвер. Акаловіч набялеў і астаўся стаяць. Ракуцька прыгнуўся ў куст і развязаў торбу.

— На і ты жуй, выварак чартоўскі!

Сонца яшчэ не дайшло да паўдня, як Акаловіч папрасіўся ў Ракуцькі, каб той дазволіў яму ляжаць. Ракуцька кіўнуў галавой. Акаловіч быў, мусіць, вельмі абыякавы да свайго стану, бо, як толькі лёг, адразу заснуў, зноў носам у ствол паваленага дрэва. Ракуцька паглядзеў на яго і сеў каля свае торбы. Чалавек, які доўга быў толькі сам з сабою, можа мець прывычку гаварыць сам сабе. Сымон Ракуцька мыляў губамі і шаптаў сабе пад нос: — Як

сонца ніжэй сплыве — пайду ў дарогу, каб ісці да позняй ночы. А што з гэтым безгалоўным прайдзісветам рабіць, перуны яго ведаюць. Можа застрэліць падлу?..— Ракуцька абмацаў свой рэвальвер і ўбачыў, што Акаловіч спіць, як уліплы ў зямлю. Ракуцька паглыбіўся ў свае думкі і сцішыўся. Лёгкая дрымота агарнула яго, а пасля ён і прыснуў трохі. І можа нават больш як трохі, бо, прахапіўшыся, убачыў, што сонца ўжо куды ніжэй стаяла. Шпарка ўстаў ён і з раптоўнай трывогай убачыў, што торбы з хлебам каля яго не было. Машынальна кінуў ён вачыма да паваленага дрэва. Ніякага там Акаловіча таксама не было, адно прымятая трава сведчыла, што на ёй ляжаў чалавек. Ракуцька ўтрупянеў. Азірнуўшыся на ўсе бакі, ён у момант сабраўся ў сваю дарогу. Месца гэтае асталося пустое і аставалася так, можа, больш за тыдзень. За гэтыя дні з бярозы нападала на дарогу многа жоўтых лісткоў. Кожны раз надвечар, калі яснае сонца перад заходам сваім прабівалася праз вяршаліны лесу і свяціла на дарогу, жоўтае лісце вельмі яскрава выбівалася з зялёнага колеру травы. Аднойчы ў гэты час дня да гэтага месца падышоў Нявада. Ішоў ён роўнаю і размеранаю хадою, і адзежа на ім, той самы выцерты плашч і ўсё іншае, абтрапалася, абшморгалася аб зямлю і траву. У вялікай адзіноце ён стаяў пасярод дарогі над жоўтым лісцем і некалькі разоў уздыхнуў: «Божа мой, божа, восень». Пасля той жа ранейшай паходкай рушыў далей і скрыўся ў прыдарожных дрэвах. Яшчэ праз колькі дзён гэтай ляснай дарогай прайшлі два нямецкія танкі і густа абстралялі лес паабапал дарогі. А пасля гэтага назаўтра тут праехалі чатыры грузавікі, паўнюткія нямецкімі аўтаматчыкамі. Следам за грузавікамі ішла лёгкая машына. У ёй сядзеў нямецкі афіцэр, узросту сярэдняга і такой жа афіцэрскай годнасці. Аўтаматчыкі таксама абстралялі лес паабапал дарогі. Пасля гэтага яны праскочылі праз лес назад і паімчаліся шляхам на захад. Даехаўшы да Вялікага скрыжавання, яны выкіраваліся на шашу і спыніліся на абочыне. Афіцэр закамандаваў чакаць. Салдаты паселі на адкосах, гаварылі, смяяліся і курылі.

У той жа самы дзень ранішнім цягнікам з захаду ў Баранавічы прыехала пара пажылых немцаў, ён і яна. Яна яго называла Густавам, а ён яе Гертрудай. Кожнаму з іх было год пад шэсцьдзесят. Паважна гэтая пара выйшла на пляц перад ганкам Баранавіцкага вакзала, і ён некаль-

кі разоў пільна азірнуўся, а да яго ўжо ішоў з роўнай выпраўкай плячысты і разам з тым тонкі ў стане, з вясёлым тварам, і, здаецца, вельмі жыццярадасны чалавек у вайсковай форме, але, можа, ён і не быў чыстым вайскоўцам, бо некалькі чалавек цывільных чыноўнікаў абкружвала яго. Ішла за ім і вайсковая ахова — салдаты з аўтаматамі і з іншаю зброяй. Гэта быў нейкі паважны чын, з усяго было відаць. Ён подбегам падышоў да таго, каго Гертруда звала Густавам, і яны абняліся і пацалаваліся. Сама Гертруда з роўнай усмешкай на сціснутых губах абняла санавітага чалавека і назвала яго таксама Густавам. А той адказаў старой жанчыне доўгім пацалункам і пад руку падвёў яе да машын, што стаялі з левага боку ад ганка. Ён пасадзіў Гертруду і Густава ў адну з машын, і побач шафёра сеў аўтаматчык. Сам ён з двума аўтаматчыкамі сеў у другую машыну. Гэтыя дзве машыны пайшлі следам за трыма грузавікамі з салдатамі, а за імі пайшлі яшчэ тры грузавікі з салдатамі. Так усе гэтыя пасаджане выехалі з Баранавіч на Сіняўку і далей проста імчаліся па Маскоўска-Варшаўскай шашы, на ўсход. Ехалі яны доўга без прыпынку і толькі спыніліся на Вялікім скрыжаванні. Пакуль шафёры правяралі машыны і надзімалі шыны, Густаў старэйшы высунуўся з машыны і ўглядаўся ў вялікае дрэва. На твары яго ляжала пячаць здзіўлення, напружання думак і як бы смутку, але пасля твар яго запаланіла рыса ўпэўненасці, спакою і разам з тым цікаўнасці і халоднай разважлівасці. Было падобна, што на яго найшло многа жыццярадаснай самаўпэўненасці ад санавітага Густава маладзейшага, які ў гэты час праходжваўся па шашы, а пасля падышоў да старэйшага Густава. Зноў, як на Баранавіцкім вакзале, пачулася паміж імі нямецкая мова. Маладзейшы Густаў гаварыў так, быццам захлёбваўся. Старэйшы гаварыў спакайней. Ён выказаў думку, што яго агортвае неспакой душы і што яго мучыць трывожнае ўражанне, што ён ужо калісьці бачыў гэтае дрэва. Як страшны кашмар пануе ў ім над усім выразнае ўяўленне гэтага велічэзнага дрэва. Больш таго. Нават дома, у Германіі, праз добрыя два дзесяткі год, часта яго душылі начамі цяжкія сны, і ў кожным сне заўсёды, над усім хаатычным і кашмарным, узвышалася гэтае дрэва і унь той нават сук з палявым каршачком на ім. Божа, як усё выразна, дакладна і ясна! Унь жа на суку сапраўды сядзіць каршачок! Стары Густаў аж уздрыгануўся. Гертру-



Аўтарскі малюнак да рамана «Пошукі будучыні».

да хапіла яго за руку і сама скаланулася. Густаў маладзейшы стаяў прыбянтэжаны.

— Нічога дзіўнага няма,— сказаў ён, каб падбадзёрыць і падвесяліць старога.— Бывае, што сны што-небудзь такое пакінуць у галаве і пасля здаецца... Сны яшчэ не даследаваны навукай.

— Не,— адказаў Густаў старэйшы,— гэтае дрэва я сапраўды ўжо раз бачыў. На гэтым самым скрыжаванні дарог я тады ўпаў хворы, калі ў тую вайну мяне рускі салдат вёў у палон. Божа мой, зноў лёс прывёў мяне сюды!

Гертруда ўздрыганулася і прыліпла да пляча свайго Густава. Губы ў яе дрыжэлі і голас перарываўся:

—Я ведаю, чаму мы да канца дарогі не едзем цягніком, а перасядалі ў машыны. На цягнікі нападаюць невядомыя.

— Няма нічога дзіўнага,— строга сказаў стары Густаў.— Цяпер вайна, а мы ў заваяванай краіне. Ты ж бачыш, што на машыне нас ахоўваюць грузавікі з салдатамі.

— Ты баішся, што я зноў пачну нашу старую спрэчку? Дык ведай: больш я ніводным словам не папікну цябе, але доўга тут не буду і назад у Германію паеду. Заваяваную краіну павінны асвойваць салдаты, а не жанчыны. Куды ты вязеш мяне?!

Яна ўжо гатова была плакаць. Густаў выйшаў з цярплівасці. Ён схмурнеў і шпарка прагаварыў:

— Ты немка, ці ты не дачка вялікай Германіі?!

— А ты,— аж затрэслася яна,— хіба заўсёды быў немцам? Нават у лепшыя маладыя годы ты размякнуць мог, як гліна, і аддаваў чужаземцам і ворагам Германіі тое, што павінен быў бы прынесці ў Германію! А ты мяне папікаеш? Тады б мы не шукалі шчасця ў гэтай невядомасці, а мелі б шчасце дома.

Стары Густаў аж пазелянеў і сціснуў зубы. Маладзейшы Густаў сказаў да Гертруды:

— Мама, мы заваявалі гэтую краіну вялікай Германіі. Праз пяцьдзесят, праз сто, праз дзвесце год тут стане каронная Германія. І не трэба ператвараць наша падарожжа ў дакляраваную нам лёсам зямлю ў падарожжа вечных валаводнікаў, якія едуць з суда.

— Сын мой, але ж мне страшна, мы не можам ехаць без такой моцнай аховы.

— Гэта нічога. Яшчэ месяц, яшчэ два, і ўсё ўвойдзе

ў норму. Тут жывуць не людзі, а казюлі з нявольніцкай псіхалогіяй. Яны створаны, каб быць слугамі. Павесь над іхнімі галовамі меч, дык яны адразу ўверуюць, што гэта не меч над імі, які кожны момант можа загубіць іх, а што гэта вісіць найвялікшая справядлівасць усей светабудовы, і пачнуць з удзячнасцю лізаць боты ў таго, хто павесіў над імі гэты меч. Вось хто насяляе гэтую зямлю. Так што ты, бацька, сапраўды тады дарэмна быў перад імі паддаўся парыву радасці і не захаваў да канца сваю нямецкую вытрыманасць. Хіба хто калі будзе дзякаваць курыцу за тое, што яна глынула муху, якая кусала цябе? Ад курыцы бяруць яйкі і ні за што яе не дзякуюць. А ты да таго быў страціў сваю нямецкасць, што аддаў ім здабытае на вайне. Чаму? А толькі з-за таго, што заварушылася душа. Германію зробіш вялікай не душой, а жалезам.

Відаць было, што Густаў маладзейшы ніяк не мог забыцца на нейкую памылку, зробленую калісьці Густавам старэйшым. Як бы там ні было, але гэтым самым ён давёў да спакою Гертруду. Яна больш не скардзілася і не сціскала губы, а з цікаўнасцю пачала паглядаць наабапал дарогі. Машыны і грузавікі з салдатамі рушылі далей. Яны пакінулі за сабой Вялікае скрыжаванне, з'ехаўшы на шлях кірункам туды, куды раней пайшоў быў Сымон Ракуцька, калі следам за ім гналася вайна. Так што праз малы час машыны, едучы бесперапынна, нікуды нідзе не зварочваючы з шляху, уехалі ў лес і неўзабаве апынуліся ў тым месцы, дзе не вельмі даўно Акаловіч спавядаўся Сымону і Тамашу Ракуцькам і дзе праходзіў кудысьці да свае мэты стары Нявада. І цяпер было ціхае гэтае месца, толькі машыны парушылі яго спакой. Бяроза ўсё так жа кідала на вецер жоўтыя свае лісты. Іх ужо было многа на дарозе і ў траве. Сонца асвятляла іх, птушкі пырхалі крыллем над гэтым месцам, і цягнула пахам прыгрэтай сонцам травы і смалы. Стары Густаў і Гертруда высунуліся з машыны тварамі і аглядалі дрэвы і зямлю.

— О колькі гною,— прыйшоў у захапленне Густаў.— Колькі гектар зямлі можна ўгнаіць лісцем з сотні такіх бяроз?

— Я думаю, што нямала гектар,— адказала Гертруда, і паміж імі зноў усталявалася згода. Машыны неўзабаве зніклі з гэтага месца, і зноў тут стала ціха. Змрокам таго дня на гэтым месцы зноў з'явіўся Сымон Ракуцька, і не адзін. З таго самага боку, адкуль шляхам праз лес праеха-

лі нямецкія машыны, ён вёў за сабою многа людзей. Усіх было, можа, крыху менш як паўтары сотні. Яны ішлі ўсе адзіным гуртам, калі сабраліся на гэтай лясной дарозе. Збіраліся яны яшчэ з учарашняга дня на прылессі, і некаторыя з іх бачылі тут нямецкія і танкі, і машыны. Адзін за адным яны ішлі, расцягнуўшыся бадай-што па кіламетр. Самы пярэдні ішоў Сымон Ракуцька. Далей вялікай бярозы на шляху праз лес ён не пайшоў. З сярэдзіны ланцуга выйшаў убок Кастусь Лукашэвіч у той жа самай рудой жакетцы і ботах, як тады апошні раз гаварыў з Нявадам. Усе людзі збочылі з дарогі ў лес, спускаючы з плеч свае аўтаматы і вінтоўкі. На дарозе пасталі вартавыя. Кастусь Лукашэвіч і Сымон Ракуцька селі на ствол таго самага паваленага дрэва і доўга так сядзелі моўчкі. Ужо і зоры высвецілі, а яны ўсё сядзелі і маўчалі.

— Дык ты ляж і спі, а я павартую цябе,— сказаў Ракуцька.

— Я не засну. Лепш ты спі.

— А калі Тамаш раптам гук падасць — толькі я адзін пазнаю яго.

Зноў яны, можа, з гадзіну маўчалі.

— Дык я сам не свой без перадыху явіўся дадому,— задудукаў раптам Сымон Ракуцька.— Толькі бачу — дзве машыны стаяць пасярод вуліцы. Лізавета ўжо, думаю, даўно дома. Уляцеў у двор — аж спатыкае мяне вачыма жонка. Стаіць, бедная, пасярод двара белая як палатно. Я ткнуўся ў сенцы і аслупянеў. Там у мяне поўнае вешала адзежы вісела. Гэта яшчэ я запасіў дзецям, калі яны гадаваліся без мяне па той бок тае граніцы, каб мой смак да яе сто год трымцеў у варшаўскім горле! Дык стаіць пад тым вешалам немец і абчышчае яго. Знімае боты, чаравікі, хусткі, сукенкі, нагавіцы, паясы, рубашкі і кашулі і ўсё тохціць у чамадан. Божа літасцівы! Тады ўкралі дзяцей! А гэта зноў явіўся зладзюга. Самую памяць аб дваццаці маіх гадах, калі я дзяцей чакаў, крадзе! Парадкуецца, гаспадарыць! Колькі ж на свеце гэтых зладзеяў на маю шыю! Ні ў маладосці, ні ў старасці няма ад іх ратунку! Я яшчэ нічога не ведаю, што ў мяне ў хаце робіцца. Як хаплю я немца ззаду за карак і як тузяну к сабе, дык ён, як тая падла, валіцца на мяне. Я яго штурхануў ад сябе, ён носам у падлогу і як зараве! Бог даў шчасце, што я паспеў падняць з жорнаў камень і накрыць ім нямецкую галаву, так што не разабраць стала, ці была ў немца гала-

ва, ці так толькі гэтая крывавая каша. Паспеў я яшчэ заўважыць, як дрыгнулі нямецкія ногі і апруцянелі навек.

— Уцякай!— закрычала жонка. Я даў ходу на вуліцу, аж бачу праз адчыненае акно, што ў мяне ў хаце поўнае застолле немцаў і хапаюць з лавы зброю, а мой Тамаш замкнуў з надворку сенечныя дзверы і да мяне бяжыць з нямецкім аўтаматам. Мы з ім цераз вуліцу і ў сад і адтуль бачым, што яе, жонку, гоняць па вуліцы і страляюць па ёй. Яна ўпала. Мы з Тамашом пабеглі да яе, дык і па нас страляюць. Тамаш як сыпане з аўтамата! Немцы змоўклі. Але іх набегла зноў як плоймы. У Тамаша не было больш набояў у аўтамат, так ён і сеў макам. Адным словам, жонку забралі, а па нас стралялі, аж пакуль мы не адкаціліся за крайнюю хату. З палавіну нашага пасёлка, і жонку маю, пагналі ў лагер, а мы з Тамашом разам з усімі. Ну... Тамаш хлопец бывалы і камандаваць па вайне ўмее.

— А пра Лізавету што?

— А бог жа яе ведае. Анічагуткі ніякага слыху. Думай што хочаш. Больш я і не бачыў яе. І ў цябе ж, кажаш, дачка малая Ліза. Адкуль ты ведаеш, што яна ў лагеры?

— Я напэўна не ведаю.

Зноў Сымон Ракуцька і Кастусь Лукашэвіч змоўклі на доўгі час. Неба на ўсходзе пачынала шарэць, і зоры цьмелі.

— А ці даўно я так глядзеў на зоры, калі шукаў яшчэ сабе дарогі на ўсё жыццё! Усё прайшло як адзін дзень. І зноў як прыйшлося. Лізачка, дачушка!

Кастусь Лукашэвіч шпарка ўстаў і закурыў. Ён і Ракуцька яшчэ цэлыя суткі так прагутарылі тут, пасля кожнай гаворкі даючы па гадзіне маўчання. А яшчэ цераз дзень тут з'явіўся Тамаш і з ім людзі. Усе аставаліся тут яшчэ нешта з паўтыдня. Цяпер успамінаюць, што ў тыя дні Сымон Ракуцька многа бываў на людзях і любіў слухаць, калі хто што расказваў. Тамаш мала быў відзён. Кастусь жа Лукашэвіч быў вельмі задумёны, бадай-што сумны. У апошнюю ноч перад выхадам адсюль з'явілася тут Волька. Яна нашмат змянілася з таго, калі пакінула Сумлічы. Здавалася, што яна стала вышэйшая ростам, рысы твару яе сталі вострымі. Яна была ў мужчынскай жыкетцы з саматканага сукна і рукі трымала ў кішэнях. Некалькі гадзін, да раніцы, яна праседзела з Кастусём па паваленым дрэве, і скарга прарывалася ў яе голасе. Яна доў-

га расказвала Кастусю, як тыдняў два хадзіла наводдалек па лясах і полі там, пад лагерам, і як нарэшце выбрала вручнасць падысці да лагернай агароджы так на вярсту. Там было тарфяное балота, праз якое цякла павольна ржавая рачулка. «Я ляжала ў чорным куп'і некалькі дзён. Раз на дзень да той рачулкі нявольнікі з лагера з'яўляліся па ваду. Саматугам яны каціліі бочку на колах. Вартавы немец не ішоў следам за імі, а садзіўся са сваім аўтаматам на купіну і зводдалеку сачыў за людзьмі. Адзін раз я падпаўзла да самай рачулкі і, калі яны ўжо налілі ў бочку вады і пхалі яе назад, я запытала ў іх, ці няма там у лагеры Лізы прозвішча Лукашэвіч... Маладая жанчына з распушчанымі валасамі адагнулася ад бочкі і сказала, што нейкая Ліза ёсць і ўжо даўно ляжыць каля слупа ад агароджы хворая на крываўку. А колькі год можа быць гэтай Лізе? — запытала я, але немец там крыкнуў, і людзі наляглі на бочку. Можа, гэта і яна, даўно ляжыць...» Вельмі доўга яны маўчалі. Канчалася ноч. Волька раптам ткнулася тварам у Кастусёва плячо і зарыдала.

— Нашто цябе благі лёс прывёў тады да мяне, калі я была малая... Божа, якая пакута!

Кастусь змрочна запытаў:

— Дык дзе ж бацька?

— Не ведаю, дзе бацька. Знік. Я яшчэ раз вярнулася была ў хату. Пуста. Павукі адбітае ад дошчак акно заплятаюць.

Як прайшоў дзень і сцямнела, гэтае месца зноў стала пустое. Ні голасу, ні шоргату. Стала поўная цішыня. І ветру не было, але лісце з бярозы падала ўсю ноч, так што зранку ўся зямля пад бярозай была выслана жаўталісцем. Але не было каму цешыцца харáством гэтага малюнка. Тут не было ні душы. Птушкі, што збіраліся зімаваць у лесе, смела садзіліся на паваленае дрэва, і за цэлы дзень ніхто ні разу не спудзіў іх.

### III

І тут было скрыжаванне дарог, але малое і своеасаблівае. Хто ведае, чым падтрымліваецца існаванне некаторых глухіх дарог, па якіх мала хто калі ездзіць і якіх ніколі ніхто не правіць і не глядзіць. Але вельмі можа быць, што такая дарога больш бачыла на сабе чалавечага ўтрапення, чым біты шлях. На тым шляху, калі ўпадзе чалавек, яго неўзабаве падымуць. Тут жа ён можа заходзіцца

тыднямі ў адзіноце. Малое скрыжаванне было на самым узлессі, кіламетраў за чатыры ад наваленага дрэва і вялікай бярозы. Вялікі шлях, што праходзіў праз гэты лес і далёка ад лесу на паўночны захад, на Вялікім скрыжаванні скрыжоўваўся з Маскоўска-Варшаўскай шашою, тут, за лесам, перасякаў вельмі вузкую, на выгляд толькі палявую дарогу, з пяском,ператоўчаным конскімі капытамі на пыл. Перакрыжаванне тут было простым кутам. Калі вялікі грунтавы шлях ішоў з усходняга поўдня на заходнюю поўнач, то скрыжаваная тут з ім дарога злучала заходні поўдзень з поўднем усходнім. Гэтым апошнім кірункам дарога прыводзіла да Маскоўска-Варшаўскай шашы даволі-такі далёка ад Вялікага скрыжавання. Ад лесу ці ад малога скрыжавання да самай шашы дарога ішла паўз невялікія лясы і скрозь узгорыстым полем і спрэс усюды паўз густыя паселішчы. Так што зранку тут на гэтай дарозе льга было часта пачуць пах дыму з хатніх комінаў. Першы ж кірунак вёў дарогу найбольш чыстым полем, з чыстымі ж узгоркамі. Мясцовасць тут была вышэйшая, узгорыстасць гусцейшая, і дарога не заўсёды ўздымалася ўгару, а давала кругу. Тут яна абвакольвала вядомую на ўсю ўсходнюю Случчыну Малібажкаву гару паміж Заняведамскімі і Вераб'ёўскімі лясамі і рэзалася проста ў некалькі шырозных тарфяных балот. Кіламетраў за сорак з гэтага боку да малога скрыжавання пры гэтай дарозе ляжаў у полі вялікі, як гара, камень дзіўнай формы і не менш дзіўнымі на ім слядамі мінуўшчыны. Камень меў трохкутную форму, як бы палавіну куба, разрэзанага напалам ад аднаго рога да другога і ўбітага ў зямлю адным рабром сваім. Так што было падобна, што гэта каменны зуб увязіўся ў зямлю, а здалёк здавалася, што гэта нешта нейкае стаіць на адной назе. Камень гэтакі высокі, што пад ім мог стаяць чалавек, крыху прыгнуўшыся, і мог такім парадкам закрыцца зверху і ад бомбы і ад дажджу. Верх каменя быў пляскаты і бадай-што правільны чатырохкутнік, быццам дошка стала. Нага гэтага каменя абрасла імхом, верх жа аставаўся зусім чыстым. Узлезці на верх гэтага каменя было вельмі цяжка. Малыя пастушкі, найпрарвейшыя лазуны, станавіліся пры камені адзін на аднаго і верхняга падсаджвалі, ды і то мала каторы мог адзержацца, вісючы на руках, і не ўпасці на зямлю. На спадняй старане каменя, пад якой чалавек мог хавацца ад якой-небудзь прыгоды, немаведама кім і калі, быў выразаны ры-

сунак тонкімі і неглыбокімі рысамі, але вельмі выразны. Рысунак не быў удалы і тым больш не быў нават блізак да мастацтва. Гэта была вельмі недакладная зарысоўка, і калі добра і доўга прыглядацца да яе, то тады рысунак праступаў выразней: з напятага добра лука страла прыцэлена ў галаву аднарогага быка. Ці гэты рысунак нарадзіўся сваім замыслам у быце тае самае асобы, што пакінула яго тут, ці гэта была простая стылізацыя, цяжка сказаць. У кожным разе рысунак быў старадаўні, гэта відно было з таго, што некаторыя рысы яго даволі-такі прыцерліся. Гэты камень называўся ў гэтых мясцовасцях «сухі дзюб», і не толькі ў гэтых мясцовасцях. Вельмі далёка адтуль, кіламетраў, напэўна, не менш як семдзесят, у Ленькаx пад самым Грэскам, я чуў, як жанчына сказала свайму малому, які нешта насваволіў: «Ідзі з разгону вытніся лбом аб сухі дзюб». Паўз гэты «сухі дзюб» дарога ідзе далей роўнай лініяй да свае завіліны, а там, раздвоеная на вілы, адным рогам ідзе на тую самую «Перабродскую Злыбяду», дзе, як казаў Сымону Ракуцьку Тамаш, немцы зрабілі канцэнтрацыйны лагер. А другім рогам дарога даходзіць да вялікай сялібы, якая займае шырокі абшар у чыстым полі. Ад усяго тут павявае старадаўшчынай. Да рэвалюцыі гэта быў маёнтак тутэйшага зямельнага магната. Двухпавярховы дом стаяў белым паўкругам, у якім расло больш як паўсотні старых дрэў усялякіх парод. Два сады яшчэ захаваліся паабапал дома. Яблыні і ігрушы ўжо дупляваліся, але яшчэ садавіна адцягвала ўніз іх голле. Незаўважна стары сад пераходзіў у зону маладых дрэўцаў. Гэты малады сад быў пасаджан год сем таму і займаў гектар не менш дваццаці. На зялёным паплаўцы за гэтым садам стаялі будынкі дробнага з выгляду заводзіка, віннага браварца, дзе выраблялася яблычнае віно і гатавалася павідла. За поплавам былі дзве вуліцы новых хат і дамкоў з жоўтымі шуфлядамі і шалёўкай вокал, з кветнікамі ад вуліцы і вяндлярнямі на агародах. З усяго было відно, што тут будоўля дайшла да свайго завяршэння апошнімі гадамі. У гэты час ранняй восені, калі непадалёку ад малога скрыжавання бяроза сыпала на лясную дарогу жоўтае лісце, тут, на поплаве, каля віннага завода хадзіла на пашы чарада кароў, у кожнай з якіх вымя адвісала ніжэй каленных суставаў. У двухпавярховым доме пахла фарбаю і мытаю падлогаю. Вокны былі адчынены, і пад імі ляжалі на двары зграмоджаныя разам абы-як школьныя парты і сталы, шафы і чорныя дош-

кі для пісання мелам. Усё гэта было перасыпана і пера-шпаклёвана кнігамі, некалькі разоў перамыта дажджамі і бесперапынна прысыпалася пылам з навакольнага поля. Было яшчэ невялікае дапаўненне да агульнага малюнка: некаторыя хаты стаялі з павыбіванымі вокнамі і знятымі з крукоў сенечнымі дзвярыма, а паміж дрэў перад двухпа-вярховым домам пахаджваў нямецкі паліцай, відаць, нейкі тутэйшы хамула з падстрыжанымі вусамі. З другой стара-ны дома стаялі грузавікі і лёгкая машына, і два нямецкія салдаты мылі яе. Невядома, які гэта быў дзень пасля таго, як Гертруду і старога Густава малады Густаў спаткаў на Баранавіцкім вакзале, але гэта было праз ня-доўгі час пасля таго. У адным з пакояў двухпавярховага дома сядзела за сталом Гертруда і цераз стол насупроць яе той сярэдні афіцэр, што камандаваў салдатамі, калі яны ахоўвалі маладзейшага Густава ў Баранавічах і па дарозе і абстрэльвалі лес паабапал дарогі. Вельмі можа быць, што яны заседзеліся пасля абеду, бо на стале былі ласункі, а час хіліўся на вечар.

— Я стаў за гэты час вашым блізкім чалавекам. І мне яшчэ доўга прыйдзецца ахоўваць вас,— сказаў афіцэр.— Тут шчаслівая выпадковасць. Недалёка адгэтуль канцэн-трацыйны лагер, каля якога стаіць вялікая часць канвою і варты. Я са сваімі салдатамі належу да гэтай часці. Так што адначасна мы ахоўваем і вас і лагер. Вам тут смела можна жыць і працаваць.

— Гэта не выпадкова,— сказала Гертруда.— Наш Гу-стаў, калі выбіраў месца для лагера, сумысля падумаў аб блізасці да гэтага маёнтка. Тут жа яшчэ адно: маёнтак вя-лікі, а тутэйшых людзей асталося мала, дзе яны падзеліся, невядома, хаты пустуюць...

— Яны паразыходзіліся па лясах і пасталі бандытамі.

— Дык у першыя гады, пакуль вайна, маёнтак будзе трымацца на рабоце забраных у лагер.

— Тым больш я тут доўга буду.

— І я так думаю. Учора, калі мылі падлогу, адна дзеўка так на мяне паглядзела, што я пакінула верыць майму сыну, які кажа, што над тутэйшым народам трэба павесіць меч, і ён уверуе, што гэта тая праўда, да якой ён сам павінен імкнуцца. Божа мой, я не думала, што мне ў мае гады прыйдзецца быць так далёка ад Германіі і пера-жываць такую трывогу. Усё жыццё мы марылі мець маён-так у самой Германіі. Дзіўна сказаць, але мой Густаў на

тую яшчэ, першую, вайну пайшоў ахвотна. Ён быў радавы. Мы былі арандатарамі. На той вайне ён меў ужо капітоўнасцей на цэлы маёнтак. Але ён не вытрыманы чалавек. У хваробе ён даў дурную волю сваім пачуццям і аддаў чорт ведае каму вялікае багацце. Праз усё жыццё я казала яму, што ён зрабіў злачынства перад Германіяй. Ён гэта і сам разумеў. Ён праклінаў той свой душэўны парыў. Калі з'явілася вучэнне фюрэра аб заваёве Германіяй свету, ён быў адным з тых першых, што ўбачылі тут адлюстраванне сваіх асабістых думак. Гэта ўжо не быў парыў. Наш Густаў з маладых год пачаў рыхтавацца да змагання за ўвесь свет для Германіі. Усё прайшло, як сон. Божа, наш Густаў не будзе арандатарам! Але чаму я сама не свая! Наш маёнтак не ў Германіі, а так далёка. Мы яшчэ не прычакаем, пакуль тут стане карэнная Германія.

Яна падышла да акна і стала глядзець у яго. Відно было поле, вялікі абшар з рэдкімі дрэвамі і на даляглядзе сінія істужкі лясоў. Відно было з другога паверха, як у адным месцы сыходзяцца ў вузел палявыя дарогі і непадалёку відно ў лагчыне мястэчка. Гертруда яшчэ не асвойталася тут. Яна не ведала ні назваў, ні імёнаў, не трымала ў памяці яшчэ аніводнага твару сярод тутэйшых людзей. Часамі смутак сціскаў ёй грудзі. Як вялікага свята, яна заўсёды чакала тых дзён, калі прыязджаў сюды Густаў, яе сын і ваенны начальнік тутэйшай акругі. Ён заязджаў сюды даволі часта. Ён ведаў трывогі і сум свае маці, ён быў ёй добрым і ласкавым сынам. Гэта быў дзейны чалавек і практычны работнік. У яго акрузе былі чатыры канцэнтрацыйныя лагеры, і ён сам займаўся імі. Дзеля іх ён нават зрабіў змены ў агульным для лагера рэжыме. Туды, пад Вялікае скрыжаванне, былі напады на гарнізоны і транспарты, тут жа было чамусьці спакойна, і вышэйшае начальства лічыла гэта заслугай Густава Шрэдэра. І ён, ніколі нічым не выхваляючыся, чакаў таго часу, калі стане на паўкрока бліжэй да свайго фюрэра. Ён да таго любіў дакладнасць і завяршэнне ўсялякай справы, што два разы сам прыязджаў у лагер на «Перабродскай Злыбядзе» і на свае вочы бачыў, як на зямлі ляжаць людзі каля агароджы і навокал бочкі на колах. Што ж да яго маці, то яна нават і ўяўлення не мела, што гэта такое канцэнтрацыйны лагер. Яна толькі ведала тую праўдзівую сапраўднасць, што там многа людзей, якія робяць усялякую работу, калі іх на гэта выганяць.

Перабродскі канцэнтрацыйны лагер меў такі выгляд. Гэта было месца поблізу тарфянога балота з куп'ём і наводдалек ад невялікага лесу. А з двух бакоў было поле. Вялікая прастора была абгароджана калючым дротам, навокал гэтай агароджы стаялі вартавыя салдаты. У адным месцы, ад поля, праз якое тут жа праходзіла дарога, на метраў дваццаць агароджы не было, і гэта было штосьці накшталт уезду і ўваходу ў лагер. Тут не было аніякага будынка, і толькі на полі за агароджай стаяў барак з дошак, дзе жылі салдаты і адкуль проста з парога ішла пратаптаная сцежка ў дробнае мястэчка, схаванае тут жа ў лагчыне. У сярэдзіне агароджы трава была вытаптана, а больш як на палавіне плошчы засыпана пяском невядома дзеля чаго. Гэта было распараджэнне самога начальніка акругі Густава Шрэдэра маладзейшага. Некалькі тыдняў забраныя ў лагер людзі насілі на сабе ў торбах, хустках і ў дапасаванай да гэтага сваёй адзежы пясок з поля і засыпалі траву быццам бы для гігіенічнасці. Людзей тут было то менш, то больш. Быў момант, калі тут было забраных пад дзесяць тысяч. Іх усё адпраўлялі кудысьці на работу. Цяпер тут было людзей пад дзве тысячы. У агароджы, насупраць уезду ў лагер, стаяла пустая бочка па колах. Раз на дзень забраныя па чарзе прывозілі сюды ў бочцы ваду з рачулкі і ставілі бочку на гэтае месца. Хто першы дабіваўся, каб хапіць сабе ў бляшанку з-пад кансерваў вады, той мог лічыць сябе шчаслівым. Месца навакол бочкі было, вядома, самым зручным, каб дастаць вады. Таму, хто ўжо раз заняў сабе тут месца, той і не сыходзіў з яго тыднямі, каб захаваць яго за сабою. Тут так было густа людзей, што ляжаць не было месца. Тут людзі толькі сядзелі. Тут былі толькі здаровыя, што мелі сілу, каб заўладаць тут месцам. Хворыя ляжалі на пяску глыбей у разлегласць, хворыя на крываўку асобна, бліжэй да агароджы. Аслабелыя, але не хворыя — на траве. Ночы цяпер стаялі зорныя і прыхаладалыя, і да самай раніцы чуліся тут: моцны шэпт, кашаль, стагнанне, божканне, моцная малітва таго, хто ўжо не верыў у бога, і моцная знявага бога з вуснаў таго, хто датуль шчыра верыў у яго. Раніцаю сонца высушвала слабую восеннюю расу, і над хворымі яшчэ пачыналі раіцца мухі. Чуўся крык і каманда. Прыносілі тую вечную ва ўсіх турмах, катаргах і арыштных месцах страву, што пры ўсіх уладах і рэжымах завецца «баланда», незалежна ад таго, ці там на вядро вады прыходзіцца бурак ці бульбіна. Усе

прывыклі ўжо, што той, каго забіралі адсюль на работу, больш сюды не варочаўся. А ці на благое гэта, ці на добрае, кожнаму нельга было нават і падумаць, а ні то што каб ведаць. Спачатку выгараджаная лагерная плошча была меншая, пасля яе пашырылі, і ад старое агароджы асталося некалькі слупоў без дроту. Прыткнуўшыся галавою да аднаго з гэтых слупоў, тут ужо трэці тыдзень ляжала Лукашэвічава Ліза, у сукенцы, якая была раней светлая, а цяпер стала чорная ад зямлі. Асеннія мухі раіліся над ёю, калі прыпякала сонца, а яна ўсё ляжала і ляжала бадайшто ў бяздум'і. Бяздум'е было яе ратункам, і ішло яно ад вялікай слабасці яе цела, боль і ныццё ў якім сталі ўжо яе звычайнасцю. Калі прыносілі баланду і ўсе кідаліся да яе з бляшанкамі ад кансерваў, яна нават не паднімала галавы і не бачыла таго страшнага малюнка, калі чалавек, загнаны ў няволю, у загарадзь і ў натоўп сабе падобных няшчасных, ад якіх адабрана права, самае першапачатковае, патрэбнае нават і некаторым жывёлінам — дзеля сваіх прыродных патрэб пабыць часам у адзіноце,— яна не наглядала, як чалавек тут ператвараўся ў жывёліну, а натоўп у чараду. Каля вядра з баландой людзі збівалі адзін аднаго з ног, ратуючыся ад галоднай смерці і хваробы. Тыя ж, што былі цвярдзейшыя воляй, угаворвалі гэтых і словам і крыкам наладзіць сталасць. І пры баландзе і пры бочцы з вадой заўсёды стаяў шум сотняў галасоў. Спакайнейшыя і вытрыманейшыя аставаліся дзе-небудзь убаку, але затое мала калі і баланду і ваду бралі ў рот. Сярод іх нараджаліся думкі і планы аб уцёках, аб змаганні з нямецкай салдатнёй, аб арганізацыі ўсіх дзеля паўстання і масавым уцёку. Да гэтых належала адна высокая жанчына, да жудасці хударлявая з постаці і з твару. Яна была не маладая і не тое каб старая. Так ёй магло быць год мала-менш як пяцьдзесят. Рысы твару строгія і, можа, нават халодныя. Позірк спакойны, мала рухавы, ён як бы быў выяўленнем чалавечай упэўненасці, што нічога новага на гэтым старым свеце не ўбачыш. Спачатку і яна кідалася ў натоўп па баланду і ваду, але пасля ўбачыла, што лепш быць галодным, чым з памятымі касцьмі. Тады яна пачала ўгаворваць многіх устанавіць чаргу па баланду і ваду. Пачынанне яе перадалося да іншых, і, калі чарга пачала ўстанаўляцца, яна раптам адчула сябе так, што як бы ўжо зачапілася за нейкую справу ці мэту, і гэта вывела яе душу з стану бязвер'я і безнадзейнасці і дало ёй сілы лягчэй цярпець сваё існаванне.

Так прыйшоў момант, калі яна аднойчы, седзячы ў адзіноце на стаптанай траве і выбіраючы адтуль нейкія, вядомыя ёй травіны, якія яна ела, загаласіла: «А добры мой, а лепшы за ўсіх мой, а чаму ж ты па мяне не прыходзіш? Хіба ж ты забыўся, як ты нудзеў па мне дваццаць год і як дзеці не ведалі, які ты, а я зямлю арала і азіралася, а можа ты як-небудзь бачыш мяне? А ці памятаеш ты, як Тамашка наш упаў быў з дрэва і гаварыць не мог...» З таго часу яна пачала галасіць кожны дзень, перабіраючы ў сваім галошанні ўсё сваё жыццё ад дзён свае маладосці, ад той вайны з немцамі да гэтай, і такім парадкам праз яе галошанне ўсе дазналіся, як яна жыла і што было ў яе душы. Што гэта было за жыццё! Выкіданне з хаты, марнаванне маладосці, смутак у сталасці, вечнае выгнанне ў жыцці на родным месцы. Гэта была жонка Сымона Ракуцькі. Вельмі можа быць, што яе галошанне павяло многіх на расказ аб самім сабе. Адкуль толькі тут не было людзей! Але ў гэтыя дні для Лізы не існавала асоб і твараў: усіх і ўсё яна з свайго належанага пры слупе месца бачыла, як праз туман. Блізкія галасы і далёкія гукі да яе даходзілі аднолькава, як праз сцяну з адзежы і ваты. Бяздум'е ратавала яе ад смутку. Але, нарэшце, прыйшоў смутак, з'явіўся ўладны і бязлітасны, як і заўсёды ў чалавека, ён быў страшнейшы і цяжэйшы за боль цела, парванага жалезам. Пачаўся ён ад рання яснага дня. Можа яна пачала перасільваць хваробу, бо магла падняць галаву, калі ў загарадзі пачуўся злітны ў адзін гул гоман. Гэта чалавек пад тысячу людзей выстройваліся перад выхадам з загарадзі. Іх забіралі на тую невядомую работу. Калі гэты вялікі натоўп рушыў з месца і пачаў скрывацца ў полі, нават праз яго маўчанне чуўся жах няволі. У гэты момант да Лізы падышла Ракуцькава жонка.

— Ну як,— сказала яна,— ты ўсё ляжала, а сёння сядзіш. Можа твая крываўка пакідае цябе?

— Мама! — моцна сказала Ліза, ведаючы, што гэта не маці. І з гэтага моманту пачаў душыць яе смутак. Ракуцьчыха скаланулася і шпарка адышлася да свайго ранейшага месца. Быццам бы хто рваў з яе душу. Магічнае слова «мама» ў абедзвюх іх скаланула душу, у малое і ў старое. Ракуцьчыха ўпала тварам на пясок і зарыдала. Ліза асталася сядзець нерухома на ўвесь дзень і на ўсю ноч, так смутак скаваў яе ўсю і яе вочы; бадай-што суткі яны не сышлі з аднаго пункта дзесьці ў прасторы.

Я ў маленстве бачыў, як птушка далася аб тэлеграфны дрот і, скаваная ранамі ў нагах і крыллях, канчалася на зямлі пад дротам. У яе вачах маглі змясціцца смутак і скруха ўсяго свету. А які ж шлях трэба прайсці ад птушкі да чалавека! Лізін позірк змяніўся толькі на рассвітанні пасля той ночы, якая стала апошняй ноччу яе жыцця ў лагеры.

Тым самым тыднем, а можа, на колькі дзён раней, здушаны смуткам аб Лізе, скрухай, небытам, кашлем, стары Нявада падышоў да мэты свайго доўгага падарожжа. Ён ужо даўно, з першых жа дзён, ішоў глухімі сцежкамі, узмежкамі, цаліною — полем і паплавамі. Чым бліжэй ён падыходзіў да месца, да якога так доўга ішоў, тым мацней авалодвала ім пачуццё неспакою і трывогі. Ён гэтулькі пытаўся ў людзей пра гэтае месца, і дзе яно і хто тут жыве, і хто ім уладае — што ўжо больш і не правяраў свае дарогі, а ішоў ад нейкага свайго чуцця. Хада яго была ўжо цяжкая і павольная. Дарога яго скончылася змрокам яснага дня. Ён убачыў перад сабою бялявыя ад рэштак змытай дажджамі вапны камляватыя ствалы старога саду. Паўз увесь сад быў роў і зарослы травою вал над ім. Ад такой доўгай хады і трывогі ногі яго падгіналіся. Ён сеў на вал над ровам і падумаў: «божа мой, як далёка да Сумліч». Сапраўды ён зайшоў вельмі далёка. Гэта была нават і не тая акруга, у якой былі Сумлічы. І не тая гэта была акруга, начальнікам якой быў маладзейшы Густаў Шрэдэр і ў якой была цяпер у лагеры Ліза, дзеля якой ён прыйшоў сюды. Ён сядзеў над ровам і не ведаў, як жа пачаць сваю справу, і калі, і з кім, і дзе таго шукаць тут. Яшчэ не ўмеркла, і постаць яго вельмі выразна вырысоўвалася. Сярэдніх год жанчына ішла з кашом яблык паўз вал над ровам, спалохалася незнаёмага чалавека і стала абыходзіць яго стараной. Ён яшчэ больш узнепакоіўся. Душа яго ныла і трывожылася, і, каб ён мог у гэты момант праверыць сам сябе, ён знайшоў бы ў сабе больш безнадзейнасці, чым веры, і больш боязні, чым надзеі. Ён падняў вочы на жанчыну і запытаў:

— Ці тутэйшая ты, галубка?

— Ой, дзядзюхна, хто гэта!

І жанчына пайшла шпарка. Нявада заварушыўся:

— А скажы, ці Паліводскага гэты маёнтак?

— Нашто табе? Хто ты? Унь немец павярнуў сюды галаву, стаіць з аўтаматам ля брамы.

Яна подбегам пайшла к дому, веранды і балконы якога здалёк вырысоўваліся зялёным сваім колерам на фоне белых сцен.

— Калі ты маеш доступ да Палiводскага,— крыкнуў жанчыне Нявада,— дык накажы яму, што тут сядзіць чалавек, які прынёс яму тое, што ў яго адабралі на той вайне і чаго ён шукаў праз усё жыццё.

Жанчына выслухала ідучы і ўжо сапраўды-такі пабегла і знікла з вачэй. Нявада рашуча ўстаў і шпарка пайшоў к дому. Нямецкі салдат пераступіў з нагі на нагу і закрычаў нешта на Няваду так, што здавалася, гэта ён прагаўкаў, цвелячы сабак. Нявада падняў рукі ўгару і стаў на месцы. Мусіць-такі сапраўды тая жанчына мела нейкі доступ ці да самога Палiводскага, ці да якога-небудзь яго слугі, ці да кухароў, ці пакаёвак. Бо нешта вельмі адразу, як толькі Нявада стаў перад салдатам, з дома на ганак выйшлі двое ў паліцэйскай форме, і адзін штосьці сказаў салдату, а пасля рускай мовай запытаў у Нявады, трымаючы на губах штосьці падобнае да цікаўнасці і ўсмешкі:

— Гэта ты прынёс тое, чаго шукаюць праз усё жыццё?

— Гэта я,— абазваўся Нявада.

— Дык хадзі сюды.

Салдат адступіў ад Нявады, і Няваду павялі праз цёмныя і асветленыя свечкамі пакоі і карыдоры. Многа прайшлі дзвярэй і нарэшце спыніліся ў вялікім пакоі, акно ў якім, высокае і шырокае, было адчынена. Было відно, як на небе патухалі апошнія праменні яснага захаду. Няваду паставілі ў кут каля дзвярэй і пачалі выварочваць яму кішэні, шукаць за пазухай і мацаць па ўсёй яго адзежы. У гэты момант адчыніліся дзверы тыя, праз якія Нявада яшчэ не праходзіў, і двое людзей выйшлі адтуль і, штосьці ўзбуджана гаворачы па-нямецку, пайшлі поплеч праз пакой да выхада. Тыя, што выварочвалі Нявадавы кішэні, павыцягваліся, як пруты. Адзін з тых двух быў высокі і ўжо стары і ў цывільнай адзежы, другі сярэдні і ростам і гадамі і ў форме нямецкага афіцэра. У дзвярах яны паціснулі адзін аднаму рукі, і вайсковец выйшаў, а высокі цывільны астаўся, і раптам адбылася дзіўная Няваду з'ява: яго выпусцілі з рук і пакінулі шукаць у яго чагосьці, а самі зніклі следам за вайсковым, і высокі цывільны вярнуўся ў свой пакой. Нявада астаўся адзін. Ён схілен быў радавацца гэ-

таму. Адразу ён стаў увішны і рухавы. Прыгнуўся і мацнуў месца, дзе ў вопратцы падшэўка сшыта з верхам: Аж у галаве яго закружылася: яны яшчэ не дайшлі былі да гэтага месца, і тое, што ён нёс Паліводскаму, было пры ім. Узбуджаны і з наплывам надзеі, ён зазірнуў у акно і ўбачыў, як той вайсковец сеў у машыну і як той салдат, што запыніў быў яго на двары, палез у грузавік, дзе сядзелі больш салдаты. І машыны адразу паехалі. На двары стала адразу пуста, і з-за дрэў чулася, як нехта вучыўся граць на дудцы. Падобна было, што як толькі паехаў, а з ім і салдаты з аўтаматамі, дык тут не асталося ніякай варты. Праўда, два паліцаі падышлі аднекуль, узлеглі грудзьмі на плот і сталі курыць, але Няваду яны здаваліся чымсьці як бы не вельмі жорсткім. Яны хоць не гаўкаюць так панямецку. Пустэча, цішыня і дудка з-за дрэў запоўнілі час Нявадавага чакання. Так адзін ён стаяў, можа, з паўгадзіны. Зноў трывога і ўтрапенне пачалі авалодваць ім. Раптам адчыніліся дзверы, за якімі знік высокі цывільны, і паліцэйскі выйшаў адтуль і беларускаю моваю (відаць, быў тутэйшы) сказаў да Нявады:

— Гэта ты той самы, што нешта прынёс?

— Я,— устрапянуўся Нявада.

— Дык увайдзі. Цябе, здаецца, глядзелі і абмацвалі?

— Абмацвалі.

— Дык ідзі, ідзі туды.— Ён паказаў на дзверы, з якіх сам выйшаў, і сеў на цвёрдае крэсла ў паставе такой, у якой ён тут маецца сядзець доўга, можа нават цэлую ноч. Нявада ўвайшоў у наступны пакой і ўбачыў таго самага высокага цывільнага. Ён стаяў пасярод пакоя, заклаўшы за спіну рукі, і нервовы цік перасмыкваў яго губы.

— Стой, стой,— шпарка сказаў ён, як толькі Нявада зрабіў крок ад дзвярэй.— Ты быў на той вайне?

— Быў.

— Ты аграбіў раненага афіцэра?

— Не я, а немец. А як той немец трапіў у палон і ляжаў хворы ў маёй хаце, дык за добры догляд пакінуў усё тое маім дзецям. Усё захавалася як ёсць. Я прынёс пану Паліводскаму.

— Гэта я Паліводскі,— нецярпліва сказаў высокі.

Няваду быццам праняло электрычным токам. Перад ім стаяў стары чалавек, хударлявы, з тварам такім, што, здавалася, да яго прысохла вечнае чаканне. Нявада зрабіў рух да акна, дзе святлей, і загарнуў сподам наверх крысо

свае вопраткі. Паліводскі не спускаў з яго вачэй, і губы яго перасмыкваліся часцей, ужо дробна і беспераставку. Было маўчанне і цішыня. Угнуты Нявада пацягнуў за канец суровае ніткі, і пачуўся сухі трэск, і насупраць акна льга было ўбачыць, як з таго месца вопраткі, дзе рванулася нітка, паішоў пыл. Не адгінаючыся, Нявада ўсадзіў пальцы пад адпораную падшэўку і абмацваў там. Тут пачуўся яго голас. Ён гаварыў:

— Мой ласкавец, я праз дваццаць, а можа, і праз усе трыццаць год хаваў, не пускаў куды, трымаў, а нёс і шукаў вас, і прапытваў у людзей больш як... не лічыў дзён, але больш як месяц. Я ў балотных закутках і ў сабачых норах хаваўся і туляўся, абы каб не напаткаць каго і каб цэлае данесці... Божа мой. Каб жа льга было верыць у чалавечае сэрца і каб пранялі яго пакуты дзіцяці, яшчэ зусім недарослая дзяўчынка... (Тут ён абмацаў і дастаў з-пад падшэўкі гадзіннікі. Паліводскі ўцягнуў ніжнюю губу ў рот і сціснуў яе так.) Яна там без ратунку і без... без... без жыцця можа ўжо! (Ён павысіў голас і дастаў з-пад падшэўкі звязаныя пярсцёнкі.) Вам жа гэта слова сказаць, і пакіне яна мучыцца...

— Пра каго ты гаворыш! — крыкнуў нецярпліва Паліводскі, не маючы сіл адарваць вочы ад Нявадавых пальцаў.

— Ласкавенькі мой, любенькі мой, дарагі мой, душою і целам прашу, дастаньце яе з лагера і аддайце мне, каб я мог хоць пачуць, як пахне яе галава — ці пылам, ці мылам, як калі бывала ў яе. Ратуйце яе і мяне праз гэта... Каб праз вашы вушы да сэрца дайшло... Чалавек жа, нават і акамянелы, не бывае без сэрца. Я так прашу, што аж не ведаю, ці глядзеў я калі на каго з сваім гонарам... Дзеля просьбы мае я нёс сюды цэлы месяц, прапытваў, туляўся...

Тут ён дастаў з-пад падшэўкі крыж і застыў маўкліва. Можа, ён успамінаў, ці не асталося яшчэ чаго, і не бачыў, як Паліводскі раптам збялеў тварам і рукамі зрабіў рух туды да яго. Нявада выпрастаўся і паклаў усё на стол. Поўны вялікага чакання, ён стаў перад Паліводскім і не зводзіў вачэй з яго твару. Некалькі разоў твар Паліводскага змяняў свой колер: то чырванеў, то зелянеў, то бялеў, то зноў чырванеў. Нарэшце ён як бы абмярцвеў, і вочы быццам ашклянелі. Ён падсеў да стала і глядзеў на крыж, на якім мільгацелі нават у сваёй нерухомасці каменні.

— Нявіннае дзіця... Можа там яна дрыжыць ад крыку тоўстага салдата...

Нявада прыдумляў словы, ён не ведаў, што Паліводскі пражыў жыццё адзін, без сям'і і без дзяцей, і тое, што яму, Няваду, магло быць мэтай, Паліводскаму было нічым. Нарэшце і Нявада змоўк, і маўчанне гэтае, здаецца, навалілася нязносным цяжарам на ўвесь свет. Паліводскі раптам падпёр твар рукамі і прамыляў губамі так, што Нявада ледзь пачуў:

— Позна ўжо... няма... і не трэба! — апошняе слова ён выгукнуў мацней і зноў замыляў губамі.— Жыццё пражыта чорт ведае як... І нічога не ўдалося...

Губы яго зноў пачалі перасмыквацца, і ён стаў у ранейшай паставе, з рукамі за спіной. Нявада з жахам уздрыгануўся, спазма здушыла яму горла, і ён прахрыпеў:

— Позна? Яе расстралялі? — І ён закалаціўся, як прыгавораны к смерці.

Паліводскі закрычаў:

— Прынёс позна! Трэба было дваццаць год таму назад! — Паліцэйскі з'явіўся ў дзвярах, падазрона зірнуў на Няваду і ціха сказаў да Паліводскага:

— Яшчэ просіцца... там увесь час сядзіць. Гаворыць, што яго ўспомняць, каб сказаць, што ён сын Стафана Акаловіча.

Паліводскі разоў дзесяць засаб перасмыкнуў губамі і ўсім тварам і сказаў:

— Няхай увойдзе.

Твар яго як быццам праясніўся. Здавалася, што з думак яго сышло ўжо ўсё, апроч таго, што папрасіўся сюды. Ён падышоў да дзвярэй, каб сустрэць сына Стафана Акаловіча. Нявада трымаўся, каб не застагнаць, так ціснула яму ў грудзі і горла. Ён аж хістануўся ўбок ад жаху, убачыўшы, што ў дзвярах з'явіўся той самы малады і абарваны, якога ён тады, даўно ўжо, траха не забіў жалезам па галаве. Цяпер ён быў яшчэ больш абарваны і больш быў падобен да абцягненага скурай шкілета, як да чалавека. Паліводскі працягнуў яму руку, а той дзіка азіраўся каля сябе.

— Я сын таго Акаловіча, які меў знаёмства з вамі многа год і да якога, пад Клецак, вы заязджалі...

— Ваш бацька быў самым блізкім мне чалавекам з усіх...

— Майго бацьку немцы павесілі,— сказаў з узнятасцю Акаловіч.— Я не маю дзе галаву прытуліць, за мною, як за воўкам, палююць, дзе б хто ні сустрэў мяне... Увесь свет

цесны мне. Дзе ж тая вялікая Польшча? І малое яе няма! Хто мяне адарваў ад таго месца, дзе мне прасторна было?..

Ён задыхваўся. Нявада прыліп плячыма да сцяны. Паліводскі сеў к сталу і ўнурыў твар. Акаловіч пачаў каламіцца, як пасаджаны на пакуту. Паліводскі крыкнуў Няваду (відаць было, што раптам успомніў):

— Выйдзі! — І ўставіўся сухімі вачыма ў Нявадаў твар.

Нявада, іірвануўшыся з месца, бачыў, як Акаловіч затрапятаў рукой пад за пазухай і двума крокамі апынуўся перад самым Паліводскім. Нявада застыў на месцы. Акаловіч ірвануў з нетраў дзіравае адзежы штосьці малое, цёмнае, чаго Нявада не мог разгледзець. Паліводскі сядзеў унураны. Акаловіч кінуў у яго бок сваю руку. Нявада не паспеў нічога ні падумаць, ні разгледзець. Траскучы гук і дым, і Паліводскі тузануўся ўніз і грунуўся аб падлогу, галавою пад стол. Акаловіч пераскочыў цераз яго і рынуўся ў акно, але адразу ўзаскочыць на падаконнік не мог, а паспеў яшчэ прыткнуць да сцяны крэсла і тады ўжо кінуцца на двор. Нявада не паспеў апамятавацца. Паліцай, утрапёны і перапалоханы, сыпануў у пакой кулямі, але ў самы пакой не ўбег і закрычаў. Нявада падбег да акна і толькі цяпер заўважыў, што рука ў Паліводскага адкінута з-пад стала па падлозе на праход паміж сталом і акном. Паліводскі быў мёртвы — толькі цяпер уцяміў Нявада. Ён шпарка апынуўся на акне і, трымаючыся за падаконнік, гупнуў нагамі на зямлю. Як у спёку смага, яго мучыла прага хутчэй аддаліцца ад гэтага месца, да якога ён ішоў цэлы месяц і якое стала яму цяпер страшным і агідным. Ён пабег куды вочы глядзелі і заўважыў, што пад нагамі ў яго мокрая трава. Задыхваючыся, ён бег у цемень ранняй ночы, чуючы, як бяда завязвае яму свет і смутак, большы яшчэ, як калі раней, ціснеяго ў зямлю. Ён не меў пачуцця таго, ці многа ён прабег. Сэрца распірала яму грудзі. Ён пайшоў павальней, і кожная нага здалася яму стопудовай. Колькі жыў ён на свеце, ён яшчэ не быў у такім жаху. Гэта была яго апошняя думка. Ззаду пачалі зноў страляць. Штосьці падобнае на кулямётную чаргу пачало абзывацца за ім раз-поразу. Ён упаў на зямлю, перачакаў, устаў і зноў пайшоў. На пятым кроку зноў трэснула і стукнула ззаду. Яго тузанула ў спіне. Ён упаў у той жа момант адразу. Ён быў мёртвы ўжо ў момант, калі дакрануўся грудзьмі і тварам зямлі.

Акаловіч выйшаў на ўзлессе з палявой цаліны, калі яшчэ як мае быць не развіднела на наступны дзень. За ноч ён прайшоў нямала дарогі. Нервовае ўзбуджэнне зрабіла яму лёгкімі ногі. Але ніколі яшчэ ён не меў такога страшнага выгляду. Вочы, як промні, здаецца яны палалі і кожную секунду пераменьвалі сваё месца на твары. Здавалася, што гэты чалавек зараз перагарыць і ператлее ад таго, што з'ядае яго з сярэдзіны. З адной нагі ў яго згубіўся чаравік, у другім валачылася падэшва. Вышэй калең ён быў мокры, без шапкі і з распаласаванай напалам калашыной нагавіц да самай паясніцы. Ішоў ён няроўна. То ледзьве цягнуў ногі, то ўваходзіў у подбег. Дзіка азірнуўшыся на ўзлессі, ён стаў, пачаў глядзець угару і прыслухоўвацца. Але гэта было так сабе. Нічога нідзе ён не заўважаў, бо неўзабаве ўжо быццам смела прысеў на мокры камень, але не надоўга. Праз паўгадзіны ён ужо ішоў нейкаю лясною сцежкаю, і напэўна сам не ведаючы куды. Раптам выбілася з-за тумановага засцілу сонца, чырвонае, круглае і вялікае, у прасвецці паміж дрэў яно стаяла, як аглядальнік зямлі. «Усход! Там усход! А супроцьлеглы яму захад! А на захадзе, адгэтуль на захад, родны дом, і клён той, і можа хоць адзін які яшчэ знойдзецца там блізкі знаёмы твар. Можа там яшчэ гаварыць будзе з кім, доўга, штодзень, аб былым маленстве, аб колішніх надзеях...» Ён сціснуў зубы ад крыўды і нянавісці. І дзіўна. Яго надзея не спраўдзілася. Тое, што Паліводскага ўжо няма жывога, не дало яму палёгкі. Безнадзейнасць і чорны смутак душылі яго. Але ён павярнуўся плячыма да сонца, якое ўсё вышэй уплывала ў неба. «Ісці ад сонца — дык прыйсці на захад». Ён як бы працверазіўся. Ён стараўся ўжо разабрацца, куды ж завялі яго за ноч ногі? Мясцовасць была незнаёмая. Лес, поле, вада ў лагчынах, крыклівыя вароны, скрыжаваныя сцежкі цераз поле, і чалавек нейкі.

Гэты чалавек стаяў у нізкіх зарасніках на мяжы поля і лесу і відзён быў увесь ад пояса. Ён быў так блізка, што Акаловіч выразна заўважыў, што ён даўно не галіўся. Адзін на аднаго яны глядзелі, і той раптам гукнуў:

— Эй, хто ты, падыдзі сюды!

Акаловіч нехаця і з такім адчуваннем, быццам сэрца яго ў грудзях адарвалася ад свайго месца, падышоў да чалавека. Той адразу прыцэліўся ў яго з аўтаматычнай вінтоўкі, кашлянуў мокра і хрыпла і сказаў захалоджаным голасам:

— Хто ты?!

Акаловіч уныў і варухнуў губамі.

— Ну, кажы, хто ты? Дэзертыр з Чырвонай Арміі?! Ну! А мо шпіён нямецкі, ходзіш тут, віжуеш!

— Нашто ж тут немцам шпіёны, калі яны тут...— стараючыся гаварыць развязна і з нуднай усмешкай, адказаў Акаловіч.

— Калі яны тут? Не яны тут, а мы тут! — крыкнуў чалавек, і Акаловіч бачыў, што праз паўсекунды чалавек стрэліць. Акаловіч са страшнай сілай адчуў неперамožную прагу дацягнуцца туды, пад Клецак, і гэта ўжо рабілася яго адзінай мэтай у жыцці. Інстынктыўна, не думаючы, ён, само сабой, узяў у момант панібрацкі тон:

— Што ты робіш! Спусці стрэльбу! Дурань!

— А ты чаму не кажаш, хто ты! Кажы! Кажы, бо зараз стрэлю!

— Я іду з аперацыі.

Чалавек спусціў уніз вінтоўку.

— Ну дык прысядзем, закурым. «Божа! Чалавечае слова! Упершыню за ўвесь гэты страшны час!»

— Сядзець мне няма калі.

— Далёка табе ісці трэба?

— Пад Клецак.

— А дзе гэта?

— Ад Нясвіжа пятнаццаць кіламетраў.

— Нясвіж чуў, а як жа. То пакажы дакумент.

Акаловіч адгарнуў ад жывата транты свае адзежыны і пачаў абмацваць у кашулі вышэй жывата ліштву, па якой зашпільвалася кашуля. У адным месцы ліштва не была прышыта, а толькі зарублена. Удала дзе-нідзе прафастрыгаваная, яна шчыльна прылягала да кашулі. Акаловіч засунуў пад яе палец і пачаў там ім шнарыць. Чалавек чакаў. Акаловіч дастаў адтуль скручаную ў валік паперку. Раскруціў, паглядзеў і падаў чалавеку. Той пачаў пра сябе чытаць. Гэта было пасведчанне Нясвіжскага райсавета, што Люцыян Акаловіч ёсць селянін з Рымашоўскіх хутароў, Нясвіжскага раёна, Баранавіцкай вобласці. І штамп, і пячатка, і подпісы — усё было на месцы, і нельга было здагадацца, што паперка рабілася не ў Нясвіжы, а дзесьці ў Германіі. Прачытаўшы паперку, чалавек падазрона паглядзеў па Акаловіча і, не аддаючы яму яго пасведчання, сказаў:

— Дык ты туды і ідзеш?

— Туды.

— А дарогу ты ведаеш?

Акаловіч зразумеў недавер'е і пачаў гаварыць:

— Мне на Маскоўска-Варшаўскую шашу трэба выбіцца, а там я ўжо ведаю.

— А там як?

— А там як?! Пасля Слуцка праз Селіцкія крыжы, Лядныя, Гулевічы, Піліпавічы і кіламетраў сорак не даходзячы да Сіняўкі...

— Дык табе ж гэта круг будзе,— дапытваў чалавек, не спускаючы з Акаловіча пільных вачэй.

— Дык можна і інакш,— адразу схамянуўся Акаловіч.— Мусіць-такі я пайду з-пад Гулевіч на Цімкавічы, на Пузава...

— Чакай, а яшчэ?

— Шашою да Слуцка, а там з шашы сысці зусім, а прысадамі да Нясвіжа, а там, не ўваходзячы ў горад, а толькі прайшоўшы Новае Места і ля брамнага ўезду ў горад, адразу налева да Мураванкі...

— Чакай, чакай, разгаварыўся! Зброя якая ў цябе ёсць?

— Пісталет без набояў...

— Ну што ж, ідзі хіба...

Акаловіч ажыў, увесь смутак яго скончыўся. Свет і сябе ў ім ён адчуў у гэты момант так: «Дайсці туды, чакаць, хавацца, служыць таму, хто б там ні быў і хто б там навек ні астаўся. Адслужыць штодзень яму колькі яму трэба, а рэшту дня сам з сабою, адзін, ці гной корпаць, ці што там будзе...»

Раптам чалавек заўважыў у Акаловіча на грудзях штосьці падазронае для сябе. Штосьці выгыркала з-за ліштвы, адкуль ён даставаў тое пасведчанне. Чалавек зноў пачаў дапытвацца:

— А з якое ты аперацыі ідзеш?

— Ну з аперацыі.

— Адкуль?

— З Лядскага маёнтка.

— А што там рабіў?

— Як што рабіў?

— Дай сюды,— унь у цябе нешта тырчыць з кашулі.

Акаловіч хапіўся за ліштву, і ўтрапенне скалынула яго. Чалавек зноў падняў вінтоўку.

— З якое аперацыі?!

— Я забіў Паліводскага.

— Гэта ты?

— Я.

— Хто табе даваў заданне? Чаму ты так здалёку ішоў на гэта, і так далёка назад?! Тут зусім іншая акруга!

Тут чалавек, усё сочачы за Акаловічам, убачыў, што ён тое, што тырчэла ў яго з ліштвы, ужо скамячыў у пальцах, змяў у жмуток, быццам бы выціраючы пальцамі нос, паклаў у рот і ўжо клычыць зубамі і языком. Зараз глыне.

— Выплюнь! — закрычаў чалавек і зварухнуў пальцамі на вінтоўцы. Акаловіч плюнуў. Чалавек хапіў мокры ад сліны жмуток і, расцягнуўшы яго ў пальцах, убачыў, што гэта кавалачак паркалю, на якім штосьці дробна надрукавана па-нямецку.

— Я забіў Паліводскага,— голасам як з-пад зямлі абазваўся Акаловіч, падаючыся задам да першых зараснікаў на самым узлессі.

— Я ведаю і без цябе, што Паліводскага сёння ўночы забілі,— прахрыпеў чалавек і стрэліў. Акаловіч упаў і больш ужо не паварушыўся.

З таго дня і гэты куток, дзе сярод кустоў ляжаў нежывы Акаловіч, і той маёнтак, адкуль на трэці дзень пасля першых допытаў і доследаў вывезлі на бліжэйшы могільнік Паліводскага, і ўсе тутэйшыя дарогі пачалі часта агалашацца стукатам нямецкіх матацыклаў і грузавікоў і скогатным бразгатам танкаў і танкетак. Кожную легкавую машыну ахоўвала танкетка, а калі ехаў які-небудзь санавіты немец, то за ім ішоў танк, або і два. Пачалі з'яўляцца і станавіцца тут часці вялікага карнага злучэння. Аўтаматчыкі на грузавіках штодзень кудысьці ехалі дарогамі. Грунтавым жа шляхам, які ляжаў тут, час ад часу праходзілі танкі. Можа гэты захад быў не так дзеля аховы нямецкіх заваёваў, як дзеля таго, каб нагнаць страх на насельніцтва. Танкі, хоць па адным ці па два, пачалі часамі шнураваць па вялікіх дарогах і суседніх з гэтаю акруг. Смерць Паліводскага перакінула трывогу і туды. Нямецкія начальнікі толькі за вялікаю патрэбаю выязджалі са сваіх месц і стараліся трымаць каля сябе як найбольш салдат. Што ж да людзей, то ўсюды гаварылі пра пахаванне Паліводскага: завезлі, засыпалі ў яму, і ніхто з людзей на пахаванні не быў, толькі паліцэйскія і два немцы. Ніхто не ўздыхнуў і не дакрануўся хустачкай ці пальцамі да вачэй. З гэтай прычыны пайшла старая прымаўка на новы



лад: «служы немцу верна, дык ён ад цябе нос адверпе». Так шырока погаласка і трывога пайшла, што задалёку ад месца смерці Паліводскага, у сваім неўладаваным яшчэ маёнтку, Гертруда і яе стары Густаў былі няшчасныя ўсе тыя дні, калі не быў з імі іх сын. А ён пачаў бываць тут вельмі зрэдку. У яго быў іншы клопат: у яго было больш, як у іншай якой акрузе, канцэнтрацыйных лагераў, і гэта пачало вельмі непакоіць яго. Ён павялічыў і пашырыў разведку і «прачосванне» лясоў. Але салдат было ў яго мала, бо з цэнтра закамандавалі некаторым гарнізонам перамясціцца адсюль у акругу, дзе быў забіты Паліводскі. У яго такім парадкам узнікла думка зліць усе канцэнтрацыйныя лагеры ў адзін, каб злучаныя разам вартавыя вайсковыя часці сталі моцнай сілай. Яго гэтую думку прынялі. Але пакуль што тут было яшчэ спакойна. Ад Перабродскага лагера да маёнтка, куды ён пасадзіў на ўладанне свайго бацьку, было кіламетраў дваццаць. Ад маёнтка да вялікага грунтавога шляху, які ішоў ад Гомельшчыны цераз Бабруйшчыну на Вялікае скрыжаванне з Маскоўскаю шашою на Случчыне, было кіламетраў пад семдзесят. Па гэтым шляху і пачалі шнураваць танкі час ад часу. Ні танкі, ні салдаты ніводнай сутычкі ні з кім не мелі, і ўсё пачало як быццам спакайнець.

Па людзях жа пайшла гамана, што па лясах збіраецца вялікая сіла, мноства людзей і ўсё пры зброі, і многа там чырвонаармейцаў і камандзіраў, і што нешта вялікае неўзабаве можа адбыцца. Што ж да справаў на фронце, то прайшла чутка, што падышлі вялікія папаўненні і Чырвоная Армія хутка пачне наступаць. Тым часам вельмі шырока стала вядома, што каля Сумліч на Вялікім скрыжаванні адбыўся напад на нямецкую аўтакалону: звыш як семдзесят нежывых немцаў ляжаць на самым скрыжаванні пад недаломкамі васьмі машын. А ў суседняй з Сумлічамі воласці ўночы раптоўна невядомыя перастралялі ўсю паліцыю і схапілі і забралі жывога з сабою каменданта. Хоць ніхто цяпер нікуды ад свайго дома далёка не ад'язджаў і не адыходзіў, але ўсюды, на шырокую навакольнасць, ведалі, дзе ляжыць вытрушчаны і выгнуты на кучу ламачча нямецкі поезд. З-пад скалечанага паравоза і разбітых вагонаў тырчаць акрываўленыя нямецкія косці. Ведалі яшчэ і гаварылі пра тое, што на грунтавым шляху ў лесе непадалёку, нават зусім блізка ад малога скрыжавання, стаіць адным бокам, з паднятым на паветра другім бокам і з па-

гнутым і парваным сподам нямецкі танк. Дакладна называлі месца: калі прайсці ад малога скрыжавання колькі кіламетраў шляху ў бок да таго месца, дзе ён каля Сумліч крыжуецца з шашою, то, мінуўшы вялікую бярозу, будзе зараз жа і той танк. І па глухіх кутках, і па дарогах нават усё часцей льга стала напаткаць узброенага чалавека або некалькі іх. І ўсё гэта была праўда. Каму з якой-небудзь добрай ці злой прыгоды здаралася трапіць у тыя месцы, той сапраўды бачыў і поезд пад адкосам, і падарваны танк на шляху ў лесе. Казалі, што ад споду быў вельмі заквэцан у гразь, а з яго люка вытыркала і матлялася на ветры сіняя кашуля з вышыўкамі на рукавах.

Танк гэты стаяў узняты левым бокам у паветра, аднак жа не так блізка ад вялікай бярозы, не бліжэй як за паўкіламетра. Пад узнятым угару левым бокам была яма ад гранатнага ўзрыву. Абгарэлым і абкурадымленым задам ён сядзеў нізка ў зямлі. Што здарылася з гэтым танкам, ведала толькі адна Ракуцькава Лізавета. Самі ж танкісты ўжо нічога не маглі расказаць, бо яны былі мёртвыя. Канчаўся ўжо трэці тыдзень вайны, калі Лізавета падышла да бацькавай хаты. Выкіравалася яна сюды не ад шляху, а ўжо з супрацьлеглага боку. Яна дала вялікага кругу, каб не ісці шляхам. Яе ўразіла пустэча і цішыня ў пасёлку. Дзверы ў хатах усюды былі паадчынены, і хоць бы дзе жывая душа. З дрыжаннем сэрца яна ўвайшла ў бацькаў двор. Яе хустка, у краткі і з фрэнзлямі, валялася пасярод двара. Яна ўвайшла ў адчыненыя на ўвесь мах дзвярэй сенцы. Шырока раскінуты дзвюма палавінамі чамадан з жоўтай скуры стаяў на лаве. У ім, напханыя туга, былі чаравікі, кашулі, боты, нагавіцы, сукенкі. Гэта яе і Тамашова, тое самае, што бацька збіраў праз доўгія гады. Камень з жорнаў у засохлай крыві ляжаў пасярод сянец. З-пад яго вытыркаў пляскаты кавалак чарапной касці з скурай і пукам рыжых валасоў. Яна скалынулася і шпарка зазірнула ў хату. Валачашчая сука прыбілася сюды і паспела ўжо тут ашчаніцца. Вялікая, худая, выцягнутая, доўгая і тонкая, яна ляжала на падлозе, і шасцёра сляпых шчанят смакталі яе. Яна вышчарыла зубы і забурчала, пачуўшы чалавека. Лізавета выбегла з хаты, абышла ўвесь пасёлак, не спаткала нідзе ні душы і пакінула гэтае сумнае месца. Вось і ўсё. І няма ўжо больш ні там ні тут ні прытулку, ні прыпынку. І можа бацькі і маці ўжо няма. Вось і прыйшла самая спелая пара яе юнацтва! Яна пера-

начавала ў блізкай вёсцы пры шляху і вярнулася назад. У яе з'явілася патрэба яшчэ раз зірнуць на бацькаву хату. Дзесьці ў глыбіні душы ажыла ў яе надзея, слабая і няпэўная: а можа праз які-небудзь цуд яна там нападзе на бацькаў след. Менш як праз гадзіну яна зноў зазірнула ў бацькавы сенцы. Адзежы і чамадана ўжо не было. У хаце не было ўжо і сукі, адны толькі шчаняты спалі ў цесным клубку на падлозе, у пуку сонечнага прамення з акна. Раптам ускочыла ў хату сука і брэхам выгнала Лізавету на вуліцу. Лізавета пайшла ўнурыўшыся, а сука рвала яе ззаду за адзенне. Лізавета азірнулася. Сука адбеглася і зноў пачала нападаць. Лізавета падняла пошвырак. Сука ўскочыла ў двор, у сенцы, у хату, дзе раптам залямантавалі шчаняты. Лізавета зашчапіла дзверы і зноў пайшла, чуючы ўвесь час брэх зачыненай у хаце сукі. Тут яна ўбачыла, як з'явілася на вуліцы фурманка і трое нейкіх невядомых мужчын, аброслых, у рубашках без падпяразкі, пачалі цягаць з хат усё, што толькі маглі і што было там. Воз напаўняўся адзеннем, посудам, усялякім прыладдзем і рыштункам. Лізавета скрылася ў першы двор і агародамі і садамі выйшла на доўгую сцежку праз поплаў да тарфянога балота і ўзгорыстага поля. Яна ўжо мінула і тую вёску, у якой начавала, і палявою дарогаю ішла туды, дзе праходзіў вялікі шлях. Дарога паднялася на крутое ўзвышша. Лізавета азірнулася з гэтага высокага месца і з вострай трывогай убачыла, як над пасёлкам, дзе стаяла бацькава хата, выбухнуў высока агонь з дымам і шпарка пачаў распоўзвацца ўшыркі. Лізавета пайшла далей і праз сотню крокаў азірнулася. Агонь бушаваў, як навальнічныя перуны. Тут, на дарозе, пахла ўжо дымам і гарэлым дрэвам і чуўся дзікі лямант. Проста на Лізавету з усіх сіл імчалася сука. Лізавета пазнала яе не з масці, а з усяго выгляду. Сука была ўжо без шэрсці, уся абсмаленая і абскараная. Яе адцягненыя шчанятамі цыцкі былі абвугленыя, і ўсё чэрава было падобна на абсмаленую дошку. Зад яе быў высквараны і ад бягі патрэскаўся і змочваўся крывёй. Ад яе тхнула гарэлым мясам. Дагнаўшы Лізавету, сука ўпала на зямлю, і, валакучы зад, дапаўзла да ног апанаванай утрапеннем дзяўчыны і зноў заенчыла і заскуголіла. Вялікія вочы яна ўставіла ў Лізавецін твар, і здавалася, скогат яе чуцён на ўсё шырокае наваколле. Лізавета пабегла. Адбегшыся, яна азірнулася і ўбачыла, што сука ляжыць і дзярэ лапамі зямлю, а агонь і дым удалечыні

пачалі ападаць. Подбегам Лізавета дайшла да вялікага шляху, спынілася апанованая одумам, паглядзела ў залітую сонцам прастору і зарыдала. Пайшла яна шляхам у той бок, з якога так доўга бралася сюды, да бацькавай хаты. Да самай ночы, і ўсю ноч, і палову наступнага дня яна ішла і выйшла на большы шлях і ўсё ішла. І ўвесь час душу яе ціснула гора і смутак. Так дайшла яна да малога скрыжавання і ўвайшла ў лес. Яе дагнала і пачала мінаць невялікая калона нямецкіх танкаў. Танкі ішлі адзін за адным на вялікай разлегласці. Яна перастаяла іх усе, стуліўшыся за дрэвам. Ужо і гул іх знікаў. Яна рушыла далей, ужо выразна дайшоўшы да думкі вярнуцца туды, дзе прайшло яе маленства, і там шукаць бацькі. Пачаткі нейкай надзеі нараджаліся ў яе. Яна ішла, і ўсё недзе гуло. Яна думала, што гэта ад тых танкаў наперадзе. Раптам забразгала ззаду. Яна азірнулася. Танк стаяў пасярод дарогі. З яго выйшаў немец і махаў ёй рукой. У яе заныла сэрца. Немец пайшоў проста да яе. Усміхнуўшыся, ён узяў яе за локаць і тузануў ісці з ім. Ён падвёў яе да самага танка і паказаў рукой, каб яна ўлазіла ў сярэдзіну. Яна стаяла моўчкі. Ён прыўзняў яе пад пахі і ўсадзіў у танк. Там быў яшчэ адзін немец. І той рапейшы ўлез следам за ею. Танк рушыў у ход. Два немцы і яна цесна сядзелі адзін пры адным. Танк быў напакован жаночым адзеннем і абуткам. Раптам танк спыніўся. Немцы пачалі штосьці шпарка гаварыць паміж сабою. Было падобна, што яны спрачаюцца. Нарэшце адзін немец вылез з танка, а другі пасядзеў, памаўчаў, быццам да чагосьці прыслухоўваўся. І пацягнуў Лізавету да сябе. Яна хацела адшатнуцца, але немец трымаў яе моцна. Твар яго быў як набрынялы, і кадык выпіраў з расшпіленага мундзірнага каўняра. Яна тузанулася і дакранулася зубамі да яго горла. Ён выцягнуў шыю. Яна рванулася да яго горла зубамі. Ёй здавалася, што рот увесь напоўніўся. Як мага, яна ціснула зубы, усё больш і больш. Не могучы апамятацца ад вялікай трывогі, яна змагалася яшчэ і з немцавымі рукамі, якія адпіхалі яе. Чуючы, што ўласнае сэрца гатова разарваць і задушыць яе, яна ўсё больш сціскала зубы, чула, як немец захроп і як ёй пырснула ў твар.

— Э, э, Генрых! — пачаў абзывацца той другі дзесьці за танкам. Яна шатнулася ад немца і з нейкага інстынкту хапіла з-пад яго падол светлай жаночай сукенкі і два разы шмарганула сябе па мокрых губах. Не трапляючы дрыжа-

чымі і аслабелымі рукамі куды трэба, яна, з яснай думкай, адарвала ад немца тры гранаты, якія добра бачыла ў бялявым святле, што падала сюды.

— Генрых! — моцна сказаў за танкам немец і нешта засвістаў. Свіст яго пачаў аддаляцца. Яна вылезла з танка, са страхам шукаючы вачыма немца. А ён стаяў за дарогай і ачышчаў рукаў ад засохлай гразі. Ён убачыў яе, штосьці сказаў і паказаў пальцамі сабе на грудзі. Тулячы пры боку гранаты так, каб не бачыў іх немец, яна пайшла ад танка ў лес. Немец закрычаў, шпарка падышоў да танка і зазірнуў у сярэдзіну. Яна збялела тварам, ледзьве перадыхнула, шпурнула гранату да немцавых ног. Калі яна апамяталася, абсыпаны зямлёй танк стаяў на месцы, каля яго была яма, і цераз дарогу, паміж двух дрэў, ляжала немцава рука разам з кавалкам пляча і мундзірным каўняром у крыві і зямлі. Яна шпурнула пад танк дзве гранаты зараз. Танк падняўся адным бокам угару, а другім асеў у зямлю. Зад яго палаў і пасля атух. Так ён і астаўся стаяць адным бокам. Лізавета подбегам пайшла, думаючы пра тое, што з кожным крокам яна аддаляецца ад гэтага месца. Так мінула яна вялікую бярозу з першымі жоўтымі лісткамі на ёй і ішла ўсё далей. Пасля гранатных узрываў пад танкам гэтае месца на доўгі час зноў аставалася ціхім і пустым. Толькі пасля таго як у суседняй акрузе Акаловіч забіў Паліводскага, гэтым месцам зноў пачалі праходзіць нямецкія танкі. Бяроза тады стаяла зусім ужо голая, і зямля пад ею пачынала прымярзаць. У тыя часы на гэтым месцы з'явіўся старэйшы Густаў Шрэдэр у выглядзе такім жа дзіўным, як і страшным. Гэтае новае падарожжа яго пачалося і скончылася вось як.

Перабродскі лагер апусцеў бадай-што больш як на палавіну да тых дзён, калі Ракуцькава жонка пачала выгалошваць сваё гора і калі Лукашэвічава Ліза як бы адчула сябе лепш ад свае крываўкі і сядзела дзень і ноч на зямлі каля слупа з позіркам, які мог скалынуць душу кожнага.

Многа людзей з лагера немцы адправілі на работу. Ночы былі ўжо доўгія і халодныя, але днём яшчэ грэла сонца, і пад ім вяў і запыльваўся трыпутнік і спарыш на сцежцы, па якой уваходзілі ў лагерную загарадзь. Тая ноч, якую Ліза ўсю праседзела з накіраваным у прастору позіркам, была нешта вельмі халодная. Перад самым рассвітаннем Ліза прыпала шчакой да слупа. Можа гэта было самаашуканства, але ёй здалося, што так цяплей. Узбу-

джанне перваў у яе павялічвалася. Позірк стаў вастрэйшы і стаяў на мяжы з адчаем. Яна не заўважала, як зашарэла ноч і неба на ўсходзе пабялела. Не вывелі яе з забыцця і частыя выстралы. Немцы для смеласці часта тут стралялі. Пасля пачаў гарэць знадворку ад агароджы, у полі, салдацкі барак. Агонь выбухнуў так высока, што тут, на зямлі, стала відно, як у сонечны дзень. Ліза ўсё сядзела і раптам убачыла: сюды пабеглі людзі. Па той бок агароджы немец упаў. Яна ўсё глядзела туды і не магла здагадацца. Позірк яе аставаўся яшчэ ранейшы. Праз разгароджанае месца сюды ўбег Ракуцька з аўтаматам. Твар яго быў чырвоны, і вочы свяціліся белым полымем. Перад ім неяк дзіўна, то задам, то бокам бег немец з паднятымі рукамі і нешта лапатаў. Ракуцька не бег, а імчаўся, неяк калоцячыся, ірвучыся. І раптам яму дарогу загарадзіў Лізін позірк. Ён быццам даўся ў сцяну і на момант застыў аслупянелы. Трэба думаць, што Лізін позірк уразіў яго з найвялікшай сілай. Можа, і гэта напэўна так, тут было закранута балючае месца яго душы. Можа няўяўны прывід Лізаветы паўстаў перад ім. Ён увесь як бы закалаціўся перад Лізіным позіркам. У наступны момант ён закрычаў немцу:

— Стой! Падай!

Немец угнуў галаву і рынуўся яму ў ногі. Можа ён хацеў збіць сабою Ракуцьку з ног. А можа ён шалеў ад страху. Ракуцька хапіў яго за плечы, і можа нават тады, калі апошні раз ён глядзеў на свайго малога Тамаша ўночы пад навальніцай, у яго не было такога вялікага ўтрапення. Душа яго калацілася, і думка ўзнімала пакутныя вобразы мінуўшчыны. Уся істота яго прагла расплаты. Немец ляжаў у яго пад нагамі. Руляю аўтамата ён раструшчыў яму твар і адчуў яшчэ большую прагу сеяць смерць. Можа, якраз у гэты момант у ім нарадзіўся той чалавек, што блізкім часам узвысіў сваё імя, пасля чаго Лізавета пачула пра яго і прыйшла да яго. Цяпер ён падбег да Лізы. Яе позірк з'іначыўся ў гэты момант. Тонкая і хісткая, як травіна ў сушу, яна разам з ім пайшла ў натоўп, дзе раптам загаласіла Ракуцькава жонка і закрычаў Тамаш:

— Хто можа біцца?! Хто хоча зброю?!

А пасля Тамаш сказаў усё невядомым Лізе людзям:

— Кіруйцеся вы на гэты маёнтак, дзе немец, забірайце ўсе коні і вазы і назад сюды! Тут многа хворых.

У гэты момант толькі яшчэ заружавела неба на ўсхо-

дзе. Калі ж узышло сонца і паднялося так, што цень ад хвоі быў толькі напалову даўжэйшы за яе, людзі ціха пачалі выходзіць адусюль з поля і збірацца ў адным месцы за старым паркам. Нямецкі салдат ляжаў там у дрэвах з прабітымі штыхом грудзьмі. Густаў Шрэдэр старэйшы чакаў у гэты дзень прыезду свайго сына. Ён хадзіў навокал дома. Калі грунуў першы залп з вінтовак і закрычаў каманду сваім падначаленым старшы паліцай, Шрэдэр выйшаў за глухую сцяну дома і ўбачыў многа людзей паміж стайнямі і свірнам. Душа яго заныла, і ён пачаў беспарадна азірацца. Як і кожны дзень, у Гертруды быў дрэнны настрой. У незашнураваных чаравіках яна хадзіла па пакоі і падлічвала, праз колькі гадзін можа прыехаць яе сын. Ёй здалося падазроным, што па малым дворыку перад домам нешта занадта часта прабягаюць людзі. Залп з вінтовак яе ўстрывожыў не больш як і заўсёды: салдаты і паліцаі тут часта практыкаваліся ў стральбе. Яна зазірнула ў памежны пакой, дзе павінна была быць служанка, тутэйшая жанчына, ціхая і працавітая, якая ўсё тужыла аб сваім мужу, які мабілізаваўся ў армію ў першыя дні вайны. Яна збіралася прасаваць і ладзіла ля акна прасавальную дошку. Гертруда сумна на яе глянула і, праз дзесятае ў пятае трапляючы на пакалечаныя рускія словы, папрасіла жанчыну пайсці даведацца, чаго па двары ходзяць людзі. Жанчына нічога не зразумела, але выйшла сама, з свайго жадання. Гертруда асталася чакаць адна ў пакоі. Раптам у дзвярах паказалася служанка. На злёгку васпаватым твары яе было штосьці падобнае да ўсмешкі.

— Партызаны! — крыкнула жанчына, ідучы далей у пакой.

Гертруда закруцілася па пакоі, не могучы нават падаць голасу. Жанчына хапіла прасавальную дошку і дала ею Гертрудзе ў плечы. Гертруда пабегла ў дзверы, чуючы за сабою рогат жанчыны. Збягаючы з ганка, яна пагубіла з ног незашнураваныя чаравікі і босая, колючы з непрывычкі ногі і абдзіраючы іх, выбегла за дом і ўбачыла там салдата на зямлі з доўгім і тонкім нажом у жываце. Тронак ад нажа высока тырчэў над мёртвым салдатам.

— Густаў! — закрычала Гертруда і адна пабегла ў поле дарожкаю праз сад. Многа галасоў чула яна за садам. Там ужо людзі запрагалі ў вазы коні. Густаў дагнаў Гертруду ў чыстым полі, у вельмі нізкай лагчыне, падобнай на яму. Высока на яе краях рос крушыннік, зрэдку

было яшчэ на ім жоўтае лісце. Гертруда плакала і малілася. Густаў моцна трымаў яе пад плячо. Ступені яе ног былі ўжо спрэс у крыві. Доўга ўзыходзілі яны на край лагчыны, з кожным крокам усё аддаляючыся ад жудаснага для іх месца на заваяванай зямлі. Так дайшлі яны да вузкай грады лазы і ядлоўцу. Да гэтага моманту ў іх ужо і заваду не было пачуцця страху. Іх толькі прыгнечвала адчуванне гібелі. Была прага, каб адбыўся цуд і каб перад імі з'явіўся іх сын, у якога яны верылі. Яны не ведалі і не хацелі ведаць, што ў гэты дзень рабілася ў маёнтку, уладанне якім ператварылася так хутка ў горкі здзек над іх марай пакінуць быць арандатарамі. У гэты дзень людзі выгналі з маёнтка жывёлу і вывезлі запас хлеба і садавіны. Вялікі абоз на маёнткавых конях выехаў адтуль у той час, калі Гертруда і яе Густаў сядзелі ў лазе і адпыхваліся. Абоз даехаў да Перабродскага лагера і там доўга не затрымаўся. Пасля таго, калі на фурманкі паклалі і пасадзілі хворых, абоз рушыў на вялікі шлях, і ўсе, хто быў тут, пайшлі следам. Нават хто і жыў паблізу Перабродскага лагера, пакідалі свае хаты і таксама пайшлі следам за тымі і разам з імі, хто прыйшоў сюды ратаваць забраных у лагер. Увесь гэты людскі рух прайшоў скрозь па вялікім грунтавым шляху цераз малое скрыжаванне і далей паўз скалечаны танк, дзе людзі закрывалі далонямі раты і насы: там патыхала трупным духам. Людскі рух мінуў вялікую бярозу і кіраваўся далей у бок Вялікага скрыжавання.

Гертруда і Густаў у той самай лазе дабылі да ночы, і, як сцямнела, імі апанаваў адчай. Якое было шчасце, што ў тую страшную раніцу Густаў спацыраваў са скручаным парасонам у руках! Парасон так і астаўся ў яго. Ён зняў з сябе пінжак і камізэльку і надзеў усё гэта на Гертруду. Ён быў вінават перад ею. А яна ўзводзіла яго віну ў найвышэйшы стан. Яна вечна сцвярджала, што ён вінават перад усёй Германіяй. Ён распусціў парасон, і, прытуліўшыся адзін да аднаго, яны ўсю ноч прастаялі пад парасонам, і гэта была ілюзія, што яны не зусім у чыстым полі. На мокрай і прымерзлай зямлі яны сядзець не маглі. Нервовае ўзбуджэнне было ў іх такое вялікае, што ні ў яго, і тым больш ні ў яе, за ўсю ноч нават не прыжмурыліся вочы. З першым дзённым святлом, калі яно яшчэ толькі пачало цадзіцца, яны рушылі далей. Куды? Абы далей ад гэтага месца. Абы далей! А збавенне будзе. Бо

тут жа заваяваная зямля, тут жа нямецкае войска і ўлада, і іх сын! Раптам — ці гэта было сапраўды, ці можа толькі галюцынацыя, але адзінокі вінтовачны стрэл прагучаў вельмі выразна. Гертруда крыкнула: «Густаў!» Густаў шпарчэй пацягнуў яе. Узбуджанне іх расло больш. Ужо яны не заўважалі, ці гэта дзень, ці гэта ноч. Далей ад гэтага месца! Бліжэй да ратунку, які сам падбае пра іх. Не ногі, а нервы вялі іх нейкаю палявою дарогаю. Не еўшы, не спаўшы, нават не сядзеўшы нідзе, яны сцішылі хаду толькі тады, калі прыйшоў час адчуць ім адзеравянеласць ног. Тады яны пайшлі быццам спацырам. І тут скончылася іх надзея на ратунак. Дзьмуў у полі вецер, поблізу гаманіў лес, Гертруда пакідала крывавы след ад сваіх ног. Шырокі свет з сонцам, з ветрам, з пахам дажджоў і зіхаценнем дзён стаў цесным склепам. Не толькі гадзін, а нават і дзён яны ўжо не маглі лічыць. І невядома, ці гэта змяркалася, ці гэта світала, калі штосьці ў полі зачарнелася перад імі. Усё роўна што гэта, абы толькі што-небудзь каб было наперадзе! Не сыходзячы з дарогі, яны праз колькі гадзін дацягліся да чагосьці маўклівага і нерухомага. Гэта быў «сухі дзюб». Вялікі камень мог здавацца ўвасабленнем магільнага маўчання. У адным месцы пад ім, дзе адна старана яго навісала як бы столлю, зямля была сухая, чысты белы пясок і ні саломіны, ні травіны на ім. Раптоўная радасць цюкнула Густава, як бы гэты сухі пясок быў знойдзеным сэнсам светабудовы. Ён хацеў зняць з сябе якую-небудзь адзежыну, каб разаслаць на пяску і пакласці Гертруду. Але ён быў толькі ў адной, упушчанай у нагавіцы, кашулі і з чорным гальштукам на шыі. Гертруда лягла на голы пясок і адразу заплюшчыла вочы. Побач яе пад каменнай навіссю лёг і Густаў. Вецер шастаў незазябленым іржышчам і абвакольваў гулам камень. Раптам Гертруда расплюшчыла вочы. Яна штурханула яго локцем, быццам бы правяраючы, ці тут ён. І тады ён пачуў яе голас, упершыню пасля выгнання з маёнтка. Раз-поразу аблізваючы сухія губы, ледзьве адцягваючы голас, яна гаварыла, і гэты слабы голас гучэў яму, як гнеў помстлівага лёсу:

— Ты раскрыў быў сваю душу перад чужаземцамі. У цябе перад імі нарадзіліся добрыя пачуцці, і ты не астаўся халодны, а пайшоў на сардэчнасць перад тымі, у каго нават далёкія продкі не мелі і заваду германства. Гэта лёс Германіі за цябе расплачваецца з намі! Гэта ты

згубіў мяне! — Яна ледзь не задушылася апошнімі словамі. Памаўчала і зноў пачала, але павальней і цішэй: — Я ўміраю, а з таго, што ты аддаў быў немаведама каму, яны, тыя, шчасліва пражылі дзесяткі год... Божая рука ў нашай гібелі...

Апошнія яе словы ён ужо ледзьве разабраў і з жахам усхапіўся. Яна маўчала і адно бесперастанна варушыла губамі і з кожным момантам павальней. Акамянелы, аслупянелы, анямелы, ён стаяў над ею, аж пакуль думка, што яна ўжо мёртвая, не з'явілася ў яго. Гэтая думка не страсянула яго, так многа ён перажыў ужо. Ён нагнуўся і дакрануўся яе твару. Гертруда ўжо сканала. Ён распусціў парасон і паставіў яго над яе тварам. Але тут ён падумаў, што парасон здалёку могуць заўважыць і згарнуў парасон. І зноў (сапраўды ці галюцынацыя?) вінтовачны стрэл здалёку. Ён падняў галаву. Пачыналася новая квадра яго пошукаў ратунку: без Гертруды. Ён пачаў азірацца, а пасля цвёрдая думка, што сляза мёртвага не падніме, выразна пачала авалодваць ім. Ён выцягнуў з-пад Гертруды свой пінжак, адзеўся ў яго, паглядзеў на Гертрудзіны ногі і неўзабаве рушыў па той самай дарозе. Праз колькі кіламетраў ён азірнуўся і больш як хвіліну глядзеў, як чарнеецца ўдалечыні «сухі дзюб». Пінжак абагрэў яго, і звечара ён нават падрамаў у полі на пакіненым пярэбірку гнілой грэчкі. Але хутка ён пайшоў далей, ратуючыся ад холаду. Досвіткам ён дайшоў да поля, дзе стаялі мэндлікі нязвезенага жыта. Ён ушыўся ў снапы і пачаў церці счарнелыя пад дажджамі каласы. Ён наеўся гнілога зерня і зноў рушыў у дарогу. Ні надзеі, ні якіх бы там планаў у яго яшчэ не было, але ён ужо ачомаўся пасля першага дня выгнання і Гертрудзінай смерці. Так перайшоў ён малое скрыжаванне і ўвайшоў у лес. І сам ён не ведаў, колькі дзён ён ужо вандруе. Можа было ўжо больш за тыдзень, а можа паўмесяца — ён не мог бы сказаць. І так дайшоў ён да скалечанага Ракуцькавай Лізаветай танка. Голад з'ядаў яго. Чырвоныя вочы яго часта міргалі, і твар уздрыгваў. Ён так прывык ужо не заўважаць, на чым ён ляжыць, што есць і што нюхае, што адразу не ўзяў на ўвагу трупнага духу, які панаваў у гэтым кутку лесу. І самога танка ён спачатку не заўважыў. Пінжак на ім быў ужо расшастаны на шматкі, і абутак злазіў з ног. Калі дзе траплялася, ён выграбаў рукамі з зямлі бульбу і еў яе сырую. Скура каля пазногцяў на яго пальцах

паздзіралася, пазакасвалася і крывавілася. Барада і вусы выраслі пукамі, і вочы пачалі западаць. Раптам яго ўвагу ўзяла на сябе чорная птушка. Гэта быў груган. Ён сядзеў на дрэве, на вытырклай сухой галіне і пільна ўглядаўся ўніз. Здавалася, што птушка гэта ёсць увасабленне самай найвялікшай на свеце ўвагі. Густаў інстынктыўна спусціў свой позірк з птушкі ўніз, куды яна ўглядалася і чаго, здаецца, пабоівалася. І сапраўды, мусіць зроду не бачыла яна такога мерцвяка. Гэта было нейкае страшыдла, нахіленае набок, але пахла яно па-сапраўднаму, па-мярцвяцкаму. Густаў падышоў да танка і адчуў на сабе раўнівы позірк агіднай птушкі. Ён падняў твар, і позіркі іх спаткаліся. Густаў махнуў рукамі, але птушка нават і не зварухнулася. Тады Густаў, перамагаючы ў сабе страх, палез у танк і, нічога спачатку там не разабраўшы, пачаў абмацваць па кутках рукамі. Божа! Галеты! Цэлы нячэпаны пачак! І другі! І тут ён адчуў, што можа задыхнуцца ад трупнага духу. Ён прыціснуў галеты пад паху і пачаў вылазіць з танка, шмаргануўся каленам аб жалеза і ўпаў тварам на смярдзючыя грудзі мёртвага танкіста. Ахоплены жахам, ён выскачыў з танка і на ўсе жылы даў ходу. Трупны дух ужо ішоў з яго ўласнай барады, носа і рук і мучыў яго. Ідучы, ён абціраўся то тыльным бокам рукі, то рукавом. А гадзін праз дзве пачаў жаваць галеты. І ўсё яму здавалася, што на ім ляжыць урачысты позірк гругана. На другі дзень усё яшчэ цягнуўся лес. А ён усё ішоў. Некуды ж прывядзе гэтая дарога, тым больш што ішла яна як бы ў супроцьлеглы бок ад усходу. Ён заўважыў гэта аднойчы раніцаю. Перад самым выхадам шляху з лесу, ён пачуў нейкі роўны скрып. Трывожна ён азірнуўся і ўбачыў: галіна аднаго дрэва на самай дарозе адцягнулася ўніз, надламалася пры ствале, пагоідваецца і паскрыпвае. На дрэве вісеў чалавек, у ботах, у тутэйшай адзежы і з дошкаю на шыі, на якой было напісана: «Я партызан». Павешан ён быў крукам пад сківіцу, і шыя і плячо яго былі ў крыві, ужо закарэлай. У гэты момант у Густава і з'явілася думка, якая ажывіла яго і ратавала ў далейшым яго падарожжы. Ён аж затрапятаўся, так натхніў яго ўбачаны ім малюнак. Значыцца, тут жыве германская ўлада! Тут ратунак і тут смерць тым, што ператварылі ў здзек над ім яго ж мару. Тут, можа, і сын яго дзе. Але каб вытрымаць, каб перахавацца, каб не трапіць ім у рукі! Ён нацягнуў, як толькі мог, павешанага чалавека за ногі.

Галіна адламалася, і труп упаў на зямлю. Добрага паўдня прайшло, пакуль Шрэдэр зняў з трупа боты і ўсю адзежу і пераадзеўся ў яе сам. Цяпер ён быў крыху падобен да якога-небудзь тутэйшага няшчаснага, які вылузаўся з якой-небудзь бяды і цягнецца ў свой бок. Ён паддаў ходу як толькі маглі вытрымаць яго аслабелыя ногі. Ён ішоў дзень за днём, і дзіўная рэч, нідзе ён не напаткаў ніводнай нямецкай машыны і ніводнага нямецкага салдата. Неспакой усё больш вырастаў у ім. І ніводнай нідзе жывой душы. Кожны дзень ён сачыў за ўсходам і заходам сонца — ці не кіруецца хаця ён у супроцьлеглы ад захаду бок? Раз на дарозе ён спаткаўся з жанчынай і запытаўся, ці далёка да Баранавіч.

— А ты хто? — адказала яму запытаннем жанчына, чуючы яго ламаную мову.— Ты можа чэх?

— А тут ёсць чэхі? — хітра запытаў ён.

— Немцы везлі кудысьці чэхаў, дык яны ўзбунтаваліся, паўцякалі і бадзяюцца па дарогах,— сказала наіўная старая.

— Я чэх,— адказаў Шрэдэр.

— Дык на Баранавічы ідзі проста шляхам да скрыжавання, а там па шашы.

Цяпер ён пачаў ісці начамі, а днём сядзеў дзе-небудзь у зацішку. Ужо зямля ўмерзла, і ночы сталі доўгімі вельмі. Бульба на полі была ўжо мерзлая. Але непрыбранае збожжа добра высыпалася з каласоў і многа зерня было нацярушана. Часам высвечвала сонца і яшчэ крыху грэла. Тады зямля пачынала раставаць і чарнець. У ім сфарміраваўся свет вялікай адзіноты. І вось шлях дайшоў да такога месца, дзе Шрэдэр спыніўся і выразная думка аб блізкай гібелі стала ў яго цвёрдай і выразнай. У гэты дзень сеялася мокрая імгла, але к вечару выяснілася і заход сонца быў чысты. Ружовасць ляжала на небе, і вочы маглі цешыцца з адзінокай травіны, якая дзе-нідзе праз нейкі цуд захавалася на ржышчы. Так дзень пачынаў згасаць, калі Шрэдэр убачыў проста на дарозе абломкі машын і мноства трупаў нямецкіх салдат. Патрушчаныя галовы, паадрываныя ногі і рукі і ўсюды высахлая кроў. Шрэдэр мінуў гэты жах, і яшчэ не змеркла, калі ён убачыў перад сабою велічэзнае дрэва. Божа! Ён ужо два разы бачыў яго! Ці гэта сон, ці гэта страшная сапраўднасць?! Калісьці ён упаў тут хворы, і канвойны рускі салдат узяў яго пад руку і павёў далей, дзе пры дарозе стаяла ў полі адзі-

нокая хвоя. Мілы божа! Тады яго паклалі на воз і павезлі. Ён сеў на край нейкай труны... Яму хацелася заплакаць. Але ж ён тады, ад слабасці свае, не вытрымаў і адчыніў сваю душу перад тымі, хто ратаваў яго і нахіляўся над ім з ясным позіркам. І тое, што ён аддаўся патрэбе свайго сэрца, згубіла Гертруду і цяпер губіць яго. Ці здолее ён цяпер быць цвёрдым да канца і не сказаць сустрэчнаму: «Хоць ты і не немец, але не буду я цябе ненавідзець. Пашкадуй мяне». У страшным утрапенні ён прайшоў яшчэ крокаў дзвесце і ўбачыў: збоку пры самай дарозе насыпана зямля, на насыпе ўбіты ў зямлю кол і на ім дошка з надпісам: «Тут закапана сто семдзесят шэсць немцаў, якія навалакліся сюды таптаць нашу зямлю і на гэтым самым месцы падохлі ад партызанскіх куль. Гітлераўцам сабачая смерць. Чытайце, немцы, і вучыцеся». Шрэдэр прачытаў і зноў рушыў далей. Перад ім была брукаваная паваротка і надпіс на слупе: «На Сумлічы. Шэсць кіламетраў». Нічога гэты надпіс не сказаў яму. Але ногі яго захісталіся, і ён сеў, а пасля лёг на зямлю. Усё цела яго ныла, галава кружылася, і кашаль пачаў ірваць яму грудзі. На Вялікім скрыжаванні ён ляжаў, і раптам страшная думка цюкнула яму: «А ці не ступіў я ўжо на дарогу за сваей Гертрудай?» Ён падняў галаву. Надпіс на слупе ўжо ледзьве вырысоўваўся ў змроку ранняга вечара. Ён устаў без жадання і волі. Прыпёрся плячыма да вялікага дрэва і звяў. І толькі кашаль час ад часу вырываў яго з забыцця. Божа, якая доўгая была ноч! Тая чвэрць веку, якую ён пражыў з таго, калі ўпершыню ўбачыў гэтае дрэва, была карацейшая за гэту ноч. Ён сядзеў з усходняй стараны дрэва і, калі ўзышло сонца і паклала на яго страшны твар праменне, ён паварушыўся і падняўся. Надпіс на дошцы зноў стаяў перад яго вачыма: «На Сумлічы». Тут ён раптам уздрыгануўся. Божа, які дзіўны лёс! Гэтае слова ён пісаў калісьці свайму малому Густаву, калі думаў, што памрэ сярод чужых людзей. Там была дзяўчынка з яснымі вачыма, тая, што паіла яго малаком. Ён не вытрымаў. Цяпер ужо слова «Сумлічы» пранізвала яго вострым болем і смуткам аб нечым навек страчаным і апаганеным. Ахоплены дзікай думкай, ён рушыў у брукаваную паваротку. Каля Сумліч жанчына везла воз дроў. У першай сумліцкай вуліцы дзяўчынка несла вядро вады. Яна азірнулася на прысутуленую дзіўную постаць, якая ледзьве грабла нагамі. Стаялі дрэвы без лісця, і дым ішоў з аднаго ко-

міна. Тут жылі людзі. Шрэдэр падышоў да дзяўчынкі. Ламанай мовай ён сказаў:

— Гэта Сумлічы?

— Сумлічы.

— А немцаў не чуваць тут?

— А ты хто?

— Чэх.

— Немцаў няма, тут нашы. Пасля таго як па шашы пачалі душыць немцаў, дык яны сюды і носа не ткнуць. Трасцы!

— Партызаны ўсюды?

— Немцы толькі па гарадах асталіся.

Зноў адчай і трывога выгналі з Шрэдэравай душы нядаўняе жаданне сказаць першаму сустрэчнаму чалавечае слова. Тут падышла другая дзяўчынка, і новае пачуццё ажыло ў Шрэдэра. Гэта быў страх. А страх пачаў зменьвацца слабасцю волі і думкі. Аднак жа думка яго працавала даволі цвёрда. Разам з тым зноў пачало варочацца да яго імкненне да чалавечага слова кожнаму, хто натрапіцца на яго дарозе. Настрой яго зменьваўся кожную секунду. То хацелася яму крыкнуць: «Густаў, сын мой! Дзе ты? Дзе твае салдаты і слава фюрэра?» То хацелася сказаць: «Пракляцце табе, фюрэр, за тое, што ты павёў мяне туды, куды я прыйшоў!» — і цалаваць гэтых дзяўчынак.

— Гэта чэх,— сказала дзяўчынка з вядром той, другой, якая толькі што падышла.

— Дык чаго ж ты стаіш,— сказала Шрэдэру новая дзяўчынка.— Калі ты чэх, дык ідзі папрасіся ў людзей у хату. Ты ж ледзьве стаіш.

Вось і чалавечае слова! Яго моцна ўразіла. Ён аж хістануўся на нагах. Раптам ён успомніў. Дастаў з кішэні запісную кніжачку і хутка знайшоў запісанае яшчэ ў Германіі, калі збіраўся сюды. Запісана было рукою Гертруды, перапісана з яго пісем. Яна пісала з нядобрым пачуццём да яго і з пэўнай думкай. Гледзячы ў гэты запіс, ён сказаў:

— Дом Нявады.

— Мы завядзём,— сказалі ў адзін голас дзяўчаткі.

— А ты праўда чэх, ці можа немец? — сказала адна.

— Чэх,— адказаў ён.

І яны павялі яго на край мястэчка, дзе радзей стаялі хаты і відно было поле. У хату яны ўвайшлі разам з ім і ў адзін голас сказалі:

— Гэта чэх, хоча есці і спаць.

I выйшлі з хаты. Ён пераступіў з нагі на нагу і ўбачыў: на лаве ляжаць вінтоўка і патроны, на табурэце сядзіць чалавек, пасярод хаты стаіць жанчына і ў пасцелі ляжыць дзяўчынка. Падлогі ў хаце няма, а ўбітая зямля. Гэтая зямля і ўразіла яго перш за ўсё. Гэта ж зямля гэтая так была тады асветлена сонцам, калі ён тут скінуў з сябе хваробу і раскрыў перад людзьмі душу. I вось ён пачаў пазнаваць у гэтай хаце ўсё. А дзяўчынка! Яна ляжыць, і, мусіць, хворая. Бо такі худы і жоўты яе твар. Можна падумаць, што яна цэлыя годы праседзела ў турме. I зноў яму душу сціснула новае ўражанне. Вочы ў гэтай дзяўчынкі. Гэта ж тыя самыя вочы. Можна падумаць, што гэта тая самая, што так даўно, калісьці, паіла яго малаком. Ён пачаў калаціцца.

— Ну дык садзіся, чэх,— сказаў чалавек,— зараз цябе накормім.

Шрэдэр сеў, і думкі яго зноў аслабелі. Яго хіліла да забыцця. I смутак, вялікі смутак аб усім свеце і аб сабе здушыў яго.

— Садзіся бліжэй да стала, налью табе есці,— сказала жанчына.

Ён сеў за стол і сказаў, хоць ломанай, але рускай мовай. Відаць, ён як мае быць рыхтаваўся ехаць сюды, каб тут пакінуць быць арандатарам.

— Я некалі падараваў быў вам золата. Гадзіннікі, пярсцёнкі, крыж. У тую вайну я быў хворы і палонны. Яно пайшло гэтаму дому на карысць?

Ён не памятаў, што казаў. У вачах яго цямнела, душа ныла.

— Божачка! — шпарка прагаварыла жанчына.— Адкуль ты ведаеш?.. А... Гэта быў ты? Я тады была яшчэ малая.

— Дык ты немец? — Раптам заварушыўся чалавек.— I я тады быў малы. А яна цяпер малая,— і чалавек ткнуў рукой туды, дзе ляжала хворая дзяўчынка.— Дык ты немец? Выйдзі з хаты! Чуеш? Ідзі! — Чалавек узяў з лавы вінтоўку і грукнуў прыкладам у зямлю. Шрэдэр саскочыў з лавы і пайшоў у дзверы.

— У сад ідзі! — закрычаў чалавек.— Унь туды!

Шрэдэр увайшоў у сад, дзе густа стаялі голыя дрэвы і зямля была зацярушана мерзлым лісцем.

— Стой!..— сказаў чалавек.

Шрэдэр стаў і штосьці шпарка пачаў гаварыць, перамешваючы нямецкія словы з рускімі.

Чалавек не слухаў, прыцэліўся і стрэліў. Шрэдэр упаў і сканаў, лежачы, праз хвілін паўтары.

Кастусь Лукашэвіч убачыў на дрэве падмерзлую бэру сярод чорнага лісця. Падумаў, на яе гледзячы, зазірнуў у пуньку, узяў з саломы два яблыкі і ўвайшоў у хату.

— На, Лізачка, еш антонаўкі,— сказаў ён, падыходзячы да хворай дзяўчынкі.

Рыжы бык адбіўся ад вялікай чарады, якую нямецкія салдаты гналі кудысьці на станцыю, і рынуўся з дарогі ў поле. Па ім стралялі, але яму пашанцавала ўцячы і выкрабіцца з бяды. Гэта было вясною. Да добрай восені ён бадзяўся па лесе і полі і стаў порсткі і ўскідзісты на рух. Ён зусім адзічэў, але не схуднеў. Травы яму хапала. Яшчэ і цяпер пад кустамі было зяленіва, хоць і пачарнелае ад халадоў. Стаяла восень. Але яшчэ часам дзень зіхацеў сонцам, і тады птушкі не зважалі на прымаразак. Іх было многа. Яны пырхалі крыллем у вяршалінах дрэў і спявалі, малыя і вёрткія. Часамі бык рыкаў, але ў гэтых мясцінах, дзе ён бадзяўся, яго можа і не чуў ніхто. Тут льга было прайсці вялікую прастору і не напаткаць чалавека і яго аселішча. Вельмі многа тут чарнелася печышчаў і асмалкаў, і ў сухія дні вецер круціў і ўзнімаў сухі попел. Многа лётала варання, і брахалі валачашчыя сабакі. Часамі было падобна, што пройдзе струмень трупнага духу. Вельмі магло быць, што дзе-небудзь гніў хто непахаваны. Спачатку тут прайшлі былі нямецкія танкі, а пасля не раз праходзілі нямецкія карнікі. Жыццё стулілася ў лясы і ціхія закуткі, далей ад язджалых дарог. Гэтакае спустошанне цяглося кіламетраў можа на трыццаць. Якраз тут і знайшоў сабе бадзячую аселасць адзічэлы бык. У адным кутку тут, дзе на месцы спаленага сяла печышчы паспелі ўжо абрасці блёкатам і драсном, шэсць вялікіх вязаў узнімаліся ў неба пышнымі сваімі вярхамі. Дзе-ні дзе счарнелае лісце на іх так і аставалася на зіму. Густы зараснік крушыны і шыпшынніку стаяў пад імі. Гэта было крокаў за тысячу ад вялікага пажарышча і не больш як за чвэртку кіламетра ад лесу. Тут быў узгорак, і навокал далёка відно было ў поле. Як начамі пачала мерзнуць зямля, рыжы бык

пачаў худнець. Шэрсць на ім падаўжэла і паднялася. Аднойчы ён убіўся пад шэсць вязаў у зараснік, нюхаў кару на дрэвах і кустах, укруціў хвост у шыпшыннік, стаў ірвацца, яшчэ мацней ублытаўся, паабдзіраўся аб сукі і калючкі і, не могучы адарвацца, астаўся так стаяць. Ён аслабеў без яды і ад трывогі і пасля доўгай ночы і раніцы зарыкаў на высокім тоне. Блізкім лесам прайшло рэха. А пасля і яшчэ. Многа разоў. Раз-поразу. Жывёліна прасіла ратунку. Рэха ішло па лесе.

Лес той быў густы і стары. Хвоя выносілася стромка ў неба. Дуб расціскаў голлем сабе прастору. Пракідаўся граб. Пад навіссю дрэва каляіністыя дарогі расплыліся пад дажджамі і так асталіся. Па іх тут цяпер ніхто не ездзіў. Крокаў за трыста ад гэтакай дарогі, на струхлелым ствале паваленай дупляватай асіны сядзеў малады чалавек. Льга было здагадацца, што ён малады, каб хто бачыў яго ў гэтыя моманты: занадта нешта порстка і жвава ён ускінуў галаву, як толькі пачуў бычынае рыканне. Здавалася, што ён чуе гэта радасную вестку, у кожным разе роўную доўгачаканаму ратунку. Вочы яго ажылі, рысы твару набылі рухавасць. Маладосць жыла на яго твары, нават і з-пад неахайнага шчаціння. Ён даўно не галіўся і можа нават не мыўся. Пячаць таго, што яму не было больш як трыццаць год, ляжала на ім. Рухавасць і бляск вачэй, жывая ўзбуджанасць, як толькі пачуў ён рыканне жывёліны. Ён устрапянуўся адразу, прыўзняўся з трухліны і застыў, прыслухоўваючыся. Вочы яго ўсё так жа свяціліся надзеяй і чаканнем.

Бровы ў яго сыходзіліся дугамі і тонкія губы сціскаліся, калі ўвага яго да якога-небудзь шоргату лістка аб мерзлую кару даходзіла да поўнага напружання. Гледзячы на гэты твар, можа хто-небудзь знайшоў бы тут упартасць натуры. Можа і так. Але аднак жа сціснутыя губы ўздрыгвалі. Магло гэта быць ад холаду, а можа ад прычын, што караніліся ў душы гэтага чалавека? Як бы там ні было, заўважалася ў ім яшчэ і шпаркае шуканне чагосьці вачыма. Вочы, вялікія і шэрыя, не мелі спакою ўвесь час. Каля вачэй збіраліся густа рысы ўважлівасці і да ўсяго навакольнага, і да таго, што рабілася ў самім чалавеку. Нейк заўважалася, што пад брудам, шчаціннем і куродымам твар белы і з рэдкімі вяснушкамі. І валасы павінны быць у чалавека светлыя. Але ў якой неахайнасці і запушчанасці быў ён увесь! Здавалася, што яго спасцігнуў такі

злы лёс, прага ратунку, ад якога забіла ўсё іншае, што калісьці жыло ў чалавеку. Да самых воч на галаве насунута была нейкая дзіўная шапка, і здаецца, жаночая, звязаная з шэрай воўны. Вядома, што ён дзесьці выпадкова дастаў яе. Або знайшоў на дарозе, або адабраў у каго. Магло быць і гэтак. Быў холад. Хоць і не была мерзлая зямля, але дзе ляжала вільготнае лісце, там белая намаразь толькі апаўдні, як пачало паднімацца сонца, замакрэла. А чалавек быў у летнім пінжаку, і пад ім адна толькі кашуля, і то мусіць чужая, бо занадта шырокая ў каўняры, які звісаў па пінжаку на самае плячо. Кашуля была з саматканага палатна і зашпілена на шыі вялікім чорным гузікам. Боты на ім былі нямецкія, салдацкія, з нізкімі халявамі і цвікамі ў тоўстай падэшве. А нагавіцы — ватовыя, але з вырваным каленам у адной калошыне. Усё гэта вывалена ў зямлі і выквацана ў некалькі колераў, як быццам сюды сумысля збіралася ўсё, што толькі дзе напаткаць льга было. Ні тое што адчай, а востры смутак час ад часу клаў сваю пячаць на твар гэтага чалавека і пасля сыходзіў. Рух адбываўся і не заціхаў у яго душы.

Хмурнасць дня сплывала. З'явілася сонца. Бяляваe святло яго ціха лягло на дрэвы і лісцвяныя накіды. Намаразь замакрэла, з-пад яе выйшла зяленіва на зямлі. Дробная птушка пырхнула ўгары і заспявала. Быццам супакоены, чалавек зноў сеў на трухліну. Птушкі больш пачалі абзывацца. І раптам зноў зарыкаў бык. Чалавек усхапіўся з месца з раптоўнай рашучасцю. Быццам ён хацеў крыкнуць: «Пара, час настаў!» Бычынае [рыканне] ішло лесам раз-поразу. Жывёліна забіралася ў самыя высокія ноты. Жывы голас клікаў на дапамогу. Чалавек азірнуўся наўкола, шукаючы кірунку, адкуль ішоў голас. Ён шпарка рушыў з месца і пакінуў за сабою трухлявае бервяно, на якое адразу насела многа дробных птушак. Дзень яснеў, і ў паветры цяплела. Бык рыкаў бесперастанку. Чалавек стараўся шпарка перабегчы полем ад лесу да магутных вязаў, з-пад якіх чулася жывёліна. Пакуль дабегчы да дрэваў, чалавек некалькі разоў азірнуўся. Ён сцярогся чагосьці. Можа яму ўвесь свет быў страшан. Бо як толькі ён дабег да першага дрэва, адразу дапаў да яго ўсёй пастаццю сваею. Быка ён яшчэ не бачыў. Стаяў, прыціснуўшыся да дрэва, а выглядаў з-за яго. Птушкі і тут пырхалі ў голлі. Бык рыкаў няспынна. Вось ён! Чалавек

№ 1728

убачыў яго. Жывёліна стаяла ў такой хмызнячнай гушчарні, што толькі рыжая масць яе дзе-нідзе прасвечвалася праз крушыннік. Бык рыкаў, чмыхаў і рваўся. Чалавек выткнуўся з-за дрэва зусім, нават адышоўся ад яго на крок і застыў у одуме і з выглядам такім, што ён дапаў да свае чаканай прынаднасці. Была хвіліна як бы нерашучасці: што ж далей рабіць? Ён пільна разглядаў жывёліну. Пастава яго ператварылася ў нарыхтаванасць да таго, каб кінуцца на быка. Ён абышоў вакол крушынніку і ўбачыў. Задам бык упіраўся ў густы шыпшыннік, і хвост яго па самыя сцёгны ўцуркаваўся ў калючы зараснік. Чым больш ірваўся і тузаўся бык, тым мацней ублытваў хвост. Некалькі парасткаў ён раскалываў, а выцягнуць з зямлі і адарваць ад карэння не мог. На абадраных аб калючкі і сукі сцёгнах закарэла кроў. І хвост быў у сухой крыві. Бакі запалі ў ямы. Рэбры хадзілі пад скурай, пахвіны выцягнуліся, і ён стаў, як дошка. Убачыўшы чалавека, бык выцягнуў шыю і рыкнуў спакайней і цішэй. Чалавек заўважыў, як спакайнела жывёліна, і ўзрадаваўся. Ён стаў у позу, падняў крысо ў пінжаку і выцягнуў аднекуль з-пад свае адзежы нейкую зброю, падобную да вялікага фінскага нажа. Трымаючы зброю ў руцэ, ён яшчэ не зрабіў аніякага руху, як раптам твар яго перасмыкнуўся і вочы жахнуліся. Бадай-што ў такой самай паставе, як і ён, з другога боку ад жывёліны і з шырокім штыком ад вінтоўкі ў руках, стаяў тут другі ахвотнік да бычыны. Чалавека ў летнім пінжаку ўразіла да жудасці тое, што гэты, стоячы ў зусім гатовай паставе, глядзеў не на быка, а на яго.

Гэты другі меў такі выгляд, што не ўгадаць было б, колькі яму год. Можа ён быў стары, а можа зусім малады. Ён баяўся холаду, ён грэўся. Шыя яго была абкручана ручніком. Рускі салдацкі кажух да калеп быў на ім. На нагах салдацкія чаравікі без абмотак. Сялянскія нагавіцы з рудога саматканага сукна, на яго вельмі вузкія і, дзіўна, нават кароткія. Бо сам ён быў даволі-такі малога росту, і паводле якога мог здавацца таўстуном. Твар быў круглы і зноў-такі няголены, шчацінаваты і кірпаты. Вочы застылыя, і нейкім дзіўным парадкам у іх нічога не адлюстроўвалася. Але ўвага і насцярожанасць вельмі востра былі напісаны на яго твары. Цяжка было зразумець, ці гэта на быка, ці на чалавека ён нарыхтаваўся кінуцца. Ён здаваўся здаровым і дужым, толькі празмеру змораным. Барада яго хавалася ў ручнік, вушы закрываліся бінтам,

шырокім і ў лапінах сухой крыві. Бінт абкручваў лоб, скі-віцы з вушамі, хаваў пад сабою бровы і сядзеў гузамі на патыліцы. Вусы стрыжаныя, пакіненыя двума пукамі пад носам, былі ўжо нейкім чорным гузам, з якога тырчэў дробны недакурак з папяросы; ці ён там умёрз, ці прыліп, але ён астаўся там і напэўна не заўважаўся тым, хто яго курыў.

Бык выцягнуў шыю і зарыкаў. Незалежна ад сваіх ду-мак, гэтыя два зрабілі рух, момантны і больш інстынктыў-ны як абдуманы. Каб хто сачыў за імі збоку, той падумаў бы, што гэта яны толькі і чакалі таго моманту, калі за-рыкае бык, каб тады кінуцца на яго і замест ратунку, аб якім ён так рыкаў, зрабіць яму смерць. Тым часам бык як бы ў знямозе паставіў мысу ўніз, мусіць да наступнага рыкання. Гэтыя два адразу як бы забыліся на жывёліну, і вось пачала на іх твары лажыцца пячаць найпільнейшай увагі аднаго да другога. Увага гэтая межавалася з за-ядлым узбуджаннем і нянавісцю, хоць ніводзін з іх нават і здагадвацца не мог, каго ён бачыць перад сабою. Пачуццё прыкрасці і смутку адлюстроўвалася на іх тварах. Ужо на адзін самы найкарацейшы момант яны не спускалі адзін аднаго з вока. Кожны з іх, здаецца, нават дыхнуць баяўся. Бык некалькі разоў выцягваў шыю і рыкаў, а яны можа нават і не заўважалі гэтага. У кожным разе ніводзін з іх нават і вачыма не кінуў у той бок, дзе чатырохногі ба-дзяга прасіў дапамогі. Праходзілі хвіліна за хвілінай, і па-вялічвалася трывожная ўвага іх у аднаго да другога. Поў-ная нянавісць ужо ўладала імі. Калі каторы з іх рабіў хоць абы-які рух, другі ўскідаў руку са зброяй, каб хаця той не зрабіў гэтага раней за яго. Як бы нейкімі ланцугамі яны былі прыкуты да гэтага агіднага ім самім занятку. Іх прыгнечвала гэтая злая неабходнасць. У кожным разе, як бы там ні было, паміж усяго іншага, і рыса пакуты была на іхніх тварах. Напружанне іх даходзіла да найвышэй-шага пункта. І раптам чалавечыя галасы, ціхія і стрыма-ныя, прыглушаныя імкненнем быць пачутым толькі тым, да каго гаворыцца, пачуліся недзе зусім блізка, вось тут, можа спаміж самых бліжэйшых кустоў. Бадай-што шэп-там хтосьці казаў:

— Я табе кажу, што гэтая жывёліна рыкае недзе тут.

— А па-мойму, дык у лесе,— адказаў так жа ціха і асцярожна другі нехта.

Хвілін колькі цяглося маўчанне. Чутно было, як чырк-

нула запалка. Мусіць яны закурылі. Значыцца, зусім блізка яны былі. З гэтымі двума адбылася змена. Іх увага ўжо накіравалася туды. Хоць яны яшчэ і не паспелі пазнаёміцца адзін з адным, але як быццам бы ўжо былі добра знаёмыя. Ужо яны станавіліся падобныя да змоўшчыкаў, якія разам, плячо з плячом, павінны бараніцца ад нейкіх невядомцаў, што выявіліся так блізка тут. Так спаткаліся іх позіркі на адзін момант у такім сваім пераломе і з'інаканні, пасля чаго ўжо спакайней яны глядзелі адзін на аднаго. Кожны з іх ужо бачыў у другім свайго аднадумца, і рысы чалавечнасці і сяброўства зганялі з іх твараў рысы звярынага страху. А як жа! У іх жа цяпер ёсць адна справа, і можа слаўнае і такое жаданае сяброўства запануе паміж імі. Той, што ў кажуху, тоўсты і нізкі, нават зрабіў паўкрока да таго, што мерзнуў у летнім пінжаку. Бык зноў зарыкаў, і зноў на высокай ноце, з адчаем і як бы з болем.

— А што? Тут! — пачуўся з кустоў радасны голас, ужо не такі стрыманы. І адразу яны ўдвух апынуліся тут.

Што гэта была за пара такая! Адзін з іх быў зусім малады. Калі таму, што мёрз у летнім пінжаку было год трыццаць, то гэтаму бадай-што не магло быць больш як дваццаць шэсць. Сляды перажытага ляжалі на яго твары. Ні тое што гэта маршчыны старасці ўразілі маладосць. Але такая пячаць бывае на твары толькі ў таго, хто вытрымаў нясцерпныя пакуты і пазнаў тую праўду, што ўсё звыклае чалавеку і нецікавае, нават апрыкралае, можа стаць яму раптам вялікім шчасцем і радасцю. Нейкая як бы паглыбленасць у самога сябе была ў ім. Яна не была закаранелая і застарэлая, і можа гэта былі толькі першыя адзнакі яе. Калі так, то яна магла і не пакінуць сваіх слядоў у чалавечай натуры. Была і яшчэ адна рыса ў гэтага чалавека. Гэта як бы лёгкая здзіўленасць. Здавалася, што яшчэ ўсё не можа апамятацца ад нейкага нечаканага шчасця і яшчэ ўсё перажывае радасць, якая з'явілася перад ім як дар чалавеку ад усяго свету. І такім парадкам свет паказаўся перад ім невядомымі яму раней гранямі: свет не толькі бязлітасны і жорсткі. Ён яшчэ ласкавы і ясны. І сваю радасць чалавек можа знайсці ў кожнай травіне. Штосьці такое было ў чалавеку. Ён быў у чырвонаармейскім адзенні, у летнім. Без шыняля і на галаве зусім без шапкі. Нізка абстрыжаны. У гімнасцёрцы і нагавіцах з той крамніны, з якое робяцца плашчы-палаткі. Пояса не

было. А на босых нагах, без ануч, лапці з лыка. Усё адзенне на ім было такое старое, такое зношанае, такое ўжо бескаляровае, што, здавалася, яно даўно ўжо сатлела і на чалавеку ледзьве ліпіць, і павінна неўзабаве спрахнуць пылам на няма нішто. Твар у гэтага зусім маладога чалавека быў як вытачаны, лоб высокі і вочы ціхія. Праўда, вочы маглі быць такія не толькі ад прыроды натуры, але і ад нейкага ўражання, успрынятага чалавекам.

Другі, што з'явіўся тут разам з ім, быў немалады. Гэты нават быў не так сярэдніх, як пад старасць блізкіх год. Выглядам сваім ён быў такі ж як і ўсе тыя, што былі тут. І гэты быў нечым уражаны і кінуты ў нязвыклы стан. Але калі ўсе тыя мелі на сабе, у каго слабей, а ў каго мацней, пячаць імкнення і прагі, то ў гэтага толькі адна рыса панавала над усім. Гэта — абыякавасць. Холадам павявала ад яго вачэй і нерухомых губ і сабранага ў нерухомыя маршчыны лба. Але холад не пераходзіў у абсалютны спакой і нават не межаваўся з ім. Абыякавасць, нерухомасць, зморанасць, расчараванне. Аднак жа і ў яго тлела нейкае адчуванне, нейкая пакута. Можа гэта голад, можа холад, можа боль які ці прыдушаны смутак. І паняверка. Без усялякай веры быў чалавек. І гэтае бязвер'е і было яго тым жарам, што дзесьці яшчэ тлеў у яго душы. Пакута ад таго, што няма веры. Можа яму яшчэ і суджана было стаць па шлях да пошукаў веры. Калі так, то холад яго твару мог быць толькі з'явай гэтай гадзіны ці гэтых дзён і ніяк не вызначаў яго натуры. Ён раптам глянуў на таго таўсматага і невысокага ростам, што быў у кажуху да кален, і момантны бляск, не тое што радасці, а як бы ажыўлення, перасмыкнуў яго твар. Але толькі на момант. Так ужо ўкаранілася ў ім безнадзейнасць, што адразу зноў абыякавая ўнуранасць заўладала ім. А хто ведае, ці не быў гэты ў кажуху які-небудзь яго блізкі друг, калі іскра ўзбуджанасці на момант прабіла холад яго твару, як толькі ён яго ўбачыў.

Панавала цішыня і напружанасць. Усе чакалі. Той малады ў лёгкім пінжаку трэсся з холаду, сціскаючы ў кулаку тронак вялікага фінскага нажа. Тоўсты ў кажуху да кален кідаў вачыма па ўсіх, як бы стараючыся дасачыць, хто першы памкнецца зрабіць яму зло. Самы маладзейшы, зусім малады хлопец у сатлелым чырвонаармейскім адзенні таксама абводзіў вачыма ўсіх, як бы шукаючы таго, каму ён мог бы паверыць. Што ж да самага ста-

рэйшага, з холадам на твары, то гэты, здавалася, яшчэ больш апанаваўся пакорай да нейкага свайго лёсу. Стаяў сабе і трымаў позірк на абкарэлым крывёй бычыным хвасце, скручаным у абаранак вакол шыпшынавай папруціны і безнадзейна ўблытаным разбэрсаным пукам валос у гушчырню калючых зараснікаў.

— Дык што ж,— сказаў раптам шпаркім тэмпам таўсматы, і вочы яго як бы міргнулі,— нашто так доўга стаяць, трэба рэзаць быка.

Хто яго ведае, чаго больш было ў тоне яго слоў — гаспадарлівай практычнасці ці нейкай затоенай за гэтымі словамі думкі.

Ацвярдзелым позіркам ён шпарка кінуў на ўсе бакі. Усе маўчалі і чакалі. Трэба думаць, што ён рабіў на ўсіх нейкае адно ўражанне, і ён сам мусіць разумеў гэта. Гаварыў ён па-руску. Спрактыкаванае вуха магло б злавіць у яго ледзь заўважны нямецкі акцэнт. Такі слабы, што яго можна было і на ўвагу не браць. І мова яго пайшла б за чыстую рускую, не жывую, а літаратурную. Бадай-што адразу за першай фразай ён кінуў і другую:

— Мяса будзем пячы на агні... Я ўміраю з голаду.

— І я ўміраю з голаду,— з нотамі радаснай надзеі абазваўся малады ў летнім пінжаку. Ён калаціўся з холаду.

— Памру,— прастагнаў самы старэйшы, у якога на твары была пячаць абыякавасці.— Я дзіўлюся сам, як я яшчэ жыву.

І ці то гэта ён меў на ўвазе толькі свой голад, ці яшчэ і іншыя прычыны, хто яго ведае. У яго такі жудасны быў нямецкі акцэнт і вымова, што ён як быццам бы хваліўся: «я немец». Проста-такі ён і зусім не ўмеў гаварыць па-руску і толькі трапляў абы-як, цераз дзесятае ў пятае. Хоць паасобныя словы ён выгаварваў добра.

— Я чацвёртыя суткі не ем,— ціха, як бы сам сабе, прагаварыў самы маладзейшы ў зношаным чырвонаармейскім адзенні.

І ён зрабіў нейкі раптоўны рух. Было падобна, што ён хацеў штосьці дастаць з-пад свае гімнасцёркі. І ён калаціўся з холаду. Рух яго застыў на месцы, ён быццам адумаўся, што схаванае ў адзежы няхай там і будзе. Шпарка спусціў ён руку ўніз і правёў вачыма па ўсіх.

Як быццам бы ўсе яны разумелі адзін аднаго як не трэба лепш. Згода была паміж імі і яднанне. На іх насядаў

голад. Ратунак! Вось гэта было іх сяброўствам. Тоўсты ў кажуху па-гаспадарску агледзеў быка і падышоў да яго. Малады ў летнім пінжаку нарыхтаваў свой фінскі нож. Самы маладзейшы дастаў з-пад гімнасцёркі кінжальчык з медным тронкам і ў раменным чахле. Ён стаяў бліжэй за ўсіх да быка. Тоўсты працягнуў руку, каб узяць гэты кінжальчык. Вельмі можа быць, а напэўна так і было, што ён сам хацеў гэтым кінжальчыкам закалоць быка. Малады чалавек з недавер'ем адмахнуў руку назад і адступіў на крок. І гэта было як бы сігналам да таго, каб усім ім нават і перад тварам адзінага свайго ратунку зачыніць на́глуха адзін перад адным свае душы. Усе стаялі ў маўклівай нерухомасці. Раптам малады ў летнім пінжаку не вытрымаў.

— Ага! — крыкнуў ён, і вочы яго пачырванелі, і твар уздрыгануўся. Ён кінуўся да быка і хапіў яго аберуч за рогі.

— Завярні яму галаву набок! — крыкнуў тоўсты і памог яму. Бык апошні раз зарыкаў. Ён такі дачакаўся свайго ратунку. У кожным разе яго хоць могуць ужо адарваць ад калючай папруціны. Бык стаяў з паднятай угару мысай, падвернутай набок і нацягненай шыяй. Тоўсты ўзяў з рук маладога ў пінжаку фінскі нож і шпарка ўмеркаваў нож у тое месца на бычынай шыі, па якім трэба было даць. Самы старэйшы і самы маладзейшы апынуліся тут жа.

— Трымайце быка за пярэднія ногі! Звяжыце іх цесна! — гукнуў тоўсты.— Хутчэй!

Здавалася, што самы старэйшы ў момант скінуў з сябе холад абыякавасці. Дзіўна было бачыць, як ён раптам устрапянуўся і сарваў з сябе вяроўку, якой былі падвязаны яго штаны. Шпарка працягнуў ён вяроўку маладому ў чырвонаармейскім адзенні. Той хапіў вяроўку і кінуўся з ею да бычыных ног. На паўсекунды раней, чым ён гэта зрабіў, бык раптам ірвануўся з усіх сваіх сіл, на ўсе жылы скочыў угару, чмыхнуў і збіў з ног усіх, хто толькі быў перад ім. Толькі куст шыпшыны хістануўся ў самую зямлю. Бык адарваўся ад яго і рынуўся ў бягу. На шыпшынніку астаўся ўвесь як ёсць пук валасоў з яго хваста. Адразу ж усе ўчатырох апамяталіся, ці можа, праўдзівей сказаць, да рэшты страцілі развагу. Разам усе кінуліся наўздагон за быком, які ўжо чмыхаў і тросся за кустамі ў полі. Грудаватая мерзлата стрымлівала яго бягу. Ён стаў і зарыкаў, і ўсе паддалі ходу. Ён пабег, аслабелы і спуджа-

ны. Бяга яго была роўная, ён бег куды бегласяі. Чуючы, што за ім гоняцца, ён паддаваў ходу. Але не толькі ён, а і яны таміліся, і іх агульны рух павальнеў, але не спыняўся.

— Ахапіць яго з флангаў! — закрычаў тоўсты.

Бяга ішла доўга. Пакуль беглі, дзень яшчэ паяснеў і схіліўся блізка да заходу сонца. Беглі роўна, усё ў адзін кірунак. Мерзлае поле не мела на сабе ніякіх сцежак ні дарог. Яны прабеглі некалькі разоў праз дробныя ляскі, міналі лагчыны і ўзгоркі. Нарэшце ўсе ўзрадаваліся: бык пайшоў ціха. І ўсе пайшлі так, дыхнуўшы на поўныя грудзі. Якое ім было шчасце не бегчы больш! Ногі ў іх чапляліся адна за адну. Яны хісталіся ў бакі.

Той, што ў лёгкім пінжаку, раптам падняў у сябе з-пад ног нейкі высахлы корань і стаў жаваць яго. Самы старэйшы рвануў з прымерзлай зямлі кусцік счарнелай травы і сціснуў яе зубамі.

— Кончуся зараз,— сказаў тоўсты.

— Што вы жуеце? — прахапіўся нейк раптам самы маладзейшы, дапытліва сочачы за тымі двума. Ён не бачыў, як адзін ірваў траву, а другі паднімаў з-пад ног корань.

Бык стаў. Сталі і яны. Бык спусціў мысу ў зямлю, як бы нюхаючы ў сябе каля капытоў. Усе ўчатырох селі на зямлю.

— Цяпер мы яго дагналі б,— сказаў маладзейшы.— Ой, як холадна. У мяне шыя спацела... Памру з голаду.

— Я ледзьве жыву,— абазваўся той, што ў летнім пінжаку.

— Бык лёг! — жвава сказаў самы старэйшы.

Дзіўна было: як адразу апанавала яго такое ўзбуджанне.

Бык сапраўды ляжаў.

— На быка! — гукнуў адразу тоўсты ў кажуху.

Усе ўчатырох усхапіліся і пабеглі. Бык устаў і пабег. Учатырох зноў гналіся за ім, выбіваючыся з сіл. Скрозь мерзлае поле, і паабапал зноў дробныя ляскі. Перад імі зачарнелася пажарышча. Абкурадымленыя печышчы тырчэлі з халодных асмалкаў. Больш як на кіламетр цягнуўся гэты малюнак. Далей бык абмінуў пагнутую і збітую з лафета гармату на краі ямы. І зноў пайшло поле. Сонца ляжала на ім чырвоным бляскам. Дзень канчаўся. Беглі яшчэ, пакуль не зачарнелася перад імі нейкае як бы чалавечае жытло. Тырчэў жуbecause ад студні, і добра відна

была доўгая і нізкая хата на тры вокны ў падоўжнай сцяне. Крытая гонтай і абгароджаная жэрдзяным плотам хата здавалася сумнаму воку беспритульнага чалавека дасягнутым шчасцем. І гэта тым больш таму, што гэтыя ўчатырох, пакуль гналіся за рыжым быком, шмат мінулі ў чыстым полі вялікіх і малых пажарышчаў, дзе асмалкі тырчэлі з попелу і попел быў як вечны колер сатлелага жыцця. Гэтае чалавечае жытло з'явілася перад імі ў пустэчы, як вялікі дар ласкавага лёсу. Сонца было ўжо над самым заходам, і чырвоныя водблескі яго люстраваліся ў шыбах гэтай хаты. Непадалёку ад агароджы расло некалькі хвояў, выносістых і азалочаных сонцам. За імі быў невялікі лес. На фоне яловай зеляніны вельмі выразна рысавалася запозненая жаўціана нейкага дрэва. Была ў агароджы і брама з нізкіх шчыкетаў стаяком. Брама была адчынена. На адной шчыкеціне ў ёй вісела звязаная з сіняй шэрсці жаночая кофтачка. Усе заўважылі яе, як толькі ўбеглі ў браму. Рыжы бык адно мільгануўся сваім колерам паўз вокны ў двары, дапаў да сцяны рагамі ў яе і так застыў на месцы. Тоўсты ў кажуху падняў нож, а самы маладзейшы сказаў:

— А можа тут жыве гаспадар яго? — І пайшоў у сенцы, а ўсе за ім. Тоўсты зачыніў толькі браму і азірнуўся на быка, які нават і не паварушыўся. Дзверы не былі замкнёны. Клямка паднялася, і ўчатырох увайшлі ў сенцы. Яны былі вельмі прасторныя пры такой хаце і без столі. Адразу быў дах. Праз вакенца, выразанае ў адным бервяне, падаў сноп сонечнага прамення. Святло лілося яшчэ і з дзірак па застрэшшу. Гэта было апошняе святло дня перад яго адыходам у вечнасць.

У сенцах быў чалавек, заняты нейкай пільнай работай. Вельмі можа быць, што ён крыху, а можа і як мае быць прыпалохаўся ад нечаканага з'яўлення гэтых чатырох і схаваўся за пільнасць работы. Пад нагамі ў яго было пілавінне. Ён збіваў з дошак труну, памерам не на дарослага чалавека. Малатком ён заганяў у дошкі старыя адагнутыя цвікі, спадылба пазіраючы на, здаецца, нежаданых гасцей. Яны маўчалі. Маўчаў і ён. Можа тое, што ён збіваў труну, стрымлівала ўсіх ад гаворкі. Нават «добры вечар» ніхто не сказаў.

Ён быў драбнатвары, чарнявы, увішны ў рабоце і жвавы рухам вачэй. Некалькі дзён да гэтага выгалены твар. Валасы на галаве нізка падстрыжаны. На выгляд год яму

было трыццаць. Адзеты ён быў так, як тут, у гэтых месцах, ужо гэтымі часамі не адзяваліся, і гэта адразу заўважыў самы маладзейшы з чатырох, той, што быў у зношанай чырвонаармейскай адзежы. Чалавек, які рабіў у сенцах труну, быў у шарачковых нагавіцах, зрэбнай кашулі пад кароткай ватоўкай з афарбаванага ў руды колер палатна і ў падшытых скуратом лапцях.

— Добры вечар,— адумаўшыся, сказаў маладзейшы з чатырох.

Той моўчкі скланіўся і зноў пачаў заганяць цвікі ў дошку.

— Вы гаспадар? — сказаў маладзейшы.

— Я гаспадар і там гаспадар,— паказаў ён рукой на дзверы ў хату. Слова «гаспадар» ён выгаварыў нейк так: «гспдр».

— Рыжы бык у вас ёсць? — запытаў маладзейшы.

Той або не пачуў, або не разабраў ці не разумеў. Ён маўчаў. Маладзейшы стукнуў у хатнія дзверы, і адтуль адразу ж выйшаў чалавек сярэдняга веку, у ботах, чорным пінжаку і адкінутымі назад валасамі.

— Вы гаспадар?

— Я тут жыву.

— Рыжы бык у вас ёсць?

— Ніякага быка тут няма. У мяне няма.

У той жа момант усе шпарка выскачылі на двор і абступілі быка. Тоўсты злаўчыўся і даў вялікаю фінкаю быку ў горла. Бык упаў на сагнутыя ў каленях пярэднія ногі, і кроў хлынула з яго на мерзлую зямлю. Кроў пахла мокрым сіверам. Чалавек з адкінутымі назад валасамі выйшаў на двор і разам з усімі бачыў, як кончыўся бык. Малады ў летнім пінжаку сказаў адразу:

— Каб хоць раз укусіць чаго.

— Адзін раз можна, а два не хопіць. Чаго ж вам прасіць есці, калі ў вас гэтулькі мяса. Бярыце чыгуны і варыце.

Падазрона ён акінуў вачыма невядомых прышэльцаў. Адзежа яго была добрая, калісьці франтаватая, цяпер змятая і дзе-нідзе заплямленая. Востры неспакой жыў у яго вачах і на твары.

— Прыгатуй чыгуны,— сказаў тоўсты.

— Чыгуны гатовы. Стаяць у хаце. Толькі ўзяць.

У яго яшчэ была і прыкрасць, што гэтыя невядомцы тут з'явіліся. Ні словам, ні намёкам ён не пацікавіўся,

хто яны. Што ж! Брыдкі час, не варты чалавека. Чалавек не верыць сабе падобнаму. Відаць было, што гэты, з адкінутыміваласамі, баяўся чапаць яму невядомых. Ціхом ён пайшоў у хату. Тым часам тоўсты ў кажуху вельмі спрытна ўвіхаўся. Ён ужо дзёр з быка скуру. Ён так увайшоў у гэты занятак, што, здаецца, забыўся на ўсё іншае. Апошняе сонечнае праменне знікла з двара. Сонца зайшло. Папаўзло змярканне. Абыякавы стары паклыбаў да ганка. За ім і два, апроч тоўстага.

— Памагайце,— сказаў ён, і ўсе вярнуліся.

Быка абдзерлі нешта вельмі хутка, яшчэ за́відна.

— Трэба ж чыгуны ўзяць,— сказаў старэйшы.

— Па чыгуны пойдзем разам,— абазваўся той, што мёрз у летнім пінжаку. І гэта было вострае выяўленне таго, што чалавек не верыць нікому з людзей. Не трэба спускаць другога з вока. Тоўсты ўскінуў наапашкі кажух, які ляжаў пры сцяне на зямлі, і ўсе пайшлі ў хату. Першы ішоў старэйшы. Ён пачынаў рабіцца вельмі дзейны. У сенцах той ужо канчаў труну. Яму свяціла самаробная свяцільня: у чарапку плаваў у чымсьці чорным і гарэў кнот. Усе, і трунны майстар следам, увайшлі ў хату.

Перш за ўсё было штосьці падобнае да кухні ў сялянскім дамку. Цеснаваты пакой з гліняным токам замест падлогі, пабеленыя сцены, варыстая печ і свечка на лаве. Яна і асвятляла ўсё. Але самае першае, што кінулася ў вочы ўсім чатыром, гэта вось што было. На засланым белым прасціradлам тапчане ляжала мёртвая дзяўчына. Гэта быў яшчэ падростак. Сіняя паркалёвая спадніца абгортвала яе ногі. Роўна ляжалі ступені яе ног у толькі што пашытых (швы з белых нітак былі свежыя) пантофліках з чорнага корту. Твар васковага колеру, худзенькі і дробны, лобік высокі. Завостраны нос і такія ж плечы ў рудой кофтачцы, вельмі падобнай (каб толькі не колер іншы!) на тую, што вісела на двары. Самаробная, звязаная з нітак. Спушчаныя шчыльна вейкі цёмнага колеру, і было ўражанне, што з-пад іх глядзяць і сочаць за ўсім вочы. Зусім яшчэ дзіця была гэтая нябожчыца. Год пятнаццаці ці чатырнаццаці дзяўчына сядзела каля гэтай нябожчыцы ў галавах і глядзела на чатырох, што ўвайшлі ў хату. Позірк яе быў спакойны і ўраўнаважаны, ён як бы гаварыў: няхай вас увойдзе сюды хоць сто чатыры, нічога на свеце ад гэтага не зменіцца. Валасы на яе галаве былі густыя

і цемнаватыя, лоб высокі, выпраўка бадзёрая, і ў вачах веданне нейкага вялікага сэнсу. І гэтая была ў сіняй паркалёвай спадніцы і ў самаробным кафтаніку з ваўняных пітак, толькі ўжо вішнёвага колеру. Твар у гэтай быў як вытачаны, з пэўнымі цвёрдымі рысамі, і ў сціснутых губах вызначалася адлюстраванне таго, што хутка ўжо тут усталюецца натура. Адна рыса ішла цераз увесь твар і перакрывала сабою ўсё: як бы ўсё гэтай дзяўчынцы здавалася звыклым і нічога дзіўнага нідзе. На свеце няма з чаго дзівіцца, бо ўсё такое, якое яно ёсць.

З другога канца тапчана стаяў на каленях на зямлі той, з адкінутымі назад валасамі, і, схіліўшы галаву, трымаў лоб на канцы тапчана, каля ног мёртвай дзяўчынкі. Тое, што ўвайшлі ў хату і стукалі нагамі, не падняло яго з калень. Ён і не зварухнуўся. Не зварухнулася і дзяўчынка, што сядзела ў галавах нябожчыцы. Той, што рабіў у сенцах труну, на пальчыках падышоў да ўкленчанага чалавека і далікатна паклаў яму руку на галаву. Ён як бы гладзіў яго па галаве. Ціха ён сказаў:

— Труна гатова.

Чалавек падняўся з калень і ўтрапёным позіркам азірнуўся. Невядомыя прышэльцы стаялі ля парога і маўчалі. Тоўсты, у кажуху, першы абазваўся:

— Мы прыйшлі па чыгуны.

Чалавек перасмыкнуў сціснутымі губамі і сказаў да дзяўчыны:

— Ганна, дай людзям чыгуны.

Пакуль Ганна даставала з-пад печы два вялікія чыгуны, ён паглядзеў у твар кожнаму і роўным тонам сказаў да ўсіх:

— Калі вы, або каторы з вас напроці ночы не пойдзе ў дарогу або яшчэ і заўтра будзе тут адпачываць ці як там яму выйдзе, то можа хто з вас, браткі, памог бы мне пахаваць яе. Выкапаць яму трэба, занесці і зрабіць што трэба.

— Вы ж тут удвух,— абазваўся тоўсты.

Як толькі ён так сказаў, той, што рабіў труну, зірнуў па яго з маўклівым дакорам, і ён, з выглядам абвінавачанага, спусціў доле вочы. Вельмі ж відно было ў гэты момант, якая гэта добрая, мяккая, лагодная натура. Выгляд у яго стаў адразу такі, што яму ўжо як бы і не патрэбна стала чужая дапамога. Ён маўчаў і беспарадна як бы чагосьці шукаў вачыма ў пустых кутох.

Тады абазваўся ў чырвонаармейскай зношанай адзежы. Ён сказаў:

— Я памагу, толькі раней каб мяса прычакаць і хоць колькі разоў укусіць. Я не вытрымаю з голаду. Мае зубы могуць цяпер раструшчыць камень.

Ледзьве ён паспеў сказаць палову гэтай фразы, як шпарка выткнуўся наперад той самы старэйшы, у якога халодная абыякавасць і безнадзейнасць, здавалася, навекі асталяваліся на твары. Ён паволі перасмыкнуў губамі і нейкай адной рысай у сябе паміж вачэй і з жудасным акцэнтам сказаў шпарка, быццам баючыся, што яго не захочуць слухаць:

— Я пайду памагаць.

І ў той жа момант плечы яго страсянуліся, і ён хапіўся за твар рукамі. Ён плакаў. Што такое здарылася? Адкуль гэта ў такі час, калі спарахнелыя ў зямлі лаціняне ніколі яшчэ не мелі такога бліскучага апраўдання сваёй прымаўкі: «чалавек чалавеку воўк». І ніхто гэтаму не здзівіўся і як бы не заўважыў нават гэтага здарэння. Толькі таўсматы нездаволена зірнуў на слабавольнага плаксуна, і нават як бы пагрозай зварухнуліся яго вочы.

— І я памагу,— сказаў той, што быў у летнім пінжаку.

— Зварым мяса, паямо, бо ўміраем з голаду, і паможам усе. У момант усё зробім,— сказаў таўсматы.— Дзе чыгуны?

І ўсе яны выйшлі з чыгунамі і сталі валтузіцца з мясам. Ваду набралі з студні і напоўнілі ею і мясам чыгуны, але мяса не мылі. Ніхто пра гэта і не падумаў. Прайшло можа тры хвіліны, не больш, як два чыгуны стаялі на каменнях і пад імі гарэў агонь. Раптам з хаты шпарка выйшаў той, што рабіў труну. Ён здаваўся вельмі ўстрывожаны. Шпарка ён прагаварыў:

— Сцямнела. Агонь здалёку відаць.

Таўсматы, як бы раптам адумаўшыся, заліў вадою з чыгуноў агні і сказаў:

— Варыць трэба ў печы.

І ўсе, з выглядам выратаваных з бяды, панеслі ў хату чыгуны з мясам.

— Ганууся,— сказаў чалавек з адкінутымі назад валасамі,— запалі ў печы. Я яшчэ пазаўчора туды наклаў дроў.

Ганууся сышла з свайго месца і ўзялася за работу. Рукі яе былі малыя і рухавыя. Далікатнае характво было ў яе

руках. Бадай-што напалову яна сама ўлезла ў печ і, лежачы на чаране, падпаліла дровы. Людзі самі прыставілі свае чыгуны да агню. Відно стала ўсім, якое дзіця яшчэ гэтая Ганұся. Тоненькая, з рухавымі плечыкамі, але з вачыма спакойнымі. Качаргой яна пачала падгортаць агонь бліжэй да чыгуноў. Здавалася, што ёй вельмі патрэбна, каб хутчэй усё гэта скончылася. Час пацягнуўся так марудна і так нядобра! Усе ўчатырох сядзелі поплеч на лаве, апанаваныя прыкрым чаканнем. Ганұся варыла мяса. Чалавек з адкінутымі назад валасамі стаяў нерухома над нябожчыцай. Той, што рабіў труну, стаяў у самым парозе і таксама не варушыўся. Штосьці было ў яго паставе такое, што быццам гэта ён сумысля заняў сваю пазіцыю ў самых дзвярах, каб быць бліжэй да выхаду з хаты. Самы ж маладзейшы з чатырох і таўсматы некалькі разоў, як згаварыўшыся, выходзілі на двор. Калі паднімецца ісці таўсматы, ідзе малады за ім, тонкі, як травіна, перад тым. Вышмарганае чырвонаармейскае адзенне на ім сядзела вельмі шчыгульна. Калі ён паднімаўся ісці, за ім спяшаўся і таўсматы. Вельмі было падобна да таго, што яны не хочуць спусціць адзін другога з вока. Кожны раз, як толькі яны выходзілі на двор, абодва пільна прыглядаліся да цёмных абрысаў вечара навакол і прыслухоўваліся да той вялікай цішыні, што бытавала тут. Магло б здавацца, што паміж гэтымі двума жыве вялікая згода і аднадумнасць. У хвіліны гэтага прыслухоўвання яны можа і сапраўды рабіліся роўнымі імкліўцамі да аднаго. Ім жа важна было на гэты хоць вечар усцерагчыся ад таго, хто б уздумаў натрапіць на іх след. З гэтага яны і пачалі рабіць першыя спробы пазнаць адзін аднаго. Кожнаму было ясна, што другі баіцца свету і хоча ўхавацца ад людскога вока. За час гэтых выхадаў з хаты яны не сказалі адзін аднаму ні слова, але гэта магло б быць лішнім. Яны ўжо, на гэты вечар, пачалі разумець, што аднаму важна тое, без чаго не можа абысціся другі. Настаў нарэшце момант, што калі тоўсты паварушыўся, каб ісці, малады сказаў вельмі ціха:

— Ізноў хіба выйдзем?

— Ну, як там, ціха? Нічога падазронага? — абазваўся той, што ў летнім пінжаку.

— Прыглядайцеся ў бок лесу,— заўважыў самы старэйшы.

І ўсё паміж імі як бы высветлілася. Чаго ж ім яшчэ крывіцца адзін на другога ці ўсім на аднаго, калі яны

разам павінны сцерагчыся нежаданага прыйсця таго, хто можа ісці іхнімі слядамі? Такая атмасфера раптам навісла ў гэтай хаце. Здаецца, яе адчуў нават і той, што зрабіў труну. Ён паглядзеў па ўсіх чатырох і сам сабе ўздыхнуў: «божа мой, божа». Як бы там ні было, ён сам выйшаў з хаты і, калі вярнуўся, сказаў:

— Ціха і пуста. Нікога нідзе. Месяц узыходзіць.

Пра месяц ён сказаў праўду, але гэта была ўжо лішняя фраза, і ішла яна ад пошукаў хоць якой блізасці з людзьмі. Можа яно было і так. І гэтак усім здалося. Тым часам самы маладзейшы зноў падняўся, каб выйсці. Падняўся і тоўсты. Раптам малады не вытрымаў:

— Чаго ты не спускаеш мяне з вока?! Мы тут роўныя ўсе!

— Я не дзеля цябе, а дзеля сябе. Я сам хачу бачыць і слухаць. Але ж і ты за мною ходзіш.

— Няхай, калі так, хто іншы выйдзе,— сказаў малады.

— Я пайду і доўга буду стаяць на варце,— сказаў старэйшы.

Таўсматы з нейкім расчараваннем унурыўся і перабіў:

— Мяса павінна зварыцца ўжо.

Усе апынуліся ля самай печы. Ганүся выцягнула адзін чыгун і ткнула ў яго ашчэпкам лучынкі.

— Гатова! — сказала яна.

Тоўсты паставіў на лаву ў кут чыгуны. Адзін і другі.

— Есці ў сенцах! — сказаў самы малады.

З якой удзячнасцю паглядзеў на яго той, што ўвесь гэты час стаяў над нябожчыцай! Самы старэйшы зразумеў гэты позірк. Ён хапіў чыгун і паімчаў у сенцы. Шпарка ўсе пайшлі за ім. Той з размаху паставіў чыгун на зямлю, выхапіў кавалак мяса і, абдзьмухваючы яго, пачаў ірваць зубамі. Здавалася, што калі ён будзе чакаць, пакуль мяса астыне, то гэта будзе каштаваць яму скanання. Але і не толькі ён. Ужо ўсе падкідалі на руках гарачыя кавалкі, кусалі як толькі маглі і елі, елі. Пасля тоўсты прынёс другі чыгун. Два чыгуны мяса яны з'елі не больш як за дзесяць хвілін і адчулі, што не пад'елі як мае быць. Але нейкая сіла, можа нават мацнейшая за голад, стрымала іх ад якіх бы там ні было пошукаў спосабу задушыць да канца прагу да яды. Усе, як згаварыўшыся, выйшлі на ганак і сталі самі не свае. Вельмі можа быць, што цяпер ім усім лепш бы было разысціся хто куды і век больш не сыходзіцца

разам. Як бы яно там ні было, але колькі момантаў усе пастаялі моўчкі, і тоўсты раптам пачаў спускацца з ганка. Можа ён нічога такога і не думаў, але ўсе гукнулі ў адзін голас:

— Куды? Чаго? Як гэта?!

Ён падняўся зноў на ганак, і ўсім стала ясна: не ўстанавілася паміж імі згода, і вялікае недавер'е жыло і не змяншвалася. Самы старэйшы раптам уздыхнуў і штосьці як бы прашаптаў сам сабе.

— А памагчы таму хаваць,— сказаў ён мацней.

— Я кончуся з холаду ў гэтым пінжаку,— сказаў той, лёгка адзеты.

Ён шпарка рушыў у хату. І ўсе за ім. Таўсматы сеў на лаву. Усе ж астатнія сціснуліся пры печы, у якой яшчэ датляваў жар. У момант цяпло размарыла іх. Дрымота агарнула іх усіх трох. Усе яны нейк адразу тут жа ляглі на падлогу і сцішыліся. Яны спалі. Але ў неспакоі. Колькі яны паспалі, хвілін можа дзесяць, не больш, а раз-поразу то той, то другі ўсхватваўся, паднімаў галаву, акідаў цяжкімі вачыма хату і зноў кідаўся на падлогу і спаў. Тоўсты таксама спаў, седзячы на лаве. Два тутэйшыя мужчыны тым часам унеслі з сянец труну, паклалі ў яе нябожчыцу і паставілі труну з нябожчыцай на той самы тапчан. Той, што рабіў труну, выйшаў у сенцы і зноў з'явіўся ў дзвярах з рыдлёўкаю ў руках. Ён быў пануры, але вочы яго, здавалася, лілі святло на твар.

— Цяпер пайду капаць,— сказаў ён.

— Добра было б каб удвух,— адказаў другі.— Але як я тут пакіну.

Раптам моцны кашаль перарваў не толькі гаворку, але можа нават і думкі гэтых людзей. На падлозе нехта з тых трох так кашляў, быццам бы грудзі яго разрываліся. З хрыпам і свістам кашляў ён і адкашляўшыся ўстаў. Гэта быў той самы старэйшы з чатырох. Абыякавасці і холаду цяпер на яго твары не было. Была пакута і смутак. Цяпер ён здаваўся гарбаты, быў ускудлычаны, чырванатвары і з прыгнутымі ў каленях нагамі. Так ён стаяў, пагойдваючыся на нагах, у поўным маўчанні гэтай нейкай нешчаслівай хаты і прахрыпеў, усё з тым жа сваім жудасным акцэнтам і вымоваю:

— Пачакаем дня, каб капаць і хаваць. Цяпер ноч. Нашто так спяшацца?

Вельмі можа быць, што той, з адкінутымі назад валасамі, узрадаваўся гэтаму нечаканаму голасу, хоць і хрыпатаму, хоць і страшнаму. Усё ж гэта быў чалавечы голас. З нейкай раптоўнай жвавасцю, як бы ўхапіўшыся за прычыну, каб перад кім паспавядацца, той, з адкінутымі валасамі, сказаў:

— Галубок ты мой. Яна ўжо чацвёрты дзень ляжыць непахаваная. Пакуль мы дасталі дошак на труну, пакуль цвікі з іх без начыння падаставалі, пакуль пілу знайшлі на пажарышчы за лесам.

— А хто гэта памерлая?

— Гэта мая дачка.

— А жывая?

— І жывая мая дачка.

— Ну добра. Хадзем капаць.

— І я пайду,— пачуўся тут голас, і з падлогі падняўся самы маладзейшы, што быў у чырвонаармейскай адзежы.

Бацька нябожчыцы яшчэ пажвавеў. Нейкія новыя рысы пачалі ажываць на яго твары.

— Што вы за людзі? — ужо новым тонам сказаў ён. Тыя маўчалі.

— Ну, ты немец, я чую з твае гаворкі,— ткнуў ён рукой у грудзі таго, што нядаўна кашляў.— А ты хто? Адкуль ты?

— Я можа пасля скажу.

— Ну добра,— адразу апануравў чалавек.— Я і забыўся, што чалавеку страшна паказваць сваю душу перад чалавекам.

У тоне гэтых яго слоў многа было горачы і кплівага запалу.

— Ну, хто пойдзе, дык хадзем. Рыдлёўкі якраз ёсць. У сенцах возьмем.

— І я пайду,— сказаў таўсматы і паднуўся з лавы. Ён штурхануў таго ў лёгкім пінжаку. Ён спаў моцным сном. Штуршок яго пабудзіў, і ён сеў.

— Трэба ж каму тут астацца,— сказаў бацька нябожчыцы.— Ты астанься (гэта да таго, што рабіў труну). А я завяду людзей на месца.

— І я астануся тут,— сказаў той, што яшчэ сядзеў на падлозе.

— Добра, аставайся.

І той, як сядзеў, адразу зноў лёг, закінуўшы пад галаву рукі.

І ўсе выйшлі, апроч яго і таго, што рабіў труну. Свечка аплыла і знізілася, і цямней стала ў хаце. Ганусся стала на ранейшае месца бацькі і так моўчкі стаяла над нябожчыцай. Той, што рабіў труну, стаяў поплеч яе. А той, што ляжаў на падлозе, сеў, дастаў з кішэні кавалачак паперы, навыцярушваў з другой кішэні пацёртага лісця, зрабіў папяросу, устаў, прыкурыў з свечкі і зноў сеў на ранейшае месца на падлозе. Відаць, што гэта ён курыў не тытунь. Пах дыму быў не тытунёвы. Пайшлі хвіліны за хвілінай. Ён дакурыў папяросу, устаў, падышоў да печы і ўкінуў у яе недакурак. Абуткам сваім ён моцна грукаў па зямлі. Ганусся азірнулася на яго, і вочы іх спаткаліся. Ён тады сеў на лаву і зноў пачаў скручваць папяросу. Ганусся стаяла на сваім месцы, але яшчэ раз на яго азірнулася. Відаць, што яе паглыбленасць у самую сябе была парушана. Падышоўшы зноў да свечкі, каб прыкурыць, ён зазірнуў у твар спачатку Ганусі, пасля чалавеку і як бы ўкрадкам запытаў:

— Што гэта тут за месца? Як называецца? Я тут не быў раней.

Чалавек маўчаў, а Ганусся павярнулася да яго. Змена адбылася на яе твары. Гэта было вельмі падобна да таго, як раптам бацька яе пажвавеў быў, калі ў яго знайшлася прычына выказаць сваё чалавеку. Быццам Ганусся на момант адарвалася ад забыцця.

— Тут Магілёўская вобласць,— сказала яна.

— Ведаю. А раён?

Яна сказала і раён.

— А гэты кут?

— Хата, дзе радзіўся мой бацька. А вёска за ляском. Спалена. Адны асмалкі.

— А тут праходзіць шаша, што паміж Масквой і Варшавай?

— Недалёка.

— Ага. То вы можа чулі такі маёнтак Бранчычы?

— Не, я не чула.

— Ага. Ну, добра.

— А хіба тут былі маёнткі?

— Ну то саўгас можа быў. Проста назва Бранчычы.

Быццам бы на тое, каб хутчэй спыніць гэтую сваю ж гаворку, ён вельмі шпарка перасеў з лавы на падлогу і неўзабаве лёг і заплюшчыў вочы. Жвавасць сышла з Ганусінага твару, але яшчэ нейкі час успышкі яе ажывалі.

І ў гэтыя моманты яна вельмі была падобна да свайго бацькі. Той жа, што стаяў поплеч яе, за гэты час нават і не паварушыўся, быццам нічога не чуў, ці не цікавіўся нічым, або і не разумеў нічога. Ноч цягнулася далей. Святло ў хаце яшчэ больш змеркла. Відаць стала, што на небе ўзышлі зоры. Яны стаялі ў акне густа, і нават заўважалася, што цёмнае неба стаіць на мяжы з сінім колерам.

Раптам той шпарка падняўся з падлогі і падышоў да маўклівага чалавека, што так пільна стаяў над нябожчыцай.

— А вы не ведаеце Бранчыч? На самай шашы. Адсюль павінна быць недалёка. Дзе гэта, і ў які бок? А божа мой, божа. Калі ведаеце — выведзіце на дарогу.

Гэтыя словы, тонам просьбы і адчаю, ён сказаў як у пустыні. Той, да каго ён казаў, нават і не паварушыўся.

— Што вы маўчыце?! Вам цяжка слова сказаць?

Той раптам схіліў галаву і перахрысціўся па-каталіцку, пяцьма пальцамі.

— Ён моліцца, не чапайце яго,— сказала Ганруся.

Гэты, у лёгкім пінжаку, таксама схіліў галаву і перахрысціўся па-каталіцку. Пры гэтым у яго была нейкая заўзятасць, як бы ён гэта сумысля, каб яго бачылі. Ганруся паглядзела на яго, і на яе твары нічога не адлюстравалася. Тады ён ціха запытаў Ганусю:

— А вы як жагнаецеся? Трыма ці пяцьма пальцамі?

Можна было ўлавіць у яго голасе такія ноты, што як быццам бы ён надаваў гэтаму пытанню нейкае адмысловае значэнне.

— Я і не жагнаюся і не хрышчуся,— адказала яна, і як бы з нотамі нездавальнення, што ёй не даюць стаяць і маўчаць. Колькі ў ёй было ў гэты момант сталасці! І адказ яе быў не так сабе. А можа гэта яна штосьці зразумела ў яго запытанні і трапна адказала яму. Нездаволены, ён ціхом падаўся на ранейшае месца і лёг на глінявую падлогу гэтай хаты. Панавала вялікае маўчанне. Нябожчыца ляжала ў труне, і двое стаялі над ею. Тым часам загрукалі на ганку і сенечнымі дзвярыма. Вярнуліся далакопы. Усе яны як ёсць увайшлі ў хату. І ў ва ўсіх іх адбылася нейкая змена. Нейкая адна, ужо агульная ім усім рыса з'явілася ў іх. Гэта была не тое што якая заклапочанасць ці ўзбуджанасць. Але можа і гэтага былі некаторыя адзнакі. Самае ж важнае, што было ў іх, гэта як бы

іх агульнае дачыненне да адной справы. Гэта яднала іх. Цяпер яны былі ўжо быццам пейкія змоўшчыкі. Не ведаючы адзін аднаго, яны ў невядомым ім месцы нядаўна выкапалі магілу невядомай ім асобе. Капалі разам, пад зорным небам, уночы, перамагаючы свае пакуты. Вельмі можа быць, што тут кожным з іх кіравала залежнасць аднаго ад усіх. Напэўна так было. Ніхто не хацеў, не мог і баяўся быць чым-небудзь непадобным да іншых у час гэтага, можа нават і страшнага, іх спаткання. Што было б, каб хто з іх заявіў, што ён не хоча рабіць таго, што робяць іншыя? Кампанія ж іх і так ледзьве трымалася гнілымі абручамі. Праўда, адзін з іх ляжаў цяпер на падлозе, але невядома яшчэ, што пра яго думалі. І хто ведае, можа яму што-небудзь ужо рыхтавалі. Але і не толькі гэта было ў іх усіх. Тут магло быць яшчэ і пачуццё хоць якой змены іх стану. Галоднае бадзянне нэ холадзе, і раптам — нейкі занятак, справа, а можа і апаражненне цёплай хаты ад мёртвага чалавека. Мёртваму нічога не трэба. Жывому патрэбен цёплы прытулак. Уцягненыя ў нейкую дзейнасць, тоячы кожны ў сабе сваё, усе ўвайшлі ў хату і сталі пасярод яе.

Бацька нябожчыцы парушыў цішыню моцным голасам.

— Ганyся,— сказаў ён,— развітайся з ею.

Адразу ён падышоў да Ганусі і абняў яе адной рукой за плечы. Абое поплеч, яны надышлі да труны і ўкленчылі перад ею. Ён дакрануўся лбом да белай, як наркаль, рукі нябожчыцы і нацалаваў руку. Пасля пацалаваў у нябожчыцы пантоплі на нагах і лоб. Пасля стаяў і глядзеў, як Ганyся цалуе ў нябожчыцы твар і рукавы кофтачкі. Пасля ён і той, што рабіў труну, узялі века і зачынілі труну. Раптам ён прыадчыніў века і зірнуў яшчэ раз на нябожчыцу. Зірнула і Ганyся. Зірнуў і той, што рабіў труну. А пасля гэтага зачынілі ўжо навек. І пачалі браць труну, каб несці. Нейк разам усе схлупіліся і перашкаджалі адзін аднаму. Труну ўзялі ўшасцёх. Першая пара ішла: немец, самы старэйшы, і з ім таўсматы ў кажуху. Сярэдзіну труны ўзяла пара: самы маладзейшы і той, што рабіў труну. Труну пачалі падымаць ужо, як раптам узварушыўся той, у летнім пінжаку, што ўсё спаў на падлозе. Нейк сагнуўшыся, як бы ў яго гарэла ўсё ўсярэдзіне, ён падбег да ўсіх, і сонны, і збянтэжаны, і паглыблены сам у сябе, чамусьці пачаў браць труну там, дзе ўжо трымаў не той, што і зрабіў яе. Убачыўшы каля сябе соннага пама-

гатага, ён саступіў яму месца і сам разам з бацькам нябожчыцы ўзяў труну ў галавах. Апроч Ганусі, больш тут людзей ужо не было. Ганусяі пайшла адна за трунаю. Калі сыходзілі з ганка, Гануся азірнулася была, каб зачыніць сенцы, але не зачыніла. У сенцах, так як і ў хаце, было пуста і гола. Ганак быў нізкі, па адну ступеню. Сышлі з трунаю з яго лёгка. Ноч стаяла ў самым сваім разгары. Яна была ясная. Поўны месяц стаяў высока, і ў гэтай частцы неба не было зор. Мароз без ветру, і цішыня. Прымерзлая зямля шарэлася далёка ў гэтым спакоі яснай ночы. Голыя дрэвы здаваліся чорныя і вельмі высокія. З трунаю прайшлі двор і штосьці падобнае да саду з рэдкіх дрэваў. Прайшлі полем і апынуліся на ўзлессі. Лес быў невысокі, або малады, або каржакаваты. З яго тхнула спакойным пахам смалы і кары. Адсюль відна была апусцелая хата. Не так чорны яе сілуэт, як асветленае акно. Свечка асталася гарэць у ёй. Акно ледзь свяцілася. Свечка ўжо мусіць канала. Дол быў выкапан тут жа, на самым узлессі, каля вялікіх трох дрэваў. На горб выкінутай зямлі і паставілі труну. Месячная відната была і ў лесе паміж дрэў. І маўчанне было вялікае. Той, што рабіў труну, шпарка адышоўся некуды ўбок, і відно было, што ён прыгнуўся і шукае чагосьці на зямлі. Неўзабаве ён вярнуўся з скруткам вяроўкі і распусціў яго. Можна сказаць, што з гэтага моманту ён пачаў тут распараджацца. Ён сказаў, калі і як прыўзняць труну, каб працягнуць пад яе дзве столкі вяроўкі. Ён сказаў, калі і як пачынаць спускаць труну ў яму. Тут ляжала рыдлёўка недзе паміж дрэў. Той, што рабіў труну, пашукаў яе і знайшоў. Таксама, як і шукаючы вяроўку, ён прыгінаўся і ўглядаўся ў зямлю. Было падобна, што можа гэта ён сам тут і пакінуў быў і вяроўку і рыдлёўку. Ён і пачаў засыпаць магілу. Усе стаялі. І вось тыя чатыры сталі гаварыць.

— Адной рыдлёўкай вельмі марудна. Нашто мы рыдлёўкі занеслі ў сенцы,— сказаў самы маладзейшы.

— А там мяса на двары ляжыць. Сабакі ці ваўкі яго могуць з'есці. І так прыйдзе хто,— сказаў таўсматы ў кажуху.

— Я зараз памру з голаду і холаду,— сказаў той, што быў у летнім пінжаку.

І раптам сагнуўся ён яшчэ больш і подбегам рушыў туды, дзе крыху яшчэ свяцілася хатняе акно.

— Божа,— сказаў самы старэйшы.— Божа, божа!

Яго смутак быццам напоўніў сабою ўвесь свет. Украдкам, нібыта баючыся, ён паклыбаў у бок хаты, прыгорблены і скрыпучы. І кашляў ён ужо скрыпам, і гаварыў, і нават у абутку яго штосьці скрыпела. Не адышоўся ён яшчэ і пятнаццаці крокаў, як таўсматы рушыў за ім следам.

— Гаспадар,— сказаў самы маладзейшы да Ганусінага бацькі,— я ледзьве стаю на нагах. Я баюся, што ўпаду. Я пайду хоць лягу на падлозе.

— Ідзі і кладзіся, але не на падлогу, а на печы прымасціся, калі яны яшчэ там не занялі месца. Спяшайся. Або на лаву дзе. Там у хаце, паміж печы і кутом, дзе стаяла труна, абмацаеш ці ўбачыш дзверы. Адчыні іх і ўвойдзеш у халодны пакой. Там ляжаць на стале чыстыя лахманы, бяры іх сабе на пасцель.

Малады шпарка пайшоў. Ясная ноч стаяла ў самай сваёй глыбіні. Ганука, бацька і той, што рабіў труну, паволі засыпалі магілу. Бацька стаў на калені, а за ім і астатнія. Кожны дакрануўся лбом да свежай зямлі. Пасля, ціха гаворачы, пайшлі.

— Каб ведаць, што гэта за людзі,— сказаў той, што рабіў труну.

Спакойным тонам знаўцы таго, што робіцца на свеце, Ганука адказала:

— Кожны з іх ратуе сябе.

Бацька яе сказаў:

— Два з іх немцы, адзін беларус, а чацверты паляк.

— Вы не памыляецеся? — сказаў той, што рабіў труну.

— Мой бацька ў такіх справах не можа памыліцца,— сказала Ганука.— Ён з гаворкі пазнае, з якой нацыі хто.

Ганусін голас не быў спакойны, хоць і было ў ім крыху разважлівасці. Утрапенне не пакідала яе. Утраіх увайшлі яны ў сенцы і ўбачылі, што бычынае мяса, вялікімі мерзлымі кавалкамі, ужо ляжала тут, на зямлі. Відаць, што чатыры бадзякі ўжо асталёўваліся тут. У хаце ж яны ўжо гаспадарылі. Ужо ў печы гарэў агонь, і зноў у чыгунах варылася мяса. Водсвет з печы падаў на сцяну і асвечваў хату. Свечкі ўжо не было. Усе ўчатырох стаялі пасярод хаты ў нейкім як бы ўзбуджэнні. Маладзейшы трымаў пад пахаю нейкую старую вопратку, а той, што быў у летнім пінжаку, дапытваў яго:

— Хто табе сказаў, што там у пакоі ляжыць адзежа? Ты ўжо з гаспадаром паспеў пасябраваць без нас? Давай!

— На! — адказаў малады.— Бяры.

Той узяў старую вопратку, адразу палез з ею на печ і адразу там умасціўся ляжаць. Самы старэйшы падышоў да печы і адразу задрамаў, стоячы пры агні. Таўсматы і малады селі на лаву і раз-поразу зазіралі ў печ. Чыгуны кіпелі. Агонь палаў. Ганусін бацька зняў з тапчана прасцірадла і пайшоў у той, як ён сам казаў, «халодны пакой». У яго вялі дзверы непадалёку ад печы, заўсёды дагэтуль зачыненыя. Неўзабаве ён вынес адтуль ахапак старой адзежы, сапраўды «лахманоў», і паслаў на тапчане пасцель. Гануся адразу лягла і заснула. Бацька лёг каля яе, з самага краю і, тварам угару, ляжаў, не спаў і глядзеў у столь. Той, што рабіў труну, лёг на голую лаву пры сцяне, і хто яго ведае, ці спаў, ці так ляжаў сцішыўшыся. Тым часам з печы злез той і адразу сунуўся ў печ.

— Трэба даставаць мяса і есці,— сказаў нецярпліва ён.

— Сырое яшчэ,— прахапіўся ад свае дрымоты самы старэйшы.

Таўсматы высунуў нейкім ражном з печы чыгуны, а малады кінжальчыкам пачаў выкладаць мяса проста на лаву. Яно яшчэ было гарачае, а яго ўжо хапалі і пхалі сабе ў раты. Усе ўчатырох.

— Мне нядобра,— сказаў самы маладзейшы і лёг на лаву. Тыя ўтрох скончылі есці, па чарзе выпілі з чыгуноў юшку і палезлі на печ. Упокат яны там адразу заснулі ў цяпле. Ішла хвіліна за хвілінай. Агонь у печы згас, і жар датлеў. Ужо не было на сцяне водблескаў, і ў хаце сцямнела. На печы не ўсе спалі спакойна. Хтосьці там кідаўся ў сне, штосьці гаварыў. Чуцён быў і скрыпучы кашаль. Гануся падняла галаву, і пачуўся яе моцны шэпт:

— Бацька, дзе ты?

— Тут,— абазваўся бацька. Ён стаяў пры акне і ўглядаўся ў яго.

— Хадзі сюды,— сказала Гануся.

Ён падышоў і сеў ля яе, а той, што рабіў труну, устаў і сеў там жа, на лаве.

— Бацька, я больш не магу спаць,— сказала Гануся.

— Трэба прычакаць дня,— пачуўся шэпт таго, што рабіў труну.

— Будзем чакаць дня, Гануська,— сказаў бацька.

Гэтая гаворка траіх была такая зладжаная, што льга было б заўважыць: яны блізкія адзін аднаму, усе ўтраіх. Нешта адно жыло ў іх душах. Маўклівае чаканне пацяглося далей. Відно было праз акно, як пачало цямнець неба.

Той, што рабіў труну, падняўся і зашпіліў на сабе вопратку. У ёй ён ляжаў і сядзеў.

— Здаецца, адлега пачынаецца на дварэ,— сказаў ён шэптам. І зноў лёг. На печы кашлялі, кідаліся, гаварылі са сну. Гануся цярпела ноч. І вылежала так да канца ночы. Яна адчула, што ноч падышла да канца, хоць ніякіх адзнак таго яшчэ не было. Яна прыўзнялася і зашаптала бацьку ў вуха:

— Татуля... Бацька... Ужо ноч прайшла... Так і ўсё гэтае злое мінецца. Самае важнае — нам перачакаць. Так дзень за днём.

Ён падняўся і сеў.

— Дзень пачынаецца,— сказаў ён такім тонам, як бы гэта штосьці вельмі важнае адбылося. І зноў змоўклі. І зноў пацягнуўся час. Раніца ішла паволі. Дзень пачынаўся хмурны. Раптам зніклі рэдкія зоры і святло з неба. Відны сталі сцены ў хаце і дзверы, адчыненыя ў той «халодны пакой». Чакалі дня, а як ён прыйшоў, не ведалі, як пачаць яго. Усе пaглядалі на печ, што далей будуць рабіць няпрошаныя начлежнікі. А яны ўсе так жа неспакойна спалі. Ужо Ганyся ўстала, увайшла ў «халодны пакой», расчыніла там нейкае цеста. Ужо той, што рабіў труну, наперасекаў многа жэрдак на дровы. Ужо Ганусін бацька, схаваўшыся ў «халодным пакоі» ад сваіх нязнаных начлежнікаў, дастаў ціхом з-пад пінжака пісталет, разабраў яго і зноў сабраў. А тыя ўсё ляжалі на печы і нават як бы спалі. Цяпер ужо відно было і як мае быць чутно: час ад часу рваўся скрыпучым кашлем самы старэйшы. Самы маладзейшы час ад часу енчыў слабым голасам. Таўсматы штосьці ўсё праз сон гаварыў, але не так, як учора ўдзень, а па-нямецку. Той, што ў лёгкім пінжаку, раптам прахапіўся і пракрычаў чыстай польскай мовай штосьці аб тым, што ён даў абяцанне перад вялікай усясветнай справядлівасцю ненавідзець фашыстаў, пакуль будзе жыць. Самы малады, быццам ускрылены гэтым польскім крыкам, крыху прыўзняў галаву і з нотамі агню ў вялым ад хворасці ці слабасці голасам як бы растлумачыў таму паляку (бо пакуль гаварыў, глядзеў на яго), што ён толькі дзеля таго дзяцей будзе мець, каб яны маглі выхаваць у сваіх дзецях нянавісць да фашыстаў. Відаць, што гэтая думка, ці праўдзівей сказаць, фармуліроўка думкі, склалася ў яго не адразу і напластоўвалася з цягам часу. Самы старэйшы, той, што кашляў, падняў галаву і раптам,

як бы што ўспомніўшы ці адумаўшыся, кіпуўся зноў і ляжаў, больш не варушачыся і стрымліваючыся, каб не кашляць і не абзывацца. Збоку гэта льга было заўважыць. Таўсматы ж нават і не паварушыўся. Але відаць, ён чуў усё, бо не спаў. Часамі ён расплюшчваў на момант вочы. Тым часам Гануся падпаліла ў печы, узяла з-пад прыпека скавараду, насыпала з паперы на яе цёртых канапель і расціснула паверх цеста. Неўзабаве яна спякла такім парадкам тры скавароднікі, пульхныя і тоўстыя. Яна, бацька і той, што рабіў труну, стоячы пры печы, адразу і з'елі іх.

— Як мне хочацца малака! — сказала Гануся, пасля чаго ўсталявалася маўчанне.

Дзень панаваў ужо на дварэ. Ён быў хмурны. Час усё ішоў, а тыя з печы не злазілі. Ужо напэўна за паўдня мінула, а яны ляжалі. Самы старэйшы зноў пачаў кашляць. Ганусін бацька падняў руку і штурхануў самага маладога ў нагу. Той адразу прыўзняў галаву, паглядзеў на чалавека і міргнуў уніз вачыма. Было ўсё падобна, што ён і спадзяваўся, што так усё будзе. Ён вычакаў момант, асцярожна споўз на край печы і ўкрадкам злез на зямлю. Моўчкі, як згаварыўшыся, выйшлі яны ўдвух з Ганусіным бацькам у сенцы.

— Перакусіць чаго трэба,— сказаў пошапкам Ганусін бацька так, як бы ведаў гэтага маладога чалавека, бадай-што хлапчука, здаўных.

— Мне не можна,— сказаў той.— Я захварэў. Я многа галадаў, а мяса было недаваранае, а я яго ўчора многа з'еў. Цяпер у мяне як быццам усё рвецца ўсярэдзіне. У мяне ў жываце ные і сцягваецца.

— А есці табе не хочацца?

— Не. Я зусім аслабеў.

— Кладзіся на тую пасцель, дзе мы спалі.

— А яны ўжо і так заўважылі, што я з вамі добра.

— Ты іх баішся?

— Іх тры, а я адзін.

— Не бойся. І нас тры.

— На мне могуць быць вошы. Я не лягу на вашу пасцель.

Ганусін бацька памаўчаў і кіўнуў галавой.

— Дык вылежвайся сёння на печы. Яшчэ адно. Ты з палону ўцёк?.. Ты не бойся. І я ад немцаў уцёклы.

— З палону. Як вы ўгадалі?

— У мяне ж галава на плячах.

Малады чалавек раптоўным рухам хапіў руку Ганусінага бацькі і страсянуў яе. Пасля чаго пайшоў у хату і зноў уціснуўся на печы паміж тых. Нейк адразу пасля гэтага той, што рабіў труну, Ганусін бацька і Гануся выйшлі з хаты, добра зачынілі сенцы і, даўшы добрага кругу, па адным, а не разам, абышоўшы той лясок, на краі якога з мінулай ночы з'явілася свежая магіла, сабраліся ў нейкай вузкай і доўгай градзе старых дрэў. Тут расло некалькі дубоў, вязаў, бяроз і многа алешыны. І пад імі ґусціўся крушыннік. У гэтым крушынніку яны абгледзелі ляжачую старую бярозу, вывернутую навальніцай з карэннем. Яна ўжо ўтрухлела і абрасла высокай мятліцай. Ганусін бацька выцягнуў з-пад дрэва аўтаматычную нямецкую вінтоўку і набоі да яе, напакаваныя ў вялікі шкляны слой і накрытыя вечкам з бляхі. Ён добра абгледзеў вінтоўку. Утраіх селі на дрэва, і ён пачаў разбіраць зброю. І ён сам, і Гануся, і трэці чысцілі часткі вінтоўкі. Падоўгу адціралі іх. Прайшло можа гадзін тры. Ганусін бацька дастаў з кішэні бутэлечку з памазачным алеем і перамазаў ім вычышчаныя часткі вінтоўкі. Пасля ён сабраў вінтоўку і зноў паклаў на ранейшае месца. Вось і дзень пачаў канчацца. Такім жа вялікім кругам, па адным, яны пайшлі назад. На тварах іх была напісана панурасць і скруха. Як бы нехаця ўвайшлі яны ў хату. Тыя ўсё ляжалі на печы. Чатыры пары ног тырчэлі з яе на хату. Старэйшы кашляў ужо бесперапынна. Усе ўвайшлі ў «халодны пакой». Гэта была чыстая хата пасля кухні. Адно акно было без шкла і пазастаўлена фанерай. Тут і сапраўды было холадна. І апроч аднаго стала, нічога больш не было. Гануся дастала з шуфляды гэтага ж стала хлеб і сала, і, стоячы над адчыненай шуфлядай, усе елі. Здавалася, што тут і спрадвеку была такая пустэча. Бо і ў хаце гэтай, і ў сенцах, і на двары, усё было пуста і гола. Пачынала змяркацца. Ганусін бацька стаў на стол, дастаў рукою столь і выцягнуў з-за бэлькі скручаную ў жмут газету. Ён яе разгарнуў і разаслаў на стале. Гэта была «Правда», з таго ж самага месяца. На газету ён паклаў кавалак хлеба і выйшаў з пакоя. Ён зноў штурхануў у нагу самага маладога. Той паслухмяна злез з печы, нават не стараючыся не трывожыць тых. Тым, відаць, гэта ўжо не надакучала. Ганусін бацька ўвёў яго ў «халодны пакой» і паказаў на хлеб на газеце:

— Еш.

Той працягнуў руку да хлеба і нейк скалынуўся. Ясная

адзнака была, што ён яшчэ не ўміраў ад свае хваробы і слабасці. Ён добра змяніўся ў твары. Хоць на момант.

— З гэтага лістапада газета? З Масквы? Значыцца, яшчэ жыве Масква? І Саюз Савецкіх рэспублік жыве?.. Дзе вы ўзялі газету? Як дасталі?

— Знайшлі ў полі. Я думаю, што з савецкага самалёта.

— Даўно?

— За дзень да таго, як вы тут з'явіліся... А хто вы?

— Я студэнт педагагічнага інстытута ў Мінску.

— Вам ломіць калені?

— Ломіць.

— Вы не толькі атруціліся мясам. Больш за ўсё у вас таго, што вы захаладзіліся. Зараз мы вас будзем карміць і адаграваць.

Дзіўная была раптоўная змена ў гэтым маладым чалавеку. Ён колькі разоў укусіў хлеба і пакінуў есці. Ён стаяў нерухома.

Але здавалася, што ён зробіць зараз нешта вялікае і патрэбнае ўсім, і да гэтага ён доўга імкнуўся і толькі цяпер як мае быць дасягнуў гэтага. Твар яго як бы свяціўся.

— Жыве наша бацькаўшчына!.. Я з усіх сіл буду старацца, каб ачуняць!.. А хто вы такія? Што вы за людзі, што тут так жывеце?

— Ідзі ляжы. Я пасля табе раскажу,— сказаў Ганусін бацька.— Я нешта прыдумаю, каб пакласці цябе дзе інакш.

Не зганяючы з твару новых рыс надзеі і веры, малады чалавек зноў уціснуўся на печы паміж тых. Ужо зусім пачало змяркацца. І вось новая заклапочанасць і ажыўленне заўладала ўсімі, хто мучыўся сваёй душой, стоячы на нагах, а не лежачы. Утраіх шапталіся, збіралі ўсялякую адзежу і рэшткі яе. Паставілі тапчан пры печы. Ганyся паслала пасцель на тапчане з усяго, што толькі льга было знайсці. Зноў Ганyся падпаліла ў печы і грэла ваду ў чыгуне. Пакуль накармілі студэнта хлебам і цёплай вадой, быў ужо вечар у добрай пары. Ганусін бацька даў яму бялізну. Ён доўга выцірэўся сваёй бруднай кашуляй і выкінуў яе пасля ў сенцы. А сам у чужой бялізне лёг. Яго акрылі нейкай вопраткай, і, можа быць, ілюзія поўнага шчасця ўсцешыла яго ў гэтыя хвіліны. Твар яго жыў павевамі надзеі, веры і радасці. Ён ляжаў нерухома і глядзеў праз акно ў зорную прастору. Зоры ў небе ўзышлі густа, і неба зіхацела над змрочнай зямлёй. Ён усё глядзеў угару. Ён думаў пра зоры, пра тое, што на двары, мусіць, бралася

на мароз, пра дрэва, вялікі і чорны сілуэт якога вырысоўваўся ў вакне, і пра сваю нечаканую радасць. А як жа! Ён знайшоў сваю радзіму. Ён дажыўся да вялікай радасці. Ён не мог спаць ад шчасця. Ён баяўся паварушыцца. Яму пачало здавацца, што нерухомасць хутчэй падніме яго на ногі. І ён стараўся. Што робіць з чалавекам надзея і вера! Можна сказаць з пэўнасцю, што яны, гэтыя дзве вялікія сёстры, могуць заступіць месца дасягнутай мэты і ашчасліваць чалавека. Быццам дух радаснай надзеі запанаваў тут. Як бы настрой гэтага маладога чалавека ўзбудзіў да прагі і імкнення душы ўсіх тут. І той, што рабіў труну, і Ганусін бацька, і сама Ганука не маглі і не хацелі заснуць. Але тут радасць надзеі не была чыстая. Яна была атручана тым, што адбылося і пячаць чаго не знімеш ніколі. Вельмі можа быць, што і Ганука адчувала гэта. Напэўна, і яе душыў смутак. Ёй, як і ўсім тут, трэба было спадзявацца на час. Гэты верны доктар можа вылечыць уражаную душу і зняць з яе пячаці перажытага.

Ганусін бацька і той, што рабіў труну, селі поплеч на лаве і маўчалі. Было падобна, што яны спяць седзячы. Ганука паставіла табурэт пры самых дзвярах у сенцы і там сядзела.

На печы таксама не спалі. Ці то там ужо за доўгі час адаспаліся, ці то кожны пачаў даходзіць да цвёрдай свае думкі, адзінай патрэбнай яму. Льга было заўважыць у ясным змроку зорнай ночы, што адзін з тых трох, найбольш, мусіць, апанаваны ўтрапеннем, сеў і звесіў з печы ногі. Ён так сядзеў і калываўся ў бакі. Праз колькі часу хтосьці на печы яшчэ пачаў паднімацца. І гэты сеў акрай печы і звесіў ногі, побач таго.

— Дзе тут вада? — пачуўся яго моцны шэпт.

Гэта быў той, што больш за ўсіх перакалаціўся на халадзе ў летнім пінжаку і ў жаночай шапцы, звязанай з нітак. Ганука паднялася з табурэта, папацёмку разграбла ў печы жар і раздзьмула агонь. Яна запаліла лучыну і набрала ў нейкую пагнутую бляшанку вады.

— Калі будзе ласка, сюды падайце,— зноў сказаў той. Польскі акцэнт яго вымовы быў цяпер вельмі моцны. Відаць, што ён ужо не дбаў аб дасканаласці свае вымовы па-руску. Аслабеў, схварэўся, і не да гэтага яму было. Або прытупілася пачуццё самаабароны. Відаць, што гэтае пачуццё было ў ім раней, бо чаго ж бы ён так стараўся, каб не ўжыць польскага слова.

— І мне, калі ласка, вады,— сказаў студэнт.

— І мне, прашу,— з жудасным нямецкім акцэнтам сказаў той, што першы сеў на печы. Гэта быў самы старэйшы.

І таўсматы высунуў галаву з-за коміна і працягнуў руку:

— Вады, прашу.

З лучынай у руках, Ган:уся абышла ўсіх і напаіла кожнага. Тыя два асталіся сядзець на печы, а таўсматы так і ляжаў, выткнуўшыся на хату з-за коміна. Ганvся ўваткнула лучыну дзесьці ў чалешніках печы і зноў села на табурэт. Часта Ганvся ўставала зменьваць лучыну і зноў садзілася. У цьмяным святле ад лучыны постаць яе вырысоўвалася нявыразна, але не гэта было важна. З выгляду яна была яшчэ малая. Падростак з рухавымі плячыма, але з павольнай хадой. Тое, што яна тут, нейк усе адчувалі. Бо і студэнт колькі разоў паднімаў галаву і кідаў на яе вачыма. І таўсматы, і паляк раз-поразу паглядалі на яе. Самы ж старэйшы спыніў на ёй свой позірк і не адвёў яго нікуды. Пачалося доўгае маўчанне. Яно цяглося як пакута ўсіх гэтых людзей, як іх смутак аб мінулым і аб будучыні, як прага іх. Раптам Ганvся цвёрдым шэптам перарвала цішыню:

— Бацька! Што мне рабіць?

— Пастарайся заснуць,— такім жа шэптам адказаў бацька.

— Здаецца, што я сама ў магіле. Як бы мне дух спірае.

— Ты ж сама казала, што дзень за днём перачакаць трэба. У цябе змалку яшчэ была ясная галава. Вучыся мець развагу.

І зноў запанавала цішыня. Але, здаецца, Ганусіны словы ўзбудзілі студэнта (а можа і ўсіх) да новага ўзбуджання і ўвялі яго ў новы абсяг думак. Бо ён адразу паставіў руку на локаць і падпёр ею галаву. Так, не то лежачы, не то седзячы, ён моцна шапнуў у бок Ганусі:

— Тут далёка Варшаўска-Маскоўская шаша?

— Не, недалёка,— як бы ўзрадавалася гаворцы Ганvся.

— А горад Слуцак далёка адгэтуль?

— Далёка.

— Але чулі вы такі горад?

— Дык дзіва што чулі.

— Гануся, цябе так, здаецца, называлі? Слухай, Гануся. Каб ты ведала толькі, як мне цяпер стала добра! Як я нанава на свет нарадзіўся.

Трэба думаць, што гэты студэнт быў вельмі бывалы і многа чаго бачыў на свеце. Але ён быў малады, і яму нялёгка было хаваць і таіць у сабе сваю радасць. Да таго ж і склад натуры мусіць быў такі. Адкрытая душа і даступная кожнаму. Шчаслівымі вачыма ён глядзеў на Ганусю і рыхтаваўся нешта сказаць. Некалькі разоў ён перадыхнуў глыбока. Сэрца яго білася часта.

— Ты ведаеш, Ганнуся,— пачаў шаптаць ён.— Я думаў, што ўжо мне суджана навекі так ляжаць, як я цяпер ляжу. Я нікому не перашкаджаю, і мне ніхто. Якраз паўгода таму назад я быў хворы і сядзеў, прыпёршыся да спін і бакоў маіх таварышаў. Бо нас было многа ў цесным бараку, і не было як легчы і выцягнуцца. А чатыры гады таму, я быў хворы і ляжаў у чыстай пасцелі, і мая маці паіла мяне чаем, і я думаю, што гэта быў самы шчаслівы час майго жыцця. Я ўжо думаў, што навекі буду без роду і без радзімы, без волі і сваіх жаданняў. Я думаў, што ўсё яны ўдушаць, абязвечаць і вырвуць з душы. Мяне душыла безнадзейнасць. Я думаў: так і жыццё можа прайсці: разам з сонцам уставаць, каб рабіць цэлы дзень і не мець сваіх жаданняў і патрэб. А ўвечары легчы спаць, каб зранку зноў устаць на работу. І родных у мяне не будзе, і дзяцей у мяне не будзе, хіба можа ім трэба было б з маіх дзяцей зрабіць сабе слуг. Ганнуся, у маёй галаве нават склалася горкае ўяўленне. На адну хвіліну мне загадалі адагнуцца ад работы і сказалі: трэба, каб у цябе была дачка, такая, як ты: такога ж цёмнага воласу і з такім звонкім голасам. Мне загадалі мець дачку, бо ім трэба было мець з цёмнымі валасамі і звонкім голасам служанку таму іхняму маладому чалавеку, які павінен будзе вырасці ў мужчыну, пакуль мая дачка народзіцца і вырасце ў дзяўчыну. Мая дачка вырастае пры мне, і я яе змалку каля сябе прывучваю да цяжкай работы. Ідзе год за годам, і яна ўжо як механізм: устае з сонцам, каб дзень рабіць і каб вечарам кінуцца набрацца ў сне сіл да раніцы. Першымі сваімі маладымі гадамі я ведаў іншае жыццё, волю і радасць быць самім сабою. І я хаваю ад свае дачкі, што ёсць ці было калісьці іншае жыццё. Бо калі яна будзе ведаць гэта, то жыццё яе стане горкай атрутай, пякельнай пакутай. Калі яна паказвае мне ўдалечыню і кажа, што пад тымі далёкімі дрэвамі мусіць вельмі добра, што там многа прастору і сонца і што дарогі там ідуць у прывабную шырыню свету, я адгаворваю яе, малую, ад такіх думак. Я шкадую

яе і кажу ей, што ўсё тое, што яна бачыць на свеце,— несапраўднае і фальшывае. Сапраўднае толькі ў тым механічным жыцці, у якім мы з ею. Наша казарма сапраўднасць, і трэба прывязацца да яе. А ўвесь свет, далей за казарму,— гэта міраж. Так я яе выхоўваю для жыцця. Бо калі яна будзе ведаць сапраўдны свет, то хіба не будзе яе жыццё ў казарме пакутай навекі? Я ж люблю яе. Яе ж вобраз стаіць перада мною і не дае мне спакою. І я хаваю ад яе тое, што люблю яе. Я стараюся сухасцю і механічнасцю вытруціць з яе душы прыродныя пачаткі замілавання і прывязанасці да блізкіх. Бо іх жа яна праз усё жыццё не будзе мець. Яе ж адарвуць ад мяне, як толькі яна ўзнімецца на ногі. Дык нашто ж ёй веданне таго, што не будзе ў абсягу яе існавання? Нашто ёй сумаваць аб тым, што ніколі не будзе даступна ёй? Пчала смокча кветку, дык адкуль жа яна будзе ведаць смак мяса? А каб у гэтым мудрым законе прыроды адбылося нейк раптам непаразуменне і пчала ўведала, што ўвесь свет месціцца не толькі ў кветцы. Што ён у незлічонасць разоў большы, але ж і недаступны ёй. Дык нашто ж ёй гэты лішні, пакутны сум? Дзе знайсці яму апраўданне? Жыццё маё стала пакутай яшчэ і ад гэтага ўяўлення майго. Гэта стала маім кашмарам. Я пакінуў спаць начамі і раніцамі, на ўсходзе сонца, мяне салдаты паднімалі ботамі ў грудзі. Вобраз дзяўчынкі не адыходзіў ад мяне. І я знайшоў апраўданне ўсяму вось якое: я аднойчы ўбачыў, што немец, які стаяў на варце на выхадзе з нашага лагера, як бы задумаўся. Ён стаяў вачыма ад мяне. І было цемнавата. Якое шчасце! — Аж скалынуўся я ўвесь. Такога выпадку доўга чакаць прыйдзецца. Я падышоў бліжэй да немца. Я азірнуўся. Шчасце! Нікога няма. Я хапіў яго за горла. І пасля доўгіх месяцаў смутку ўвесь свет напоўніўся маею радасцю, калі я адчуваў і бачыў, як немец канае, сціснуты за горла маімі рукамі. Я лёг і папоўз за агароджу. Праз кіламетраў два я ўстаў і пайшоў. Я хістаўся ў бакі ад слабасці, і ў вачах маіх зямля як бы падала ў бяздонне. Але я ішоў. Звечара было цямней, а надпоўнач стала зорнае неба і вісеў месяц, хоць неўзабаве ён знік. Млечны Шлях ішоў праз усё неба. Я глядзеў на зоры і ўзяў кірунак на ўсход. Бо лагер ваеннапалонных быў далёка на захадзе. І ў гэтыя гадзіны пачатку свае вялікай дарогі я ўсё бачыў перад сабою вобраз той дзяўчынкі. Я думаў, што яна павінна радзіцца ў мяне на свет, каб уведаць, што свет вялікі, вольны, шчаслівы,

радасны, і ніякай казармы ў ім не будзе чалавеку, і што жыць на свеце — гэта значыцца, мець шчасце. І яшчэ дзеля чаго павінна нарадзіцца яна, гэта — каб перадаць сваім ужо дзецям маю нянавісць да фашыстаў, тупых, ілжывых, бессардэчных, бесчалавечных..., якія прысвойвалі сабе чужое і цяпер надумаліся абвясціць сябе лепшымі за ўвесь свет. Таўстаморды фашыст трымаў бы ў казарме маю дзяўчынку. А яна родзіцца на доўгі шчаслівы век. Я яе адчуваю. І мне здаецца, што гэта ты і ёсць, Гануся.

У палон я трапіў, калі немцы забралі былі Смаленск. Мяне завезлі далёка. Што ж! Гэта былі першыя месяцы вайны. Немцы лезлі наперад. Мы адступалі. Надзея пачала меркнуць. У лагеры мы чулі толькі тое, што ўжо няма нашай Радзімы. Я доўга ішоў на ўсход. І не ведаў нічога, што робіцца. Я туляўся глухімі закуткамі. Я абыходзіў гарады і мястэчкі. Усюды нямецкая варта вымагала дакумантаў. Але і з дакумантамі такіх, як я, гналі ў Германію. Нарэшце я ўвайшоў у мясцовасць, дзе толькі пажарышчы. Я ведаў, што недзе тут павінна быць Маскоўска-Варшаўская шаша. Яна прывяла б мяне пад Слуцак, у тым баку жыве мая маці. Я далёка зайшоў на ўсход стараною і цяпер па шашы крыху вярнуўся б. Я ўжо дайшоў да страты апошніх сіл. Іх я пачаў траціць яшчэ ў лагеры, дзе на мне вазілі ў бочцы ваду і я, упрэжаны ў аглоблі, з пякучым болем у плячах, думаў аб той дзяўчынцы, якая не павінна была б ведаць аб яснай шырыні свету. Мая нянавісць да фашыстаў роўная майму замілаванню да мае маці, якая недзе, можа, і жыве, на Случчыне. Я ніколі не паміруся з тым, што можна забыцца і даравацъ хаму, які прывалокся і наступіў ботам табе на горла. Фашыст і чалавек. Вось яны два, адзін аднаму напроці. Калі нам суджана пабіць фашыстаў і калі мы пашкадуем іх, збітых, і будзем гаварыць, што і яны людзі, то хто так можа гаварыць, калі я не дарую! Хіба можа яны ўсе, . . . так як рабілі некалі вялікія злачынцы, каючыся, адзенуць на сябе адзежу з зрэбных мяхоў на цэлае стагоддзе і самі аддадуць усе сілы, каб узрасціць у шчасці тое пакаленне ў чалавецтве, якое ў сваім маленстве зазнала на сабе фашысцкі бот...

Я аслабелы і галодны бадзяўся, пасля чатырох ці пяці месяцаў гэтага жудаснага вандравання і спаткаў вось яго (ён паказаў на печ, дзе самы старэйшы з усіх калываўся, звесіўшы ногі). Ён быў яшчэ горшы за мяне. Калі я яшчэ сяк-так ішоў, то ён, здаецца, падаў. Можа ён яшчэ і мог

бы мацнейшы быць, але ж ведаў ён, што гіне, і гэта пабольшвала яго блізасць да гібелі. Я колькі бачыў чалавечай гібелі, то яшчэ гэтакага страшнага чалавечага вобраза не бачыў. Здаецца, на яго сагнутых плячах сядзела смерць і пагойдвалася ў тахту яго вялай хады. Я, калі ўбачыў яго, забыўся быў і на свае пакуты. Сэрца маё сціснулася ад жалю. Ён пачаў гаварыць, і я пачуў, што гэта немец. Я сціснуў зубы. Я ж нядаўна яшчэ выбраўся з аглабель! Страшная мара аб няшчаснай дзяўчынцы ўладала мной тады вельмі моцна. Душа мая гнала вон усялякае спачуванне. Гэта была новая мая пакута: бачыць чалавека перад пагібеллю і ў няшчасці і не мець сілы выйсці з чорствасці і халоднасці! Я ўзненавідзеў яго за тое, што ён прывалокся на маю родную зямлю, адабраў у мяне радасць, загнаў мяне ў аглоблі і не дазволіў мне быць і далей мяккім і добрым, літасцівым і лагодным перад чужой пакутай. Мы пачулі, як недзе непадалёку зарыкаў бык, і адчулі ў гэтым свой ратунак ад голаду. Ганўся! Каб ты толькі ведала, да якога шчасця я дажыўся, калі ўбачыў газету. Да мяне вярнулася ўсё, што я страціў. Гэта ж зусім можа быць, што маці мая жыве і я яшчэ ўбачу там, на Случчыне, чатыры высозныя вязы цераз вуліцу ад нашага дома, насупроць вокан. Гэтыя чатыры дрэвы былі маім смуткам, калі я быў у тым маім вялікім няшчасці. Пад імі і цень у спёку лагаднейшы, і на іх лісце шуміць, як вечная музыка. Здаецца, ні на якім іншым дрэве на свеце не пахне так кара, як на іх. Упершыню гэты пах я пачуў так, што ён астаўся існаваць для мяне назаўсёды, гэта калі мне было год можа тры ці чатыры. Быў час пасля дажджу, і была восень. Ранняя восень. Бо ў мяне ў памяці два жоўтыя лісткі на адным дрэве, а ўсё каля іх зелена. Усё мокрае, і свеціць сонца. Сонца заходзіць. Захад як агнём гарыць, і маці мяне вядзе за руку пад тымі дрэвамі. Пад тымі ж дрэвамі насустрач ідзе чалавек. Хто гэта быў і які ён — не асталося ў памяці. «Пісьмо»,— сказаў ён, паказваючы пісьмо.

— Ад яго? — з трывогай і надзеяй сказала маці. «Ён» — гэта быў мой бацька, і быў ён тады на вайне. Ад яго не было пісем ужо нешта з год. Гэта я пасля ўжо ўсе гэтыя дакладнасці ўведаў.

— Не ад яго, а пра яго,— сказаў чалавек.

Гэты момант астаўся ў маёй памяці навек. Маці збялела як палатно. «Забіты?» — прыглушаным голасам за-

пытала яна. Чалавек кіўнуў галавой і сказаў: «Памёр у шпіталі». «Сірата мая малая навек»,— скалынулася маці і ўзяла мяне на рукі. Вялікая трывога напоўніла ўсю маю істоту. Гэта было дзіцячае адчуванне вялікага гора. І адно, што напаўняла сабою ўвесь свет,— гэта пах мокрай кары на тых дрэвах пасля дажджу. З таго часу на ўсё жыццё пах мокрай кары так жа важан мне, як і ўсход сонца, як і лета пасля вясны, і вясна пасля зімы.

Тады праходзілі першыя месяцы пасля канца вайны з палякамі, а бацька мой яшчэ ўміраў у шпіталі. Тымі гадамі канчалася і маладосць мае маці. Калі не з таго часу, то з пазнейшых год, але я памятаю запозненыя водбліскі маладосці свае маці. Яна была заўсёды жвавая і задумёная. Мне заўсёды здавалася, што яна спяшае скончыць нейкую справу, а як кончыць гэтую, дык спяшае пачаць новую. Яна часта гаварыла мне, што мой бацька быў вельмі здаровы, дужы і здольны чалавек і вельмі любіў музыку. У яго былі светлыя вусы і густыя валасы. Але сам я не памятаю яго. Прайшлі месяцы, і пайшлі год за годам. Маці мая станавілася павальнейшая і скупейшая на слова. Яна ўвайшла ў вялікі клопат. Гэта быў час такі, што ўсе абнаўлялі сваё жыццё. Калі я цяпер успамінаю той час, то мне думаецца, што тады ў поўнай меры спраўдзіліся словы вялікай песні. Тады хто быў нічым, той станавіўся ўсім. Кожны прыбіты жыццём і абязвечаны чалавек паднімаў галаву і глядзеў далёка наперад. Пачаў ён дбаць не толькі аб адным дні, а аб усёй сваёй шырокай будучыні. Людзі будаваліся і бралі зямлю; зменшыліся клопаты аб хлебе і вопратцы, і дбайнасць пайшла аб вялікім спосабе на ўсё жыццё дзецям і ўнукам на будучыню. У такі час я вырас. Маці плакала, што бацька не дажыў да той пары. Вялікі клопат быў яе такі, што яна, адзінокая, не хацела астацца ад усіх. Яна задумала будаваць дом, на месцы нашай старой хаты, і стала натурай упартая і энергічная. Лесу тады было колькі хочаш, і пляц тады льга было ўзяць які і дзе хочаш, але яна прагла таго, каб дом стаяў на тым самым месцы, дзе і хата. Справа была такая, што мой бацька быў у яе ў прымах, і ў той хаце яна і радзілася, і вырасла. Да таго месца яна была прывязана душой змалку дзён. «Я хачу,— сказала яна раз мне,— каб з вокан нашага дома відны былі гэтыя шэсць вязаў, каб цень ад іх падала на наш дом, калі заходзіць сонца, і каб з вокан свайго дома мы з табой бачылі, як яны азалочаны сонцам зранку». Ганнуся,

каб ты толькі ведала, як я адразу зразумеў сваю маці. У той дзень надвечар пайшоў дождж, і я цэлы вечар прастаяў пад вязамі: пах мокрай кары, здаецца, выварочваў маю душу. Я рабіўся падросткам і пачаў хадзіць ужо ў заработкі. Маці ўсё была ў клопаце. Яна ночай не спала. Грошай напазычалася. Працавала з цямна да цямна, і на сваім, і на чужым. Блізка ўжо стаяла маё юнацтва. Дом быў накрыты і з вокнамі і дзвярыма, але без падлогі, і многа чаго яшчэ ў ім не хапала. Скончыў дом я, калі быў ужо на парозе свайго першага юнацтва. З гэтай прычыны і вучыцца я крыху запазніўся. Раней я вучыўся ў педагагічным тэхнікуме і ўжо быў год настаўнікам. Тады я і давёў да дасканаласці свой дом. Дом той малы, у ім усяго пяць вокан. Але ў ім частачка мае душы. Бывала, калі я прыязджаў улетку туды, то кожны раз, на заходзе сонца, сумысля глядзеў, як цень ад вязаў кладзецца на дом. Я стараўся на кожным усходзе сонца глянуць, як шэсць вязаў стаяць, як у золаце. У спёку і суш я сумаваў, што не чую паху мокрай кары. Я панасаджваў там многа дрэў. Дарогу я абсадзіў таполямі кіламетраў на чатыры. Я тлумачыў дзецям, што кожны чалавек трэба каб пасадзіў на сваім вяку хоць адно дрэва і паставіў калі не дом, дык хоць хату. Гэта ўсё перажыве яго і астанецца людзям. Калінебудзь прыйдзе час, што чалавека такога не будзе па ўсім свеце, які не меў бы дзе прыхіліць галаву. Так мы павінны дбаць аб усім свеце. Няхай жыве ўсясветная дбайнасць аб кожным чалавеку, які толькі хоць дзе на зямлі радзіўся на свет. І чорнае праклянцце таму, хто паліць і разбурае! На другі дзень, як толькі пачалася вайна і я адыходзіў у армію, я пакінуў у тым родным доме сваю маці. Яна пастарэла, але яна жвавая і любіць быць вясёлай. Я, здаецца, яшчэ чую пах яе мілых рук, валасоў і цеплыню яе твару, калі яна цалавала мяне на развітанне. Апошні раз я азірнуўся на дом і ўбачыў дах і дрэвы. Усё зелянелася і купчасцілася. І ўсяго было многа: і дрэў, і неба, і зямлі, і прасторы. Я пакідаў родны дом і думаў, што немцы рвуцца сюды па нашай зямлі. Быццам бы хто мне наступіў ботам на горла. Калі вы мне паказалі на стол тады перад вечарам, я ўвераваў, што зноў убачу свой дом і шчаслівы лёс дасць мне яшчэ застаць там сваю маці. Чамусьці я цвёрда спадзяюся на гэта. Яна пажылая, але яшчэ не старая. А старасць яе я ўшаную. Гэта ж яна пачала ставіць той дом!.. Ганувя, я табе спаць не даю.

Ён змоўк і перавёў вочы з Ганусі кудысьці ў прастору. Ноч маўчала. Гэта не была споведзь у хвіліны пошукаў ратунку. Гэта было выяўленне пералому ў яго псіхіцы. Бесперапынная прыгнечанасць душы скалынулася і паплыла на спад. Надзея прынесла веру, а вера — радасць і ўздым. Настала маўчанне. Ганусін бацька нейк раптам апынуўся каля студэнта і сеў блізка пры ім. Той, што рабіў труну, таксама падышоў і сеў поблізу. Самы старэйшы так угнуўся наперад, што здавалася, ён зараз грымнецца вобземлю. Можа ён і сапраўды быў вельмі слабы. Але ён слухаў вельмі ўважліва. Распухлы твар яго быў нерухомы, і вочы прыжмураны. Абвязаны па галаве, ён прытуліўся левым вухам да сцяны і, здавалася, баяўся адарвацца ад яе. Таўсматы ляжаў і час ад часу пакашліваў. Яго пачынаў апаноўваць кашаль. Галава яго, пакладзеная на кулак, відна была з-за коміна. Можа ён слухаў, а можа і драмаў. Той жа, у летнім пінжаку, як злез быў з печы на пачатку студэнтавага расказа, так і праседзеў на зямлі, прытуліўшыся плячыма да печы. Час ад часу ён выціраў рукавом лоб. Ён пацеў. І зусім нейк яшчэ больш абвяў. І гэты або слухаў, або так увайшоў у сябе, што можа і не чуў нічога. Студэнт, гаворачы, пaглядаў на іх на ўсіх, але без якой бы там ні было асцярогі і боязні. Яны ж разам клалі таго быка і разам злеглі хворыя! Прытым жа ён уведаў, што жыве Бацькаўшчына! Ён дома, ён на сваёй зямлі! Ён нікога не баіцца! Няхай яго баяцца каму трэба! Ёсць дзеля чаго яму быць у прыўзнятым настроі. Ганусін бацька нагнуўся над ім. Твар яго быццам палаў. Нейкі рух быў у душы гэтага чалавека. Ён пачаў шаптаць яму:

— Ты не гавары так многа. Я хачу, каб ты праспаў ноч. Сон найлепшае табе будзе лякарства.

Зноў студэнт ажывіўся. Штосьці вялікае і слаўнае ён хацеў сказаць гэтаму чалавеку, які так адразу разгадаў яго і раскрыў перад ім яго надзею. Ён знайшоў яму спосаб да ўцехі і сяброўскае слова, тады калі і сам ён быў у нейкім маўклівым утрапенні. Нейкія страшныя падзеі ўсклалі на яго плечы вялікі цяжар і пячаць задумы пакінулі на твары. Студэнт яснымі вачыма глядзеў на яго. І ў гэты момант з шчырай душой ён сказаў, горача і заўзята:

— Я завуся Уладзімір Ярмаліцкі. А маці мая завецца Галена Ярмаліцкая.

Так ён выказаў частачку таго вялікага і добрага пачуц-

ця, што было ў яго да гэтага чалавека. Цяглося маўчанне. Самы старэйшы ўсё сядзеў на печы, прыткнуўшыся вухам да сцяны, і не зводзіў вачэй з Ганусі. Часамі твар яго на колькі момантаў ажыўляўся, вочы загараліся і галава ўскідалася ўгару. А пасля зноў настрой ападаў, галава спускалася і ўвесь ён як бы паглыбляўся ў нейкае бяздум'е. Відаць, што нейкі страшны рух адбываўся ў душы гэтага чалавека. Але яго не заўважалі. Увага ўсіх, так як і яго самога, кіравалася на Ганусю. Усе на яе глядзелі ўважліва, як бы гэта яна нейкім чынам зачапіла боль ці радасць у душы кожнага з гэтых людзей. І таўсматы прыглядаўся на яе, і той, што рабіў труну. Студэнт глядзеў на яе з бурным захапленнем, а бацька са смуткам. Толькі той, што ў лёгкім пінжаку, глядзеў сабе ў калені і перажываў штосьці маўклівае, як бы сваё прыгнечанне. Аднак жа, чым далей, тым болей, губы яго пачыналі перасмыквацца, і безуважнасць яго зменшылася. І ў яго душа пачынала кіпець. Можа ён памацнеў, выграўся і адлежаўся. Можа выбілася паверх прасвятленне думкі, і пачуццё рвалася ў буру. Колькі разоў ён глянуў на Ганусю, але цяжка было заўважыць, што ляжала тады на яго твары. Бадай-што найбольш было змрочнага нездаволення і можа злобнасці. Таўсматы ж час ад часу абводзіў вачыма ўсіх і кожнага добра разглядаў. Ён як бы баяўся кожнага або верыў толькі ў злыя пачаткі яго. Гануся можа нават і зусім не заўважала, што многія з іх усіх глядзяць пільна на яе і, напэўна, штосьці ў душы сваёй да яе маюць. Яна сядзела сабе ціха, увайшоўшы сама ў сябе. Так як і бацька яе, яна была нечым уражана. Гэта льга было заўважыць па ёй і раней. Цяпер жа рысы гэтага востра павыразнелі. Трэба думаць, што студэнтава гаворка ўжо новымі гранямі дайшла да ўражлівасці яе душы. Той жа, што рабіў труну, так як і Ганусін бацька, выбраў за пункт свае вялікаї увагі студэнта. Толькі Ганусін бацька ціха перажываў штосьці і быў у задуме. Гэты ж, здавалася, даходзіў да нейкіх новых бурных думак. Ён глядзеў на студэнта і раптам адводзіў вочы ўбок, і зноў кіраваўся позіркам да маладога чалавека. Пэўна тое, што і ён прагнуў штосьці сваё расказаць студэнту. І было падобна, што ён такі зараз і пачне гаварыць, бурна і заўзята.

— Хто вы такія тут у гэтай адзінокай хаце? — сказаў пошапкам студэнт, узнімаючы галаву бліжэй да Ганусінага бацькі.

— І мяне вярнула да надзеі і радасці тая газета,— адказаў ён.— І я душой узвысіўся над тым ботам, які так моцна стаіць жалезным абцасам у мяне на горле. У той час, калі ты быў у сваім цяжкім падарожжы, я хаваў сваіх нябожчыкаў. Я быў, так як і цяпер, таксама ў сумным падарожжы. Разам з сваей Ганусяй я іду ў наш заўтрашні дзень. Я апошнія свае сілы аддаю на тое, каб давесці сваю Ганусю да той вялікай мэты, якая і ёсць наш заўтрашні дзень. Як магу, я пільную яе душу, каб яна не абязвечылася і захавалася такая, якая і была змалку. Я сам і Гануся з Мінска. Я навуковы работнік Беларускай акадэміі навук. Завуся я Мікалай Сямага. А маладосць мае маці скончылася яшчэ на пачатку імперыялістычнай вайны, а мусіць і раней. Мне тады было шаснаццаць ці семнаццаць год. І радзіўся я ў гэтай самай хаце.

Ён шаптаў паволі і ціха, слова за словам. Гэта было апавяданне чалавека, які хацеў быператварыць сваё апавяданне ў споведзь перад кім шчырым, магутным, вялікім і разумным. І ў гэтага ў сэрцы вялікае месца займала маці. Вельмі можа быць, што сталасць год і вялікая скруха павярнулі на момант яго душу позіркам у юнацтва і маленства, і там паўстаў яе вобраз, яго радасць і яго смутак. Маладосць яе скончылася перад той яшчэ вайной. Юнацтва яе прыпала на часы перад першай рэвалюцыяй. Яна была родам з мястэчка Смальян, дачка беззямельнага рамесніка. Тым часам беззямельны шукальнік спосабу жыць, нейкі Кастусь Сямага з мястэчка Абчугі, цяслярыў месяцаў са два ў Смальянах — нехта з смальянскіх балаголаў ставіў сабе хату. На трэцім месяцы свайго цяслярства ў Смальянах Кастусь Сямага ўзяў замуж вясёлую смальянку, дачку беззямельнага рамесніка. На другім жа месяцы пасля вяселля ён з маладой жонкай падаўся ў свет: маладажонская ўцеха ўцехаю, а клопат аб блізкай будучыні — таксама меў тут месца. Гэтая маладая пара занадта ўжо сталым парадкам, і адразу, задумалася аб тым, што пойдуць дзеці і як жа будзе ім жыць тады? Адзін год Кастусь Сямага быў лесніком недзе каля Талачына. На другі год ён астаўся за панскага парабка недзе каля Дуброўны, і нешта там не ўбыў доўга і адразу апынуўся каля Крычава. Здарылася так, што ў адным вялікім сяле, зусім ужо не блізка ад Крычава, але недзе ў тым баку, памёр сярэдняй заможнасці чалавек і пакінуў гараваць на гэтым свеце жонку з дачкою. Зямля была, і хата была, але што ж! Бабскія і сіро-

чыя рукі! Дачка была яшчэ недарослая. Хата тая стаяла акрай сяла і на адлегласці ад яго. Кастусь Сямага ўгаварыўся з удавою, што ён будзе рабіць ёй зямлю і весці гаспадарку, а сам брацьме за гэта палавіну ўраджаю і займе кут у хаце. Такім парадкам ён стаў і палавічнікам, і кутнікам. Гэта і была тая самая хата, у якой цяпер і сабраліся ўсе гэтыя людзі, хворыя, аслабелыя, уражаныя бядою і пошукамі, можа нават не так радасці, як ратунку. Каля гэтай хаты быў вельмі блізка малады лес, без падлеска. А стары і вялікі лес быў далей, але таксама блізка. Акрай маладога лесу і з'явілася цяпер магіла маладой нябожчыцы. Вось як усё адбывалася і дайшло да гэтых цяжкіх дзён. Кастусь Сямага год дзесяць быў палавічнікам у тае ўдавы. А тады ўдава памерла, а дачка вырасла і пашла замуж у тым жа сяле. Палавічніка ўжо не трэба было. Малады яе муж сам узяўся за зямлю. Але хата магла б запуставаць. Кастусь Сямага і адкупіў хату ў маладой кабеціны, былой свае гаспадыні. Узяў хату на выплату, штогод выплачваў наступную рату, і так выплата расцягнулася на многа год. Ён зноў узяўся за цяслярства, за сталярства, за грабарства. Яшчэ на першым годзе яго жыцця тут радзіўся ў яго сын Мікалай, а праз два гады дачка Вера. Больш дзяцей не было. Можа гэта і стала прычынай таго, што ён свайго Мікалая, адзінага сына, аніяк не прыціскаў да работы, а стараўся даць яму асвету. На другім годзе імперыялістычнай вайны ён павёз сына ў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, але нешта там не ўдалося яму астацца вучыцца. У тыя ж самыя дні ён апытаў і выслухаў, што за Мінскам у Нясвіжы ёсць настаўніцкая семінарыя. Адразу ж ён і паехаў туды з сынам. У Мінску яны перабраліся з аднаго вакзала на другі і выехалі далей на захад. З мяшкамі за плячыма, яны ішлі пехатой трынаццаць вёрст ад станцыі Гарадзеі да Нясвіжа, і праз колькі дзён Кастусь Сямага ўзрадаваўся душой: сын яго Мікалай астаўся вучыцца. З таго часу і на доўгія годы Мікалая Сямагу агарнула думка, што ён праз усё жыццё будзе настаўнікам і дзе-небудзь у глухім месцы, каб не адрывацца ад прыроды. Гэта выпрацоўвалася натура простая і непасрэдная. Праз год памёр яго бацька, а яшчэ праз год адбылася Вялікая рэвалюцыя. У васемнаццатым годзе ў Нясвіжскай семінарыі склаўся «Гурток патрыётаў беларускай культуры», старшынёй якога быў семінарыст... з Мікалаеўшчыны. Мікалай Сямага паехаў у тым годзе на лета да-

дому пераконаным у тым, што «годзе ў полі, ў лясах ты, старонка мая, сіратой начавала забытаю». Ён год не быў дома і знайшоў там вялікія змены. Вера! Як яна вырасла! А маці вельмі пастарэла. За тое лета ён душой зблізіўся з Верай і заўважыў на матчыным твары пячаць нейкага натхнёнага ўздыму. Бывала, сонца яшчэ толькі ўзыдзе, а яна ўжо ідзе з сярпом або з граблямі роснай сцежкай і як бы штосьці гаворыць сама сабе.

— Аб чым ты думаеш? — запытаў ён раз яе.

— Я думаю — які лёс будзе ў жыцці табе і Веры,— адказала яна, і ён уведаў праз гэтыя яе словы сілу матчынай душы і вялікасць яе сэрца. Зіму польскай акупацыі дзевятнаццатага года ён пражыў дома. Той год Нясвіжская семінарыя была закрыта акупацыйнаю ўладаю за тое, што семінарысты памагалі гарадскому рэўкому і гарнізону ранняй вясной васемнаццатага года задушыць шляхецкае паўстанне ў Нясвіжы.

Тую зіму Мікалай Сямага наглядаў са смуткам у душы, як маці асунулася постаццю сваей. Вясёласць яе і рухавасць зніклі, і валасы сталі зусім сівыя. У жніўні дваццатага года ён паехаў у Нясвіж канчаць семінарыю. Сэрца яго было на ўздыме: хутка здзейсніцца яго мара: праз год ён будзе паўнапраўны настаўнік. У тую ж восень яго думкі заняла новая асоба, і раней яму вядомая. Яна была нясвіжанка з Новага Места, Надзея Богуш. Абое яны былі яшчэ занадта маладыя, каб як мае быць разабрацца — ці гэта прыйшло іхняе шчасце ці няшчасце. Ён хадзіў сам не свой. І абое яны як ап'янелі адно ад другога. Да таго ж, узвышанасць думак у аднаго аб другім. Гэта былі месяцы вялікай іх радасці, якая бывае раз на жыцці, і знявага да яе роўна калецтву навек, бо маладосць жа больш не вернецца. І гэтую вялікую радасць іх маладосці нечакана задушыла вялікае няшчасце, якому не было ніякай меры. Адразу, як громам, яно зламала іх жыццё. І не толькі іх. Але пра што іншае ў гэтай хроніцы няма гаворкі. Ужо яны як мае быць абмеркавалі, дзе і як яны пачнуць сваё новае і сталае жыццё. А тым часам прайшла навіна, што за трынаццаць кіламетраў ад Нясвіжа на ўсход прайшла дзяржаўная граніца. Душачыся смуткам аб няскончанай навуцы, ён сабраўся ў дарогу з чужой дзяржавы і роднай зямлі. Што ж да яе, то яна ўгаварыла і ўпрасіла яго згадзіцца на тое, што яна зусім на кароткі час астанецца яшчэ ў бацькоў і можа праз месяц які рушыць у дарогу. Калі

льга будзе, то ён сам явіцца па яе, а калі не можна будзэ гэтага, то яна глухім месцам пяройдзе тую граніцу, дзе-небудзь каля Лазавіч, ці Кудзінавіч, або Ратказўскім лесам абыдзе Кукавіцкую карчму і праз Вялікую Раёўку на Цімкавічы і прыедзе да яго маці, дзе ён будзе чакаць яе. Так яна, з просьбай у вачах, тлумачыла яму, прыціснуўшы яго руку да свае галавы. Хіба так не можа быць? Хіба праз месяц які так павялічыцца строгасць на свежай граніцы? І хіба праз месяц вялікія змены адбудуцца ў двух дзяржавах, што нельга будзе ўсё так зрабіць? Ён скалынуўся ад прыкрасці і жаху і астаўся пры ёй. Гэта быў месяц яго смутку і яе слёз. Яна не магла адразу пакінуць Нясвіж: ужо чацвёрты месяц бацька яе, стары Богуш, ляжаў вельмі хворы, і яна бачыла, што ён дажывае апошні свой час. Дзень пры дні яна праседжвала каля яго, і вялікая ёй была ўцеха, што ён, Мікалай Сямага, не пакінуў яе на гэты месяц. Але за гэтым месяцам пачаўся другі, і так прайшла зіма. Яны пахавалі старога Богуша на другі дзень Вялікадня дваццатага года. Праз тыдзень яна адзела на сябе ўсе свае лепшыя сукенкі, і абое яны, выбраўшы цёмную ноч, выйшлі з Нясвіжа, абышлі староной Качановічы і скрозь цаліной дабрылі да Габруноў, дзе іх і запыніў вусаты паліцыянт. Ледзьве яны ад яго адпрасіліся і адмаліліся. Чацвёра сутак яны былі на нагах: на дваццаці кіламетрах яны спрабавалі то там, то там перайсці граніцу, і ў адным месцы пагранічныя паліцыянты пачалі па іх страляць. Яны вярнуліся ў Нясвіж, і прыкрасць стала іхняй звыклай штодзённасцю. Ён не захацеў прымаць чужога падданства і жыў у вечнай трывозе. На пачатку чацвёртага года свайго марнавання ён надумаўся ўзяцца за дзейнасць. Ён прадаў што-нішто з маёмасці і ўтрактаваў грашыма дактароў, і яны пасведчылі, што датуль ён не ўзяў падданства з прычыны цяжкай хваробы. Утрактаваўшы яшчэ і паліцыю, ён дастаў-такі ненавіднае яму падданства і адчыніў у сябе пачатковую школку, дзе вучыў дзяцей простых людзей з нясвіжскага Новага Места на беларускай мове. З гэтай мовы і пачаліся неўзабаве яго далейшыя пакуты. Уночы па яго прыйшлі. Пакуль стукалі ў дзверы, ён паспеў яшчэ пацалаваць цяжарную Надзею і знікнуць праз кухню. Яна дала падпіску, што не ведае, дзе ён, і асталася адна. Ён туляўся і хаваўся ўсюды, дзе толькі мог. Праз паўгода яму ўдалося ціхом прыйсці дадому і дабыць у ім да часу, калі Надзея нарадзіла блізнят,

дзвюх дачок, імёны якім ён сам выбраў: Ганўся і Марына. Ён іх гадаваў да двухгадняга іх узросту, а тады ўжо не вытрымаў. Ён як быццам бы стаў забаронены чалавек: ніякай работы нідзе, і ніякага занятку. І яшчэ паліцэйскі нагляд. Сціснуўшы зубы, ён раз пачаў тлумачыць сваёй Надзеі, што пачынае гінуць душой. Яна кіўнула яму галавой і сказала, што выгадуе дзяцей. А як яна іх выгадуе — сама не ведала. З настроем як пад зямлёй, ён пакінуў Нясвіж уночы і больш за тыдзень туляўся ў прыгранічным лесе. Яму пашанцавала: рукамі ён задушыў таго, хто нарыхтаваўся страляць у яго, калі ён не паслухаў яго крыку падняць рукі ўгару і ісці за ім, і пайшоў на ўсход, цяпер ужо рукі трымаючы паднятымі. З таго часу яго смутак аб дзецях увайшоў у новую квадру. Ён явіўся дадому, у гэтую самую хату, у якой цяпер сядзеў пры маладым чалавеку Уладзімеру Ярмаліцкім, гісторыю якога ён толькі што пачуў. Тут ён застаў незнаёмага яму чалавека. У высокіх паляўніцкіх ботах, у кароткай вопратцы з гаспадарскага рудога сукна, ён сядзеў на лаве і напаўняў хату дымам з папярос, якія даставаў проста з кішэні. Пачуўшы, хто парушыў яго спакой на лаве, ён шпарка ўстаў, пацалаваўся з Мікалаем Сямагам і горача сказаў:

— Я муж вашай Веры. Я ведаў ад Веры, што вы ёсць на свеце. Я сяджу і думаю, што рабіць з гэтаю хатаю. Бо, бачыце, сам я з Верай жыву далёка, пад Мінскам, ля Асіпавіч. А хата пустуе. У мяне там дом новы. А тут такое глухое месца, што нікому гэтае хаты ні выпусціш, ні прадасі. А тым часам Вера бядуе па гэтай хаце. Дзеля Веры я час ад часу прыязджаю сюды глядзець гэтай хаты, ці не гніе яна і ці не сарваў хто замка з дзвярэй. Але і то сказаць, хто пакваціць сюды лезці ў пустую хату. Апроч гэтай лавы, тут нічога і няма. Вера плача і кажа:

— Гэтая хата для мяне, як царква таму, хто богу моліцца. Мы там, кажа, з нашым Мікалаем (гэта з вамі) радзіліся, там бацька і маці памерлі...

— Маці памерла?! — выгукнуў Мікалай Сямага.

— Ужо другі год пайшоў, як памерла.

Ён пераначаваў з шваграм у хаце, а назаўтра ўдвух выехалі пад Мінск. Колькі часу ён жыў у Веры, а пасля стаў вучыцца ў Мінскім універсітэце. Пасля ён праходзіў аспірантуру, і адзіным апірышчам яго душы была Вера. Яна плакала аб Ганусі і Марыне і аб невядомай ёй Надзеі Богуш — што яны так далёка і голасу іх ён не пачуе. Ён

ужо чытаў лекцыі ў інстытутах, як новыя прыступы смутку аб дзецях пачалі мучыць яго. Безнадзейнасць апанавала яго. Страшная здогадка, што яны страчаны для яго навек, заўладала ім. Ён пачаў слаць у Нясвіж пісьмы. І так на многа год. Божа літасцівы! Што гэта такое здарылася! Мусіць жа, хоць адно пісьмо дайшло туды! Бо адтуль пісьмо! Ад Надзеі. І ад іх, ад Ганусі і Марыны. Яны ўжо сталі такія, што напісалі пад пісьмом свае імёны. Ён убачыў іх польскія подпісы. Жах агарнуў яго. Прышэлец на родную зямлю, чужынец, вырывае іх душу і на яе месца пакінуць хоча сваю, ім чужую! Гэта было яму, як злая атрута. Ён пачаў кідацца і шукаць спосабу, каб што парадзіць. Ён ехаў у навуковую камандзіроўку за граніцу. На станцыі Гарадзея, у страшным бяздум'і, ён пачаў спускацца з вагона на перон. А як жа! Ён выйдзе на Нясвіжскую дарогу і дабрыдзе да іх. Ён убачыць іх, хоць на момант. Вельмі далікатна жандар папрасіў яго падняцца назад у вагон. Ён падпёр твар рукамі, і скруха здушыла яго. Пасля гэтага было ад іх яшчэ адно пісьмо. Надзея пісала, што дастала службу ў маёнтку. Яна парабчанка і мае нейкі хлеб. Ён пачаў змагацца сам з сабою. Ён стараўся прыглушыць у сабе памяць аб іх. Як тупое ўспамінанне далёкіх сноў, вобраз Надзеі ўставаў перад ім і мучыў яго. Ён гнаў ад сябе гэты вобраз, як прыгавораны да смяртэльнай пакуты вясёлы жыццялюбец гоніць думку аб нябыцці. Так прайшла яго маладосць, і так плыла яго сталасць. Увосень тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевятага года ён дапаў да старога Багушэўскага дома на Новым Месце ў Нясвіжы. Яму здавалася, што сэрца разарве яму грудзі, калі ён увайшоў у знаёмыя яму прасторныя сенцы. Як жывыя сведкі аб змарнаваных дваццаці гадах жыцця, стаялі перад ім Ганна і Марына. Яму трэба было перарадзіць душу, каб прывыкнуць да страшнай думкі, што ў маленстве сваім яны абедзьве для яго страчаны. Маленства іх адышло ў вечнасць. Перад ім стаялі яны, так падобныя адна на адну, і ў іх ужо былі ўжо тыя рысы, што застануцца навек і не адыдуць на пераломы веку ў блізкае ўжо юнацтва. Ён доўга ў Нясвіжы не быў. Разам з Надзеяй і імі дзвюма ён адразу выехаў у Мінск. Ён і Надзея ашуквалі самі сябе, стараючыся думаць, што нічога страшнага не адбылося і што да іх вярнулася шчасце, якога яны праглі гэтулькі год! Але была бязлітасная праўда: у іх ужо не было іх юнацтва. У кожнага з іх яно прайшло ў сумнай адзіноце.

Ён зноў і далей аддаўся сваёй працы. У красавіку сорак першага года ён перадаў ураду рэспублікі свой план пабудовы ў кожным раёне заводаў мясцовай прамысловасці. Гэта быў вынік яго трохгадовага доследу прыродных багаццяў кожнага раёна. Дваццаць чацвёртага чэрвеня таго ж года, пад канец другой гадзіны пасля паўдня, ён з Надзеяй і дзецьмі ўвайшоў у сваю кватэру на трэцім паверсе. Яны пераадзеліся, каб быць гатовымі выбрацца ў дарогу, калі настане рашучы момант. Да гэтага моманту ўжо адбыліся першыя, не менш жудасныя, як і апошнія, нямецкія налёты на Мінск. Ужо яны выйшлі з кватэры на ўсходы. Толькі Марына асталася яшчэ ў кватэры. Яна пытала адтуль, ці замыкаць кватэру, ці ўжо так яе пакідаць. Праз колькі секунд пасля яе слоў увесь дом страсянуўся. Бомба прабіла ўсе паверхі яго і разарвалася пры яго падмуроўцы. Ён і Ганнуся стаялі яшчэ бліжэй да дзвярэй свае кватэры, і гэта выратавала іх. У самой кватэры момантнай хваляй збіла Марыну з ног. Яна ўпала, нічога не бачачы і мала што чуючы. Яна маўчала лежачы. Ганнуся з бацькам стаялі ў такім месцы на ўсходах, дзе нішто не кранулася. Дзе была ніжэйшая пляцоўка гэтых усходаў, рушылася сцяна. Яна рассыпалася на цэглы і кавалкі вапны і пацягла за сабою Надзею. Надзея ўпала на двор і апынулася пад сподам рассыпанай сцяны. Ён знайшоў Марыну і падняў яе. На двары таго дома расла старая ігруша. Ён пасадзіў Марыну пад тым дрэвам і кінуўся адразу ратаваць Надзею. Разам з Ганнай яны пачалі раскідаць цэглу. Набеглі людзі і разабралі цэглу так, што пачулі Надзеін голас. Яна стагнала і клікала яго. Ужо відно стала яе адзенне. Ужо ён спусціў у гэты каменны цяжар руку і дакрануўся да яе. Ён чуў яе голас з гэтай каменнай магілы. Ён прыпаў тварам да вузкага правалу паміж цэгламі, каб сказаць ёй слова. І ў гэты момант усё ўздрыганулася, і чорны дым з рухавым агнём напоўніў сабою свет. Звыш сотні немцаў зноў ляцела над Мінскам. Ён усхапіўся і ўбачыў, што над яго галавой калываецца чатырохпавярховая сцяна: суседні дом раскалоўся, гарыць і рушыцца. Ён убачыў, што Ганнуся бяжыць да Марыны, і яго дзівіла, што Марына сядзіць нерухома на тым жа месцы, нейк дзіўна прыўзняўшы ўгару твар. Яго выратавала тое, што ён у гэты момант пабег да Марыны. Расколаны і ахоплены агнём дом упаў і пахаваў пад сабою Надзеіну магілу. Цяпер Надзеіна магіла стала аграмаднай. Яна ўся

палала агнём. І ўсюды ўсё гарэла. Ён абняў рукой Марыну і павёў яе з вогненнага мора.

— Гэта пажар? — сказала Марына.

— А хіба ж ты не бачыш? — адказаў ён.

— Не, не бачу,— сказала яна, і ён акамянеў ад жаху: толькі цяпер ён дайшоў да свядомасці таго, што Марына стала сляпая. Сам з настроем як у магіле ён азірнуўся туды, дзе ў каменнай магіле гарэла яго Надзея. Здаецца, агонь пачынаў абнімаць увесь горад. Надзеіна магіла была высокім слупам агню і дыму. Надзея тлела ў агні, скованая каменнем, не могучы паварушыцца, каб хоць адвярнуць твар ад пякельнай пакуты. Прыціснуўшы да сябе Марыну, бадай-што несучы яе, ён выйшаў на вуліцу і да самай ночы пільнаваў вогненную Надзеіну магілу. «Божа,— шапталі яго губы,— няхай бы ты быў і існаваў і зрабіў бы так, каб яна пад агнём даўно ўжо была нежывая». Сам быццам напоўнены агнём, ён вывеў Марыну на Чэрвеньскі гасцінец. І толькі тады заўважыў, што Гануся ідзе поплеч яго. Усю ноч неба над імі было вогненнае. Мінск не патух і да дня. Мінскі пажар толькі зблекнуў пад сонцам. Многа дзён яны ўсё ішлі і ішлі. Гэта было шчасце, што Марына магла трымацца на нагах. Патаемныя яго імкненні вялі яго ў родны дом, дзе ён радзіўся і вырас. Дзён праз два хады ён пачаў многа гаварыць з імі абедзвюма. Гэта была прага разважыць сваю скруху і не паддацца гібелі. На трэцюю ноч яны яшчэ бачылі водсветы мінскага пажару. Пад сярэдзіну другой палавіны ліпеня яны дабрылі да таго прывабнага месца, якое завецца «родны дом». Замок вісеў на дзвярах. Значыцца, Вера тут не была. Усе ўтраіх яны ледзьве трымаліся на нагах. Ён адарваў замок з прабоем. І ўжо назаўтра яму стала ясна, што тут падарожжа яго не канчаецца. Стала вядома, што па шашы гэтую мясцовасць ужо мінулі нямецкія танкі. Але Марына ўжо больш не магла ісці. Яна ўжо нават устаць не магла. У сенцах быў тапчан, і на ім зрабілі Марыне пасцель. Яна паглыбілася ў маўчанне, а Гануся з бацькам рыхтавалі на зіму яду з чужых, пакіненых людзьмі агародаў. Праз колькі дзён прайшлі тут нямецкія часці і забралі ўсё ў людзей. Вяскоўцы спрабавалі не даваць немцам свайго дабра. Немцы з двух канцоў запалілі сяло, і такім парадкам гэтая хата асталася адна поблізу вялікага пажарышча. Людзі разбрыліся. Мікалай жа Сямага астаўся чакаць свайго прасвятлення. Марына ляжала слабая во-

сень і зіму, а да вясны пачала хадзіць па двары, і ў яе вачах пачалі вырысоўвацца абрысы таго, што было перад ею. Яна пачынала бачыць. Хоць гэта было далёка ад таго, каб бачыць свет, але надзея ўзрадавала іх усіх. Вясна дае чалавеку сілы. Можа за лета Марына так стане на ногі, што льга будзе рушыць далей куды ў дарогу. Гэтае чаканне трымалася на надзеі. Было падобна, што Марына зусім робіцца здаровая. Скора ўжо! Скора ў тую дарогу! Другая восень прынесла Марыне новыя сілы, а Мікалаю Сямагу новыя надзеі. І зрок яе палепшыўся. Зіма, вясна, лета і новая восень. У пачатку гэтай восені тут з'явіўся новы чалавек, у нейкай старадаўняй сялянскай адзежы. Ён быў яшчэ малады, і доўга яны гаварылі з Сямагам, пакуль не ўбачылі, што ім няма чаго таіцца адзін аднаго, а хіба адно трэба абняцца і пацалавацца. Незнаёмы сказаў:

— Я чэх Эдуард Новак, доктар з Пражскай ваколіцы. Мой бацька, калі ўміраў, сказаў мне: памятай, што некалькі бліжэйшых да нас пакаленняў чэхаў будуць жыць дзеля таго, каб Чэхія асталася навек свабоднай. Мой бацька памёр за два гады да таго, калі немец каваным ботам стаў нам на горла. Я памятаю свайго бацьку і шаную яго. Немцы мабілізавалі мяне ў сваю армію. Я ўцёк і туляюся, выпрасіўшы сабе ў чалавека пад Слонімам адзежу.

Эдуард Новак тут і астаўся, таксама чакаць будучыні. Самым галоўным яго клопатам стала Марына. Ён раіў ёй і лекі: спакой, цішыню і сон. Пад канец той восені нейкі, можа нават і заблудны ці збіты з тропу немец скінуў дзесьці тут свой груз бомбаў. У чыстым полі і сярод дня. Аддалены грукат дайшоў да вушэй Марыны, і яна змянілася з твару. Вельмі можа быць, што ў яе падсвядомасці пачалі ўзнікаць карціны перажытага. Яна ўпала ў адчай і смутак, і хвароба яе як бы адкінулася. І найвялікшае гора было тое, што яна зноў пакінула бачыць. Эдуард Новак не адыходзіў ад яе. Ён хадзіў сам у блізкае Залессе, дзе жылі ў зямлянках людзі, і дастаўваў там Марыне хлеб. Ён жа ёй зрабіў і труну, і гэта бачылі тыя ўчатырох, калі толькі што з'явіліся сюды. Калі Марына ляжала ўжо нежывая, Эдуард Новак стаў на калені, пацалаваў ёй ногі і сказаў, душачыся горам:

— Няхай жыве Чэхія! А я да старасці цябе памятаць буду.

Гэты самы чэх і кіраваў цяпер, у гэты позні вечар, усю сваю ўвагу на студэнта Уладзімера Ярмаліцкага. Калі Мі-

калай Сямага скончыў шаптаць студэнту пра сябе, чэх стаў над студэнтам і, крывячы вочы на печ, дзе калываўся немец з апухлым тварам, сказаў, горача і як бы тонам важнага паведамлення:

— Калі Марына памерла, мне цяжка было на цэлы той дзень астацца пры маёй надзеі на мой зварот на бацькаўшчыну. Я хачу сёння сасніць Марыну, а табе жадаю сасніць тваю маці ў родным доме.

— А я ўжо сніла Марыну,— абазвалася нечакана Гануся, і на яе голас азірнуліся ўсе. А яна абвяла кожнага з іх вачыма, і выраз яе твару быў такі, быццам яна хацела сказаць: «Якое было б шчасце, каб вы ведалі, як мне цяжка жыць! А калі і лепш стане, то ніводная ж з нябожчыц з мёртвых не ўстане». Пячаць вялікага смутку ляжала на яе твары. Выраз яе твару быццам прыгнятаў увесь свет.

— Як густа зоры ў небе сталі! Усё неба ў зорах! — раптам сказаў студэнт і прыўзняўся на локці. Вочы яго кіраваліся ў акно, за якім была зорная ноч і сілуэт вялікага дрэва.

— Млечны Шлях! — моцна сказала Ганулся, павярнуўшыся да акна.— За дзень да вайны, калі мы яшчэ і не думалі, што яна будзе, мы з Марынай цэлую ноч прастаялі на балконе і глядзелі на Млечны Шлях. Гэтая зорная дарога так вабіла кудысьці нас! Мы тады з Марынай маўчалі-маўчалі...

— Нашто мне зоры, калі іх не бачыць Марына! — бурна сказаў Мікалай Сямага і сціснуў зубамі ніжнюю губу.

— Божа, якое зорнае неба бывае ў Чэхіі,— не менш бурна сказаў Эдуард Новак і застыў перад акном. Студэнт, як уражаны доўгачаканай радасцю, не адрываючыся, глядзеў у зоры. Ён перарваў маўчанне ўзбуджаным шэптам:

— Уночы пасля дажджу, калі мокрая кара шасці вязаў пахла на ўвесь свет, заўсёды ясныя былі зоры.

— Калі я быў малы, над Бранчыцкім маёнткам заўсёды ясны быў Млечны Шлях,— сказаў той, што так перамёрз быў у летнім пінжаку.

Пачалося маўчанне. Усе як ёсць маўчалі і кіраваліся тварам і вачыма ў неабдымны свет прасторы, сярод якога стаяла гэтая хата. Адзін толькі немец з апухлым тварам нешта ўсё шморгаў нагамі аб печ. Калі Ганулся зірнула на яго, то ўбачыла, што ён стараецца злезці з печы. Нарэшце ён нейк няспрытна саскочыў з яе і, прыклыбаўшы да акна, прыпаў ілбом да халоднай шыбы. З тым сваім

ранейшым жудасным акцэнтам, ломячы рускія словы, ён прагаварыў:

— У мяне дома ёсць пятнаццацігодняя Гертруда. Яна любіць глядзець на зоры.

І раптам адбылося нечаканае. Ганнуся аж уздрыганулася. Апухлы свой твар ён наблізіў да Ганусіных вачэй і пачаў гаварыць. Чамусьці гэта было падобна, што ён хоча сваім страшным хрыпатым голасам праспяваць тое, што хацеў сказаць.

— Дзяўчына, галубка!.. («Галубка» ён выгаворваў «калюбка».) Калюбка, наслухай мяне. Я чую свой канец. Я не вытрымаю да канца. Усё ўжо скончана, божа, ратуй мяне. Калюбка! Ты маладая, ты яшчэ малая. Мне здаецца, што я даўно ведаў, што ты ёсць на свеце. (Яна сядзела збянтэжаная.) Каб ты ведала мой смутак, калюбка! Мая Гертруда паўстае перада мной, калі я гляджу на цябе. Яна ў тваіх гадах. (Ён раптам змяніў тон просьбы на апавяданне.) Гертрудзе цяпер пятнаццаць год. Яна радзілася, калі я чуў ужо блізасць старасці. Гэта ад другое мае жонкі. (Зноў тон яго змяніўся. Гэта быў смутак страшны сваей пячаццю на яго апухлым твары.) Калюбка! У цябе маладая душа. Думай пра сваю маці, бо гэта самае дарагое, што ёсць у чалавека. Думай пра яе і пашкадуй мяне. Прасі бацьку свайго і сама будзь такая, каб з ласкай абысціся са мною. Каб я быў тут як з сваімі, гэта здыме з мяне хваробу. Я ўвесь калачуся ад слабасці. Голад парваў у мяне ўсё ўсярэдзіне, і холад прайшоў навылёт праз мяне. Можа каб былі пры мне блізкія людзі, можа мне яшчэ і не суджана памерці. І яшчэ можа доўга мне жыць суджана. Я яшчэ не стары. Я на чужой зямлі і сам не ведаю дзе. Наша часць уся лягла касцьмі, і я ратаваўся ў тыл. Я думаў, што дабрыду да Германіі. Тое, што мяне палічылі б дэзерцірам і судзілі б, здавалася мне глупствам перад тым, што я ўбачу Гертруду. Я баяўся людзей. Я галодны і ў холадзе бадзяўся, як няшчаснае стварэнне. І цяпер бачу, што нікуды я не дайду, а ўпаду на дарозе і кончуся. Калі праз якінебудзь цуд я дабрыду яшчэ да Германіі, Гертруда напіша табе, а ты напішы ёй. Вы будзеце сёстрамі навекі. Калюбка! Я ледзьве жыву. Запытаешся ў сваёй маці, і яна нахваліць цябе, калі ты будзеш Гертрудзе сястра, а мне выратавальніца.

Уражаная і збянтэжаная, Ганнуся ўстала і адступіла два крокі.

— Як жа я скажу ўсё гэта сваей маці, калі яе немцы спалілі ў Мінску! — крыкнула Ганусь, і голас яе перарваўся.

— Гэта не немцы зрабілі,— абазваўся адразу з печы таўсматы.— Гэта Гітлер, Гітлер вінават.

— У Марыны адабраў жыццё не Гітлер, а той лётчык, якога Гітлер паслаў. Нешта занадта шчыра гэты лётчык стараўся! — панура і як бы з развагаю сказаў Мікалай Сямага.

Ганусь лягла на лаве, паклала галаву на бацькавы калені і ўздрыганулася: яна душыла свой плач.

— Нам трэба пакінуць гэтае месца,— ціха сказаў ёй бацька.— Я што-небудзь прыдумаю. Тут можна не вытрымаць.

— Пойдзем на Случчыну, да мае маці. Там можа няма такой адзіноты. Там такі прытульны ў нас дом.

— Я яшчэ паспрабую шукаць Веру, сваю сястру.

Таўсматы дзіка азірнуўся па хаце і сеў, звесіўшы з печы ногі. Ён як бы выглядаў чаго ці высочваў што. Той, з апухлым тварам, нейкі час глядзеў на яго і, як бы перамогшы сваю ранейшую ўстрывожанасць, зноў падышоў да Ганусі.

— Мне трэба вылежаць маю хваробу. Я сам ад сваіх хаваюся. Я сваю часць пакінуў. Я галаву хачу ратаваць... Я быў на вашай зямлі ў тую вайну. Мы канчалі вайну пацалункам. Я быў тады малады. Тры гады я гніў у акопах. Вашы салдаты выбеглі з сваіх акопаў. Мы выбеглі з сваіх акопаў. Мы абняліся і сказалі адзін аднаму «брат». Я прыйшоў быў з вайны дадому. Я быў малады. Я гуляў сваё вяселле. У мяне было няшчасце. У мяне памерла жонка. Я другі раз ажаніўся. Гертруда мая ад другое жонкі. Над маім домам у Германіі гэты самы стаіць Млечны Шлях, што і над вашым домам. (Раптам ён узвысіў голас.) Вы ў сваім доме. Не пакіньце мяне! Дайце мне стаць ад хваробы і змучанасці на ногі. Я тады сам знайду сваю дарогу. Калюбка!

Ніхто не абзываўся, і панавала цішыня. Немец вывірочваў сваю душу далей:

— Падыходзіць мая старасць. Мяне мабілізавалі не спачатку вайны. Тры месяцы таму назад дывізія наша была разбіта да канца. Мы беглі хто як мог. Пагібель гналася за намі. Мы пайшлі па два, па тры, каб нас не баяліся людзі. Дык тады сяляне пачалі паляваць нас нават

не зброяй, а віламі і каламі. Мы ўдвух выйшлі ў такую мясцовасць, дзе ўсё было папалена. Мы цягліся ў пустыні. Другі, што быў са мной,— гэта камандзір майго палка. Мы начавалі ў ямах пад дажджамі, і я кожную ноч плакаў аб сваім доме. Мы елі траву. Камандзір палка маладзейшы, а я ледзьве цягнуўся. Мы згаварыліся ісці па адным. Мы бачылі, што нас і свае расстраляюць, як дызерціраў, і сяляне заб'юць. А над адным можа якая добрая душа злітуецца. Мы яшчэ некалькі дзён бадзяліся ў адзіноце. Усюды пажарышчы і пустыня. Ці мы дзе поблізу адзін ля аднаго брадзілі, ці далёка разышліся, я не ведаў. Я быў адзін. Маё цела за гэтыя месяцы вымерзла навылёт. Я прыціснуўся лбом да дрэва ў чыстым полі і шаптаў імя Гертруды. І раптам пачуў бычыны голас. Я ведаў, што не саўладаю з ім адзін. Але мяне павяло ў той бок. На паўдарозе я ўбачыў яго. (Ён падняў твар у бок студэнта.) І ён ішоў туды. І ён ледзьве ногі цягнуў. Калі мы падышлі да быка, там я ўбачыў майго палкавога камандзіра. Вось гэты. (Ён паказаў на таўсматага.) Калюбка. Ці чуеш ты аб маіх пакутах?

— Так, так, ці чуеш ты аб нашых пакутах? — як бы механічна абазваўся таўсматы.

— Вы цяпер выстаўляеце напаказ свае пакуты?! — абазваўся студэнт.— Чаму ж вы ў палон на полі бою не пайшлі, а на захад павалакліся?

— Нямецкія свінні! — гукнуў той, што быў у летнім пінжаку.

Таўсматы раптам абвяў, і новая рыса з'явілася на яго твары. Гэтай рысай ён стаў падобны да таго, з апухлым тварам, што нядаўна выспавядаўся перад Ганусяй. Здавалася, што і гэты зараз стане ў паставу просьбы і споведзі. Ён схіліўся перад Мікалаем Сямагам і сказаў:

— Дазволіце запаліць у печы і зварыць мяса? Голад мучыць, і мяса сапсуецца.

Мікалай Сямага кіўнуў галавой. Той жа, што ў летнім пінжаку, адразу рынуўся з хаты і прынёс бярэмя дроў. Як відаць, ён даўно ўжо думаў аб вараным мясе. Неўзабаве ў печы запалаў агонь, і рухавы водсвет яго лінуўся ў вокны. Вада ў чыгунах пачынала ўжо кіпець, як на двары выбухнуў раптам траскучы стук грузавікоў. Дух маўклівай трывогі як бы прайшоў па хаце. Можа прайшло яшчэ тры хвіліны, як загрукалі ў дзверы. Сямага пайшоў адчыняць

сенцы і ўвёў у хату шасцярых немцаў. Сярэдніх чыноў афіцэр увайшоў самы задні.

— Хто тут жыве? — сказаў ён па-руску.

— Людзі,— адказаў Сямага.

— Здаць зараз жа зброю!

— Зброі тут няма.

— А партызаны?

— Няма ніякіх партызан.

— Хто гаспадар?

— Я,— сказаў Сямага.

— А яна?

— Мая дачка.

— А ты хто? — афіцэр паказаў пальцам на студэнта.

Таўсматы раптам заварушыўся і сказаў па-нямецку:

— Рускі салдат ён, уцякае з Германіі, з палону.

Сямага ўздрыгануўся. Студэнт хацеў прыўзняцца.

— Ляжаць! — крыкнуў афіцэр.

— А ты хто? — крыкнуў афіцэр, зірнуўшы на Эдуарда Новака.

— Чэх! Уцякае з германскай арміі,— крыкнуў таўсматы.

Новак пачаў кідаць па хаце вострым позіркам.

— Не варушыцца! — скамандаваў афіцэр.— Маўчаць і не варушыцца!.. Усім!.. А ты хто? — павярнуўся ён да таўсматага.

— Я германскі афіцэр. Палкоўнік. Унь мой салдат. (Ён паказаў на таго, з апухлым тварам.) Разам з ім мы ўцякаем з партызанскага палону.

— Так. Так,— сказаў апухлы і, перамагаючы боль дзесьці ў целе, стаў роўна па-салдацку. З ім у адзін момант адбылася вялікая змена. Твар яго паспакайнеў. Калі ён нядаўна спавядаўся перад Ганусяй, ён увесь быў напоўнен прагай да ратунку. Страшная пячаць гэтай прагі была тады на яго твары. Цяпер можна было падумаць, што свой ратунак ён ужо знайшоў.

— А што за чалавек гаспадар?

— Схілен быць партызанам,— тонам суддзі сказаў таўсматы.— З кім маю шчасце гаварыць?

Афіцэр назваўся і сказаў, што з камандай салдат ехаў па шашы ў маёнтак, якім цяпер уладае яго швагер з Брэслаўля. Яны заблудзілі, трапілі не на тую паваротку і ўбачылі, як свяціліся вокны гэтай хаты. Таўсматы рвануў

у паясніцы нагавіц нітку, дастаў з паясніцы нейкі свой зложаны і згорнуты дакумент і падаў афіцэру. Афіцэр прачытаў і далікатна скланіўся таўсматаму. Пяць салдат тым часам пільнавалі, каб ніхто не варушыўся ў гэтай хаце.

— А гэты хто? — афіцэр кіўнуў на таго, што быў у летнім пінжаку.

Той раптам хістануўся назад, як бы не ўстаяў на нагах.

— Хто ты такі?! — крыкнуў таўсматы.— Ты назваў мяне нямецкай свіннёй пядаўна? Чаго маўчыш?!

Тут апухлы падышоў да афіцэра. Хрыпатым голасам ён стараўся штосьці растлумачыць:

— Партызаны забралі нас у палон. Нам пашанцавала ўцячы.

Ён гаварыў па-нямецку, і Сямага разумеў яго.

— Тут партызаны ёсць? — устрывожыўся афіцэр.

— О, далёка,— збянтэжыўся апухлы і адышоўся.

— Гавары, хто ты! — яшчэ крыкнуў афіцэр, сам устрывожаны і неспакойны.

Той апошні, што яшчэ ні перад кім не выспаведаўся і не сказаў, хто ён, угнуўся яшчэ больш у свой лёгкі пінжак і сказаў голасам як з-пад зямлі:

— Я дзесяць год служыў Германіі.

— Хто ты цяпер?!

— Я з фамільнага свайго маёнтка пад Варшавай.

— Паляк?

— Паляк. Але быў яшчэ і тут маёнтак, куплены за грошы. Бранчычы. Мяне малога бацька прывозіў летам сюды з-пад Варшавы. Кожнае лета. (Сліна капала ў яго на грудзі.) Дзесяць год таму назад памёр мой бацька, а мне было дваццаць год. Я быў патрыёт свае дзяржавы. Я належаў да тых, што дбалі аб вялікай Польшчы.

— Хто ты цяпер?! Ці няма ў цябе зброі?!

— Але мы бачылі, што ўрадавыя сферы нічога не робяць, каб наша дзяржава пашырылася на ўсход. Да таго ж мае Бранчычы тут, у якіх я кожным летам у маленстве глядзеў на зоры. Млечны Шлях ішоў над самымі Бранчычамі.

— Зброя ў цябе ёсць?

— Няма.

— Куды ідзеш? Хто ты?

— Але зразумейце маю душу!

— Заўтра я павязу цябе з сабою, тады і раскажаш пра сваю душу.

— Мы дайшлі да думкі, што нам па дарозе з Германіяй. Германія пачне вайну, і мы заўладаем тады ўсходам. Наша войска тады ішло б з Германіяй. Я паехаў вучыцца ў Германію. Мы прызналі сваім геніем Бэка. У першыя дні вайны нас спусцілі тут з нямецкіх самалётаў. Мы рабілі, што нам даручылі. Мы рыхтавалі паветра дзеля прыходу немцаў. Цяпер немцы мне далі дробную службу на прадуктовым складзе. Я ж быў дзеяч! Да таго ж здзек! Я дазнаўся, што пад Варшавай павешана мая сястра. У мяне стала цёмна ў вачах. Мяне выгналі з службы. Я бадзяюся і не маю дзе галаву схіліць.

— Агледзьце яго,— сказаў афіцэр салдатам. Салдаты загадалі яму скінуць пінжак, але ён не спяшаўся. Яго пачалі абмацваць. Ён так абвяў, што, здавалася, ён нічога не цяміць, што робіцца каля яго. Пасля яму загадалі сесці і маўчаць. І ён сеў на падлогу і прыпёрся плячыма і галавой да сцяны.

— Трыццаць чалавек тут памесціцца пераспаць да раніцы? — сказаў афіцэр да Сямагі.

Той нейк як бы ўзрадаваўся, устаў з свайго месца і адказаў, паказваючы на «халодны пакой»:

— Там можна на падлозе. Калі напаліць тут печ, то і там стане цёпла.

— Напалі печ,— сказаў афіцэр і сеў за стол.

— Уставай,— сказаў Сямага да студэнта,— тут яны вячэраць будуць.— І кінуў яму яго адзежу.— Ган/ Ганнуся, хадзем па дровы, напалім печ.

І ён, і Ганнуся апрануліся, каб ісці па дровы. Нешта вельмі многа яны нанасілі тых дроў. Ганнуся выцягнула з печы чыгуны з гатовым мясам і ўсё падкідала і падкідала дровы. А бацька ўсё насіў іх з двара, і ўсё хадзіў за ім следам салдат. Нарэшце і Ганнуся зноў пачала насіць з бацькам дровы. Салдаты, чалавек трыццаць, увайшлі ў «халодны пакой» і ўмошчваліся спаць на падлозе. «Халодны пакой» пачынаў рабіцца цёплы. Тут жа, каля печы, ужо не ўстояць было ад гарачыні. Варшавяк сядзеў усё на падлозе і раптам пачаў плакаць. Як малое дзіця, ён цёр кулакамі вочы і пачаў стукаць патыліцай аб сцяну. І нечакана ён сказаў да студэнта, які сядзеў на падлозе пры другой сцяне, поплеч з Новакам:

— Вазьмі мяне з сабой на Случчыну.

— На якую Случчыну, што ты выдумаў? — трывожна абазваўся Уладзімер Ярмаліцкі.

— А ты ж казаў, што ідзеш да маткі і гаспадара хаты возьмеш з сабою.

— Калі я казаў, што ты брэшаш! — злосна абазваўся Ярмаліцкі.

— Вазьмі, прашу цябе! Я ведаю пра Слуцак. У тым баку і Бранчычы. Вазьмі мяне, прашу цябе.

Ён як ашалеў раптам. Губа яго адвісла, і здавалася, ён у непрытомнасці.

Афіцэр штосьці еў за сталом, які салдаты прынеслі з «халоднага пакоя». Афіцэр падняўся, зірнуў на варшаўскага нешчасліўца і сказаў салдату вывесці яго ў сенцы, а з ім разам і Ярмаліцкага з Новакам і там вартаваць іх. Цяпер усё было так: у «халодным пакоі», у якім цяпер было ўжо як мае быць цёпла (печ дыхала жарам, а дзверы ў пакой адчынілі), спалі ўпокат на падлозе салдаты, адзін пры адным. Тут афіцэр нешта жаваў за сталом і частаваў таўсматага, які сядзеў з другога канца стала. Апухлы падцягнуў тапчан да печы і сядзеў на ім, ківаючыся ў бакі, і з пячаццю яснай надзеі на твары.

— Мне паехаць у Германію, лячыцца і правіцца,— раптам сказаў ён.

У сенцах на перавернутай скрыні сядзелі: Ярмаліцкі, Новак і варшавяк і калаціліся з холаду. Каля іх стаяў вартавы салдат. Мікалай Сямага з Ганусяй насілі дровы. Салдат пакінуў ужо за імі хадзіць. На двары стаяў на варце салдат, на самым ганку, а другі стаяў далей, пры машынах.

Гэты раз Сямага ўзяў толькі адно палена, цяжкае і з вострымі сукамі, кавалак сырой яліны. Ганууся з бярэмем дроў ішла за ім. Ён нешта замарудзеў каля дзвярэй у сенцах, зачыняючы іх. І рушыў да вартавога салдата. Пакуль той зрабіў першы рух, ён аглушыў яго сукамі па галаве. Удвух з Новакам яны падтрымалі яго, каб ён лёг, а не грымнуўся са стукам аб зямлю. Варшавяк усхапіўся і пачаў біць сябе кулакамі ў грудзі. Штосьці ён хацеў моцна сказаць ці крыкнуць, але заікнуўся. Ярмаліцкі адным махам сцягнуў з Ганусінай галавы хустку і разам з Новакам яны ўпхнулі хустку яму ў рот і рукі звязалі. Ён адразу паслухмяна сеў і як акамянеў. Сямага палез на гару, і ўсе за ім: першы Новак, пасля Ярмаліцкі і Ганууся. Палавіна

дошак з шчыта была знята. Знімаў іх Новак Марыне на труну. Сямага абмацаў папацёмку вяроўку і завязаў яе канцом за крокву над застрэшшам. Усе яны спусціліся на двор з падлеснай стараны. Думка з'явілася ў Сямагі адразу. Ён прыгледзеўся з-за вугла ў двор і прашаптаў:

— Спакойна. Вартавы на ганку стаіць. Падпаліць трэба.

— Я падпалю з сянец. Вы чакайце мяне на Марынінай магіле,— прашаптала Ганруся.

Сямага пацалаваў яе ў шчаку і даў ей запалкі. Яна пабралася назад па вяроўцы. Апынуўшыся ў сенцах, яна падперла калом хатнія дзверы і ўзяла на засаўку сенечныя. Яна падпаліла трэскі, што асталіся ад таго, як Новак рабіў Марыне труну, і развязала варшавяку рукі. Як ачмурэлы ён стаяў і маўчаў. Яна пацягнула яго за сабой на гару, падпаліла кастрыцу і шапнула яму:

— Спускайся за мною.

Нейк бокам яна з'ехала на двор па вяроўцы. Яны яшчэ бачылі, як паволі спускаецца ён. У наступную секунду яны рушылі ў дарогу. Яны прайшлі паўз Марыніну магілу і пайшлі лесам. Сямага дастаў з-пад трухлявага бервяна тую аўтаматычную зброю і набоі да яе, якую ён тымі днямі чысціў, калі не знаходзіў сабе месца пасля пахавання Марыны.

— Гэта яшчэ ў першы месяц, калі я прыйшоў сюды, я знайшоў на шашы і не ўмею як з яе страляць,— сказаў ён да Ярмаліцкага.

Новак абмацаў зброю і панёс яе. Аддаляючыся ад узлесся ў глыбіню лясной сцежкі, Мікалай Сямага колькі секунд прыглядаўся да чорнага сілуэта роднага дома, які дажываў апошнія свае хвіліны. Агню яшчэ не было. Яшчэ стаяла ціхая цемень. За лесам яны мінулі зямлянкі, дзе тлела нуднае жытло некалькіх сем'яў. Раніца застала іх далёка ад таго месца. Яны ішлі моўчкі, думаючы пра тое, як, адышоўшы з кіламетр ад зямлянак, яны ўбачылі былі за сабою зарава. Гэта быў момант, калі боль душы і смутак скалынулі Сямагу. Трэцім днём яны дайшлі да другіх зямлянак, да якіх Сямага калісьці даходзіў, калі хадзіў шукаць людзей і добрых навін. Там яны начавалі, там разжыліся на дарогу хлеба і там дачуліся, што хата згарэла, як свечка, і ў ёй пагарэлі бадай-што ўсе немцы. Толькі адзін ці два выратаваліся. Праязджалі на матацыклах па-

ліцаі і казалі. Гэтае падарожжа на пачатку зімы навек асталося ў іх памяці. Ганкуся ад хады і ветру паружавела; Ярмаліцкі разышоўся, і яму пачало здавацца, што немач пачала пакідаць яго. Мікалай Сямага думаў, што яго вылечыў добры яго настрой. Можа і так. На сто васемнаццатым кіламетры, дзе было скрыжаванне дарог і адкуль пачыналіся месцы, ужо знаёмыя Уладзімеру Ярмаліцкаму, яны ўсе аж жахнуліся ад нечаканага дзіва: на абмерзлай абочыне грунтавой каляіністай дарогі, якая за крокаў сто адсюль скрыжоўвалася з шашою, сядзелі: з апухлым тварам немец і варшаўскі нешчаслівец. Яны ўдваіх угіналіся ў торбу і нешта елі з яе. Пухліна з твару таго немца ўжо намнога сышла. Ён быў у лапцях і ватоўцы з аўчынным каўняром. Варшавяк быў у кажуху. Ганкуся пазнала гэты кажух: у яго быў апрануты той таўсматы. Гэтае спатканне было ў такой меры непрыемнае, як і нечаканае. Сямага, Новак, Ярмаліцкі і Ганкуся хацелі стараной абысці нечаканых падарожных. Але варшавяк іх заўважыў, пазнаў і рушыў проста на іх. Як да свайго, ён кінуўся да Ярмаліцкага:

— Яны ўсе пагарэлі! Але я яшчэ сабе кажух выхапіў, а гэтага апухлага я ў лесе спаткаў. А пасля мы машыну напаткалі і сюды прыехалі. Браточак. Гэты немец да мяне прычапіўся і не хоча адчапіцца. Куды я, туды і ён. Я іх ненавіджу. Я служыў ім дзесяць год, а яны мяне навек жабраком і бадзякам зрабілі.

— Гэта ты думаў, што яны цябе зробяць князем ад Ломжы да Смаленска? — сказаў з адчаем у голасе Сямага.

— Не, я да яго,— ён кіўнуў на Ярмаліцкага,— дай мне прытулак да канца вайны ў сваё маці. Пасля вайны я азалачу цябе. Я сумысля на Слуцак кірукося. Але ён цягнецца за мной, гэты апухлы.

Ярмаліцкі нічога не адказаў, і ўсе пайшлі ў дарогу. Калі праз крокаў сто Ганкуся азірнулася, то ўбачыла, што тыя двое ідуць следам. Іх заўважалі ўсе астатнія дзён пяць дарогі. Назіркам яны ішлі следам. Ярмаліцкі з кожным новым днём усё жвавеў. Цяпер ён пазнаваў ужо асобныя дрэвы і камяні пры дарозе. Ужо ён заводзіў усіх у знаёмыя хаты, дзе-небудзь наводдалек ад дарогі. Людзі яго пазнавалі. Ён стаў зусім ясны вачыма і настроем. У яго калацілася сэрца, калі ён сказаў, што дарога зараз пойдзе ўніз і там відзён будзе родны дом і шэсць старых вязаў. Дарога сапраўды пайшла ўніз. Сіняя істужка далёкага лесу была

перад імі на блізкім даляглядзе. Дзень быў хмурны і мяккі. Намаразь раставала. Шэсць вязаў відны былі добра. У гэты час канца восені і пачатку зімы яны былі голыя. Але чаму яны такія чорныя і як бы без голля? Ярмаліцкі шпарка ішоў і не адрываў ад іх вачэй. Ганнуся, Новак і Сямага ішлі за ім, і няпэўнае чаканне іх стала трывожным. Ярмаліцкі раптам стаў прыглядацца да старых вязаў, і жвавасць пакінула яго. Моўчкі і не гледзячы ў вочы сваім спадарожнікам, ён падвёў усіх да вязаў. Вязы былі без голля і знізу даверху абсмаленыя. Адлежная намаразь цякла па абвугленай кары тонкімі струменямі і ападала кроплямі. Ярмаліцкі сцямнеў тварам і сказаў:

— Мокры вугаль нічым не пахне... Унь мой дом.— І паказаў на кучу асмалкаў, крыху наводдалек ад вязаў. Асмалкі і попел былі і ля самых дрэў. Нейкая рэч на зямлі за асмалкамі, там, дзе была не прыцярушаная яшчэ снегам дарога, узяла на сябе яго ўвагу. Як аслупянелы ён стаў над ею. Гэта быў кавалак дошкі з вяроўкаю і надпіс на ім: «Я, Галена Ярмаліцкая, павешана законнаю нямецкаю ўладаю за тое, што не хацела сказаць, дзе мой сын». Гэта з яе шыі! Вяроўка! Дошка!.. Уладзімер Ярмаліцкі прыціснуўся лбом да абвугленай кары бліжэйшага вяза і ўвесь страсянуўся. Ні Новак, ні Мікалай Сямага з Ганусяй не абазваліся і словам. Яны стаялі як анямелыя. Толькі Ганнуся падышла да яго і пачала кідаць вачыма ў бакі.

Павольныя крокі чуліся дзесьці вельмі блізка. У цішыні мокрага дня і пустога месца яны былі як нечаканая трывога. Усе, і Уладзімер Ярмаліцкі, паднялі твары і ўбачылі, як паволі падбліжаліся сюды двое. Першы ішоў той самы, у якога раней быў апухлы твар. З твару яго пухліна ўжо сышла зусім. У лапцях і ватоўцы з аўчынным каўняром, ён трымаў пад пахаю напакаваную нечым торбу і ўсё ішоў, проста і роўна. За ім на крок ішоў варшаўскі нешчаслівец у кажуху. Немец падняў адну руку, а другая трымала торбу. Здавалася, што ён хоча аддаць прывітальны салют. Уладзімер Ярмаліцкі хапіў з рук Эдуарда Новака зброю, шпаркім рухам ускінуў яе і стрэліў. Немец упаў тварам у асмалкі і не паварушыўся. Варшаўскі нешчаслівец пабег на ўсе сілы і доўга відзён быў, пакуль не згінуў дзесьці за ўзгорыстым гарбом дарогі.

Ганнуся, Ярмаліцкі, Новак і Сямага шпарка пайшлі з гэтага месца, поўныя расчаравання, смутку і маўклівасці.

Як дайшлі яны да Асіпавіцкіх лясоў, як асталіся там назусім у партызанах, як Сямага знайшоў там свайго швагра і сястру Веру — гэта асталося ў іх душах навек. На Ганусіным твары з'явілася новая рыса. Мікалаю Сямагу яна нейкім чынам нагадвала бляск вачэй яго нябожчыцы Надзеі ў момант іх першага спаткання ўвосень тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевятага года.

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА

# ПОШУКІ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

### *Першы раздзел*

### I

Там, дзе поблізу чутны гарады Нясвіж і Слуцк, незадоўга да першай імперыялістычнай вайны пачаў біднець у сваім вялікім маёнтку пан Гальвас. Гаварылі, што ён меў тытул не то графа, не то барона, але дакладнасць гэтай справы не вельмі цікавіла тутэйшых людзей. Куды цікавей было тое, што Гальвасу прыйшла патрэба прадаць частку свае зямлі, якой у яго было так тысяч дзве дзесяцін. Маёнтак яго пачаў занепадаць яшчэ раней, але да продажу пяцісот дзесяцін ён дадумаўся толькі тады, калі пачаў піць і гуляць у карты. Праз карты, казалі, ён і залез у даўгі.

Тамашнія людзі заўсёды думалі аб зямлі і кінуліся да Гальваса, калі прайшла чутка аб яго намерах. Хто спадзяваўся купіць сабе дзесяціну, хто дзве, але ўсе ў адной меры мелі надзею, што Гальвас згодзіцца браць за зямлю не адразу, а на выплату. Некаторыя, найбольш непрактычныя, гаварылі, што чалавечая душа не камень, што трэба толькі пагаварыць ад сэрца, і, можа, нават успомніць, што на гэтай самай зямлі бацькі і дзяды іх некалі рабілі паншчыну. Ужо нават знайшліся ахвотнікі ісці гаварыць з Гальвасам, як раптам прайшла навіна, што ўсю зямлю адразу абзадачылі нейкія два былыя арандатары. І, апроч іх, толькі адзін уцёрся туды драбнейшы пакупнік, тамашні тубылец і бадай-што ўсіх аднаселец Ксавэр Блецька.

У тыя часы Ксавэр Блецька быў у самай сіле свае перапелай маладосці і не жанаты. Адбыўшы прызвы, ён некалькі год служыў у Гальвасаўскім маёнтку пры млынах і свірнах. І нарэшце ўпаў у страшную няласку Гальваса: яго славілі на тым, што ён ціхом цягнуў сабе ў кі-

шэню адусюль, адкуль толькі мог, замест таго каб дбаць аб кожнай Гальвасаўскай саломіне. Яго прагналі са службы, але ён ужо меў за што заняцца дробным гандлем. Гэта, таксама як і ранейшая служба ў Гальваса, не задавольвала яго да канца. Гэты чалавек імкнуўся да свайго ўласнага аселішча, але не якога-небудзь дробнага. Ён казаў: «Я люблю пажыць». Пакрысе ім завалодвала непераможнае жаданне мець сваю вялікую гаспадарку і дом. У яго імкненнях да багатай дамоўкі мелі месца і прывычкі, якія ён набыў у час службы ў Гальваса. Для яго ўжо было вялікай непрыемнасцю курыць якую-небудзь махорку і дрэнна паабедаць.

У Гальваса бы ахмістрыня, якая яму страшэнна надакучыла і якую трэба было аддаць замуж не марудзячы. Адчуваючы, што ёй суджана стаць панскім пакідзішчам, яна зжаўцела, ззелянела і пачала сохнуць. Яна была ў поўным адчаі, але тут якраз і рынуўся да яе Ксавэр Блецька. Ён бачыў: Гальвасава Аміля за яго старэйшая, вельмі можа быць, што жаночая старасць апануе яе раней часу і неўзабаве. Але пераканаўшы самога сябе ў пэўным сэнсе, у ёй яшчэ льга бачыць прывабную жанчыну. Як бы там ні было, Ксавэр Блецька стаў для Амілі ратункам. Праўда, спачатку ён здаваўся ёй занадта простым і мужыкаватым, але пасля яна сілком упэўніла сама сябе ў тым, што ў яго ёсць зародкі далікатных навыкаў, па якіх можна будзе давесці яго да чалавечай дасканаласці.

Ён скеміў адразу ўсю сітуацыю. Гальвас без пасагу не прагоніць Амілю. І тут у яго ўзнікла адна думка, за якую ён і ўхапіўся, каб у пэўным сэнсе ўзяць у рукі самога Гальваса. Аміля знайшла ў ім не толькі спосаб без ганьбы дзецца на свеце. Пасля ачамярэлага ёй старога Гальваса яна ўбачыла ў Ксавэру Блецьку таго чалавека, якога толькі аднаго ёй суджана было любіць. Ён жа ў гэтую пору сваіх імкненняў бачыў у ёй спосаб дайсці да поўнага завяршэння шчасця, незалежна ад таго — льга яму любіць Амілю ці не. Не гэта было самае важнае! Думка яго не сыходзіла з аднаго пункта: у Амілі павінна радзіцца Гальвасава дзіця. Апіраючыся на гэты пункт, ён і сплапаваў вельмі добра ўсю справу. Свой наступ на Гальваса ён вымеркаваў з халоднай развагай і схаваўся за Амініны плечы. Навучаная ім, як і што гаварыць з Гальвасам ад першага і да апошняга слова, яна ўзяла на сябе роль, якая не скрозь зліваласся з яе душой. З самым нахабным выгля-

дам яна рашуча явілася ў Гальвасаўскія пакоі, поўнячыся аднак жа ў той самы час слабавольнасцю і баязлівасцю. Можна смела сказаць, што, каб Гальвас крыкнуў на яе, яна не вытрымала б узятай на сябе ролі. Аднак жа ўсё абышлося як не трэба лепш.

Гальвас у гэты час перажываў нечаканую радасць: у яго радзіўся сын. Гэта было ўжо чацвёртае дзіця. Першыя трое раджаліся мёртвымі, а гэтае жыло і здавалася вельмі дужым. Вельмі можа быць, што з ахмістрыняй Гальвас і знюхаўся быў ад вымушанай сваёй бяздзетнасці. Цяпер ахмістрыня так, як ніколі раней, здалася яму агідным непатрэбствам. Ён ненавідзеў яе ўсёй сваёй істотай, калі яна парушыла яго радасныя думкі аб сыне просьбай аб пасагу. Быццам п'ючы атруту, ён скрывіў твар і даў ёй грошы. Але ўжо ў той самы дзень яна зноў прыйшла да яго. Гэта была Блецькава тактыка. Блецька хацеў вялікага кавалка зямлі, а не грошай. Грошы ён аднак жа пакінуў у сябе, баючыся, што разгневаны Гальвас і зямлі не дасць, і грошы адбярэ. Губы ў Гальваса задрыжэлі і твар пабялеў.

— Няўжо вам будзе прыемна бачыць, як маё дзіця, падобнае з твару да вас, будзе расці без месца на зямлі?— секанула яна завучаныя словы свае ролі.

Гальваса апанаваў смутак: радасць аб народжаным сыне зацяглася змрокам. Замілаванню яго да сапраўднага доўгачаканага сына будзе перашкаджаць невядомая істота, якая павінна нарадзіцца і якая дзесьці тут поблізу будзе існаваць, як жывы дакор сумленню. Гальвас доўга не думаў. Ён сказаў:

— Гэтае дзіця не павінна нарадзіцца.

— Не, яно народзіцца,— адказала Аміля. У гэтым месцы яе роль злілася з яе жаданнямі.

— Не, яно не народзіцца! — загадаў Гальвас.

— Тады мне не астанецца ніякай уцехі ў жыцці. Мае маладыя гады прайшлі тут, у вас. Цяпер я выгнаная. Скора прыйдзе старасць. (Яна гаварыла ад усёй сваёй шчырасці і глытала слёзы. І шчырасць гэтая адразу перайшла ў ненавідную ёй роль.) Я прашу выразаць мне зямлі пяцьдзесят дзесяцін, там, дзе Нясвіжскі гасцінец крыжуецца з Лечашынскай дарогай.

Можа б, Гальвас і даў ёй адразу гэтыя пяцьдзесят дзесяцін, каб яна не назвала самага маляўнічага і выгоднага кутка ва ўсім маёнтку. Гэта было ўлюбёнае месца самога

Гальваса. Але разам з тым і сам Блецька наважыўся на гэты куток. Перш за ўсё — тут яму вельмі добра было б будавацца: Лечашынскі лес належаў Гальвасу, а стражнік з гэтага лесу сябраваў і піў з Блецькам. Такім парадкам Блецька можа без капейкі грошай выбудавацца з Гальвасавага лесу, і ніхто бачыць не будзе, адкуль навожана дзерава: тут жа на прылессі і будуйся. Гальвас аж затросся.

— Дык народзіцца дзіця,— пачала таргавацца Аміля, поўнячыся жудасцю ад свае ролі.

— Не народзіцца! — крыкнуў Гальвас.

— Народзіцца,— слабейшым голасам і ніжэйшым тонам абазвалася Аміля, пераходзячы раптам ад ненавіднай ролі да свае шчырасці.— Я не магу, каб яно не радзілася. Як я буду рабіць смерць свайму дзіцяці, якое можа быць маёй уцехай.

Напоўнены прыкрасцю такіх абставін, Гальвас зноў даў Амілі грошы. Яна выйшла ад яго, лёгка ўздыхнуўшы: пакуль што добра і тое, што скончылася яе паганая роль. Аднак жа гэта было не так. Забраўшы і гэтыя грошы, Ксавэр Блецька зноў пачаў угаворваць яе ісці да Гальваса: яму патрэбна была зямля пры скрыжаванні дарог. Аміля больш не вытрымала. Яна пачала тужыць і плакаць, і Блецьку здалося, што ён можа страціць яе разам з пасагам. Яна так і сказала, што лепш будзе хадзіць з торбамі па свеце, чым згодзіцца зноў ісці да Гальваса. Тады пайшоў сам Ксавэр Блецька. Ён смела і нахабна явіўся да Гальваса і адразу прыступіў да справы.

— Тут так, залаты паночку,— гаварыў ён,— я не дапушчу, каб дзіця нарадзілася. Але яно можа і нарадзіцца. Што гэта будзе вашай ласцы за інтэрас, калі на ўсю акругу пойдзе пагаласка, што ваш сын, скажам, ці дачка гадуецца ў нейкага Ксавэра Блецькі? Нашто ж, каб на вашу ласку пальцамі тыцкалі.

Гальвасу, як у гарачыню піць, хацелася выбіць зубы гэтаму злодзею, які ўжо раней меў магчымасць не раз абкрадаць яго. Аднак жа трывога, што і сапраўды можа так быць, як кажа Блецька, стрымала яго на мяжы халоднай развагі. Ён сціснуў зубы, адвярнуўся ад Блецькі і, задам к яму стоячы, загадаў выйсці вон і гаварыць аб зямлі з старэйшым аканомам, які вёў зямельны продаж. Блецька міргнуў адным вокам у Гальвасаву спіну і рушыў да аканома, таго самага, які тады злавіў быў яго ў кражы і сам прагнаў са службы. Нявіннымі вачыма

гледзячы аканому ў твар, Блецька як мае быць таргаваўся і трымаўся быццам у сябе ў хаце. Як жа! Ён быў гаспадаром Гальвасаўскай тайны! Такім парадкам ён за Гальвасаўскія ж грошы, перададзеныя яму Аміляй, купіў у Гальваса пяцьдзесят дзесяцін самай лепшай зямлі, на скрыжаванні Нясвіжскай і Лечашынскай дарог. Шчаслівы і радасны пачаў ён асталёўвацца на новым месцы. Свайго ён дасягнуў, і цяпер важна было толькі тое, каб не радзілася на яго шыю Гальвасаўскае дзіця — не дзеля жадання Гальваса, а дзеля спакою і волі самога Ксавэра Блецькі.

— Гэта дзіця радзіцца не павінна,— упэўніваў ён кожны дзень сваю Амілю.

— Ведаю,— адказвала яна кожны раз з вялікім смуткам маці, дзіця якой яшчэ ў яе жываце прыгаворана к смерці.

Аднак жа гэтае дзіця радзілася. З дня на дзень Аміля адкладала забойства свайго сына, які ўжо жыў у ёй. Яна не магла адважыцца на гэта і мела страшныя пакуты, кожны дзень чуючы ад свайго Ксавэра адно і тое ж:

— Дзіця жыць не павінна! Ну калі ж?

Нарэшце ёй стала страшна глядзець яму ў вочы. Яна старалася як найменш быць з ім і, нарэшце, кінулася перад ім на калені:

— Позна ўжо. Гэта будзе каштаваць мне жыцця.

З таго моманту Ксавэр Блецька як мае быць узненавідзеў Амілю. Радзіўся сын, яго назвалі Антонам; і чым больш ён падрастаў, тым больш рабіўся падобным да Гальваса і да таго сапраўднага Гальвасавага сына, імя якому было Цэзары. Гэтыя два аднагодкі нарэшце так сталі падобны адзін да аднаго, што, калі ім стала па дзесяць год, толькі па адзежы можна было пазнаць, каторы з іх Блецькаў сын, а каторы Гальвасаў. К гэтаму часу ў Блецькі быў ужо і другі сын, Адам, выліты Блецька.

З малых год гэты Адам пачаў убіраць у сябе ўсё бацькаўскае, нават і хадзіў так, падтуліўшы плечы. Ён рос каржакаватым здаравяком і быў на гадоў чатыры маладзейшы за Антона. Аміля ж пасля гэтых другіх родаў пачала хварэць і шпарка старэць. Блецькава нянавісць да яе перавысіла к гэтаму часу ўжо ўсялякія межы, і, нарэшце, яны ўжо бадай-што не гаварылі адно з адным.

Два браты раслі ў даволі-такі цеснай дружбе, пакуль не выраслі ў юнакоў. Тады паміж імі пачаліся новыя да-

чыненні. Змена дачыненняў паміж імі ў юнацтве падрыхтоўвалася пакрысе, з самага іх маленства, і давяла ўсё да страшнай развязкі, якая ў адзін момант з'іначыла ўсё жыццё гэтай сям'і, можна сказаць, прымусіла некаторых з гэтых людзей пачынаць жыць спачатку і з жудасным жалем развітацца з тым, што пражылося.

## II

Два браты — гэта былі дзве натуры, зусім непадобныя адна на адну. У той меры, у якой Ксавэр Блецька ненавідзеў сваю Амілю, у маладога Антона Блецькі разам з гадамі расло замілаванне да свае маці. І з такой сілай, з якой Ксавэр Блецька ненавідзеў свайго старэйшага, так званага сына, Антона, з такой сілай паміж ім і Аміляй ішло змаганне за меншага сына Адама. Аміля прагла мець месца ў душах двух сваіх сыноў, Ксавэр стараўся паміж Адамам і ёю ўстанавіць чужасць. Ён хацеў, каб Адам любіў толькі яго аднаго. І разам з сваім любым сынам ён, можна сказаць, выпешчваў кожны куток свайго пяцідзесяцідзесяцціннага ўладання. Усё накіроўвалася да таго, каб Адам з малых год увабраў у сябе тую праўду, што ўсё гэта належыць яму аднаму, што толькі ён адзін тут законны спадчыннік. Гэта была адна з форм выяўлення ў Ксавэра Блецькі нянавісці да свайго старэйшага сына Антона.

Месца, дзе жылі Блецькі, мела для чалавечага вока вялікую прывабнасць. Магло здавацца, што сюды не даходзяць буры чалавечага жыцця на зямлі і што бяда і гора тут не кране так моцна, як дзе, чалавека. Лес абкружваў гэтую мясціну з трох бакоў, з чацвёртага ўзгорак адгароджваў Блецькава ўладанне ад яго роднай вёскі, з якой ён цяпер страціў ужо ўсялякія сувязі. Вадзяны звон лясной рэчкі чуцён быў зводдалеку. Вада імчалася цераз голыя, вымытыя карэнні стагодніх дрэў. Як рух вечнасці, роўна і няспынна гойдалася ў вадзе багавінне. Крыніцы выбіваліся з дна рэчкі на шырокі свет. У гэтых лясах, здавалася, і ягады былі сакаўнейшыя, як дзе, і грыбы, здавалася, не чарвівелі. А пра зямлю паміж лясоў казалі, што каб дзіця на яе пасадзіў, то адразу расці стане. Зямля была вельмі ўрадлівая. Ксавэр Блецька ведаў, які кавалак адхапіць ад Гальваса.

Блецькаў хутар быў падобен да фальварка. Дамок у

фальварку быў моцны, з смольнай хвоі. У доме быў салончык, дзе Аміля зранку і вечарам стаяла на каленях перад абразом багародзіцы «утоли моя печали». Пачуўшы на дварэ голас свайго Ксавэра, яна ўсхватвалася з кален і шпарка выходзіла ў агарод палоць грады, каб не спатыкацца ў сценах лішні раз з мужам. Напалоханы жыццём і пакутнай маўклівасцю мацеры, Антон не адставаў ад яе ні на крок. Ксавэр жа, наараўшыся за дзень з двума парабкамі на сваім полі, на трох парах коней, цвёрдым крокам уваходзіў у дом і быў задаволен, што Аміля не трапляецца яму на вочы. Следам за бацькам ішоў Адам, здаровы хлапчук-недаростак, каржакаваты і круглатвары. Яму было ўсё роўна, дзе яго маці: бацькава насенне ўжо ўзыходзіла ў яго душы. Годы яго праходзілі ў поўнай хутарскай адзіноце. І гэтую адзіноту ён пачаў любіць з самых малых сваіх год. Можна сказаць, што бацька і сын пераплылі б знявагу, каб старэйшы спадчыннік гэтага хутара калі-небудзь з'явіўся на хутарскім полі як гаспадар і самастойны работнік. З яго даволі было саду і агароду. Аднак жа прыйшоў час, што Ксавэр Блецька паставіў за плуг і Антона, але не так, як прывучаў да плуга свайго Адама, а як ставіў сваіх парабкоў.

Гэта было тады, калі Адаму пайшоў дванаццаты год. Ксавэр Блецька ўзяў сабе ў галаву такое меркаванне аб будучыні свайго сына: Адама трэба вывесці ў людзі «праз навуку». Пасля гімназіі ён будзе мець грашавітую службу, хутар жа будзе яго моцнай падмогай у жыцці. Усяму перашкаджаў толькі ненавідны Антон. Апынуўшыся ў гімназіі, малады Блецька, франтаваты і высакамерны не ў меру сваіх год, агалошваў вуліцы павятовага гарадка prarэзлівым голасам штовечар. Кватэрная гаспадыня кожны вечар выкручвала і вешала сушыць пад столь каля печы Адамава гімназісцкае пальто; гэтая наіўная жанчына дзівілася — дзе малы Блецька ў сухое надвор'е або ў траскучы мароз ухітраецца дапасці да вады. Так ішла навука ў Адама Блецькі, тады калі старэйшы за яго на чатыры гады Антон прывучваўся быць гаспадаром на зямлі, але не ўласнікам яе. Можна было падумаць, што ў Ксавэра Блецькі цяпер толькі клопату ў галаве, каб Антон не еў дарма хлеба. Босы і ў вышмарганым шарачку, Антон разам з самім Ксавэрам і парабкам душыўся працай. З некаторага часу ў Ксавэра Блецькі пачала ўкараняцца скнарыстасць. Ён рабіўся вахлаком, цемнікам, неахайнікам.

Порткі ў яго былі — лата на лаце. Пры рабоце, казаў, толькі так і трэба. Верхнюю рубашку, выпушчаную паверх, ён насіў без падпяразкі; пачаў угінаць плечы, быццам ссутуліўся, і — дзіўная рэч — вельмі адразу нешта пачалі прападаць яго ранейшыя прывычкі з гадоў службы ў Гальваса: цяпер ён смаліў за мілую душу махорку, не галіўся па тыдняў тры і цягавіта кешкаўся ў авечым гнаі і каля свінухоў. З Аміляй ён бадай-што не гаварыў, Антону і парабку паказваў толькі, дзе і што рабіць, на коней і кароў можна было толькі пакрыкваць двума ці трыма словамі. І ён, завіхаючыся пры рабоце, усё маўчаў і смактаў махорку. Усё было ў яго добра, і ў гэтай вялікай асалодзе — каб толькі бог даў — добра было б жыць векі-вечныя. Амілю можна было не заўважаць, што ж да Антона, то гэта, праўда, было зло, але ўсё ж такі з-пад рук гэтага маўклівага хлопца выходзіла многа добра зробленай работы, і сам ён не займаў на свеце і на хутары многа месца. Такім парадкам не было для Ксавэра Блецькі большай непрыемнасці, як раптоўнае з'яўленне дома яго Адама: вясёлы гімназіст пешкі прыджгаў дадому і, як быццам бы нічога не здарылася, адразу палез на вышкі ў стайні глядзець галубоў.

— Што такое? — запытаў устрывожаны бацька.

— У нашай гімназіі быў пажар, і мы цэлы месяц не будзем вучыцца,— весела адказаў сын.

Аднак жа неўзабаве стала вядома, што Адам назаўсёды развітаўся з навукай: яго звольнілі за тое, што ён ухітрыўся напакаваць свайму настаўніку поўныя кішэні мерзлага чарніла. Настаўнік быў цікаваты і цюнцеяваты чалавек і пакуль агледзеўся — увесь быў мокры і стаяў у чорнай лужы. Ксавэр Блецька перажыў жудасную прыкрасць ад такой няўдачы ў сынавай кар'еры і на ўсё жыццё ўзненавідзеў настаўніка. Пакрысе аднак жа ён усцешыўся: яго Адам выявіў вялікія здольнасці і наймацнейшы нахіл да гаспадаркі. У гэтыя гады, праўда, гаспадарская сталасць часта межавалася ў яго з свавольствам. У часе ворыва ён фасоніста падвязваў коням хвасты, але падобную драбязу яму льга было даравацъ за ўсё іншае. Некалькі год «навукі» не паклалі на яго аніякага следу. Неўзабаве, так, як і бацька, ён пачаў бесперапынна смактаць махорку і насіць мультановую рубашку без падпяразкі. У святыя ж дні гэта быў пярвейшы франт на ўсю акругу. Праўда, можна было мець і дасціпнасці больш,

і густы лепшыя. Але ўсё перакрывалася найлепшым, як казаў Ксавэр Блецька, «джыгіналам» і сукном. Росквіт святочнага Адамавага франтаўства прыпаў на час галіфэ і фрэнчаў. У Адама былі галіфэ і з чырвоным, і з зялёным, і з сінім кантамі. І такімі адзнакамі ён не быў падобен да іншых тутэйшых хлопцаў, якія з яго пасміхаліся, але затое і якіх ён ненавідзеў. Сярод усіх ён вызнаваў сябе за лепшага, але тут не было анізвання якога б там ні было высакамер'я. Адам Блецька мог умяшацца ў якую хочаш справу, нават самую брудную, абы-толькі каб паказаць сябе. Ён быў упэўнен сам у сабе і ні разу не прызнаваўся перад сабой у сваіх промахах. На Ксавэра Блецьку часам находзіў одум. Адам будзе простым гаспадаром і толькі ў свята будзе скідаць грымучыя боты. Але яго ўсцешыла рэвалюцыя. У семнаццатым годзе ён сказаў:

— Трасца цяпер будзе ўсім вучоным і гарадскім. Цяпер усіх зраўнялі. Усе будуць мужыкамі.

І ён у душы сваёй уздзякаваў бога за тое, што ў свой час мог так добра павярнуцца на свеце: на сваім хутары ён цяпер астаецца самім сабой. Што ж да Гальваса, то ў першыя ж дні рэвалюцыі Ксавэр Блецька выказаў перад людзьмі да яго сваю поўную нянавісць:

— Колькі чалавеку каштавала, каб дастаць у яго зямлі! Цяпер магнат ракам папоўз з свайго двухтысячнага маёнтка.

Што ж і як будзе ісці далей — гэта да Ксавэра Блецькі ніякага дачынення не мела. Усё ішло добра, нават і Антон не рэзаў ужо вачэй свайму так званаму бацьку. Справа была такая, што незадоўга да таго часу, калі Адам, ашчаслівулены сваім выгнаннем з гімназіі, вярнуўся дадому, Аміля не вытрымала таго, што бачылі яе вочы. Пакутуючы ад хваравітага замілавання да свайго Антона, які стаяў цяпер на роўнай назе з парабкамі, і са страхам адчуваючы прыступы чужасці да Адама і жальбу аб ім, як аб страчаным дзіцяці, яна пайшла да Гальваса і павяла з сабой Антона. Гальвас упершыню ўбачыў яго і жахнуўся: перад ім стаяў яго сын, і цяжка было сказаць, што гэта не той, сапраўдны яго сын Цэзары. Антон быў падобен да Цэзарыя, як кропля вады на кроплю. І рост, і бялявы колер валасоў, і рысы твару, і пастава — усё было адно і тое ж. Заняты выхаваннем свайго Цэзарыя, Гальвас ніколі і не ўспамінаў, што дзесьці тут поблізу жыве на свеце другі яго сын, які носіць проэвішча мужыка

Блецькі. Цяпер штосьці падобнае да містычнага жаху апанавала Гальваса. Ён дажыў да старасці, няўдалае гаспадаранне год за годам усё больш уганяла яго ў беднасць, і вось цяпер з'явіўся перад яго вачыма жывы напамінак аб яго пустым і бескарысна пражытым жыцці. У гэтыя гады набліжэння апошняй пары жыцця ў яго была радасць — сын яго Цэзары. І вось цяпер з'явіўся канкурэнт Цэзарыю, быццам бы з нейкай прэтэнзіяй на пэўнае месца ў яго сэрцы. Гальвас маўчаў. У першы момант у яго душы пачаў ажываць быццам бы жаль да Антона, які стаяў перад ім з непаразуменнем у вачах — што яму тут рабіць і што гаварыць у гэтым месцы і перад такім чалавекам? Аміля ўпала перад Гальвасам на калені, так як падаюць багамольныя перад крыжам.

— Ваш сын жыве ў Блецькі, як у астрозе,— сказала яна.— Ён вырас парабкам.

У Гальваса задрыжэлі губы. З выглядам злоўленага злачынцы ён вадзіў позіркам ад Амілі да Антона. Аміля, як прыгавораны к гібелі чалавек, якому ўжо няма чаго траціць, усхапілася на ногі, і ў голасе яе загучэлі ноты грозьбы:

— Чаму ваш няшчасны сын павінен расплачвацца за вашы капрызы?

— А грошы?! А зямля?! — закрычаў раптам Гальвас.

І тут ён спаткаўся вачыма з позіркам Антона Блецькі. Гэты хлопец глядзеў на Гальваса як бы з нейкім патрабаваннем. Злосць нарадзілася ў Гальваса. Ён насмешліва сказаў:

— Ты чаму-небудзь вучыўся?

За Антона адказала Аміля:

— Ён можа быць гаспадаром на зямлі, ён можа чытаць кнігі, пісаць...

— Адашлі яго ў горад вучыцца,— перарваў яе Гальвас.— Я распараджуся, каб за яго навуку плацілася. Больш не прыходзь сюды.

І ён адразу рушыў у глыб пакояў, апанаваны незразумелым страхам, што быццам бы яму суджана страціць свайго Цэзарыя. Якраз у тыя дні Цэзары з бацькам выехаў у трэцяе ўжо сваё падарожжа па курортах. Падарожжа гэтае цягнулася доўга і скончыцца мелася ў канцы зімы семнаццатага года, але рэвалюцыя затрымала Гальвасаў яшчэ на два гады недзе па поўдні Расіі. Верны слуга, які вытрымаў з Гальвасамі гэтыя два цяжкія

гады, расказваў, што ў яго балела сэрца глядзець на вы-прабаванні сваіх высокіх дабрачыннікаў. Вярнуліся Гальвасы дадому ўвосень дзевятнаццатага года, калі была польская акупацыя. Цэзары Гальвас у гэтыя часы быў ужо закончаным юнаком. Расказвалі, што ён быў нейкі дзіўны, быццам бы ўсё на зямлі было яму чужое. Узрадаваны зваротам назад свайго маёнтка, Гальвас тлумачыў сыну паходжанне кожнага дрэва, гісторыю кожнага будынка. Сын жа быццам не бачыў і не чуў нічога. Яму было нудна цэлы дзень. У гэтыя часы прыемным яго заняткам стала зганяць выстраламі з драбавіка, ад вечара да ранку, сонных птушак, якія гнездзіліся ў парку. Ён быў нейкі сухі, пануры і аднойчы сказаў бацьку:

— Ці надоўга хопіць гэтага маёнтка?

— Яго можа хапіць назаўсёды, калі добра ў ім гаспадарыць.

— Ты, здаецца, не вельмі добра гаспадарыў,— адказаў сын і гэтым словам быццам пракалоў бацьку.

Каля таго часу паміж бацькам і сынам пачаўся быццам душэўны разрыў. Сын трымаўся адзін, нудзеў, бадзяўся з кута ў кут і да ўсяго быў халодны і абыякавы. Вельмі можа быць, што гэта быў просты вынік таго, што змалку не быў ён прывязан да таго месца, дзе радзіўся: маленства і першае юнацтва яго прайшлі ў доўгіх курортных падарожжах — два разы за граніцай і трэці раз на поўдні Расіі. І душа, і вочы яго не маглі надоўга спыняцца на адным месцы і дайсці да яго сэнсу. Дзіўная рэч, але ён не памятаў у твар ніводнага простага чалавека, якія жылі поблізу Гальвасаўскага дома і часта маглі трапляцца яму на вочы. Але, можа, гэта быў чалавек, які стаіць вышэй прывязанасцей да пэўнага толькі месца на зямлі? Але для гэтага трэба мець вялікую душу, якая змясціла б у сабе ўвесь свет — і радасць, і смутак кожнага, дзе б хто ні жыў. Цэзары Гальвас не ведаў ні радасці, ні смутку, нават самога сябе. Нават і самому сабе ён быў, здаецца, чужы. Гэта было існаванне нуднае і бескарыснае, і ніякіх карэнняў яно не мела і на той зямлі, на якой расло і трымалася, і на той, якую льга было бачыць з вокан міжнародных вагонаў. Цэзары Гальвас не ведаў тае зямлі, сокі якой кармілі яго. Гэта быў непрактычны абібок. І каб на яго рукі ўсё асталося, ён рашыў бы маёнтак за адзін год. Яму было ўсё роўна, якую траву мне капытамі яго конь, на якім ён кожны дзень выязджаў на спацыр; яму было

ўсё роўна, якія колеры ляжаць на вершалінах дрэў, калі заходзіць ціхае асенняе сонца. Страшная думка кальнула раз бацьку, калі ён пастараўся зразумець будучыню свайго сына: ці не суджана яму збяднець да рэшты? Але падзеі награнулі хутчэй, як думаў Гальвас. Не паступовае абядненне, а катастрофа ўпала на Гальвасавы галовы: у дваццатым годзе настаў момант кінуць усё і ратаваць галовы ад тых жа самых навакольных людзей, з якіх ніводнага малады Гальвас не ведаў у твар. Гальвасы рынуліся на захад, пакінуўшы ўсё на векі-вечныя. Малады Гальвас быццам бы не разумеў усяго, што адбываецца. Яму прыйшла фантазія ехаць за бацькавым фаэтонам конна ў шэрым гарнітуры. Можа, ён хацеў гэтым падкрэсліць сваю пагарду да навакольных простых людзей, якія спрадвеку праклінялі Гальвасаўскую сям'ю за сваю беззямельную беднасць і Гальвасава багацце. Як бы там ні было, Цэзары Гальвас, дасціпны і высокі, як віхор, праімчаўся па ўласных яшчэ палявых дарогах і павярнуў на Нясвіжскую дарогу. Ні разу ён не азірнуўся і за дарожным узгоркам як праз зямлю праваліўся. Больш яго тут ужо ніхто не бачыў доўгія гады, і многія бадай-што зусім забыліся, што ён ёсць на свеце. І ніхто ніколі не ўспомніў, дзе і як жывуць Гальвасы і ці жывуць яшчэ яны?

## III

Гадоў праз два, пасля таго як Гальвасы скрыліся на захад, вярнуўся дадому Антон Блецька. Гэта быў юнак рослы, тонкі і белатвары. Адам і Ксавэр Блецька ніколі не цікавіліся, на каго і як ён там у горадзе вучыцца, і ці вучыцца ён, ці так чым займаецца. І наогул, пра яго бадай-што нічога за ўвесь гэты час не чуваць было. Пісаў ён дадому мала калі, і пісьмы яго былі скупыя на словы. Заўважылі, што ён з'явіўся дадому нейкім як бы злосным і рашучым, гатовым на раптоўныя і нечаканыя ўчынкі. Антон пацалаваўся з Адамам, а Ксавэру Блецьку падаў руку. Усе ўтрох маўчалі, не ведаючы, што гаварыць паміж сабой. Неўзабаве Антон аддаліўся ад усіх, і пачалі здагадвацца, што ён перажыў нейкую няўдачу ў жыцці. Ксавэр Блецька спачатку стараўся дазнацца, ці зусім прыехаў Антон, ці толькі на пэўны час. А калі відно стала, што ён мае намер назаўсёды астацца дома, Ксавэр уныў душой і сказаў проста, што Антону няма чаго тут рабіць. Гэта

быў выразны намёк, што ён павінен зараз жа пакінуць гэты дом. І тут усе ўбачылі, што раней незаўважаная рыса гэтай натуры страшным узрывам выступіла наверх.

— А як я думаю, дык я тут, можа, за каго іншага больш гаспадар,— рашуча заявіў Антон, і абодва Блецькі счарнелі ад такога нечаканага павароту справы.

Можна сказаць з упэўненасцю, што ў гэты момант Адам да канца зразумеў, што значыць для яго Антон і яго з'яўленне дома. Ён павінен кожны дзень бачыць яго на сваёй дарозе, па якой яму аднаму трэба было б ісці праз усё жыццё. Страшная нянавісць заварушылася ў Адама, але ён яшчэ не бачыў цвёрдай дакладнасці — чаго захоча зараз Антон. Ксавэр Блецька памаўчаў мінуту, як прыглушаны, і пасля з нахрапам накінуўся на Антона:

— Як гэта ты так гаворыш?

— А ты хочаш, каб я маўчаў? — насмешліва абазваўся Антон, упершыню звaрачаючыся на «ты» да Ксавэра Блецькі.

Напэўна яшчэ ў горадзе ўсё гэта ім было абдумана і перадумана.

— Ты хочаш, каб я зноў быў у цябе за парабка?

— Я цябе зусім знаць не хачу! — закрычаў Ксавэр Блецька.— Ты мне не патрэбен ні як парабак, ні як ты сам!

— Калі я табе не патрэбен, дык гэта мала мне абыходзіць. Усё, што тут ёсць,— гэта пасаг маёй маці.

— Але ж яна таксама і мая маці! — крыкнуў Адам.

— Запытайся ў яе, ці патрэбен ты ёй як сын!

— Яна мяне нарадзіла! Ты хочаш, каб я яшчэ пытаўся ў яе пра гэта?!

Антон бачыў перад сабой двух раз'ятраных людзей, але быццам на бяду ішлося: ён моўчкі павярнуўся ад іх і пайшоў да стайні, дзе пры сцяне стаялі маляваныя драбінкі, на якіх Адам любіў праехацца ў нядзелю па мястэчку ў якой-небудзь новай шапцы і выглянцаваных ботах. Антон адцягнуў ад сцяны драбінкі, вывеў з стайні каня і стаў запрагаць.

— Куды ты збіраешся?! — пабег следам сюды Ксавэр.

— Паеду ў суд! Не хачу быць у цябе парабкам, а гаспадаром на сваёй палавіне.

— На палавіне?! — аж затросся Ксавэр Блецька.

— Не чапай каня! — падскочыў раптам Адам і рвануў за повад.

Антон вырваў у яго з рук повад і ўвёў каня ў аглоблі. Адам хапіў дугу і падняў яе над сваёй галавой. У гэты момант з'явілася тут Аміля, яна чула на двары крык. Яна бачыла, як Антон стараўся вырваць з Адамавых рук дугу і як Ксавэр памагаў Адаму. Нарэшце Ксавэр адштурхнуў Антона, і Адам размахнуўся над Антонавай галавой дугой. Аміля паспела стаць паміж Адамам і Антонам, і Адам закрычаў:

— Адыдзі! Пусці! Не закрывай!

Але яна хапіла Адама за локці, той выпусціў з рук дугу і з усёй сілы штурхнуў яе ўбок. Можна сказаць, што ён яе проста кінуў, штурхнуў у сцяну. З усяго размаху яна грунулася плячыма ў сцяну і як нежывая аб'ехала на зямлю. Там расла крапіва і лопух, і яе бадай-што і не відно стала. Але, можа, Адам яе і добра бачыў. У гэты момант ён ужо не мог разважаць. У дадатак да ўсяго, ён бачыў, як Антон трымаў ужо ў руках дугу, разгублена і беспарадна азіраўся, і рукі яго трэсліся. Адаму не было ўжо цяжка хапіць з Антонавых рук дугу і рынуць яе на Антонаву галаву. Антон яшчэ з момант пастаяў на нагах, нават, здавалася, паспрабаваў азірнуцца і раптам паехаў уніз. Акрываўленая галава яго лягла нерухома.

Цяпер і пачалося вялікае ўтрапенне. На Ксавэра Блецьку найшла панурая аслупянеласць. Яшчэ больш ён угнуў плечы і бязмэтна пачаў таптацца каля драбін. Адам стаяў на адным месцы і тросся. Локці яго хадзілі ў бакі, пот ліўся з яго ручаямі, і ён задыхаўся. Дзіўная рэч, але, стоячы так наводдалек ад Антона, ён, мусіць, быў упэўнен, што той ужо нежывы, бо нешта вельмі адразу, крыху адумаўшыся, ён хапіў Антона за плечы і ўцягнуў яго ў стайню і закідаў гноем. Сапучы, як кавальскі мех, ён праз мінуту ўжо капаў у стайні яму. Думка яго, відаць, працавала цяпер вельмі ясна. Але, кінуўшы рыдлёвак дваццаць зямлі, ён раптам шпурнуў рыдлёўку і выскачыў на двор.

«Мне трэба скрыцца»,— ірванулася яго думка ў іншы бок, і ён выбег за браму.

Праз мінут дваццаць ён вярнуўся назад і ўбачыў, што бацька яго капае ў стайні яму.

— Усё адно дашукаюцца,— разважліва сказаў ён бацьку, і той кінуў рыдлёўку на гной.

— Што ж цяпер рабіць? — абазваўся бацька.

— Мне трэба скрыцца... Мне трэба ўцячы куды-небудзь...

— Могуць падумаць і на мяне.

— На цябе не падумаюць, калі я скрыюся.

Ён разважаў даволі лагічна. І тут яны ўспомнілі пра Амілю. Але на тым месцы яе ўжо не было. Выйшаўшы з забыцця і нічога не ведаючы, што адбылося, яна здолела дабрацца да дома, некалькі разоў падаючы і зноў падні-маючыся. Адам і Ксавэр убеглі ў дом, паднялі яе з падлогі і паклалі на пасцель. Яна зноў упала ў забыццё. Малы парабчук, які ў гэты час быў у доме, неўзабаве западозрыў, што нешта тут адбылося, і пайшоў сказаў людзям. Увечары на хутары была ўжо міліцыя, і вельмі выразным апраўданнем для Ксавэра Блецькі было тое, што Адам скрыўся. Яго ўжо і следу не было. Ксавэр і сказаў, што Антона забіў Адам. Аміля знайшла яшчэ ў сабе сілы, каб і сама пацвердзіць у гэтым сэнсе сваю здогадку. Цераз ноч на рассвітанні яна пачала старацца штосьці сказаць. Ксавэр Блецька не так разабраў, як здагадаўся аб яе словах. Аміля гаварыла:

— Гальвас згубіў маю маладосць, а ты згубіў усё маё жыццё. Ты адабраў у мяне дзяцей. Майго сына ты зрабіў маім забойцам... Божа, дай мне хутчэй памерці...

Цэлы дзень яна праляжала з шырока расплюшчанымі вачыма, як бы ўглядалася перад сабой у штосьці толькі цяпер зразумелае ёй, а к вечару, перад самым заходам сонца, памерла, у яснай памяці. Дзён праз дзесяць пасля пахавання Антона і Амілі Адам прыйшоў уночы дадому. Ксавэр Блецька не спаў. У ботах і ў верхняй рубашцы без падпяразкі ён ляжаў на непасланай пасцелі. У пакоі віселі хмары махорачнага дыму. Адам моўчкі сеў на табурэт і закурыў. Бацька таксама моўчкі курыў. Доўгі час яны нічога не гаварылі, быццам так і трэба было, што ў гэтую ноч Адам немаведама адкуль з'явіцца дадому, а бацька будзе так ляжаць і доўга маўчаць. Нарэшце Ксавэр Блецька абазваўся:

— Дзе ты быў?

— Тут, каля дома, па лесе бадзяўся.

Ксавэр Блецька ўсхапіўся, быццам толькі цяпер ён дайшоў да сэнсу рэчаў. На твар яго лягла пячаць жальбы аб Адаме. Ён хапіў сына за плечы і нейкі час патрымаў яго так.

— Скончана ўсё,— ціха сказаў Адам.— Мяне шукаюць?

— Шукаюць.

— Дык мне трэба куды-небудзь дзецца.

— Куды ж дзецца?

— Сысці куды-небудзь вельмі далёка. Пайду, а там сам буду бачыць, як усё павернецца.

— Праўда. Іншая рада не служыць. Усё роўна трэба будзе нейк інакш жыць. Сёння прыязджала зямельная камісія. Абрэжуць лішнюю зямлю... Толькі ты, можа, як адкуль абзавешся мне?

— Як жа я абзавуся? На мой след калі нападуць, дык што тады будзе?

— Праўда.

Ксавэр Блецька бачыў, як праз туман, што Адам устаў, яшчэ раз закурыў, палез у ніжнюю шуфляду ў шафе, забраў усе грошы да апошняга рубля і стаў у парозе. Бацька ўскінуў на плечы ватоўку. Адам адзеў свой новы гарнітур і выйшаў з дому. Ксавэр Блецька прайшоў з ім да палавіны першай грады лесу, і там яны развіталіся. Ужо цадзілася першае рассвітанне, калі Ксавэр вярнуўся дадому. Да ўсходу сонца яму яшчэ ўдалося перамагчы самога сябе і задрамаць. Дзень ён спаткаў у поўнай рашучасці жыць, як пойдзе жыццё на малой, адрэзанай ад лішняй зямлі, гаспадарцы. Пра Адама ён стараўся не думаць, бачачы ў гэтым ратунак ад лішняга каменя на сэрцы.

Адамаў след згубіўся тут зусім. Многа яшчэ дзён туляўся ён паблізу свайго дома, але ні разу не зайшоў пабачыцца з бацькам: страх быць злоўленым уладаў ім беспярэпынна. Часамі ён даходзіў да самага краю лесу і з-за дрэва бачыў комін свайго дома, але жах, што яго могуць убачыць людзі, гнаў яго адразу ж назад у лес. Часам ён адыходзіўся ад гэтага месца кіламетраў за дзесяць, калоцячыся ад кожнага чалавечага голасу і кожнага груку калёс. Зноў, без надзеі і веры, варочаўся назад і зноў адыходзіў. Начамі ён выграбаў рукамі бульбу з зямлі на прылесных палетках і пёк яе, раскладаючы агонь у самым лясным гушчары. Ён аброс і схуднеў, стаў касматы і страшны. Адным сваім выглядам ён мог навесці жах на чалавека. Ні то што думка, а інстынкт яго працаваў увесь час вельмі востра. Ад самага найменшага гуку дзе-небудзь далёка ён паднімаў галаву і стойваўся дзе-небудзь пры дрэве. Раз, ужо ў канцы лета, ён выбіўся на край самага большага лесу тут, з аднаго боку якога і былі тыя яго ранейшыя пяцьдзесят дзесяцін зямлі, а з другога — роўнае поле, яно належала калісьці Гальвасу. Гэта было штосьці накшталт

вялікай паляны. З двух бакоў паўкругам рос тут хвойны лес, з аднаго боку праходзіў Нясвіжскі гасцінец, і за ім жаўцеліся аўсяныя палеткі, а на захадзе даволі выразна для вока вызначаліся высокія старыя дрэвы. Часам яны стаялі адзінока, у некаторых месцах раслі густа па некалькі. Зяленіва травы пад імі злівалася на даляглядзе з сінявай істужкай далёкага лесу. Выглянуўшы з прылеснага хмызняку, Адам Блецька ўбачыў непадалёку некалькі няскончаных хат: тут будаваліся людзі. Стаяла некалькі зрубаў. На некаторых былі ўжо кроквы і латы, некаторыя былі даведзены толькі да верхніх вянкоў. Усюды ляжалі бярвенне і складзеныя на сонцы свежыя дошкі. І нідзе не відно і не чутно аніводнага чалавека і нікога і нічога жывога. Адам Блецька стаяў перад гэтым малюнкам у бяздум'і. Ён у гэтым кутку не быў з самай зімы, тады яшчэ тут было голае поле. Але ён не чапляўся думкай за тое, як скора тут забудаваліся людзі. Не было чутно нідзе ніякіх гукаў, і ён не трывожыўся. К таму ж да гэтага часу ён пачаў тупець. Неўзабаве аднак яго ўвагу ўзяў на сябе самы бліжэйшы к лесу, бадай-што ўжо закончаны дамок. На ім ужо быў дах з белай гонты, устаўлены аконныя рамы і два акны зашклёныя. Не было яшчэ падмуроўкі, і сцены стаялі на тоўстых, кароткіх палях. Не было і сенечных дзвярэй. Але ў ім ужо, відаць, жылі людзі, бо на ўбітых скрозь у сцяну цвіках ад вугла да вугла віселі на сонцы кілбасы, шынкі і падсохлыя сыры. Вочы Адама Блецькі спыніліся на гэтай прынаднасці. Трэба думаць, што яго атупеласць уладала ім ужо як мае быць, бо ён, не думаючы пра якую б там ні было небяспеку, шпаркай хадой рушыў да дамка і пачаў зрываць кілбасы і сыры з цвікоў і класці ў свой мяшок, які быў у яго даўно пусты ўжо. Ён апаражніў ужо бадай-што паўсцяны, як раптам пачуліся нечыя крокі. Блецька ўскінуў галаву, і ад таго, што ён убачыў, у яго сціснулася горла і сэрца гатова было задушыць яго. Шумна ступаючы па тоўстаму пласту свежых трэсак, проста да яго ішла дзяўчына. Яна не бачыла яго. От яна спынілася, разаслала на зямлю дзяругу і пачала выбіраць і класці на яе большыя трэскі. Валасы яе густа выбіваліся з-пад сіняй хусцінкі, завязанай рагамі пад барадой. Яна была ў старых, растаптаных і незашнураваных туфлях на босую нагу. Наглядальны чалавек мог бы з першага разу падумаць, што ў яе, можа, занадта выдзяляецца на твары рыса бесклапотнай наіўнасці. Але гэта,

8 2488

можа, і не мела дачынення да яе душы, а ляжала толькі ў твары, дзесьці ў губах і паміж броваў. Адам Блецька аслупянеў ад страшнага смутку, які адразу здушыў яго. На адзін, самы найкарацейшы, момант у яго ажылі далёкія адзнакі свядомасці і жудаснае адчуванне ва ўсёй сваёй паўнаце, што дзеля яе, дзеля гэтай істоты, можна аддаць нават усё сваё жыццё. Ахоплены ні з чым непараўнаным смуткам па жанчыне, ён стаяў нерухома, і перад вачыма яго расплываліся цёмныя кругі. Мяшок, напалову напакаваны кілбасамі і сырамі, ляжаў каля яго ног. І тут яна ўбачыла яго. Нешта занадта спакойна яна яшчэ паспела кінуць вачыма на апусцелыя цвікі ў сцяне і адразу закрычала: — Злодзей! — Але тут яна пазнала яго і з дзікім крыкам: — Ой! — кінулася бегчы туды, дзе відны былі з гасцінца бярозы. Першым яго рухам было пабегчы за ёю, прынамсі пячаць гэтага руху, ужо ў сваім дзеянні, як маланка, уздрыганулася на яго твары. Але тут жа ён хапіў у сябе з-пад ног мяшок, закінуў на плечы і шпарка пайшоў у лес. «Цяпер усе будуць ведаць, што я тут хаджу»,— ужо зусім ясна працавала яго думка, і ён усё ішоў і ішоў лесам. За доўгі летні дзень ён прайшоў многа, трымаючыся зараснікаў і глухіх сцежак. На заходзе сонца ён сеў на імшыстую купіну ў лесе і доўга еў з свайго меха кілбасы і сыры. На гэтым месцы ён прабыў некалькі дзён, бесперастанку то едучы́, то сплючы. Калі мяшок яго стаў лёгкі, ён пайшоў далей. Ішоў усё і ішоў, старонячыся людскога вока. Аднаго дня ён агледзеўся навокал сябе, і яму здалося, што можна ўжо ісці смялей. Ён выйшаў на дарогу. Было недалёка да вечара. Сонца стаяла нізка і біла яму проста ў вочы. Постаць яго прапала дзесьці за ўзгоркамі, хмызнякамі і ў далечыні дарогі.

Цяпер ён мог думаць, што цвёрда і смела стаіць на зямлі. Усё тое і ўсе тыя, што, як карны лёс, віселі над ім, асталіся далёка і сюды не дасягнуць. Ён сам здзівіўся сваёй спрытнасці — як яму ўдалося перапаўзці граніцу. Цяпер ён быў у іншай дзяржаве і напляваць яму на ўсё. Напляваць? Але ж там астаўся свой дом. Усё там было так добра і там няма ўжо таго, хто перашкаджаў яму. Там ён жыў, тут толькі трэба будзе старацца кавалка хлеба. Ім заўладаў змрочны смутак, і пачало запаноўваць прасвятленне ў думках. Ён абмацаў кішэні, дзе ляжалі ўзятыя дома з шафы грошы. Вялікія грошы! І нічога тут яны не былі варты. Сапраўды прыйдзецца шукаць ужо не жыцця,

а хлеба. Але пакуль што трэба паказаць тут, як моцна ён ненавідзіць усіх тых і ўсё тое, што ён пакінуў за сваімі плячыма. Сваю нянавісць ён прынёс сюды, ён не растраціў яе за сваю сумпую дарогу.

У гэтыя хвіліны ён адчуў голад. Нічога ў яго не было. Кілбасы і сыры ён даўно паеў. Баязлівасць і затлуменне галавы загнала яго так далёка на захад, тады калі першая зачэпка яго магла быць бліжэй к дому. (Дом не даваў яму спакою.) Гэта была хоць і слабая, але адзіная тут яго надзея. Перамагаючы голад, ён шпарка рушыў назад, на ўсход. Ён ішоў усю ноч і ўдзень уваўшоў у горад Нясвіж.

## IV

Ён здагадваўся, што недзе тут трэба шукаць Гальваса. Што яму быў Гальвас? Тут ён дзейнічаў больш інстынктам, як розумам. Тут сышлося ўсё. Недзе глыбока ў душы абзывалася адчуванне таго, што ўсё ж такі ён звёў са свету таго, хто ў некаторай меры вісеў над Гальвасавай душой. Аднак жа ён думаў і пра тое, што цяпер гэта няважна. Але ён ужо не мог спыніцца на чым-небудзь іншым. Ён ведаў, што прападзе без чужой падтрымкі.

У такім малым горадзе, як Нясвіж, ён вельмі хутка знайшоў вялікага раней і здаўных тут вядомага магната Гальваса. Але ён не чакаў таго, што ўбачыў. К дому, дзе жыў Гальвас, падышоў ён даволі разгублены. Увайшоўшы ў Нясвіж з Гарадзейскай дарогі, ён з сумам глядзеў на знаёмыя яму вуліцы і як з таго свету бачыў усё, што было навокал яго. Бляск сонца ў замкавым возеры сляпіў яму вочы, але ён не заўважаў гэтага: яго тачыла думка, што ўсё тут добра было толькі тады, калі ў яго было сваё ўласнае аселішча. На Новым Месце ён звярнуў налева і пайшоў драўлянымі тратуарамі на край гэтага Нясвіжскага прыгарада, дзе стаялі дамкі дробнай Радзівілаўскай службовай драбязы. Усё было зелена, скрозь раслі дрэвы. Патрэбны яму дом стаяў глыбока ў садзе, вялікім, падобным да парку. Змрочныя ліпы і клёны стаялі быццам у цемені, так густа яны раслі. Ён некалькі разоў абышоў навокал дома, памятаючы, што тут лёгка не пераступіш парога высокага чалавека, як гэта рабілася там, адкуль ён прыйшоў. Ён стараўся ўвайсці праз чорныя дзверы, але яны былі наглуха забіты цвікамі. Набраўшыся смеласці, ён пайшоў на высокі ганак. Застаўлены лішняй мэбляй

калідор быў перад ім. Ён доўга азіраўся на ўсе бакі, пакуль адважыўся ісці далей. Там быў вялізны пакой, зусім пусты. А яшчэ далей малы пакой, і таксама пусты. Тут усюды панавала мёртвая цішыня, і крокі яго гулка аддаваліся ў пустых сценах. Цяпер ужо ён ішоў праз пустыя пакоі і раптам наткнуўся на нечаканасць: перад ім быў пакой з дыванамі на сценах і на падлозе, устаўлены шыкарнай мэбляй. Адам Блецька падаўся задам назад і стаў у парозе. Раздумваючы, што рабіць, ён раптам заўважыў на адной з дробных канапак жанчыну. У чорным адзенні з жоўтым бантам у валасах жанчына спала і так моцна, што не чула надакучлівых мух, якія бегалі ў яе па губах. Адам Блецька кашлянуў, яго не пачулі, і ён пасмялеў. Неўзабаве ён проста-такі ўзрадаваўся: у соннай жанчыне ён пазнаў Гальвасаву служанку, тую самую, якую ведаў з маленства і якая паехала з Гальвасам на выгнанне. «Дзякуй табе, божа»,— падумаў ён і паспрабаваў пабудзіць яе. Але яна спала, як нежывая. На пальчыках ён прайшоў праз пакой і адчыніў дзверы. Там зноў былі пустыя сцены і пакой вельмі вялікі. «Вось і ўсё, што тут ёсць жывога ў гэтым доме»,— думаў ён пра служанку і пакой, дзе яна спала, і рашуча пайшоў далей, намерыўшыся прайсці да канца пустымі пакоямі ўвесь дом і тады вярнуцца назад, пабудзіць служанку і як мае быць распытаць пра Гальвасаў. Але тут, у пустой зале, ён убачыў, як нехта доўгі, тонкі і мёртвы ляжаў на засланым жоўтай капай тапчане. І нікога тут больш не было. Адам Блецька ўздрыгануўся. Страх перад тым, што яго засцігне помста за забойства брата, апанаваў яго.

— Хто тут? — крыкнула раптам служанка і сонная, жоўтая і змучаная ўбегла ў пакой. Адам Блецька вінавата азірнуўся і адчуў, што хтосьці з'явіўся тут трэці. З далейшага пакоя, з дзвярэй, там, за мерцвяком, выйшаў малады Гальвас. Адама Блецьку пазнала служанка.

— Ты тут? — радасна сказала яна.— Як ты дачуўся?

— Што дачуўся?

Але яна ўжо яго не слухала, больш не пытала і не гаварыла. Яна цягла яго за рукаў назад у пакой, дзе толькі што спала. Малады Гальвас падышоў і запытаў абыякавым голасам:

— Гэта ты яго пазвала?

— Ён сам прыйшоў.

— Усё роўна,— адказаў ён, адыходзячы ад акна.

Адам Блецька пасмялеў, з цікаўнасцю паглядзеў на мерцвяка і пазнаў, што гэта ляжыць сам стары Гальвас. Служанка выцягла яго ў першы пакой і горача зашаптала:

— Хто табе сказаў прыйсці? Слухай...

— Я сам шукаў Гальваса, можа, я каля яго як-небудзь уладаваўся б. Можа, я служыў бы ў яго...

— А што ты дагэтуль рабіў?

— Як дагэтуль? — адказаў ён з прыўзнятасцю пагардліва да служанкі, якая не ведала яго спраў.— Я прыйшоў адтуль. Толькі што. І не ведаю, што рабіць.

— Адтуль? — перапытала служанка, можа, нават і не разумеючы сапраўднага сэнсу ўсёй справы. Яна моўчкі выйшла да маладога Гальваса і неўзабаве вярнулася.— Паніч сказаў, каб я табе сказала, што рабіць. (Адам Блецька ўздрыгануўся ад радасці.) Скоранька хадзем. Ты ведаеш, дзе каталіцкія могілкі? Але чакай, я сама з табой пайду. Божа мой, хоць на свет выйсці. Нагаравалася я з хворым... Не, не з хворым, але з ім, з маладым. Ну проста няшчасце з ім. Праўда, такі самы быў пад старасць нябожчык. (Яна забегла ў нейкую гнілую хату і выйшла адтуль з рыдлёўкай і павяла яго цераз горад.) Пакуль былі дома, яшчэ сяк-так, а як сюды прыехалі, тутэйшы нейкі пан, колішні дружака, з ласкі аддаў яму гэты дом і сказаў яму раз з усмешкай — пакуль, кажа, бальшавікі цябе выгналі з маёнтка, дык ты сам рашыў яго. Пасля гэты пан да нашага воч не паказаў ні разу. Нябожчык нудзеў і пражываў гатовыя грошы, што яшчэ з ранейшага было. Нябожчык памёр, а ён, як няўдалы які, паніч наш. Бацька нудзеў і хварэў, а гэты нават нудзець не ўмее, хто яго ведае, што гэта за чалавек. Усё маўчыць. І таксама праядае гатовыя грошы. Бацька памёр, а ён, як няўдалы, не ведае, што рабіць. Як дзіця малое. Не ведае, як бацьку пахаваць. Каб яму ўсё было гатовае. І ніхто са знаёмых паноў і носа не ткнуў, яго не любілі, што ён сваю фамільную зямлю збываў мужыкам. Толькі два паны, такія самыя ўцёклыя, як і наш, прыйдуць на пахаванне. І з Радзівілаўскага замка прыслалі кветкі і аксамітавую пакрыўку на нябожчыка. У замку ведаюць, што нябожчык і жыць не ўмеў, і памёр як старац.

— Дык малады Гальвас нідзе не служыць, а так сабе жыве?

— Невядома, як ён будзе жыць далей.

Адам Блецька спахмурнеў: не такога Гальваса яму было трэба. Яму патрэбен быў вялікі пан або вялікі чын, каля якога льга было б жыць. Аднак жа рвацца куды-небудзь інакш цяпер нельга было і думаць. Яны прыйшлі на могілкі, і там ён пачаў капаць магілу. Служанка неўзабаве пайшла, і ён застаўся адзін. Ён чуў, як шуміць вецер над яго галавой у лісці старых бяроз, і тое, што ён слухае яго і капае зямлю, а не так сабе ідзе чужой дарогай, уводзіла яго ў раўнавагу, быццам ён ужо зачапіўся за першы пункт у новым сваім жыцці. Змрокам ён скончыў капаць і пайшоў назад з рыдлёўкай на плячы. Там яго ўжо чакалі. Здавалася, што ён тут заўсёды быў і без яго і гадзіны не маглі абысціся. Ён расчысціў у калідоры месца, дзе заўтра пранясуць труну, саскроб рыдлёўкай закарэлую гразь на ганку, з-за якой не магла на ўсю шырыню адчыняцца фортка дзвярэй. («Дрэнна ж жыў Гальвас»,— трывожна падумаў ён.) Назаўтра з палкамі прыйшлі два прыгорбленыя паны і ксёндз, з замка прыслалі коней, і жалобная працэсія, найбольш жалобная не смерцю, а трагічнай Гальвасавай убогасцю і бязлюднасцю, прайшла праз усё Новае Места і праз святую мураваную браму, якая аддзяляе Новае Места ад горада, і завярнулася направа да касцёла. Шырокае скляпенне Нясвіжскага парафіяльнага касцёла адбівала ад сябе ціхія словы ксяндзоўскай малітвы, і яны ў гэтай пустэльні зліваліся ў адзін гул. «Божа, дай мне добра жыць»,— маліўся мала вядомаму яму каталіцкаму богу Адам Блецька і хрысціўся па-праваслаўнаму. І ніколі так, як цяпер, ён не адчуваў, што ўсё, што было, ніколі не вернецца. Яго душа цьмяна адчувала, што зараз ляжа ў выкапаную ім магілу ўвасабленне таго, што было раней, і што пачалося на свеце нешта новае, і што ён выйшаў адтуль і наперадзе, а ці скора, а ці праз многа год, будзе для яго нешта страшнае. І трэба яму пачынаць жыць спачатку, і ці ўдасца гэтае жыццё? І трэба асвойтацца з светам. Праз гадзіны дзве ён адзін засыпаў старога Гальваса зямлёй і астаўся на могілках сам-насам з маладым Гальвасам. Служанка села наводдалек на ўздзірванелую магілу і чакала.

— Паночку,— сказаў Блецька,— я хачу пры вас астацца.

— Добра,— адказаў Гальвас.— Мне патрэбен слуга, мужчына.

— Але ж я прыйшоў адтуль. Каб мне тут упісацца.

— Упішашся,— сказаў змрочна Гальвас.

Адам Блецька пайшоў з могілак следам за сваім новым панам. Ужо ў горадзе стомлены Гальвас кінуў яму на рукі свой плашч. Блецька адчуў, што мацней становіцца на грунт. Праз некалькі дзён непатрэбная тут больш служанка знайшла іншую службу, і Адам Блецька адчуў сябе бадай-што гаспадаром ва ўсім доме. Гальваса ён не бачыў цэлымі днямі і толькі ўвечары раздзяваў яго і ўкладаў спаць. Ён вельмі хутка налажыўся да гэтай работы, і пакрысе ў яго пачала з'яўляцца думка — ці не можна як з цягам часу заўладаць гэтым домам і садам пры такім дзіўным чалавеку, як яго пан. Ён не ведаў, што Гальвас і сабе, і яму рыхтаваў іншую дарогу. Усё вельмі скора выявілася і пацягло Блецьку далей, адарваўшы яго ад думак пакрысе і неўзаметку зрабіцца несвіжанінам. З вялікім адчаем ён пакідаў гэтае месца, бачачы, што зноў пачынаецца невядомасць, але разам з тым, вызначаецца дарога і ў зусім ужо чужыя далі і яшчэ далей ад тых мясцін, куды можа далятаць вецер з-пад роднага дома. Але дзіўная рэч, ні разу ён не падумаў, што дайшоў да гэтай свае сцежкі праз кроў роднага брата.

Месяцаў праз два пасля пахавання бацькі Цэзары Гальвас пісаў свайму быццам бы другу нейкаму Генрыху Тоўхарту:

«...Я не ўладаю так нямецкай мовай, каб пісаць табе ёю. Таму я пішу табе нейтральнай мовай паміж намі — рускай, якую ты дасканала ведаеш. Мілы Гіндрык, я астаўся зусім адзін і не толькі нікому не патрэбен, але і мне ніхто не патрэбен. Я хаджу сярод усяго, што для мяне абыякавае. Я пахаваў бацьку і жыву цяпер у Нясвіжы, які стаў цяпер прыгранічным горадам. А наш маёнтак, дзе ты вырас, астаўся ў іх, у бальшавікоў. Я не маю з чаго і дня пражыць. Праўда, ёсць фамільнае золата, але яго так мала і яно так шпарка сплывае ў рукі нясвіжскіх перакупшчыкаў, што яго можна не лічыць. Сувязей у мяне тут няма ніякіх. Усе яны яшчэ ўсё глядзяць на мяне не як на эмігранта, а як на сына таго Гальваса, які сам праз сябе збяднеў яшчэ да рэвалюцыі. Мяне тут ніхто нічым не звязвае і да нічога не прывязвае. Я нікога тут не люблю, нават ніводнай жанчыны. Самая дасканалая на ўвесь свет жанчына, пасля таго як яна мне да пэўнага часу становіцца непатрэбнай, уяўляецца мне толькі як жывёльны арганізм з усім тым агідным, што робіцца ў яго ўсярэдзіне. З гэтага

ты можаш бачыць, што я не магу нават і каханнем да жанчыны прывязаць сябе да таго, чым жывуць усе. Якая ў іх мэта? Яны проста ўяўляюцца мне казюлямі, якія кішаць на свеце, а пасля здохнуць, напладзіўшы на далейшае сабе падобных. Калі два месяцы таму назад я наглядзеўся на мёртвага бацьку, я ўвесь час цяпер адчуваю, як мяне пранізвае холад: я ўсё думаю пра тое — усярэдзіне ў мяне мой шкілет, і я нашу яго ў сабе — самы звычайны шкілет, той самы, што з дзіркамі замест вачэй і носа, страшны і агідны, і, калі я абмацваю свае пальцы, я праз скуру абмацваю шкілет. Чалавечае жыццё ёсць непаразуменне. Чалавек узнік на зямлі незалежна ад яго волі, а ён і рад, як мой лёкай мужык Адам Блецька, які ваксуе мае боты і прыглядаецца, ці скора вечар. Вечарам ён мне не патрэбен і можа жыць сам сабой. Я наглядаў, як ён бывае рад аж да шчасця. Я табе пішу ўсё гэта на тое, каб ты мяне зразумеў. Я думаю, што мне варта было б выехаць адгэтуль. Нашто? Можа, на тое, каб ажывіцца. Усё ж такі свет вялікі, і ў ім можна многа знайсці хвіліннай асалоды. Тады ні аб чым не думаеш, і гэта лепш. Можа, я куды-небудзь і выеду, а можа, астануся тут жыць дзень за днём, пакуль у перакупшчыцкіх руках не апыніцца ўсё маё золата. А тады што будзе — я аб гэтым не думаю. Аднак жа я хачу мець у жыцці больш такіх момантаў, калі можна забыцца на тое, што ты жывеш на свеце. Яшчэ з недарослых год я ўспамінаю заходнія курорты і наогул захад. Мне здаецца, што там я знайшоў бы больш асалоды сабе, чым дзе інакш. Таму я і пішу табе — ці не мог бы я прыехаць да цябе і там нейкі час агледзецца. А там пакіруюся куды-небудзь. Але і не толькі так. Можа быць і тое, што, змяніўшы месца і абставіны, я не так гляну на свет і штонебудзь новае, раней нязнанае сагрэе маю душу і я ажыву. Усё ж такі страшна заўсёды думаць, што ты ўвесь час носіш у сабе свой уласны шкілет і ён ёсць ты сам. А не ажыву я — дык і так буду жыць, толькі на адзіноце. І не інакш як там, на захадзе. Я памятаю адно месца, куды мяне калісьці вадзіў бацька: перад вачыма гара, як сцяна, голая, шэрая. Усё замыкаецца тут, не толькі вочы, але і думкі не могуць ісці далей гары. Сонца тут толькі пасля паўдня выходзіць з-за гары і не надоўга, і няма бляску і святла. Там я пражыў бы ў спакоі. Калі годы вайны і рэвалюцыі не кранулі вашага дома і калі ты жывеш — напішы мне. Вітаю твайго добрага старога бацьку. Ад май-

го бацькі я апошнімі гадамі не раз чуў, што магіла тваё маці заўсёды была ў парадку і доглядзе. Твой Цэзары Гальвас».

Трэба думаць, што ў гэтым пісьме не было толькі таго, што ў ім пісалася. Усё ж такі абыякавы да ўсяго Гальвас кудысьці імкнуўся. Прынамсі пасля, у сваіх гаворках з Генрыхам Тоўхартам, ён прызнаваўся, што не так там тая гара, што сціскала вока і думку, як яму хацелася нешта знайсці на свеце і стаць далей ад усяго, сярод чаго ён жыў у Нясвіжы. Ён ненавідзеў усіх, хто не прызнаваў свае колішняй дружбы з яго бацькам. Разам з тым ён не быў абыякавы і да той мясціны, адкуль яго выгналі простыя людзі. Толькі цяпер ён убачыў, што толькі там ён мог бы пражыць жыццё без смутку, бо там не трэба было думаць аб тым, што будзе, калі фамільнае золата апынiцца ў перакупшчыкаў.

Але разам з тым у пісьме сапраўды была шчырасць. Гэта праўда, што цяпер ён усё жыццё мог бы пражыць пад сцяной голай гары. Прасцей кажучы, ён мог цяпер быць усё жыццё і пад чужой воляй, і без усялякай уласнай волі ў жыцці, абы захаваць асалоду не адыходзіць ад раней выпрацаваных хоць некаторых прывычак. Але адно трэба ведаць — у яго пісьме не было анізвання якой бы там ні было позы ці фразы. У гэтым сэнсе тут была самая вялікая шчырасць.

Адам Блецька праз нейкі час, пад сярэдзіну ўжо восені, калі аднойчы Гальваса не было дома, убачыў на стале дробна пісанае пісьмо без канверта і каля яго неахайна разарваны канверт. Адам Блецька мог не тое што чужое пісьмо прачытаць, а нават і чужых пару коней з чужога хлява вывесці. І ён перабраў ад радка да радка пісьмо, пісанае па-руску Цэзарыю Гальвасу Генрыхам Тоўхартам.

Гэтага Тоўхарта Блецька ведаў. Ведаў нават, куды і калі ён з Гальвасаўскага маёнтка дзеўся. І яму не было нічога дзіўнага ў тым, што пісьмо гэтае прыйшло да Гальваса з Германіі. Калі маёнтак стаў занепадаць, Гальвас выпісаў сабе з Германіі ўпраўляючага. Той прыехаў з жонкай і пустымі кішэнямі. Гэта быў Тоўхарт, высокі, крыху прысутулены і даволі пажылы чалавек. Ён меў агранамічную асвету, але тутэйшай зямлі не ведаў і пра ўсё пытаўся ў тутэйшага аканома, якога застаў у маёнтку. Неўзабаве ён убачыў, што маёнтак сыходзіць на няма нішто не

ад таго, што дрэнна вялася аканомам гаспадарка, а ад таго, што Гальвас кідае на вецер грошай больш, як можа даць маёнтак. А дзеля гэтага ён прадае і лес з пня, і жыта на полі яшчэ з мая месяца. На гэтым асцярожны немец і аціх і вёў сабе гаспадарку так, як яна вялася аканомам. Тут нарадзіўся ў яго сын Генрых, якога ён пасля завёз у Слуцкую гімназію. Гэта было за некалькі год да імперыялістычнай вайны. Генрых быў ужо рослым хлопцам і ў поўнай меры дружыў з Цэзарыем Гальвасам, як раптам стары Тоўхарт пачаў спасылацца на нейкія свае раней невядомыя хваробы і папрасіў разліку ў Гальваса. Ён спасылаўся таксама і на тое, што памерла яго жонка і ён, адзін, хоча ўжо дажыць веку дома, у Германіі. Тады ён і выехаў разам з сваім Генрыхам. Тыдняў нешта праз два пасля яго выезду пачалася імперыялістычная вайна, і здагадлівыя людзі гаварылі, што хітры немец тут нешта ведаў і заўчасна знік з чужой зямлі. Гэтыя ўспаміны пра Тоўхарта і чужыя расказы пра яго Адам Блецька захаваў у памяці і цяпер падумаў, што ён гэтага Генрыха Тоўхарта ведае. Гэта быў Блецькаў бадай-што равеснік. Блецька памятаў яго і малым, і пасля гімназістам. За Адама Блецьку Тоўхарт ішоў у гімназіі двума класамі вышэй.

Адам Блецька не ўсё разумеў з таго, што пісаў Тоўхарт. Але ён пра шмат што здагадваўся, а шмат што і зразумеў. Яму стала ясна, што Тоўхарт запрашае Гальваса да сябе ў Германію і абяцае яго вылечыць. Ад чаго вылечыць — Блецька зразумець не мог. Тут ён падумаў па-свойму — што Гальвас хворы на нейкую патаемную хваробу і тутэйшыя дактары не могуць ёй даць рады. Навіна аб выездзе Гальваса ў Германію не была прыемная Адаму Блецьку. Тут ён ужо як мае быць атаймаваўся, служыў верна, і служба была лёгкая. Ён справядліва разумеў, што Гальвас ленаваўся, а можа, і не ўмеў пашукаць сабе добрага лёкая і быў рад, што слуга сам прыйшоў да яго. А цяпер трацілася служба і даволі-такі лёгкі кавалак хлеба. Трэба будзе яму, таму самаму, што меў хутарскую ўласнасць і пагарду да навакольных вяскоўцаў, ісці прасіцца дзе хоць за парабка. Смутак аб страчаным дома жыцці ніколі яшчэ так моцна не мучыў яго, як цяпер. Не зменшыўся смутак і тады, калі Гальвас аглушыў яго навіной: ён запрапанаваў яму ехаць з ім у Германію. Ужо ніякай надзеі не асталося на тое, што калі-небудзь давядзецца вярнуцца ў родны кут. Прынамсі калі праз шмат

год ён убачыў і не пазнаў адразу бацьку і родныя мясціны, ён думаў пра ўсё гэта, як пра нейкі цуд. Цяпер не адставаць ад свайго пана ён згадзіўся адразу. Нічога іншага лепшага ён прыдумаць не мог.

## V

У гэтыя часы Генрых Тоўхарт ужо аніяк не быў падобен да таго тонкага і высокага гімназіста, які так выразна астаўся ў памяці камлюкаватага Адама Блецькі. Цэзары Гальвас мог больш за Блецьку злавіць на чалавечым твары адценняў, але і ён здзівіўся змене, якая адбылася ў гэтай асобе. Не тое было важна, што гэты Тоўхарт патаўсцеў і ўзмужнеў. Была нейкая рыса, якая вельмі выразна праступала наверх з яго душы і клала пячаць на кожны яго рух, і бадай будзе праўда, калі назваць гэта скрытнай пагардлівасцю да ўсяго навакольнага. І здавалася, што гэты чалавек нешта раптам зразумеў і заклапаціўся гэтым на ўсё жыццё. І ўсё было скрытна, усё трымалася быццам пра запас, але з прычыны маладосці чалавек яшчэ не вытрымліваў свае скрытнасці, і ўсё з душы пачынала рвацца наверх, пакуль яе гаспадар не ўспамінаў, што яго душа павінна быць тайнай усяму свету. Але тут не было знарочыстай хітрай скрытнасці. Тут усталёўвалася натура на ўсё жыццё, холадна і роўна.

Калісьці Генрых Тоўхарт быў бедны гімназіст. Бедны не таму, што стары Тоўхарт не меў грошай, а таму, што кожная капейка, выкручаная з Гальвасаўскага маёнтка ў Тоўхартаву кішэню, далучалася да тых капеек, якія перараталі ў рублі, а рублі ў сотні рублёў. І калі які-небудзь Ксавэр Блецька, малапісьменны хамула ў рыжых ботах, ашчасліўлены тым, што яго сын гімназіст, адзяваў гэтага сына з іголачкі, дык Генрых Тоўхарт дапошваў свае гімназісцкія штаны аж датуль, пакуль яны ўжо рабіліся бялявага колеру. Аднак жа гімназіст Блецька быў зашмальцаваны і з вытырклымі каленьмі ў штанах, а Тоўхарт хадзіў, хоць і залатаны, але чысценькі і выпрасаваны. Ён ведаў, што такое зборлівасць. Бацька лічыў найлепшым выхаваннем, калі сын будзе змалку ведаць усе спосабы жыцця. І малады Тоўхарт ведаў, што яго бацька не зважае на свой заработак у Гальваса і грабе сабе колькі хоча з маёнтка, і Гальвас пра гэта нават і не здагадваецца. Штогод Тоўхарт перасылаў грошы к сабе ў Германію, і такім

парадкам к вайне ў яго быў даволі-такі круглы капіталік. Вельмі можа быць, што ўсё гэта і паклала след на душу маладога Генрыха, які прывык бачыць, што вельмі выгадна мець у сябе за плячыма тое, пра што нават і не здагадваецца той, хто стаіць у яго перад носам. Цяпер гэта быў занадта ўжо нейкі сталы і дамавіты малады чалавек.

Адам Блецька апынуўся ў яго дома і жахнуўся: усё тут душыла яго, усё тут яму было цеснае і цяжкае. Так прынамсі яму здавалася. Гэта быў гарадскі дом, і горад быў вялікі. Непрыемная была Блецьку і падмеценая чыстата вуліц. З непрывычкі да ўсяго гэтага ён доўгія месяцы шукаў вачыма дзе-небудзь кепскага гною або хоць пацярушанай саломы. Дом быў мураваны і з маленькімі пакойчыкамі. Гасцінны гаспадар адвёў два пакойчыкі Цэзарыю Гальвасу, а Блецька атабарыўся ў мураванай прыбудоўцы к дому і стаў цяпер не так слугой Гальваса, якому мала што і трэба было, як сапраўды такі прыгонным рабочым самога Тоўхарта. Гальвас недзе бадзяўся штодзень да позняй ночы па горадзе, тады як Тоўхарт, яго быццам бы друг, сядзеў вечарамі дома як зусім сталы чалавек. Пры доме быў садок і агародзік, быў скляпок з падлічанымі на штукі яблыкамі, і Адам Блецька завіхаўся каля дома з цямна да цямна. Уставаў ён заўсёды прыцемкам, адчуваў, што недзе за горадам зараз будзе ўсходзіць сонца, і думаў, што гэтае самае сонца свеціць недзе і над Нясвіжскай дарогай.

Аднойчы, калі Гальвас быў вельмі нездаволены тым, што яго слуга не разуў яго перад сном таму, што быў заняты нейкай Тоўхартавай справай, Тоўхарт паглядзеў на свайго госця і друга і з затоенай злосцю сказаў:

— Мілы Цэзары, я даўно хачу з табою пагаварыць. (Гальвас здзіўлена ўзвёў вочы на Тоўхарта.) Бачыш, Цэзары, я твой друг. З твайго пісьма я адразу ўбачыў, што ты гінеш ад таго, што ў цябе ўсё адабралі.

— Я мала цікавіўся тым, што ў мяне было.

— Гэта ты гаворыш з свае дурной гордасці, якая так характэрна ўсім тым, хто выйшаў адтуль, з усходу ад Германіі.

— А ў немцаў хіба няма гордасці?

— Я гавару пра дурную гордасць. У немцаў яна разумная і аснавана на практычнасці. Бачыш, Цэзары, я твой друг. І як толькі я даведаўся, дзе ты і што з табою, я не мог дапусціць, каб ты прапаў там.

— Я табе вельмі ўдзячан, Генрых, але цяпер я ўбачыў, што і тут, і, мусіць, ужо нідзе, я не знайду сабе месца і таго, чаго я хацеў бы.

— А чаго ты хацеў бы?

— Так выразна адразу я табе сказаць не магу.

— Тады, можа, мне сказаць за цябе? Ты хацеў бы быць тым, чым ты быў да рускай рэвалюцыі?

— Не магу і гэтага сказаць. Я тады быў тым, чым быў, так, як на свеце ёсць тое, што ёсць.

— Зноў дурная гордасць. Ты не хочаш сам нават перад сабою прызнацца, што стаў нічым, што цябе рэвалюцыя выкінула з цябе самога. І так ты будзеш, як пясок пад нагамі, пакуль не скінеш з сябе сваю ранейшую прыроду і не пачнеш дзейнічаць на сваім цяперашнім грунце, выходзячы з таго, як ты і што ты цяпер.

— Я ніколі і раней не дзейнічаў.

— Тым больш гэта патрэбна табе цяпер. Раней Гальвас быў блакітным матылём, цяпер павінен стаць практыкам.

— Што значыць стаць практыкам?

— Слухай, Цэзары, са мной так не можна гаварыць.

— А як з табой гаварыць?

— Са мной не можна прыкідвацца, што зямля гэта не зямля і неба гэта не неба. Са мною трэба — калі ідзеш па гнаі, дык і гавары, што твае ногі месяць самае найсапраўднае паскудства.

— Мілы мой Гіндрык, я ўжо даволі навучан, каб яшчэ вучыцца.

— Нічому ты не навучан. (У яго голасе загучэла раздражнёнасць.) Табе няма дзе на свеце дзецца і ты хочаш быць такім, якім быў да свайго няшчасця?!

— Ты хочаш проста сказаць, што я павінен зарабляць свой хлеб?

— Нашто так гаварыць — «зарабляць хлеб»!

— Ну, можна сказаць — трэба старацца жыць! Тое самае. А я не хачу старацца. Трэба жыць, а не старацца жыць. Гэта страшна — старацца, каб жыць, а жыць, каб старацца. Тут няма ні сэнсу, ні апраўдання.

— А што, па-твойму, сэнс?

— Я бачыў бы сэнс у тым, каб не думаць пра яго і не шукаць яго.

— А яго не трэба і шукаць. На чорта ён патрэбен. Ён заўсёды ў тым, што ты робіш!

— Робіш ці вымушан рабіць?

— А гэта не важна. Чалавек і жыве таму што радзіўся і вымушан жыць.

— Дык я так не хачу. Падначаліцца неабходнасці і быць шчаслівым свядомасцю таго, што ты гэтага парога не пераступіш?

— Быць шчаслівым не ад неабходнасці падначалення, а ад свядомасці, што я праз гэта дасягну таго, чаго я магу дасягнуць. І тады пляваць мне на ўвесь свет. І гэтым я вышэйшы за ўсіх.

— Вышэйшы за ўсіх? З парванымі ў пінжаку локцямі?

— Няхай дурні млеюць па бляску, у той час, калі Германія прыніжана і абскублена.

— Малая ўцеха — парваныя локці.

— Гэта ты гаворыш — матыль, які жыве гатовым сонцам.

— Мне хочацца цябе зняважыць за тую праўду, якую ты мне сказаў у вочы. Ад дружбы да нянавісці вельмі блізка. Я не хачу быць, і не магу, казюляй, якая народжана на тое, каб пражыць у гнаі.

— Нашто гаварыць пра казюлю, калі лепш сказаць пра гаспадара, які важдаецца з гноем, а пасля жне хлеб.

— Ты хочаш, каб я змяніў сваю прыроду і стаў чорным працавіком? Гэта нізка — зменьваць сваю скуру. І прыкра. І ганьба.

— А ты ж мне пісаў, што ты абыякавы да ўсяго? Значыцца, ты не абыякавы да ўсяго. Ты яшчэ жывы, раз ты гаворыш пра ганьбу і баішся яе. Тым больш я з радасцю гавару табе пра свой сімвал веры. Прыкрасць на свеце ёсць. І боль ёсць. Але няма ніякай ганьбы. Няма нічога ні нізкага, ні высокага. Ёсць дзеянне, і больш нічога.

— Мой Адам Блецька кожную раніцу выносіць з-пад майго ложка гаршчок,— закрычаў раздражнёны Гальвас.— І гэта таксама дзеянне!

— І гэта дзеянне! І пляваць твайму Блецьку на тое, што ты пра гэта думаеш.

— Значыцца, ты і мне прапаведуеш тое самае?

— Бачыш, ёсць рускі мужык Блецька, які жывёлінай быў і ёй заўсёды астанецца. Гаршчок пад тваім ложкам — гэта яго хлеб. І ёсць сапраўдны чалавек, які ведае цану і твайму гаршку, і твайму Блецьку. І калі перад тваімі вачыма стаіць мільён Блецькаў. Хіба тваё дачыненне да іх

не такое самае, як і да аднаго Блецькі? А калі ўявіць сабе, што ўвесь свет, апроч мяне, гэта толькі Блецькі. Якое тады маё дачыненне да ўсяго свету?

— Але ж Блецькі выгналі мяне адтуль, дзе я мог не задумвацца над тым, што такое сэнс!

— Вось ты нарэшце і практыкам стаў. А гаварыў, што гэта ганьба. Не, ты яшчэ чалавек! Тым больш тваё дачыненне да ўсяго павінна быць як да Блецькі, казюлі і чарвяка.

— Але ж свет не з адных толькі казюль і чарвей!

— А якая карысць мне з таго, што я прыглядацца буду да ўсяго свету, што пра мяне думаюць. Сутнасць усяго чалавечага грамадства ў тым, што кожны імкнецца як-небудзь і чым-небудзь стаць вышэй за іншых. За першынство на свеце вядуцца войны, за першынство на свеце ніжэйшыя выслужваюцца перад вышэйшымі. Лепшы і горшы ляжаць кавалкі. І хто першы дабяжыць, той схопіць не горшы, а лепшы кавалак. Дзе ж тут хвалёнае чалавечае сумленне? Яно існуе толькі ў мазгах тлумачоў, якія з гэтага хлеб ядуць. Таму я кажу: што мне да таго, што хто думае пра мяне. Каб я, скажам, дайшоў да таго, што мог бы мець рэзідэнцыю на іншай планеце, а Зямля была маім маёнткам, калоніяй. І я мог бы сілай — ну, скажам, тэхнікі ці іншай толькі мне ўласцівай сілай, рабіць з чалавецтвам што захачу. Ну, быў бы я, скажам, чалавек іншай пароды. Быў бы я асілкам. Ну, у тысячу метраў вышыні і пад маім абцасам праходзіўся б цэлы гарадскі квартал. І самы моцны выстрал з чалавечай гарматы быў бы мне як калючка з шыпшыны, не больш. Прайшоў бы я ранкам. Прайшоў бы я ранкам і душыў бы падэшвай сотні людзей, як цяпер мух або мурашак. Мне крычалі б услед з-пад маіх ног: — забойца, крывапіец! Хіба б мне не было ўсё роўна, што пра мяне гавораць? Ці я тады лічыўся б што добра, а што кепска? Ты разумееш? Гэта прынцып.

— Але ж ты не асілак. Больш таго, цябе самога пакінулі з парванымі локцямі.

— Гэта нічога. Толькі так навучыўшыся глядзець на свет, можна перамагчы яго і заўладаць ім. А глядзець яму ў вочы і дбаць, што ён пра цябе думае,— так сам ляжаш яму пад ногі. Гэта закон самога свету. І хто прыме гэтую веру, той заўладае ўсёй будучыняй. І ты павінен у гэта ўверавацца. Можа табе гэтая вера і новая, і гэта напэўна

так, але ты цяпер вымушан шукаць сабе веры. У цябе адабралі і веру, і ўсё. Ты цяпер голы.

— Твая вера агульначалавечая ці нямецкая?

— Нямецкая і агульначалавечая. Нас збілі і абскублі, і ў нас цяпер парваныя локці; але мы ясна бачым, што мы самая перадавая нацыя ў свеце. І мы хочам не ратунку, а панавання. А панаваць можна толькі над тым, каго ненавідзіш. Таму мы сваім нацыянальным пачуццём павінны зрабіць нянавісць да ўсяго, што не наша, а нам павінна быць усё роўна, што пра нас думаюць. Бязлітаснасць павінна стаць нашым сцягам. Я ведаю, узнікне адно пытанне, якое прадбачу. Гэта прынцып чалавечай пакуты. Давядзём яе да абсалюта. А для гэтага возьмем чыстую нявіннасць. Яснавокае нявіннае дзіця. І найвышэйшая мера яго пакут ад чужой нянавісці. Можа, гэта і з'явіцца той мерай, каля якой будуць хістацца слабыя духам. І вось гэтую слабасць мы назавем хімерай. Не замілаванне, а нянавісць будзем прапаведаваць мы. Мы зробім гэта нашым евангеліем і з гэтага пункту погляду падумаем — ці прымем мы Гётэ і Байрана як нацыянальных філосафаў новай Германіі; яны цікавіліся смуткам і слязой. Прыйшла пара прызнаць Германію толькі з жалезным сэрцам і нянавісцю. Урэшце сказаць, тое, што мы называем культурай і цывілізацыяй, дасягнута праз знішчэнне звера чалавекам, праз развіццё чалавека нават і фізічна на крыві і мясе забітай жывёліны, на знішчэнні слабейшых і няздольных плямёнаў вышэйшымі і здальнейшымі. І я лічу, што ў імя вялікай мэты мне дазволена зрабіць тое, што ніжэйшымі і горшымі лічыцца шальмоўствам і агіднасцю, і глядзець спакойна ўсяму свету ў вочы, носячы ў душы свядомасць, што мараль чарвяка і казюлі да мяне ніякага дачынення не мае. І ён будзе, той ніжэйшы, пераможны мной, верыць мне. Ён будзе ведаць, што я лгу. Але я буду глядзець яму ў вочы, наставіўшы на яго зброю, і ён будзе ў знак згоды ківаць галавою, што я не лгу. Каб дагадзіць мне, ён будзе ісці сам супраць свае душы. А калі я назаўсёды павешу над яго галавой зброю, ён глыбока ўверуе, што я не лгу і што я самая святая праўда. Так прыйдзе новы свет і так усталюецца новы прынцып і новая мера дабра і зла, справядлівасці і шальмоўства. І калі ты ўверуеш у гэта, ты, якога шпурнулі каленам пад зад, голага і збэшчанага, ты знойдзеш вялікую мэту ў жыцці. Такім парадкам мая нямецкая вера робіцца агульначалавечай верай. І так пачнец-

ца новы чалавек. Стары чалавек, як вынік таго грамадства, якое развівалася на ніжэйшых сваіх стадыях, сантыментальны чалавек, саступіць месца гордаму і прыгожаму жалезнаму чалавеку. І ўсё гэта можа ажыццявіць толькі нямецкая нацыя — вялікі практык і арганізатар. І гэта так і ёсць. Чаму твой бацька не мог у Расіі абысціся без майго бацькі з Германіі?

У гэты момант Гальвасава абыякавасць да ўсяго свету скончылася. Трэба думаць, што сваёй пропаведдзю Тоўхарт напаў на нейкае балючае месца ў Гальвасавай душы. Выступіла на паверхню тое, што магло б і драмаць цяпер ужо вечна, як непатрэбная мінуўшчына. Ён з пагардай глянуў на Тоўхарта і крыва ўсміхнуўся. Асцярожны Тоўхарт дапытліва паглядзеў на свайго друга, чакаючы, што той мае сказаць. Але той маўчаў, і Тоўхарт бачыў на гэтым твары злобнасць. Нарэшце Гальвас сам не вытрымаў маўчання:

— Я табе веру, што мой бацька не мог абыходзіцца без каго б там ні было, але ты з такой упэўненасцю гаворыш, што ў мяне кіпіць злосць.

— Якая?

— Ужо ў Нясвіжы, у эміграцыі; перад смерцю мой бацька — ад смутку пачаў прадумваць усё сваё жыццё. І многа разоў гаварыў тое, чаго я не хацеў слухаць і што мае душы не кранала. Ён крычаў у мае вушы, што, калі ён бяднеў, яго ўпраўляючы Тоўхарт багацеў і проста краў у яго грошы. Гэта было яму лёгка, бо праз яго рукі ўсё ішло. Мой бацька толькі перад смерцю дадумаўся пра гэта! Можа гэта і была тая прычына, з-за якой наша фамілія апошнімі гадамі перад вайной так шпарка кацілася да беднасці. Я не ўпікаю нікога. Усё і так страчана. І гэты дом, дзе я цяпер гавару з табой, пастаўлен за грошы з нашага маёнтка.

— Мой бацька не рабіў ніякага праступку. Узятыя з вашага маёнтка грошы,— спакойна гаварыў Тоўхарт,— мой бацька арганізаваў на карысць. Каб не ўзяў мой бацька, іх расцяглі б рускія мужыкі і прапілі б у карчмах. У Расіі без гэтага нельга. Усё, што на ўсход ад Германіі, толькі дарма займае зямлю. Рускі мужык ні на што не здолен, ты сам гэта ведаеш.

— Мне не важна — ведаю я гэта ці не. А сапраўды,— яго — таго мужыка і не ведаю. Я з ім ніколі не гаварыў і мала калі яго бачыў.

— Гэта лішні раз даводзіць вашу няздольнасць. Вы ўсе там не ведалі, па чым хадзілі. Якія ж вы можаце быць гаспадары? Вы не ведалі таго, што ваш мужык не можа нават памідораў вывесці.

Усю гэтую гаворку слухаў Адам Блецька, які ў суседніх пакоях быў пастаўлен вышмароўваць шчоткай падлогу. Яму хацелася хапіць Тоўхарта за горла і крыкнуць: «Брэшаш! Я ў сто разоў за цябе лепш гаспадарыў! Мой бацька найлепшы сад завёў! Я вывеў бы найлепшыя гатункі яблык!»

Пасля ён слухаў, як Гальвас і Тоўхарт пачалі злаваць адзін на аднаго і бадай-што сварыцца. Праўда, Тоўхарт толькі агырквайся, і даволі спакойна. Блецька бачыў, што Гальвас вельмі абражаны, і ў гэтыя хвіліны пачуццё блізасці і вернасці да свайго пана выразна ажыло ў ім. Выбраўшы зручны момант, ён асмеліўся намякнуць Гальвасу аб сваім шчырым спачуванні яму, супроць Тоўхарта. І раптам убачыў, што ён ужо не чалавек. Гальвас пагардліва паглядзеў на яго і быццам бы нічога не чуў. Блецька не меў ужо ніякай свае волі і годнасці. Гальвас ненавідзеў Блецькава спачуванне да сябе і яго нязгоду з Тоўхартам. Хоць Тоўхарта таксама ненавідзеў, і Блецька гэта бачыў выразна. Блецька заныў, зусім апанураў і змоўк языком і душой. І ні ён, ні Гальвас не ведалі і нават не здагадваліся, дзеля чаго Тоўхарт так старанна выкладаў свайму другу свой фашысцкі сімвал веры. Усё выявілася праз не вельмі далёкі час. Але абодва яны нават і падумаць не маглі, што тут пачалася кожнага з іх вялікая трагедыя, якую Адаму Блецьку хіба толькі ўсімі жыламі сваімі трэба было перамагчы, каб хоць пад старасць, праз многа год, старацца пачаць жыццё спачатку.

## VI

Пачалося жудаснае бадзянне па чужой, незразумелай зямлі. Гальвас узненавідзеў Тоўхарта, і галоўным парадкам за тое, што той глядзіць на яго, як на нейкі матэрыял для сябе. Гальвас аб гэтым пачаў здагадвацца. На развітанні Тоўхарт і Гальвас пацалаваліся, і Тоўхарт так глядзеў на свайго друга, быццам хацеў сказаць: «Няма чаго тут лішне развітвацца. Ты яшчэ вернешся сюды, і неўзабаве».

Не могучы абысціся без слугі, Гальвас пацягнуў Блецьку за сабой па гарадах і курортах, і абодва яны не маглі

знайсці прыстанішча. Нарэшце пачаўся голад. Дайшло да таго, што ўжо і слуга стаў непатрэбен. Гальвас, не маючы ўжо і бялізны перамяніцца, стараўся адчапіцца ад свайго слугі. Але той упарта не аставаўся ад яго, нейкага ўжо адзічэлага і атупелага, ужо ў зашмальцаваным гарнітуры і з парванымі локцямі. Блецька раз прыгледзеўся, што той у нейкага абадранца выйграў у карты грошы. Упочы Блецька забраў гэтыя грошы з Гальвасавай кішэні і праз гадзіны тры ехаў ужо ў поездзе. Ён з'явіўся да Тоўхарта і папрасіў есці. Той яго накарміў і паказаў, дзе спаць. Гэта была тая самая мураваная прыбудоўка к дому. Адам Блецька астаўся толькі за хлеб і за неданоскі адзежы служыць — месці і скрэбці, вазіць і насіць і ўслугоўваць у гэтым ненавідным яму доме і на гэтай страшнай і агіднай яму зямлі.

Пра Гальваса не было аніякай чуткі. Але нешта праз паўгода ён з'явіўся, нечакана для Блецькі. Гэты не пазнаў яго адразу. Гэта быў худы, як дошка, бадай-што абадранец. Тоўхарт спаткаў яго вельмі ветліва.

— Друг мой,— сказаў ён, абнімаючы Гальваса,— я чакаў цябе, я ведаў, што ты вернешся. Дзе ты быў дагэтуль?

— Усюды быў. Я нават афіцыянтам, нават лёкаем быў. На тым самым курорце, дзе тая гара, як сцяна, пра якую я табе тады пісаў і дзе я быў у маленстве.

— Цяпер табе трэба адзецца. І не трэба больш бадзяцца. І не трэба злаваць. Я цябе павяду праз усё жыццё. І ты пасля ўбачыш, што мая праўда і мая вера будзе і тваёй і агульначалавечай.

— Дык што мне трэба рабіць? — слабавольна абазваўся Гальвас.

— Не спяшайся пытацца. Яшчэ многа год наперадзе. Хто нараджаецца, той не пытае, што яму рабіць.

— А ты яшчэ ўсё думаеш, што я павінен нанава радзіцца? — вяла ўсміхнуўся Гальвас.

— Мілы мой,— такім жа ласкавым тонам адказаў Тоўхарт і з радасцю прыглядаўся да Гальвасавай усмешкі, знаходзячы ў ёй рысы ліслівасці да сябе, чаго раней аніяк не магло быць.— Мілы мой, я сам, можна сказаць, нанава радзіўся.

— Нашто ж табе трэба было нанава раджацца? — недаверліва сказаў Гальвас, бачачы ў ласкавасці свайго друга жорсткую ўладарнасць самаўпэўненага гаспадара.

— На вайну я трапіў на разбор шапак. Аднак прыйшоў дадому са скалечанай душой. Нас разбілі. Тым больш цяжэй мне было хаваць бацьку. Я астаўся адзін. Рэвалюцыю я пераседзеў ціхом у гэтым самым доме, які пакінуў мне бацька. Але вось я пачаў сыходзіцца з такімі, як я сам, людзьмі і цяпер я, разам з імі, ведаю: тое, у што я верую і што я ёсць сам, рана ці позна паставіць свой жалезны п'едэстал над усім светам. На п'едэстале будзем мы, а над ім казюлі і чэрві.

— Гавары мне выразна, чаго ты ад мяне хочаш? — аж затросся Гальвас.

— Да выразнасці ты дойдзеш дзень за днём і месяц за месяцам.

— Дык што мне трэба будзе рабіць у цябе?

— Ты будзеш у нас спецыялістам па рускіх справах.

— А ёсць яшчэ спецыялісты і па іншых справах?

— П'едэстал будзе стаяць над усім светам.

— Слухай! Ты належыш да якой-небудзь тайнай нямецкай партыі?

Тоўхарт маўчаў. Не менш як дзесяць хвілін Гальвас чакаў яго адказу і не дачакаўся. Той глядзеў у адно месца перад сабой, і Гальвас адчуваў, што позірк гэты кранае толькі частку яго твару, але ўвесь ён сам пад яго ўладай. Маўчанне гняло Гальваса. Ён ужо бачыў, што ніякага адказу яму не будзе. Ён сказаў:

— А чаму ты так хочаш, каб я быў тым, кім ты сказаў?

— Ты мой друг, і я дбаю аб табе.

— Табе трэба многа такіх, як я?

І зноў маўчанне, і зноў Гальвас адчуў дзесьці на адным сваім вуху ледзяны позірк. Ён бачыў, што справа скончана і што яму хацець тут ці не хацець не можна. Ён адышоўся да акна і вяла пачаў глядзець, як ля чорнага ўвахода ў дом Адам Блецька абкладвае дзёрнам высокую граду з пейкай густой раслiннасцю. Упершыню за сваё жыццё ён стаў прыглядацца да таго, што расце на зямлі. «Нямецкая гэта расліна ці і там у нас яна расла? Чорт яго ведае, што там якое расло!» Яго душыла злосць і цягнула да забыцця. Ён адчуў на сваім плячы руку свайго друга:

— Мілы Цэзары, у мяне сёння будзе ціплы банкецік, і ты ўбачыш маю нявесту. Я хачу, каб ты быў. Будзь дома.

Гальвас кіўнуў галавой, да канца не расслухаўшы таго, што гаварыў яму Тоўхарт. Ён моўчкі сеў пры акне і доўга

сядзеў: можа, гадзін праз дзве ён адумаўся ад бяздум'я. Блецькі на двары ўжо не было. І Тоўхарта нідзе не відно было. Ён хацеў знайсці сабе яшчэ большую адзіноту. Ён адчыніў Блецькаву прыбудоўку і ўбачыў, што на нейкай доўгай скрыні яго ранейшы слуга ляжаў у дрымоце. Ніколі яшчэ на Блецькавым твары не было напісана гэтулькі бяздум'я, як у гэты момант. Гальвас быццам нічога не заўважаў навокал сябе і раптоўным рухам лёг на скрыню побач Блецькі. Ён плячыма наваліўся на Блецькаў бок і руку, і той баяўся паварушыцца. Было падобна, што Гальвас уздыхае. «Можа, ён і не заўважыў, што я тут ляжу»,— думаў яго ранейшы слуга.

— Ты адразу сюды паехаў? — нечакана, можа, нават і для самога сябе сказаў Гальвас.

— Дзе б я мог дзецца? — адказаў Блецька, стараючыся выпаўзці з-пад плячэй пана, якога ён цяпер не пазнаваў і якому — ён цяпер гэта адчуваў — неўзабаве зноў прыйдзецца служыць.

— А ці памятаеш ты, якой фарбай былі вымаляваны вокны, там, у нашым доме?

— Чорнай фарбаю,— сумна сказаў Блецька.

— Белаю! Ты хлусіш! Не ведаеш, а гаворыш.

Гальвас сеў, закурыў і выйшаў. Адам Блецька адчуў усёй сваёй істотай, што Гальвас, як ад чаго агіднага, адхінуўся ад яго.

— Чорнаю, а не белаю,— думаў і моцна сказаў Блецька, з нянавісцю гледзячы ў бок Гальваса.— Сукін сын, не памятае, які ў яго быў дом. Шкада, што я цябе тады да ніткі не абабраў.

Раптам Гальвас паклікаў Блецьку, і той пабег. Блецька адзяваў Гальваса і бачыў, што тут ужо новы гарнітур і новая бялізна. І, сам не ведаючы чаму, адчуў сябе смялей, і душа яго паспакайнела. Увечары прыйшла старая пара людзей, і з імі маладая іх дачка Эльза. Яна была яшчэ бадай-што падростак і дзіўна павольная ў рухах. Усе сядзелі за сталом, і Тоўхарт кожную сваю фразу гаварыў па-нямецку і пасля ў бок Гальваса па-руску. Насупроць свае занадта маладой нявесты ён быў высокі і грузны ў плячах. Адам Блецька многа разоў сюды ўваходзіў, памагаючы служанцы, і кожны раз прыглядаўся да Эльзы. І Гальвас глядзеў на яе і думаў, што яе льга ўзненавідзець за тую грымасу, што кожны раз з'яўлялася на яе твары, калі яна глытала яду. За сталом сядзелі вельмі мала, пры-

намсі так здавалася Блецьку. Праз гадзін дзве пайшлі. Тоўхарт вёў Эльзу пад руку праз цэлы квартал. З прыстойным далікацтвам ён тут з усімі развітаўся і пайшоў з Гальвасам назад, а Блецька за Тоўхартавымі гасцямі панёс далей нейкі пакунак. Ці то гэта быў які-небудзь падарунак жаніха сваёй нявесце, ці то што іншае — гэта яго не цікавіла. Ён думаў не пра гэта. Ідучы, ён глядзеў на Эльзіны плечы, сачыў за яе паходкай, і яму страшна хацелася дакрануцца да яе. У гэтага здаравеннага цягавіка адрываліся рукі ад цяжару таго, што ён нёс, але ён не заўважаў гэтага. З ім рабілася нешта страшнае. Быў момант, што ён хацеў ужо выдумаць якую-небудзь прычыну і ісці бліжэй каля яе. Ён усцягнуў цяжар на трэці паверх яе кватэры і паволі пайшоў назад, прыглядаючыся на вуліцы да кожнай жанчыны. І раптам душа яго захлынулася ў смутку. Перад ім паўстаў вобраз яснага дня і яго ўласная адзінота ў лясах на дзікіх дарогах. «Божа літасцівы»,— бадай-што вырвалася праз яго зубы, і ні з чым непараўнаная нянавісць да ўсяго свету, да ўсяго, што ў ім існуе і мае існаваць, заўладала ім. За тое, што ўсё так далёка, за тое, што ён не стаў вышэй над усім—за ўсё да ўсяго нянавісць! Цяпер ён пазнаў больш свету, як тады знаў, калі быў у сваім доме і лічыў за шчасце ўзвышацца над усім і ўсімі, што навокал яго былога гнязда. Цяпер ён бачыць, што думаў тады стаць вышэй над малым, што свет большы, чым яму тады здавалася. І ён будзе ў гэтым свеце стаяць нізка. Але як цэнтр яго смутку, як пункт, куды ўсё імкнецца,—вырастала перад ім постаць той самаї, якую ён так неспадзявана напаткаў і напалохаў, калі зрываў з цвікоў на сцяне яе дома кілбасы і сыры. Яна, толькі яна! І не будзе яму без яе спакою! Ён яе ведаў змалку і не разумеў, чаму яшчэ ў тыя часы, калі забіў брата, кожны раз пры спатканні з ёю траціў раўнавагу душы. Але яна была занадта простая для яго, і ён, не думаючы пра гэта, мала глядзеў на яе, хоць быў час, ранейшы, калі яна яму траплялася на вочы часта.

Было цёмна ў яго мураванаї прыбудоўцы. Ён кінуўся на скрыню і ляжаў не раздзеючыся. Ён ужо нават пачаў драмаць. І ў дрымоце перад ім сталі дзве: тая і Эльза, якую ён толькі ўпершыню ўбачыў і жыццё і душа якої былі для яго цёмная тайна. І таму было дзіўным яе з'яўленне. Чаму яны разам прыйшлі да яго? Хіба ім суджана абодвум мець нейкую ролю ў яго жыцці? Ці іх уласны

лёс, кожнай, сутыкнецца як-небудзь адзін з адным? Сон не праходзіў і не скончыўся. Абедзве яны, як прывіды, стаялі перад ім.

Яго пабудзіў Тоўхарт. Мусіць, было позна. Страшная цішыня вісела ўсюды. Тоўхарт асвятліў Блецьку электрычным ліхтарыкам, пасля патушыў святло. Блецька доўга моўчкі праціраў вочы. Тоўхарт цярпліва чакаў і, не запальваючы больш агню, ціха пачаў гаварыць:

— Твой бацька адзін там астаўся?

Адам Блецька ўвесь скалануўся.

— Адзін астаўся мой бацька.

— Можа, ты з ім хацеў бы пабачыцца?

— Дзе і як?— утрупянеў Блецька.

— Там, дома.

Блецька падскочыў.

— Як гэта?

— Там недалёка ад граніцы твой дом. Хіба ты там дарогі глухія пазабываў? Сюды ты здолеў явіцца.

— Я там буду, ці як?

— Пра гэта мы з табой разам падумаем.

— Там жа я забіў брата. Як жа я магу быць там? Пра гэта на ўсю акругу гаворка ішла, маё імя там называлі, можа, на сто вёрст і расказвалі, які я.

— А як твой бацька астаўся жыць там?

— Астаўся. Там дом.

— Ён не рад там жыць?

— Не, ён рад там жыць. І я там хачу жыць. Але няма як мне там жыць. Я туды не магу і вачэй паказаць. Я там забіў брата.

— У вас там добры дом?

— Добры.

— Лепшы за мужычыя хаты?

— Ого! Дзіва што лепшы! Мы не былі мужыкамі. Мы купленую зямлю мелі.

— Я ведаю, ведаю ўсю вашу гісторыю. Твой бацька спачувае табе?

— Я ж у яго адзін.

— Твой бацька сумуе па табе?

— Божа мой!

— Лажыся і спі. Будзь тут пры мне смела. Я не пакіну думаць пра цябе. І пра твайго пакрыўджанага бацьку я не забуду. І не думай ні пра што. Ты каля мяне блізка, і я з табой заўсёды магу пагаварыць. Спі.

I ён папацёмку выйшаў. Адам Блецька лёг і закінуў рукі за галаву. Усё гэта яму было дзіўна і незразумела. І ў яго дрымоце зноў з'явілася яна. Як прывід, як пакута яго жаданняў, далёкая і страшная цяпер яму. Што з ім рабілася? Ён спаў усю ноч цяжка. З цяжкай галавой ён падняўся зранку і ўпрогся ў сваё ўслугоўванне Гальвасу і Тоўхарту. І ў той жа дзень, як сцямнела, у прыбудоўку да яго зноў прыйшоў Тоўхарт, і зноў адбылася тая ж самая, слова ў слова, учарашняя гаворка. І зноў асталася няскончаная, пакінуўшы ў яго няведанне і толькі першыя здогадкі, чаго хоча ад яго Тоўхарт. Калі той пайшоў, Блецька рушыў на вуліцу і неўзабаве апынуўся ў вядомым ужо яму доме. Яму натрапілася больш чым пажылая, тонная з-за сваіх год, немка. За поўнач ён вярнуўся ў сваю прыбудоўку. І пад дзень зноў явілася яна мучыць сваёй чужасцю. І цяпер ужо кожны дзень яна ўставала ў яго думках.

## ~~Другі раздзел~~

### I

У тыя часы ёй было ўсяго васемнаццаць год, і натура яе якраз цяпер і ўгрунтоўвалася ў сваіх берагах. З прычыны яе першай маладосці час быў ёй найлепшым доктарам, і кожны пражыты дзень згладжваў перад ёю сляды пражытага. І калі праз шмат часу, калі ёй было ўжо трыццаць шэсць год, даўно мінулае выбухнула ў яе душы з вялікай сілай, то гэта таму, што крывавая драма, разыграўшыся на гэтым мілым кутку зямлі і прайшоўшы далёка па людзях, адной сваёй гранню падняла з магіл цені і вобразы таго, што тут было і з памяці не адышло навекі ў нябыт. Як жывая, паўстала перад ёю яе папярэдніца, маці, на якую яна так была падобна і з твару, і з натуры. Цень маці, у страшныя часы вялікага смутку, жальбы і ненавісці, быццам благаславіў яе на нязведаныя раней і нечаканыя ўчынкі ў гэтым кутку роднай мясцовасці, які стаў раптам відзён і чуцён на шырокі свет.

Тут усюды было прасторна. І ўсяго тут было многа. Многа было дрэў, і зямлі, і травы, і вады, і неба. Зямля тут радзіла добра. Хвойныя лясы пракідаліся градой дубу і грабу. Бярозавыя гаі стаялі ў ясную восень, як у золаце. Здавалася тады, што калі зойдзе сонца, праменне

яго астаецца на ўсю ноч ляжаць на ціхіх дрэвах. Улетку спеў на полі поўны колас і пахла яго салома, і трава, і кара дрэў, і вецер.

Тут ішоў шырокі гасцінец на Нясвіж і Слуцк. Гальвасаўскі маёнтак і Блецькава сяліба стаялі з паўднёвай стараны гасцінца. З паўночнай стараны таксама ішла ў тыя часы Гальвасава зямля і лясы, але там была і вёска. Яна стаяла пад узгоркам, і з гасцінца цераз узгорак відзён быў толькі верх яе стрэх. Далей на захад па гасцінцы ішоў на некалькі кіламетраў лес. У ціхую ноч даходзіў сюды млынавы грукат і чутно было, як падае вада на колы. Грукат і шум быў роўны і звыклы ўсім тутэйшым людзям. Ён жыў тут праз доўгія гады — яшчэ з таго часу, калі аціраўся на гэтай зямлі стары Тоўхарт,— і скончыўся раптоўна ўлетку дзевяцьсот сорак першага года. Вадзяны млын належаў калісьці Гальвасу. З вёскі цераз узгорак праз поле і хмызняк вілася пешаходная сцежка, праходзіла ля млына цераз дарогу, пры самым мосце над рэчкай і плацінай, і бегла далей. Яна аддалялася ад гасцінца і канчалася нешта праз гадзіну хады ад яго ў вельмі глухім і зусім ціхім кутку. Тут быў усюды лес, запушчаны і недагледжаны. Злеглае стволле спарахнелых старадрэвін плазам ляжала на зямлі, абрастала мохам і грыбамі, да рэшты гніло і правальвалася пад нагамі. Таўшчэзныя яліны высока ўзнімаліся ўгару. Язджалай дарогі тут не было, і праз лес ішла толькі вузенькая, у адну каляіну, дарожка, густа аброслая трыпутнікам і дзяцельнікам. У яе ўваходзіла і ў ёй гублялася тая сцежка. Гэта была апошняя і самая далёкая ад гасцінца і маёнтка граніца Гальвасавых уладанняў. Сюды належала яшчэ і дзялянка прылеснай зямлі, удзірванелая і карчакаватая, уздоўж лесу. Тут скрозь тырчэлі пні, разам з травою вылазіў з зямлі ельнік, самі паміж пнёў насейваліся бярозы, гусцілася шыпшына, прыемна спатыкаў людское вока вечным сваім зяленівам ядловец. А далей ішло ўжо ўкрытае багатымі ўраджаямі поле суседніх, чужых уладанняў. На карчакаватай дзялянцы, калісьці, яшчэ да першай вайны, стараўся знайсці сабе месца, каб жыць, ціхманы і цягавіты ў працы чалавек з прозвішчам «салдат» Максім Астаповіч. Гэта быў бацька тае, імя і істота якой пасля не давалі Адаму Блецьку ў Германіі спакою. «Салдат» — гэта была мянушка, і прывілася яна вельмі проста. Чалавек адслужыў салдатчыну і прыйшоў дадому. А дома была толькі хата, і пры ёй град

пяць агарода. Вось і ўсё. Нічога і нікога. Нават жывога бацькі ён ужо не застаў. Хата стаяла на замку. Набытку ўсяго і было, што салдацкая абмундзіроўка на плячах. У гэтай салдацкай адзежы чалавек і прахадзіў некалькі год, пакуль узбіўся на іншую. Так і пайшло слова — салдат.

Гэта быў чалавек, якому змалку дзён практыка жыцця сказала, што кожнаму на свеце не толькі трэба есці свой хлеб, але і яшчэ як мага старацца даставаць яго. На ўвесь свет ён навучыўся глядзець з гэтага пункта. Бацька яго быў чалавек рухавы, але рухавасць гэтая ўся ішла ў працу. Тое ж самае засвоіў і сын. У той час, калі Ксавэр Блецька здолеў павярнуцца ў жыцці, як ён сам пра сябе казаў, розумам, Максім Астаповіч, зусім яшчэ малады хлопец, хадзіў з бацькам па людзях і капаў калодзежы. Ва ўсёй шырокай навакольнасці ўсе калодзежы тут былі выкапаны старым і маладым Астаповічамі. Максім Астаповіч навучыўся быць і мулярам. Ён умеў ставіць ветракі. Ён нанава адрамантаваў Гальвасаў вадзяны млын. Ён стаў пчаляром, садаводам і агароднікам. Так шукаючы, як ён казаў, таленту, каб жыць, ён шмат што пераняў і многа чаго ўмеў. Ён наймаўся на работу і ў Гальвасаў маёнтак. Некалькі год ён там быў парабкам, але на полі не араў. Тоўхарт даручаў яму «чысцейшую» работу. У часы першай свае маладосці ён усе дарогі, што праходзілі праз Гальвасавы ўладанні, абсадзіў дрэвамі. Да дзён яго старасці на ўсіх тутэйшых дарогах увабраліся ў сілу, выраслі і далі мясцовасці зусім іншы выгляд — клёны і бярозы, ясені, вязы, ліпы і таполі. Да кожнага з гэтых дрэў дакраналіся яго рукі і маладосць, а пасля і ўсё жыццё кожнага з гэтых дрэў асталіся ў яго памяці. «Салдат» памятаў, колькі дрэў і дзе не прыняліся і замяніліся іншымі. Харлабаўская карчма каля Нясвіжа і яе абозня былі накрыты новым дахам яго рукамі. Калі пад Слуцкам Крыжы рассяляліся на Селіцкія хутары, ён там пабудаваў не менш як пяць хат. Адзін час ён узбіўся на каня і наймаўся вазіць тавар адсюль у Мінск і з Мінска сюды. Хто б і адкуль з ламавых рамізнікаў ні начаваў у Даўгінаўскай карчме на Мінскай дарозе — усе ведалі яго. У Пырашаўскай слабадзе, што на той жа дарозе, ён у тыя гады сватаўся да дзяўчыны, але з гэтага нічога не выйшла — яна была з не зусім беднай сям'і, а ён уявіўся ёй занадта нейкім простым. Ён быў невысокага росту і часамі нават заікаўся — калі чаго-небудзь спяшаўся ў

гаворцы або растлумачваў што чалавеку, вышэйшаму за сябе жыццёвым рангам. Гэта была натура простая, і сфармавалася яна ў тыя часы, калі здольнаму чалавеку не заўсёды ўдавалася прыкласці да справы свой талент і нават усвядоміць яго ў сабе, а тым больш мець за яго гордасць. Максім Астаповіч многа чаго зрабіў на доўгія часы па ўсёй акрузе, але гэта не быў паўнапраўны майстар. Гэта быў толькі падзённік. У кутку, дзе ён радзіўся і вырас, усе дарогі асталіся навек высаджаны ім дрэвамі. Змяніўся твар усёй мясцовасці, але дарогі належалі Гальвасу, яму ж асталася і слава за іх. Максім Астаповіч атрымаў за работу, што далі, спажыў і зноў астаўся такім, якім радзіўся на свет. У пастаўленых ім ветраках людзі малолі збожжа, раней бацькі, а пасля іх дзеці, але ніхто і не думаў пра Максіма Астаповіча. Было падобна, што існуе на свеце нейкі невядомы і нябачны магутны майстар, а Астаповіч толькі наймаецца ў яго на чорную работу. Няма нічога дзіўнага, што гэты чалавек глядзеў на свет з нейкага занадта простага ўжо свайго месца і пункту. Часамі магло здавацца, што ён не тое што пабойваецца ўсяго навакольнага свету, а не верыць яму. І ажаніўся ён занадта папросту, прынамсі некаторыя так казалі і ўпарта лічылі, што ў гэтай сваёй справе ён зрабіў вялікі промах, і самы першы, хто так казаў,— гэта Ксавэр Блецька, за якога ён быў маладзейшы гадоў на два ці на тры. Выпадала яму і не кепска ажаніцца. Калі ён у Качановічах каля Нясвіжа капаў раз калодзеж, на яго ў тым баку прыгледзелася ў дзве столкі перастарэлая адзінокая шляхцянка з вялікім пасагам. З яго боку тут, вядома, не магло нават ісці і гутаркі аб каханні, але пасаг! Часамі бывае так: што з таго кахання, калі яно вечна атручвалася галечай і каравым бясхлеб'ем. У беднасці каханне частаператваралася ў нянавісць. Ён жа не ведаў яшчэ гэтай практыкі і з старой шляхцянкі толькі насмяяўся. Узяўшы яе, ён мог бы завесці сабе адразу добрую дамоўку і багацець і далей у гэтых удалых прымах. Некалькі вечароў ён праседзеў з ёю, гаварыў ёй усялякія глупствы і рассмешваў яе, а перад адыходам у свой бок сказаў: «Прымачы хлеб — сабачы». І больш яна яго не бачыла, ён жа раптам заныў па той з Пырашаўскай слабады, што не хацела ісці за яго, але неўзабаве ўсё скончылася добра. Прыйшло яму ў галаву пашукаць новых заработкаў. Дачуўся ён, што ідзе рамонт чыгункі паміж Мінскам і Баранавічамі. Чым ён быў до-

ма звязан? Ён рушыў пешкам на станцыю Гарадзею і ў той жа дзень трымаў ужо рыдлёўку ў руках. Здарылася так, што каля яго, таксама з рыдлёўкай, стаяла яна. З першага ж часу ў яго заныла сэрца. Два тыдні ён капаў зямлю непадалёку ад яе, а на трэці тыдзень яны ўжо любіліся па-сапраўднаму. У першыя часы яна ўразіла яго нейкім сваім падабенствам да той, з Пырашаўскай слабады. З гэтай прычыны ён і не зводзіў з яе вачэй, калі яна стаяла сярод іншых дзяўчат. Але занадта хутка тая і гэтая перамяніліся месцам: не гэтая на тую, а тая на гэтую стала падобна і зневажала гэтую сваім падабенствам. Была яна родам з Нясвіжскіх Міхалінак. Але хоць і несвіжанка, але так бедная, што нават і ён сам здзівіўся. Як бы там ні было, але ён стаў ад яе сам не свой і ўзяў яе замуж. К гэтаму часу ён меў ужо мянушку «салдат», яе ж тут усе звалі «несвіжанка» і гаварылі — салдат і несвіжанка пажаніліся. Звалася яна Галена Марынская. Але дзявочае прозвішча яе мала тут хто і ведаў. Па імю звалі толькі ў вочы. За вочы гэта была «несвіжанка», а часамі «салдатава несвіжанка». Гэта была сям'я, пра якую ў свой час думаў Адам Блецька, калі прагнуў выславіцца сваім багаццем шырэй, чым мог, і нейк, ён і сам не ведаў як, падняцца вышэй над усімі. З гэтага льга думаць, што Блецькі не любілі гэтай сям'і, прынамсі паглядалі на яе звысоку. І з свайго пункту Блецькі разважалі добра: яны здолелі, як самі казалі, галавой дайсці да жыцця, а гэтыя елі свой хлеб з натруджаных рук.

У тыя часы, калі Максім Астаповіч узяў несвіжанку, Гальвас якраз і прадаваў свае пяцьсот дзесяцін зямлі. Усе навакольныя аж падалі за гэтай зямлёй. Чалавечыя мары тут перабольшвалі сваю меру: у якіх-небудзь купленых двух дзесяцінах чалавек бачыў шчасце і сваё і сваіх дзяцей. Што ж да Максіма Астаповіча, то гэты салдат таксама захапіўся быў спачатку прагнасцю да зямельнай куплі. Можна сабе ўявіць, якое шчасце мець свой кут і не мець вечнай патрэбы бадзяцца па свеце, каб зарабляць хлеб у чужых людзей! Так пачаў думаць ён і ад гэтага не адступіўся. Тут ён і ўхапіўся за адну рызыкоўную магчымасць. У карчакаватай Гальвасавай дзялянцы, якой пры запушчаным лесе канчаліся яго ўладанні, было пяць дзесяцін. Тут, як было ўжо сказана, тырчэлі пні, карчы і сеяўся лес. Ніхто тут ніколі не араў, не сеяў. На гэтым вечным прылесным дзірване была толькі паша. Тоўхарт хацеў,

каб за гэтую пашу суседнія вёскі плацілі, але гэтага ніяк не дамогся. Людзі ўкрадкам пасвілі і яшчэ адтуль кралі лес. Тоўхарт надумаўся пасадзіць тут лесніка, каб ён вартаваў гэты бок Гальвасавай уласнасці і каб за гэта сеяў сабе гэтую зямлю. Але ж гэта быў дзірван з карчамі. Ніхто сюды не квапіў. Практычны Тоўхарт бачыў, што гэты кавалак, апроч шкоды, ніякай карысці не дае, і абвясціў, што хто выкарчуе і ачысціць гэтую зямлю, возьме сабе навечна паўтары дзесяціны, а на трох з паловай сядзе ляснік. Салдат са сваёй несвіжанкай паглядзелі, падумалі і памеркавалі, што карчы і пні тут не густа, хмызняку па высечку мала, дробную рэшту возьме плуг—адным словам, салдат узяўся за гэтую справу, але раней доўга таргаваўся з Тоўхартам: ён хацеў не паўтары, а дзве дзесяціны. Нарэшце сторгаваліся, што ён будзе мець права на дваццаць год арандаваць тую паўдзесяціну. І ён узяўся за працу. Можна сабе ўявіць, з якім імпэтам ён дарваўся да работы! Перад ім вырысоўваліся нязведаныя раней далягляды. Ён ужо бачыў у недалёкай будучыні свой родны кут, уласную аселасць і поўную незалежнасць. Ён ірваў жылы дзеля будучыні. Часамі ён падыходзіў у зручны момант да Тоўхарта і закідаў колькі слоў наконт таго, што за такую працу не грэх было б і тую паўдзесяціну аддаць яму, але Тоўхарт круціў галавой і толькі раз абнадзеіў чалавека— што тады тое і будзе, і, можа, нават ён атрымае новым кантрактам права на вечную і спадчынную арэнду гэтай паўдзесяціны. Адным словам, ён паддаваў ахвоты працавітаму салдату, і той стараўся. К гэтаму часу ў салдата і несвіжанкі была ўжо дачка Марына. Першыя ўражанні яе маленства і першыя вобразы бацькоў якраз у яе і былі звязаны з гэтым месцам. На ўсё жыццё асталася ў яе памяці заклапочаная постаць бацькі ў вылатанай салдацкай рубашцы, без шапкі, са спацелым ілбом. Ён налёг грудзьмі на падважнік і так раскалыхваў абкапаны навокал корч. Яму памагала маці. Пасля вечарэла, ціха заходзіла сонца, бацька браў яе, малую, на рукі, і ўсе яны ціха варочаліся дадому, нічога паміж сабой не гаворачы. Дома бацька вельмі часта абглядаў у хаце бярвенне пад вокнамі і меркаваў сам сабе, колькі спатрэбіцца новага дрэва, каб перанесці на новае месца хату. Пры гэтай жа хаце, апроч сянец, нічога больш не было. Салдат і несвіжанка не былі душой. Кожны пражыты дзень набліжаў іх да мэты, і гэтай марай яны жылі. Усё гэта адкладалася ў дзіцячай памяці, і

так Марына расла. Над сэнсам усяго гэтага ёй рана яшчэ было думаць. Нарэшце надышла чарга іншых вобразаў. Перш за ўсё раптоўна выехаў у Германію Тоўхарт. Пасля гэтага прайшло не шмат часу, і маці з бацькам пачалі гаварыць, што, добра пастараўшыся, за год льга скончыць усю справу. Малая Марына пачала заўважаць паміж бацькам і маці такія дачыненні, заўважаць якія раней не магла. Салдат і несвіжанка любілі адзін аднаго. Блізасць іх звязвалася агульнай марай і агульным імкненнем да яе ажыццяўлення. У момант ясных надзей на будучыню салдат клаў руку на галаву свае несвіжанкі, гладзіў яе валасы і заглядваў ёй у вочы. Яна ціха імкнулася да яго, і вочы яе былі поўныя яснага і ціхага святла. І чаго толькі яны, бывала, ні перагаворацц у такія хвіліны! Тут ішла гаворка і аб пераносе хаты, і аб заработках на каня і карову, і аб хлебе, і аб Марыне. А часамі салдат паведамляў сваёй Галене, што ён на перанос хаты ціхом спілуе некалькі пнёў у Гальвасавым лесе, «і ніхто бачыць не будзе, і ніякага граха не будзе». Гэта быў час, калі Марына пачала ўжо браць усё, што бачыла і чула, у думкі і шукаць у гэтым сэнсу. Яна пачынала здагадвацца, што бацька яе добры чалавек, яна нават часамі чула гэта ад людзей. Гаварылі, што гэты чалавек не дасягне вялікага. Бацька яе за гэтыя часы стаў рухавы і клапатлівы, і як быццам бы яму не было часу гаварыць павольна, і ён часцей стаў заікацца. Ён пачаў шпарчэй хадзіць і ў часы задумёнасці нейк набок трымаў галаву. Людзі свавольнай натуры з яго нават смяяцца пачалі. Сваёй рухавасцю ён усё больш і больш упадаў у супроцьлегласць сваёй Галене, якая з кожным годам рабілася павальнейшай у рухах і ў словах. І часамі здавалася, што яна церпіць нейкі боль.

Пасля таго як выехаў Тоўхарт, Гальвас ужо без яго даводзіў да канца яго планы. Гэта былі два маладыя сады, і, каб пасадзіць іх, спатрэбіўся Максім Астаповіч. Гэта было ўвесну перад самай вайной. Салдату далі двух падручных капаць ямы, ён жа садзіў шчэпы, і яго несвіжанка памагала яму ва ўсім. Як і раней з тымі дрэвамі пры дарогах, ён заўважаў кожную яблыньку, быццам бы ён садзіў яе для сябе. Але ён тут не раскідаў лішне думкай. Ён любіў дрэва. Гэтыя маладыя сады былі з двух канцоў маёнтка, адзін наводшыбе, у полі, і відзён быў з мастка пры вадзяным млыне. З-за гэтых садоў была ў яго пярэрва ў карчаванні зямлі, але ён лішне не бедаваў: на лягчэйшай рабо-

це адпачылі яго рукі, а на карчы будзе яшчэ лета і восень. Да позняй восені ён думаў скончыць гэтую работу. Праз год прыйдзе вясна, і ў яго будзе свая зямля. Гэтаму чалавеку здавалася, што ў яго ўсё добра ідзе на свеце. У яго была сіла, і ён не заўважаў яе траты. Таксама ён не заўважаў, што яго Галена яшчэ больш стала павольная і маўклівая. Можна было падумаць, што ёй цяжка гаварыць. Але ўсё гэта рабілася ў ёй не адразу, гадамі, і ён не заўважаў гэтага. Не заўважыў ён гэтага і ў той дзень, які на ўсё жыццё астаўся ў яго памяці. Гэта было летам пасля той вясны, калі ён пасадзіў Гальвасу два сады. Раптам ён адчуў сябе як пад зямлёй. У адзін момант ён пакінуў думаць і пра няскончанае карчаванне зямлі, і што гэтая зямля ўжо чакала яго праз год на вясну. Быццам бы ўсё гэта назаўсёды скончылася, як дробнае непатрэбства. Зранку ён яшчэ нічога не ведаў, а апаўдні салдат павінен быў ісці ў салдаты і на вайну. У вачах свае Галены ён убачыў такі выраз, быццам яна была ў чым вінавата перад ім. Гэта было тое, што яна таіла ад яго і што толькі адна ведала. Яна не трывожыла яго і чакала разам з ім раю на адваёванай ад лесу зямлі. Гледзячы ёй у вочы, ён падумаў, што гэта яна напалохалася і шкадуе яго, і бядуе па ім. Ён сказаў ёй: «Не бойся. На вайне не ўсе гінуць. Я вярнуся. І мы тады перанясём хату на новую зямлю. Памятай — я вярнуся». Яна правяла яго далёка ў дарогу. І калі варочалася назад — многа разоў азіралася. І ўсё ён відзён быў: ішоў вельмі паволі і таксама азіраўся. Ён азіраўся і на дрэвы, панасаджаныя тут скрозь яго рукамі, і на пастаўлены ім вятрак. Толькі што пасаджаны ім малады Гальвасаў сад доўга быў відзён. Некалькі разоў яны здалёк адначасна глядзелі адно на аднаго, і пасля нейк адразу ён рушыў у дарогу шпарчэй, і постаць яго назаўсёды знікла з яе вачэй. Яна вярнулася ў хату, і ніколі так, як цяпер, не паўстала перад ёю жорсткая праўда таго, што яе з ім мара была страшным ашуканствам. Яна цяпер ведала, што не павінна нават пайсці і глянуць на тую зямлю, за якую бесперапынна дагэтуль чаплялася думка і якая, як непаеднае чэрава, глынула гэтулькі чалавечых надзей. І не толькі надзей! Яна зжэрла і самога чалавека. Больш нясвіжанка не пойдзе туды ані разу. На тым месцы задушыць яе смутак. І так ад яго не было ратунку. І цяжка было глядзець на Марыну. І пакрысе ўсё сышлося ў Марыне і тут асталося назаўсёды.

## II

У той час, калі ў гэтай мясцовасці зноў з'явіўся салдат Максім Астаповіч, бралася ўжо на асеннія замаразкі. Цяпер гэта ўжо сапраўды быў салдат. І шынель яго быў вывалены ў зямлі і дзе-нідзе прадраны, і шапка трымалася крыху быццам набакір. За плячыма быў зялёны ранец. Салдат ішоў крыху накульгваючы на левую нагу, але ішоў вельмі шпарка. І чым шпарчэй ішоў, тым больш накульгваў. Хада яго была няроўная, і душа цяпер напэўна не была ўраўнаважана. Нейкі час ён не галіўся і здаваўся старым. Ім апанаваў быццам нейкі одум, які ніяк не вязаўся з яго рухавасцю. На мастку каля млына ён спыніўся — аддыхацца ці так чаго паглядзець, зняў шапку і абцёр ёю сваю палыселую галаву. Млын маўчаў, і ўсюды ляжала асенняя цішыня. Заходзіла сонца. Стоячы на мастку, ён кінуў вокам на далёкі ўзгорак, дзе застыў, як акамянелы, чорны пад апошнімі праменнямі сонца, вятрак. За мастком дарога была скрозь высаджана дрэвамі. Салдат узяўся за адно дрэва і падняў вочы ўгару. Чырвонае лісце трапяталася і ападала. Лісток на зямлі быў колерам падобны да неба на захадзе. У салдата быў такі выгляд, быццам ён няйначай павінен быў усё гэта абгледзець сваімі вачыма. Салдат сышоў з дарогі на сцежку і ідучы некалькі разоў азірнуўся яшчэ на вадзяны млын. Апошняе праменне шпарка канала, запаноўваў змрок, але ў ім вельмі выразна бялеліся новыя бярвенні, устаўленыя ў старыя млынавыя сцены. Салдат спыніўся і на момант павярнуўся да млына. І каб хто наглядаў цяпер за ім, льга было ў гэтую хвіліну заўважыць, што ён навучыўся гаварыць сам з сабою. Раней ён маўчаў сам з сабою, цяпер гаварыў. Ён гуў ціха сабе пад нос: «Без мяне Гальвас паспеў млын адрамантаваць. Дзе ж ён майстра браў?» Можна было падумаць, што на ім ляжаў абавязак самому ўсё тут рабіць і ўсё рамантаваць, садзіць усе дрэвы, ставіць усе сцены, засяваць усю зямлю. А як жа! Ён нават раскарчаваў быў чатыры дзесяціны зямлі і падбіраўся пад пятую. Ён гуў сабе пад нос павольна, з одумам, слова за словам, у той меры, у якой бачыў, каля чаго праходзіў, шпарка накульгваючы. Прывычка гаварыць сам з сабой у некаторых ёсць адзнака блізкай ці сапраўднай старасці. У некаторых — вынік вымушанай доўгай адзіноты. У некаторых — вынік доўгага быцця сярод чужых людзей або патрэба астацца

верным сабе на ўсё жыццё. «Поле ўжо скрозь пустое... Вось і сонца зайшло... Жэрдкі ў агароджы каля хаты, мусіць, ужо зусім пагнілі... На той раскарчованай зямлі, напэўна, навылазілі бярозкі і хвойкі, ну але гэта не бяда — гэта не карчы, іх плуг адразу возьме. А можа на гэтай зямлі ўжо хто сядзіць? Можа на яе Гальвас пасадзіў ужо каго-небудзь? Зямля-то пуставаць не павінна, але выйшла, што хто жылы рваў, а хто на гатовае прыйшоў. А чаму Галена нічога ніколі пра гэтую зямлю не напісала? Колькі разоў я прасіў яе ў пісьмах? Як бы яна баялася і ўспомніць пра зямлю гэтую? І чаму яна так доўга не пісала? Ужо больш за паўгода хоць бы слова якое!» Салдат закульгаў шпарчэй і змоўк. Бадай-што ўжо зусім змеркла. Сцежка скончылася, зачарнеліся будынкі, і ён дапаў да хаты з адным акном на дарогу і двума ў двор. У вокнах гэтай хаты было цёмна. Салдат лёгкім рухам узяўся за клямку і націснуў дзверы. Яны не адчыніліся. Ён пастукаў у акно — з хаты ніхто не абазваўся. Салдат абышоў навокал хаты — нікога нідзе. Аніякай трывожнай думкі ў яго не з'явілася. Можна было б падумаць, што ён не верыў ні ў якое зло на свеце. «Дзе ж яны маглі падзецца?.. О, тут усё як бы парадак мае. Аднекуль і дроў расстараліся — дзве калоды якія. Бяроза ці асіна — блішчыць у змроку? Кош вісіць пад страхою. Пусты ці з чым? Пусты, лёгка загойдаўся. Сесці на калоду, пачакаць, пакуль прыйдуць». Ён закурыў і сцішыўся. Скурыў адну папяросу і другую, чакаючы шчаслівай сустрэчы. Нарэшце нецярплівасць падняла яго з месца. Ён пайшоў у адну з бліжэйшых хат. Там адразу пазналі яго і ўзрадаваліся. Яго распытвалі, прасілі вячэраць з імі і чамусьці нехаця адказалі, што «твае павінны быць дома, можа, так куды выйшлі». Ён вярнуўся да свае хаты і моцна застукаў у акно.

— Хто там?— закрычала Марына.

Божа мой, якая яна цяпер? Больш як два гады ён яе не бачыў! І голас яе змяніўся. Але гэта яшчэ дзіця. Толькі дзіцём ён яе ўяўляў. Ён чуў, як яна скочыла босымі нагамі на зямлю аднекуль звысоку. «Мусіць, з печы», — падумаў ён.

— Марына! Гэта я! Гэта бацька!

Яна бразгала ў сенцах засаўкаю, і ён ужо сам замыкаў дзверы, а яна пераскочыла цераз хатні парог і раптам — ён шукаў, каб папацёмку злавіць яе рукамі — грабянула на прыпеку жар з попелу і пачала дзьмуць, каб запа-

ліць лучынку. Ён падышоў памагаць ёй. Абое яны спяшаліся, каб хутчэй прывітацца. І так праз гэтую лучыну сцьмеў першы радасны момант спаткання. Ён адчуваў, што яна вырасла. Калі загарэлася лучына і калі яна запаліла газоўку—толькі цяпер ён адчуў сапраўды, як доўга ён не быў тут. Марына змянілася. Валасы на яе галаве адраслі і пагусцелі, вочы сталі вялікія, твар пахудзеў, і яна вырасла, прынамсі відно было, якое малое яна была яшчэ дзіця, калі ён ішоў на вайну, і як цяпер яна стала падобна на яе, на Галену, на мілую яго несвіжанку. Гэта поўная копія яе! Нават больш. Гэта яна, толькі малая. Гэта поўны яе голас, і цяпер ужо да поўнага падабенства чуецца ў ім павольная матчына развага. Сарамліва яна падышла да бацькі, і ён, прыгнуўшыся, прыгарнуў яе да сваіх грудзей. Ён шаптаў ёй самыя ласкавыя словы, якія прыходзілі яму ў галаву, і раз-поразу ўсё гаварыў: «Галубка мая маленькая. Ты ж якраз, як мама, стала, адно што ты малая. Дзе ж мама? Ну, чаму ты не кажаш, дзе мама?»

— Наша мама памерла, — выгаварыла яна.

Ён адштатнуўся ад яе.

— Як жа яна памерла, што ты гаворыш?

— Ну, памерла, яна доўга была хворая.

— Чаму ж вы мне не напісалі нічога?

— Так мама сказала. Яна гаварыла, што табе і так цяжка там, нашто цябе яшчэ мучыць такімі пісьмамі.

— Даўно яна памерла?

— Улетку. Перад восенню.

— Як жа ты жывеш?

— Я адна жыла. Як сцямнее — я адразу спаць кладуся. Бо ў мяне газы няма.

— А што ж ты ясі?

— А ў мяне яшчэ крупы ёсць, што мама зарабіла.

— Дзе ж мама зарабіла?

— Вясною і пакуль не захварэла, яна к Блецькавым на работу хадзіла. А раней і ў Гальвасаў двор хадзіла.

— А што з ёю здарылася?

— Яна ад зямлі памерла.

— Ад якой зямлі?

— Незадоўга як памерла, яна мне ўсё гаварыла і расказвала. Кожны дзень усё гаварыла. Яна ляжала, а я ўсё сядзела каля яе, і яна гаварыла мне пра тую зямлю.

— Пра якую зямлю?

— Пра тую зямлю, што вы з ёю карчавалі.

— Ага, пра тую! — сказаў ён, і быццам яго кальнулі нажом у сэрца. І прага тае зямлі, і крыўда, што не давёў ён яе да свайго ладу, і трывога пачуць нешта злое пра гэтую зямлю — ажылі ў ім.

— Мама гаварыла кожны дзень, што тая зямля не дала ёй жыць і цераз яе яна памерла.

— Як жа цераз яе?— вінавата сказаў ён, халадзеючы ад адчування страшнай праўды.

— Мама расказвала, што яна захварэла ад таго, што зямля адабрала ў яе сілы. Яна ўжо і тады ведала, што захварэе, калі будзе больш выварочваць тыя карчы. Але яна маўчала табе, бо і табе было цяжка. А яна таксама хацела, каб пасля жыць на гэтай зямлі. І ты быў рад, думаючы пра гэта. І яна была рада думаць пра гэта. І, можа, думала яна, і ўдасца не захварэць.

— Мама думала пра мяне дрэнна?— калаціўся салдат.

— Не, — спалохалася Марына, — яна кожны раз гаварыла, што ты самы лепшы чалавек на свеце.

Максім Астаповіч упаў тварам на цёмны стол і зарыдаў. Марына падышла была бліжэй, пасля адышлася к дзвярам, стала там моўчкі і глядзела на бацьку.

— Я жыў, дачушка, без месца на зямлі. Я паабсаджваў тут дрэвамі ўсе дарогі, а лістка з гэтага дрэва я сарваць не магу. Я не шкадаваў рук, каб дастаць зямлі. І яна мне гэта самае гаварыла. І мы разам цешыліся, што будзем некалі жыць. Я ўсё садзіў чужыя дрэвы і чужыя сады. Хіба я думаў, што так будзе? Я і на вайне быў не горшы, як усе. Я ваяваў, і мяне раніла ў нагу. З раненай нагой я ляжаў доўга ў шпіталі, і яшчэ мая нага не зажыла зусім. Я думаў з працы рук дайсці шчасця і згубіў яе, нябожчыцу. Калі яна што кепскае думала калі пра мяне — не думаў я злога, не думаў.

— Я ж кажу табе, што не, што не!

— Я ведаю, што не, але ад гэтага мне яшчэ горш. Няхай бы я сам усё гэта адразу бачыў.

Ён не думаў пра тое, што перад ім дзіця. Марына не думала, што з ёю як-небудзь інакш можна гаварыць. І гэтая гаворка якраз была да яе такою, якая яна цяпер ужо стала. Ён толькі цяпер убачыў, што яго мара была ашуканствам і што яна, сама гэтая мара, была пахавана ўжо навек. Цяпер ён ведаў горкую праўду і ўсяму на свеце пазнаў цану. Але за гэта ён заплаціў занадта дорага. І вось перад ім стаяла яна, Марына. Усё цяпер сабралася і з'яд-

налася ў ёй. Гэта дзеля будучыні яе ён прынёс такую страшную ахвяру. Ён ашукаўся, але ён шукаў і стараўся як мог. Аднак гэта цяпер мала цешыла яго. Гэта толькі дало яму з вялікай сілай адчуць, што яна, Марына, стала цяпер яго адзінай мэтай і адзінай марай. Дзеля яе шчасця ён будзе жыць далей, а самому яму нічога больш не трэба. Сам дзеля сябе ён быццам лёг ужо ў магілу, разам з сваёй несвіжанкай.

І ён, і Марына позна леглі спаць. Усхапіўся ён на расвітанні. Пачынаўся ясны асенні дзень. Ужо відны былі ямы ў глінянай падлозе гэтай хаты. Ён шпарка ўстаў, яму рупіла нешта рабіць, некуды ісці, нечага недзе старацца. Марына спала, і ён глядзеў на яе і думаў: якая яна яшчэ малое дзіця. Нага яго яшчэ балела, але не да таго яму было. Ён абышоў навокал хату — усё было старое, трухлявае, разваленае. Вось і ўсё, што асталося дзеля Марынінай будучыні, хіба, можа, далучыць яшчэ сюды яго былую няўдалую мару, якая з'ела лепшыя яго маладыя гады, і, можа, яшчэ далучыць магілу мілай яго несвіжанкі. З чаго ж тут пачаць і за што брацца? Пакуль Марына спала, ён паспеў збегаць у Гальвасаўскі маёнтак. Аканом сказаў яму:

— Што ж ты цяпер, увосень, пра тую зямлю пытаеш? За гэтыя гады яна зноў зарасла лесам. Вясной паглядзімо, што там на ёй робіцца. У мяне млын стаіць. Мельнік памёр. Бярыся, калі хочаш, малоць. Умееш? Будзеш мець ардынарыю.

— Добра, — сказаў ён. — Дзе ключы ад млына? Я адразу і пайду.

Аканом даў яму ключы, і салдат ажыў, устрапянуўся. Ён не далёк быў ад таго, каб пачаць шукаць сабе якойнебудзь новай мары. Хто бачыў яго ў гэтыя хвіліны, казалі пасля, што стаў ён падобен да сябе такога, які быў, калі браўся за тую зямлю. Вельмі шпарка прыбег ён дадому, зноў трымаў галаву нейк быццам набок. Марына ўмывалася вадою з конаўкі.

— Я астаўся малоць у млыне, — сказаў ён. — От нам з табою і хлеб будзе.

— Як добра,— сказала яна.— І я пайду з табою. Там на мастку так ціха. Я там была нядаўна. І з дрэў чырвонае лісце падае на масток.

І ён не разабраў, пра што яна думала, калі сказала «як добра». Ці што «будзе хлеб», ці што лісце падае на масток. «Зусім дзіця», — падумаў ён.

Разам з Марынай вельмі шпарка дайшоў ён да млына. І зноў пачаў гаварыць сам з сабою: «Зараз пушчу. Ці ўсё хаця як мае быць? Трэба праверыць. А калі што не так, дык падправім». Ён увайшоў у млын, абгледзеў усё, павярнуў падважнік, хлынула вада на колы, усё зашумела, загрукала, каменні зварухнуліся, заскрыпела сухая дзеравячына. Марына засмяялася, выбегла на масток, глянула, як ірвецца вада ўніз, зноў убегла к бацьку. Бацька прывярнуў к сцяне падважнік. Усё сціхла. «Як прымерзне вада, у адным месцы падправіць прыйдзецца. А пакуль што — можна малоць». У той жа дзень перад вечарам прыехалі першыя завознікі. І ён малоў цэлую ноч. Ужо недалёка было да дня, калі вярнуўся ён дадому. Работа ажывіла яго і аблягчыла яму душу. «Гадзін са дзве пасплю, а тады ўстану, што-небудзь зраблю каля хаты і зноў пайду». Марына ўстала, калі ён яшчэ спаў. Ціхом выйшла яна на двор, дзе цьмелі асеннія зоры і палавела неба на ўсходзе. Яна набрала лому, унесла ў хату, ціхом, каб не пабудзіць яго, пачала ўпіхаць лом у печ. Печны прыпек прыходзіўся ёй мала ніжэй плеч. Яна падставіла ўслончык, стала на яго і напакавала печ ломам. Выдзьмухала з жару агонь і падпаліла лом. Набрала ў гаршчок круп і прыставіла к агню варыць. Ён не спаў, усё гэта бачыў і думаў, што яна ўжо не дзіця. А калі ўстаў і пагладзіў яе па галаве і плячах, яна хапіла яго за локці і павісла на іх. «Зусім дзіця», — падумаў ён.

Таксама, як і ўчора, удваіх пайшлі яны ў млын. І яна не адыходзіла ад бацькі. Тое, што яна цяпер не адна, а з бацькам, вярнула да яе многа дзіцячага, што ў адзіноце пачало ўжо цьмець і губіцца. У роўным шуме вады і ў грукаце каменняў яны, гаворачы, крычалі адзін аднаму на вуха. І гэта забаўляла яе. Ён рысаваў ёй на сцяне вуглём або мелам літары, і так яна пачала вучыцца чытаць. І ўвесь час, дзень пры дні, яна была з ім разам каля млына. Яна яму расказвала, што на маладых дрэўцах у маладых Гальвасавых садах ужо з'яўляліся ў гэтым годзе першыя яблыкі. Яна бачыла, што гэта прыемна нейкім чынам узрушае яго, і сумысля гэта гаварыла. Так, незаўважна ёй самой і яму, да яе прыйшла сталасць, і ўсё сапраўды дзіцячае ўжо скончылася. «Я і сады гэтыя Гальвасу садзіў», — сказаў ён, і яна адказала, што ёй маці і пра гэта расказвала. І чым больш праходзіла дзён, тым больш бачыў ён, што яна — гэта тая самая яго Галена, нябожчыца

несвіжанка. Так яна ўвабрала ў сябе ўсё ад свае маці — і выгляд, і голас, і паставу, і многія рысы матчынай натуры пачыналі ўжо вызначаць яе душу.

Так прайшла восень таго года. Рэчка замёрзла позна. Ён узяўся за млынавы рамонт. І так прайшла зіма, прыйшла вясна, а пасля лета і восень дзевяцьсот семнаццатага года.

## III

І раптам ён пачаў бачыць, што ўсё тое, што ён толькі для самога сябе таіў у душы, вядома ўсім. І ўсе так думаюць, як ён, і нават бачаць тое, чаго ён сам раней не мог як трэба абмысліць і сфармаваць у сваіх думках. Здавалася, што чым больш праходзіць часу ад дня яе смерці, тым ясней яе памятаюць і тым больш пра яе гавораць. І вось толькі цяпер выраўняўся і ачысціўся ад успышак разгубленасці і беспараднасці смутак па ёй. Цяпер ён ведаў: гэта ўжо назаўсёды. Што было — тое было, і мінулага не вернеш. Дакоры яго сумлення за няўдалую практыку па няўдзячнай зямлі пройдуць, іх з'есць час, гэты найлепшы доктар. А смутак па ёй астанецца і памрэ толькі разам з ім самім. І тым большае, ужо асмысленае стала яго замілаванне да Марыны. Гэта стала яго мэтай — жыць дзеля яе. Перад яго вачыма — Марына ўвабрала ў сябе ўсё тое слаўнае і вялікае сваёй неабходнасцю сярод людзей, што было ў яе, і пра гэта ўсе навокал гаварылі. Гаварылі, што Марына, як кропля вады на кроплю, падобна на нябожчыцу сваю маці і што хоць яна яшчэ і недарослая — ужо відно, што ў яе матчына натура. І руплівы ў сваіх малых справах і рухавы ў рабоце Максім Астаповіч, за якім і цяпер трымалася мянушка «салдат», пачынаў сумаваць, калі доўга не бачыў свае Марыны, і з радасцю слухаў, што гаварылі пра яе і яе маці. Жывому стварэнню і чалавеку каб жыць, трэба есці і спаць. Яму яшчэ трэба было заўсёды бачыць пры сабе сваю Марыну. Яна стала яго прагай вечна старацца і дбаць. І пакрысе гады пачалі класці сваю пячаць на яго аблічча. Быццам бы ён стаў павальнейшы. Ён лысеў з ілба. Ён пакінуў падстрыгаць вусы, і яны адраслі ў яго ўніз. Цяпер ён здаваўся вышэйшы ростам, як раней. Ён больш цяпер курыў і ад тытуню пакашліваў. Сапраўды-такі ён рабіўся павальнейшы і ў хадзе, і ў слове. Раней ён не меў сталых прывычак. Усё тады ішлося так, што не маглі яны ў яго ўсталявацца. Цяпер ён бачыў, што жыццё

пайшло раўней, і, можа, нават скора льга будзе ўбачыць, як яно ўсё будзе праходзіць. У яго пачалі заўважаць сталыя прывычкі.

Увесну тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года ён пачаў будавацца. Гэта быў час асаблівых яснот у яго душы. Ён быццам маліўся перад усім шырокім светам — не маліваў залежнасці перад невядомай помслівай сілай, а захапленнем сваім. З такім выглядам ён кожны дзень, яшчэ нацямку, ішоў сцежкаю, праходзіў масток ля млына, пераходзіў лясную граду, пасля ўпоперак Нясвіжскі гасцінец і прыходзіў на тое месца. Што гэта было за месца! У гэты ранні час сонца яшчэ не відно было, толькі адны жаваранкі бачылі яго звысоку. Ціхае поле, аблямаванае з двух бакоў лесам, быццам драмала яшчэ. На гасцінцы маўчалі бярозы, злеглы пад расой пыл яшчэ не паднімаўся з-пад ног. У далечыні на захад зводдалеку стаялі перад вокам дрэвы, вялікія, купчастыя. За імі адгэтуль заходзіць сонца, тады яны здаюцца чорныя. Цяпер над імі вісіць найтанчэйшая смуга, і ўсё там павявае вялікім спакоем. Здаецца, там лечацца раны чалавечай душы. Здаецца, тут усё існуе на вялікую радасць. Пах вільготнай зямлі, зяленіва польнага сцябла, жоўтая лагоднасць прыгрэтага сонцам малачайніку, духмянасць прэлага моху з лесу, прасвет неба паміж хвояў, птушка над дрэвам, родныя магілы на блізкім могільніку — і смутак, і радасць! Благаславенне табе і ўся душа табе, мясціна, дзе радзіўся і вырас чалавек. Вось што жыло ў душы і сэрцы гэтага чалавека ў гэтыя хвіліны, калі ён у гэты ціхі час дня аставаўся адзін на гэтым выбраным ім для забудоўлі месцы. Можна сказаць, што з гэтых часоў ён упершыню пачаў думаць пра родныя мясціны і адчуваць вялікае хараство іх. Раней яго заўсёды цягнула сюды, але не да таго яму было, каб спыніцца надоўга думкай на гэтым.

Тут ужо ляжала вывезенае з Гальвасавага лесу і апілаванае дрэва. Адзін смольны пах свежых дошак мог кожную хвіліну ўсхваляваць яго. Каб тут была цяпер пры ім яна! Часамі ён клаў сякеру, выпростваўся і так стаяў, адганяючыся страшным, як беспрасветны прыгнёт, думкам аб ёй, аб яе цеснай магіле. Пасля, быццам што ўспомніўшы, шпарка браў сякеру, і стук яе аддаваўся рэхам у блізкім лесе. Дзеля будучыні! Дзеля Марыны! Пачынала ўсходзіць сонца. Нясвіжскі гасцінец ужо ляжаў у золаце, і ўсё чуўся стук яго сякеры. І тут прыходзіў яго памагаты — высокі, з шырокім тварам Кірыла Вялічка. Яны згаварыліся паміж

сабою будавацца разам: спачатку пабудаваць хату аднаму, пасля другому. Дрэва яны спусцілі і вывезлі скора — Гальвасаў лес быў тут жа, пад бокам. Гальваса ўжо і слыху не было. Мясціна ж гэтая на забудоўлю падабалася не толькі ім, а і ўсім іншым, хто не меў тут або хат, або добрых пляцоў. Хто раней ліпеў тут, як у падсуседзях, або проста быў кутнікам па чужых людзях, ці парабкам у Гальваса, ці душыўся ў трухлявай хацінцы, — усе выйшлі сюды, і ўздоўж гасцінца пачала вырастаць новая вуліца.

Кірыла Вялічка быў з самай свае маладосці і дагэтуль кавалём у Гальвасавым маёнтку. Родам ён быў не тутэйшы, хоць зблізку, але з мясцовасці крыху іншай як тут. Ён быў недзе з-пад Семежава і тамашнім дыялектам усё жыццё гаварыў і тут. Ён гаварыў — «выспаўса», «наеўса». Натуры ён быў заядлай і ўпартай. З першага погляду ён здаваўся медзведзяватым і мала паваротлівым, але пасля ўражанне гэтае сплывала зусім. За Максіма Астаповіча ён быў старэйшы год на шэсць. Астаповіч ажаніўся пазней за яго, да таго часу ў Вялічкі памерла ўжо пяцігадовая дачка. І вось з ім здарылася прыгода, якая паклала пэўным чынам след на яго душу, і каб хто наглядальны сачыў за ім, то мог бы заўважыць, што з некаторага часу гэты чалавек не тое што апанураў, а пачаў упадаць у нейкую як бы задумёнасць. Быццам бы ён стараўся штосьці пазнаць сваімі думкамі або пазнаў ужо раней невядомае і нязвыклае яму. Пасля нават пайшлі здогадкі, і нават гаварыць пра гэта пачалі, ад людзей не ўхаваеш нават самыя патаемныя свае думкі, людзі, калі не ўбачаць, то здагадаюцца. Расказвалі, што Кірыла Вялічка любіў несвіжанку і многа год насіў у сабе гэтае пакутнае яму пачуццё. Але як сталы чалавек, з жонкай і дзецьмі, ён душыў яго ў сабе і нават самому сабе баяўся прызнацца ў ім. Было б вельмі дзіўна, каб тут было што іншае з гэтым чалавекам, які шмат каму, бадай-што ўсім, здаваўся на месцы толькі пры кавадле, быў як бы нясхладны, як віламі скіданы. Да таго ж у яго яшчэ быў падвярод уназе, а можа, што іншае. І пакуль вылечыўся, не мог насіць ботаў, халява церла яму хворую нагу. Ён за гэты час прывык да чаравік і з прывычкі ў гамашах заўсёды хадзіў. У кузні ён паварочваўся ў адмысловых шарачковых портках, вузкіх і кароткіх, яны не даходзілі да чаравік, і пры кожным узмаху молатам былі відны споднікі, упушчаныя ў гамашы. Гэты чалавек мог думаць аб усім на свеце, але, здавалася,

толькі не аб зграбнасці свае адзежы. Вядома, у працы з цямна да цямна не да гэтага было. Гаварылі, што аднойчы нейкаму сваййму сябру ён, ці то выпіўшы, ці то пад непатрэбны настрой, прызнаўся, што любіць несвіжанку, але прасіў таго на прамілы бог тут жа забыцца на гэта і ніколі не ўспамінаць. Але яго сябар, як відаць, расказаў гэта камусьці трэцяму, таксама на праміілы бог просячы маўчаць. Той жа трэці пад страшным сакрэтам перадаў чацвёртаму. Трэба з павагай думаць пра Кірылу Вялічку: калі Астаповіч прывёў сюды несвіжанку, яна адразу ўпала яму ў вока, але ён усімі сіламі стараўся ніколі не спатыкацца з ёю, каб лягчэй гнаць з сябе сваю трывогу. За гады ні разу сумысля ён не падышоў да яе і ні разу не сказаў ёй нічога такога, і яна нічога не ведала і нават не здагадвалася. Тым лягчэй было яму прыйсці да яе, калі яна ляжала хворая адна ў хаце з сваёю малой Марынай. Яна ўжо ведала, што памрэ, і паскардзілася яму на гэта. Але раптам, ад удзячнасці да яго ўвагі, зрабіла выгляд, што ёй робіцца лягчэй. Пасля ён пра гэта здагадаўся, і — у якой вялікасці яна раптам назаўсёды паўстала перад ім! Раней ён толькі любіў яе, цяпер ведаў, за што любіў. Можна сказаць з упэўненасцю, што гэта ён першы прычыніўся да таго, што вобраз яе вырысоўваўся перад усімі, як незвычайны. Ён распараджаўся яе пахаваннем, і так выйшла, што хаваць яе сышліся ўсе навакольныя. І першыя дні пасля гэтага ён пры сваёй кузні гаварыў з людзьмі пра яе і так, што ўсе раптам убачылі, які залаты чалавек сышоў у магілу. Ён пасля не спускаў з вока Марыну, час-часам заходзіў да яе, прывёз ёй на зіму дроў, але забраць к сабе ніяк не мог — сам ён ужо стаў кутнікам — жыў па чужых кутах і выбудаваў сабе ўласную кузню на самым гасцінцы. Справа была такая, што ў першы год вайны ён нешта заеўся з Гальвасавым аканомам і вылаяў яго апошнімі словамі, нават расказвалі, што пагразіў перацягнуць яго цераз спіну жалезным прутам, які якраз быў тут у кузні напагатове; у той жа дзень аканом выгнаў яго вон і з кузні, і з афіцыны, і ён пачаў шукаць іншай рады. У гэтым глухім кутку каля яго кузні збіраліся часта — і каму трэба было, і каму не трэба. Каму выдаралася вольная часіна, ішоў да кузні пацерціся каля людзей і закурыць з горна, каб не псаваць дома запалкі. Калі Астаповіч вярнуўся з вайны, Вялічка з лёгкім сэрцам спаткаўся з ім і быў рад ранейшай сваёй вытрыманасці. Яму

здавалася, што мае сказаць Астаповічу нешта важнае і патрэбнае пра яго нябожчыцу жонку. Аднак жа сапраўды і не было таго выразнага, што яму хацелася сказаць. Гэта было проста яго пачуццё, але ж яно было і ў Астаповіча. І гэтыя двое людзей больш маўчалі, чым гаварылі паміж сабою.

Астаповіч ва ўсім хацеў знайсці, а часамі і выдумаць, добрае. Вялічка ж нават, калі і было тое добрае, мог перамяншыць яго, каб пасля не каяцца ў сваёй легкадумнасці. Ён больш паддаўся практыцы жыцця, як Астаповіч. Аднак жа яны абодва заўсёды біліся як рыба аб лёд, і тут непадабенства паміж імі было толькі ў тым, што Астаповіч лягчэй прымаў усё да душы. Гэты быў шчаслівы з малога. Калі на дзень было хлеба — гэтага даволі, каб не ныць лішне душой. Той жа заглядаць любіў далёка наперад. Вельмі можа быць, што такая, як думаў Вялічка, Астаповічава легкадумнасць усталявалася пасля вялікай і страшнай яго няўдачы з зямлёй, як бы там ні было, яны напоўніліся раданай заўзятасцю ў новай справе, якая так шчасліва адкрылася перад імі. Да зімы васемнаццатага года хаты былі ўжо накрытыя дахам, толькі стаялі без дзвярэй і вокан. У пачатку зімы прыйшлі немцы, і адразу вярнуўся Гальвасаўскі аканом. Ён паклікаў усіх, хто забудаваўся з Гальвасавага лесу, і сказаў за лес заплаціць, а за самаўпраўства даць штраф. А хаты прыбраць з Гальвасавага поля. Плата і штраф былі такія, што людзі паспродвалі, хто меў, жывёлу і адзежу, пазаставаліся голыя. Астаповіч і Вялічка штраф і плату выплацілі, а хаты прыбіраць з Гальвасавага поля марудзілі. За гэта была новая грозьба, і к вясне гэтыя два забудоўнікі паразбіралі хаты і пасцягвалі бярвенне к дарозе. Як адышлі немцы, аканом зпік без следу. Астаповіч і Вялічка з сумам і радасцю паглядзелі на мясціны, дзе стаялі хаты, і зноў пачалі перацягаць туды сваю будоўлю. Выявілася, аднак, што не ўсё ўжо бярвенне цэлае. Зноў прыйшлося спускаць хвоі. Але нічога не было цяжка, калі чалавек рабіў сабе на вечнасць. Зноў былі хаты накрыты дахам. Астаповіч быў майстар. На дзве хаты дзверы і шуфляды ёй парабіў сам, і вельмі шпарка. Сам ён клаў падлогу, сам зашкліў вокны і вымураваў печы. Увабралася ў сілу і праходзіла лета дзевятнаццатага года. Самымі першымі днямі жнівеня месяца Астаповіч з сваёй Марынай перайшлі жыць у новую хату. Якая шчаслівая хвіліна! Каб жыва была яна, нябожчыца гэтая ра-



Кузьма Чорны з беларускімі партызанамі. 1943 г.

дасць навек глынула б яе гора на той карчакаватай зямлі! Так думаў ён, несупынна гаворачы ўсё і гаворачы сваёй Марыне аб новай хаце, аб жыцці на далейшае, аб хвойным лесе, што пачынаўся бадай-што пры самай хаце, аб грыбах на самай ляснон сцежцы, аб полі, аб дрэвах. «Усе дрэвы на тутэйшых дарогах панасаджваў я! Цяпер мы пасадзім з табой дрэвы каля свае хаты! Усялякіх дрэў панасаджваем. І сад пасаджу — яблыні, ігрушы. Ты толькі паслухай, Марына! Ты неўзабаве вырасцеш, будзеш вялікая. А жыць на свеце чалавеку доўга. А колькі чалавеку трэба? Чалавек не можа спажыць больш таго, колькі можа. І на той свет у магілу за сабой не пацягнеш. Мы з табой, Марына, цяпер будзем жыць лепш за тое, як жыў раней Гальвас. Бо ў яго было горла шырокае. Ён пачаў быў беднець, і ўсё яму на свеце чорна здалося. Каб гэта на сапраўднага чалавека, які мае залатыя рукі,— дык як тут бядней гэты Гальвас? Ён яшчэ чорт ведае колькі ўсяго мог бы аддаць людзям. Былі ў яго лясы, якіх ён і сам ніколі не бачыў. Але рукі ў яго былі мёртвыя, яны толькі былі яму на тое, каб насіць на іх пярсцёнкі. Цяпер у нас з табою ўсё, Марына, добра будзе».

Адным словам, гэты чалавек дасягнуў цяпер чагосьці нязвыклага яму раней. Цяпер ён сапраўды ўжо бачыў перад сабой ясныя далі, яны сталі блізкімі, ён даплыў ужо да іх берагоў. Калісьці раскарчованая ім зямля пры лесе зноў ужо зарасла, быццам тут ніколі каля яе не хадзіў чалавек і быццам яна не з'ела чалавечага жыцця. Ён цяпер туды ніколі не заглядваў, блізасць гэтага кутка прыгнечвала яго, калі ён заходзіў туды думкамі.

У канцы жніўеня аднак жа зноў вярнуўся Гальвасаў аканом, а дзён праз чатыры пасля яго і сам Гальвас. Прыйшла панская акупацыя. Можна сабе ўявіць, што стала з верным Гальвасу аканомам, які ўсё сваё жыццё добра пражыў тут і ўбачыў цяпер, што хаты з Гальвасавага лесу і на Гальвасавым полі зноў стаяць, быццам бы і нечапаныя. У васемнаццатым годзе яны былі расцягнуты па бярвенню, цяпер зноў стаяць, як паднятыя з мёртвых, новыя, чыстыя, яшчэ да дасканаласці не закончаныя. Аканом бачыў, што яго бадзянні быццам скончыліся навек, што нават і сам Гальвас вярнуўся сюды са спакойнай душой. І ён пайшоў на даклад да свайго пана. Гальвас на кожнае яго слова ківаў галавой, і назаўтра ён абышоў усе хаты — стукаў палкай у сцены і гаварыў са зларадствам, што сце-

ны, як звон, і зроблены з самай добрай смольнай хвоі. І вось трэба, каб гэтыя хаты былі разабраны па бервяну, папілованы на дровы і — як хто сабе хоча, хоць саматугам— звезены ў маёнтак на апал. Максім Астаповіч у адзін момант зноў стаў тым ранейшым «салдатам» — нейк адразу скрывіў галаву набок, пачаў заікацца, заміргаў счырванелымі вачыма і пабег раіцца да Кірылы Вялічкі. Той маўчаў як зацяты. Нічога ад яго не пачуўшы цвёрдага, Астаповіч прыцемкам вярнуўся дадому і за ўвесь гэты страшны дзень быццам толькі ўпершыню ўбачыў сваю Марыну. Смутак ірвануў яму душу: ён убачыў яе пахудзелую за адзін дзень, напалоханую, і голас яе перарываўся, калі яна сказала:

— Ну што, тата, можа, і не будуць раскідаць нашай хаты?

— Я не ведаю, можа, і не будуць,— адказаў ён безнадзейным голасам.

«Дзе ж Марыніна будучыня? Што стала з ёю? І як яму цяпер жыць дзеля яе?» Гэтая думка заўладала ўсёй яго істотай. Назаўтра ён зноў пабег да Кірылы Вялічкі. І за гэты дзень той нічога выразнага не сказаў яму. На трэці дзень было тое самае. На чацвёрты дзень з'явіліся аканом і два паліцэйскія. Ён счарнеў тварам, калі яны сталі паабапал яго. І тут яго здзівіла Марына. Яна падбегла да аканома і, калоцячыся і дрыжучы, шпарка прагаварыла нейкім нязвыклым ёй раней голасам:

— Не чапайце тату, ён раскідае нашу хату!

Трэба думаць, што голас яе нейкім чынам уразіў аканома. Ён увесь павярнуўся да яе. Гэта нічога, што яна прасіла, і нічога, што ёю ўладаў дзіцячы спалох. Разам з тым у яе просьбе было нешта такое, што гаварыла: паспрабуй толькі зачапіць майго бацьку! Але, вядома, аканому не было гэта страшна. Вельмі можа быць, што яму нават і сорамна стала перад ёю. А можа, ён не хацеў быць несправядлівым.

— Добра, — сказаў ён да Астаповіча. — Ты цяпер пачынай жа разбіраць хату і пілаваць яе на дровы. А заўтра будзеш дастаўляць у маёнтак.

Ён палез на гару і павыбіваў шчыты. Быў вечар, і ён увайшоў у хату начаваць. Марына маўчала і не спала. У глыбокую ноч ён выйшаў. Свяціў месяц, і ўсё маўчала. Смутак душыў яго. Прабадзяўся ён па кутках каля хаты да дня. Зранку ён зняў з крукоў сенечныя дзверы і пай-

шоў да Вялічкі. Хата таго стаяла на замку. Апошнімі гадамі Вялічка аўдавеў і жыў з адным толькі сваім хлопцам. Ні бацькі, ні сына нідзе не было. Астаповіч патужыў сам сабе, што няма з кім параіцца, і прыйшоў дадому. Аканом праехаў конна паўз хату. «Правярае», — падумаў ён і зняў з крукоў хатнія дзверы. Прыйшоў вечар. Ён зноў пайшоў да Вялічкі і зноў убачыў на замку дзверы. Ён устрывожыўся і так дома заікаўся перад Марынай, што яна анічога не разабрала, што ён гаворыць. Прайшла ноч, і зноў прайшоў дзень, і зноў ноч. За гэты час ён ужо дастаў адну аконную раму і зняў вешала над сенечнымі дзвярыма на двары. А Вялічкі з хлопцам нідзе не было, і ніхто не чуў і не бачыў, дзе яны маглі знікнуць. А як пачаўся дзень, прыйшлі маёнткавыя чалавек шэсць з крукамі і сякерамі і расцяглі па бервяну хату і пачалі класці на параконныя кары. К вечару ад Астаповічавай і Вялічкавай хаты ўжо і следу не было. Не было ніякага следу і ад Вялічкі з яго сынам. Астаповіч з Марынай вярнуліся жыць у сваю старую хату, у тую трухліну з зямлёй на ямах заместа падлогі. У той жа самы дзень Марына сказала бацьку:

— Ты, тата, не бядуй. Я нанашу кашом гліны і выраўняю зямлю, і ў нас у хаце стане аздабней.

І сапраўды, яна зрабіла ўсё як мае быць, але Астаповіч як бы і не бачыў гэтага. Ён мала гаварыў з Марынай і самнасам думаў. «Вось і скончана ўсё,— думаў ён,— я не жыву дзеля Марыны і нічога дзеля яе не зраблю на свеце. Як бы ні стараўся — нічога не будзе. Яна будзе жыць так, як прыйдзецца, а прыходзіцца заўсёды кепска. І я ўжо не патрэбен на свеце, не патрэбен і Марыне. Так, як тая страшная зямля з'ела яе, нябожчыцу, так Гальвас есць маю Марыну. Хіба толькі я патрэбен на тое, каб бачыць яе, каб глядзець на яе. Але гэта важней мне, чым ёй, і толькі дзеля сябе самога я жыву». І раптам ён адчуў у сто разоў больш, як калі, боль не бачыць яе. Ён глядзеў на яе цэлымі гадзінамі. І так прайшло дзён дзесяць. Ён пачаў пытацца, ці не бачыў дзе хто Кірылы Вялічкі, але ніхто нават і не чуў пра яго, і ўсе дзівіліся. Хоць бы хлопец яго дзе паказаўся. Некаторыя нават пачалі ўжо гаварыць, што ён з сынам сышоў далёка, бо тут яго нічога ўжо не трымае. Калі ў Астаповіча была тут старая хата, дык у таго і гэтага не было. І раптам пра яго пайшла ціхом гаворка. Нават не гаворка выразная, а здогадка. Аднойчы ўночы,

бадай перад самым рассвітаннем, загарэлася самае большае Гальвасава гумно, усё напакаванае снапамі. Гумно згарэла вельмі шпарка. Не паспела ўзысці сонца, як пайшла ціхом гаворка, што падпальшчыка бачылі, як ён хацеў скрыцца за маладым садам. Гэта быў нехта высокі, але выразна пазнаць яго папацёмку нельга было. Бачыў яго вартавы і сам аканом, які ішоў паўз гумно з двума сабакамі на паляванне. Аканом пабег за ім і страляў у яго. За ім рынуліся і сабакі. Але падпальшчык, мусіць, паспеў перабрацца праз рэчку, бо сляды яго зніклі, сабакі ж доўга брахалі каля рэчкі і пасля прыбеглі назад. Расказвалі, што быццам бы нават была кроў на аеры на самым узбалочаным беразе рэчкі. Цікаўныя пабеглі глядзець, аднак жа ніякай крыві нідзе не ўбачылі. Праўда, якраз пайшоў дождж, і кроў магла змыцца. Якраз увесь той дзень быў дажджысты, на полі работы не было, і шмат хто аддаўся здогадкам і гаворцы. Гаварылі, што падпальшчык — гэта, напэўна, Кірыла Вялічка. Тым часам апаўдні прыехала жандармерыя, пачалі глядзець і распытваць. Ні на які след не напалі. Дождж ліў і ўдзень і ўночы. Часамі на момант прачышчалася, але хмары валакліся нізка, і дождж зноў пачынаў сеяць, як праз сіта. Раздажджылася надоўга. Пасля яшчэ адной ночы, гадзін за паўтары да дня, у акно Астаповічавай хаты нехта ціхом пастукаў. Нейкім сваім прадчуваннем Астаповіч чакаў гэтага стуку. Не пытаючыся і не падыходзячы да акна, ён выйшаў на двор і ўбачыў перад сабой Вялічкавага Уладзю. Яму было цяпер год чатырнаццаць. Ён заўсёды быў тонкі і худы, з нізка астрыжанай галавой і паводле сваіх год даволі рослы. Цяпер ён здаўся Астаповічу занадта ўжо нейкім высокім. Праўда, цёмна было і неба хмурнае, так што хлапцова постаць вельмі невыразна відна была.

— Тата вас кліча,— сказаў Уладзя.

— А есці ў яго ёсць? — спытаў здагадлівы Астаповіч.

— Нічога няма.

— Пачакай, я зараз.

Ён убег у хату, вобмацкам напакаваў торбу хлебам, пабудзіў Марыну і пашаптаўся з ёю. Пасля следам за Уладзем пайшоў паціху. Ужо добра бралася на дзень, калі яны перайшлі тую карчакаватую дзялянку, мінулі поле суседняга пана, перайшлі праз ручаіну і доўга ішлі лесам. Уладзя вёў яго і ледзь пратаптанымі сцежкамі, і глухой гушчарнёй. Зноў выбіваліся на сцежку, зноў браліся воўчымі ло-

гавамі, прыгінаючыся і правальваючыся ў падножнай трухліне. Нарэшце прыйшлі. Тут было змрочна і ціха. Запозненая дажджавая кропля часамі гучна падала з дрэва на лісток якога-небудзь нізкарослага куста. Кірыла Вялічка ў рудой вопратцы з самаробнага сукна ляжаў увесь мокры. Вопратка была расшпіленая, і рубашка пад ёю расхрыстаная. З-пад яе відно было, як грудзі яго туга перавязаны ручніком.

— Прастрэліў мне грудзі аканом,— прагаварыў ён сухім хрыпатым голасам.— Ці згарэла хаця гумно?

— Згарэла,— адказаў Астаповіч.

— Дачакаўся Гальвас, яшчэ не таго дачакаецца. А ці шукаюць падпальшчыка, а ці аціхла ўсё?

— Шукаюць і пра цябе гавораць.

— От бачыш, добра, што я не вытыкаўся. А як ты, браце, маешся?

— Што пра мяне пытаць!

— Максім, калі будзе што са мною — не адступіся ад майго Уладзі, як бы я табе і прыпаручыў яго. Выгадуй яго і навучы яго, што сам ведаеш. У цябе залатыя рукі, няхай і ён будзе рамеснікам добрым. Ён стаіць напроці веку.

— Ты не думай пра гэта,— сказаў Астаповіч, страшэнна заікаючыся.

Кірыла паспрабаваў жаваць хлеб і пакінуў.

— Каб, здэцца, прачысціла на небе ды каб сонца, то я абсох бы можа.

— Дык я мог бы табе сухую адзежу прынесці.

— Ну, Уладзя не здагадаўся сказаць.

У той дзень неба і сапраўды прачысцілася і сапраўды высвеціла сонца. Адзежа на Кірылу правяла і прасохла, але Астаповіч прынёс яму бялізну і сухую вопратку. Кожны вечар або перад днём ён прыходзіў сюды, і ў грудзях яго быццам бы рваліся скулы. І якой мілай і слаўнай была яму цяпер семежаўская, ці лешанская, ці вызнянская вымова, з якой ён раней часамі пасміхваўся. Кірылаў голас аднак жа пачаў слабець ужо на другі дзень, а на чацвёрты дзень ён апошні раз пошапкам пагаварыў з Максімам.

— Няхай бы Марына прыйшла,— шаптаў ён.— Я хоць паглядзеў бы на яе. Яна як жывая маці. А яна, твая несвіжанка, была — абыдзі вялік-свет і такой не знойдзеш.

Ён прагнуў убачыць Марыну, і Максім выразна бачыў гэта.

— Дзядзька Кірыла ўмірае,— сказаў ён дома Марыне,— пойдзем к яму.

І дзіўна было: Марына гэтую навіну спаткала, як вядомую ёй. Здавалася, што яна вучылася нічому ўжо на свеце не дзівіцца. Уся справа ўжо вырысоўвалася перад ёю ва ўсёй сваёй жорсткай праўдзе. З бацькавай ціхай гаворкі яна здагадалася, што ніхто пра ўсё гэта не ведае і ведаць не павінен. І што трэба ісці ўночы.

— Страшна,— сказала яна па-дзіцячаму.

— Прывыкай, дачушка, да ўсяго на свеце,— адказаў бацька. Гэтага ён ёй раней ніколі не сказаў бы. Ён думаў раней, што, жывучы толькі дзеля яе адной, ён скрые ад яе горач свету і яна вырасце без страшных трывог. Цяпер ён бачыў, што так не ідзецца чалавеку і што яна сама, без яго, пойдзе праз увесь цяжар, што называецца «жыць».

Пад канец ночы яны пайшлі. За лесам ужо ўсходзіла сонца, а тут толькі світала. Але Кірыла відзён быў добра. Ён ужо не пазнаў ні Марыны, ні Максіма. Позірк яго вяла хадзіў па хвойным стволлі, і неўзабаве вочы яго сцьмелі і ён сканаў. Гэта была ўжо другая смерць, якую на сваім малым вяку бачыла Марына. Уладзя стаяў пры мёртвым бацьку, і твар яго несупынна перасмыкваўся нейкім адным шпаркім рухам. Здавалася, ён задыхаўся. Вочы яго ад бессані і ўзбуджанасці былі чырвоныя, і голас перарываўся.

— Бацька гаварыў, каб я, колькі буду жыць, каб не дараваў і ні Гальвасу, і ні аканому, і нікому. І калі хто калі ўзніме на мяне руку, каб я адсек гэтую руку... Я заб'ю Гальваса! — шпарка выгаварыў ён і з адчаем зварухнуў плячыма, вострымі, худымі, дзіцячымі.

Ужо відно было, што нейкія намеры точаць яго думку і ад іх няма яму ніякага іншага прасвятлення. Ён не мог сядзець і ўсё стаяў над бацькам. Астаповіч з Марынай вярнуліся дадому. Марына села на зямлі на ўваходзе ў двор з дарогі, каб сказаць кожнаму, хто будзе ісці, што бацькі няма дома, а ён замкнуўся ў хаце і пачаў рабіць труну. Уночы ён паклаў у труну чыстую кашулю, абвязаў труну вяроўкай, каб прыстроіць сабе на плечы. Марына пайшла за ім і часам падтрымлівала рукамі труну. Так прыйшлі яны к таму месцу і там з Уладзем выкапалі магілу. У вялікім маўчанні яны пераадзелі нябожчыка ў белую кашулю і пахавалі. Сонца даўно ўжо рушыла з поўдня, калі магілу засыпалі. Ясны, сухі і ціхі стаяў дзень. Максім павёў Марыну дадому, і яму здавалася, што ўсё ў яго грудзях парвана

і пакалечана. Поцемкам прыйшоў і Уладзя. Спаць ён не лажыўся, нічога не гаварыў, і ўзбуджанне яго не змяншалася.

— Мне бацька цябе прыпаручыў,— сказаў Астаповіч.

— Мала што, але я пайду. Я вярнуся! Дзядзька, я вярнуся!

— А куды ты пойдзеш?

— Я пайду пад Слуцак, у той бок. Там недзе татаў брат.

— А што там рабіць будзеш?

Выразнага ж адказу ад Уладзі ні Астаповіч, ні Марына не пачулі. Яны толькі бачылі, што Уладзя або нешта ведае, або пра нешта здагадваецца. І відно было, што ім заўладала адна думка, ад якой яго не адарве ніякая сіла. Схуднелы, ціхі, цяпер ужо занадта сталы, ён перабыў у хаце за поўнач і раптам, напроці ночы, выйшаў у нейкую сваю дарогу. Ён нават не развітаўся, і Астаповіч выбег за ім следам. Дарэмна ён угаворваў яго пачакаць хоць да дня і сказаць, куды ён ідзе. Той і сам выразна сказаць не мог. Марына стаяла сярод цёмнай дарогі напроці свае хаты, перажываючы тую грань свайго жыцця, калі нейкія вялікія справы, роўныя чалавечаму лёсу, кранулі яе і адкрылі перад яе маладой душой свае таямніцы. Яна стаяла босая, насцярожаная, чулая да ўсяго на свеце і да цішыні гэтай ночы.

— Пайшоў,— сказаў ёй бацька, варочаючыся з дарогі.

Да самага дня яны не спалі і сядзелі ціхом. Астаповіч думаў, што яму трэба не сядзець так, а некуды ісці, нешта недзе рабіць, і ўпершыню ён так сказаў Марыне:

— Што ж цяпер мне рабіць, Марына?

— Будзе відно, што рабіць,— адказала яна так, што ён жахнуўся тону яе слоў і хапіўся рукою за яе гарачы лоб, быццам кінуўся праверыць — а ці няма на гэтым ілбе маршчыны старасці. «Вось і прайшло яе маленства, і ніколі яно ўжо да яе не вернецца»,— думаў ён і быццам піў страшны горач.

Пра Уладзю Вялічку не дайшлі аніякія чуткі. І над душой Максіма Астаповіча пачала панаваць ні з чым непараўнаная нянавісць. Раней яго сэрца было запоўнена толькі замілаваннем. Цяпер супроцьлеглае яму пачуццё заняло ў сэрцы вялікае месца.

Прайшло тыдняў тры, і ўжо гаворка паміж людзей аб дзіўным знікненні Кірылы Вялічкі і яго сына пачала за-

ціхаць. Нават і следства аб пажары не мела ўжо ніякага ходу — ніякіх канцоў не знаісці было. Максім Астаповіч нудзеў сваёй душой і аднойчы сам-насам спаткаўся з Ксавэрам Блецькам. Блецька араў у сябе на полі параконным плугам, Астаповіч ішоў палявой дарогай.

— Пачакай, Максім,— гукнуў Блецька.— Я перадыхну, і пагаворым... Я хвалю Кірылу, што ён спаліў Гальвасава гумно. Шкада, што ён усяго яго не спаліў. І ты маладзец, што памог яму. У той час я глядзеў, як Кірыла ішоў паўз гумно. Колькі Гальвас папаздзекаваўся некалі з мяне, як я служыў у яго, і колькі, бывала, каштавала грошай і здароўя дастаць у гэтага магната зямлі! Я яго сам сцёр бы са свету. Гэта Кірылава магіла ў лесе? Гэта ты да яго хадзіў тыя дні ў лес? Мне ўсё відно было з майго саду. Не бойся, я маўчаць буду праз усё жыццё, як магіла, як рыба! І ты маўчы перада мной і перад усім светам. Глядзі, каб спакойна было жыць... Ты мне нічога не гавары, не гавары і не апраўдвайся. Маўчы. Але ж і надвор'е добрае стала! Уночы сёння раса ляжала — дык як зерне скрозь рассыпана.

Максім Астаповіч у страшным здзіўленні глядзеў, як Блецька аддаляўся ад яго палявой баразной, угнуўшы над плугам плечы ў сваю непадпяразаную мультановую рубашку, пануры сам у сабе, адзінокі, цягавіты, упарты і страшны цяпер. «Ён можа згубіць мяне і Марыну. І ўсё можа згубіць яе. І не магу я нічога зрабіць, каб жыць дзеля яе толькі адной. Яна сама павінна ўваходзіць у сваю дарогу. І дзе там паварочваецца цяпер Уладзя? Вось ужо колькі разоў спрабаваў дайсці да сваіх жаданняў, і — тая праклятая зямля жыць не дала, і — новаю хатаю ў пакоях Гальваса грэюць, і Кірылы жывога няма!» Ён вярнуўся дадому, і яму хацелася пацалаваць Марыніны ногі. Ён гладзіў яе па галаве, і з такой сілай, як перажываецца кашмар, ён адчуваў пах яе валасоў — густых і туга заплеценых у дзве кароткія касы. «Яна ўжо не дзіця, і маленства яе ніколі больш не вернецца!»

## IV

І вось зноў усё пачалося спачатку. Зноў прыйшоў благаславенны час. Гальвасы навечна выехалі адсюль. Максім Астаповіч, непадатлівы стоме, зноў узяўся за клопат. Як быццам бы нічога раней і не перажывалася. Павольна

і цягавіта, саломіна к саломіне, ён зноў складаў сабе аселішча. Хто памятае яго з тых часоў, расказваюць цяпер, што ён аднак жа адразу нейк пачаў выдавацца як бы раптоўна настарэлым. Бадай-што зусім палысела яго галава і пасівелі вусы. І рух яго стаў павальнейшы. Можна было падумаць, што ён не спяшаецца і не прагне, як раней, хутчэй давесці да поўнага ладу сваю дамоўку, а мае асалоду ў самім працэсе яе забудавання. Можа, наперадзе зноў стаіць страшны лёс і зноў з'явіцца хто-небудзь няпрошаны і злы разбураць яе. Можа, у думках ён і не заходзіў так далёка, аднак жа, можна гэта сказать з упэўненасцю, сапраўды-такі аддаваўся вялікаму шчасцю ўзводзіць на пустым месцы новыя сцены.

Месца ён узяў тое самае, з таго самага лесу ўзяў і дрэва. Але і лета, і восень, і зіма не былі тым часам, калі ўсё дайшло да свайго завяршэння. Павольна выраслі сцены, павольна клаўся дах з гонты. Прайшла зіма, вясна, і пачалася лета, калі ён уставіў дзверы і аконныя рамы. Падлога клалася яшчэ цераз адну зіму. Вырастала Марына. Пышныя валасы яе не месціліся пад улюбёнай яе стракатай хусцінкай. Яна заплятала іх туга ў косы і закручвала іх пад шпількі і грабянец. Першая маладосць пачала згладжваць у яе з памяці ранейшую яе дзіцячую адзіноту, і ўсё больш і больш рабілася яна падобнай на сваю нябожчыцу маці. Усё мінулае не прайшло без следу, і ў душы яе жыло больш, чым выяўлялася праз словы, і думкі яе месцілі ў сабе многа. Яна вельмі добра бачыла, што бацька яе змяніўся. Перш за ўсё ён стаў больш разважлівы і нейкі занадта ўжо сталы. Раней ён заўсёды гатоў быў у яе малой шукаць падтрымкі і парады, цяпер глядзеў на яе, як на сваё дзіця, якому трэба дагадзіць у меру свайго вялікага замілавання да яго. Яна бачыла, што ён сам усё ведае, але раіцца з ёю, каб зрабіць ёй прыемнасць. І яна, з вялікай пашанай, прымала гэта, як родны дар. Так аднойчы, калі ўжо можна было пераходзіць у новы дом, ён сказаў ёй:

— Я думаю, што тут трэба панасаджваць дрэў. З гэтага боку дома будуць расці клёны, бярозы і ясені, а з таго боку будзе сад. Як ты думаеш?

— Гэта будзе вельмі добра,— адказала яна.

— От бачыш. Я пра гэта з самага пачатку думаў.

— І я думала. Заўсёды ты садзіў сады і дрэвы і не меў права дакрануцца да іх.

— Ты так думала?

— Ты мне сам пра гэта некалі гаварыў,— пачырванела яна.

Праз некалькі дзён ён пасадзіў каля дома маладыя дрэўцы і вылічыў, колькі яблынь і ігруш можна пасадзіць з паўднёвага боку. Таксама як некалі несвіжанка памагала яму садзіць Гальвасаў сад, так цяпер Марына памагала яму. І яму здавалася, што сляды Марыніных рук назаўсёды асталіся на кары гэтых маладых дрэў, быццам яна блаславіла іх на вялікі рост і доўгі век.

З некаторага часу яму прыйшлося мала аддавацца сваёй не скончанай яшчэ дамоўцы. Людзі скрозь будаваліся, абсаджваліся, абгляд аліся. І яго пачалі браць нарасхват. Пачалі скрозь садзіць сады, узводзіць новыя сцены, і здавалася, што ён сваёй спрактыкаванай рукой дае ўсяму парадак. Марына даводзіла да ладу свой дом. Хоць двор яшчэ і не быў абгароджаны, яна вычысціла і прыбрала яго. Вясной і ў пачатку лета яна капала зямлю каля маладых дрэў і за домам, і там ужо зазелянеў агарод. Цвілі браткі, і купчасціўся кракос. Убіраліся к восені ў сілу сцеблаватыя флёксы і вяргіні.

У гэты час усюды ішла гаворка, што Адам Блецька, пасля забойства брата, недзе тут поблізу туляецца па лясах і глухіх закутках. Быў ясны дзень, калі Марына адна, як і заўсёды цяпер, гаспадарыла дома. І вось тады яна ўбачыла, як Адам Блецька стаяў перад ёю з мехам, напакаваным шынкамі і кілбасамі. Уздрыгануўшыся, яна пабегла ад свайго дома і праз некалькі хвілін бачыла, як ён знікаў недзе ў прылесных зарасніках. Увечары Ксавэр Блецька шпарка ішоў паўз дом Максіма Астаповіча. Дарога да яго дома ляжала якраз тут. Ён прайшоў ужо далей, але раптам азірнуўся і ўбачыў на двары Максіма Астаповіча. Шпарка ён вярнуўся назад, і здавалася — шукае людскога спачування. Ён быў сумны, пануры, бесперастанку курыў.

— От няшчасце мяне спасцігла, от гора мяне душыць,— сказаў ён і змоўк, як магіла.

— Сёння Марына твайго Адама бачыла,— адказаў Максім Астаповіч.— Ён тут праходзіў.

Ксавэр Блецька ўздрыгануўся, ускінуў твар угару, выплюнуў недакурак.

— Ён яшчэ ўсё тут поблізу ходзіць?

І зноў ён стаў маўклівым, і здавалася, што гэта недатлелы вугаль на вогнішчы, дзе нядаўна яшчэ шугаў агонь, а цяпер вецер размятае схаладнелы попел.

Максім Астаповіч назаўсёды пакінуў у памяці гэты момант. Яму было ясна, што і сапраўды вялікае гора спасцігла Ксавэра Блецьку. Астаповіч змалку і дагэтуль быў чалавек мяккі і падатлівы чужому слову. І, можа, што іншае, а судзіць каго-небудзь — ніколі не было ў яго натуры. І ён нічога дрэннага пра Блецьку цяпер не думаў. Больш таго, ён вельмі многа ў наступныя дні думаў пра тое, што Блецька неікім чынам падгледзеў быў і нікому не сказаў аб Кірылавай смерці ў лесе.

Марына ж доўга не магла забыцца на дзікі позірк Адама Блецькі, калі ён, стоячы з мехам, еў яе вачыма. Гэты позірк мучыў. Ён і раней, часта, пры кожным спатканні так глядзеў на яе. І толькі цяпер яна заўважыла і зразумела гэта.

Чым больш праходзіла часу, тым больш усё ўраўнаважвалася. Час — найлепшы доктар чалавеку ў маладыя годы. Кожны пражыты дзень згладжваў з яе душы карціны перажытага і пражытага. Усё праходзіла і толькі незаўважна адкладалася дзесьці ў самых глыбокіх нетрах яе душы. Яно магло калі-небудзь з страшнай сілай выбухнуць на паверхню, але цяпер не трывожыла яе першай маладосці. Маладосць яе расцвітала з кожным месяцам. І так прыйшла пара яе новым імкненням і трывогам.

Наглядальныя ў жыцці натуры, якія бачаць і заўважаюць усё і любяць успамінаць, расказваюць цяпер, што ў тыя часы, калі Марына стаяла на парозе свайго юнацтва, яна ўжо зусім дайшла да падабенства да свае маці. Матчыны рысы, што ў маленстве толькі вызначаліся і прымушалі ўспамінаць нябожчыцу несвіжанку, цяпер зусім развіліся і расцвілі. Бацьку гэта цяжка было заўважыць, ён бачыў сваю Марыну кожны дзень, заўсёды. Людзі ж пра гэта скрозь гаварылі, і ён пра гэта ведаў. Але калі раней, калі ён быў замкнуты сам у сабе, ён перажыў бы гэта, можа быць, нават з хваравітай прыўзнятасцю, то цяпер гэта найбольш сцвярджалася ў яго думках як факт: жыццё выцягнула яго з самога сябе. Ён ніколі ўжо не аставаўся адзін з сваімі думкамі, і яго новы дом не аставаўся адзін на новым месцы. Здавалася, што ён вельмі мала астаецца цяпер сам з сабою, таксама як і скрозь далей за яго домам сталі будынкі са смольнай хвоі і поле пакінула быць пустым. Можа, гадоў тры прайшло, і тут незаўважна з'явіліся на свет дзве вуліцы, і да гэтага месца пачаў даходзіць кожны дзень здалёку аўтобус. Ён рабіў рэйсы праз многа мястэ-

чак і некалькі дробных гарадкоў. Тут аўтобус стаяў некалькі гадзін і адыходзіў назад, забіраючы ў кожным мястэчку і па дарозе пасажыраў. І чым больш праходзіла месяцаў, тым больш ажываў гэты куток. І канца не было відно новай усё і новай заклапочанасці Максіма Астаповіча. Былы Гальвасаўскі млын пашырыўся на чатыры колы, і гэта рабіў Максім Астаповіч. Пры самай дарозе вырас будынак паштова-тэлеграфнай канторы і сельсавета, і яго будаваў Максім Астаповіч. Ён сам выбраў месца і для школы — па другі бок дарогі, пры самым лесе, так што хвоі ўзнімаліся над дахам. Увосень скрозь пахлі смалой новыя сцены, з ленад дахам. Увосень скрозь пахлі смалой новыя сцены, з лесу цягнула грыбной духмянасцю, дзятлы дзяўблі кару сухіх дрэў, збіраліся ў вырай буслы, на высокім сцябле ўзнімаўся к стомленаму за лета сонцу жоўты тур і запозненая кветка малачайніку, жалуды даспявалі на дубах, чалавечую душу ўраўнаважвала цішыня прыроды, і—божа мой, як тут добра жыць,— думаў часта Марынін бацька. І ў гэтыя моманты прарываўся ў яго сум па без пары страчанай несвіжанцы. Час ішоў вельмі шпарка, і яму ўсё не было калі надоўга аддацца сваім думкам. Ён адчуваў сябе быццам бы так: калі-небудзь адкідаюся з работаю, сяду і доўга буду думаць аб маім жыцці, аб Марыне і аб ёй, нябожчыцы. І гэты час не прыходзіў. Усё варылася, ішло сваёй дарогай, з'інačвалася, нанава ўсталёўвалася, і разам з усім і ён быў уцягнены ў гэты няспынны агульны працэс. Раслі нанава пасаджаныя дрэвы, пачала расці яшчэ трэцяя вуліца. Ужо зусім пакінулі гаварыць і ўспамінаць пра крывавую драму на Блецькавым хутары і пра Адама Блецьку. І Ксавэр Блецька адышоў ад зямлі і стаў тутэйшым кааператарам, і заўсёды быў лагодны з людзьмі, і ўсе гаварылі, што яго прысадзіла ўласнае гора. І кааперацыя была ў новым доме, які таксама выбудаваў Максім Астаповіч. І таксама незаўважна — саломіна к саломіне — да канца звілося яго з Марынай хатняе гняздо. Ужо зусім закончыўся дом, і аконныя шуфляды і шалёўка былі памаляваны, і ўсё было абгароджана, і скрозь панасаджаны дрэвы, і ўзяліся расці. Дрэвы, якія ён садзіў каля свайго дома і з кожнага лістка на якіх ён можа цешыцца. І Марына пачала прыгожа адзявацца і выбрала сабе сталую прычоску, якая так была ёй да твару. І калі яна адзявала плацце з вішнёвага аксаміту — як тонка гэты колер адценьваў самыя нават найтанчэйшыя рысы яе твару!

Гэта не прайшло многа год. Нават зусім мала прайшло

часу. І калі ён задумваўся над усім гэтым працэсам — заўсёды страшны смутак аб нябожчыцы несвіжанцы рваў яму душу.

Да гэтага часу і належыць зварот у гэтыя мясціны Уладзіміра Вялічкі. Дагэтуль пра яго не чутно было, і ніхто не ведаў, які ён цяпер і дзе паварочваецца. Пайшоў ён адсюль дзіцем, і яго ўспаміналі толькі тады, калі гаварылі пра трагічную смерць яго бацькі. Для тутэйшых людзей гэта быў ужо новы, можна сказаць, невядомы чалавек.

V

Шмат хто з тых людзей, сярод якіх ён жыў дагэтуль, маглі думаць, што натура гэтая неспакойная і неўраўнаважаная, і доўга яна будзе кідацца па свеце, пакуль прыб'ецца да свайго берага. І трэба было далёка бачыць і глыбока адчуваць, каб зразумець, што тут можа адбыцца штосьці накшталт пералому, і, можа, нават раптоўнага, але ні ў якім разе не выпадковага. Можа, нават тут патрэбны былі падзеі, няхай сабе вузкія і асабістыя, толькі якія б увялі гэтую душу ў яе раўнавагу.

Ён пакінуў родныя мясціны бадай-што яшчэ ў маленстве і пад вялікім уражаннем бацькавай смерці і ўсяго, што бацька гаварыў яму ў лясной адзіноце тым страшным сваім часам, калі ўміраў на голай зямлі. Найбольш за ўсё астаўся ў яго душы чысты заход халоднага сонца, калі яго апошняя ружовасць на адну хвіліну ўпала была з вышыні паміж хвойных вершалін на бацькаў твар. Яму здавалася, што бацька ў гэты момант забыўся на яго: такі ён быў маўклівы і так страшна глядзеў на асветленую сонцам кару блізкай хвоі. Ён ціха адышоўся, каб не трывожыць бацьку. У прагаліне паміж дрэў відно было неба. Яно меркла і з кожнай секундай здавалася глыбейшым. І ў яго дзіцячай душы жыло ўяўленне, што гэта ўвесь шырокі свет стаў перад ім, як незразумелая і жорсткая прастора, перад якой ён не мае ніякай сілы. Свет быў страшны і недаступны. Ён вярнуўся к бацьку, калі ўжо змрок вісеў паміж дрэў. Тады пачалася бацькава гаворка.

— Табе трэба будзе дзе-небудзь дзецца на свеце,— пачаў гаварыць бацька.— Ты ідзі ў Слуцак, там знойдзеш сваю цётку, маю стрыечную сястру. Раскажаш ёй усё і астанешся там. А пасля скончыцца вайна і нешта будзе. Старайся жыць. Але глядзі — не паддавайся крыўдзе. Памя-

тай — ненавідзь Гальваса. Нават каб ён енчыў у накуце і прасіўся — не спачувай яму, бо, выйшаўшы з бяды, ён усё роўна забудзе ласку. Ты яго ненавідзь не за маю смерць, а за яго самога. Жывучы — рабі ўсё сам і май натуру, каб не надакучаць нікому і каб ніхто ніколі не папракнуў цябе, што ты з чужога жывеш. Няхай лепш да цябе горнуцца людзі, як да чалавека, які здолен зрабіць што трэба. І барані цябе божа выносіць на сваім карку крыўду. Так як я зараз памру з вялікім неспакоем, што не магу ўстаць і расплаціцца з Гальвасам, так і ты будзь у неспакоі, калі пазнаеш на сабе гадаўскую крыўду. Чутно па людзях, што там, пад Слуцак, людзі па лясах туляюцца, дома не сядзяць. Я цяпер адумаўся, што мне трэба было пашукаць гэтых людзей, а не ўміраць тут сабе на боль і табе на пакуту.

І хто яго ведае, ці ён сапраўды што ведаў, ці выдумляў дзеля свае апошняй уцехі, але Уладзя слухаў аб нападах на паноў і на іхняе войска, аб людзях, якія ходзяць сабе па слуцкім рынку сярод усіх, і ніхто не ведае, што гэта той самы з лесу, які прыйшоў разведаць, што ў горадзе робіцца. Сынава ўяўленне дарысавала да канца тое, пра што толькі збольшага сказаў бацька. Калі ён выйшаў у сваю дарогу з хаты Максіма Астаповіча, перад ім ужо стаялі карціны таго, як ён прыстане да такіх людзей, і жывая праўда саступіла ў яго дзіцячай галаве месца казачным фантазіям. Несучы ў сабе сум па бацьку, ён выйшаў ад Максіма Астаповіча з лёгкім сэрцам і з самымі яснымі надзеямі. Ён дайшоў да Слуцка без злых і без добрых прыгод, і яму здавалася, што на дарозе выйдзе дзе-небудзь чалавек і скажа: «А ты да нас ідзеш, дык хадзем». Аднак жа ён нікога і нічога па дарозе не ўбачыў і ў Слуцку пачаў шукаць сваю цётку. Ён яе і сапраўды знайшоў, там, дзе казаў яму бацька. Гэта была адзінокая старая, сляпая на адно вока і заўсёды галодная. Уладзя пабыў у яе два дні, а пасля пайшоў цягацца па Слуцку цэлымі суткамі. Ён прывыкаў да гэтага брадзячага жыцця. Ужо ў гэты час у яго пачалося адчуванне, што ў родным кутку ён за сваімі плячыма нічога такога не пакінуў, да чаго яму трэба было б спяшацца. Нарэшце ён ужо цэлымі днямі не бываў дома, і цётцы гэта не ў галаве было.

Чым больш праходзіла часу, тым больш з яго памяці згладжвалася тое, што гаварыў перад смерцю бацька. Можна сказаць, што гэта быў у яго жыцці час абсалютнай во-

лі, калі ён жыў толькі тым, як жывецца без аглядкі назад і наперад, волі, можа, нават пустой і яму непатрэбнай. Ён жыў гэтыя кароткія месяцы без сталых імкненняў і ў дзіцячым легкадумстве. Не адбылося ў гэты час у горадзе ніякага нават самага найдрабнейшага здарэння, сведкай чаго ён не быў бы. Усюды ён мог дапасці, усюды паспець, пакуль яго вочы не ўбачылі адну такую карціну, якая страсянула яго. У адзін дзень ён з'іначыўся. Разам з натоўпам людзей ён бачыў смертную кару слуцкіх партызан. Ён нават разгледзеў твары салдат акупацыйнай арміі. Ён бачыў, як стары бацька аднаго маладога партызана белы як палатно і на твары з пячаццю жудаснага болю душы сам засыпаў магілу. Уладзя Вялічка калаціўся і душой, і целам, і раптам яго пачало цягнуць у родныя мясціны. Усё, пра што яму гаварыў бацька, адразу стала яму, як штосьці такое, пра што хіба толькі льга гаварыць, але бачыць яго нельга. Разам з тым ён добра ведаў, што няма к чаму яму там варочацца. Ён адчуваў нешта, падобнае да сораму, перад Максімам Астаповічам за тое, што не паслухаў яго і пайшоў у свет. Са страхам і са смуткам ён сядзеў цяпер заўсёды дома ў свае аднавокай цёткі. Але калі акупацыйная армія з баямі пачала адыходзіць, ён аднак жа не вытрымаў, каб наглядаць, як толькі мог, сапраўдную вайну. Аднойчы ён пабег глядзець месца нейкай баявой сутычкі разведчыкаў. Ён убачыў далёка-такі ад горада чатыры трупы акупацыйных салдат. Адзін з іх ляжаў, зарыўшыся тварам у зямлю. Навокал было вельмі ціха. З двума сваімі аднагодкамі ён не паспеў яшчэ абгледзець салдат, як раптам з раскапанага глінішча паказаўся перад ім чалавек. Нейкім інстынктам ён здагадаўся, што гэта якраз і ёсць адзін з тых, пра якіх гаварыў яму бацька.

— У Слуцку многа іх? — запытаў чалавек, паказваючы на мёртвага салдата.

Ён не мог адарваць вачэй ад гэтага казачнага чалавека.

— Многа.

— А не хлусіш?

— Каб я так жыў, што праўду кажу! — стукнуў ён сабе ў грудзі двума кулакамі.

Чалавек нічога не адказаў і стаў глядзець у бок горада. Ён не адрываў ад чалавека вачэй. І так ён прабыў тут да вечара. На заходзе сонца людзей прыйшло больш, і яны рушылі бліжэй да горада. Ён не адставаў ад іх. Усю ноч ён праседзеў з імі ў жыце на Навадворскім полі, а перад

днём пачаўся бой. Ён быў пад сапраўднымі кулямі і бачыў, як чырвонаармейскія часці і партызаны ўваходзілі ў горад. Забыўшыся на ўсё, што калі-небудзь было ў яго душы, ён увайшоў у горад з свядомасцю героя і ў той жа дзень прыстаў да чырвонаармейскай часці. Ён нават не забег да цёткі развітацца і рушыў з часцю далей на захад. На трэці дзень ён мінуў родную мясціну, прайшоў ад яе ў баку за пяць кіламетраў і здалёк бачыў той лес, дзе нядаўна яшчэ пахаваў бацьку. Але ўжо не было яму калі аддавацца самому сабе. Па той бок Нясвіжа ён хадзіў у разведку, і так пачалося на доўгі час. Ён ужо ўмеў страляць, мучыўся ад таго, што не ўмее зацягвацца папяросай, але зацягваўся як толькі мог. І так ён прабыў з часцю да самага канца вайны. Ён быў у агульным клопаце, і час яго ішоў вельмі шпарка, і не было яму калі раздумваць над тым, што калі было ў яго жыцці. Натура яго даўно ўжо з вялікай прагнасцю ўбірала ў сябе ўсё навакольнае, але быццам бы і не фармавалася сама ў сабе і ў сваёй сталасці. Усё адкладалася ў ёй як у запас. У гэтыя часы яго душыў страшны сум. Ён пасля, успамінаючы гэты час, гаварыў, што не мог нідзе знайсці сабе месца. На паверхню душы выступіла тое, што ён калісьці ў зародку пакінуў у родным кутку, а ўзяў з сабою, як адыходзіў ад Астаповіча, толькі свае мары аб намалёваных уласным уяўленнем казачных карцінах. Ён бачыў, што ўсе едуць дадому і слова «дом» — гэта для іх усё тое, аб чым ён цяпер сумаваў і чаго не мае, бо там ёсць толькі бацькава магіла і прывязанасць душы і сэрца. Страшныя прыступы незразумелага сораму перад Астаповічам і Марынай мучылі яго цяпер. Гэта быў сорам ад таго, што ён цяпер павінен вярнуцца туды, да ўсяго таго, што так легкадумна калісьці пакінуў. А не вярнуцца туды ён ужо не мог, гэта ён сам ведаў. Разам з тым у ім прачнулася тая практыка простых працавітых людзей, якую ён пераймаў ад усіх навокал сябе з маленства і пра што сказаў яму, уміраючы, бацька: «Рабі ўсё сам і май натуру, каб не падакучаць нікому і каб ніхто ніколі не папракнуў цябе». Цяпер Астаповіч мае права і папракнуць яго, што ён гэтульні часу немаведама дзе бадзяўся, а калі жыць прыйшлося — ён явіўся на тое, чаго раней адцураўся. Але яго ўжо туды цягло вялікай сілай. Калі ён быў ужо ў дарозе, карціны былога ўставалі перад ім, як той вялікі камень на дарозе, якога ніяк не скінеш убок. Калі ён пазнаў ужо роднае месца, яно ўявілася яму, як пункт, з якога толькі ад-

нагo трэба глядзець на ўвесь свет, каб даць усяму ацэнку. І калі ён убачыў той самы лес — нават па колішняй бядзе засумавала цяпер яго душа. Але ён бачыў: усё мінулае астаецца жыць у душы толькі як мінуўшчына, а рух часу нястрымны. Бо ўжо і гэтай мясцовасці адразу не пазнаеш. Можа, нават ужо няма і той сцежкі, якой ён вёў тады раненага бацьку. Ён здагадаўся, дзе Астаповічаў дом, бо многа панасаджвала там дрэў і месца тое самае, першае ад лесу. Ён ішоў к гэтаму дому з нейкім страхам, як злачынец, Астаповіч стаяў каля дома, без шапкі, зусім лысы ўжо і з сівымі вусамі. Ён падняў галаву і ўбачыў перад сабой рослага хлопца, хударлявага і гатовага к першаму сваіму юнацтву. Момантны рух прайшоў па Астаповічавым твары. Здавалася, што твар гэты страсянуўся. Ён падбег да хлопца і раптам нешта пачаў заікацца. І першае, што ад яго пачуў Уладзя Вялічка, было:

— Многа год не заікаўся, а гэта... Стары стаў, ці што?..

Хіба ён думаў, што Марына такая, якую ён цяпер яе ўбачыў? І ў гэты момант ён адчуў сябе навек прывязаным да гэтага месца. Ён раптам засаромеўся перад Марынай сваёй парванай вопраткі і падумаў, што яму трэба пачаць усё спачатку: яму трэба быць тут не госцем, а гаспадаром, а да гэтага трэба дайсці самому. І ўсё гэта дзеля яе, дзеля Марыны. Гэта быў пачатак яго юнацтва, яно было блізка. З гэтага моманту ён стаў асвойвацца ў гэтым сваім родным кутку, які ўжо не быў такі, якім ён яго пакінуў. Усё ўжо тут было іншае, таксама як іншая стала і Марына. Пра яе была патрэба думаць, што дзеля яе адной варта жыць на свеце. На тое ёсць у чалавека першая маладосць, першыя адчуванні блізкага юнацтва.

Праз некалькі дзён Уладзя Вялічка пайшоў з Максімам Астаповічам закладаць дом для кааперацыі. Максім Астаповіч думаў: «Ты ў мяне, бадзячая душа, у два дні будзеш умець класці сцяну ў гладкі вугал. І ўсё ты будзеш умець рабіць сваімі рукамі, раз твой бацька мне цябе прыпаручыў».

# ДРУГАЯ ЧАСТКА

# СПУСТОШАННЕ

## *Першы раздзел*

### I

Быццам сам лёс наканаваў яму праз усё жыццё бадзяцца ў адзіноце. Ён зноў ішоў адзін як ёсць у той час ночы, калі блізіўся дзень. Ледзь пратаптаная сцежка ўвяла яго ў стары хвойнік. Ён ішоў нацянькі рыжым насцілам хвойных іголак. Зоры на небе спапялелі, дзённае святло цадзілася зверху. Праз зляжаласць хвойнага насыпу не прабівалася аніводная травіна. Усюды было ціха, нічога не было перад вачыма зялёнага. Паміж тоўстага стволля разам з смольнай духмянасцю вісела цяпло яшчэ ад учарашняй спёкі. Ён вельмі спяшаўся. У той меры, у якой ружавела неба, проста перад ім, паміж высачэзных рэдкіх хвояў, ён паддаваў ходу. З вялікай прыемнасцю ён не зважаў на стомленасць сваіх ног і даволі лёгка паднімаў іх у сваёй шпаркай хадзе. Такі ж самы ён быў камлюкаваты, як і калісьці, толькі не такі таўсматы. Нават магло здавацца, што ён выраўняўся і пастрайнеў з усёй свае постаці. Твар яго мог здавацца старым, але ён быў абраслы, вываланы ў зямлі, з высахлымі пісагамі поту. Усё гэта скрадвала сапраўднасць яго твару, і нельга было сказаць з першага вока, колькі яму цяпер год. Сонца падганяла яго. Ужо ляжала на зямлі праменне, як ён дайшоў да канца старога хвойніку і спыніўся аглядаць навакольнасць. Проста перад ім было роўнае поле, і направа ад лесу таксама. Налева ж ішоў поплаў у лог да зараснікаў алешыны, і ў іх недзе звінела вада. Гэты вадзяны гук чуўся тут вельмі выразна. «Што бог ні дасць»,— рашуча прашаптаў ён і, усутуліўшы плечы, шпарка пайшоў уніз і праз хвілін тры скрыўся ў альховых зарасніках. Там імчалася дробная звінючая рэчка — праз карчы гнілых старадрэвін, праз каменне і праз бярвенчатыя кладкі цераз яе. Пасля дажджоў вада стаяла высока, але ўжо была чыстая і ападала на звыклы свой узровень. Выпрастаўшыся на ўвесь свой рост, ён пайшоў

мокрым берагам, ужо цішэй і павальней, толькі шпарка мінуў тое месца, дзе былі сцежкі і кладкі. Праз гадзіну хады ён дайшоў да густога лесу. Дапаўшы сюды, ён не марудзіў і адразу скрыўся ў змрочную гушчырню. Тут ён кінуўся на зямлю і прыпаў да асалоды нерухомасці, але вачэй не закрываў. Ён глядзеў перад сабой узбуджаным позіркам і прыслухоўваўся да лясной цішыні. На твары яго было больш радасці, чым трывогі, і хоць ён быў увесь самае закончанае чаканне, па ім не відаць было, што ім уладае якая б там ні была нецярплівасць. Нават магло здавацца, што гэты чалавек дасягнуў нейкай свае мэты і таму такі вытрыманы і спакойны. Перадыхнуўшы, ён забраўся ў яшчэ большую гушчырню і зусім патануў у ёй. Ён не варушыўся, толькі калі-нікалі перакідаў адну нагу з другой, і дрымота доўга не магла заўладаць ім. Прагнымі вачыма ён глядзеў у кару суседняга дрэва, і нейкая глыбокая, застылая думка ўсё выразней згушчала сваю пячаць на яго твары. Пасля ён быццам бы пачаў глядзець сам у сваю душу, такі нерухомы і невыразны рабіўся яго позірк. Можа, нават ён марыў. Усё больш ён уваходзіў у самога сябе. Вочы яго пачалі цьмець і жмурыцца, дрымота навальвалася на яго, і ён пачаў спаць. I тут адбылася ў ім вялікая змена: ён спаў не так спакойна, як засынаў і як раней быў. Часамі ён быццам бы ціха стагнаў, часамі цяжка варочаўся з боку на бок, але ўсё гэта рабілася і жыло дзесьці ў яго сярэдзіне, бо рой мух, які з асалодай дапаў да яго твару, апіяк не трывожыў яго. Калі ён прачнуўся, дзень зіхацеў усім сваім хараством. I вось тут злобнасць і змрочнасць ахапіла яго. Быццам штосьці ўспамінаючы ці выклікаючы ў памяці карціны мінуўшчыны, ён шпарка пачаў кідаць навокал сябе вачыма, і першыя за ўвесь дзень прыступы нецярплівасці авалодалі ім. Ён шпарка пачаў даставаць з усіх сваіх кішэняў рэшткі нейкай яды і шпарка жаваць. Ён вывpraчваў пустыя кішэні, укідаў у рот крошкі, зноў спрабаваў лягчаць, зноў садзіўся або ўставаў. Лета звінела цішынёй, і часам чуўся голас лясной птушкі. Але ніадкуль не чулася людскога голасу або груку колаў. З гэтага ён падумаў, што тут глуха і што поблізу няма тут язджалай дарогі. Да вечара дзень цягнуўся вельмі марудна, прынамсі яму так здавалася. Калі сонца пачало заходзіць, ён ужо стаяў гатовы ісці далей. А пасля, сам сябе стрымліваючы, сеў і чакаў, пакуль вечар не агорне зямлю. Мусіць, ён умеў уладаць сабой, бо неўзабаве паспакайнеў, вочы яго нават як бы аб-

вялі, і ён пачаў курыць. У лесе ўжо стала зусім змрочна, калі ён зноў вярнуўся да той рачулкі. Тут ён вельмі паволі пайшоў берагам, пільна ўглядаючыся ў кожнае дрэва і чагосьці шукаючы вачыма. Нарэшце ён спыніўся і стаў азірацца і думаць. Пасля прайшоў крокаў сто і зноў азіраўся і ўспамінаў. Пачаў узыходзіць месяц, а пасля падняўся над чорнымі абрысамі зямлі, і цяпер ён падышоў да самага берага рэчкі і пры змрочным святле штосьці ўбачыў пад самым берагам. Ён лёг грудзьмі на бераг, звесіў галаву к вадзе і абмацаў рукой камень пад вадою. «Ляжыць, як і тады. Значыцца — туды я іду. Не збіўся з дарогі». І ён пайшоў далей, трымаючыся кустоў. Неўзабаве ён пачуў грукат і шум вадзянога млына і падышоў да мастка. Месяц стаяў ужо даволі высока і заліваў зямлю бледным святлом. Гэта было не вельмі добра. Ён уліп плячыма ў ствол таўшчэзнага дрэва і прыглядаўся, і прыслухоўваўся. Штучнае азярцо плыло ў млынавыя рыны, і над коламі вада рвалася пад месяцам белым агнём. Усюды былі дрэвы з тоўстым ствоплем і купчастыя. Дрэвы выраслі, параскідалі ў бакі голле, закрылі дарогу пад сабою. «Гэта ўсё садзіў іх Максім Астаповіч»,— падумаў ён і ўстрапянуўся, быццам пранізала яго нечым раптоўным і нечаканым. Ён заварушыўся і пайшоў далей. У гэтую хвіліну ён са смуткам думаў аб ёй і даваў волю сваім думкам. Ён бачыў над сабою выраслыя дрэвы і ціхі куток на зямлі, які ад гэтых дрэў зусім змяніў свой твар. Але, дзіўная рэч, ён аніяк не трымаў у галаве і сэрцы таго, што і ўсё на свеце не астаецца такім, якое было калі-небудзь. Гэта было аслабленне думкі і свядомасці ў чалавека, які ўвесь час кідаўся ў безнадзейнасці і чакаў, і час дзеля якога застыў на месцы. І самога сябе ён не бачыў і не чуў — што з ім за ўсе гады зрабілася. Якое б там ні было нездароўе не мучыла яго, і ён не бачыў каля сябе слядоў часу. І цяпер ён зноў, як тады, калі чакаў вечара, поўніўся туманнымі надзеямі. І як тады зранку падганяла яго сонца, якое рабіла дзень ясным і шырокім, і чаго ён баяўся, так цяпер падганяла яго невыразнае адчуванне, што ён зараз дасягне свайго берага. Прыйшоў час! Ён пайшоў з-пад дрэў у вялікай нецярплівасці, пакідаючы за сабою млынавы грукат. «Там жа ў млыне ёсць людзі, там нехта заняты сваёй справай»,— думаў ён са злобай на таго невядомага, хто працаваў уночы ў млыне. І ён быў упэўнен у сабе, што мае права так думаць з непрыязню да таго чалавека. Вельмі

шчарка прайшоў граду лесу і выйшаў на той самы Нясвіжскі гасцінец і на яго абочыне ён спыніўся. Хвіліну таму назад ён ведаў, куды ісці, цяпер спыніўся ў поўным збянтэжанні. Тут павінна было б быць ціха і пуста, ён нават уяўляў сабе, што скончыцца яго вялікая дарога, калі ён зараз жа пяройдзе лес па той бок дарогі. Аднак жа — штосьці цёмнае, можа, і сапраўды лес, там чарнелася, але бліжэй скрозь гарэлі агні і адусюль чуліся людскія галасы. Аднекуль чулася песня, аднекуль густа ішла гамана, і пры самым гасцінцы скрозь свіціліся вокны ў два цаверхі. Можа быць, ён і сапраўды зблудзіў, так легкадумна аддаючыся сваім блазноцкім думкам. Ён прайшоў гасцінцам да канца лесу і абмацаў ствол бярозы. Тая самая дупляватасць і цвік з вялікай плешкай убіты на ўзроўні галавы. Не, ён не зблудзіў. Ён перайшоў гасцінец і пайшоў назад тым краем. І зноў — агні і будынкі, і нейкая вежа ўзвышаецца зводдалеку, і на ёй блішчыць святло. Ён паспрабаваў ісці так, быццам тут нічога гэтага няма, і ўпёрся вачыма ў вуліцу, і каля крайняга дома спявалі. Многа было галасоў. Раптоўны выбух трывогі пагнаў яго назад. Ён бадай-што дабег да цішыні ўзлеску і стаў пад дрэвам. Цяпер ён ужо не ведаў, куды ісці. Доўга ўспамінаў ён, а пасля надумаўся даць кругу кіламетраў шэсць. Ён падыдзе к бацькаўскаму дому акружнай дарогай, адтуль, дзе няма гэтых страшных вуліц і гэтых ненавідных яму галасоў і песень. Паглыбіўшыся ў лес, ён і сапраўды знайшоў тую самую дарогу. Але ён не пайшоў ёю, а паўз яе лесам. Больш за гадзіну ішоў ён месцам, якое з радасцю ўспомніў, пасля перайшоў поплаў і паглядзеў на неба. І як жывая паўстала перад ім карціна. Вось тут пачнецца поле, з трох бакоў абкружанае лесам, а з аднаго боку ўзгорак, і пасярод гэтага поля бацькаўскі дом. Вядома, тых двух сабак ужо няма і яны не забрэшуць. Але вішняк, і сад, і дом, і там бацька. Сапраўды спрактыкаванаму воку льга заўважыць, што там узгорак. Зоры стаялі над самай зямлёй, здавалася, што яны ляжаць на няроўным абрысе ўзгорка. І лес з трох бакоў. Ён пайшоў далей, і зноў перад ім, як з зямлі, вырасла вуліца... Ён пачаў прыглядацца, і там дзе ўзгорак—цёмныя абрысы ні то будынкаў, ні то чагосьці невядомага і непатрэбнага яму паўсталі перад ім. Няхай сабе! Але сярод усяго гэтага ёсць той дом! Па трох ялінах і двух дубах ён быццам знайшоў гэтае месца. Вядома, вялікай кучы каменя, якое ў тыя гады ён сам назвозіў

з поля, ужо не было. Але ж не было і дома. Праўдзівей сказаць, было многа дамоў, і ў іх гарэлі агні. А каля яго расло некалькі дрэў, як быццам бы нават і пазнаць іх льга было. Але нейкая нізкая загарадзь стаяла, нейкая сіратлівая хата, здаецца, з новым дахам. З жахам і трывогай ён рынуўся назад і зводдалеку пачуў заядлы брэх сабакі і крык чалавека — «Хто там ходзіць?» «Не трэба так шпарка». Ён прыгнуўся і дайшоў да лесу, але брэх сабакі чуў доўга. З лесу ён бачыў, як удалечыні заварушыліся агні, загуло і загрукацела. Ён ведаў, што гэта трактары пачалі араць поле. Гэта ён наглядаў ужо ў ранейшыя ночы на сваёй дарозе. Ён пайшоў краем лесу назад к гасцінцу. Трывога душыла яго. Праз паўкіламетра хады ён зноў убачыў пры самым лесе агні і будынкі. Пасля пад месячным святлом заўважыў многа высаджаных шнурамі маладых дрэў і некалькі электрычных лямпачак там, куды яны сыходзіліся. Яго вока заўважыла там рух людзей, і раптам адтуль пачулася танцавальная музыка. І як быццам бы ў гэты момант ён страціў свае ногі — такія цяжкія яны сталі. І страшэнны голад адчуў ён. У безнадзейнасці ён пайшоў далей і ўжо сам не ведаў, дзе ён ходзіць, куды ён трапіў і ў які бок яму ісці. Сэрца яго калацілася. Ледзьве перасоўваючы ногі, ён усё ішоў і ішоў, з выпрацаванага інстынкту свайго трымаючыся змроку пад дрэвамі і ловячы кожны гук. Так мінуў ён пры самым лесе электрастанцыю, дзе так многа гарэла агнёў і адкуль ішоў стук машын. Так дайшоў ён да поўнай цішыні і пустэчы лесу і, выварочваючы кішэні і шукаючы ў іх крошак, упаў на зямлю. Нейкі час ён ляжаў у трывожным бяздум'і, а пасля да яго вуха дайшоў грукат і шум вадзянога млына. Значыцца, ён быў недалёка ад гасцінца. Ён усхапіўся на ногі, падышоў да краю лесу і ўбачыў тыя самыя вуліцы. Ужо ўсё было ціха і цёмна. Усё заснула. Толькі на той вежы быў усё агонь. Ён пайшоў назад у лес, увайшоў у самую цемень, уабраўся ў гушчырню і лёг на зямлю.

Ён падняў галаву, калі пачало світаць. І адразу рушыў з лесу. Аднак жа зусім выйсці з яго ён не адважыўся. Дык вось якога месца ён не пазнаў учора! Проста перад ім, самы першы ад лесу, стаяў той самы дом, з сцяны якога ён зрываў тады кілбасы і сыры. Хоць ужо каля яго выраслі і над ім шырока раскупчыліся дрэвы, але ён пазнаў адразу гэты дом. Сцены яго пацямнелі. І ўсё тут было інакш, як тады. Многа расло дрэў. За ім ішлі тыя вуліцы, якіх тады

не было і следу і якія ўчора так напалохалі яго. Але дзіўная рэч. Ён выразна бачыў каля сябе сляды таго, як бязлітасна час зменьвае ўсё, але не падумаў, што і тых людзей, што жывуць у гэтым доме, час крануў сваім імклівым крыллем. У гэты ранні час першага моманту дня ён стаяў у змроку пад дрэвамі і не спускаў вока з гэтага дома. Быццам бы ён чакаў, што адбудзецца цуд. Яму здавалася, што зараз адчыняцца дзверы і з'явіцца яна — як прывід, не крануты гадамі. Але ўжо зусім развіднела, і ніхто з дома не выходзіў. Адумаўшыся, ён зноў падаўся ў глыб лесу і цяпер, павідну, ведаў ужо, якім кірункам ісці да свайго дома. Туды ён адразу і пайшоў. Усё было добра. Ён пазнаваў старыя дрэвы і нават бачыў рэшткі былых сцежак пад імі. Але калі дайшоў да краю лесу, адкуль у тыя свае колішнія страшныя бадзянні са смуткам глядзеў на свой дом, ён зноў разгубіўся. Свайго дома ён не бачыў. Старыя тыя самыя дрэвы былі, а дом знік. На тым самым месцы стаяла невялікая хата і было каля яе абгароджана штосьці накшталт агарода. Далей жа, за хатай, ішла бездань будынкаў. Відны былі з роўнага кругляка двухпавярховыя дамы, былі малыя дамкі з садкамі і кветнікамі. Далей жа было абгароджанае месца і там стаялі цыстэрны. За імі, наводдалек, зноў будынкі. «Гэта, мусіць, і ёсць тая самая трактарная станцыя, пра якую гаварыў Тоўхарт»,— падумаў ён. Далей, як бы на самым ужо блізкім даляглядзе, узнімаўся комін завода і сцены яго з чырвонай цэглы. І страшны смутак, што ўсё гэта тут з'явілася, пачаў мучыць яго. Ужо няма тут той ранейшай яго адзіноты. Аслабелы свой позірк ён перавёў на тую незнаёмую хату пад знаёмымі дрэвамі. Пачало паднімацца сонца, скрозь чутны сталі людзі, калі ён падумаў, што трэба на цэлы дзень зноў залегчы ў лесе і прыдумаць, што рабіць уночы. Але трэба знайсці якой-небудзь яды. У такіх думках ён стаяў, прыліплы к дрэву і выглядаючы з-за яго. І раптам у яго ўсё закружылася перад вачыма: з той самай хаты выйшаў яго бацька Ксавэр Блецька, і хоць было ўсё гэта не блізка ад яго, але ён пазнаў бацьку адразу. І цяпер упершыню ён убачыў страшны рух часу. Ксавэр Блецька быў стары. Паходка яго была ўсутуленая, і ногі ступалі не цвёрда. Адам Блецька нават заўважыў стракатую рубашку без падпяразкі пад яго расшпіленым пінжаком. Ён замкнуў хату, паклаў ключ у кішэню і скрыўся недзе за першымі будынкамі. «Жыве адзін»,— з'явілася

у Адама радасная думка. Забыўшыся на голад, ён адразу рушыў у глыб лесу і пад цёмнай навіссю голля быццам праваліўся на цэлы дзень у перапрэлае лісце і трухліну.

## II

Хоць сэрца яго і калацілася ад узбуджанасці і нават ад радасці, аднак жа ён цяпер ужо, маючы час аддацца думкам, ясна ўсвядомліваў сабе, што яшчэ, можа, прыйдзецца многа хлябнуць бяды, пакуль дасягнецца яго мэта. «І Тоўхарт не ўсемагутны»,— думаў ён. Хоць Тоўхарт нічога выразнага яму і не сказаў, а падводзіў усё так, каб ён сам здагадваўся, аднак жа той самы Тоўхарт ніколі нават не хацеў і падумаць, што гэты, як ён казаў, рускі мужык за яго хітрэйшы і больш кемлівы ў многа разоў. І цяпер Адама Блецьку раз'ядалі самыя супярэчлівыя думкі. Гэта не быў чалавек, які ўпарта, як фанатык, мог верыць у тое, у што яму выгадна было б увераваць з прычыны імкненняў яго душы на ўсё жыццё. У гэтым сэнсе натура яго была больш гнуткая за Тоўхартаву і галава ў большай меры, як у таго, магла аглядацца назад. З гэтай прычыны ён цяпер і быў у трывозе: ці не занадта далёка ён зайшоў? І пунктам, з якога пачыналася гэтая трывога, была жывая карціна таго, што ён перад сабой бачыў. Усё, што было перад яго вачыма, было раней ім тут няведанае. Яно стала на касцях яго ранейшага жыцця тут. Нават жа і дома таго, да якога ён так праз многа год імкнуўся, ужо няма на свеце. І ўсё тут інакшае і чужое, і нічога ён тут не ведае. І ці вернецца тое ранейшае, так патрэбнае яго душы? Ці знойдзецца тое, што ён калісьці страціў? І ці давядзецца пачаць спачатку сапраўднае жыццё? Так прычакаў ён вечара, і як сцямнела — пайшоў к той хаце. Як толькі ён падышоў, убачыў, што нейкі чалавек пайшоў проста на ганак. Хоць было і цёмна, месяц яшчэ не падняўся, але ён пазнаў, што гэта не бацька. Можа, ён зранку памыліўся? Можа, бацькі тут і няма? Ён абышоў хату, прыліп да сцяны і чуў, як стукнулі дзверы. У хату ўвайшлі. Пасля ён бачыў, як засвяціліся вокны, але былі яны завешаны, і нічога ён праз іх не ўбачыў. Ён толькі чуў, як ціха пачалі гусці мужчынскія галасы. Значыцца — у хаце ўжо і раней нехта быў. Гэта яго падбадзёрыла, але як ён ні прыслухоўваўся, ніводнага слова не мог злавіць вухам. Нават не мог пазнаць, ці чуцён там бацькаў голас. Гаварылі вельмі

ціха. І тут пачалі поблізу хадзіць людзі. Ён адышоўся далей, сеў на зямлю на нейкім травяністым полі і пачаў наглядаць за хатай. Таксама, як і ўчора, непадалёку, там, дзе свіціліся агні і пад імі відны былі зялёныя дрэвы, заграў аркестр, і таксама, як і ўчора, гэта ўстрывожыла яго. Ён вельмі доўга чакаў, аж яму апрыкрыла, а той чалавек усё не выходзіў з хаты. «Можа, ён там і жыве? Можа, бацькі і няма? А тут яшчэ ходзяць людзі. Двое пайшлі. Зусім блізка. Унь яшчэ ідуць. Чорт іх носіць. Трэба перачакаць дзе далей. І падысці ў глыбокую ноч, калі ўсё аціхне». Ён адышоўся яшчэ далей, бадай-што к самаму лесу. Жывот падводзіла яму к спіне. Ён не мог змагацца з дрымотай.

Каб Ксавэр Блецька ведаў у гэты час, хто бродзіць і дрэмле поблізу яго хаты, ён не быў бы такі ўраўнаважаны сваім звыклым настроем. Звечара ён не запальваў агню. Гэта была яго прывычка. Ён скінуў пінжак і ў непадпяразанай, выпушчанай наверх стракатай рубашцы лёг з ботамі на ложак. Праз некалькі хвілін ён задрамаў, але дрымота сышла з яго паволі, неўзаметку, вельмі скора. Кажуць, што ўраўнаважаныя натурай або жыццём людзі чым больш старэюць, тым меншую маюць патрэбу ў сне. Калі гэта сапраўды так, то перад Ксавэрам Блецькам ужо стаяла яго старасць, бо жыццё яго ішло цяпер ураўнаважаным парадкам. Ужо, здавалася, аціхлі яго колішнія парывы. Хто ведаў яго ў маладосці і часта бачыў цяпер, мог бы сказаць, што вока яго ўжо не зайздросціла нічому навакольнаму. Больш таго, яно нават як бы і не заўважала многа чаго навокал сябе. Ён быў ціхі, ветлівы і спакойны. Ён быў адзін. Вельмі добра і дакладна, як бы нават з радасцю, ён рабіў сваю справу ў тутэйшай кааперацыі. Ён варочаў вялікімі грамадскімі і дзяржаўнымі грашыма і праз многа ўжо год мог бы быць узорам сумленнасці і працавітасці. Зранку ён замыкаў хату і, не спяшаючыся, ішоў у вялікі двухпавярховы дом пры самым гасцінцы. Адтуль ён часта, на добра выкармленым і дагледжаным кані, выязджаў на ўсялякія нарыхтоўчыя пункты. А калі не ехаў — сядзеў над сваімі рахункамі і паперамі. Заседжваўся ён позна і часам прыходзіў дадому перад самым заходам сонца. Каля смешнага ён усміхаўся, каля злога праходзіў моўчкі. Калі ішоў паўз тыя дзве яліны, што некалі стаялі на мяжы яго поля з Гальвасаўскім, ніколі яго вочы не спыняліся на іх, быццам усё былое было толькі

3148

неабходным этапам у дарозе да цяперашняга. Вечарамі ён доўга не спаў, а курыў і часам глядзеў праз незавешанае акно той абсяг неба, дзе падоўгу пасля заходу сонца ляжалі сляды мінулага дня. Хто ведае, што ляжала на самым дне гэтай уціхаміранай душы? І ці там толькі быў халодны попел ад перагарэлай маладосці, ці яшчэ тлела гарачае вуголле? Але на паверхню нічога не прабівалася. Паляжаўшы вечарам, ён садзіўся к сталу, вячэраў і выпіваў бутэльку піва, часамі яшчэ заглянуўшы перад гэтым у свае рахункі, каб яны былі гатовыя да заўтрашняга дня. Цяпер ён доўга ляжаў, і ўжо зусім змеркла, ужо ледзьве вырысоўваліся вокны. Сцямнела адразу пасля змяркання. Ноч была без месяца. Густа ўзышлі на небе зоры. Быў спакой у Блецькавай душы. Раптам ён пачуў, як хтосьці адчыніў сенечныя дзверы, зачыніў іх і ўжо мацае клямку ў хатніх дзвярах. Ксавэр Блецька нездаволена слухаў, як хтосьці яму непатрэбны парушае яго спакой. Ён з прыкрасцю чуў, як нехта, хто не ведае ходу ў яго хату, не можа абмацаць клямкі ў дзвярах, і трэба ўставаць і адчыняць яму. Але ён яшчэ раней закурыў і ўжо тады ўстаў. Нехта ўвайшоў. «Такі абмацаў клямку»,—падумаў Ксавэр Блецька і пачаў запальваць лямпу.

Ужо запаліўшы святло, ён убачыў, што каля яго стаіць Максім Астаповіч. Гэта была поўная нечаканасць. За ўсе годы Астаповіч толькі раз быў у гэтай хаце і вельмі ўжо даўно. Паміж сабою, калі трэба было, яны гаварылі пры выпадковых сустрэчах. Пры лямпе госць убачыў гаспадарова жытло. Хоць тут мэблі і рэчаў было і вельмі мала, аднак жа здавалася, што тут цесна ўсяго панастаўляна. Усё быццам бы стаяла не на сваім месцы. Каля стала на падлозе стаяў шкляны слой з напханай у яго пакамечанай паперай. Максім Астаповіч быў як бы прыбянтэжаны, прынамсі так здалося Блецьку. І гаворка спачатку не клеілася. Так, пра ўсялякае глупства. Блецька ўжо вельмі злаваў: калі прыйшоў з-за якой драбязы, дык скажы і ідзі сабе, а не займай час глупствам. Але раптам у Максіма Астаповіча стаў нейкі таемны выгляд. Ён пасмялеў і пацвярдзеў. Ён адважыўся.

— Ведаеш, чаго я да цябе прыйшоў? — сказаў ён цвёрда, але яшчэ ўсё быццам азіраючыся.— Спачатку я думаў, што, можа, не варта цябе трывожыць. Я ўжо два дні ўсё думаю — ісці да цябе ці не? Думаю сабе — можа, гэта і няпраўда, можа, растраўляць тваю душу з-за няма

нічога... Думаю сабе так: можа, за гэтулькі год усё зарасло ў душы і зраўнавалася. Дык нашто растраўляць цябе... Ты адзінокі...

Ксавэр Блецька стаяў у вялікай трывозе. Трэба думаць, што знадворная яго спакойнасць заўсёды была не глыбокая. Можа, там штосьці было задушана ў душы? Можа, старыя інстынкты не хацелі ўміраць? Бо цяпер ён нешта вельмі адразу ўныў, устрывожыўся і змяніўся з твару. Можа, ён праз усё жыццё сваё думаў, што з ім, можа, калі-небудзь здарыцца штосьці страшнае. У яго з'явілася думка, што прыйшла бяда, калі Астаповіч так гаворыць. І вось страшная пецярплівасць апанавала Блецьку. Ён стаяў панылы і няшчасны. Ён нясмела сказаў:

— Што-небудзь нядобрае дзе здарылася?

— Можа, думаю сабе, я цябе растрывожу, а можа, калі гэта праўда, ты будзеш рад. Я з Марынаю раіўся. Яна сказала, што лепш, каб я не растрывожваў цябе, бо, можа, гэта і няпраўда. А калі праўда,— падумаў я,— то, можа, гэта добра табе сказаць. Бо, можа, ты такі і пануры стаў ад нуды па ім. І, можа, ты ўзрадуешся.

Страшная сваёю нечаканасцю і нязвыкласцю здогадка пранізала ўсю Блецькаву істоту. Ён, быццам адразу аслабеўшы, упаў на табурэт і сядзеў так, як хворы, які чакае доктарскага прысуду—жыць яму на свеце ці не. Максім Астаповіч думаў аб Блецькавым няшчасці — пражыць у такім смутку гэтулькі год. Блецька ўсхапіўся і моцна сказаў:

— Ну што? Ты кажы!

— Вялічка, як табе вядома, ужо другі месяц у Брэсце,— пачаў гаварыць Максім Астаповіч.— Праз дзён дзесяць ён павінен прыехаць,— быццам апраўдваўся перад Блецькам ён.— Ужо канчаецца яго тэрмін. У пісьме да Марыны ён напісаў, што за Брэстам, дзе іх ваенныя лагеры ці, можа, куды яны ходзяць на сваё абучэнне, перад самым усходам сонца ён бачыў твайго Адама.

Быў першы момант, што Ксавэр Блецька затрапятаўся. Але ў ім ажыў стары яго інстынкт вялікай практыкаванасці ў жыцці. Ён саўладаў з сабой і запытаў:

— А хіба Вялічка мог пазнаць яго?

— А чаму ж ён не мог бы яго пазнаць? Ён жа ўжо быў вярнуўся, калі яшчэ Адам быў тут. А змалку дзён — хіба не мог памятаць?

— Адам старэйшы за Вялічку.

— Ну дык што? Піша, што Адам ішоў сцежкаю паміж кустоў і вельмі спяшаўся. А Вялічка там вёў свой узвод на абучэнне.

— Не можа быць! Чаго там Адам будзе хадзіць. Я думаю, што яго ўжо жывога на свеце няма.

— Чаму? Можа, ён жыве добра і шчасліва.

— Каб жа бог даў!

— А чаму не. Хіба ты ведаеш, дзе ён і як паварочваецца на свеце? Чалавек, як трава к сонцу, горнецца да лепшага.

— Божа мой, божа мой!

— А што ты думаеш,— суцяшаў Астаповіч Блецьку.— Ну, здарылася было няшчасце, чалавек хварэў душой, мучыўся, перабыў, перажыў месяц за месяцам, год за годам — усё зраўнавалася, зарасло, і чалавек на поўныя вочы глянуў на свет і жыве сабе.

— Братка ты мой! Каб жа ўсё з ім было добра!

— А чаму ж з ім будзе кепска?

— Дык я ж хіба мала перадумаў аб ім за ўсе гады? Жартачкі? Можа, цэлых пятнаццаць год! Каб хоць дзе вестку якую падаў! Можа, жыццё яго праходзіла дзе пад чужым плотам! Можа, бадзяком вечным стаў, без прыстанку.

— Я не веру ў тое, што ты гаворыш. Вядома, у цябе душа баліць.

— А можа, гэта і не ён быў?

— Мне здаецца, што Вялічка каб добра не бачыў, то не пісаў бы... А на свеце ўсяго ўжо было. Можа, ён там жыве сабе дзе шчасліва. І табе, адзінокаму бацьку, калі-небудзь акажацца. Што ж табе сохнуць і нудзець? Хоць ведаць будзеш цяпер, што ён жывы. Паверыш, не дазволіла мне душа, каб не сказаць табе.

Блецька курыў і маўчаў.

— Дзякуй табе, што ты сказаў,— абазваўся ён.— Можа, як яму можна было б цяпер ужо сюды з'явіцца. І жыць тут. Мала што там калі было! Ужо даўнасць зайшла. Я стары стаў. Так і пражывецца чорт ведае як. І ні сям'і ніякай, ні дзяцей пры мне.

Дзіўна, што пасля гэтых слоў ні Астаповіч і ні сам Блецька не падумалі, чаму тут няма ні сям'і, ні дзяцей. Астаповіч бачыў перад сабой адзінокага чалавека, жыццё якога ўсе гады праходзіла ў яго перад вачыма. Ён жыў угнуўшыся. І з людзьмі быў добра. Вядома, гэты чалавек

прышыблен вялікім горам. У яго доме ўсё было нерухома ўжо многа год. Здавалася, што тут патухлі ўсе імкненні і ўжо нават у гэтым пачалі адчуваць асалоду. Ксавэр Блецька пачаў гаварыць пра сваю адзіноту і пра сваю старасць, якая неўзабаве пакладзе пячаць і на яго здароўе. Хоць старасці сапраўднай яшчэ і няма, але яна прыйдзе. Усё на свеце прыходзіць і адыходзіць. І гэта Максім Астаповіч, слухаючы Блецьку, востра адчуваў і сам. Блецька нейк дзіўна варухнуў губамі, устаў і пачаў порхацца ў шафе. Ён дастаў адтуль бутэльку гарэлкі, і хлеб, і сала, і сыр.

— Не трэба, што ты робіш? — сказаў збянтэжаны Астаповіч, аднак жа быў рад цяпер з Блецькам выпіць.

— Ты мне сказаў такое слова і такую навіну! Я ведаю, ты з свае добрасці, ты добры чалавек.

— Ксавэр! Як я да цябе не буду добры? Я табе не кажу, што я і так не прыйшоў бы сказаць табе. Але хіба можна забыцца на тое, што ты тады павесіў быў замок на губы, калі я скрываў і хаваў Кірылу Вялічку, і Уладзя Вялічка гэта ведае і памятае, і мы гэтага павек не забудзем. Хіба за дабро можна плаціць злом? Гэта тады быў бы не чалавек.

— А як я мог бы тады прадаць цябе? Каму? Гальвасу? Няхай яму калом зямля будзе, калі ён ужо дуба даў. А яго нашчадкам няхай не будзе ні прытулку, ні спакою на свеце! Ён глытаў паўсвету, а чалавеку каля сябе жыць не даваў.

Блецька наліў шклянку і паставіў перад Астаповічам. Той пасядзеў, памаўчаў і выпіў. Пасля яго наліў і выпіў Блецька. Яны закусілі, пачалі моцна гаварыць, быццам абодва сталі глухія. Пасля пакурылі, яшчэ выпілі па шклянцы, сп'янелі і яшчэ мацней пачалі гаварыць. Максім Астаповіч расказаў нейкае колішняе здарэнне з свайго жыцця, дзе ён уявіўся сам сабе, як чалавек цвёрды і ўпарты, бадай-што геройскі. Блецька таксама нешта расказваў, а пасля пачаў аціхаць і, нарэшце, зусім стаў маўклівы і толькі смактаў папяросу за папяросай. Зусім размяклы Астаповіч стаў развітвацца з Блецькам, як з сваім другам. І тут адбылася нечаканая рэч. Блецька абняў Астаповіча сагнутай у локці рукой за шыю і моцна пацалаваў яго ў губы. У Астаповіча гатовы былі стаць мокрымі вочы. Відаць жа да страшнай мяжы жыццё давяло Блецьку, калі ён стаў такім. Думаючы пасля пра гэты мо-

мант, Астаповіч быў упэўнен, што гэта здарылася з Блецькам упершыню на жыцці. Яны развіталіся, як родныя браты, Блецька выйшаў за Астаповічам на ганак і вярнуўся назад з шчырай удзячнасцю да яго. Зноў закурваючы, ён ціха гаварыў сам з сабой: «Як чужыя жылі, а які чалавек! Добрая душа. З такім век разам пражыў бы». Але ўжо ў наступны момант ён пачаў забывацца на ўсё гэта. Яго агарнуў смутак і безнадзейнасць. Балячкі яго душы былі разварушаны. Ён прыкруціў у лямпе агонь і лёг з ботамі на ложак. Курыў, уздыхаў, варочаўся, і дрымота не прыходзіла да яго. Так ён ляжаў, можа, больш за гадзіну. Было ўжо вельмі позна. Усялякія думкі апаноўвалі яго.

— Божа мой, божа мой,— многа разоў сказаў ён, уздыхаючы.

Нарэшце ён быццам адранцвеў. Яму стала цяжка паварушыцца.

## III

У гэты час ён і пачуў ледзь заўважны стук у акно. Нават як бы і не стукалі, а толькі паскрэблі па шкле. Ён усхапіўся і з нейкага інстынкту адчуў на сабе позірк знадворку, праз акно, з таго месца, дзе фіранка краем была адхілена ад рамы. Ён зусім адхіліў фіранку і прыпаў тварам да шкла. Таксама пры шкле ён убачыў чужы і незнаёмы яму твар. І раптам ён жахнуўся і бадай-што крыкнуў:

— Божа мой! Плечы шырокія! Рост невысокі!

Успамінаючы пасля гэты момант, ён дзівіўся, як гэта ён так адразу — ні тое што здагадаўся, а адчуў, хто стаіць перад ім з гэтым аброслым незнаёмым тварам. Яшчэ як той стаяў па той бок акна, ён тут затрапятаўся і вельмі шчыльна прыткнуў край фіранкі да рамы. Гэта было яго першым рухам. Пасля ён выскачыў на ганак і ўвёў таго ў хату. Агонь аставаўся ўсё так жа прыкручаны. Яны няспрытна, бокам, разам пераступіўшы парог хаты, глянулі адзін аднаму ў твар. Ксавэр Блецька страсянуў ніжняй паловаі твару і ўсхліпнуў, і рукамі хапіўся за шыю. Перад ім стаяў Адам, але не той малады хлопец, а мужчына, гадоў, можа, пад трыццаць восем, калі не больш. Праўда, ён мог здавацца такім пастарэлым таму, што быў непаголены, непамыты, вывалены ў зямлі, як бы аслабелы, з чорнымі кругамі пад вачыма. І той бачыў перад сабой свайго бацьку ўжо старога. У Ксавэра Блецькі, як і тады, былі пад-

стрыжаныя вусы і кожны волас загінаўся на губу. Твар быў абмяклы і абвялы. Яны абняліся, а пасля бацька пасадзіў Адама на ложак і першым яго словам было запытанне, поўнае трывогі:

— Чаму ты ўночы прыйшоў?

— Мне ўдзень не можна,— адказаў Адам.

На гэты страшны адказ і спадзяваўся Ксавэр. Ён з вялікім смуткам сказаў:

— Значыцца, яшчэ ўсё цягнецца хвост ад таго, што было тады?

— Які там к чорту хвост! Адразу табе і расказаць цяжка. Але, перш за ўсё, памятай: барані божа, каб ніякая жывая душа не дазналася, што я тут. І няма чаго ныць. Цяпер скора павінен прыйсці канец таму, што не давала дагэтуль жыць. Ты адзін? У цябе акяніц няма? Я разуюся, а то мае ногі як бярвенне сталі.

Ксавэр Блецька ў момант сагнуўся і сцягнуў з Адамавых ног боты. Адам развязаў над ступнямі ног калошы і дастаў з іх пачкі навенькіх трыццатак.

— Што гэта такое? — з неспакоем сказаў Ксавэр.

— Схавай дзе-небудзь у патайное месца. На... Я ўміраю з голаду. У цябе ёсць што-небудзь, каб паесці?

— Дык дзіва што ёсць, божа мой!

Ксавэр заварушыўся, пачаў ставіць на стол усё з шафы. Адам з нялюдскай прагнасцю накінуўся на яду. Яны доўга маўчалі, аж пакуль Адам не мог ужо больш есці.

— Дрэнна ж ты жывеш, бацька,— сказаў Адам.

— Есці ў мяне ўсяго па горла,— вінавата адказаў Ксавэр.

— Не пра яду. Але ўсё, куды ні глянеш. І сам ты нейкі... І хата як да часу... Дзе ж наш дом дзеўся?

Ксавэр памаўчаў, нават як бы дапытліва паглядзеў на сына, пакуль адказаў:

— Тут быў пажар. (Ён з кожным словам зніжаў голас.) Я сам падпаліў дом. Ён быў занадта вялікі для мяне аднаго.

— Табе было занадта прасторна? Табе пачало падабацца, каб было цесна?

— Тут так... не мне, але ім усім.

— Табе трэба было стаць такім, як яны ўсе?

— Калі ў мяне, адзінокага, як ты ўжо быў пайшоў, абрэзалі зямлю і пакінулі мне тры дзесяціны, дык я ад крыўды і гэтую зямлю ім аддаў, а сам пайшоў служыць у

кааперацыю. Мне ўсё здавалася, што — ні тое што яны, а хто нават і староннi, калі праязджае тут, то ўсё прыглядаецца і пытае — а хто гэта жыве адзін у такім вялікім доме? Я не мог спаць начамі, я думаў, што звар'яцею. А тады раз, пад дзень нейк, выйшаў, стукнуўся лбом аб вішню, і мне здавалася, што мае грудзі разрываюцца аб табе. Я не вытрымаў. Палез на гару. Расклаў там агонь. Усе і пачалі гаварыць, што я паліў у печы і не ўсцярогся агню. Пасля я быў вельмі рад, што зрабіў так. Бо калі паставіў сабе гэтую хату, дык, служачы ў кааперацыі, зраўняўся з кожным з іх і стаў як пралетар. Тут, як калектывізацыя праходзіла, я спакойна служыў сабе і жыў. Але цяпер выйшла так, што калі ўжо ўсе тут на пустым месцы забудаваліся, то многія з іх у два разы большыя дамы сабе паставілі, як той наш быў. Дык мне спачатку зноў пачало здавацца, што хто-небудзь возьме і запытае: а хто гэта жыве тут у такой дробнай хаціне? А пасля мяне пачала есці крыўда: чаму я жыву ў такой хаце? Я толькі цяпер, як ты з'явіўся сюды, бачу, што я нудзеў. Толькі я не ведаю, што ты гаворыш, што зараз прыйдзе канец таму, што не давала жыць?

— Скора ўсё можа пайсці інакш. Каб табе расказаць, то трэба многа дзён. Ты памятаеш Тоўхарта? Дык я пры ім быў у Германіі.

— Гэта аж туды трэба было скрыцца тады?

— Пачакай. Раскажацца ўсё. Будзе на гэта час. Я цяпер не буду нікуды знікаць адгэтуль, а тут чакаць. (Ён гаварыў тонам пахвальбы аб тым вялікім і вельмі важным на свеце, у чым ён удзельнічае.)

— Чаго чакаць?

— Мне Тоўхарт выразна не гаварыў, а ён мяне вучыў слухаць, чуць, здагадвацца і маўчаць. Бачыць, калі нічога перад вачыма няма. Я там праходзіў школу. Доўга вучыўся.

— На каго ты вучыўся?

— Я вучыўся адваёўваць сабе, што мне трэба. Я пачну жыць спачатку. Бо дагэтуль — хіба гэта я жыў? Мы спачатку станем жыць. Гэта павінна быць скора... І Гальвас павесялеў і абнадзеіўся.

— Які Гальвас? Каторы?

— Малады. Стары памёр. Ізноў у нас будзе ўсё тое самае. І дом стане на месцы гэтай хаты. Я так хачу спаць, што як у прорву падаю. А жылы ва мне грукаюць.



Малюнак Кузьмы Чорнага
перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Ксавэр Блецька зноў заварушыўся. Вельмі даўно ён такі рухавы не быў. Твар яго ажыў і засвіціўся. Чаканне вялікай радасці гарэла ў ім. Хоць ён і не ведаў, пра што ўсё яго Адам гаворыць. Усё, чым ён спакойна і ўраўнаважана жыў дагэтуль, адышло ўжо далёка, як прыкрае непатрэбства.

Ён шпарка адкінуў на ложку коўдру і падвёў туды за плечы Адама. Той кінуўся на падушку і паспеў толькі сказаць:

— Каб ніхто мяне тут не ўбачыў, на гэтай пасцелі.

— Будзь спакоен... Адам,— ён нагнуўся да яго і прашаптаў: — можа, бог дасць, вайна пачнецца?

Гэтым сваім шэптам ён перарваў першую секунду Адамавага забыцця. Адам расплюшчыў вочы і, нічога не бачачы імі, цьмяна вымавіў:

— А яна... замужам? Дзеці ў яе ёсць?

— Хто яна?

— Марына... Астаповічава.

— Ты пра яе думаеш?

— Я пытаю пра яе,— і сон быццам адышоў ад яго. Ён ужо ляжаў з шырока расплюшчанымі вачыма.

— Замужам яна за Вялічкам. І адна дачка ў яе, малая дзяўчынка.

— А як... Што гэты Вялічка?

— А нічога важнага. Рамеснік. З працы рук жыве.

— А як яна жыве?

— Жыве-то добра. Дом у іх, можна сказаць, самы лепшы тут.

Адам прыплюшчыў вочы, і ў яго зморшчыўся лоб. Раптам ён прыўзняўся на локці і ўпарта глянуў на бацьку.

— Калі сюды з'явіцца Тоўхарт, ёсць тут дзе яго прыняць так, каб ён быў задаволен мною? Каб бачыў, што я яму верны да канца?

— За што Тоўхарту быць верным да канца? Гэты Тоўхарт сын таго маёнткавага гальвасаўскага эсэсара, які з мяне душу даставаў, калі нам трэба было правесці мяжу з Гальвасавым полем. Ён мяне раз быў сабакамі ўцвяліў, а гэты Тоўхарцік глядзеў і рагатаў, яшчэ быў малады гімназісцік.

— Каб не Тоўхарт, мне суджана было б прападаць век! Праз Тоўхарта я знайду сабе тое, што быў страціў.

— Дык Тоўхарт з'явіцца сюды? Гэта страшна. Цябе аднаго я можа ўхаваю, а вас двух?! Хоць ты кажаш, яго

прымаць трэба будзе? Не баючыся? Нічога не ведаю, што ты гаворыш.

— Калі Тоўхарт з'явіцца сюды, то ўжо тады не трэба будзе мне хавацца. Я тады перад усімі стану і скажу ўсім — вось я тут. Глядзіце! Бярыце мяне і вядзіце ў свой суд. Тады яны ўсе перада мной пачнуць прасіцца: ты, скажа кожны з іх, забіў свайго брата? На, забі і майго, толькі мяне не чапай. Вось што зрабіў для мяне Тоўхарт. А ён сюды ўсё адно з'явіцца. Тут магіла яго мацеры. Тут і мясцовасць усю ён добра ведае. Я тады зраблю ўсё, каб ніякая прыкрасць нават не рэзнула яму вока. Самы лепшы дом, ты кажаш, тут у Максіма Астаповіча?

— Ну, ёсць і лепшыя, з казённых, скажам, дамоў...

— Нічога. Я прыму Тоўхарта, а можа, і сам сябе, у Астаповічавым доме.

— А як жа Астаповіч? Гэта ж яго дом!

— Я выганю адтуль гэтую замужнюю Марыну.

Ён асабліва націснуў на слове «замужняя».

— Астаповіч жа нядаўна сумысля прыходзіў да мяне, каб парадаваць мяне. А я калісь збіраўся гэтага Тоўхарта дзе ў цёмным кутку так прыцiснуць, што каб ён і духу не ўказаў. І Гальваса я ненавідзеў.

— Калі моцны цябе крыўдзіць — падзякуй яму і тады будзеш жыць і сам будзеш мець пад сабой слабейшых. Тоўхарт нас вучыў, што гонар — гэта пустая выдумка.

Адам упаў у падушку і ў момант сцішыўся. Поўны вялікай задумёнасці і нават збянтэжанасці, Ксавэр прашаптаў над Адамам:

— Чаму ж ты не раздзеўся?

— О не, не,— прамармытаў ужо ацiхлы Адам, трацячы рэшткі свае ўзбуджанасці.— На ўсякі выпадак. Напагатове быць не пашкодзіць.

Ксавэр на пальчыках адышоўся ад яго і сам сабе прагаварыў:

— І цяпер, небарак, дрыжыць і калоціцца.

— О, Тоўхарт цвёрды чалавек,— ужо ледзь прагаварыў Адам, і Ксавэр ледзь разабраў яго словы.

Некалькі хвілін цягнулася цішыня. Ксавэр згарнуў рукі і стаў над Адамам. Ён шаптаў сам сабе:

— Што ён усё гаворыць? І нічога яснага не сказаў. Як гэта ён пачне жыць спачатку? І як гэта я пачну жыць спачатку? Ці праўда гэта, што ён усё гаворыць?.. Ну, спі сабе, Адамка. Многа ты меў бяды і турбот за гэтулькі год...

Ах, божа мой, божа... Каб, здаецца, дзе гармата ляснула... Божа мой, божа.

— Хто тут?! — прахапіўся Адам.

— Гэта я... я... спі...

— Каб аніводная жывая душа не ведала, што я тут.

— Будзь смел. Я цябе буду аберагаць, Адамка.

Але Адам ужо не спаў, а шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў у столь. Ксавэр асмеліўся запытаць:

— Вайна гэта пачнецца ці што ты гаворыш? Ты ведаеш? (Адам маўчаў.) І чаму ты нейк так нядобра гаварыў пра Астаповічавых? Ні тое, што гэта мяне ўкалола, не падумай, а ўсё нейк дзіўна ў цябе гаворыцца. Я нічога не разумею.

— Не, відаць, цябе ўкалола нешта аб Астаповічавых. Ты ўжо стаў, як салома... Толькі плюючы на чужое, дойдзеш да свайго.

Вельмі можа быць, што апошнюю фразу ён дзе-небудзь пераняў гатовую, бо сказаў ён яе нейк механічна, холадна, але яна, відаць, прыходзілася да яго ўласных думак і цяперашніх рашучых перакананняў.

— Адамка! Я заўсёды жыў сваім розумам. А гэта як бы я стаў сляпы і ты вядзеш мяне за руку.

— Табе падабаецца сваю ўласную бяду на карку насіць? Плюй ты на іх усіх. А калі ты некалі баяўся, што на цябе пальцамі паказваюць,— дык няхай ім гэтыя пальцы паапухаюць. Хіба ты мала перацярпеў за свой век?

Каб хто ў гэты момант бачыў Ксавэра Блецьку, ён мог бы падумаць, што той стаіць над сваім Адамам вельмі разгублены. Нават як бы бездапаможнасць нейкі час была ў яго панурым одуме. Ён стаяў і не варушыўся. Прайшла, можа, чвэртка гадзіны. Адам пачаў штосьці гаварыць праз свой цяжкі і неспакойны сон. Ксавэр нічога не мог разабраць. Пасля ён з болем душы чуў, што Адам праз сон стогне. Ксавэр перавярнуў яго на другі бок і зноў з чвэртку гадзіны стаяў нерухома. Адам зноў пачаў кідацца, і з прыдушанага сном языка яго некалькі разоў сышло імя Марыны. Ксавэр жахнуўся: ён зразумеў горкую праўду, што ў дадатак да ўсёй іншай бяды маладосць і спеласць яго Адама праходзіла і прайшла ў вечным смутку па жанчыне. Ён сам ведаў: выпадковыя жанчыны не задушаць гэтага вечнага смутку. Вялікая крыўда за самога сябе апанавала ім. Як ён калісьці ненавідзеў Амілю! І ахвяру сваю ён прынёс дарма: і зямлі тае няма, і жыцця таго ня-

ма, і маладосць была атручана, і нават цяпер, у яго цяжкія гады, па ўсёй істоце ляжыць паганае адчуванне колішняга душэўнага голаду. Ён і цяпер адчуў раптам душэўны голад. У душы было пуста. І чым напоўніць яе? Ён вельмі доўга стаяў як акамянелы. Можа, прайшло больш за гадзіну. Адам пакінуў стагнаць і спаў спакойна, Відзён быў яго закінуты ўгару твар. Ксавэр гатоў быў заплакаць над ім. Ужо з'явіліся першыя адзнакі дня, калі ён адышоўся к сталу і сеў на табурэт. І раптам выбухнула ў ім многа рашучай упэўненасці. Адам многа ведае, ён нездарма быў так далёка і нездарма явіўся сюды. Прайшоў нейкі час. Нейкая мера напоўнілася. І тое, што Адам не даваў на тое, што сам гаварыў, яснага адказу, зацягвала ўсё гэта засціламі таемнасці, і штосьці вялікае, непахіснае і аўтарытэтнае стала неўзаметку паміж Ксавэрам Блецькам і ўсім светам. Ён устрапянуўся і рашучым рухам узяў папяросу. Ён сядзеў і курыў і не зводзіў вачэй з Адама. Ён шанаваў гэтую сваю знойдзеную надзею і толькі што народжаную мару пачаць жыць спачатку. І дзіўная рэч — анізвання не з'яўлялася ў яго думкі аб сваёй старасці. Так ён, патушыўшы агонь, сядзеў, аж пакуль пачало ружавець неба на ўсходзе.

## ~~Другі раздзел~~

### I

У той час ужо была на свеце істота, дзеля якой увесь шырокі свет быў пакуль што яшчэ вялікай таемнасцю. Ей толькі што пачаўся восьмы год і звалі яе Настачка. Перш за ўсё перад ёю вырысоўваліся карціны, нарысаваныя яе дзедам Максімам Астаповічам. Гэта была тая палавіна часу ў свеце, якая мінулася і больш не вернецца. Прынамсі яе дапытлівая галава і душа так уявілі сабе свет і так успрынялі яго сістэму. Там, па той бок цяперашняга, у глыбіні мінуўшчыны стаяў нейкі таемны і невядомы пан Гальвас і другі яе дзед нябожчык Кірыла Вялічка, імя якога гучэла для яе, як легенда, уяўленая яе дзіцячым розумам па-свойму. Усё гэта набывала фантастычныя формы і вырастала да велічэзных памераў. Перад ёю вырысоўваліся карціны таго, пра што расказваў ёй дзед Максім Астаповіч. Але дзед быў смешны і жартаўлівы. Яна з ім была, як з роўным сабе, і таму ён не быў ёй вялікім аўтарытэтам. Ён гаварыў занадта нейк проста пра самыя таемныя

рэчы і гаварыў так, як быццам бы гэта была нецікавая штодзённасць. І што з таго, што ён сам бачыў сваімі вачыма той легендарны свет! Яму можна было і не да канца верыць. Бо ён кожны свой расказ канчаў тым, што садзіў яе сабе на плечы і дакляроўваў, што ніколі ўжо не спусціць больш на зямлю. Яна рагатала і біла далонямі па яго лысай галаве, а ён рабіў выгляд, што плача. І ўсё прыкідваецца: то раптам закрычыць, убачыўшы казюлю, што яму вельмі страшна, то скажа, што раз ён бачыў, як з лесу выйшаў мядзведзь і граў на скрыпцы. А гэта ж вядома, што ўсё гэта яго выдумка. І таму ясна было: дзесьці па той бок яго звычайных і простых расказаў трымаецца іншы, мінулы свет. Ён ужо ніколі не вернецца, ніколі не паўстане з свае вечнай магілы. Той страшны свет ужо адышоў у нябыт. Усё тое мінулася. Нават з расказаў дзеда ўяўлялася, што там усё было страшнае і цяжкае. І як тады маглі жыць людзі? Было яшчэ некалькі прачытаных вершаў і тонкіх кніжачак. Былі яшчэ расказы старэйшых сяброўак, якія шмат што чулі пра той мінулы час у школе. Адным словам, ва ўяўленнях гэтай маладой і дапытлівай галавы ўжо выразна наканаваўся падзел свету ў часе на дзве палавіны: страшная мінуўшчына, калі яе яшчэ не было на свеце, і цяперашняе яе маленства. Была яшчэ тутэйшая настаўніца, якая збірала дзяцей у школе і гаварыла з імі ўсё пра тое ж. І пасля гэтага, узбуджаная прыбягаючы дадому, яна не адставала ад дзеда: такі самы быў той Гальвас, як усе тыя паны? А чаму ты любіш хадзіць на тое месца каля лесу, дзе Гальвас цябе мучыў. Яна ведала з яго ж расказаў гісторыю з той дзялянкай пры лесе, якую ён калісьці так няўдала раскарчоўваў. Але яна не магла сабе ўявіць, як гэта так магло быць, што самому Гальвасу нават і не цікава было, ці мучыцца хто ў тых карчах, ці не. Яна хацела ўявіць сабе Гальваса з бізуном у руках над сагнутым дзедам. Прынамсі на такое ўяўленне мінулага яна ўжо была пастаўлена. Калі дзед браў яе з сабой на тую дзялянку, яна не магла зразумець, чаму ён з нейкім замілаваннем глядзіць на нейкія там дзікія кусты і на аброслыя імхом камяні. Гэтае месца павінна быць страшнае.

Вельмі можа быць, што яе дапытлівасць не ішла б так глыбока ў гэтым кірунку, каб яна была занята чым-небудзь іншым, апроч свае дзіцячай гульні. Гэта было шчаслівае маленства. Яна не цягалася цэлымі днямі па полі за каровамі, не прабівала босых ног аб палявое каменне і травя-

нiстыя карчы, яна не ўставала разам з сонцам i не ведала страшнай дзiцячай пакуты, калi ў галаве стукае боль ад бессанi i лягчэй адысцi ў нябыт, чым адарвацца ад сну. Яна не ведала той страшнай праўды, што чулая душа маце-ры сцiскалася ад болю, калi яна не магла не паднiмаць сама з дня ў дзень i з году ў год сваiх дзяцей у гэтыя страшныя ранiцы.

З кожным тыднем абсяг яе позiркаў на шырокi свет рабiўся шырэйшы. Раней яна ведала, што гэтая шырокая, высаджаная бярозамi дарога называецца Нясвiжскай да-рогай. Пасля яна бачыла, што гэтая дарога даходзiць не толькi да таго ўзгорка, каля якога з аднаго пня растуць ад-разу дзве бярозы i ў дупле адной з iх жывуць нейкiя птуш-кi. Пасля яна ўведала, што дарога гэтая ёсць i за ўзгоркам i што там яна цьмее ў сiнявай далечынi, дзе вырысоўва-юцца нейкiя таемныя контуры чагосьцi далёкага. А по-тым ёй стала вядома, што недзе там ёсць горад Нясвiж i там ёсць замак, апушчаны вадою, i ў тым замку спрадве-ку жыў страшны князь, якi, як кажа дзед, «уладаў паўсве-там» i якому нават i гэтага было мала. I ў той самы горад раскрыўся злы пан Гальвас, якi так неміласэрна некалькi ра-воў раскiдаў дзедаву хату i цераз якога памёр у лесе той другi няшчасны яе дзед Кiрыла. I што ў тым горадзе радзi-лася i жыла слаўная жанчына, пра якую яшчэ i цяпер ча-сам успамiнаюць i называюць яе «несвiжанкай». I што ў той горад доўгiя гады нельга было нi пайсцi, нi паехаць, хоць ён i вельмi блiзка адгэтуль. Бо памiж тым горадам i гэтым месцам многа год была страшная граніца, якую ўсе тут людзi ўспамiнаюць з жахам i нянавiсцю. Яна ўжо доб-ра памятае, як была тут тая граніца, хоць нiколi яе не ба-чыла i не была там. Яе дзiцячыя ўяўленнi рысавалi ўсё як бы ў застылым моманце. Надалей свет стаяў перад ёю такi, якi ўжо будзе вечна. Прыходзiць толькi пасля лета зiма, а хвоi ў лесе заўсёды будуць тыя самыя. I калi мацi кажа, што яна калi-небудзь вырасце вялiкая, то не можна нават i падумаць, як гэта ўсё можа быць. Прынамсi гэта будзе так далёка ад цяперашняга часу, што як быццам бы i зусiм не будзе. Свет радасны i шчаслiвы, i ўсё ў iм доб-ра. Яна верыла ў тое, што бачыла. I, можа, ёй лягчэй бы-ло б выклiкаць у сваёй фантазii веру ў тое, што раптам лес пачаў расцi не на зямлi, а ў паветры, як у тое (каб хто толькi сказаў ёй), што не больш як праз некалькi кароткiх дзён скончыцца ўсё, што цяпер яна ўсюды бачыць каля ся-

бе і чым і ў чым жыве. І што яна ўведае зусім іншую грань таксама сапраўднага чалавечага жыцця, і што яна замест штодзённага шчасця свайго маленства, якога яна не адчувае, бо не мае з чым параўноўваць яго, пазнае магільны адчай.

Максім Астаповіч гаварыў, што яна падобна да Марыны. Можа, і сапраўды гэта было так, а можа, яму гэтага толькі хацелася. Але ў гэтых яго жаданнях было адно пачуццё, якое ён стараўся перамагчы ў сабе. Яму было нібыта крыўдна перад малой Настачкай за колішнюю малую Марыну. Настачка многа чаго па свеце не ведае і ніколі не пазнае. Яна можа вырасці з думкамі, што жыццё—гэта вечнае свята. Тут выяўлялася яго закаранеласць і несвядомая ўпэўненасць, што кожнаму чалавеку трэба праходзіць праз тое, праз што ён сам прайшоў у сваёй маладосці. Ён сам таго не заўважаў, як у гэтым пункце рабіўся бурклівым старым чалавекам. Часамі на яго находзіла своеасаблівая бесклапотнасць: пра яе не трэба клапаціцца, яна вырасце сама сабой, так як ідзе ўсё на свеце. У такія свае хвіліны ён быў скнарысты духам і, каб ад яго залежала, напэўна, быў бы дрэнным і скупым раздатчыкам чалавечага шчасця. І вельмі скора, у страшны дзень, з пакутамі сумлення ён падумаў, што быў вельмі несправядлівы да свае ўнучкі. Прыйшоў час, калі ён адчуў боль і сорам перад Настачкай.

## II

Дваццаць другога чэрвеня, у нядзелю, на ўсёй шырыні заходніх мясцовасцей Беларусі стаяла яснае і з ветрам надвор'е. Уночы, перад гэтым днём, свяцілі зоры, неба было чыстае. Ноч была халаднаватая, вецер дзьмуў няроўна: і гусцеў, і змяншаўся. У хвойных лясах вечны іх гул то чуцён быў далёка ў полі, то ападаў зусім. Ноч канчалася слабым ветрам, спакойным згасаннем зор і страшным утрапеннем чалавечых душ.

Было напісана пісьмо да Марыны і Настачкі. Уладзімір Вялічка пісаў, што яму асталося на лагерным вайсковым зборы ўсяго шэсць дзён і што праз тыдзень ён будзе дома. Было там яшчэ і многа таго, што заўсёды ёсць толькі прыналежнасць кожнай сям'і ў асобку — дробныя звычаі, непаўторныя нідзе і ніколі, толькі іх адных у сваёй сям'і дачыненні,— усё гэта клала пячаць на асаблівасць пісьма,

і староннi чалавек мала там што зразумеў бы. А тое, што пiсьмо было якраз так напiсана, магло сведчыць, як дружна жыве гэтая сям'я, а можа, чалавек занудзеўся па жонцы і малой дачцэ і рвецца хутчэй з'явiцца дадому. Пiсьмо не было яшчэ адаслана, яно ляжала ўкладзенае ў кнiжку на дошках пад матрацам у лагернай палатцы.

Уладзiмiр Вялiчка спаў моцным сном. За цэлы дзень ён быў вельмi стомлен i звечара адразу заснуў на ўсю ноч. Ноч скончылася. Неба пабялела. Плыў дзень. У лагеры яшчэ не было нiякага гуку. Моўчкi, пазяхаючы i злёгку пацягваючыся плячыма, на лiнейках стаялi вартавыя. У кустах абазвалася першая птушка i змоўкла, быццам спалоханая, што занадта рана ўстрапянулася i што яшчэ некалькi момантаў належыць ночы. У гэтыя хвiлiны, недзе тут зусiм блiзка, нарадзiўся нечаканы гук. Ён быў шырокi, займаў многа прасторы, i праз яго выбухалi раз-поразу ўзрывы. Шум наблiжаўся, ён ператварыўся ў гул. У адзiн момант лагер ажыў. Але, можа, цэлую хвiлiну ўсе яшчэ маўчалi i слухалi з непаразуменнем. Пасля дзесьцi глыбока, бадай-што на далёкiм канцы цэнтральнай лiнейкi, пачулася кананада i сiгнал трывогi. На хаду падпяразваючыся, байцы i камандзiры выбягалi з палатак. Вялiчка пабег да месца, дзе заўсёды збiраўся яго ўзвод. Нiхто не ведаў, што здарылася, але ўжо ў наступную секунду над лагерам пачаў тузацца гул нямецкiх самалётаў i памiж палатак разарвалiся першыя бомбы. Выстраеныя калоны байцоў хiстанулiся. У Вялiчкавым узводзе некалькi байцоў выбеглi са строю i прыгнулiся да кустоў. Вялiчка i сам не ведаў, цi трэба ўсiм так зрабiць, цi тых пакараць за недысцыплiнаванасць. Але ўжо сам сабою парадак яго калоны рассеяўся, i ён сам прытулiўся к дрэву. I толькi цяпер ён скамандаваў замаскавацца ў кустах. Але пачулася агульная каманда прабiрацца к лiнii горада, гэта значыцца, iсцi насустрач нечаканай навале. Горад быў дзесьцi за дрэвамi i ўзвышшамi, яго было не вiдаць. Вялiчка павёў свой узвод вiтай дарогай, цалiной памiж двума ледзь заўважнымi ўзвышшамi, пасля праз рэдкiя кусты, пасля паўз сцяну недаспелага высокага жыта. Непрыемнае адчуванне таго, што парушылася, i, можа, нават назаўсёды, тое, што было спланавана надалей, i нават на гэты дзень, на нядзелю, скончылася адразу, так як i ўзнiкла. Ужо вялiкая трывога запанавала ў сэрцы. Байцы кiдалi адзiн аднаму фразы аб вайне. Гэта можа зацягнуцца на тыднi i нават на месяцы.

Прыкрасць ад таго, што ён раней не адаслаў пісьма і што пісьмо асталося ў палатцы, прайшла ў душы і патанула ў клопаце цяжкага пераходу пад нямецкімі бомбамі. Групамі па некалькі чалавек байцы дабеглі да горада. Горад бамбілі нямецкія самалёты, ішоў дым ад недзе тут блізкага пажару, але агню нідзе не відно было. Самае непрыемнае і страшнае было — гэта блытаніна на гарадской ускраіне. Усе чакалі нейкага распараджэння, а яго не было. Гэта быў цяжкі момант перайсці на ўласную практыку з таго, што ён прывык толькі трымаць у галаве. У гэты нечаканы момант ён лепш за ўсё меў на ўвазе тое, што пачынаецца пара ўласнай ініцыятывы. У тых шматлікіх дробязях, аб якіх у звычайны час ніхто нават і не здагадваўся. Нарэшце прыйшла каманда рушыць назад ад горада. Паміж горадам і лагерам байцы пачалі маскавацца на зямлі, ляжалі, гатовыя да ўсяго, пра што будзе загад. Але не больш як праз дзве хвіліны рвануліся тут першыя разрывы нямецкай артылерыі. На тым месцы, дзе ляжалі першыя справа ад Вялічкі чатыры байцы, узляцела ўгару чорная зямля, на момант стала цёмна, і пасля Вялічка адчуў, што ён быццам бы ўпаў кудысьці глыбока. Ён пастараўся прыўзняцца. З яго асыпалася зямля, ён выплюнуў з рота гразь і ўжо страціў быў усякую арыентацыю. Тут ён пачуў па ланцугу крык назад да горада. Ён паўтарыў гэтыя словы, але голас яго ледзьве прарваўся праз сударгу, якая сціскала горла. Ён чуў тупы боль у плячах і з усіх сіл крыкнуў тыя самыя словы. Пасля гэтага ён зразумеў, што страціў з вока сваіх байцоў, і яшчэ раз крыкнуў і ўвайшоў у агульны рух. Яго тачыў смутак, што ён штосьці не так робіць, і з такім пачуццём апынуўся на першай гарадской вуліцы. З вялікай радасцю ён бачыў каля сябе знаёмыя твары байцоў і пасля ўбачыў камандзіра роты і камандзіра другога ўзвода. Артылерыйскія снарады рваліся над горадам. Здаровы, плячысты мужчына сагнуўшыся выбег з дзвярэй нейкай нізкай прыбудоўкі к дому якраз у той момант, калі дом скалануўся і аб'ехаў уніз вугламі ў двары. Плячысты чалавек упаў, і Вялічка ўжо не бачыў, ці ўстаў ён, ці не. Гэта быў вельмі шпаркі рух. Камандзір роты апынуўся поплеч Вялічкі і, бегучы разам з ім, тлумачыў яму тое, што той павінен рабіць. Вялічку ўсё было ясна, але ў гэты момант ён не думаў, што ўсё гэта так будзе, як яму кажуць. Страшны смутак па тым, што ён не дабыў тут спакойна свой астатні тыдзень і не заехаў хоць на час да свайго

дома і што ўсё гэта пачалося занадта рана, прайшоў праз усю яго істоту. Ён стаў пры сцяне дома, прапусціў паўз сябе першых сваіх байцоў, якія ішлі ўсе ланцугом, адзін за адным, і скамандаваў павярнуць направа ў завулак. Тут было цішэй. Пекла артылерыі і самалётаў кіпела ў вуліцах направа. Ён вывеў свой узвод у цішэйшы квартал і пачаў расстаўляць яго. Байцы стаялі пры сценах дамоў, стаіліся за дрэвамі, увайшлі ў дамы і занялі месца пры вокнах. Вялічка ўбег у сенцы двухпавярховага мураванага дома, убачыў вузенькія прыстаўныя лескі і, перамагаючы непаслухмянасць сваіх ног, узлез на гару. Акно пад дахам з гонты было запыленае. Ён разбіў шкло і ўбачыў праз дзірку дахі і стрэхі аднапавярховых дамкоў і за імі поле і абрысы лагера. Полем ішлі на горад нямецкія танкі. І вось ён скалануўся ад радасці. Сярод тых танкаў пачалі рвацца снарады з артылерыі, якая абазвалася з горада. Ён нават убачыў, як адзін танк стаў на месцы і пасля агонь успыхнуў над ім. Але неўзабаве артылерыйская стральба па горадзе павялічылася ўдвойчы. Білі нямецкія марціры. І з горада павялічыўся агонь артылерыі. Поле напоўнілася дымам, і ўсё грымела і траслося.

Прайшло вельмі мала часу з таго моманту, калі лагер быў выведзен з свайго перадранішняга сну, але можна было думаць, што ўжо скора вечар, а можа, толькі і першая раніца. Адчуванне часу страцілася зусім. Праходзіла хвіліна за хвілінай, а можа, нават гадзіна за гадзінай, і грымучае пекла не змаўкала. Бывалі моманты, калі надыходзіў перарыў у громе, і тады чулася стральба кулямётаў дзесьці ў полі, на захад ад горада, пасля зноў усё танула ў выбухах артылерыйскіх разрываў.

Было яшчэ вельмі рана, толькі мінула шэсць гадзін. Сонца прабівалася праз дым і пыл. Першыя нямецкія пехацінцы пачалі з'яўляцца на вуліцах горада. Вялічка ўбачыў першага немца: гэта быў зусім малады салдат, ён здаўся крыху разгубленым. За ім з-за нейкай сцяны выбеглі яшчэ два, з ручным кулямётам. Яны стралялі кудысьці перад сабой. Вялічка бачыў, як яны ўдвух адразу ўпалі. У абодвух былі прабіты кулямі твары. Вялічка стрэліў зверху ў таго, першага, і ён упаў зусім блізка, бадай-што пры самым тым двухпавярховым доме.

Гэта і быў той момант, калі Вялічка, як ён сам пасля думаў, стаў сапраўдным салдатам. Ён шпарка злез з гары, выглянуў на двор і ўбачыў свайго, яму добра вядомага

байца. Гэты чалавек быў родам з-пад Смаленска, з прозвішчам Кадаўбіцкі. Ён ляжаў пасярод двара мёртвы. Цяжка растлумачыць чаму, тут, можа, нават і не было хоць бы якой выразнай абдуманасці, але Вялічка забраў яго вінтоўку і ўсе патроны і зайшоў за заднюю сцяну дома, адкуль бачыў вялікі сад з тоўстымі клёнамі і ясенямі, як пасля ён ужо ўспомніў. Там стаялі за дрэвамі і ляжалі на зямлі яго байцы, цэліліся і стралялі. Ён бачыў, што ўсё гэта робіцца не таму, што ён іх кама́ндзір, а таму, што ўсе яны падначалены таму, што яны павінны рабіць. І ён адчуў прыкрасць, што яго роля камандзіра, з прычын, можа, нават ні ад кога тут не залежных, сышла на няма нішто. Ён заняў месца сярод іх і таксама стаў цэліцца і страляць. Відны былі нямецкія пехацінцы. Яны выбіраліся з-за платоў, дрэў і сцен, і многім з іх удавалася забірацца далей, кудысьці па той бок гэтай вуліцы, глыбей у горад. Многа іх падала. Вялічка ўжо не меў аніякіх думак ні пра Марыну, ні пра Настачку, ні пра неадасланае пісьмо. Усё сплыло зусім з яго свядомасці. Ён не ведаў, колькі часу прайшло. Артылерыя з двух бакоў біла бесперапынна. Ён заўважыў густую групу нямецкіх пехацінцаў у разрывах паміж дамамі. Ён устаў на ўвесь рост, скамандаваў і пабег на той бок вуліцы. Пачуццё вялікага шчасця апанавала ім, калі ён пачуў, што разам з ім бягуць байцы. З сваімі байцамі ён убег у самую сярэдзіну нямецкай групы. Усе стралялі з блізкай дыстанцыі. Крычалі, стралялі, падалі, стагналі, калолі штыхамі. Над самым вухам чуліся нямецкія выгукі. Пасля немцы зніклі, яны рассеяліся за дрэвамі, кустамі і сценамі і адтуль стралялі. І зноў Вялічка стаяў за дрэвам і страляў, а яго байцы таксама па адным былі за вугламі дамоў і ў дамах перад вокнамі, і зноў Вялічка як бы страціў сваю камандзірскую ініцыятыву. Часта стральба на хвіліну замаўкала і пачыналася зноў, калі толькі заўважаўся які-небудзь рух на месцы, дзе былі немцы. Раптам артылерыйская кананада пачала заціхаць, і вельмі шпарка. Пасля нямецкае камандаванне гэты свой перапынак у артылерыйскай стральбе растлумачвала тым, што групы нямецкай пяхоты пераблыталіся з савецкай пяхотай і нельга было вызначыць арыенціры. Сонца стаяла ўжо за поўдзень. Чулася толькі вінтовачная і кулямётная стральба, і так прыйшоў канец дня. У другой яго палавіне, яшчэ за некалькі гадзін да заходу сонца, з вінтовачных залпаў і кулямётаў было дакладна ўстаноўлена, што немцы рвуцца ў горад

ужо і з усходняй стараны. Было таксама вядома, што з паўднёвай стараны ідзе нямецкі рух у кірунку на ўсход. Так пачало змяркацца. Уночы пачаўся новы ўваход немцаў у горад. Групы іх ужо былі ў цэнтры горада. Там жа былі густа і нашы групы. Ішлі стральба і рукапашныя схваткі. У другой палове ночы пачаўся выхад немцаў назад з горада. Яшчэ не было вядома, што так загадала нямецкае камандаванне з прычыны таго, што за гэты кароткі час больш паловы ўсіх немцаў, што прабіліся ў горад, ляжалі мёртвымі.

Вялічка быў ужо ў цэнтры горада. У яго ўзводзе байцоў стала менш. Пачало світаць. За суткі ён прывык да таго, што ў першыя гадзіны было яму горкай практыкай. Сонца паднялося высока, як з нямецкага рупара, аднекуль зблізку, пачуўся голас. Гэта была не тое што скалечаная, а не зусім чыстая руская мова:

— Рускія! Брэст у поўным коле нямецкага войска! Выхаду з горада няма. Вас абкружыла вялікая сіла. Яна ў многа разоў большая за вашы сілы. Нямецкія арміі ўжо занялі тэрыторыі далёка на ўсход ад Брэста. Нямецкае войска ідзе далей на ўсход. Ваш лёс ужо вырашан. Вам няма ніякай рацыі працівіцца далей. Пакладзіце зброю. Усе здайцеся ў палон. Вы астанецеся жывымі. Інакш — вам усім будзе смерць.

Некалькі разоў гучэлі праз нямецкі рупар гэтыя словы. Стаяла цішыня. Можна сказаць, што толькі цяпер, стоячы ў цесным завулку сярод сваіх байцоў, многія з якіх ужо не былі жывыя, Вялічка напоўніўся пэўнай свядомасцю таго, што пачалося і што адбываецца. Як адышло далёка і якое стала недасяжнае тое шчасце, што было раней яго штодзённшчынай і пра якое ён і не думаў, што гэта і ёсць тое самае вялікае, сапраўднае, адзінае ў жыцці шчасце. Шчасцем для яго была Марына, шчасцем была Настачка, шчасцем быў стары яго друг з малых дзён — Максім Астаповіч. Шчасцем было ісці кожны дзень на працу і ўвечары прыходзіць з яе, і кожны дзень бачыць клёны паўз дарогу. Смутак сціскаў яму сэрца.

Часамі ўзнікала артылерыйская стральба. Пасля яна змаўкала. Гадзіны цягнуліся ў няпэўнасці. На змроку зноў пачаў гучэць нямецкі рупар. Калі сцямнела, ён зноў абазваўся. І ў гэты самы час прыйшла каманда ў атаку на нямецкія групы, якія навокал горада чакалі яго здачы. І зноў Вялічка забыў свой смутак. Выбухнулі залпы і заглушылі

нямецкі рупар. Байцы пабеглі ў цемень ночы з крыкамі «ўра». З горада пачала біць артылерыя ў бок захаду. Байцы беглі на ўсходнія часткі немцаў. Немцы адказалі кулямётамі. Яны адыходзілі ад горада, але неўзабаве сцяна агню ўстала паміж імі і байцамі. Была дадзена каманда адысці назад у горад.

III

Вялічка, які дрэнна ведаў і самы Брэст і не быў якім бы там ні было вайсковым спецыялістам, нават не быў вайсковым прафесіяналам і далёка стаяў ад вайсковых планаў камандавання, калі толькі яны маглі быць у баях за Брэст, не ўяўляў сабе поўнай карціны таго, што ў тыя дні тут адбывалася. Спачатку, пасля таго, калі ён ахамянуўся і пачаў камандаваць сваім узводам, ён думаў, што ён у поўнай уладзе цэлай сістэмы ваеннага камандавання ў гэтых баях і што ў больш ці менш важных момантах ён павінен чакаць цвёрдых распараджэнняў і загадаў. Тады ён і не стараўся асабліва ўведаць да канца цэлую карціну нямецкага нападу на горад і нашай абароны. Калі ж пачалі праходзіць дзень за днём, ён пачаў здагадвацца, што тут ідзе нешта не так, як ён думаў. Гэта быў цяжкі пераход да ўласнай практыкі. Пасля яму стала вядома, што ў горадзе б'юцца з немцам ізаляваныя адна ад другой агнём і нямецкімі часцямі, якія прабіліся ў горад, нашы групы. Змучаныя бессанню і чатырохсутачным няспынным напружаннем, байцы яго ўзвода ўсё больш і больш пачыналі дзейнічаць з нейкага ўласнага інстынкту, які з вялікай сілай ажыў у кожным з іх. Гэтае ж самае пачалося і ў Вялічкі. Тут ужо не было ніякага фронта ў тым сэнсе, як гэта ўстаноўлена разумець. І з кожным днём байцоў рабілася ўсё менш. Трупы ляжалі на вуліцах і ў садах, у дварах каля сцен. Па некалькі чалавек людзі сядзелі ў дамах і кіраваліся самастойна. Пачынаўся пяты дзень, калі Вялічка фактычна ўжо не камандаваў узводам, а быў у другім паверху мураванага дома дзесьці ў цэнтры горада, і каля яго было толькі чалавек сем. Можа, усе іншыя былі ўжо мёртвыя, можа, біліся дзе поблізу — нельга было нічога ўведаць. На вуліцы чуліся ўжо нямецкія галасы, а бой не сціхаў. Артылерыя ўжо больш не страляла. Білі кулямёты і аўтаматы. Чуліся выстралы вінтовак. Праз вокны з другога паверха нават відны былі нямецкія салдаты. І Вялічка, і людзі, што былі з ім,— кожны цэліўся і страляў. Немцы падалі, але аднекуль з-за ўкрыцця яны асыпалі дом градам кулямёт-

ных куль і стараліся дапасці бліжэй к дому і ўзарваць яго гранатамі. Бесперапынным агнём з вокан людзі стараліся не падпусціць іх блізка. Гэта была самая важная справа цяпер. І так прайшлі яшчэ адны суткі.

Яны, што сядзелі ў гэтым доме, маглі б падумаць, што яны толькі адны і асталіся ў горадзе, каб не грукат бою навокал іх. Пасля яны ўбачылі праз свае вокны рукапашную схватку на вуліцы. Трое чырвонаармейцаў выбеглі аднекуль з укрыцця і кінуліся на групу немцаў, якія хацелі перабегчы вуліцу. Немцаў было не менш дваццаці. Тое, што трое чалавек беглі на іх з штыхамі, нагнала на іх страх, і ўсе яны адышлі назад, адтуль і пачалі страляць. Вялічка, які бачыў праз акно гэты малюнак, не ведаў, ці гэта самі тыя тры шукалі штыховага бою з немцамі, ці гэта яны выконвалі чыё распараджэнне. Пасля ён бачыў, як яны дабеглі да сцяны дома і скрыліся за ёю. У гэты якраз момант і пачалася бамбардзіроўка горада з паветра.

Горад трымаўся пятыя ўжо суткі, і нямецкае войска прайшло ўжо далёка на ўсход ад яго. Відно было, што немцы страцілі вайсковую цярплівасць. Паўсотня самалётаў асыпала горад бомбамі. Адзін налёт зменьваўся другім, ужо ўсім стала ясна, што доўга так цяжка вытрымаць. Вялічка і хто быў з ім убачылі, што выйсці з дома і дзе-небудзь укрыцца ад бомб няма як: усё навокал кіпела і рвалася. Вельмі можа быць, што немцы думалі, што ў гэтым доме якая-небудзь вельмі важная і вялікая наша групоўка. Яны бралі гэты дом з заядласцю. У перарывах паміж бамбардзіроўкай яны, як і раней, білі па дому з кулямётаў. Асыпаўся адзін вугал дома, у вокнах не было ніводнага шкла. Зноў крычаў рупар аб здачы ў палон і аб тым, што няма ніякай карысці больш працівіцца. Бамбардзіровачная хваля прайшла. Немцы зноў з'явіліся на вуліцы. І зноў з гэтага дома пачаліся залпы ў іх. Вялічка бачыў мёртвых немцаў, і гэта было тое адзінае, што яго цешыла. На гэтым сыходзіліся ўсе яго імкненні.

Відаць, нейкі план выспеў у немцаў. З дзікім крыкам яны пабеглі праз вуліцу. Палавіна іх упала, а палавіна дабегла да дома. Яны рваліся ў дзверы і праз іх абстралялі з кулямёта сенцы. Яны заўладалі першым паверхам, і, мусіць, там ужо не асталося ніводнага жывога байца. Ужо немцы напоўнілі сабой сенцы, ужо білі ў дзверы другога паверха. Усе ляжалі на падлозе. З трэскам ірвануліся дзверы, раскалоліся папалам, і адна палавіна іх упала. На

момант мільганула на ўсходах нямецкая постаць і ўпала ўніз, прастрэленая. Немцы лезлі ўгару па ўсходах. Ужо не было больш чым страляць у іх. Разбітыя дзверы заставілі шафаю. Шафа неўзабаве ўпала і цераз яе ледзь паспелі яшчэ паказацца рулі аўтаматаў, як грукнуў залп. У гэты момант упалі мёртвымі пяць чырвонаармейцаў. Але Вялічка не бачыў гэтага. Ён кінуў гранату ў пралом дзвярэй. Сцены гайдануліся, цэгла сыпанулася на галаву. Настала вялікая цішыня. Усходаў ужо не было. Не было ўжо і таго, што раней называлася сенцамі. Відно было неба, яснае, сонечнае. Пралому дзвярэй не было, а стаў пралом у сцяне. Вялічка глянуў уніз. Пад абломкамі варушыліся і стагналі немцы. Вялічка азірнуўся. Каля яго быў жывы толькі адзін чалавек. Гэта быў смаленец Андрэй Мішурын. Ён сядзеў на закіданай цэгламі падлозе і, як анямелы, глядзеў прыплюшчанымі вачыма ў адзін пункт.

— Мішурын, што з табой? — сказаў Вялічка і адчуў, як цяжка яму выгаворваць словы. Усё ў сярэдзіне яго смактала і ныла. Яго хіліла слабасць і момантамі сонная абыякавасць да ўсяго.

Мішурын ледзьве ўзняўся на ногі, хістаючыся падышоў да самага пралому ў сцяне і міргнуў кудысьці ў прастору. Вялічка ўбачыў там двух немцаў, якія ўстанаўлялі кулямёт. Гэта быў нейкі зараснік нізкіх садовых кустоў. Адсюль зверху ўсё было відно. Не было аніводнага патрона і не было чым страляць. Вялічка і Мішурын ляглі на падлогу. Кулямёт пачаў абсыпаць кулямі сцены. Кулі сыпаліся праз пралом у сцяне сюды. Праз хвілін дзесяць стала ціха. Вялічка ўбачыў групу немцаў. Яны лезлі на абломкі там, дзе былі сцены. Іх было чалавек восем. Трэба думаць, што адзін з іх толькі на ўсякі выпадак крыкнуў угару:

— Рус! Здавайся!

— Гранату,— вяла прашаптаў Мішурын.

Вялічка кінуў гранату. Усё там, унізе, ірванулася ўгару, і ў паўзучых хмарах чорнага дыму ўсё стала ціха. Сцяна асыпалася ўся, асыпалася і апусцілася ўніз столь. Адным краем яна звісла. Здавалася, што трэба толькі дзьмухнуць ветру, каб усё ўпала і рассыпалася ў руіны. І вось зноў кулямёт пачаў абсыпаць кулямі гэтае месца. Гэта была пакута. Было такое адчуванне, быццам хтосьці накручвае на верацяно ўсё з сярэдзіны, з грудзей і жывата, і так бесканцовую ніткаю пустошыць чалавека.

У Мішурына яшчэ аставалася адна граната. Вялічка забраў яе і чакаў. Пасля зноў кулямёт сціх, і зноў каля дома з'явіліся немцы. Гранатамі яны рванулі рэшткі дома якраз у той момант, калі Вялічка кінуў у іх сваю гранату. Усё паплыло і змяшалася з цеменню, і свядомасць сцьмела. Вялічка не мог апамятацца, дзе ён апынуўся, і ці гэта баляць яму плечы і грудзі, ці нешта цяжкае душыць іх. Прайшло, мусіць, многа часу, бо калі ён ачомаўся, было цёмна і свяцілі зоры. Яму цяжка было паварушыцца, і ўсё цела хілілася да цёплага забыцця, але было страшна холадна. У наступныя хвіліны да яго свядомасці дайшло тое, што навокал ідзе бой. Ірвуцца гранаты, чутны кулямёты, крыкі і стогны. Пасля да яго свядомасці дайшоў моцны шэпт, які часам пераходзіў у моцны выгук. Вялічка ўспомніў, што ён, калі быў яшчэ ў забыцці, чуў гэты шэпт, але не мог уясніць сабе яго як сапраўднасць. Ён стаяў у вушах, і цяперашні і мінулы. Гэта быў голас Мішурына. Ён усё цадзіў на адной ноце бесперастанку:

— Вялічка! Вялічка!

Вялічка абазваўся.

— Ты жывы, Вялічка? Ты тут блізка? Я цябе даўно-даўно клічу і не веру, што ты жывы. Абзавіся яшчэ раз, дзе ты? У мяне ёсць яда. Тут мёртвы немец ляжыць. Я распатрашыў яго ранец. Я памацнеў, як пад'еў. Я цяпер ужо ісці доўга магу. Ты не ранен?

— Не ведаю, братка.

І спазмы здушылі Вялічкава горла. Ён быў блізак да таго, каб зарыдаць. І, можа, у такі стан увяло яго тое, што з гэтай хвіліны Мішурын гаворыць яму «ты», калі раней увесь час яны былі нават мала знаёмыя, і ўжо ні ў якім разе ціхманы Мішурын не мог сказаць свайму ўзводнаму камандзіру «ты». Успышкі далёкіх і блізкіх разрываў выхватвалі з цемені Мішурынаву постаць. Ён падсоўваўся бліжэй да Вялічкі. Пасля даў яму нейкую яду, і той еў. Толькі ў гэты момант ён адчуў страшны голад. Ён не разбіраў, што еў, яго зубы гатовы былі скрышыць камень. Мішурын падняўся на ўвесь рост і памог устаць Вялічку. Вялічка застагнаў, такі страшны боль пачаўся ў плячах. «Можа, я і ранен»,— думаў ён. Узяўшыся пад руку, яны ўдвух пачалі выбірацца з абломкаў дома, у якім прабылі пяць страшных дзён. Навокал іх усё больш рабілася ціха. Тут ужо запаноўвалі немцы. Па некалькі чалавек яны прабягалі кудысьці далей у горад, дзе яшчэ ішоў бой. Трэ-

ба было як-небудзь прабіцца туды. Гэта было ўсяночнае вандраванне. Яны ўдвух усю ноч блыталіся па цёмных закутках, абы не натрапіць на нямецкія вочы. Мішурын нёс і сваю вінтоўку, і Вялічкаву. Многа разоў яны падоўгу сядзелі і чакалі зручнага моманту, каб ісці далей. Ужо світала, пачынаўся шосты дзень, калі яны апынуліся ў цесным праходзе паміж двума дамамі. Адсюль група чырвонаармейцаў вяла стральбу па вуліцы, на якой відзён быў нямецкі танк. Ён стаяў на месцы, і з-за яго біў нямецкі кулямёт сюды. Гэта быў паядынак. Раптам з задняй стараны пачаў біць другі кулямёт. Немцы падкраліся і замкнулі з двух бакоў групу чырвонаармейцаў. Можа быць, яшчэ прайшло б тры хвіліны і яны ўсіх перастралялі б. У адным доме было тут даволі высока акно ў глухой сцяне. Праз гэтае акно чалавекам дзесяці ўдалося ўлезці ў дом і адкрыць адтуль стральбу па кулямётах. Вялічка не быў ранен, але ён не мог паварушыцца. Мішурын уцягнуў яго праз акно ў дом і паклаў на падлогу. Цэлы дзень ішоў гэты паядынак. Немцы насядалі на дом, але тут у байцоў было многа гранат. Дом быў ужо абкружан, але не на блізкай адлегласці. Гэта ратавала дом, хоць кулі крышылі яго сцены. Калі немцы падпоўзвалі бліжэй, кідалася граната, і новыя немцы пачыналі зноў сваю работу з большай адлегласці. Прайшла ноч, Вялічку стала лепш. Навокал дома была разварочана зямля, грамадзіліся зваленыя дрэвы, усё было ў пачварнай бясформеннасці. Прайшоў так яшчэ дзень і яшчэ ноч і дзень. Стральба ў горадзе пачала ўсюды заціхаць. Уночы на дзевяты дзень вялікія групы немцаў стараліся ўзарваць дом гранатамі. Стральба з вокан дома дасягла свайго найвышэйшага напружання. Але было цёмна, і не ўсё льга было заўважыць. Ужо світала на дзевяты дзень, калі людзі ўбачылі навокал дома вал з нямецкіх трупаў. Разам з тым на даху дома адбывалася штосьці падазронае. Там грукалі чымсьці, і некалькі разоў пачулася прыглушаная і кароткая нямецкая гаворка. За ноч немцы заўладалі дахам гэтага дома. У горадзе бадай-што панавала поўная цішыня. Нідзе перад домам нельга было заўважыць нікога жывога. Раптам у адну секунду, напэўна, па камандзе, з даху спаўзлі да вокан шнуры, на шнурах вісела ўзрыўчатка і палалі кнаты. Агонь бег да ўзрыўчаткі, і праз некалькі секунд усё страсянулася і грукнула страшным узрывам. І пасля запанавала поўная цішыня. Засыпаны трушчанай цэглай, Вялічка чуў стогны двух чалавек

і пачаў варушыцца. Ён астаўся жывы таму, што быў з Мішурыным і яшчэ з адным байцом у крайнім малым пакоі, адкуль яны ўтрох абстрэльвалі падыход к дому з паўночнай стараны. Тут узрыву не было, і гэты кут дома толькі асеў і раскалоўся. Вялічка вызваліў грудзі ад трушчанай цэглы і ўбачыў, што іх залівае кроў. З кожнай хвілінай боль у левым плячы рабіўся вастрэйшым. Мішурын трымаўся за правую руку вышэй локця, стараючыся заціснуць кроў, што білася з раны. Трэці быў таксама ранены. Ён стагнаў. Яго нідзе не відно было. Цішыня, якая панавала ўсюды, была жудасная. «Немцы заўладалі горадам»,— падумаў Вялічка, застагнаў і прыхіліўся да свае цаглянай пасцелі ад болю і слабасці. Мішурын перавязаў сваю руку вышэй локця і пачаў шукаць на слых, адкуль стогне чалавек. Здаровай рукой ён яго неўзабаве адкапаў з-пад цэглы. Гэта быў вельмі малады чалавек, незнаёмы баец з незнаёмай часці. Вачэй ён ужо і не расплюшчыў. Ніжэй грудзей ён увесь быў у крыві і з кожнай хвілінай стагнаў усё слабей. Мішурын некалькі разоў запытаў яго, адкуль ён і як ён завецца. Ён нічога не адказаў. Пачало ўсходзіць сонца. У гэтых цесных руінах усё заружавела. Вельмі можа быць, што да інстынкту гэтага непрытомнага чалавека дайшоў пачатак сонечнага дня. Твар яго, у першых праменнях сонца, уздрыгануўся ўсімі рысамі. І гэта быў момант яго смерці. Так ён і астаўся тут ляжаць у вечнай сваёй нерухомасці. Усю раніцу сонца ляжала на яго твары. Апаўдні сонца асвятляла яго ўсяго. К вечару ён ляжаў у змроку. Цэлы дзень Мішурын сачыў за ранаю ў Вялічкі. У яго было да самых касцей парвана плячо. Кроў утаймавалася толькі к паўдню. Мішурын адной рукой перавязаў рану. У горадзе былі немцы. Вялікае шчасце, што ніводзін з іх не заглянуў у гэтыя руіны. Раннім вечарам Мішурын памог Вялічку ўстаць і, падтрымліваючы яго, павёў. Па бясформенным насыпу цэглы і дрэва яны спусціліся ўніз і апынуліся ў цемені свежага паветра. Да самага рассвітання яны ўсё выходзілі з горада, трымаючыся самых цёмных закуткаў. Было блізка да дня, калі яны выбраліся за горад. Дзесьці ў старане трашчалі матацыклы. З горада пачулася некалькі адзінокіх вінтовачных стрэлаў. Вялічка напружваў усю сваю памяць, каб успомніць, з якой часткі горада яны выйшлі і дзе праходзіць тая шырокая дарога, з якой можна было арыентавацца. Самае важнае — гэта было, пакуль развіднее, быць на ўсход ад

горада. Нарэшце на ўсходзе пачало палавець неба. Ціха ступаючы па роснай траве, яны ўдвух пабрылі паўз зарослыя нейкімі нізкімі засевамі палеткі. Вялічку здавалася, што ён не пройдзе і сотні крокаў. Ён бачыў, што і Мішурын хістаецца ў бакі. «Або дайсці да лесу, або так дзе перачакаць дзень»,— думаў Вялічка.

— Ці не відно дзе жытняга поля? — запытаў ён у Мішурына.— Нам есці трэба будзе што-небудзь.

Ужо стала відно, а яны ўсё ішлі, прыціснуўшыся адзін да аднаго. Равы і канавы, вузкія палеткі, паплавы, хмызнякі міналі яны і, нарэшце, дапалі да жытняга поля. Абодва як скошаныя ўпалі яны на зямлю, і забыццё агарнула іх. Дзьмуў лёгкі вецер, жытняе калоссе шастала над іх галовамі. Абодвум ім здавалася, што яны падаюць у прасторную глыбіню. І няўяўныя прывіды апанавалі іх. «Божа мой, божа мой»,— прастагнаў Мішурын і заплюшчыў вочы. Прывіды набывалі выразныя формы і, як жывое ўвасабленне ўсяго таго, што было ўведана змалку дзён, паўсталі перад імі. Свядомасць іх абодвух ператварылася ў тупое адчуванне жудаснага, ні з чым не параўнанага, страшнага, як уся горач свету, смутку.

## IV

Девяцідзённая абарона Брэста, які прыняў на сябе першы ўдар нямецкага войска ў момант, калі яно яшчэ было поўна энергіі і заўзятай упэўненасці ў сваёй непераможнасці і ў хуткай перамозе над Савецкім Саюзам, была адным з тых вялікіх эпізодаў Айчыннай вайны, якія пасля выраслі ў яе шматлікія эпапейныя моманты. Вядома, Брэст гэта не Севастопальская і не Ленінградская эпапеі, але Брэст у Айчыннай вайне быў пунктам, дзе немцы, нягледзячы на нечаканасць свайго нападу, прымушаны былі дзевяць дзён класці свае жывыя сілы і пускаць у ход сваю новую дасканалую тэхніку і вымуштраванасць супроць невялікага Брэсцкага гарнізона, які ўпарта не здаваў горад і трымаўся свядомасцю свае праўды і сіламі свае душы. З Брэста пачалося тое, наконт чаго найбольш цвярозыя нямецкія галовы пасля задумаліся. Брэст быў адным толькі момантам ва ўсім ходзе вайны. А ўсе гэтыя моманты і вызначаюць тое самае важнае, на чым трымаецца і сіла, і своеасаблівасць кожнай краіны. Пачынаючы ад Брэста і канчаючы Пяцігорскам, бяздушны і механізаваны немец

спатыкаўся з чалавекам, душу з якога механізацыя не вырывае і не падначальвае сабе. Такім парадкам гэты чалавек, авалодаўшы механізацыяй, не пакіне быць самім сабою і, выступаючы ў форме свае дзяржавы, будзе заўсёды бачыць перад сабой чалавека.

Уладзімір Вялічка быў просты чалавек. Ён зусім, і асабліва ў гэты час, не ўсвядоміў сабе ўсяго значэння той справы, з якой толькі што выйшаў. У жыцці Вялічка займаў малое месца. Можа быць, яго свет быў абмежаваны тым месцам, дзе ён жыў, і тым, што ён калі бачыў. Але ў гэтыя хвіліны, калі ён разам з новым сваім другам Андрэем Мішурыным ляжаў у гарачыні жытняга поля і пакутаваў ад раны ў плячы і ад свайго вялікага смутку, у гэтыя хвіліны, а можа, і пасля ўжо назаўсёды, ад яго так званай, як мы сказалі, абмежаванасці да ўсяго таго, што льга назваць усеабдымнай чалавечай асобай, быў толькі адзін крок. Душа яго раскрылася для пазнання свету, яна шукала гэтага пазнання. Яна інстынктам імкнулася высніць сэнс усяго. Дзеля яе раптам усё стала на такую грань, быццам бы ўсё, што існавала дагэтуль на свеце, сышло з свайго месца. Лежачы на зямлі, ён убачыў каля сябе нейкую вастралістую расліну, маленькую і кучастую. Вочы яго хацелі паглядзець на яе больш, але нейкая сіла штурханула яго з сярэдзіны, што пасля таго, што здарылася, ужо няма ніякага сэнсу глядзець на тое, да чаго горнецца душа. Быццам бы ён за гэтыя дні пераступіў тую мяжу, з-за якой ужо не будзе назад звароту. Прынамсі, калі находзілі цяпер на яго хвіліны прасвятлення, яму здавалася, што назаўсёды скончылася ўсё, чым ён жыў дагэтуль. І Марына, і Настачка адчуваліся ў гэтыя моманты ім толькі, як нерэальныя прывіды. Хворае ўяўленне яго ўзнімала аслабелыя сілы да раптоўных парываў, якія тут жа ападалі, і яго зноў апаноўвала забыццё. Сонца паднімалася высока, і пачыналася гарачыня. Ён ляжаў тварам угару, і гарачыня мучыла яго. І Марына, і Настачка з'яўляліся перад ім, як недасяжнае яго жаданне. Яго воля змагалася з забыццём. Ён свядома стараўся выклікаць у сваёй памяці і хоць у думках перажыць тое, што толькі цяпер усвядомілася яму, як поўнае шчасце, якое было ў яго. Многа было гэтага шчасця. І ў тую восень, пра якую ён стараўся думаць цяпер, таксама было шчасце.

У тую восень нарадзілася ў Марыны вялікае, як свет, пачуццё, і ён ведаў пра гэта. Яно прыйшло адразу, але

з'яўлення яго нельга было заўважыць. Цьмяным адчуваннем сваім яна здагадвалася, што пераступіла мяжу на сваёй дарозе, і ўсё, што было дагэтуль, мілае і дарагое, саступіла месца нязнанаму шчасцю, трывожнаму і ўсеабдымнаму. Яно адчыніла перад ёю сэнс вялікай радасці, і радасць гэтая стала яе знойдзенай мэтай. І ва ўсім цяпер раскрываўся перад ёю новы сэнс, быццам усё, што жыло і бытавала навокал яе, стала раптам такім, якім павінна было быць заўсёды, і якім дагэтуль не было, і па чым яна сумавала з самага свайго маленства. І цяпер яе душу больш, як калі раней, крануў і лісток на зямлі пад дрэвам, і травіна, вырaслая з зямлі паміж насыпанага дробнага камення, і клёны над дахам іхняга дома, і грукат вадзяного млына па той бок гасцінца, і браскучы скогат жалеза з майстэрняў, куды пасля ён пачаў хадзіць на кожнадзённую сваю працу. Дзіўна было: як усё ў адзін момант з'іначылася і страціла сваю ранейшую звычайнасць. Можа ён быў раней такі самы, як і ўсе? І так, як цяпер, некалькі дзён таму назад яна ведала, колькі яму год, і гэта было ёй усё роўна. А цяпер гэта было ёй важна і патрэбна, таксама як важна стала, што ён стаў перад ёю задумёны і нават сумны. Яна адчувала, што гэта ўсё дзеля яе адной і што яна адна гэтаму прычына, і была абавязана яму чымсьці вялікім і неабходным.

Кожны дзень, калі ён спяшаўся на сваю работу або прыходзіў адтуль, ён усё шукаў яе вачыма. І кожны раз яна падпільноўвала яго ў гэты момант і старалася як-небудзь выпадкова натрапіцца яму на вочы. І гэтая штучная выпадковасць ніколі не ўдавалася. Ён здагадваўся, што яна сумысля трапляецца яму на вочы, і тое, што ён здагадваецца, было вядома ёй, і ўсё гэта ўстанаўляла паміж імі блізасць змоўшчыкаў супроць усяго свету, і гэта было важнае ім абоім. І ўсе заўважылі, што Марына стала не такая, якая была дагэтуль. А ёй самой здавалася, што яна такая ж, як і заўсёды была: думалася ёй — нецікавая. А трэба стаць дзеля яго нейкай іншай і незвычайнай. Прыходзячы к канцу дня з поля ці з агародаў, яна адразу мылася і пераадзявалася, каб ён не ўбачыў яе як-небудзь у злінялым плацці, так як заўсёды бачыў раней, і гэта тады было ёй усё роўна. Яна падаставала з шафы ўсе свае чыстыя плацці, і кожнае з іх здавалася ёй нязграбным. І цяпер прыйшла пара да вішнёвага аксаміту, які яшчэ ў мінулае лета купіў ёй бацька.

Цяпер ёй не давала спакою яе нецярплівасць. Саромеючыся бацькі, яна ціхом дастала вішнёвую тканіну і панесла шыць. Чатыры разы яна хадзіла прымерваць і кожны раз знаходзіла якую-небудзь хібу. Нарэшце ўсё дайшло да ладу, і перад вечарам, пасля работы, Марына зазіхацела ў сваім новым выглядзе. Вішнёвы колер інакш адценьваў яе твар і пышныя валасы. Пояс збіраў тонкія фалды на яе стане. Яна стала як бы вышэйшая ростам. І ўсё ёй здавалася, што яна асталася нязграбнай. Некалькі разоў яна парывалася пераадзецца ў старое, добра вядомае яму плацце. Аднак жа быў вечар, у Гальвасаўскім, як і цяпер казалі, парку збіраліся гуляць, і яна, засмучаная, пайшла туды. Ніколі яшчэ яна не хадзіла з свайго дома куды-небудзь з ім разам. Неўзабаве прыйшоў і ён, і яна ўбачыла, што вочы яго засвіціліся ад захаплення. Зайшло сонца, ружовае неба доўга блекла над цёмнай сцяной ельніку, і Марына і ён не пайшлі танцаваць, а моўчкі доўга хадзілі далёка ад усіх. Яму ўвесь час здавалася, што ён перад ёю пачварная нязгрэба, і што яго новы гарнітур, які ён адзеў дзеля яе, нічога не варты, і што лепш было б быць у старым, да якога і ён і яна прывыклі. Яны ўбачылі ружовасць неба на ўсходзе, і ён павёў яе к дому. Як святыню, якую трэба аберагаць і пакланяцца ёй, ён адчуваў сваімі рукамі цяпло яе рук. Паміж імі не было сказана аніводнага слова аб тым, што прыйшло ў іх жыццё, аднак жа ўжо ўсё мінулася, што было дагэтуль. Іх жыццё ўвайшло ў новыя сферы. Якраз тады пачыналася восень. І цяпер гэтая восень стаяла перад ім, як балючае напамінанне аб каротка пражытым жыцці.

Вялічка не быў чалавекам ні бязвольным, ні баязлівым, але тое, што адбылося, страсянула ўсю яго істоту. Перавязанае Мішурыным плячо яго балела сухім болем, але ўзбуджанне яго нерваў было такое, што боль гэты не адчуваўся ім як вялікая пакута. Трэба думаць, што гэтая ўзбуджанасць вырывала яго раз-поразу з забыцця. Было і яшчэ ў яго адчуваннях: яму штосьці рупела, быццам ён стараўся ўспомніць тое важнае, ад чаго залежаў яго лёс. І нарэшце гэтае адчуванне стала непераможным жаданнем зрабіць смерць хоць бы яшчэ аднаму немцу, але так, каб ён доўга мучыўся. На доўгі час пачыналася яго нянавісць і жудасная сваімі памерамі пагарда. У гэтыя хвіліны ён узнімаўся над сваёй слабасцю і яму здавалася, што можна ўстаць і ісці. У адну з такіх хвілін ён працягнуў

руку і ўзяў у пальцы жытнюю саломіну. Адной рукой ён доўга важдаўся з жытнім коласам, пакуль дастаў з яго некалькі зярнят. Мішурын сядзеў на зямлі і глядзеў на яго.

— Табе стала лепш? — запытаў Мішурын.

Чалавечы голас так блізка ўвёў Вялічку ў стан рэальнага адчування самога сябе. Узбуджанасць яго ўмерылася, і ён пачуў боль у плячы, ён пачаў яе ўсвядомліваць. Ён ціха кіўнуў галавой, і яму стала як бы горш, прынамсі слабасць большая, як раней, заўладала ім.

— А я спаў,— сказаў Мішурын.— Нешта на дарогах ціха стала... Сонца ўжо высока... От каб вады дзе...

Ён пачаў ірваць жытнія каласы, расціраць на сваёй шапцы і класці зярняты ў рот Вялічку. Ён ціха гаварыў з Вялічкам і дамогся таго, што той заснуў. Вялічка спаў цяжка, часта ён гаварыў штосьці праз сон і часта ўсхватваўся. Але ўсё ж гэта быў сон. Праходзілі гадзіны, сонца ішло ніжэй, Вялічка ўжо не спаў і сцямнелымі вачыма глядзеў у неба. Абодва яны маўчалі і абодва адчувалі нейкае задаваленне, што блізіцца вечар. Штосьці было ў іх чаканні вечара такое, што як быццам бы вечар і ёсць уся іх цяперашняя мэта. Ім здавалася, што сонца цэлую вечнасць вісіць над даляглядам і змяркаецца занадта доўга. Некалькі разоў адвячоркам яны чулі рух аўтамашын на дарозе. Як толькі сцямнела, яны падняліся, і толькі цяпер Вялічка па-сапраўднаму пачуў, як ён аслабеў і які страшны боль ірвецца ў яго раненым плячы. Прыціснутыя, як і раней, адзін да аднаго, трымаючыся адзін за аднаго, яны падаліся полем на ўсход і пачалі ісці вузкай травяністай дарогай. Безнадзейнасці ў іх было больш, як надзеі. Вялічка не мог ісці. Праз некалькі ўжо крокаў па-няўмельску пакладзеныя Мішурыным павязкі аб'ехалі з яго пляча, і зноў пайшла кроў. Боль у плячы аддаваўся ва ўсім целе. Ногі ледзьве ступалі. Пачыналася, мусіць, гарачка. Галава хілілася да грудзей. Праз хвілін пятнаццаць хады ён быў блізак да непрытомнасці. Мішурын абняў яго здаровай рукой і бадай-што нёс так. У такой пакуце яны ішлі гадзін дзве. Часам Вялічка пачынаў стагнаць, і Мішурын суцішаў яго. Вялічка даходзіў да думкі і напружваў усе сілы, каб ісці далей. Ён стараўся перасіліць і боль, і смутак, і слабасць, і безнадзейнасць, абы-толькі ісці ўсё далей на ўсход. Доўга яны ішлі краем нейкіх нізкіх зараснікаў. Пасля пайшлі краем лесу. Было так цёмна, што дрэвы ад правай

рукі Мішурына толькі адчуваліся ім. Ён сам ледзь перастаўляў ногі. Звінела дзесьці вада наперадзе. Лясная раўчулка імчалася на багавіністым лясным карэнні. Гэтая вада проста такі пахла. Мішурын пасадзіў Вялічку на зямлю і набраў у сваю шапку вады. Абодва яны пілі доўга. Вялічка сказаў, што ў яго плячо зусім замакрэла і што кроў дайшла ўжо да нагі. Мішурын, нічога не бачачы, вобмацкам зняў з яго пляча рэшткі павязак, скінуў з сябе кашулю, а гімнасцёрку адзеў на голае цела і кашуляй нанава ўбінтаваў Вялічку плячо. З гадзіну яны адпачывалі моўчкі. Зорная цішыня ночы вісела над імі, як пакутны сум аб мінулым. Яны пайшлі далей і яшчэ гадзін дзве мучыліся ў гэтай бязмэтнай хадзе. Нарэшце Вялічка не вытрымаў:

— Я нікуды не дайду, калі буду цяпер ісці.

— І я пра гэта думаў.

— Мне трэба дзе-небудзь тут астацца.

— Толькі трэба не натрапіць на чужых людзей.

— Мне ўжо бадай-што ўсё роўна, на каго натрапіць.

— Калі хоць трохі паздаравееш, то не будзеш так казаць.

— Давай пацягнемся далей,— сашчаміўшы зубы, сказаў Вялічка.

І яны ішлі яшчэ хвілін дваццаць, доўгіх, як дваццаць сутак. І вось скончыўся лес. Зорнае неба стала як бы вышэйшае. На няроўным полі стала ісці цяжэй. І раптам — вялікая радасць: чорныя абрысы хат і гумен. Іншай рады не было, як прасіцца ў хату. Мішурын ціха пастукаў у акно, і па той бок шкла абазвалася жанчына, але пасля таго, калі прыйшлося стукаць разоў дзесяць. Ясна было — у хаце не спалі, але баяліся абазвацца.

— Чаго трэба? — сказала жанчына.

— Два раненыя чырвонаармейцы. Адзін можа ісці далей, а другому трэба дзён два паляжаць. Пусціце ў хату.

— Зараз,— сказала жанчына і выйшла на двор. Яна пачала шаптаць у самае вуха Мішурыну: — Мы гэтага зрабіць не можам, у нас вельмі люднае і вялікае сяло. Тут чалавека не ўхаваеш. Я вас выведу на дарогу і пакажу, куды ісці. Там жыве, па той бок лесу, чалавек, які можа вам памагчы. Ён адзін астаўся. Што яму! А ў нас бітае месца. У нас тут гэтулькі немцаў пераваліла і танкаў прайшло!

— А далёка немцы прайшлі?

— Кажуць, што ўжо на той бок Мінска, а можа, і далей.

— А так што гавораць?

— Усяк гавораць. Гавораць, што Сталін астаўся адзін, усе яго кінулі, і многія, хто быў каля яго, паўцякалі за граніцу. І Масква гарыць, кажуць, яе запалілі нямецкія самалёты.

— А хто гэта казаў?

— Хіба я ведаю, хто гэта казаў? Усе кажуць. А хто першы сказаў — то ці ведае ён што, ці не ведае — гэтага мы знаць не можам. Я вас правяду, пакуль цёмна, бо зараз світаць пачне.

— Дай нам малака і пакажы дарогу.

— Наце вам малака, толькі, людзі добрыя, каб хутчэй вы ішлі, світаць пачне, людзі ўбачаць. Мы ж цяпер пад немцам ужо.

Яна вельмі шпарка вынесла малака, напаіла іх і павяла кудысьці ў цемень поля. Праз крокаў пяцьсот паўстала перад імі сцяна лесу.

— Тут дарога вельмі вузкая,— шапнула яна.— Я пайду наперад, а вы за мной. Паволі і асцярожна.

Яна гаварыла так, што як быццам бы ёй можна было верыць. Здавалася, што лесам яны ішлі вельмі доўга. Мінулі лес. Зноў было поле. Зноў лес і зноў поле. А дарога была простая, як струна. Нарэшце жанчына паказала ўлева:

— Бачыце ўзгорачак? Павінны бачыць, калі вочы добрыя. Ужо світае. Унь адно дрэва чарнеецца. Туды ідзіце і проста ў акно пастукаеце.

— А хто там жыве?

— Я ж казала, адзінокі чалавек.

— А хто ён такі?

— Вы не бойцеся.

— Цётка, давай па-шчырасці.

— Сынок! Братка! У мяне два сыны ў Чырвонай Арміі. Маладыя, адзін за адным. Можа, і яны дзе так, як вы цяпер.

— Правядзі нас да самай хаты.

— Лепш рабіць усё так, каб ніхто не бачыў.

Вялічка траціў апошнія сілы і цярплівасць.

— Хадзем,— прашаптаў ён да Мішурына.

Жанчына шпарка пайшла назад. Яны падышлі да вялікага адзінокага дрэва. Абодва яны ляглі адразу на

мокрую траву пад дрэвам. Перад імі была хата, такая малая і старая, што здавалася зпойдзенай на непатрэбным месцы непатрэбнай цацкай. Яна стаяла ў змроку рассвітання.

Нейк дзіўна пачынаўся дзень. Яшчэ бадай-што было цёмна, а неба на ўсходзе гарэла агнём.

V

Прайшло хвілін дзве. Мішурын устаў, каб ісці прасіцца ў хату. І тут жа з сянец выйшаў высокі стары чалавек. Ён быў сухі і худы на выгляд і здаваўся здаровы сілай і здароўем. Прынамсі ва ўсёй яго постаці было многа рухавасці і як бы энергіі. Ён раскурваў люльку: прыкрыў вялікім пальцам тытунь і дробна пацягваў з цыбука. Ён быў босы, з падвязанымі ўнізе калошамі нагавіц з нейкай злінялай крамніны. Сівая выстрыжаная пад дробны кліночак бародка, выстрыжанае пад машынку сівое шчацінне вянком каля вушэй і лысіны. Быццам бы яму ўсё гэта было звыкла, што адзін чалавек ляжыць у яго пад ігрушаю нерухома, з плячом і ніжэй да самага пояса ў закарэлай крыві, а другі стаіць над ім. Можна было падумаць, што, каб увесь свет перавярнуўся верхам уніз, ён не здзівіўся б і не паглядзеў бы на гэта, як на незвычайнасць. Так спакойна і роўна глядзелі яго вочы. Ён сабе пыхкаў люлькаю на доўгім цыбуку, падышоў да самага платца, каля якога былі незнаёмыя людзі, і холадна запытаў:

— Дзе былі ў бядзе?

— У Брэсце,— адказаў Мішурын.

— Гэты ісці далей не можа?

— Ледзьве сюды я з ім дацягнуўся.

— Як жа вы сюды дайшлі? Гэта ж у баку ад Брэсцкай дарогі.

— Жанчына паказала дарогу.

— Вось як?!

Стары задумаўся і змоўк. Ён курыў і пляваў сабе пад ногі.

— Мы спадзяёмся на вашу дабрату,— пачаў гаварыць Мішурын.

— Спадзявацца на маю дабрату не трэба. Што значыць дабрата?

Мішурын падумаў, што з гэтым чалавекам гаварыць цяжка і што тут, мусіць, нічога не будзе добрага. Ні з сяго ні з таго ён сказаў:

— А ці далёка мы ўвайшлі ад Брэста?

— Адсюль да Брэста дзевятнаццаць кіламетраў.

І Мішурын здзівіўся. Як Вялічка так многа мог прайсці?

— Гэта дрэнна, што вам баба сюды дарогу паказала. Калі адна баба ведае, дык і ўвесь свет ведаць будзе. Эй, таварыш ваенны, прысядзь, з цябе трэба зняць гэтыя закарэлыя транты. Чуеш? Ён маўчыць. Спіць ці ў бяспамяцтве? (Тут ён шпарка адшатнуўся да нізенькай прызбы, хапіў там вядро з вадою і жменяй пачаў ліць ваду на Вялічкава плячо.) Няхай усё гэтае паскудства адмокне. (Збегаў у хату і вынес чысты ручнік.) Калі адмокла — знімай перавязку. (Ён камандаваў Мішурыным, ступіў некалькі разоў доўгімі нагамі да ўзмежка каля град і нарваў там у пук цындалеі.) Ёду ў мяне няма, а гэта не горш за ёд гоіць. Вымывай яму рану. (Вялічка застагнаў.) Калі чалавек стогне — значыцца, жыве. Пастагні сабе, сынку... Каб яна згарэла, гэта баба, каб не яна, каб вы самі прыйшлі — я быў бы спакоен. («Паехаў у другі бок, стары дзівак»,— радасна падумаў Мішурын.) Паднімі ты мне яго пад плечы, я перавяжу яго. Не слухай, што ён стогне, а падымай. (Ён памыў рукі, не з мылам, а з жвірам, якога набраў з-пад прызбы.) Мыла ў мяне няма. Бадай-што і нічога ў мяне няма. І душа, чалавеча, у мяне як бы спустошана. (Ён змачыў у вадзе цындалею, расцёр моцнымі сухімі пальцамі, непамерна доўгімі, і памазаў жоўтым цындалейным сокам Вялічкаву рану.) Ніякіх куль тут, здаецца, няма. Так парвана. О, добра. Перавязвай ручнікам. Цяпер раздзявай яго дагала. А цяпер паднімай за ногі, а я за плечы і — марш у хату. О, так. Кладзі цяпер ногі на ложак, а галаву я пасля пакладу. Не, я раней галаву пакладу, а пасля ты ногі. О, так. А цяпер — на табе маю старую верхнюю рубашку, яна чыстая. І нагавіцы вось гэтыя ўсцягвай на яго. Няхай ляжыць цывільным чалавекам. А вайсковую абмундзіроўку яго я запратору так, што аж каб самы старэйшы на ўсю дзяржаву нос нюхаў тут і вывіжоўваў шаснаццаць год, то каб нічога не знайшоў бы. Чуеш, як стогне? Гэта добра. А цяпер хадзі за мной. (Ён адчыніў у сенцах вузенькія дзверы ў сцяне з дошак. Там была клець.) Тут ён будзе ляжаць. З паўдня і аж да заходу тут будзе праз гэтае акенца свяціць яму сонца. А пасля — і ў цямноце паляжыць. Не навек жа гэта. Кладзі гэты сяннік на той тапчан, вось падушка.

Хадзем назад у хату. Бяры за ногі, а я зноў пад плечы. О, так. Кладзі. Ну, дай, божа, добры час. Вылежвайся і праўся. Так, маладзец, пастагні крыху, каб мы ведалі, што ты жыў. Толькі не падымай залішне голасу... Ёсць у мяне збанок з кіслым малаком. Салодкага няма. Скора пакармлю цябе. А ты — садзіся. На гэты кубёлак садзіся. А я сяду на калодку. (Удвух яны селі і пачалі глядзець на Вялічкаў твар.) А цяпер — ці здалёку вы самі?

— Я з-пад Смаленска. Па той крыху бок яго.

— А ён?

— А ён — не ведаю.

— Як жа ты разам ідзеш з чалавекам і не ведаеш, адкуль ён?

— Не да таго было.

— Як жа! Не ведаючы чалавека, адкуль ён... Пачакай,— раптам перарваў ён сам сябе,— ты кім быў да вайны?

— Я каваль з чыгуначных майстэрняў.

— Ага! — Ён раптам змоўк, і выгляд яго змяніўся. Відно было адразу, што ён ірвануўся быў з сваёй гаворкаю, нешта хочучы выказаць сваё, а можа, нават чамусьці навучыць свайго слухача. І раптам убачыў, што гэты слухач не для яго. Ён адразу перайначыўся і ўвайшоў у іншую каляіну. Неўзабаве ён унёс сюды хлеб і кіслае малако, і яны з Мішурыным паснедалі і пакармілі, цераз сілу, Вялічку. Час цягнуўся гадзіна за гадзінай. Мішурын адчуваў сябе добра. Лёгкая рана на руцэ не мучыла яго. Вялічка ляжаў увесь час ціха. Ужо з паўдня ён пакінуў стагнаць. Мішурыну здавалася, што ён думкамі або вельмі далёка ад усяго навакольнага, або стаіць на мяжы з бяздум'ем. Некалькі разоў ён спрабаваў пагаварыць з Вялічкам і кожны раз бачыў, што з гэтага нічога не будзе. Нарэшце, калі ўжо сонца далёка ўвайшло з паўдня, Вялічка пачаў угледацца ў Мішурына, штосьці як бы ўспамінаючы, і раптам сам абазваўся.

— Падыдзі сюды,— прашаптаў ён Мішурыну.— Братка мой, я не магу сказаць і ты не ведаеш, дзе немцы і ці далёка яны ўвайшлі. Ты шчаслівы чалавек, да твайго дома яны не дойдуць. А да майго могуць і дайсці. Усё адно нам трэба будзе ісці адгэтуль. Дык ты ідзі без мяне, калі гаспадар згодзіцца пакінуць у сябе тут мяне аднаго.

— Як жа я цябе такога пакіну?

— Ты не ведаеш, што я хачу сказаць. Старайся зайсці

да майго дома. Арыентуйся на горад Нясвіж. Але гэта малы горад. А дарога твая блытаная, інакш табе ісці не прыйдзецца, як нацянькі. А калі табе прыйдзецца арыентавацца на Баранавічы, то адтуль, з-пад Баранавіч, будзеш пытаць дарогі на Клецак, а адтуль ужо блізка на Нясвіж. Тады будзеш старацца выбіцца на Слуцкі гасцінец. Але самім гасцінцам лепш табе не ісці... (Ён доўга і вельмі дакладна тлумачыў. Ён такія меў узнятыя і хворасцю і ўзбуджаннем душы нервы, што яму здавалася, як бы Мішурын не пазабываў усяго, што ён яму гаворыць.) І там будзеш глядзець сам: калі будзе пагражаць вайна блізка або калі якім-небудзь парадкам ужо дайшоў туды немец — старайся, братка, вывесці іх усіх адтуль. Бацька стары, Марынін, паможа табе. Ён спрактыкаваны чалавек. Глядзі толькі, братка, Настачкі. Выратуй яе. І калі можна будзе гэта ў вас там — хоць да сябе ў дом як-небудзь возьмеш іх. Я табе астануся, як брат родны, так я табе заўсёды буду дзякаваць. Дзе твой дом пасля шукаць?

— Ведаеш Дарагабуж? Станцыя за Смаленскам. Пройдзеш горад (не станцыю, а горад, за дваццаць кіламетраў ад станцыі) на ўсход. Убачыш таксама гасцінец. Бярозы растуць паабапал. Направа будзе лісцяны лясок. За ім вёска Ямшчына. За Ямшчынай проста дарога на поўдзень. Адлічыш па дарозе дзве першыя вёскі...

І доўга давалі яны адзін аднаму тлумачэнні аб сваіх родных кутках. І кожны гаварыў з асалодаю і душэўным уздымам, сам перажываючы асалоду сказаць пра родныя дарогі. Стары гаспадар стаяў, прыпёршыся да сцяны, і слухаў. Ён усё пыхкаў сваёю люлькаю і пасля сказаў:

— Добра. Ты ідзі, ратуй яго сям'ю. Пакінь яго на мае рукі.

Пасля яго слоў Мішурына ўзяў одум. Ён не хацеў, каб пра яго думкі здагадаўся Вялічка. Ён узяў пад сваю падазронасць шчырасць старога гаспадара гэтай цеснай клеці. «Вельмі ён адразу такі руплівы прыхільнік. Хто яго ведае: дзіўны чалавек. З выгляду мужык, а ў гаворцы як бы не. Як бы спрактыкаванымі рукамі каля раны хадзіў. Штосьці пачынаў гаварыць і адумаўся, не скончыў. Можа, яму на што патрэбен ранены камандзір. І месца незнаёмае, і жанчына чамусьці проста сюды паказала...» Мішурын акінуў гаспадара вачыма і пачаў раздумваць.

— А можа, я з табой пабуду тут колькі дзён, пакуль табе лепш стане, а тады...

— Ідзі, ратуй яго сям'ю,— яшчэ раз сказаў стары, і Мішурын зноў нядобрае падумаў пра яго.— Ты ведаеш, што немец страляе ў натоўп людзей, калі дзе запарве на дарозе? Васемнаццаць жанчын з дзецьмі ў нас ляжала на Брэсцкай дарозе.

І яшчэ больш недавер'я абудзілася ў Мішурына. Але ён убачыў Вялічкавы вочы: той прасіў яго ўсім тварам сваім. Мішурын пастаяў у нерашучасці і пасля пачаў паволі збірацца ў дарогу. Стары накарміў яго на дарогу халоднаю заціркаю з макам, і ён, яшчэ ўсё думаючы — ісці ці не, падышоў да Вялічкі развітацца. Вялічка зноў быў як бы ў забыцці. Аднак жа ён адчуў з'яўленне каля сябе свайго новага друга. Мішурын правёў па гэтым твары вачыма, і яму стала ясна, што Вялічка ахоплен толькі адным: тым, дзеля чаго ён пасылае яго ад сябе.

— Ратуй Настачку,— некалькі разоў прашаптаў ён, зноў упадаючы ў забыццё.

Мішурын пацалаваў яго ў галаву, і той нават не паварушыўся.

— Хаця каб ён выжыў,— сказаў бязвольным голасам Мішурын.

Стары пацісвуў плячыма, і выгляд яго быў бездапаможны.

— Калі ён выжыве — то і без цябе выжыве,— сказаў ён.— А ты не Хрыстос, каб паднімаць мёртвых. Ідзі ў дарогу.

На дварэ змяркалася. Мішурын пайшоў, куды расказаў і паказаў яму стары. Ён ішоў усю ноч. Ад рассвітання да паўдня ляжаў, пасля ўвайшоў у прыдарожную хату і папрасіў паесці. Паесці яму далі, але сказалі, што недзе тут поблізу стаяць немцы і калі хто ўбачыць, дык дрэнна прыйдзецца таму, хто карміў і не выказаў чырвонаармейца. Мішурын да вечара праляжаў у густым жыце і на змроку зноў выйшаў у дарогу. І ўсё думаў, ці добра ён зрабіў, што пакінуў аднаго Вялічку ў гэтага старога, які ўсё больш і больш рабіўся яму падазроным. Але чым больш дзень за днём аддаляўся ён ад Вялічкі на ўсход, астрэй апаноўваў яго ўласны клопат. Хоць ён быў упэўнен, што немец не дойдзе да Смаленска, і нават да Мінска, і, можа, нават да таго месца, дзе жыве Вялічкава сям'я, але ёнірваўся душой як-небудзь, пакуль з'явіцца куды-небудзь у вайсковы штаб, дапасці і да свайго дома. А раней дайсці да Вялічкавага дома і там (ён быў у гэтым упэў-

нен) колькі дзён у цішыні і спакоі адпачыць, няхай сабе хоць там, можа, і немцы. Ён яшчэ не ўяўляў сабе, што такое немец. У душы сваёй ён не верыў, што трэба будзе выводзіць далёка на ўсход Вялічкаву сям'ю. Пра самога ж Вялічку нічога пэўнага ён падумаць не мог: ён пакінуў яго ў такім стане, што можна было думаць і дрэнна аб яго здароўі і нават жыцці. Можа, ён яшчэ горш аслабеў і, можа, памрэ. А можа, выжыве.

Вялічка ж чамусьці адчуваў, што Мішурыну прыйдзецца ратаваць яго Марыну і Настачку. Гэтыя думкі пачалі ў яго з'яўляцца ўжо ў момант, калі ён з Мішурыным даходзіў да таго жытняга поля, на якім яны праляжалі цэлы дзень. І яны пакінулі на яго сэрцы вялікі цяжар. І цяпер, калі пайшоў Мішурын і ён астаўся адзін, гэты цяжар зноў пачаў душыць яго. Усё было нядобра, цяжка, хоць надзея ў гэтыя моманты яшчэ не пакідала яго. Яна да яго вярнулася, як толькі ён апынуўся ў спакоі і пад страхой. Сваёй свядомасцю ён усё больш адыходзіў да таго, што цяпер навокал яго. Усе помыслы яго, у той меры, у якой яны маглі вызваляцца ад стану яго слабасці і схільнасці ўпасці ў бяздум'е, накіроўваліся да таго ціхага дома, дзе тая малая істота, імя якой Настачка. Яна з'яўлялася перад яго вачыма чамусьці з занадта ўжо белым тварам і ў той самай чорнай вопратцы, якую ён ёй яшчэ нядаўна купіў і якую Ксавэр Блецька перадаваў яму ў рукі праз кааперацыйны стол. Настачка ўсё ішла і ішла да яго і ніяк не магла падысці. І разам з ёю стараюцца падысці і Марына, і Максім Астаповіч, і Ксавэр Блецька, і нябожчык бацька, Кірыла Вялічка. А Марына не такая, як цяпер, а такая, якая была тады, калі ён толькі быў вярнуўся з сваіх тых вандраванняў. А Ксавэр Блецька такі, як і цяпер,— стары і прысутулены. А Максім Астаповіч такі, як і быў у момант бацькавай смерці. І раптам ён пачаў адчуваць, што гэта добра, што яны ўсе сабраліся адразу: такі ніякая сіла іх не возьме. І вось Настачка пачала спяваць. Стаіць босая, у чорнай вопратцы і спявае. Калі ён прахапіўся ад гэтага кашмару, над ім панавалі дзве рэчы: тое, што над ім стаіць стары яго гаспадар і глядзіць яму ў твар, і тое, што ён, мусіць, не вытрымае: у сто разоў большы за ўвесь цяжар свету душыў яго смутак па Настачцы. І ў наступны момант ён зноў пачаў падаць кудысьці ў цемень — у раейшы кашмар, дзе Настачка зноў заспявала.

Ці мала ён, ці многа быў у такім стане — ён не мог ве-

дацЬ, калі праз нейкі час дайшоў да памяці і ўбачыў над сабой нізкую столь і першы промень ранішняга сонца. Цяпер ён нічога не чуў, што навокал яго рабілася. Ён не чуў, як стары яго гаспадар некалькі разоў пракрычаў яму, стараючыся яго пабудзіць. Пасля шпарка выбег з клеці ў сенцы і шчыльна прычыніў за сабою дзверы. Знадворку ў сенцы грукалі ў дзверы і крычалі штосьці па-нямецку. Стары чалавек адчыніў сенцы. Ужо добра бралася на вячорны змрок. У сенцы ўвайшлі два немцы. Стары стаяў перад імі і маўчаў. Немцы запатрабавалі есці. Стары моўчкі павёў іх у хату і паставіў перад імі чыгун з халоднаю адваранаю бульбаю. Немцы нездаволена пакруцілі галовамі: — Дзе ж я вам чаго іншага вазьму? — сказаў стары абшарпаны гаспадар гэтай гнілой хаты чыстай нямецкай мовай. Гэтыя два нямецкія салдаты былі самымі дасканалымі гітлераўскімі тупіцамі. Бо каб яны былі не такімі, яны ў лепшым выпадку маглі б хоць здзівіцца — адкуль гэты мужык умее так чыста гаварыць па-нямецку. А то яны не ўзялі гэтага аніяк на ўвагу і пачалі шукаць у хаце, у сенцах, але дзвярэй у клець не заўважылі і думалі, што гэта глухая сцяна. Ніякай яды нідзе не было. У адным толькі дробным кубёлку было насыпана ў дне ячменю, а ў другім ляжала паўбулкі хлеба. Хлеба яны не ўзялі і, аблаяўшы старога, пайшлі з сянец.

— Ці далёка які-небудзь пасёлак? — запыталі толькі яны, самаўпэўнена пасвістваючы.

Чыстай нямецкай мовай стары растлумачыў ім дарогу, і яны пайшлі зусім у супроцьлеглы бок, дзе за чвэрць кіламетра ад хаты тырчэлі з травы пні пасля даўно высечанага лесу, а далей стаяў нізкарослы хваёвы лес з вузкай дарогай праз яго. Стары спакойна і абыякава закурыў сваю люльку і сеў на нізенькую прызбу глядзець, як над яго трухлявым уладаннем адна за адной успыхваюць зоры. Вялічка на сваёй пасцелі ў цёмнай клеці кідаўся без памяці ў гарачцы.

## ~~Трэці раздзел~~

### I

Праз некалькі дзён пасля таго, як Адам Блецька з'явіўся да бацькі, якраз тады, калі Вялічка і Мішурын яшчэ былі пад Брэстам, у мясцовасці кіламетраў за дзевяноста

на захад (крыху к поўдню) ад таго месца, дзе жыла і чакала дадому бацькі Настачка, каля лесу, на полі, працавалі нейкія людзі. Іх было чалавек нешта больш як паўсотні, і яны вельмі шпарка завіхаліся. Яны працавалі ў поўным маўчанні і вельмі зладжана адзін з другім. Зладжанасць была ў іх проста дзіўная, механічная. З той прычыны, што і адзеты яны былі аднолькава, у шэрыя з зялёным адценнем мундзіры, яны маглі здавацца як бы злітымі ў адно роўнымі часткамі нейкай рухавай машыны. Калі яны толькі што пачалі сваю работу, у чыстым летнім небе аддаляўся на захад і сплываў у прасторы гул самалётаў. Гул быў няроўны, ён тузаўся і рваўся на аднолькавы тон праз кожную секунду. Перш за ўсё чацвёра з іх, тыя, якія раней за іншых адвязаліся ад сваіх парашутаў, без усялякай каманды, механічна пасталі з аўтаматамі на варту. Усе складалі свае парашуты ў адно месца, пад нізенькую каржакаватую ігрушу, якая дзіка расла, растапырыўшыся і пакрывіўшыся над шырокім жытнім полем. Адны кінуліся даводзіць да парадку два новенькія грузавікі, якія здалёк бадай-што з-за жыта і не відны былі. Другія заняліся дзвюма легкавымі машынамі. Трэція пацягнулі к лесу два кулямёты. Чацвёртыя пачалі грузіць на грузавікі парашуты. Пятыя пачалі грузіць нейкія забітыя цвікамі скрынкі. Шостыя грузілі на машыну наглуха зашытыя мяшкі. Адзін з іх, відаць, іх начальнік, ускінуў да вачэй бінокль і акінуў шпаркім позіркам усё навокал, што не закрывалася лесам, а пасля пачаў глядзець у карту, як відаць, арыентаваўся на мясцовасці. Праз хвілін дзесяць усё было гатова, і ўвесь гэты натоўп ірвануўся к лесу і згінуў там у дрэвах. Следам рушылі і чатыры вартавыя.

Гэта было зранку, перад усходам сонца дваццаць трэцяга чэрвеня. Сонца было яшчэ дзесьці ў глыбіні далягляду, але яно ўжо адчувалася. Узнімаючыся высока ў неба, птушкі ўжо бачылі яго і поўніліся сваім інстынктыўным шчасцем. Жытняе поле перарэзвалася шасэйнай дарогай з усходу на захад. Лінія лесу ішла наўскасяк дарогі і ў адным месцы даходзіла да дарогі, і там ужо лес быў на кіламетраў чатыры скрозь паўз шашу. У той бок лесам і рушыла са сваімі машынамі паўсотня чалавек. На тым месцы, дзе яны селі на зямлю, асталіся пасля іх толькі памятая трава і некалькі абрыўкаў непатрэбнай шэрай паперы. Увесь гэты атрад спыніўся пад хвоямі ў гушчырні ядлоўцавых і арэшнікавых зараснікаў. Адразу ж ён раздзяліўся

на дзве групы, і пры машынах асталося толькі некалькі чалавек. У кожнай групе быў кулямёт. Групы адышлі адна на кіламетр, другая на паўкіламетра ад свае стаянкі і сталіся за кустамі і дрэвамі пры дарозе. Рухавы і малады, год пад дваццаць шэсць, салдат выйшаў з той групы, якая была на паўкіламетра ад стаянкі. На ім была тонкая зялёная накідка, нешта накшталт плашча з кароткімі шырокімі рукавамі. Аўтамат вісеў на ім. Ён выбраў крайнюю бярозу, адну з самых высокіх, і палез на яе. Ён зусім скрыўся ў зялёным вецці, якое пагойдвалася ў густой і роўнай плыні паветра. Неўзабаве ён два разы піснуў па-птушынаму і стаў моўчкі ўглядацца ў дарогу. Яна была адтуль відна яму далёка. Дзесьці здалёк у лесе закукавалі зязюлі, некалькі адразу. Ён ведаў, што гэта з таго атрада, які быў далей. Нешта з паўгадзіну ён углядаўся ў дарогу. За гэты час па ёй праехала ўсяго дзве пустыя грузавыя машыны. Ён нават і не паварушыўся. Каб хто праходзіў тут гэтым краем лесу, ён думаў бы, што тут, як і заўсёды, спакойна і пуста. Толькі дзіўна было, што празмерна многа тут абзываецца зязюль.

Гэтая шасэйная дарога хоць і была гэтую паўгадзіну бадай-што зусім пустая, але ўночы па ёй часта чуліся матацыклы і машыны. На самым рассвітанні тут прайшло некалькі натоўпаў жанчын і дзяцей у кірунку на ўсход. Наводдалек ад гэтага месца, на захад, чуліся ўсю ноч артылерыйская кананада і ўзрывы авіябомб.

Салдатам, які сядзеў на дрэве, апаноўвала нецярплівасць. Ціхая паўгадзіна здавалася яму вельмі доўгай. Ён ірваўся да дзейнасці. Настрой у яго быў вельмі добры. Ён з прагнасцю ўглядаўся ў далечыню дарогі. Па той бок дарогі, глыбей у поле, яму відны былі два паселішчы. Паміж дрэў ён бачыў дахі будынкаў і ў адным месцы мураваныя сцены. Усё было яму тут новае і экзатычнае. Аддаючыся такім сваім настроям, ён ні на момант не траціў свае пільнасці. І ён, нарэшце, убачыў доўгачаканы рух па дарозе. З заходняй стараны імчаліся чатыры грузавікі, на якіх сядзела многа жанчын. Салдат абазваўся голасам нейкай птушкі, але ўжо інакш, як тады раней. Хоць гэта было і не вельмі ўдалае перайманне птушкі, але больш ад яго і не патрабавалася. Сярод салдат, якія былі пад дрэвамі, адбыўся раптоўны рух. Яны прыліплі да ствалля старых бяроз і хвояў і нарыхтаваліся. Машыны імчаліся ўжо тут, і раптам заслона агню з аўтаматаў загарадзіла ім да-

рогу. Пярэдні шафёр ірвануўся наперад, прыгнуўся і даў машыне яшчэ большую хуткасць. Ён праскочыў і імчаўся далей. Але другая машына зменшыла ход і праз некалькі момантаў зусім спынілася. Кулі з аўтаматаў асыпалі яе таксама, як і астатнія дзве машыны. Крыкі і енкі чуліся з машын. Дзве акрываўленыя жанчыны, што сядзелі на борце першай машыны, упалі на дарогу. Ірвануўся дзікі голас перапалоханага дзіцяці. І з другой машыны ўпалі дзве жанчыны. Першы момант страшнай нечаканасці прайшоў. Жанчыны з дзецьмі пачалі ратавацца з машын і скрывацца дзесьці ў жытнім полі. Агонь з аўтаматаў не спыняўся. Праз некалькі хвілін машыны апусцелі. Усё стала ціха. І ў лесе панавала цішыня. Тры машыны стаялі на дарозе. Пад машынамі ляжалі прабітыя кулямі жанчыны. Хто астаўся жывы, сядзеў у жыце або выбіраўся з яго паўзком далей ад страшнага месца на дарозе. Салдат усё сядзеў на сваім дрэве. Неўзабаве ён зноў абазваўся птушкай. Дарогай, у тую старану, адкуль нядаўна ехалі на грузавіках жанчыны, ішоў грузавік. На ім было два чырвонаармейцы. Машына ішла з таго боку, дзе сядзела тая другая група. Салдату машына была добра відна. Салдаты ўнізе нарыхтаваліся. Яны чулі, як там застукалі аўтаматы. Салдат з свайго дрэва бачыў, як машына наддала ходу і прарвалася сюды. Адзін чырвонаармеец ляжаў ужо ў машыне мёртвы. Другі прыпаў да дна і прыліп к самаму борту. Машына падыходзіла сюды. Салдат абазваўся другі раз. Машына і тут трапіла пад агонь аўтаматаў. Шафёр стараўся даць яшчэ большую хуткасць. Чырвонаармеец пусціў з машыны ў лес доўгую чаргу з свайго аўтамата. Тры салдаты зваліліся нежывымі пад дрэвамі. Кулямётчык пусціў у машыну чаргу з кулямёта. Шафёравы рукі ўпалі з руля, і ён увесь хістануўся ўніз. Машына з'ехала ўбок і перавярнулася пад адкос. Два салдаты, асыпаючы яе кулямі з аўтаматаў, пабеглі да яе і адзін рускай мовай закрычаў чырвонаармейцу вылазіць з-пад машыны. Ніхто не адказаў. Тады немец пачаў страляць пад машыну. Чырвонаармеец выйшаў і стаў. І адразу ногі яго захісталіся, і ён апусціўся на зямлю. Немец загадаў яму ўстаць. Той паспрабаваў падняцца і застагнаў. І толькі цяпер немец заўважыў, што ў яго пад пахаю кроў. «Бяжы на дарогу!» — крычаў немец. Чырвонаармеец, ледзьве перастаўляючы ногі, рушыў з адкоса ўгару. Немец апошні раз стрэліў, і чырвонаармеец развітаўся з жыццём.

Пасля гэтага пачулася каманда, салдат злез з дрэва, і ўся група пайшла лесам у бок свае базы, мінула яе і выйшла да самай шашы за паўкіламетра ад таго месца, дзе ляжалі забітыя жанчыны і чырвонаармеец і былі разбітыя машыны. Гадзін са дзве немцы пякліся ў жыце на сонцы, прапускаючы паўз сябе адзіночныя машыны. Гэта быў дзень, калі чырвонаармейскія часці яшчэ не адыходзілі ў тыл, а затрымліваліся на флангах нямецкіх калон, якія рваліся на ўсход вялікімі дарогамі. І ў гэтым месцы на шашы вайсковага руху яшчэ не было. Дзве гадзіны ішло ў немцаў пустое чаканне. За гэты час праляцелі нізка іхнія самалёты, і сюды даходзіў гром скінутых імі бомб. Пасля яны і над гэтым месцам скінулі лістоўкі, дзе нахабна гаварылася, што немцы не ваююць з мірным насельніцтвам, каб тое не баялася, і што яны нясуць нейкае «вызваленне». Як быццам бы з нейкай злой іроніі адна такая лістоўка, надрукаваная на жоўтай паперы, упала на твар адной забітай на дарозе жанчыны і асталася так ляжаць у спакоі ціхага дня. Пасля чуўся доўга грукат разрываў авіябомб аднекуль з захаду, пасля з усходу. Гадзіны ішлі за гадзінамі, і вось на дарозе відзён стаў вялікі натоўп. Белыя і чырвоныя хусткі на галовах, клункі за плячыма, дзеці на руках і побач сваіх матак. Пакуль што яны ішлі яшчэ дарогай. Напэўна, яны былі з мясцовасці, не вельмі далёкай адсюль, і горкая практыка яшчэ не навучыла іх туляццаляснымі і глухімі сцежкамі. Але яны былі маўклівыя. Некалькі гадзін таму назад яны былі выгнаны нямецкімі авіябомбамі ў свет. За сваімі плячыма яны пакінулі пажар сваіх дамоў. У іх маўклівасці было адзінае для ўсіх іх пачуццё — вялікае і наймацнейшае за ўсё, што асталося цяпер у іх жыцці. Гэта была нянавісць, ёй не было канца і меры, яна была большая за іх смутак. Найбольш гэта былі жанчыны. Былі маладыя, былі сярэдніх год, былі і старыя. Кожны з іх перажываў сваю асабістую крывавую драму. Адзін не ведаў, дзе ў страшную хвіліну дзеліся бацькі, другі не ведаў, дзе дзеліся дзеці. Дзеці, што ішлі адны, не ведалі, дзе маці. Але ўсе ішлі на ўсход ад ворага. І ўсё асабістае злілося ў кожнага ў адно з усімі. Мера дайшла да краёў. Калі яны падыходзілі да гэтага месца на дарозе, каля якога сядзеў на дрэве салдат і дзе ляжалі трупы жанчын, дзесьці на захад адсюль выбухнула вялікая артылерыйская кананада. І не спынялася ўжо аж да самага змроку. Раз-поразу імчаліся нізка над зямлёй нямец-

кія самалёты і секлі кулямі зямлю. Натоўп жанчын і дзяцей пачаў разбягацца па полі, і тады аўтаматчыкі з лесу далі залпы. Праз гул самалётных матораў чуліся крыкі і енкі. Палавіна натоўпу лягла навекі. Жывыя, самі не ведаючы куды, беглі полем. Праз вельмі малы час яны разышліся па ўсёй тут шырокай мясцовасці, і скрозь панаваў жах і разгубленасць.

Было дзіўна, як пасля гэтага ішоў тут яшчэ жывы чалавек. Ён ішоў з палкай, за плячыма з торбай. На выгляд яму было год пад пяцьдзесят. Праўда, ішоў ён не дарогай, а наводдалек паўз яе, жытнім полем. Праз некалькі крокаў ён прыгінаўся к жыту і, чуючы, што як быццам бы пацішэла, зноў ішоў. Пасля ён шпарка пайшоў к лесу. Наўздагон яму паляцела куля. Ён сеў у жыта. Вельмі смелым крыкам, ужо не баючыся, што хто-небудзь заўважыць месца ўсёй ляснай групы, салдат з дрэва закрычаў чалавеку, каб той варочаўся на дарогу. Чалавек мог бы нават падумаць, што гэта які-небудзь дабрачынец раіць яму не ісці ў лес, бо, можа, гэта адтуль ляцела куля. Чалавек выглянуў з жыта і пайшоў прыгнуўшыся да дарогі. Ніхто нідзе не страляў, толькі артылерыйская кананада на захадзе не заціхала. Але нават і нямецкія самалёты гулі ўжо недзе далей, схаваныя лесам. Цішыня падбадзёрыла чалавека. Ён пайшоў шпарчэй і ступіў праз вузкую, усю зарослую травой канаўку на дарогу. Каб хто зблізку бачыў у гэты момант яго твар, сам жахнуўся б: рысы на твары чалавека ўздрыгануліся і застылі. Вочы не міргаючы глядзелі на зямлю ў адно месца. Застылы ў адной паставе, забыўся на ўсё навакольнае. Уся ўвага яго была на тым, што ён бачыў перад сабою. Ён глядзеў на нежывое дзіця. Гэта быў хлопчык гадоў дзевяці. Твар яго быў скурчан ад пакуты і рукі падмяты пад грудзі. Ён ляжаў на самай сярэдзіне дарогі, крыху наводдалек ад іншых мерцвякоў. Дзесьці за дарогай абзывалася палявая птушка, і на момант чалавек як бы сумысля стараўся адцягнуць сваю ўвагу. Ён ускінуў вочы і глянуў у далечыню поля. Але тут яму здалося, што нежывы хлопчык заварушыўся. Чалавек у момант прыгнуўся і ўставіўся вачыма ў дзіця. Не, яно не варушылася. Быццам толькі цяпер чалавек апамятаваўся. Першым яго рухам у гэты момант было схапіць хлопчыка на рукі і кінуцца з ім з дарогі. Спачатку ён паволі пачаў спускацца з адкосу, але як толькі ён апы-

нуўся ўнізе, сухі і злосны, без якога б там ні было пачуцця крык спыніў яго: — Стой на месцы!

Чалавек стаў і азірнуўся.— Ідзі сюды,— сказаў цішэй салдат з дрэва. Ён так ужо асмялеў, гэты салдат, што нават не баяўся, што ўбачаць, дзе ён скрываецца. Чалавек, як у бяздум'і, пайшоў на гэты бок дарогі. З-за дрэў выйшаў немец і зірнуў угару на дрэва. Салдат з дрэва спусціўся на зямлю, і другі палез на яго месца. Гэтая змена сігнальшчыкаў адбылася на вачах у чалавека, які як анямелы стаяў пад дрэвам з нежывым дзіцем на руках. Салдат, які злез з дрэва, сказаў чалавеку рускай мовай:

— Куды ты хацеў ісці?

Чалавек як бы не пачуў адразу. Ён маўчаў. Немец яшчэ раз запытаўся.

— Я нёс сваё дзіця. Гэта мой хлопчык. Як усё загарэлася і пачалі рвацца бомбы, яны з маткаю пабеглі. Я дома не быў. Я ішоў даганяць іх.

— А хто ты такі?

— Я тутэйшы. Туды, далей у той бок. (Ён паказаў рукой на захад.) Унь адтуль, з-пад самых Баранавіч.

Слова «Баранавічы» нейк уразіла немца. Ён на момант як бы задумаўся.

— А як ты завешся? — невядома дзеля чаго запытаўся ён з самым жорсткім выглядам. Гэты допыт вёўся, напэўна, з мэтай зрабіць уражанне і давесці чалавека да стану бяздумнага ўтрапення.

— Я завуся Антон Цвірка.

— А куды ты цяпер хочаш ісці?

— Я і сам не ведаю, куды мне ісці?

— Куды будзеш ісці? — раўнуў немец і даў чалавеку кулаком у твар.

Чалавек хістануўся, але не выпусціў з рук дзіцяці. Немец загадаў яму пакласці дзіця на зямлю. Чалавек, можа, нават і не чуў. Ён маўчаў. Немец вырваў з яго рук дзіця і адкінуў яго далёка на траву. Чалавек уцягнуў галаву ў плечы, і калені яго ўздрыгануліся. Немец пракрычаў яму ў самы твар:

— Няма ўжо больш вашай арміі! Мы скора разаб'ем і ўсё, што ад яе асталося! Ты чуеш?

— Чую,— як з-пад зямлі абазваўся чалавек.

— Цяпер бяжы ў поле цераз дарогу! (Чалавек перавёў вочы на нежывое дзіця. Немец даў яму нагой у грудзі.) Бяжы! Бяжы!

Чалавек не пабег, а пайшоў цераз дарогу, кінуўшы сваю торбу. Немец пачаў страляць цераз яго галаву ўгару. Чалавек усё ішоў павольна, абыякавы да ўсяго. Немец і гаварыў, і крычаў, і страляў механічна, як раней усё гэта дакладна сабе засвоіўшы. Ён стрэліў гэтулькі разоў, колькі яму трэба было, і тады пайшоў у лес. Чалавек ішоў полем па той бок дарогі. Доўга відна была яго галава з жыта. Ён ледзьве перастаўляў ногі. Дайшоўшы да забалочаных зараснікаў, ён стаў і прыпёрся плячыма да тонкай хісткай крушыны. Ён быў даволі невысокага росту, з вусамі і на выгляд здаровы. У картовым, з дробнаю латкаю на адным локці, пінжаку і ў ботах. Можа хвілін дваццаць ён так стаяў, а пасля вяла і абыякава пайшоў немаведама куды, праз мокры лог, дзе нават у яго пад нагамі і сцежкі ніякай не было. Праз паўгадзіны такой хады ён выбраўся на палявую дарогу, агледзеўся навокал сябе і, стаўшы на месцы, у сваёй страшнай адзіноце зарыдаў, страсянуўшыся ўсёй сваёй постаццю. К вечару Антона Цвірку бачылі пешаходы гэтай дарогі ўсё на тым жа месцы. Ён стаяў тварам у бок да той вялікай страшнай дарогі і не сыходзіў з месца. Ён стаяў тут нават і тады, калі там на дарозе, у самы заход сонца, загрымеў бой.

Сонца вісела нізка над краем лесу. Ужо скрозь хадзіла чутка пра гэтую дарогу, і натоўпы выгнанцаў з сваіх папелішч абыходзілі яе. Людзі ішлі лясамі і лагчынамі, у поўным маўчанні. Група нямецкіх салдат, не бачачы руху на дарозе, адпачывала ў гушчырні, непадалёку ад краю лесу. І толькі адзін з іх сядзеў на бярозе і акідаў вачыма дарогу. Так пачало заходзіць сонца. У гэты час салдат на бярозе і заўважыў вялікі рух. Ішла вайсковая часць. Чырвонаармейцы ішлі з вінтоўкамі на рамянях. Якраз у гэтым месцы калону абагналі грузавікі, напакаваныя вайсковай маёмасцю. Салдат з дрэва абазваўся па-птушынаму. Начальнік выскачыў з лесу і, замаскаваўшыся ў зарасніку, акінуў вачыма калону. Ён раздумваў: калона была вялікая, ці не лепш ціхом прапусціць яе? Ён хацеў бы так і зрабіць, але ён разам з тым не забываўся і аб сваіх абавязках. Усё ж такі ён паспадзяваўся на тую групу, якая была далей. Ён зрабіў бягом некалькі крокаў у лес і па тэлефоне, яшчэ зранку праведзенаму ў тую групу, сказаў аб чырвонаармейскай калоне. Адтуль яму адказалі, што яны там спаткаюць часць, а каб ён ударыў з тылу. Ён паклаў трубку. Прыбег на ранейшае месца і стаў нагля-

дапь. Ён бачыў, як той, што вёў калону, раптам убачыў перад сабою разламаныя машыны і трупы і спыніў на месцы часць. Шпарка азірнуўшыся, ён не ўбачыў нідзе слядоў паветранай бамбардзіроўкі і скамандаваў падрыхтавацца да бою. У наступную мінуту ён скамандаваў даць некалькі залпаў па ўзлессі. З лесу ніякага адказу не было. Ён павёў сваю часць з дарогі, думаючы весці далей патайнымі сцежкамі. З вінтоўкамі напагатове ўся часць пайшла на лес, і нямецкія дэсантнікі шпарка пачалі адыходзіць углыб. За першымі дрэвамі камандзір затрымаў сваіх людзей і паслаў разведку ў тры кірункі. Разведчык і заўважыў у лесе рух дэсантнікаў. Камандзір рушыў часць рассыпаным строем за імі следам. Пачаўся бой у лесе. За першай градой падлесных зараснікаў пайшоў лес чысты. У гэтым якраз месцы і закончыўся бой у моманты, калі ўжо бадай зусім сцямнела. З-за цемені камандзір не мог устанавіць, ці знішчыў ён дэсант, ці так патрапаў яго. Ён чуў, што немцы заціхлі, і сам наткнуўся на некалькі нямецкіх трупаў. Ён вывеў сваю часць к дарозе і цяпер, у цемені ночы, павёў далей на ўсход абочынамі і паўздарожнымі сцежкамі. Паўз другую нямецкую групоўку яны прайшлі без ніякіх прыгод. Тыя маўчалі, стаіўшыся. Але на дарозе не стала ціха. Пачынаўся на ўсю ноч рух машын і людзей. На дарозе плакалі дзеці, іх суцяшалі маткі і сёстры, грукалі грузавікі, цокалі капытамі коні, грымела маршам артылерыя. Так як і ўдзень ішла з захаду артылерыйская кананада. І зноў палілі самалёты і абстрэльвалі ўсю мясцовасць з кулямётаў. І страшныя ўзрывы бомб пачуліся то там, то там. Пачыналася прыфрантавое пекла першых дзён вайны, і чалавечае шчасце адплыло далёка ад чалавека. Чалавечае жыццё стаілася ў смутку і трывозе. Святло ў цемені заўсёды радавала чалавека, цяпер частыя ўспышкі агнёў на даляглядах і грымучых агнёў дзесьці тут зусім блізка былі жахам і горам.

Той нямецкі салдат, які сядзеў зранку на бярозе, умеў гаварыць па-руску і гнаў пасля кулямі ў поле Антона Цвірку ад яго нежывога дзіцяці, бадзяўся цяпер у цемені паміж хвояў. Ён быў у часе таго бою ў лесе ранен лёгка ў нагу. Настрой яго пагоршыўся, але не стаў вельмі дрэнны ці тым больш цяжкі. Нядобра было тое, што ён астаўся адзін і не можа нікога знайсці з сваіх таварышаў. Ён ведаў, што некаторыя з іх забітыя тут дзесьці ляжаць. А жывыя, напэўна, адышлі кудысьці, і ён адбіўся ад іх. Ён па-

спрабаваў дайсці лесам да той другой групоўкі, але і там нікога не знайшоў. І тыя пакінулі сваё месца. Ён вярнуўся назад, але ўжо не патрапіў туды, адкуль выйшаў, а ўбіўся ў нейкае балота. Ён аніяк не баяўся таго, што трапіў у якое б там ні было варожае абкружэнне ці што ён адзін, без сваіх, апынуўся на чужой тэрыторыі, якою ўладае той, з кім ён ваюе. Наконт таго, што тут праз дзень ці праз два ўжо будзе нямецкая армія, ён нават і не меў няпэўнай думкі. Непрыемна было толькі чакаць такі доўгі час, як дзень ці два. Дзіўная рэч, але на яго не зрабіла вялікага ўражання і тое, што недзе тут ляжаць трупы тых, з кім ён з'явіўся сюды. У горшым выпадку гэта толькі злы выпадак, і больш такіх з'яваў многа быць не павінна. Самае горшае, што яму цяпер уяўлялася ў яго лёсе, гэта перспектыва мець навек які-небудзь дэфект на ўсё жыццё ад раны ў назе. Ён заўсёды клапаціўся аб дасканаласці свае асобы, і тым больш цяпер, калі перад ім так рэальна і ясна вырысавалася карціна шчасця на ўсё яго далейшае жыццё. І гэтае шчасце пачнецца хутка, не больш як праз тры месяцы, калі скончыцца вайна і ён, разам з усімі, пераможна прамаршыраваўшы па гэтай невядомай яму заваяванай зямлі, са славай вернецца ў Германію дзеля раданага жыцця. Далейшае жыццё ўяўлялася яму, як няспыннае свята. Такія думкі ўзвесялілі яго, палепшылі яго настрой, тым больш што раненая нага бадай-што і не балела. Страціўшы надзею знайсці тут каго-небудзь, ён выбраў зручнае месца пад кустом, лёг чакаць дня і неўзабаве заснуў. Салдат зваўся Эміль Клебер.

II

Гэтаму Клеберу было цяпер год пад дваццаць сем. Ён быў даволі рослы і з выгляду і з твару лічыў сябе прыгожым. Прынамсі ён насіў у сабе заўсёды гонар, што ў жанчын ён мае нязменны поспех. Гэтая акалічнасць пэўным чынам клала след на яго натуру: ён быў, можа, нават занадта легкадумны, калі трэба было ў важныя моманты пакіравацца ў жыцці. У кожным разе ён сам пасля пра гэта падумаў, калі шмат што скінуў з свае веры. З малых дзён і ў маладыя гады ён пазнаў нястачу сям'і, дзе заўсёды думалі аб тым, каб сцягнуць канцы з канцамі. Бацькі свайго ён не памятаў. Калі ён здзекаваўся нядаўна з Антона Цвіркі, тутэйшага невядомага яму чалавека,

першага чалавека, якога ён зблізку ўбачыў на гэтай пазнанай яму зямлі, і калі гэты чалавек назваў Баранавічы, Клебер як бы аб чымсьці падумаў, хоць толькі на момант. Імя горада Баранавіч было ў іх сям'і словам страшным. У кожным разе Клеберава маці заўсёды плакала, калі чула гэтае слова. А гэтае слова ў іх маленькім гарадку ўспамінаў шмат хто. У тысяча дзевяцьсот шаснаццатым годзе каля Баранавіч назаўсёды развітаўся з жыццём Клебераў бацька, салдат кайзераўскай арміі. Пасля таго даволі яшчэ маладая ўдава пайшла замуж за старога і дробнага чыноўніка гарадскога магістрата. Радзілася трое новых дзяцей у дадатак да ранейшых двух. Яна ранай адчувала сябе на свеце лепш таму, што дзяцей было менш і муж быў малады. Эміль Клебер і пакінуў у сваёй памяці імя горада Баранавіч, як нейкую фамільную непрыемнасць. Для яго маці гэта была цяжкая драма, ён жа не мог так перажываць тое, чаго не ведаў. Ён нават і не ўяўляў, які быў яго бацька. З некаторага часу ён пачаў разумець гэта па-свойму: яго бацька быў слаўны салдат вялікай Германіі, якая павінна стаць яшчэ большай. Такі кірунак думкі ў яго сфармаваўся толькі некалькі год назад. Маладосць яго пачалася нудна: яму трэба было знайсці працу. Ён пачаў працаваць у магістрацкім рахунказодстве. Там жа ён падхапіў сабе жонку, маладую асобу, але даволі практычную ў справах хатняй гаспадаркі. Яна яго і пачала накіроўваць на пошукі лепшай службы. Гадоў два цягліся гэтыя пошукі, і, нарэшце, ён астаўся ў рахункаводстве буйной гандлёвай фірмы двух братоў. Гаварылі, што яны вельмі шпарка пачалі багацець апошнімі гадамі, і шмат хто прарочыў, што яны могуць дайсці да мільённых гандлёвых зваротаў. Можа, і сапраўды яны да гэтага ішлі і вельмі практычна заняліся рэарганізацыяй свайго прадпрыемства. Гэтая рэарганізацыя скончылася тым, што яны спрасцілі свае канторы і скарацілі шмат службоўцаў. Пад гэтае скарачэнне трапіў і Эміль Клебер. Стары айчым угаворваў яго ехаць па яго, пе вельмі даўно купленую на сабраныя скупасцю грошы, зямлю і займацца гаспадаркай, бо дагэтуль зямля выпускалася ў арэнду. Клебер адвярнуўся ад гэтай прапановы. У яго мазгах засела думка, якая ператварылася ў прагнасць: адцурацца назаўсёды правінцыі. Яго вуха лавіла кожны слых пра тое, як хто дзе здолеў так павярнуцца, каб лёгка і спрытна зрабіць сабе кар'еру. Ён

пачаў думаць аб горадзе якога-небудзь буйнога маштабу. Трэба сказаць, што ён правільна ў сваіх мэтах скеміў сітуацыю. Ён зблізіўся з пэўнымі асобамі і пайшоў за моднаії тады ў пэўным сэнсе палітычнай плынню: яго пачалі заўважаць, як прыхільніка нацыянал-сацыялісцкай партыі. К таму ж ён быў яшчэ вельмі малады. Перад ім была, так сказаць, будучыня, а яго маладосць была прывабная таму, да каго ён ішоў. І вось перад ім паставілі задачу: стаць адмысловым вайскоўцам. Не звычайным салдатам, а такім, які будзе выконваць адмысловыя заданні. Яму гэта не было вельмі прыемна, і не сказаць, каб ён з вялікай ахвотай за гэта браўся. Але позна было ўжо варочацца назад. Ён быў ужо членам нацыянал-сацыялісцкай партыі, а ўсялякая недысцыплінаванасць магла пацягнуць за сабой вялікія непрыемнасці, нават і тое, што яго маглі абязвечыць дзе-небудзь з-за вугла. Разам з тым ён бачыў, як гэтая партыя ўсё больш прыбірае да сваіх рук усё, і гэта перабольшвала яго страх перад вайсковай муштраю і дысцыплінай. Ён стаў вайсковым чалавекам, але не ў прывычным нам сэнсе. Перш за ўсё ён трапіў спачатку ў адну, а пасля ў другую школы. Яго пачалі вучыць рускай мове. Поспехі ён меў слабыя, але ён ужо і сам пачаў старацца: ужо як мае быць ён уясніў сабе, што пасля заваёў ён стане багатым, будзе мець раскошу, спакой і сытасць і тады ўжо скіне з сябе даволі цяжкі вайсковы мундзір. Некалькі год прайшло ў чаканні таго паходу. За гэты час ён прывучыўся як мае быць шанаваць сваю «партыйную асобу» і на ўвесь свет глядзець з пункту гледжання таго, якую ён карысць можа даць яму аднаму. Вядома, ён адзін тануў у масе іншых, але і да ўсіх іх ён ставіўся, як да сваіх канкурэнтаў. У яго пачало развівацца жаданне стаць як мага вышэй нават і сярод сваіх, і гэтага ён не мог зрабіць з прычыны свае абмежаванасці, і гэта рабіла яго як бы заўсёды злосным. К гэтаму часу ў яго было ўжо двое дзяцей, яму ўжо не трэба было думаць, як бы сцягнуць канцы з канцамі, і ён прагнуў усё большага і большага. Ён стаў навек удзячан фюрэру і за тое, што ён цяпер ужо меў, і за прывабныя перспектывы на далейшае. Ён засвоіў сабе, што многа земляў і краін на свеце будзе лёгка заваявана і ўсё будзе гатовае там узята для нямецкай радасці і што за ўсё гэта ён мае права і нават павінен з гордасцю і смела глядзець у вочы таму, у каго ўсё будзе забрана. Ён засвоіў бязлі-

таснасць і поўную свядомасць свае вялікасці ўсюды за межамі Германіі. Да таго часу, калі ён апынуўся на бярозе і пасля гнаў полем Антона Цвірку, ён пабываў ужо ў Францыі і Бельгіі і на практыцы праверыў, як усё гладка ажыццяўляецца тымі спосабамі, якім яго вучылі. Але ён ведаў, што там ён выконваў другарадную работу, бо яго рыхтавалі для Расіі. Дзеля гэтай краіны ён вучыўся рускай мове, усім спосабам шпіянажу, допыту, запалохвання, стварэння фальшывых чутак, ашуканства, жорсткасці і ўпэўненасці ў сабе. Таму ён са спакойным духам перабыў ноч у лесе, адзін, непадалёку ад сваіх трупаў, і з адчуваннем, што ўсё гэта выпадковае непаразуменне і ўжо ў кожным разе яго не спасцігне такая доля, якая спасцігла гэтых знаёмых яму мерцвякоў. Бадай-што гэта льга было б назваць яго ўласным шчасцем, што ён ці не задумваўся, ці наогул не думаў. Так ён лёгка ўсё ўспрымаў і хоць першыя тыдні вайны пабыў у ружовасці сваіх настрояў.

Пачынаўся дзень. На ўсходзе, праз рэдкае хвойнае ствbooлле, ён убачыў на небе агністае святло: маладое сонца стаяла над краем зямлі і плыло ўгару, і здавалася, што яно стаіць на адным месцы і толькі змяншаецца яго круг. Клебер не быў ні лірык, ні рамантык, і асабліва тут. Перад ім была зямля, якую ён упершыню бачыў, хоць пра якую і вельмі многа чуў раней. Незвычайнасць яго стану не кранала яго душы. Далягляд, над якім паднялося сонца, нічога не гаварыў яго сэрцу. Лес, які быў навокал яго, не вабіў яго. Куст травы, што быў у яго перад вачыма, калі ён ляжаў на жываце, быў нейкі нябачаны раней і мятліца на ім невядомая. У гэтыя хвіліны першай раніцы ён вельмі быў схілен да аналізу чаго-небудзь практычнага ў той справе, якая пачалася і ў якой ён удзельнічае. З яго галавы ўжо выветрылася ўчарашняя прыгода з Антонам Цвіркам, ён ужо назаўсёды забыўся пра ўсё гэта. Ён радаваўся таму, што праз тры месяцы скончыцца вайна і ён дасягне паўнаты свае мэты. Ён благаслаўляў той момант, калі паверыў у тое, у што верыць цяпер, бо вера гэтая прывяла яго цяпер сюды. Ён быў поўен свае радасці аб блізкай сваёй шчаслівай будучыні. Пажаваўшы чагосьці з свайго паходнага ранца, ён употайкі падышоў да краю лесу. Цяпер повідну ён ужо арыентаваўся як мае быць. Ён стуліўся за той бярозай, на якой учора сядзеў, і зірнуў на дарогу. Учарашнія

трупы ўсё яшчэ ляжалі. І гледзячы на іх, салдат Клебер нават і не падумаў, за што ён адабраў жыццё ў гэтых людзей. Тым больш не было ў яго і заваду думкі пра тое, што яны мелі сваё жыццё і яно было ім важнае і дарагое і што яны нават не ведалі і не хацелі ведаць, што ёсць недзе на свеце нейкі Клебер і ён сам прыйшоў сюды да іх. Чужое жыццё было яму і не жыццём, і нават не рэальнай сапраўднасцю. Ён убачыў на траве і ўчарашняе нежывое Цвіркава дзіця. Ніякая пячаць не лягла на яго твар. Ён стаяў і чакаў далейшай шчаслівай хады свайго лёсу. Абочынамі дарогі пачалі ісці групы чырвонаармейцаў: стомленыя ішлі адзін за адным. Пасля зноў прайшлі жанчыны з дзецьмі. Клебер глядзеў на ўсё гэта, як на цэль, у якую трэба было б страляць, каб ён быў тут у іншых умовах. Калі ішлі чырвонаармейцы, ён падаваўся глыбей у лес, калі яны праходзілі, ён падыходзіў зноў бліжэй к дарозе, каб арыентавацца, што робіцца. Людзі ўжо, здавалася, за гэты кароткі час прывыклі да ўсяго: яны ўжо моўчкі праходзілі паўз трупы на дарозе, не спыняліся і не кідаліся ўбок. Якраз апаўдні Клебер пачуў некалькі адзіночных выбухаў. Ён пазнаваў гук, яму здавалася, што гэта танкавыя гарматы. На твар яго лягла пячаць задавалення: ён жа і ведаў, што так і павінна быць. Праз некалькі хвілін ён убачыў і танкі, свае, нямецкія. Гэта была невялікая танкавая калона. Яна сярэднім ходам ішла на шасэйнай дарозе з заходняй стараны на ўсход. З пярэдняга танка далі яшчэ адзін гарматны стрэл. Клебер налічыў шэсць танкаў. Яны прайшлі паўз яго наперад, скрыліся ў далечыні дарогі і пасля зноў з'явіліся тут. Клебер бачыў, што гэта разведка. Танкі вярочаліся назад. Клебер выйшаў з лесу і пайшоў да іх наперарэз. «Вось заваёвана ўжо і гэтая мясцовасць»,— думаў ён, махаючы рукою пярэдняму танку. Танк спыніўся. Клебер паведаміў у танк аб аперацыі свайго дэсанта і паказаў на сваю перавязаную нагу. Калоша на самым калене была ў яго ў крыві. Яго тут жа забралі ў танк, і ён адчуў сябе ў поўным шчасці. Яшчэ ніколі так не было ў яго лёгка і добра на душы. Танкі шпарка пайшлі на захад, і неўзабаве яны ўвайшлі ў горад. Ён нейк увесь скалануўся, калі яму сказалі, што гэта Баранавічы. Тут ужо былі скрозь нямецкія салдаты. Бой тут ужо скончыўся. Дзесьці толькі ў старане ішла страляніна — білі аўтаматы і кулямёты. Але на вайне

так і трэба, таксама як трэба і тое, што Клебер апынуўся так лёгка тут. Танкі мінулі горад і яшчэ нейкі час ішлі дарогай, мінаючы ядлоўцавыя і альховыя зараснікі і грады хвойнага лесу. Пасля танк спыніўся, і Клеберу паказалі, дзе шукаць перавязачны пункт. Ён адзін пабрыў палявой дарожкай да нейкага мястэчка, якое выразна відно было паміж двума аброслымі лесам узгоркамі. Яму далі на папраўку восем дзён, пасля чаго ён павінен быў з'явіцца на пункт, дзе збіраліся салдаты з рассеяных часцей. Ад няма чаго рабіць ён з'явіўся туды адразу і спаткаў там камандзіра сваёй дэсантнай групы. Дэсант лічыўся разгромленым, і ён чакаў новага назначэння. У тыя дні танкі пайшлі з Баранавіч на ўсход. Баранавічы лічыліся ўжо ў тылу, хоць лясамі і глухімі дарогамі яшчэ ішлі тут на ўсход чырвонаармейскія часці і групы і скрозь па лясах яшчэ ішлі баі і дробныя сутычкі. Клебер і яго камандзір бачыліся штодзень. На шосты дзень камандзір узяў Клебера глядзець акопы мінулай вайны. Клебер быў рад. Яны паехалі на выпадковай машыне, і ў часе гэтага падарожжа Клебер быў не то ахавальнікам свайго камандзіра, не то яго слугой, хоць гэты камандзір і меў самы малы чын. Клебер убачыў зацэментаваны край колішняга акопа, на дне якога ўжо раслі кусты і малады беразняк. Там, дзе не было цэменту, край аб'ехаў і быў спусцісты. Трава буяла там. З травы віднеліся каменне і цагліны. Некаторым месцам жвір упарта змагаўся з травой і аставаўся голы. У адным такім месцы Клебер убачыў, што з зямлі тырчыць высахлая рука. Тырчэла ўся далоня з пальцамі. Пальцы былі тонкія, як ніткі, і іх абцягвала скурчаная чорная скура. Клебер прыгнуўся, і яму здалося, што на адным пальцы астаўся счарнелы пярсцёнак. Жах апанаваў яго адразу. «Хто ведае, можа, гэта якраз і ёсць мой бацька?» У містычным страху ён рушыў далей адтуль і быў рад хутчэй вярнуцца ў горад.

У тыя дні камандзір атэставаў Клебера, як салдата, які адданей за ўсіх папрацаваў у дэсанце. Нават была адзначала яго вынаходлівасць і ўласная ініцыятыва. К таму ж ён быў ранен. І яго пакінулі ў нейкім рэзерве, дзе ўсе чакалі адмысловых, пакуль што ім яшчэ не вядомых, назначэнняў. Тут усё былі тыя, хто ў першыя дні вайны ўжо выявіў і паказаў сябе як трэба. Сёй-той з іх падумваў ужо аб узнагародах.

Першымі днямі ліпеня месяца Клебера назначылі ў асабовую ахову нейкага буйнога чына, які з'явіўся ў Баранавічы з Германіі якраз у тыя дні. Гэты чын сам, і вельмі дакладна, азнаёміўся з прыстаўленымі да яго салдатамі, можна сказаць, ён сам іх і выбраў сабе паводле рэкамендацый і характарыстык. Клебера ён узяў на асаблівую сваю ўвагу. Ён сам распытаў яго пра ўсе падрабязнасці дэсантнай аперацыі і пра асабістую там Клебераву дзейнасць. Клебер па вачах свайго новага начальніка бачыў, што той ім задаволен. Адчуваў, што тут будзе яму спакайней, і ўжо як мае быць лічыў, што радзіўся пад шчаслівай зоркай. Неўзабаве будзе ад'езд. Куды? Дакладна ён не ведаў і ведаць не мог. І не думаў ён пра гэта. Ён добра засвоіў свой абавязак: выконваць. Так яшчэ і лягчэй было. Галава заўсёды была спакойная. Гаварылі аднак жа паміж салдатамі, што гэты чын — адзін з тых, што павінны будуць устанаўляць у заваяванай зямлі цывільную нямецкую ўладу і што ён, з прычыны некаторых сваіх асабістых спраў, прыехаў сюды раней чым трэба. Але ўсё гэта не мела да Клебера аніякага дачынення. Новы яго начальнік даволі буйнога складу і, можа, празмерна таўставаты з выгляду і сапраўды не спяшаўся ехаць. Некалькі дзён ён аддаў нейкім сваім заняткам за сталом, а пасля выехаў паглядзець тыя старыя акопы, у якіх скончылася першая імперыялістычная вайна. Клебера ён трымаў неадлучна пры сабе, і той яшчэ раз убачыў тыя акопы. Зноў рэшткі зацэментаваных краёў, зноў жвірыстыя абвалы, і ў адным месцы чэрап з рэшткамі прысохлай скуры з валасамі напалову відзён быў з акопнага дна. На твары Клеберавага начальніка была як быццам нейкая глыбакадумнасць, хоць вочы і аставаліся ўраўнаважанымі.

Перад самым ад'ездам з Баранавіч Эміль Клебер ужо ведаў, што яго начальнік завецца Генрых Тоўхарт.

## III

Паводле сваіх паўнамоцтваў Тоўхарт занадта яшчэ рана прыехаў сюды. Але тут у яго былі свае асабістыя меркаванні. Ён ехаў сюды, як паўнапраўны гаспадар усёй вялікай тутэйшай акругі, і яму хацелася як найхутчэй выехаць на месца, але трэба было чакаць, пакуль далей на ўсход адыдзе ваенная хваля і прыйдзе пара,

калі вайсковая ўлада павінна будзе саступіць месца цывільнай. Ён быў повен нецярплівасці. Хоць ён і не быў ні ў якім разе чалавекам настрою ці якіх-небудзь душэўных парываў, аднак жа ён перажываў цяпер моманты ажыццяўлення таго, чаго ён многа год чакаў і што абдумана падрыхтоўваў. Ці верыў ён за ўсе гэтыя часы, што яно так будзе? Ён не меў у гэтым упэўненасці, але лічыў, што трэба, каб яно так было. Самае ж галоўнае было ў тым, што за апошнія год шэсць ён паднімаўся ўсё вышэй і хоць не дайшоў да самай вышыні, адкуль кіравалі ўсім рухам, аднак жа там яго ведалі і нават раз хтосьці з самых вышэйшых успомніў і заслугі перад Германіяй яго бацькі, які многа год папрацаваў у Расіі. Вядома, пра заслугі яго нікому невядомага бацькі ведалі з яго ж уласных слоў. Прызначэнне на тую дзейнасць, на якую ён цяпер ехаў, ён атрымаў ужо за паўтара гады да вайны, калі ўсё было ўжо сплянавана. І нават тэрыторыя яму была вызначана тады ж: ён сам яе выбраў, і з ім ахвотна згадзіліся — ён ведаў усю мясцовасць, тут радзіўся і вырас, калі бацька яго тут працаваў для свае кішэні ў Гальваса і для Германіі ў Расіі. Ён лічыўся адным з тых, хто быў спецыялістам наконт Расіі.

Седзячы цяпер у Баранавічах і наглядаючы нямецкі вайсковы рух на ўсход, ён яшчэ не ведаў, дзе ён выбера і абсталюе сабе рэзідэнцыю. Гэта будзе залежаць ад характару падзей і таго, якія змены тут адбыліся за часы яго выезду адгэтуль. Але ён яшчэ ў Германіі і ўжо даўно наважыўся заехаць і пасля часта наязджаць у былы Гальвасаўскі маёнтак, які ён лічыў сваёй другой радзімай пасля Германіі, тым больш што тут была пахавана яго маці. Адам Блецька некалькі разоў і адзін раз Цэзары Гальвас успаміналі яму, што магіла яго маці асталася ў доглядзе, але гэта было даўно і цяпер невядома, што там.

Пакуль што ўсё ішло так, як і было сплянавана. Свой спынак у Баранавічах ён назначыў сабе яшчэ дома. На пяты дзень свайго чакання тут ён атрымаў ад Эльзы пісьмо. Практычная немка адшукала нейкую раптоўную аказію, хоць у пісьме і пісала, што піша без упэўненасці, што пісьмо да яго дойдзе. Яшчэ не распячатаўшы канверта, Тоўхарт скрывіўся. Як чалавек разважлівы, ён адчуваў тут пустую жаночую нецярплівасць і дурную прагнасць да экзотыкі. Так яно і было. Яна пытала, калі ж

ёй выязджаць і чаму ён так доўга не падае вестак. Доўга не падае вестак? Дурная. Як яна ніяк не можа трапіць у тон яго важных і дакладных спраў, якія стаяць так далёка ад якой бы там ні было забавы і легкадумства. «Мы ж дамовіліся,— пісала яна,— што я з табой буду, у кожным разе неўзабаве да цябе прыеду. Я хачу быць там адразу, я не магу сядзець тут, калі я там спатрэблюся. Ты даў мне слова, дык чаму ж ты маўчыш?» Ён адразу ж адказаў ёй, што яшчэ не настала пара і каб яна дарэмна не турбавалася. Тут была і яшчэ адна акалічнасць: ён хацеў адпачыць ад Эльзы, з якою пражыў ужо многа год і ад якое меў ужо двое дзяцей. Старэйшы быў сын, цяпер яму ішоў чатырнаццаты год, і зваўся ён таксама, як і яго бацька — Генрых. Яго-то ён вельмі хацеў мець пры сабе, каб ужо з гэтых год уводзіць яго ў свае справы на заваяванай зямлі. Няхай з яго вырастае дзеяч Германіі, практычны, дасканалы ў веданні таго, што важнае і патрэбнае, а што другараднае. Але ён баяўся яшчэ браць яго з сабой, пакуль не адхлыне фронт далей.

Генрыху Тоўхарту цяпер было год ужо крыху за сорак. Годы аднак жа не паклалі на яго глыбокіх слядоў. На выгляд ён здаваўся маладзейшым. Праўда, ён патаўсцеў, і, можа, нават занадта. Але твар яго быў свежы і дагледжаны. Хоць практыкай свайго жыцця ён бліжэй стаяў да старэйшага пакалення, да таго, якое так ці інакш выйшла з эпохі першай імперыялістычнай вайны, але і некаторымі рысамі сваёй натуры і да пэўнай ступені выглядам і характарам жыцця ён хутчэй належаў да моладзі. І ён сам пра гэта часта гаварыў, і гэта было яму прыемна. Ён любіў часам трапіць у кампанію маладога халасцяцтва, і тады нічога не паказвала, што ў сваім доме ён сталы гаспадар у асяроддзі дзяцей і жонкі. Ён мог і ўмеў быць душой у такой кампаніі, але ведаў у гэтым меру. Яго стан і рэпутацыя дыктавалі трымацца асцярожна, і парывы яго не асмельваліся асабліва паднімаць галаву. У Баранавічы ён прыехаў у вайсковай форме. Гэта было неабходна дзеля аўтарытэту той цывільнай улады, якую ён збіраўся тут устанаўляць. Назаўтра, пасля таго як ён адправіў пісьмо да Эльзы, ён адумаўся, што яна вельмі будзе незадаволена і закапрызнічае па свайму жаночаму звычаю: пісьмо было даволі сухое і без важкіх довадаў. І ён напісаў другое пісьмо, у якім галоўным матывам таго, што ёй яшчэ рана

сюды прыязджаць, прыводзіў патрэбу прывезці сюды Генрыха. А яго яшчэ боязна сюды везці. Але і пасля гэтага пісьма ён думаў, што яна палічыць гэта за звычайную адгаворку і зноў-такі будзе нездаволена і гэтым парушыць іх сямейную ўраўнаважанасць. І ён быў усе гэтыя дні не ў гуморы. Ён холадна абыходзіўся з самым блізкім да яго салдатам Клеберам, і той з усіх сіл пачаў старацца наравіць яму. К часу ад'езду з Баранавіч Эміль Клебер стаў вельмі падобны да Тоўхартавага слугі.

Трэба сказаць, што, можа, і занадта асцярожны быў Генрых Тоўхарт. Гэту мясцовасць нямецкае войска прайшло вельмі шпарка, а ён усё чагосьці марудзіў. Далей ён не спадзяваўся на тое, што там адразу можна смела быць. Але ён меў тут некаторую рацыю. Там далей пачыналіся баі ўсюды. Савецкія часці без баёў не адыходзілі. К таму ж там больш, як тут, збіралася чырвонаармейскіх груп, якія адступалі не так часцямі, як па некалькі чалавек, дзеля большай рухавасці і скрытнасці. Так што дзе-небудзь з бакавой дарогі, дзе не было нямецкіх вайсковых пунктаў, ад іх трэба было чакаць усяго. І ён пабойваўся і лічыў за лепшае чым найбольш пачакаць.

Нарэшце з'явілася Эльза. У якім яна была ўзрушаным настроі! Як была ўражана няўвагаю да сябе! Можна было падумаць, што яна, нягледзячы на свае трыццаць пяць год, асталася непрактычным дзіцем. Занадта ўжо яна не хацела ведаць ніякай асцярожнасці. Яна не гаварыла, а крычала:

— Ты выдумаў гэтыя страхі. У самых аўтарытэтных колах у Германіі сцвярджаюць, што найбольш тры месяцы асталося да канца вайны і што бальшавіцкая армія разбіта і хутка ўся або будзе знішчана, або цалкам забрана ў палон. Як ты сам не падумаеш аб тым, што за некалькі дзён ад пачатку вайны апынуўся ў гэтым горадзе! Ты проста не хацеў стрымаць таго, што дакляраваў мне, і выдумляеш усялякія адгаворкі.

— Аднак жа ты сама не ўзяла сюды Генрыха.

— Генрых яшчэ дзіця.

— А ты горш за дзіця.

— Я жанчына! А жанчына тут патрэбна будзе, пры табе. І пры вас усіх патрэбны будуць жанчыны. І пры генеральным камісару краю, як толькі настане час яму прыехаць, паглядзіш — ён не будзе абыходзіцца без

жанчын. Тое, што мужчына зробіць кулаком, то жанчына зробіць — дзе словам, а дзе проста таму, што яна не мужчына. Вы ўсе недаацэньваеце жанчын! А тут — ты ж сам заўсёды казаў — тут прыйдзецца ламаць нанава людзей. Рускі мужык дурны, але хітры. Чые гэта словы? Гэта твае словы.

Ясна было, што яна прэцца ў дзяржаўныя справы. Яна шукае тут нейкай свае місіі. Усё гэта ні ў якай меры не ўваходзіла ў погляды Тоўхарта і на самога сябе, і на кожную жанчыну. Але ён цярпець не мог зрызот, ды яшчэ з жанчынай, і тым больш з жонкай. Ён занадта дзеля вялікай справы і жыў, і сюды прыехаў, каб так апускацца. Ён нічога не адказаў Эльзе на яе ўзбуджаныя, нават са злосцю, словы і холадна заўважыў:

— Генрых дзіця? Але ж ён мужчына. І павінен стаць мужчынам.

— Генрых хлопец, а таму сам сабой стане мужчынам.

Тоўхарт пацінуў плячыма і паглыбіўся ў штосьці зусім іншае. Эльза не вытрымала:

— Ты хочаш, каб я назад паехала?

Тоўхарт перавёў на яе вочы і ўбачыў яе запылены з дарогі твар. Ён ведаў, што яна ўжо тут з ім і астанецца і трэба гэтую непрыемнасць ператварыць у жаданую прыемнасць. Ён гукнуў Клебера і загадаў яму служыць Эльзе. Клебер у момант прыгатаваў для свае пані пакой і ваду, цёплую і халодную. К вечару Тоўхарт з мірным настроем убачыў Эльзу. Хоць яны і многа год пражылі ўжо разам, аднак жа з чыста жаночай кемлівасцю яна знаходзіла заўсёды ўсё новыя спосабы, якія-небудзь дробныя і адразу, можа, і незаўважныя дэталі ў тым, як надзець плацце, як не заўважыць, што дзе-небудзь фалдачка не лягла на сваё месца. Тоўхарт зірнуў на яе і раптам узрадаваўся, што яна да яго прыехала. Згода адразу ўсталявалася як мае быць. Можна сказаць, што яна і прымусіла яго хутчэй выехаць далей. Праз некалькі дзён яны пакінулі Баранавічы. Ужо на першым кіламетры язды Тоўхарт узяў выгляд чалавека, які самаахвярна выконвае сваю вялікую місію. Ён тлумачыў Эльзе пра ўсё, што траплялася на дарозе, і ёй было прыемна падначаліцца ўладзе свайго мужа.

# Чацвёрты раздзел

## I

Добрага паўдня Андрэй Мішурын шукаў людзей, каб распытаць бліжэйшай дарогі на Нясвіж. Каб не Вялічкава даручэнне, ён ішоў бы проста на ўсход. Урэшце ён мог бы далучыцца да якой-небудзь групы чырвонаармейцаў, каб разам выходзіць з нямецкага тылу. Але тады яму нязручна было б адрывацца ад усіх у патрэбным яму месцы. Усе мелі толькі адзін клопат — выбіцца ў зону свае арміі, у яго была яшчэ і Вялічкава просьба. У душы сваёй ён не спадзяваўся, што Вялічка выжыве, і гэта тым больш прымушала яго не абысціся легкадумна з яго сяброўскім даручэннем. І ўсё гэта прымушала яго вельмі спяшацца. Лёгкая рана на яго руцэ не вельмі мучыла яго, і ён не кепска адчуваў сябе. У адной з вёсак ён натрапіў на бывалага чалавека, які даў яму маршрут. Ён яму растлумачваў дарогу і гаварыў, што ўсё гэта павінна ісці раўналежна старой Маскоўска-Варшаўскай шашы. Але ён не раіў выбівацца на самую гэтую людную дарогу: цяпер тут бесперапынна шнырылі нямецкія машыны і дробныя патрульныя раз'езды. Яшчэ ўсё ішлі на ўсход рэзервныя матарызаваныя часці, імчаліся то на ўсход, то на захад санітарныя машыны і абозы. Гэта ўжо былі першыя і другія нямецкія тылы.

Андрэй Мішурын шпарка ішоў лясістай мясцовасцю. Пасля ўсяго перажытага адзінота ў гэтай маляўнічай мясцовасці ўціхамірвала яго душу. Шмат якія куткі былі тут падобны да яго роднай Смаленшчыны, і толькі смуга на адкрытых даляглядах была як бы танчэйшая і аддавала сінявасцю. Але гэта, можа, яму толькі здавалася ад свядомасці таго, што ён далёка ад мілага роднага месца, дзе прайшло ўсё яго жыццё ад дня нараджэння. Ён так спяшаўся ісці, што мала аддаваў увагі пошукам яды. Там, дзе ён правяраў на людзях, ці не збіўся ён з дарогі, там ён стараўся падсілкавацца, а сумысля не займаўся гэтым. Не спыняючы хады, ён зрываў жытнія каласы, калі дзе ішоў адкрытым палеткам, і стараўся ісці і ўночы. Аднак жа ён не лічыў сваіх сіл і к канцу другога дня пачаў адчуваць вялікую стомленасць. У яго быў хлеб, якога ён расстараўся на хутары, калі правяраў сваю дарогу. Заход сонца ён перачакаў непадалёку ад шасэ, на

якое і намерыўся выйсці, каб так ісці ўночы. Ён здорава зрабіў ужо дарогі. Уночы, думаў ён, льга будзе ісці і па шасэ: ночы цёмныя і рух меншы. І важна, каб ноч не прапала дарма. Ён спаў у лесе цэлы вечар і выйшаў у дарогу, калі было зусім цёмна і свяцілі зоры. Напрасткі, полем і кустамі, ён кіламетраў чатыры ішоў да дарогі, якая ледзь шарэла ў цемені ночы. Натура ў Андрэя Мішурына была больш ураўнаважаная, як у Вялічкі. І маленства яго і маладосць прайшлі без якіх бы там ні было вялікіх прыгод і неспакою. Ён роўна пражыў свае гады фізічнай працы. Бацькі яго, ужо зусім старыя людзі, яшчэ жылі. Жонка яго была здаровая і прыгожая жанчына, родам з той жа самай вёскі. І трое дзяцей раслі ў здароўі. Дом свой яны пабудавалі праз два гады пасля рэвалюцыі, будавалі самі, спакойна і не спяшаючыся. І ўсё пры новым доме год за годам удасканальвалася, прыбудоўвалася і станавілася на месцы на ўсё доўгае жыццё. Каб хто цяпер сказаў Мішурыну, што і яго мясцовасць зоймуць немцы, каб нават самыя важкія довады былі пададзены, ён не згадзіўся б ніколі на свеце. І ў душы яго жыло пачуццё вечнай усталяванасці яго дамоўкі, якая з часу напалеонаўскіх войнаў не бачыла ворага, і — занадта ўжо далёка адгэтуль было да яго роднага месца. Душа яго не рвалася па чым-небудзь сваім, асабістым. Ён спяшаўся, але гэта трымалася на ўпэўненасці, што ўсё ўдасца зрабіць, што ўсё скончыцца добра і скора. Хоць ён і не мог сваіх адчуванняў сфармуляваць дакладнымі словамі, бо і не думаў пра тое, што перажываў, але ўсвядомліваў, што перажывае незвычайныя моманты ў сваім жыцці. Шэры змрок над дарогаю і цішыня зорнай ночы з'ядноўвалася ў яго душы з паэзіяй не раз перажытых ім ночаў у родным кутку. Ці ён часамі ехаў куды ўночы ў недалёкую дарогу, ці так чаго прыходзілася не спаць ноч — і зорнае неба, і змрок, і абрысы ночы ў блізкай далечыні — без яго свядомасці адчуваліся ў яго душы. І цяпер ён у такім настроі прайшоў вялікую адлегласць, пакуль не пачало шарэць неба. Некалькі разоў за ноч ён сыходзіў у бок з дарогі, каб прапусціць цэлыя калоны машын, напэўна, нямецкіх, лажыўся ў траве ці ў кустах на зямлю, а пасля зноў ішоў. І чым больш аставалася за плячыма пройдзеных кіламетраў і пражытых дзён і гадзін, тым больш ён паглыбляўся ва ўпэўненасць, што не пройдзе і некалькі тыдняў, як немцы прымушаны будуць бегчы

назад. Ні на якіх фактах усё гэта не грунтавалася, ён быў просты баец і адчуваў у сабе сілы нават і пасля Брэста, а можа, і з прычыны гэтага, для таго, каб самому тут быць важнай асобай. Каб разварушыць яго душу, там льга было б знайсці і гонар за тое, што ён дзевяць дзён рабіў у горадзе пад Брэстам. Гэта быў гонар салдата, які ўсё сваё жыццё будзе расказваць: «Як мы тады былі пад Брэстам, дык я адзін цэлых чатыры дні...» Адным словам, раніцу гэтага дня свае дарогі Андрэй Мішурын спаткаў, можна сказаць, без таго ўтрапення, якое многіх тады гнала вельмі шпарка з захаду на ўсход. Ён ведаў, што, напэўна, яму і не прыйдзецца трапіць дадому, што, мусіць, ён сілаю акалічнасцей і ваенных законаў прыстане дзе-небудзь да новай часці. Але ён не заглядваў далёка наперад, а рабіў тое, што было яго бліжэйшым абавязкам ці мэтай. Пачало развідняцца, ён адышоўся кіламетраў на тры ў бок ад дарогі, апынуўся ў лагчыне, густа зарослай ядлоўцам, лазою і алешынай, паглядзеў і здагадаўся, што гэтая хмызнячная цішыня цягнецца на даволі вялікую разлегласць, выбраў месца, дзе не праступала пад нагамі вада, укусіў некалькі разоў хлеба, лёг і заснуў адразу. Калі ён прахапіўся, сонца ўжо рушыла з паўдня. «Што ж я так доўга спаў? Можна і ўдзень ісці гэтым глухім месцам». І тут ён убачыў перад сабою чалавека. «Як я раней не заўважыў, што лёг спаць каля самай дарогі? Відаць, я быў вельмі стомлены». Гэта была дарога вузенькая, як праехаць з калясьмі ў адзін бок. Яна была выразна відна ў вузкую прагаліну паміж кустамі. На ёй стаяў чалавек і не зводзіў вачэй з Мішурына.

Ён быў невысокага росту, у ботах, у пінжаку, без шапкі, з палыселай галавой і з вусамі. Здавалася, што ён аслупянеў ад нейкага быццам здзіўлення. А можа, нават кепскае здарылася з яго памяццю, можа, нават з нейкіх прычын ён страціў здольнасць бачыць сувязь паміж рэчамі і з'явамі. У кожным разе яго выгляд сведчыў пра тое, што гэты чалавек не ў сваім звыклым стане. Вочы яго не міргаючы кіраваліся толькі ў адзін пункт, і позірк гэты быў страшны. Страшны быў самы воблік яго, яго ненатуральна выпрастаная пастава, яго абсалютная нерухомасць і застылая на яго твары рыса смутку, якая межавалася і з адчаем, і з поўнай разгубленасцю і беспараднасцю. Да таго ж ён быў вельмі схуднелы,

як бы выйшаў з галоднай магілы. Быў вывалены ў пяску, укрыты пылам, і калені яго былі ў гліне. Мішурын з нечаканай непрыемнасцю некалькі хвілін глядзеў на яго. Яму хацелася хутчэй скрыцца з вачэй гэтага незнаёмца, якога ён аніяк не баяўся. Ён падняўся на ногі, шпарка паправіў на галаве пілотку, адразу ўспомніў, у які бок трэба ісці, і апошні раз зірнуў на дзіўнага чалавека. І раптам твар яго пачаў змяньваць рысы, і новая пячаць наплывала на яго. Ужо зусім сышлі адзнакі анямеласці і застыласці. З'явілася маўклівая і баязлівая просьба, і — магло б здавацца, што раптам калені яго падагнуцца і ён упадзе на зямлю мёртвы. На адзін найкарацейшы момант губы яго ўздрыгануліся, вочы заварушыліся, у іх ажыло нейкае пачуццё, і ён увесь як бы на момант ажыў. У той меры, у якой Мішурын зрабіў свой першы рух, каб ісці, і чалавек хістануўся за ім, але з месца не сступіў. Гэта быў рух як раптоўны, так і безнадзейны. Мішурын спыніўся і не пайшоў. Чалавек заўважыў гэта і зрабіў адзін толькі крок да Мішурына і спыніўся. Але пасля гэтага подбегам даскочыў да Мішурына і працягнуў руку. Што гэта была за рука. Пальцы і ўся далоня былі ў нейкім тлустым брудзе, каля пазногцяў былі струпы і закарэлая кроў, як бы ён дзёр пальцамі каменны грунт. Гэтаю рукою ён прасіў хлеба і гэтым абмяжоўваліся ўсе яго дачыненні да Мішурына, і Мішурын гэта адразу зразумеў. Ён адшчыпнуў ад кавалка крыху і даў чалавеку. Той усё ўкінуў у рот і, жуючы, павярнуўся ісці. І раптам ён зноў стаў тварам да Мішурына. Вялікая прага ўладала яго вачыма.

— Куды ты ідзеш, чалавеча? — запытаў Мішурын. (Чалавек маўчаў.) Адкуль жа ты?

— Па той бок Баранавіч. Сцяпуркі. Не чулі? Сцяпуркі лічацца як бы мястэчкам.

— А куды ты ідзеш? (Ён зноў маўчаў.) Як ты завешся?

— Антон Цвірка.

— Што ты робіш тут?

— Я ўжо тут два дні. Раней я ішоў там. А цяпер — выйду за лес і назад вярнуся. Некалькі разоў.

— А куды табе трэба ісці?

— Мне нікуды не трэба ісці. У мяне быў дом.

— Дома няма цяпер?

— Няма. І нічога больш няма.

Ніжняя палова яго твару ўздрыганулася, і ён зрабіў крок да Мішурына.

— А сям'я твая дзе? Ці сям'і не было ў цябе?

— Уся мая сям'я ляжыць на дарозе. Жонка звісла тварам у канаву, а хлопчык ляжаў грудзьмі на бакавым камені.

— Што ты цяпер рабіць думаеш?

— Нічога. На свеце ўжо няма мне больш чаго рабіць. Што ж рабіць? Каб і хацеў, дык няма за што рук зацяць.

— Але ж ты жывы астаўся.

— Які ж я жывы? Жывы павінен жыць. А нашто мне жыць? Хіба каб сышоў куды ў далёкі свет, можа б, там забыўся, што жыў некалі ў гэтым месцы.

— А дарогу ты далей ведаеш?

— Куды далей?

— Пра Нясвіж ты чуў калі-небудзь?

— У Нясвіжы я многа разоў быў. А вы несвіжанін?

— Не, але мне ў той бок трэба. Хадзем разам, калі хочаш.

— Дарогі вы не ведаеце?

— Не.

— Ну, то хадзем.

## II

Ужо ў той момант, калі Эміль Клебер вырваў у яго з рук мёртвага хлопчыка і шпурнуў на траву, ён адчуў сябе так на свеце, што яму няма дзе дзецца. І тут няможна быць і ісці няма куды. І не таму ён пайшоў упоперак ад дарогі цераз поле, што яго гнаў кулямі з аўтамата невядомы яму нямецкі салдат. Ён і ішоў вельмі павольна, і, можа, нават да яго слыху і не даходзілі грымучае ляскание аўтамата і свіст куль. Ён ішоў таму, што ішоў, і мог на месцы стаяць таму, што стаў і пакінуў ісці. Некалькі разоў за той дзень ён украдкам варочаўся да дарогі і кожны раз адыходзіў назад. Але вялікая сіла прывязала яго да гэтага месца. Увечары і ў раннюю ноч ён чуў тут бой. Як узышло сонца, ён прайшоў па той траве і мёртвага дзіцяці не ўбачыў. На дарозе трупы былі ўжо раздушаны жалезнымі коламі. Ён пайшоў назад, і доўга ішоў у бяздум'і і безнадзейнасці. Мэта перад ім ніякая не стаяла. Некалькі дзён бадзяўся ён па глухіх дарогах, не маючы і не жадаючы прыстанку. Начамі ён не спаў, днямі не меў ні мэты, ні дзейнасці. Ногі яго чапляліся адна за

другую, шчацінне на твары адрастала шпарка. Выходзячы з дому шукаць ці даганяць жонку з дзіцем, ён набраў торбу хлеба. Цяпер ён не памятаў гэтага. Голад яго не мучыў, ён і не думаў пра гэта і слабеў з кожным днём. Але ён мог хадзіць і аддавацца раптоўным парывам. Нервы яго маглі ў адну секунду ўскіпуцца да вялікай узбуджанасці і апасці да амярцвення. У стане такої абыякавасці да ўсяго ён і пайшоў разам з Андрэем Мішурыным. Цяпер то ўжо пачала вырысоўвацца перад ім мэта: паказваць чалавеку дарогу пад Нясвіж.

— Значыцца, ты чалавек тутэйшы? — сказаў Мішурын, прайшоўшы моўчкі з паўкіламетра.

— Тутэйшы.

— Дык як жа ты так... нічога не думаеш?.. Жыць жа табе прыйдзецца, ты ж не стары чалавек. Колькі табе год?

— Мне сорак дзевяты год.

— Ну, от бачыш. Яшчэ многа табе жыць асталося. Сям'і, можа, і не завядзеш другой, а жыць...

Тут Антон Цвірка ўзняў на Мішурына вочы. У вачах засвіціўся пратэст. І гэта было тое новае, што апанавала чалавека за ўвесь час, як яго ўбачыў Мішурын. Вельмі можа быць, што гэта і быў першы момант яго звароту да жыцця.

— Як гэта можа так прыйсці ў галаву, што чалавек такі, як я, можа заводзіць другую сям'ю? — пачаў ён спачатку ціхім голасам і пакуль што яшчэ з нотамі развагі.— У мяне жонка не памерла сваёю смерцю. І дзіця маё не памерла сваёю смерцю. Мая сям'я не мінулася так сабе, а яна адарвалася ад мяне жывая. Чалавек так жыць не можа, як усё іншае жывое... Я раз здзівіўся быў таму, што пачуў на свеце.

Гэты раптоўны пераход ад нечага некалі пачутага не ўразіў Мішурына: ён быў падрыхтаваны да ўсялякіх нечаканых паваротаў у думках, словах і, можа, нават учынках свайго выпадковага спадарожніка. І ўжо ні ў якім разе ён не спадзяваўся, што гэты чалавек з гэтых хвілін на ўсё жыццё робіцца звязаным з ім не дружбай нават, а ўсім існаваннем на свеце.

— Што ж ты такое пачуў быў? — абыякава запытаў Мішурын.

— Я чуў страшную няпраўду зранку, у нядзелю, у касцёле.

— Ты каталік?

— Я каталік. У той дзень, як пачалася вайна, я якраз і пачуў гэта. Ксёндз з амбоні расказваў, як бог выпрабоўваў веру Іава. Ён напусціў на яго ўсялякія няшчасці. Уся жывёла ў яго падохла. Дамоўка яго згарэла. Жонка і дзеці яго паўміралі. Ён астаўся адзін як стаіць, без нікога і без нічога. Так, як я цяпер,— павысіў ён раптам голас.— І ўсе сябры ад яго адвярнуліся. І страшная хвароба апанавала яго. Навалілася на яго гора такое, якое чалавеку вытрымаць цяжка.—Ён усё павышаў голас. Мішурын бачыў, што яму проста-такі асалода разварушваць і свае, і чужыя думкі аб страшэнных пакутах чалавека. Здавалася, што здзекуецца сам з сябе.— Пошасць ішла на ўсіх людзей ад яго хваробы. Усё цела яго пабілася на раны, і з іх ліўся гной. Чалавек гэты нават сам для сябе прасмерд. Яго загналі ў нейкі выгараджаны ад людзей катух, і ён там сядзеў і чэрапам з гліцянага гаршка абскрэбаў гной з сваіх ран. Ён ведаў, што гэта бог яго так карае, але не пакінуў маліцца богу, і хваліў бога, і не ўзняў слова на бога. Бог за гэта вярнуў яму ўсё: і здароўе, і сілу, і маёмасць, і багацце, і ў доме новым, яшчэ лепшым, як раней, ён пачаў жыць, і жывёлы меў больш і жонку лепшую ўзяў, як была тая, што памерла, і дзеці ў яго другія нарадзіліся, якраз гэтулькі, колькі было тых, што памерлі. І гэта ж тысячы год гаворыцца людзям, і няўжо ніхто не падумаў ні разу, што не можна так гаварыць чалавеку, бо гэта вялікая няпраўда. Калі вы мне сказалі, што новай сям'і я, можа, з прычыны сваіх год, не завяду, то мне як ланцуг на душу ўсклалі. Божа мой, божа мой... Сама што ўзнімаўся на ногі. Прыеду я адкуль, а ён выбежыць насустрач і кідаецца каня распрагаць. Каб яго не кідаць у скруху, я дам яму за парады патрымацца, ён рад, ходзіць за мной следам, распытвае пра ўсё і сам мне свае дзіцячыя справы расказвае. Усё яму хацелася ведаць —а чаму тое, а як гэтае. Пакуль ён быў жыў і пры мне заўсёды — ну, быў у мяне сын. А цяпер, калі яго, замучанага, вырвалі з маіх рук і шпурнулі вобземлю, аж стукнула як каменем у дрэва, дык які ж я пасля гэтага Цвірка з мястэчка Сцяпурак? Я ўжо больш не прыеду дадому, ён больш не выбежыць мне насустрач. Каб я завёў другую сям'ю і каб зноў вярнулася да мяне маё жыццё — і каб дом новы, і каб хлеб свой, і каб зноў сын малы выбягаў мне насустрач, дык у

доме я магу і другім жыць, на кані я магу і другім ездзіць. А дзіця маё — той жа жыў, глядзеў на свет, ведаў, што я яго бацька! Дзіця будзе другое, а не тое, якое мела пакуту, і пакута гэтая асталася на векі-вечная, бо яна была і ніхто ўжо не зробіць так, што яна не была. А калі так, дык і гнойныя струпы ніколі з мяне не злезуць, хоць бы я быў здаровы і хадзіў у блішчастай манішцы. Так яно ўжо мне будзе. Ніхто ўжо не ашукае мяне. Увосень адрастае атава такая ж самая, як і ўвесну зялёная трава. Але над ёю і вецер халодны, і імгла хмурная. Усё бывае толькі раз на свеце. Так мне прыйдзецца і веку дажываць са сваімі струпамі і балячкамі.

— Дык што ж табе цяпер асталося на свеце?

— Што мне асталося на свеце?— Антон Цвірка змоўк. Тое, што сказаў Мішурын, захапіла яго знянацку.— Мне цяпер усё роўна, ці жыць буду, ці не. Але толькі каб далі мне ў рукі таго самага, што шпурнуў вобземлю маё дзіця. Я яго не забіў бы адразу, а ён у маіх руках даходзіў бы дзён тры. Я з яго дастаў бы душу так, каб ён чуў, як смачна з душой развітвацца. Каб ён бачыў над галавой сонца і каб ведаў, што яно ўжо яму чужое. Каб ён яшчэ пажыў крыху ў магіле. Каб з яго ўсё выварочвалася і каб за жывую галаву яшчэ ўсё парвалася на кавалкі. Без гэтага я не памру. Дзеля гэтага мне яшчэ асталося жыць. Я хацеў бы бачыць, як яго нямецкія шчаняты курчацца, здыхаючы ў яго на вачах, і каб ён не мог сарвацца з месца, каб падбегчы да іх. Ніякай літасці мая душа ўжо не мае. Я акамянею яшчэ больш, і ніхто мне нічога не зробіць. Хоць бы каб увесь свет крычаў мне ў вушы, што я не чалавек, дык я ўсім ім на гэта скажу — вы самі не людзі.

Антон Цвірка ажыў. За гэты час, пакуль гаварыў, ён так з'іначыўся, што Мішурыну не верылася, што гэта той самы, які нядаўна яшчэ, як ціхі вар'ят, стаяў на хмызнячнай дарозе. Ён выгаварыўся, выказаў тое, што так нечакана нарадзілася ў ім, жыло і ўсё больш брала пад сваю ўладу ўсю яго істоту. Твар яго пачаў укрывацца жывымі рысамі. Вочы страцілі сваю зямлістую цьмянасць. Ён пачынаў ісці раўнейшай хадою, як быццам бы і сапраўды быў перад ім такі пункт, куды яму няйначай трэба было дайсці. Мішурыну стала весялей быць з ім. Ён бачыў, што знайшоў сабе спадарожніка. Спадарожнік гэты ведаў дарогу. Ён ведаў усю мясцовасць і неўзабаве

пачаў называць паселішчы, якія яны абыходзілі старанаю. Ён ведаў усе лясы і дзе якая ішла дарога. Ён пачаў расказваць, што калісьці бываў тут усюды, праўда, не далей Слуцка. Ён вёў Мішурына патайнымі дарогамі, паплавамі без дарог і сцежак, кустамі, хваёвымі лясамі і лагчынамі паміж узгоркаў. У адным месцы ён сказаў, што тут недзе павінна быць дробнае азярцо, якое называецца Сіні Лужок. Калі яны ўвайшлі ў лог паміж ядлоўцавых зараснікаў — і сапраўды там было азярцо. Невялікі круг балота, падсохлага ад сонца і ветру, і вада, не зусім чыстая, але і не стаячая. Вузенькая, на скупы крок, ручаіна плыла праз гэтае малюсенькае возера. Аер шапацеў пад ветрам, матыль тросся над самай вадою, і абзывалася ў траве птушка. Была тут вялікая цішыня і бязлюднасць.

— Божа мой,— сказаў Цвірка.— І той самы імшысты камень над самай вадою. Я тут дваццаць пяць год не быў. Я тут начаваў, як у тую вайну ехаў на выгнанне. Праўда, даехаў быў толькі да Слуцка і там перачакаў вайну. Я быў тады малады хлопец... Каб ты ведаў, браце, канчаюся з голаду.

І тое, што ён хацеў есці і што сказаў Мішурыну «ты», сведчыла, што гэты чалавек уваходзіць у сваю каляіну. Мішурын быў рад. Яны з'елі ўвесь хлеб, які быў у Мішурына. Мішурын купаўся ў азярцы. Наглядзеўшыся на яго, Цвірка доўга адмываў свае рукі, і твар, і ўсю галаву. І тут дачакаліся часу, пакуль сонца не пачало спускацца да свайго заходу. Тады яны зноў пайшлі, трымаючыся блізасці старой Маскоўска-Варшаўскай шашы. Перад імі была Случчына.

Скрозь гнулася каласамі ў зямлю, як сцяна, жыта. Падыходзячы бліжэй да шашы, яны бачылі непахаваныя яшчэ трупы людзей і непрыбраныя абломкі машын. Не дайшоўшы яшчэ да былой Піліпаўскай пагранічнай заставы, яны ўбачылі, як плазам ляжалі на самай дарозе і на яе абочынах немцы. Іх было з паўсотні. Цвірка не мог адарвацца ад гэтага месца. «Хоць бы адзін жывы яшчэ быў». Але яны ўжо смярдзець пачыналі. Тут, відаць, сутычка была дзён некалькі да гэтага. Яны або ўсе былі перабіты, або не паспелі пахаваць сваіх мерцвякоў. Мішурын спяшаўся адысціся далей як мага — ім трэба было начаваць у полі ці ў лесе. Яны дайшлі да хвойнага лесу. Спалі, лёгшы плячыма адзін да аднаго, і ўсталі з рас-

світаннем. І Мішурын, і Цвірка, абодва яны, ірваліся хутчэй дайсці да таго месца, куды Мішурыну сказаў Вялічка. Ужо тут недалёка была паваротка з шасэ на Цімкавічы. Так выкіроўваў маршрут Цвірка. Вайна ўжо адышла далёка на ўсход. На шасэ было ціха ў гэты час дня і, здавалася, пуста. Града хмызнячнага зарасніку ішла ў гэтым месцы паўз дарогу. Гэтым хмызняком, вельмі блізка ад дарогі, яны і ішлі. З гадзіну сапраўды на дарозе было пуста. А пасля загулі ў іх за плячыма машыны. Іх было тры. У пярэдняй відны былі праз шкло тры ці чатыры салдаты. У задняй таксама былі салдаты. У сярэдняй побач шафёра сядзеў салдат, а за імі пара, мужчына і жанчына. Мужчына быў у вайсковай адзежы. Гэтая сярэдняя машына зменшыла ход і стала, спыніўшы і сваю заднюю машыну. Пярэдняя ад'ехалася і таксама стала. Салдаты выйшлі з машын. Дарога была пустая. Ранішняе сонца ляжала на ёй, і з поля цягнула свежым і чыстым ветрам. Вылезла з свае машыны і пара, мужчына і жанчына. Салдат выскачыў раней і трымаў дзверцы, пакуль яны вылазілі.

Мішурын і Цвірка ляжалі ў кустах, стаіўшыся. Ад дарогі яны былі ўсяго за некалькі крокаў. І ці гэта здалося Цвірку, ці гэта і сапраўды было так, але дзверцы ў машыне трымаў той самы салдат, які шпурнуў быў вобземлю яго нежывое дзіця. Хоць яны ўсе і вельмі падобны адзін да аднаго, але гэта той! Цвіркаў твар пабялеў. Вачэй сваіх ён не зводзіў з салдата.

Жанчына прыклала далоню да лба і акінула вачыма шырокі слуцкі далягляд. Твар яе быў вясёлы. Лёгкімі крокамі шчаслівага чалавека яна падышла да абочыны. Пячаць як бы здзіўлення была ў яе вачах. На зялёнай абочыне многа было палявых кветак: дробная цантурка, і малачайнік, і рамонак. Гуллівым рухам рукі яна сарвала некалькі кветак і прыклала да свайго носа, пасля сцёбнула імі па руцэ свайго мужчыны. Ён усміхнуўся, і яна яму. Салдаты закурылі і пачалі размінаць ногі каля сваіх машын. Шчаслівая пара трымалася разам, мужчына нешта тлумачыў жанчыне і паказваў рукой удалечыню. Іх незразумелыя словы выразна даходзілі да вушэй Мішурына і Цвіркі.

— Ох, каб тут кулямёт,— шаптаў сам сабе Мішурын, прыпадаючы яшчэ ніжэй да зямлі пад кустом.

Неўзабаве ўсе зноў селі ў машыны, знаёмы Цвірку

салдат паслужліва зачыніў дзверцы. Машыны рушылі. Тоўхарт паехаў далей у сваю жаданую мэту.

— Ты бачыў, якая яна шчаслівая,— шаптаў Мішурын.

Цвірка ляжаў тварам у траве, і раптам плечы яго дастрасянуліся. Можна сказаць, што шчаслівая немка дала свядомасць гэтых двух чалавек да канчатковай яснасці, быццам толькі цяпер іх вочы да канца раскрыліся на тое, што адбылося за ўсе гэтыя дні.

— Божа мой, божа мой,— прастагнаў Цвірка.

Страшны цяжар душыў яго. Ні з чым непараўнаны смутак ірваў яго душу. Яго апанавала прага вярнуцца назад і хоць апошні раз зірнуць на попелішча роднага дома. Там, можа, ён убачыць яшчэ які-небудзь уцалелы куст або хоць камень, знаёмы з даўняга часу. А пасля гэтага — няхай сабе і памерці.

## Пяты раздзел

### I

Пажар калісьці з'еў Блецькаў сад, і толькі некалькі вішань расло цяпер пры цяперашняй яго хаце. Навокал было прасторна і гола. Расла трава, стала штосьці накшталт выгану, дзе хадзілі пасёлкаўскія гусі. Ад іншых дамоў хата стаяла наводдалек. Яна была вельмі відна адусюль, і гэта было вельмі невыгодна Адаму. У яго было такое пачуццё, што і ўся сярэдзіна хаты відна знадворку і здалёку. Ён баяўся. Праляжаўшы першы дзень у цёмнай клеці, адгароджанай у сенцах дошкамі, ён на другі дзень яшчэ да рассвітання выбраўся ў лес з торбаю хлеба і сала. Ён далёка адышоўся лесам і ў вялікай гушчырні ўвабраўся ў нейкае імшыстае прыбалочанае логавішча, цэлы дзень то еў, то драмаў. Да ночы ён выпустаціў цэлую торбу. І так праходзілі яго дні. Начамі, без агню, ён і Ксавэр падоўгу гаварылі пошапкам. За гэтыя часы ён душэўна зблізіўся з бацькам, і абодва яны былі сталыя і задумёныя. Ніводнага пустога слова, і ўсё на высокай струне, у бесперапыннай напружанасці. Пакрысе ён увёў бацьку ў курс сваіх спраў і абавязкаў, і Ксавэр Блецька ўжо да канца ўвераваў у сына. Ён ужо ведаў, што ў таго ў лесе, па той бок млына, схаваны сігнальныя ракеты, якія ён атрымаў непадалёку ад Брэста, з'явіўшы-

ся да чалавека, да якога меў пароль. У адну з начэй яны ўдвух з бацькам хадзілі ў тое месца і знайшлі ракеты і перахавалі ў бліжэйшае месца.

І абодва яны пачалі баяцца, каб усё не зацягнулася. Гэта будзе жах так доўга чакаць. Барані божа, каб не чакаць год. Як жа тады будзе зімой жыць?

Дрэнна было тое, што Адам не мог разгледзець добра ўсё, што тут набудавана стала за ўсе гады. Але ён пачаў спадзявацца на бацьку, і яму стала спакайней. Бацька яму расказаў, дзе стаіць машынна-трактарная станцыя, дзе база з гаручым, дзе майстэрні, дзе бровар і лесапільня, і скурапы завод, і склад з віном тутэйшага бровара, і рамесніцкія арцелі, і калгасны цэнтр, і кааперацыйная база, і малочны завод са сваім складам. Дзе бліжэйшы элеватар, нават сталярні і пункты, дзе марынуюць грыбы. Гэтыя кааперацыйныя пункты якраз і былі пад Блецькавым ведамам. Адам стараўся ўявіць сабе з бацькавага расказу, дзе ссыпана калгаснае збожжа і колькі яго. Так праходзілі ночы ў заклапочанасці. І кожны раз, пад дзень, калі Адам выбіраўся ў лес, абодва яны павольным шэптам даканчвалі тое, што не было дагаворана ўночы. І так гэта ўсё было ў іх глыбакадумна і стала, што як быццам бы яны рыхтаваліся не да страшнага злачынства, а мірным парадкам рабілі сваю ўласную хатнюю справу.

І кожнае з таго, што называў Ксавэр Блецька, не толькі невядомае Адаму ў тыя гады яго маладосці слова «элеватар», а нават «смалярня», «бровар», «маслазавод», ўсё гэта калола яму душу, бо нічога гэтага тады не было, калі ён пакінуў свой куток і панёс па ім свой смутак у чужую Германію. І хоць да канца не было ў яго веры, што ўсё вернецца такое, якое было і што застыла ў яго душы без руху, як яго адзінае жаданне, але была ў яго надзея. Таксама як не падумаў ён, што прайшлі гады і ён сам пастарэў і Марына ўжо не тая, як была тады. У яго была прага хутчэй яе ўбачыць, і не можна было. У душы яго шчымела, усё гняло яго, але перад бацькам ён трымаўся і не падаваў прычыну таму падумаць, што не такі ён упэўнены, як здаецца. Нарэшце настаў дзень, калі скончыліся яго трывогі, гэты дзень быў дваццаць другога чэрвеня. Ён быў такі асцярожны, што нават пасля таго радаснага яму моманту і начаваў дзве першыя ночы ў лесе.

Даходзілі спачатку ўсялякія чуткі. Гаварылі, што нібыта Чырвоная Армія разбіла дзесьці на граніцы немцаў, і гэтая чутка, якая была жаданнем усіх навакольных людзей, як бы кінула яго ў магілу. А што, калі так усё і скончыцца? Ён бачыў, што бацька таксама ўпыў душой. Моўчкі яны чакалі. Нарэшце зноў найшло ім прасвятленне. Першыя нямецкія самалёты з'явіліся над гэтым кутком на рассвітанні дваццаць чацвёртага чэрвеня. Ужо тут ішлі першыя натоўпы выгнанцаў з захаду і трапляліся невялікія вайсковыя групы. Надыходзіў момант убачыць яму Марыну.

Сонца падымалася ўжо даволі высока, калі Марына, з рукамі і прыполам у зямлі, увайшла з агарода ў дом. Яна зазірнула ў бакоўку і ўбачыла, што Настачка яшчэ спала тварам у падушку. Відны былі з-пад коўдры толькі густыя яе валасы, абы-як заплеценыя ў дзве кароткія касы, растрапаныя і ўскудлачаныя. Яе цёмныя валасы толькі нядаўна пачалі запускаць у косы. З вялікім смуткам Марына стаяла над гэтай малой галавой і пасля не вытрымала і дакранулася лбом да Настаччыных валасоў. Густавалосая галава зварухнулася, сонны твар з заплюшчанымі вачыма паказаўся з-пад коўдры. Рысы твару яшчэ спалі, але ўжо білася праз сон усмешка. З усмешкі і пачынаўся дзень для гэтай малой дзяўчынкі. Вочы яе расплюшчваліся, але ўсмешка ўсё больш завалодвала тварам, і была яна з наіўнай і мілай дзіцячай хітрасцю. Гэта можна выказаць такімі словамі: «Вось бачыце, якая я важная і патрэбная вам усім і якая я цудоўная ваша Настачка. Хоць я яшчэ і сплю і хоць для вас усіх дзень даўно пачаўся, аднак жа гэта ўсё не тое, калі я сплю. А вось калі я ўстану, тады пачнецца ўсё так, як трэба і важна вам. І інакш быць не можа. І нічога на свеце інакш не зменіцца. І гэта вельмі добра. І кепскага нічога не можа быць ніколі». Сон ужо сышоў з твару, рысы яго ўжо жылі шчасцем таго, што ўсё такое, якое яно ёсць. Ужо анізвання не было не толькі сну, але і дрымоты, а вочы былі ўсё заплюшчаныя. Настачка прыкідвалася, што яна спіць. Мілым свавольствам пачаўся дзень.

— Ну добра,— сказала Марына.— Калі ты спіш, то я пайду. Паспі сабе.

Але Марына не пайшла. У такія моманты кожная маці пераймае шмат што ад свайго дзіцяці. На Марыніным твары ляжала такая ж дзіцячая хітрасць, як і ў Настачкі.

Толькі што Марына скончыла гаварыць, як Настаччыны рукі ўскінуліся ўгару і ўся яна павісла на Марынінай шыі.

— Паднімай! — закрычала Настачка, але ўжо ў наступны момант выскачыла з пасцелі і, яшчэ не асвойтаўшыся ў святле сонечнай раніцы, пачала адзявацца. Марына стаяла над ёю з болем душы, што ўсё гэтае жартаўлівае Настаччына ўставанне з пасцелі, якое толькі што адбылося так, як адбывалася заўсёды, кожны дзень, ужо не тое самае, як заўсёды. Сёння гэта ўжо толькі так сабе і ўжо гэта непатрэбна. Усё скончылася. Іншы змест напоўніў усё жыццё, і яго не абмінеш, і трэба праз яго прайсці. І раптам і Настачка ўспомніла, што ўсё ўжо не так, як было кожны дзень, і выгляд яе стаў вінаваты, быццам яна зрабіла злое свавольства. Яна змоўкла, заклапацілася хутчэй адзявацца і шпарка прагаварыла:

— Мама, вайна ўжо скончылася?

А гэта пачынаўся толькі трэці дзень вайны. «Што ад яе хаваць праўду?! Можа, ёй прыйдзецца ўведаць гэтую страшную праўду так, як мільёны людзей раней не ведалі яе». Марына сказала:

— Сёння на світанні нямецкі самалёт лятаў над намі.

— А бомбы не скінуў?

Але ў гэты момант хлынуў недзе над галавой няроўны гул і пачаў тузацца з вышыні. Зашпільваючы яшчэ сукенку, Настачка следам за Марынаю кінулася на двор. Нямецкі самалёт ляцеў зусім нізка, здавалася, што ён зараз зачэпіцца за вяршаліны бяроз. Відзён быў на ім чорны знак, падобны на павука. Здавалася, што гэта яго вока, якім ён углядаецца ва ўсё, над чым ляціць. Настачка і Марына стаялі, прытуліўшыся да сцяны свайго дома. Напроці сябе, пад клёнам, Настачка ўбачыла свайго дзеда Максіма Астаповіча і з ім Ксавэра Блецьку. Абодва яны стараліся хутчэй дакурыць свае папяросы. Гул пачаў аддаляцца. Астаповіч паспрабаваў выйсці з-пад клёна, як раптам усё неба ўкрылася новай хваляй гуду. Усё раўло і тузалася.

Многа кругоў яны зрабілі над гэтым кутком. Яны адляталі назад і ізноў варочаліся. Вельмі можа быць, што іх цяглі сюды два каміны бровара. Блецька стаяў з белым тварам. Хто ведае, можа, ён у гэты момант перажываў пакуту страху перад занадта вялікімі памерамі

таго, што пачалося. Ёсць натуры такія, што баяцца гучнага злачынства. Ціхом ён можа зрабіць табе што хочаш. Можа, Блецька думаў, што занадта шырока і далёка ўсё пачалося? Ён яшчэ ззамаладу шукаў сабе аселішча на адзіноце. Пасля ён спаліў дом, баючыся, што пасля таго забойства на яго глядзяць людзі.

— Божа мой, божа, што гэта будзе,— сумна сказаў Блецька, выходзячы з-пад клёна.

Ён бачыў, як Максім Астаповіч нейк раптам асунуўся і ніжняя палова яго твару страсянулася.

— Бяда прыйшла,— сказаў Астаповіч.

— Бяда, вялікая бяда і гора наваліцца,— адказаў Блецька.

Настачка чула гэта, і сэрца яе заныла: за свой век яна яшчэ ні разу не чула, каб дзед Максім Астаповіч хоць раз калі казаў, што бяда прыйшла.

— Калі што будзе страшнае, дык хіба трымацца разам трэба будзе,— сказаў Астаповіч.

— Разам, толькі разам,— адказаў Блецька.— Адзін пры адным трэба будзе трымацца, добра ты кажаш.

— Каб гэта праўда, што Адам твой недзе ходзіць, ды каб яго бог дадому прынёс, то ў такі час было б добра табе. Ты ўжо ў гадах,— шчыра спачуваў Блецьку Астаповіч.

Блецька на гэта нічога не адказаў. Ён яшчэ доўга так стаяў моўчкі і, гледзячы на Настачку, абазваўся ціхім голасам, і сапраўды многа жалю было ў яго слове і тоне:

— А гэтае дзіця? Што тады з ёю рабіць прыйдзецца?

Гэта была тая мера, што перавысіла берагі Астаповічавай пакуль што яшчэ раўнавагі.

— Зойдзем у хату,— сказаў Астаповіч.

Яны ўвайшлі, і Блецька моўчкі сеў. Нешта яму не гаварылася. У гэтыя хвіліны ў яго думках узнікалі паасобныя карціны ім пражытага за ўсё жыццё. Ніколі раней так з ім не было. Можна сказаць, што ён добрага паўдня прасядзеў у Астаповічавай хаце, быццам бы сам не свой. Наглядальны чалавек адразу сказаў бы, што яго нешта мучыць, можа, нават часамі цяжкае прыгнечанне кладзецца на яго душу. Астаповіч усё стараўся пачаставаць яго, у некаторай меры з прычыны таго нядаўняга яго пачастунку ўночы, а найбольш з свае шчырасці. Блецька нічога ў рот не ўзяў і не параіў піць і Астапо-

вічу: не такі час настаў. З Настаччынай галавы не выходзілі яго словы аб бядзе і горы. Ахопленая трывогай, яна выйшла ў памежны пакойчык і стала глядзець на маленькі вазончык, як на жывую істоту. Вазончык стаяў на акне. Пасля яна выйшла на двор, і як бы адчуванне таго, што ўсё навокал яе мае зусім іншы сэнс, чым ёй раней здавалася, апанавала яе душой. Яна доўга стаяла сярод усяго таго, што заўсёды было ёй тым непарушным светам, праз які яна ўяўляла ўсю астатнюю рэшту свету.

## II

Перш за ўсё гэта была тая яе сапраўднасць, на якую мерылася ўсё, што дзе-небудзь магло існаваць. Гэта быў ноўны яе свет. Ён складаўся з усяго шматлікага, што мела сваё ўласнае жыццё. У гэтым годзе мела сваё жыццё высокая метлаватая травіна. Нейкім чынам яна прарасла праз кучу дробнага камення, назбіранага дзедам Максімам Астаповічам на полі і складзенага ля брамы. Далей раслі два дубы. Адзін быў тонкі і высокі, другі, як расказваў дзед, у сваёй маладосці зламаўся і рос нізка і раскідзіста. Быў вялікі камень, аброслы кругом травой, непадалёку ад сцежкі пад Блецькаву хату. Гэты камень быў выдатны тым, што на ім раз сядзеў і грэўся на сонцы каршак. На ўзлессі, вышэй за ўвесь лес і за кусты пад ёю, стаяла старая хвоя. Яна вызначалася тым, што калі заходзіла сонца, кожны раз хвоя стаяла, як у золаце, нават і тады, калі сонца ўжо не відно і лес спахмурнее. Тады дзед Максім Астаповіч заўсёды казаў, нават тады, калі лес трашчаў пад ветрам:

— От жа, цішыня якая!

Зусім блізка ад таго вялікага каменя была дробная і сухая паплаўная купіна. Пад ёю жылі рыжыя мурашкі. У бярозе было дупло, дзе жылі птушкі. Увосень вецер атрасаў з яблыні пачарнелае лісце. Уначы аж з-пад коўдры ў пасцелі чуўся грукат вадзянога млына, і тады здавалася, што вельмі добра было б пайсці туды і стаяць папацёмку на мастку. У позьнюю восень вада пад мастком чыстая і халодная. У агародзе на ўзмежку цвіло «бабіна лета», і калі нападае першы мокры снег і няма марозу, аблепленыя снегам блакітныя кветкі, дробныя, як іскры, цвітуць сабе. Тады дзед Максім Астаповіч прынясе ў хату мокрую кветку і скажа:

— От жа, мой божа, снег нападаў, а яно цвіце.

У хаце на акне стаяў вазончык. Гэта быў малюсенькі дубок. Максім Астаповіч прынёс жолуд і сказаў ёй:

— Пасадзі ў зямлю, што з гэтага будзе.

Усё гэта і незлічонасць падобнага абкружвала яе малую, і цяпер здавалася, што ўсё гэта стала як да часу. Інстынкт у чалавека аднолькавы, ці то стары чалавек, ці то дзіця. У дзіцяці інстынкт астрэйшы. Настачка стаяла адна сярод гэтага свайго свету. У гэты самы час самалёты зноў наляцелі і пачалі абстрэльваць з кулямётаў усю шырокую мясцовасць. Пасля гэтага, за паўгадзіны да заходу сонца, у поўным бязлюддзі ўсюды навокал, па той бок лесу, што пачынаўся поблізу Астаповічавага дома, сеў парашутны дэсант. І ніхто тут пра гэта не ведаў. Пачынаючы з гэтага моманту і аж датуль, калі сонца спусцілася за лес, панавала цішыня. І зародак нейкай надзеі закрануўся ў душы людзей. Але як толькі патанула сонца і змрок згусціўся, зноў, як навісь гора, паплыў страшны і агідны гул, створаны дзесьці ў Германіі. Немцы ляцелі адтуль, дзе зайшло сонца. Яны рабілі кругі ў небе, і гэта цягнулася доўга. Ужо зусім сцямнела. Высвецілі зоры. Захад сцьмеў. Тады недзе далей (цяжка было адразу пазнаць, у якім гэта было месцы) узляцела ракета. Тутэйшыя людзі не ведалі, што гэта такое. Не прайшло і двух хвілін, як зноў там жа ракета. І ў той жа момант людзям стала ясна, што вайна ўжо тут. Недзе ў тым месцы, дзе двойчы ўзвілася ракета, грунуў страшны выбух. На некалькі секунд гул у небе патануў у ім. Усё паветра тузанулася густой хваляй. Настачка прыціснулася да Марыны і асталася так. Пасля гэтага пачаліся выбухі ў іншых месцах. Павіс нейкі агонь над дрэвамі і дамамі, і ўсё ўсюды вырысавалася ў чырвоным святле. Усё стала відаць лепш, як у ясны дзень. Рэльефна вырысоўвалася кожная хвоя і кожны дуб. Відна была тая хвоя на ўзлеску, на якой заўсёды ў часе заходу ляжала сонца. І два дубы відны былі, і дахі дамоў, і комін завода. Усё грымела, ірвалася і калацілася. Праз пяць хвілін падняўся агонь з зямлі ў некалькіх месцах. На зямлі льга стала заўважыць хвойную іголку. Трыма палосамі агонь ішоў сюды, дзе стаяў Астаповічаў дом. Дзікія крыкі жанчын і дзяцей чуліся з вогненнага пекла. І вялікі натоўп бег адтуль сюды. І вось ужо тут, зусім блізка, агонь раскалоўся надвая рухавым чорным слупам, які ўзляцеў

угару і гайдануў сабою ўсё. Марына схапіла Настачку за руку, і яны пабеглі, самі не ведаючы куды, але і там, куды яны беглі, пачынаўся грымучы агонь. Яны зноў вярнуліся пад свой дом, які стаяў як на выспе сярод вогненнага мора. Настачка ўбачыла, што лісце на клёнах каля дома пакурчылася. Плынь гарачага паветра ішла сюды і біла горача ў твар. Хвоя, на якой ляжала вечарамі сонца, яшчэ ўсё была відна. Раптам яна хістанулася. Агонь і чорны слуп схапілі яе, ірванулі, загойдалі. Праз некалькі секунд яна стаяла без вецця і голля, адзін толькі ствол, абсмалены і нагнуты к зямлі. Скончана, ужо не будзе на што лажыцца вячэрняму сонцу. Грымучы трэск разарваў і скрышыў тыя два дубы. Лісце на іх тлела. Настачка ўбачыла, што ўжо няма на свеце і той метлаватай травіны над каменнямі. На каменне падаў чорны гар. Вядомы Настачцы свет канчаўся і тлеў.

— Зараз загарыцца наш дом,— сказала Марына, дзіка азіраючыся. Яна шукала вачыма таго месца, дзе льга было б выйсці з агню. Здавалася, што гэтага месца няма. Натоўп пачаў запаўняць сабой месца каля дома. Гэтыя людзі сталі бездапаможныя. Над імі панавала нябачаная імі раней навала недзе з прастору таемнага ўжо цяпер неба.

— Дзе цяпер наш тата? — шаптала Настачка, не адрываючы вачэй ад Марынінага твару і чакаючы ў ім сабе ратунку.

І раптам сярод усіх тут з'явіўся аднекуль Максім Астаповіч. Ён быў без шапкі, вусы няроўна звісалі ўніз. Лысіна здавалася вельмі ружовай. Увесь яго выгляд быў такі, быццам ён прыбег аднекуль.

— Трэба выходзіць у лес! — крыкнуў ён сярод кіпучага натоўпу.

Вялікая радасць чуць яго голас ажыла ў Настачцы і Марыны.

— Кругом агонь! — адказалі яму сотні ўтрапёных галасоў.

— Праз агонь! — крыкнуў Астаповіч.— Марына, Настачка, вы тут?

— Тут! Тут!

— Там агонь слабейшы! Туды! Трэба моцна бегчы! Настачка, бяжы да мяне!

Ён схапіў Настачку на рукі і шпарка рушыў кудысьці ў ясную прастору. Увесь натоўп ішоў за ім. З кожным

крокам пякло ў твары больш. Астаповіч прытуліў Настачку тварам да сваіх грудзей і пабег. І ўсе пабеглі за ім. Хвілін пяць яны беглі ў вялікай гарачыні. Астаповічу здавалася, што адзежа на ім пачынае тлець. Настачка як бы заспявала нейкую страшную песню. Гэта была адна толькі нота: а-а-а-а-а... Гэта яна плакала, закрываючы рукамі шчокі ад гарачыні. Пасля гарачыня скончылася. Астаповіч выбіваўся з сіл. Ён пайшоў цішэй. Стала цямней. Якое шчасце бачыць цяпер навокал сябе змрок ночы! Вось перад імі ўжо доўгачаканая сцяна хвояў. Чырвоныя водбліскі ўспыхвалі на тоўстым стволлі. Ён паставіў Настачку на ногі і павёў за руку яшчэ цішэй.

— Дзе наш цяпер тата? — раптам сказала Настачка. (Астаповіч маўчаў.) — Можа, мы сваёго тату больш не ўбачым? (Астаповіч узяў выгляд, што вельмі пільна ўглядаецца, куды ісці.)

Сваёй дзіцячай душой Настачка адчула, што прыйшла новая пара ў яе жыцці. І, як сумнае развітанне з мінулым, яе ахапіла жаданне вярнуцца назад і, можа, яшчэ ўбегчы ў дом. Яна гэта выказала так:

— Я не вынесла з дома той вазончык.

Астаповіч узрадаваўся такому павароту гаворкі.

— А нашто яго выносіць?

— А ён там высахне. Не будзе каму яго паліваць. А на дварэ ён рос бы пад дажджамі.

— Прывыкні, Настачка, да думкі, што дом наш згарыць разам з вазончыкам. І каб на дварэ быў — і там згарэў бы ад гарачыні.

— Мы ўжо бежанцы?

— Бежанцы. Цяпер мы пойдзем дарогай проста на ўсход.

І ён павёў усіх лесам да таго месца, дзе лес загінаўся к гасцінцу і на некалькі кіламетраў ішоў паўз яго. За сабой ён чуў прыглушаную хаду вялікага натоўпу, і гэта раптам пачало рупець яму: як быццам ён усіх вядзе. Як гэта так выйшла? Мусіць, не трэба, каб так было. Ён нават не ведае, куды самому ісці, а не так, што каб вывадзіць на дарогу гэтулькі людзей. А людзі ішлі за ім. У такія моманты кожнаму вельмі лёгка стаць якім-бы там ні было правадыром, даволі толькі сказаць хоць якое ўпэўненае слова, і ўсе пойдуць за ім. Яны ўжо ішлі гасцінцам. Сцяна лесу была ўжо цёмная, на дарозе трапяталіся яшчэ водбліскі. І вось перад усімі людзьмі на да-

розе паказаліся немцы. Гэта і быў той самы дэсант, што перад вечарам сеў поблізу.

— Назад! — закрычаў немец ломанай рускай мовай.— Быць на месцы! Ісці з бальшавікамі? Назад!

З-за дрэў грукнуў адзін толькі залп, і некалькі чалавек, абліваючыся крывёй, упалі на зямлю. Астаповіч, які ішоў з Настачкай папарадзе, бачыў гэта, але не да таго яму было, каб падлічыць, колькі людзей упала. Прага ратунку ахапіла людзей. Усе беглі назад. Следам за ўсімі, зноў схапіўшы Настачку на рукі, ішоў Астаповіч. Нагамі ён ледзьве клыбаў. Боязь таго, што ён упадзе, апанавала яго. Абы-толькі абыякавасць да ратунку не з'явілася! Абы-толькі каб не страцілася воля і імкненне! Ён прыціскаў да сябе Настачку і думаў, што скончылася яе шчасце жыць на свеце. Пачынаецца тое, былое, пра што ён думаў, што яно больш не вернецца. І свядомасць свае віны перад Настачкай страшным смуткам здушыла яго. Ён быў несправядлівы да яе: ён думаў, што жыццё будзе ёй вечным святам, і не меў да яе такога вялікага замілавання, якое з нічым непараўнанай сілай выбухнула цяпер і заўладала ім усім. Ведаў ён, што ўжо ўсё роўна, ці астанецца дом, ці згарыць. Не ў доме было самае важнае. За некалькі гадзін напоўнілася мера жыцця. Прыйшла вялікая пакута. І хто прынёс яе, і за што? Усе дайшлі да месца, дзе канчаўся лес. Пажар утаймоўваўся. Рабілася цямней. Якая жаданая стала цяпер яму цемень ночы! Упочы не ўбачыць чалавека злая сіла. Ужо агонь не трашчаў, і толькі ўспышкі яго ўскідаліся шырока і зноў апалалі. Натоўп стаяў у страшным маўчанні. Раптам гэтае маўчанне разарваў моцны енк жанчыны:

— А ляжыш ты там недзе, прабіты кулямі!

І растрапаная жаночая постаць кінулася праз увесь натоўп туды назад, к лесу. Зноў стала ціха. І зноў голас, прыглушаны, поўны адчаю. Астаповіч нават не разабраў — мужчына гэта сказаў ці жанчына:

— Узяўся весці і вывеў усіх пад кулі.

«Хіба я вёў, калі вы самі ішлі за мной?» Ледзь стрымаўся ён, каб не крыкнуць гэта. Ён адчуваў, што супроць свае волі і жадання ён стаў як бы правадыром нейкім. Яму пачало рупець, што не можа ён кожнаму даць параду і месца. Ён трымаў за руку Настачку і вёў яе ў ціхае месца, дзе пачынаўся лес вузкай сваёй градою. Ля першых дрэў ён спыніўся і азірнуўся. Натоўп разыхо-

дзіўся хто куды, ужо толькі блукалі там адзінокія пастаці. Не выпускаючы Настаччынай рукі, ён мінуў дрэвы. Стаяла цішыня. Вадзяны млын вырысоўваўся чорнымі абрысамі.

— Трэба, каб ты, Настачка, дзе-небудзь заснула. Што табе, не мучся, я за цябе буду думаць.

Бездапаможна ён азірнуўся. Побач яго стаяла Марына. І ў гэты момант здалося яму, што гэта яна такая, як многа год таму — малая і беспарадная — стаіць перад ім. Тое шчасце, што было цэлымі гадамі, прайшло, як сон. Злы лёс не хоча выпусціць чалавека з-пад свае ўлады. І яго з вялікай сілай пацягнула да Блецькі, каб разам з ім так пабыць па-чалавечы, як тады, калі ён прынёс яму вестку пра Адама. Тады яны сталі з ім як бы блізкімі. Хоць памаўчаць разам з ім ці хоць толькі сказаць: «Божа мой, божа, што сталася на свеце». Хіба Блецька не можа быць яму цяпер блізкім чалавекам? Хіба мала нагараваўся ён з-за свайго Адама! І хіба не ён, не Максім Астаповіч, бег да яго з навіною, каб прынесці яму надзею, што Адам жыве на свеце?

— Тут трэба перачакаць ноч,— сказаў ён да Марыны.— На шчасце, у мяне цяпер ключы ад млына. Я адамкну. І няхай усе, хто хоча, увойдуць туды. Толькі няхай самі, а то калі што якое, дык — чалавек заўсёды хоча знайсці вінаватага.

Ён адамкнуў млын і ўвайшоў у цемень гэтых сцен, так добра яму знаёмых за многа год. За ім пачалі ўваходзіць сюды жанчыны з дзецьмі.

— Вось тут на падлозе як-небудзь палажы Настачку, няхай засне, і сама пастарайся задрамаць. А я пайду паглюджу, калі дом астаўся, я што-небудзь прынясу вам з яго.

— Дык, можа, мы тады вернемся ў свой дом,— з надзеяй сказала Марына.

— Пасля пабачым. Там самае пекла, невядома яшчэ, што будзе, а тут глушэй. Пачакаем да раніцы.

Ён выйшаў. Агню ўжо не было, і толькі тлелі асмалкі і зацягваліся попелам. Ён убачыў: вырысоўваецца чорны сілуэт яго дома. Без радасці ён прайшоў паўз свой дом. Хутчэй да Блецькі. Хата яго стаіць малая, ціхая. Узышоў па ганак, узяўся за клямку. На дзвярах вісеў замок. У вялікай цішыні Астаповіч стаяў пад гэтымі дзвярамі і думаў пра тое, што Блецьку ўдалося выйсці адсюль і ён,

можа, ужо дзе далёка, дзе няма немцаў. Ён там шчаслівей, як тут, перачакае бяду. Астаповіч зайздросціў Блецьку. Ціха сышоў ён з ганка. Як вобмацкам, увайшоў ён у свой дом. «Настачка бедавала, што засохне без вады дубок у вазончыку». Ён зняў з акна вазончык і вынес на двор. Падышоў да той кучы камення, выграб пальцамі зямлю, разбіў аб камень пасудзіну, усім вільготным злепкам узяў з чарапоў зямлю з раслінай і пасадзіў у разгрэбленую зямлю. «Выжыве — дык выжыве». Увайшоў назад у хату, забраў Настаччыну вопратку і пайшоў назад. Настачка спала ў млыне на падлозе. Марына сядзела каля яе. Асцярожна выйшаў ён назад і курыў на мастку да самага рассвітання. Займалася на дзень. Ён пайшоў туды, дзе многа год пражыў. Абкуродымлены яго дом стаяў пасярод асмалкаў. Наводдалек відна была Блецькава хата. Не было ўжо ні вуліц, ні трактарнай станцыі, ні бровара, ні малочнага завода, ні ўсяго таго, што тут існавала дваццаць год. Дрэвы над асмалкамі тырчэлі ўгару абсмаленыя, пакурчаныя, аднымі чорнымі сукамі на скалечаным стволлі. Толькі далей ад гэтага месца, якое кранула чорная рука смерці, скрозь зелянелі дрэвы, пасаджаныя за многа год яго рукамі. У страшным смутку дайшоў ён да першага з гэтых дрэў і прыціснуўся да яго галавой. Блецькава хата зноў з'явілася перад яго вачыма. Ён пайшоў туды. На дзвярах, як і ўночы, вісеў замок. Максім Астаповіч сеў на ўсходах Блецькавага ганка і заплакаў, як малое дзіця.

## III

Усё тое, што было раней у Гальвасавым маёнтку, стаяла і цяпер на сваім месцы. Стаяў той самы дом, і парк астаўся. Толькі ад парку і да самай Нясвіжскай дарогі высаджаны былі таполі і ясені ў радоў сорак. Гэта і было тое месца, дзе Адам Блецька ў першую ноч свайго з'яўлення сюды чуў танцавальную музыку. Таполі і ясені ўжо ўвабраліся ў сілу, і гэтае месца стала новым паркам, які зліваўся са старым, Гальвасаўскім. Гальвасаўская сяліба была цяпер уся пабіта на агароды. Былі тыя самыя сады, і Астаповіч тут развёў школку маладых дрэўцаў, якімі ўсё яшчэ абсаджваў дарожныя абочыны, пустыя куткі, межы паміж балотамі і полем, і ўсюды, дзе льга было пасадзіць дрэва.

Ужо ў той самы дзень, калі з'явіўся сюды Тоўхарт, Адам Блецька казаў бацьку, што Тоўхарт да канца задаволен усім тым, што тут знайшоў. Следам за ім хадзіла восем салдат, калі ён адразу пабег аглядаць маёнтак. Відаць, ён меў тут нейкія свае намеры. Нягледзячы на сваю паважнасць, ён вельмі шпарка абляцеў усё, разглядаў усё тое новае, чаго пры Гальвасу не было і што з'явілася тут апошнімі гадамі, нікому нічога не сказаў і толькі ляпнуў Адама Блецьку па плячы. З гэтага моманту Адам ужо не туляўся, але пакуль што ніхто з людзей, хто б мог пазнаць яго, яшчэ яго не бачыў. Тоўхарт тут з'явіўся так: з сваімі машынамі і салдатамі ён ускочыў у маёнтак, і людзі не маглі ведаць, хто такі прыехаў. Толькі гаварылі, што прыехаў нейкі немец і з ім яго салдаты. Здагадваліся, што гэта нейкі нямецкі начальнік. На павароце дарогі ў маёнтак з гасцінца адразу стаў вартавы салдат, а другі на самым уездзе ў маёнтак. Гэта былі першыя нямецкія салдаты, што асталіся тут сталым парадкам. Не спадабалася Тоўхарту толькі ў сярэдзіне дома: там была школа. Вядома, ён і не спадзяваўся, што там усё Гальвасаўскае астанецца на месцы і льга будзе сесці ў гатовае добрае старое крэсла, але ён не думаў, што там толькі ёсць школьныя сталы і лаўкі. Як толькі ён увайшоў сюды, ён скрывіўся. Салдаты пачалі ачышчаць для яго пакоі. Прыгналі некалькі жанчын мыць падлогу. Жанчыны былі маладыя, выраслі яны ў апошнія часы і не маглі ведаць, што гэты паважны немец сын таго Тоўхарта, якога тутэйшыя старыя часам яшчэ ўспаміналі. Нешта гадзіны праз дзве ён (з Эльзай і за імі чатыры салдаты і Адам Блецька) выйшаў праз стары парк на вузенькую палявую дарогу. Крокаў за тысячу ад парку стаяла ў полі каталіцкая капліца з укрыжаваным Хрыстом наверсе. Некалькі магіл танулі ў высокай траве навокал капліцы. Ровам і валам было абкружана гэтае месца. Магіл было не больш дзесяці, і адна з іх наводдалек ад усіх, у самым кутку. Гэтае сумнае месца вечнага спакою ўзняло ў Тоўхарта нейкую празмерную ўзбуджанасць і асабліва тады, калі ён стаяў над адзінокай магілай.

— Не таму,— сказаў ён да Эльзы,— яна пахавана тут адна, што яна не каталічка, а ў магілах усё Гальвасы каталікі. А таму, што яна была жонка ўпраўляючага. Дзе ж ёй гніць у магіле побач з касцьмі Гальвасавых продкаў!

Пасля гэтых пагардлівых да Гальвасавай фаміліі слоў ён пайшоў назад і ўбачыў, як праз дзверы і вокны салдаты выкідалі з дома школьныя сталы і шафы. Палавіна дома была ўжо вымыта, і там была пустэча. Ён стаў над адной жанчынай і запытаў тонам загаду:

— Дзе дзелася Гальвасаўская мэбля?

Спалоханая жанчына нават не паспела здзівіцца, што немец гаворыць да яе не па-нямецку, быццам ён быў рускі.

— Недзе падзелася,— адказала жанчына.

— А дзе? У каго яна цяпер?

— Гэтага я не магу ведаць. Я тады была яшчэ малая, калі Гальвас жыў тут.

Адам Блецька стаяў паводдалек, выцягнуўшыся прутам і зняўшы шапку. Ён быў ужо гладка выгалены і прычэсаны, і ў новым гарнітуры, які аднак сядзеў на ім даволі мешкавата. Гэта быў выпадковы гарнітур, які ціхом прынёс яму бацька з кааперацыі яшчэ тады, калі ён не асмельваўся дняваць дома. Тоўхарт кінуў вачыма на Блецьку. Гэта нічога, што Блецька толькі што вярнуўся з ім з могілак. Тоўхарт узяў выгляд, што толькі цяпер заўважыў перад сабой свайго папіхайлу.

— Ты тут? — сказаў Тоўхарт.

Блецька таксама разыграў добра ролю. Ён бачыў навылёт Тоўхарта і ненавідзеў яго, і здаўных, і за цяперашнюю пагардлівасць да сябе.

— Хіба ж вы, паночку, забыліся? Я ж праз вас хадайнічаў, каб пры маёй пасылцы далі мне месца сюды, дзе мой дом.

— Ага, памятаю.

У гэтыя дні, калі пачала ажыццяўляцца Адамава доўгачаканасць, ён гатоў быў пакланяцца кожнаму, хто зневажае яго, але ад каго залежыць яго шчасце. Ён быў як зачумлены ад свае радасці, што пачынае жыць спачатку. Ён ведаў, што Тоўхарт не мог забыцца, што сам пасылаў яго сюды. Ён жа даваў яму распараджэнне глядзець, каб Гальвасаў дом астаўся цэлы, пастарацца, каб усцерагчы яго ад агню. Відаць было, што Тоўхарт мае тут свае асабістыя намеры. Можна сказаць, што гэта было самае важнае, дзеля чаго Тоўхарт выслаў яго сюды яшчэ загадзя. У іншы час Адам заўважыў бы астрэй, што Тоўхарт цяпер забаўляецца з ім і перажывае з асалодай сваю вялікасць. Цяпер гэта не нарадзіла ў Адамавай душы

якога б там ні было болю. Нянавісць яго да Тоўхарта была роўная. Ён сказаў:

— Мой бацька, можа, і ведае, дзе што дзелася з дома.

«Ён ужо даўно ходзіць тут каля мяне»,— падумаў Тоўхарт, і ніхто не заўважыў бы, што ён бачыць перад сабой тое, яму непрыемнае, што ён ацаніў высока і за што мог узнагародзіць.

— Няхай зойдзе сюды твой бацька,— сказаў Тоўхарт, і Адам пабег па бацьку.

Ксавэр Блецька явіўся да Тоўхарта з трывогай: ён перажываў непрыемнасць першага кроку пасля даўгагодняй сядні, у якую ўрос па вушы. Ён яшчэ не ведаў і нават не спадзяваўся, што ідзе на пачатак свае гібнай дзейнасці. Ён у гэты момант і не думаў за што-небудзь такое дзейнае брацца. Але адчуваў, што ідзе туды, дзе не можа быць сам сабою, як прывык быць дагэтуль, хоць бы сабе ў сваёй каапераныі. Ён быў не дурны і ведаў, куды і да каго ідзе і што такое сталася на свеце. І больш за ўсё прагнуў аднаго: каб яго там, куды ён ідзе, як найменш заўважылі і каб адразу пусцілі назад з поўным правам пачаць жыць спачатку. Гэтая надзея захапляла яго. І дзеля гэтага, хай бы сабе немцы тут асталіся, але каб яны ніколі не заходзілі ў яго дом. У гэтым сэнсе ён быў самая выразная супроцьлегласць свайму Адаму, які ўсімі мерамі стараўся быць на нямецкіх вачах. Ён паспеў ужо расказаць Тоўхарту, як даваў ракетныя сігналы і як аберагаў дом. Давёў да ведама, што ўжо ходзяць чуткі, што Чырвоная Армія знішчана. І што за ўсё гэта ён спадзяецца на ўзнагароду. Вядома, гэта не было так выразна і проста сказана, а з мужычай хітрасцю, і Тоўхарт заўважыў гэта. Вельмі можа быць, што Тоўхарту гэта падабалася: калі дамагаешся падзякі, то ведаеш, што дарэмна яна не даецца. Такі будзе служыць вераў і праўдай.

Ксавэр Блецька яшчэ не распазнаў добра, ці сапраўды гэта той самы колішні Гіндрык Тоўхарт, які калісьці быў гімназістам, як Тоўхарт адразу сказаў да Адама, быццам бы канчаючы ранейшую гаворку:

— Тут будзе воласць, і ты будзеш начальнікам валасной паліцыі. Паліцыю трэба сабраць самому.

У Ксавэра Блецькі скаланулася душа: як усё павярнулася на свеце. Няшчасны туляга, якому не было прыстанку, каб дзе галаву прыхіліць, робіцца гаспа-

даром над людзьмі. Адамаў твар свіціўся шчасцем. Тоўхарт доўга прыглядаўся да Ксавэра Блецькі, пакуль сказаў:

— Так і жыў адзін усе гады?

— Адзін.

— Добра было?

— Жыў.

Тоўхарт, здаецца, сумеўся, не заўважыўшы якога б там ні было энтузіязму ў Ксавэра Блецькі. Блецька ў гэты момант сам не ведаў, як яму трымацца і на які тон націскаць. Кемлівым сваім розумам ён усведамляў, што тут не тое, што прыедзе, бывала, які-небудзь хоць бы з вобласці начальнік. Які б ён вялікі ні быў, а з ім гавары як хочаш. А тут трэба ведаць, на якую нагу стаць і ў які тон трапляць. К таму ж тут, можа, яшчэ трэба схіліць галаву з падзякай за прынесены зварот да таго жыцця, па якім ён уздыхаў гэтулькі год. Ксавэр Блецька, збянтэжаны, зусім выбіўся з тону і гаварыў сам мала разбіраючыся што. І яшчэ адно: нават каб і хацеў ён, яму ўжо цяжка было на старасці год выбівацца з той каляіны, да якой прырос за доўгія гады. Адным словам, гэтаму савецкаму кааператару прыходзілася ў гэтую хвіліну вельмі туга. Ён пяўся з усіх жыл і паглядаў на свайго Адама, як на збавіцеля.

— Ты тут усё і ўсіх ведаеш?

— Ведаю.

— Будзеш бургомістрам. Ведаеш, што такое бургомістр? Начальнік над воласцю. Старшыня, ці староста... Ён не разумее... Растлумач яму,— павярнуўся Тоўхарт да Адама.

— Ён разумее, яшчэ і як,— весела адказаў Адам, звысоку паглядаючы на збянтэжанага бацьку.— Гэта ён рад.

— Толькі ты не будзь такі. Будзь цвёрды. Праз твайго сына я ведаю ўсе твае справы. Заслужы, каб табе адразу было вернута ўсё, што ты страціў.

— Я ўжо і цяпер вывез бы дрэва на дом. Дом жа мой прапаў. Жыву, як у свінуху.

— Вазі! — махнуў Тоўхарт рукой з такім выглядам, як бы хацеў сказаць: даставай хоць зоры з неба, у маёй кішэні ад гэтага нічога не зменшыцца.

Тоўхарт нейкі час глядзеў на Блецьку, пацяшаючыся размяклым выглядам гэтага чалавека, які стаяў, нясмела

ўнурыўшыся. Блецькі здагадаліся, што гаворка скончана і няма больш чаго турбаваць Тоўхарта. Моўчкі яны варочаліся да свае хаты. Шчаслівы Адам не заўважаў маўклівасці свайго бацькі. Ксавэр Блецька ў гэтыя хвіліны адчуваў вельмі востра, што далейшая дарога яго ўжо наканавана як мае быць. Ён бачыў, што яго пацягло ў рух, у плынь, у хаду. І яму трэба ісці гэтай дарогай, і ён з яе не зверне. І няма чаго нават і думаць, што ўдасца стаць такім, якім быў раней, і мець тое, што страціў, без таго, што трэба яму цяпер рабіць. І ён ужо, каб і хацеў, не будзе мець павароту назад, а таму трэба цвёрда і рашуча ісці наперад, хоць заплюшчыўшы вочы. Тым больш што ён стаіць па гэты бок новага закону. І так, як многа год таму назад, адразу пасля знікнення Адама, ён вырашыў жыць так, як набяжыць, гэтак і цяпер ён наважыўся ісці разам з Адамам туды, куды паказаў яму Тоўхарт, куды так бурна дзьмуў гэты новы тут вецер. І тут ён знайшоў сабе на гэты час заспакаенне. Гэты дзень скончыўся.

## IV

Як быццам бы ўсё было добра. Усё павярнулася другім сваім бокам. Нават перавысіла ўсе яго даўгагоднія жаданні. Ён вярнуўся ў тое месца, па якім так многа год сумаваў. Ён тут цяпер можа хадзіць смела. Ён можа вярнуць сабе страчаны дом. Ён вярнуў сабе жыццё. Хоць многа ён выпакутаваў і высумаваў, але ўсё мінулася, ён дасягнуў свайго. І нават больш: калі ён марыў раней толькі пра спакойны зварот сюды, то цяпер ён мае нават уладу тут. Усё сталася так, як ён і гаварыў бацьку: прыедзе Тоўхарт, і ён можа пляваць на ўсё. Ніхто не пасмее паказаць на яго пальцам. Тады ён толькі хваліўся бацьку, каб падбадзёрыць яго, а ўсё якраз так і выйшла, быццам яшчэ тады ў Германіі было спланавана разам з Тоўхартам. І ўсё ж яго скрэбла штосьці за душу. Гэта быў смутак па страчаным. Усё ж такі нешта было і такое, што ўпарта не хацела станавіцца на сваё месца. Што гэта было? Якое месца яно займала ў яго душы? Ён і сам не мог тут нічога выразнага сказаць і нават сфармуляваць у думках. Пакуль што ён яшчэ не ведаў, што тут пачынаецца яго сапраўдная горач. Штосьці тупое і цяжкае гняло яго. Яно з'яўлялася раптам, момантамі і атручвала ўвесь настрой, якому не было прычыны не быць ружовым.

Ён пражыў ужо на свеце бадай-што не менш як чатыры дзесяткі год. Гэта былі годы незадаволенасці тым, што было. Пасля былі гады чакання. Жылося як да часу. Значыцца, былі прычыны, з якіх яму лягчэй было заглушаць у сабе свае самыя патаемныя імкненні. Але нават і тады яму цяжка было адганяць ад сябе няўяўны і няпэўны вобраз жанчыны. Яму было цяжка начамі ў той мураванай прыбудоўцы пры Тоўхартавым доме. І самае горшае было, што гэта быў вобраз выразны. Яна сапраўды існавала на свеце. І цяпер яна недзе тут блізка... Што яна думае цяпер? Якім светам поўніцца яе душа? Дзіўная рэч, але ні разу не прыйшла ў яго галаву думка, што многа год прайшло з таго часу. Гэта была застыласць у яго душы. Звароту свайго сюды ён чакаў. А яе толькі прагнуў. Прага ператварылася ў мару, якую не маглі задушыць хоць бы сабе і частыя спатканні з выпадковымі жанчынамі. І гэтая мара цяпер не давала яму спакою. Годы не зрабілі яе слабейшай: ніколі яна не мела свайго задавалення і аставалася, хоць без грунту пад сабою, але ў сваёй сіле, атручаная рэальнасцю, але ад гэтага і нязломная.

Калі тут усё гарэла і рвалася, ён перажываў шчасце. Ідзе ў нябыт тое, што тут з'явілася без яго і што змяніла выгляд таго яго кутка, аб якім ён увесь час думаў. Некалькі гадзін ішло гэтае спусташанне, і яно варочала яго да жыцця. А тое сапраўднае жыццё было ў яго толькі тады, калі нічога гэтага, што цяпер гарыць, тут не было. Было пустое поле, лес і яго благаславенны куток на краі Гальвасаўскіх уладанняў. Цяпер ён глядзеў на чорныя асмалкі і стараўся ўявіць сабе, як усё тут будзе выглядаць, калі чарната сыдзе і ўсё зарасце травой. Так усё будзе выглядаць, як тады, ці не? Пакуль што ён цешыў сябе, што справа не ў дакладным падабенстве да мінулага, а ў тым, што знайшоў сваё жыццё. Але гэтага было мала.

Ён ведаў, што астаўся гэта яе дом, тут яна жыла. Унь тая сцяна, з якое ён многа год таму назад у вялікім утрапенні зрываў кілбасы і ўбачыў яе. Страшны быў той момант! Каб ён тады, стоячы адной нагой быццам над бяздоннем, не ўбачыў яе, можа, вобраз яе і не з'яўляўся б мучыць яго. Няхай бы лепш і гэты дом згарэў. Цяпер ён здалёк відзён яму з вокан бацькавай хаты. Зараз ён будзе пачынаць тут сваю дзейнасць. Пакуль што яшчэ не ведаюць, што ён тут. Хто бачыў яго — ніхто не пазнаў, гэта былі людзі маладзейшыя, яны выраслі без яго. Але, можа, пра

яго асталася памяць, як пра таго, хто забіў брата? Пляваў ён на ўсіх. Ён стане перад імі і пакажа ім іх месца. Яго цяпер верх.

Цэлы дзень пасля таго назаўтра, як гаварыў з Тоўхартам, ён праседзеў у хаце. Тоўхарт дасць яму ведаць, калі пачаць арганізоўваць з тутэйшых людзей паліцыю. Пакуль што яшчэ рана было. Яшчэ з фронту даходзіла сюды артылерыйская кананада. А калі гэта толькі і здаецца, то яшчэ не настала пара цывільнай улады. Так казаў Тоўхарт. Цяпер ён толькі складае спіс тутэйшых камуністаў. Бацька яго ўсіх ведае. Не прывыкшы да пяра і паперы, ён цэлы дзень пісаў. Бацька мог бы напісаць хутчэй, але ён хацеў сваю ўласную работу аддаць Тоўхарту. Цэлы дзень ён трымаў пры сабе бацьку. Вялікае задаваленне ён адчуў у сваёй душы, калі бацька прадыктаваў яму ў гэты спіс Уладзіміра Вялічку. Аж на нейкі час радаснае ўзбуджанне апанавала яго, калі ён пачуў імя гэтага чалавека, якога бачыў толькі ў яго маленстве і нават яшчэ не ў маладосці.

Канчаўся дзень. Ціха было і бязлюдна. На пажарышчах толькі відны былі адзінокія постаці. Прыгінаючыся, яны корпаліся ў асмалках. Жыццё стаілася дзесьці тут і маўчала. Людзі сышлі кудысьці. Пустэча панавала тут. Але людзі былі дзесьці тут блізка. Было б лепш, каб яны або зусім сышлі, або з'явіліся тут перад ім і абазваліся на ўвесь голас. Так як было цяпер — было яму нядобра, сваю несвядомую трывогу ён не мог аніяк растлумачыць. Няхай бы або ўсе яго адразу ўбачылі, або зніклі навек, каб ён тут адзін астаўся назаўсёды. Не было ў яго чыстага шчаслівага настрою. Так ён выйшаў к самаму канцу дня бадзяцца па той пустэчы, дзе стаяў гэты памятны яму дом.

Сонца ўжо стаяла зусім нізка. У чырванаватых яго колерах чорныя руіны здаваліся страшнымі. Ужо цямнела. Ён паволі ішоў пратаптанаю яго бацькам да кааперацыі сцежкаю. І раптам ён уздрыгануўся. Нездарма ён так доўга брадзіў каля гэтага дома. Гэта ішла яна. Яму здавалася, што ўсё пайшло кругамі перад яго вачыма. Хутчэй за ўсё ён здагадаўся, што гэта яна. Толькі праз некаторы час ён пачаў успамінаць, што гэта яе выраз твару і яе паходка. Цяпер жа ён убачыў перад сабою таго, каго не ведаў і ведаць не мог. Хіба тая, што з'яўлялася перад ім мучыць яго, была такая? Хіба гэта яна стаяла тады, многа год таму, каля той сцяны, дзе ён пакаваў сабе мяшок ядою? Ён марыў пра тую. Гэтай ён не ведаў. Цяпер яна здавала-

ся як бы вышэйшая ростам. Хоць яна і вельмі шпарка цяпер ішла, але відно было, што звычайна хада яе павольная. І валасы ўжо здаваліся не такімі густымі. Хоць, можа, гэта так яны былі прычэсаны цяпер, але ён пра гэта не думаў. Тады яна была ўвасабленнем жвавасці. Калісьці яна была спалохалася яго. Але ў такім сваім стане яму тады здавалася, што яна зараз зарагоча з яго. І гэта ўсё было вялікай прывабнасцю. Цяпер яна была празмерна сталая, нават вельмі ўнураная і маўклівая. Гэта было напісана на яе твары. І разам з тым была на твары пячаць таго ж самага, што так не давала яму спакою многа год. Ён выразна разгледзеў яе твар. Непераможную чужасць сабе ён адчуў у ёй. Смяртэльным холадам напоўнілася ўся яго істота. Ён сышоў убок і пачаў аддаляцца, прагнучы таго, каб яна яго не заўважыла. Здалёк ён наглядаў, як яна ўвайшла ў дом і неўзабаве выйшла, несучы скрутак нейкай адзежы. Ён бачыў, як яна замкнула дзверы і пайшла. Значыцца, яна тут не жыве, баіцца. Ужо калі яе не відаць было, ён адчуў, як смутак напаўняў яго душу: толькі ў гэты момант ён упершыню думаў пра тое, што прайшлі гады, што яму падбіраецца пяты дзесятак год і што прайшоў час, калі ён мог бы пачаць жыць спачатку. Як бы ён цяпер ні жыў — гэта ўжо будзе не тое самае. Мара была пустая, яна растала ў адзін момант і саступіла месца свядомасці таго, што мінулае ніколі не можа вярнуцца. А значыцца, жыццё яго скалечана навек. Смутак яго скончыўся страшнай злосцю, і ніколі нікога і нічога на свеце ён так не ненавідзеў, як з гэтай хвіліны ненавідзеў Марыну. Гэта была яго патаптаная пад ногі мара. Ён бы, здаецца, задушыў яе сваімі рукамі. Ужо зусім сцямнела, а ён усё бадзяўся тут адзін. Парывы яго першых дзён раптам сцьмелі, і было страшна: няўжо ён страціў радасць свайго звароту да жыцця? «Дзе яны ўсе туляцца? Дзе яна жыве цяпер?» Ён пайшоў у той бок, стараючыся ўгадаць, дзе яна падзелася, і падышоў да млына. Там гаварылі ў цемені людзі. Ён прыліп да дрэва, і радасць вярнулася да яго: яны там недзе ў цёмным млыне гавораць. І ён, хоць не можа разабраць іх слоў, але мае над імі ўладу, і яны нават і не здагадваюцца, хто тут стаіць поблізу іх. Шмат хто з іх яшчэ памятае яго. Яны і не ўспаміналі ніколі яго, можа, нават пляваліся, успамінаючы яго, для іх ён быў толькі забойца брата і больш нічога. І кожны з іх напэўна тады аддаў бы яго ўладзе, каб яго судзілі. Але ён выжыў і вярнуўся і можа

зрабіць з імі што хоча. У яго аж галава кружылася. І вялікая цяпер стала яму асалода ад свае адзіноты. Доўга ён тут стаяў і чуў, як плакала ў млыне дзіця.

З таго часу ён кожны позны вечар прыходзіў ціхом у гэтае месца піць сваю асалоду.

## V

У адну з тых начэй (яшчэ не было занадта позна, толькі скончыўся вечар) двое людзей блукалі па глухіх закутках гэтага месца. Яны трымалі сябе вельмі асцярожна. Некалькі разоў яны выбіваліся з лесу на Нясвіжскі гасцінец і ўваходзілі назад у лес. Стаяла такая цішыня, што аж жудасць брала. І ў гэтай цішыні вельмі страшна даходзіў сюды водгаласак далёкай артылерыйскай кананады. Нават гуку і не чутно было, толькі як быццам уздрыгвала зямля. Асмалкаў пажарышча два чалавекі не бачылі ў чорнай цемені і ўсё шукалі якіх-небудзь адзнак чалавечага жытла. Толькі яны чулі гарэлы пах адусюль, які змешваўся з водарам лясной хвоі. Яны хадзілі моўчкі, нават не шапталіся. Навакольную цішыню ўраўнаважваў роўны шум. Ён быў да таго аднатонны, што зліваўся з цішынёю. Ішоў ён з-пад млына. Вадзяк запуставаў млівам, вада перавысіла плаціну і няспушчаная цякла цераз масток і цадзілася ўніз. Двое людзей і пайшлі на гэты шум, пільна ўглядаючыся ў цемень. Чорны сілуэт млына неўзабаве вырысаваўся перад імі. Яны стаялі ў поўнай нерашучасці, куды далей падацца. Адзін шапнуў:

— Прыйдзецца чакаць раніцы дзе-небудзь тут.

Яны селі пад дрэва, на мяжы хмызнячнага зарасніку і цёмнай прасторы, дзе ім здавалася за млыном поле. У часе іхняй сядні яны заўважылі нейкі рух каля млына. Ім здалося, што некалькі чалавек нешта робяць. Праз вадзяны шум нават чулася гаворка. Каля залітага вадой мастка пачалі нечым драўляным стукаць, і раптам вадзяны шум прыглушыўся і ўпаў на ніжэйшыя тоны. Вада зараўла і хлынула з кароткім скогатам. Пасля з кожнай хвілінай шум зменшваўся, і ў вушах стала спакайней. Хтосьці падняў застаўкі пад мастком. Ужо выразна чулася гаворка. Дзесьці там, па той бок вады, успыхнула запалка і асвятліла на адну секунду бярвенчатую млынавую сцяну і пры ёй некалькі чалавек. Выгляд іх быў самы нявінны і мірны. Прынамсі так у момант здалося гэтым двум. Старыя мужчыны

і, відаць, тутэйшыя людзі. Але што яны тут робяць уночы? Настала цішыня. Вада схлынула. Каля сцяны толькі ўспыхвалі спакойныя агеньчыкі ад папярос. Часам папяроса асвятляла вусы і пальцы, якімі чалавек стараўся прыкрыць успышку папяросы.

— Курадь,— шапнуў адзін з гэтых двух.— Можа, паспрабаваць абазвацца ім? Ідзі ты. Ты не вайсковы, табе смялей пачаць. Не бойся, калі што якое, я іх разганю стрэлам.

Адзін з двух паволі ўстаў з зямлі і ціха кашлянуў.

— Нехта кашляе,— пачуўся з-пад млынавай сцяны стрыманы і трывожны голас. І ўсё сціхла. Чалавек падышоў да самага берага рачулкі і абазваўся:

— Ці не можна, браткі, закурыць у вас?

— Закурыць? — пачуўся нерашучы адказ.— А хто ты такі?

— Згарэла мая хата.

— Дзе гэта?

— Не блізка адсюль.

— Ідзеш куды?

— Пад Мінскам сястра мая жыве. Туды бяруся,— хлусіў чалавек.

— А хто цябе ведае, ці ты праўду кажаш, ці не. Ты адзін?

— Адзін,— адказаў чалавек пасля кароткага маўчання.

— Ну ідзі, закуры сабе, калі хочаш. На масток ідзі, вада схлынула.

Па мокрым мастку чалавек перайшоў на той бок, і яго спаткала некалькі чалавек. Чыркнулі запалкай, разгледзелі вусатага невысокага чалавека. Наколькі ім льга было яго разгледзець, ён ім здаўся сапраўды падарожным: парваная вываленая ў зямлі адзежа і ўвесь выгляд яго.

— Здалёк ідзеш?

— З-за Баранавіч.

— А што чуваць па людзях? Што з людзьмі немцы робяць?

— Як дзе. Я быў у дарозе. Ішоў сабе.

— Няпраўду кажаш! Калі ішоў, дык і глядзеў вачыма і слухаў вушыма.

— Ну, хату маю спалілі.

— А жонка твая і дзеці?

— Жонку забілі. І хлопчыка забілі, што быў у мяне.

— Закурвай жа! А што яшчэ чуў?

— У кожным месцы па-інакшаму гавораць.

— Ды не бойся ты! Дзівачыла! Мы самі ў гэтым млыне з бабамі і дзецьмі тулімся. Усё жытло агнём выкаціла. А калі ты з якімі злымі намерамі, дык мы цябе не баімося, мы нічога кепскага не зрабілі. Мы ж людзі. Што ты чалавеку не верыш? Каму ж верыць, як не чалавеку?

І хтосьці скалануў яго за плячо. Пры ўспышцы папяросы ён убачыў перад сабою белыя вусы ўніз і лысую галаву.

— Я не ведаю, дзе мне дзецца на свеце.

— Так бы ты і адразу казаў...

— Кажуць, немцы пад Маскву падыходзяць.

— Кажуць...

— А можа, гэта няпраўда?

— Многія кажуць, што гэта няпраўда.

— Дык што ты ўсё, то так, то гэтак!

— І ты ж са мною з паняверкаю гаворыш. Паглядзі ў дакументы: Антон Цвірка, з мястэчка Сцяпурак.

— Я веру чалавеку, а не дакументам.

— А хто ж яго кожнага пазнае, дабра ён табе хоча ці, як той немец, што возьме тваё дзіця за ногі і шпурне вобземлю.

— Гэта ў цябе так было?

— У мяне.

— Божа мой, небарак чалавек. Але ж гэта немец, а мы не немцы, а людзі. Можа, у млын зойдзеш?

— Тут жа, ці бачыш, я не адзін. Мой таварыш там сядзіць.

— Такі самы, як і ты?

— Ды, сказаць, такі самы.

— Чаго ж ён там астаўся?

— Што тут перад вамі таіцца? Ён вайсковец. Чырвонаармеец. Цягнецца з-пад Брэста. І ранен быў. Вытыкацца яму наперад трэба асцярожна.

— Дык няхай сюды падыдзе.

І ўсе гэтыя мужчыны зрабілі крок да мастка, на які ўжо ступіў Мішурын. Той самы вусаты і лысы за ўсіх пачаў шэптам пытацца — чым гэта ўсё і калі можа скончыцца і што сапраўды чуваць і ці верыць таму, што гавораць. Мішурын зрабіў выгляд, што яму ўсё добра вядома і што ідуць вялікія сутычкі і баі і што немцы тут доўга не будуць. Антон Цвірка адышоў убок. З яго гаворкі цяпер з незнаёмым яму чалавекам льга ўбачыць, што ён ужо не

быў падобен да самога сябе тады, калі яго ўпершыню ўбачыў Мішурын. Відаць, падарожжа з Мішурыным ураўнаважыла яго знявечаную душу. Дзень зменьваўся днём, і ўжо зверху ён здаваўся жывым чалавекам. Мішурын з таго берага чуў усю яго гаворку з людзьмі і нічога не заўважыў такога, за што мог бы папракнуць свайго спадарожніка. Мішурын доўгай гаворкі не пачынаў. Ён адразу сказаў:

— Тут Вялічка ў вас ёсць?

— Не, яго цяпер няма. У войску недзе.

Лысы чалавек з белымі вусамі так і ўпіліўся пальцам у Мішурынаву адзежу.

— А дом яго згарэў?

— Дом астаўся, але ніхто ў ім не жыве. Там немцы блізка стаяць. Боязна. А чаму?

— Мне трэба пабачыць яго сям'ю, калі яна жывая засталася. Вялічка прасіў мяне. Ён ляжыць ранены.

— Дзе?

— Далёка. Пад Брэстам. У аднаго чалавека.

— Дык я ж, гэта я з яго сям'і, бацька яго жонкі,—трос Астаповіч Мішурына за плечы.— Божа мой, божа. Гэта шчасце нейкае вас прывяло сюды.

— Шчасце! Мы трое сутак тут кружылі, пакуль апыталі ў людзей гэтае месца. Самі ведаеце, як цяпер — пытайся і азірайся.

— А што ён, вельмі слабы, мусіць?

— Чаго слабы!

— Кажы, сынку, праўду. Лепш ужо адразу ведаць. Забіты?

— Можа, каб куды зайсці. Тут гаварыць — нядобра.

— Выбачай, сынку, што адразу не здагадаўся. Увойдзем хоць у гэты млын, там усе нашы. І народу там многа. Бяздомныя ўсе. Дажыліся. Прыйшоў злы дух душу дастаць.

І Мішурын, і Цвірка, і Астаповіч, і ўсе, што стаялі тут, зніклі ў цемені млынавых дзвярэй. Стала пуста. Хвілін праз дзве Адам Блецька адарваўся ад чорнага дрэва, якое крокаў за дзесяць ад мастка ўзвышалася над густэчай высокіх кустоў, і шпаркай хадой рушыў у свой бок. У млыне гарэў цьмяны ліхтар з тоўстымі драўлянымі рамамі і брудным шклом. Ён стаяў на падлозе. Гэта быў першы млынавы паверх. Тоўсты вал ад млынавага кола трымаў на сабе награмоджаную адзежу многіх людзей. Выразанае ў трох бярвеннях акно было заткнута нейкімі раску-

дзеленымі лахманамі. Многа жанчын, і дзяцей, і старых мужчын сядзелі і ляжалі на падлозе ўпокат. Марына сядзела пры сцяне, і Настачка спала, паклаўшы галаву на яе калені. Астаповіч падвёў сюды Мішурына і Цвірку. Нагнуўшыся да Марынінага твару, ён ціха сказаў:

— Уладзімір ранены ляжыць недзе каля Брэста ў незнаёмага чалавека. Гэтыя людзі прыйшлі ад яго.

Здавалася, што ён не шэпча гэтыя словы, а моцна крычыць. Марына палажыла Настаччыну галаву на нейкі лахман і стала на ўвесь рост:

— Яго трэба ратаваць ці чакаць яго тут?

— Ратаваць яго не трэба. Але ён прасіў мяне, каб я выратаваў вас. Вас трэба вывесці адгэтуль. Ёсць месца на маёй радзіме, у якім ён пасля будзе шукаць вас.

— Адсюль цяжка выйсці. Усе дарогі загароджаны немцамі. І, можа, нават няма куды ісці. Тут ужо абвешчана і ўсякія людзі ходзяць і гавораць, што і ў Маскве ўжо скончылася савецкая ўлада і немцы праз два тыдні пройдуць аж за Маскву.

— Няўжо вы так адразу і паверылі ў гэта? Я ведаю, што гэта не так,— гаварыў, не ведаючы, Мішурын. Ён бачыў, што яго абкружыў натоўп людзей, які шукае ратунку і прагне хоць якой добрай весткі. Што ім сказаць? Якую надзею ім падаць? Які вялікі цяжар нясе на плячах той, за якога хоча трымацца многа людзей! — Я ж бачыў, як мы біліся ў Брэсце. Мы адступілі толькі таму, што ён напаў на нас знянацку. Скора нашы стануць на рубяжы і пойдуць наступаць. Немец тут доўга не будзе.

— То, можа, не варта і ісці куды? — сказаў Астаповіч,— калі так, то перачакаць як-небудзь бяду. А то адарвешся ад роднага месца, пойдзеш у свет...

— То раз ты так думаеш,— сказаў нейкі чалавек, падыходзячы да самога Мішурына,— раз немцы тут доўга не будуць, а нашы так добра неўзабаве пачнуць ваяваць, то нашто ж ты хочаш Вялічкаву сям'ю адсюль выводзіць, каб ратаваць яе. Раз цябе прасіў аб гэтым Вялічка, то, значыцца, вы самі не верыце ў нашу сілу. Што ты на гэта скажаш? Ты гаворыш, што нашы наступацьмуць і немца адгоняць. Але ж у цябе самога няма веры ў гэта, раз Вялічка кажа табе, каб ты яго сям'ю ратаваў. У гэтым я Вялічку веру. Ён заўсёды мала гаварыў, а больш думаў. Ён у нас быў самы разумны чалавек. Сказаць і так — адну сям'ю ты выратуеш, выведзеш. А ўсім што рабіць? Аста-

вацца нам тут ці шукаць дзе ў свеце ратунку? Калі можаш сказаць, то скажы. А калі нічога не ведаеш, а толькі суцяшаць хочаш, то лепш і не гавары.

Чалавек варухнуў тварам, сеў на нейкі мяшок і на адзін найкарацейшы момант уздрыгануўся: ён праглынуў рыданне, якое рванулася з яго душы. Запанавала цішыня. Мішурын пабялеў як палатно.

— Ты не бойся мяне, што я так кажу табе. Яшчэ не было на свеце такога здарэння, каб я каму, а яшчэ такому чалавеку, як ты, салдату, зрабіў або пажадаў што кепскае. Арцёма Пагірэйчыка ніхто не папракне ў гэтым. Я выказаў тое, што ў душы ўмясціцца не можа. У нас быў гэты самы Вялічка. Ціхі, спакойны, працавіты, партыйны, нікому вока не запарушыў. Не лез ў чыны. Але каб такога пасадзіць і на пасаду, быў бы на месцы.

Мішурын падбадзёрыўся, бачачы, як тут паважаюць Уладзіміра Вялічку. Ён сказаў:

— Вялічка казаў мне вывесці яго сям'ю тады яшчэ, калі толькі лёг ранены і тут яшчэ не было немцаў. Ён думаў, што ўсе адсюль пойдуць і каб я памог яго сям'і таксама выйсці. А цяпер зусім іншае. Я сам павінен выбірацца з нямецкага тылу, інакш я стану дэзерцір.

— Чаго ты, браце, перада мной апраўдваешся! Хіба ты ў чым павінен? Ты салдат, і больш нічога.

І момант слабасці апанаваў Мішурына. Усе тыя пакуты, якія ён перажыў ад самага першага дня вайны, і ўся тая цвёрдасць і развага, у якой ён з усіх сіл стараўся трымацца, давялі яго душу да мяжы ўпадку сіл. Як толькі мог, ён стараўся не паддацца непераможнаму жаданню сказаць гэтым няшчасным людзям: мая душа прагне, каб які-небудзь вялікі і ўсемагутны бацька сказаў мне: «Любы мой сын, мне відны твае пакуты, спадзявайся на маю ласку да цябе, я люблю цябе і шкадую». Мішурын вытрымаў нечалавечае напружанне, каб не ўпасці ў бязвольнае чаканне ўласнага ратунку. Ён азірнуўся і ўбачыў Антона Цвірку: той стаяў над незнаёмым яму сонным дзіцем на падлозе, як анямелы. Настачка спала, а ён быццам вартаваў яе. Вочы яго гарэлі, вусы паторгваліся, калені дрыжэлі. Мішурын здагадаўся: соннае дзіця абудзіла ў гэтым чалавеку той яго смутак, які ўжо будзе злым дарам усяго яго жыцця да самай магілы. Бо ніякія сілы не паднімуць з мёртвых таго хлопчыка, якога немец шпурнуў за ногі вобземлю. Мішурын кідаў вачыма па ўсім натоўпе: усе, што былі

тут, усе да аднаго, многа людзей стаялі ў страшным маўчанні, чакаючы нейкай надзеі і нейкага слова. Нешта павінна было адбыцца, каб развеялася гэтая хмара цяжару і безнадзейнасці. І Арцём Пагірэйчык чакаў. Плячысты і каранасты, ён стаяў насупроць Мішурына, уставіўшыся ў падлогу буйнымі рысамі свайго твару. Мішурын раптам успомніў і сказаў:

— А ці чуеце вы, як дрыжыць зямля? Як ідзе гарматны водгаласак?

Яго словы ніякага ўражання ні на кога не зрабілі, і яму стала брыдка на душы так, як бы яго, сталага чалавека, убачылі ў гульні з дзецьмі ў цацкі. Ніколі ён яшчэ не быў у такім цяжкім стане. Ён прагнуў, каб хто пакіраваў ім. Значыцца, ён не здолеп павесці за сабой людзей, і гэта ён цяпер вельмі добра бачыў. Секунды ішлі за секундамі і здаваліся яны вечнасцю. Раптам чорную прорву млынавых дзвярэй загарадзілі два электрычныя ліхтарыкі. Вострае святло пранізала змрок двума вогненнымі мячамі, і паміж імі стаў, як прывід, з цемені Эміль Клебер. Прарэзлівым голасам ён аж захлынуўся:

— Стой! Два, каторыя прышоль з Брэст! Астаповіч! Марына! Сюды! На месцы стой! Падыходзь!

Аўтамат ён трымаў напагатове. Астаповіч хапіў сонную Настачку на рукі і, шапнуўшы Марыне «ратуйся», кінуўся ў цёмны кут. Там былі запасныя дзверы ўніз, якія адчыняліся толькі тады, калі трэба было спусціцца пад вадзяную рыну. Ціха ён адчыніў дзверы і папоўз уніз. Ён апынуўся паміж штандараў, на якіх трымаўся ўвесь млынавы будынак. Над яго галавой была млынавая падлога. Па пояс у вадзе ён выбраўся на сухое. Прывыклая да ўсялякіх прыгод за гэтыя дні, Настачка спала, абхапіўшы рукамі яго шыю. Стараючыся ступаць так, каб была поўная цішыня, ён пачаў аддаляцца ад млына і чуў, што па яго ж дарозе выбіраюцца з-пад млына людзі. Многа іх ці мала выбралася — ён не ведаў. Толькі неўзабаве ён пачуў крыкі і стральбу. Трымаючы ўсё так жа Настачку, ён стаяў пасярод кустоў, душыўся горам і слухаў. Навокал яго разыходзіліся і разбягаліся людзі.

— Марына! — некалькі разоў глуха крыкнуў ён.

І ніхто яму не адказаў. Толькі на яго крык падышоў да яго Арцём Пагірэйчык.

— Лепш ведаць адразу, чым намарна спадзявацца,— сказаў ён.— Млын быў абкружаны немцамі. Але там,

адкуль ты выйшаў і мы за табой пайшлі,— вада, і салдат стаяў зводдалеку. Толькі пасля яны заўважылі, што там уцякаюць людзі. Пачалі страляць, запынілі ход, і хто не наспеў выйсці, у млыне і астаўся. Млын з людзьмі замкнулі. А Марыну схапілі і павялі. Прыйшла пагібель усім.

Арцём Пагірэйчык, угнуты і як нежывы, паскробся нагамі кудысьці ўбок, і крокі яго заціхлі. Максім Астаповіч адчуваў рукамі цяпло Настаччыных ног. Гэта было ўжо тое адзінае, што асталося ў яго жыцці, і жыццё напэўна скора скончыцца: выжыць цяжка. Ён стаяў і не варушыўся. Час для яго цяпер не мераўся нічым. Можа, ён і доўга стаяў. Схамянуўся ён тады, калі ўбачыў, як асвяцілася неба. Ён падышоў да краю кустоў і ўбачыў: млын гарыць з усіх чатырох вуглоў. Ён чуў, як трашчала сухое дрэва ў агні і як з агню рвуцца стогны і енкі тых, хто там канае ў нечалавечых пакутах. «Там жа і Настачка курчыцца, і ногі яе гараць і галоўка папялее... Хіба яна вінавата, што радзілася на свет?.. Не, яна тут, у яго на руках, жывенькая, цёпленькая... Божа найвышшы!..» Асветлены чырвоным полымем, нерухома там стаяў Эміль Клебер. Стаяў цвёрда, з аўтаматам. Ён вартаваў гэты ахвярны агонь, і яго ўсяго вельмі добра бачыў Максім Астаповіч. Каб ён толькі ведаў напэўна, што Настачцы суджана сёння ці заўтра загінуць, ён бы пайшоў на гэтага немца, і хто ведае, можа, яму і ўдалося б яго задушыць. Ён бы паласаваў яго, каб той адчуў самую пякельную пакуту, якую калі-небудзь спрабавала жывая істота на зямлі. І тады ўжо лёгка было б і самому прыняць смерць. Не. Настачка яшчэ жывая. Дзеля яе трэба жыць. Трэба яе несці, як святыню, у спакой, у ратунак, у дарогу жывой чалавечай вечнасці. Родная мая! Маленькая мая! Якія дарогі на свеце будуць таптаць твае ногі?

Раптам востры енк вырваўся з агню. Максім Астаповіч убачыў, як жанчына, абхапіўшы рукамі дзіця, з'явілася ў чырвоным полымі. Адзежа на ёй гарэла. Як толькі яна відна стала, вогненная сцяна ўпала. Жанчына кінулася наперад. Ужо яна адарвалася ад віхрастага слупа іскраў і сама была, як жывы факел. І тут пачуўся салдацкі крык. Эміль Клебер даў з аўтамата кароткую чаргу. Жанчына з дзіцем упала назад у агонь, і ўжо больш не чуваць стала чалавечага голасу. Эміль Клебер стаў у ранейшую застылую паставу і зноў як акамянеў. І на ўсё сваё жыццё Максім Астаповіч запомніў Клебераў твар. Ён урэзаўся ў

яго памяць, як вострьі меч. Яму здалося, што ён век ведаў гэтыя рысы! Яны стаялі перад ім, як бязлітаснасць і няўмольнасць. Максім Астаповіч шпарка павярнуўся і пабрыў без мэты і думкі. Раніца яго застала ў лесе. На яго разасланым пінжаку спала Настачка. Ён стаяў над ёю і адганяў ад яе камароў. Твар яго быў у зямлістым колеры.

## ~~Шосты раздзел~~

### I

На свежае вока магло здавацца, што з пункту гледжання прыроднай прыгажосці нічога горшага нельга было знайсці, чым гэты куток. Трухлявая хата старога чалавека стаяла адна, без якога б там ні было блізкага суседства. Паселішчы блізка, але яны былі адгароджаны ад гэтага сіратлівага чалавечага жытла то лесам, то хмызнячным узгоркам, то балотам. Здавалася, што тут цьмее чалавечае жыццё нейк само па сабе, незалежна ад усяго, што дзе далёка ці поблізу робіцца на свеце. Крокаў за тысячу ад гэтай хаты, пры якой загараддзю ў адну жэрдку было выгараджана штосьці накшталт агарода, як чорнае куп'ё, тырчэлі пні даўно высечанага лесу. Кіламетраў на два цягліся гэтыя пні, а там пачынаўся лес. Ужо ішла такая глушыня, што льга падумаць — адгэтуль вельмі далёка да чалавечага клопату. На поўдзень было балота. І на балоце, і на пністым узлеску трава не расла. Пры лесе зелянеў дзірван. На балоце калісьці капалі торф, і дзе яго выбралі — стаяла вада, чорная і глыбокая. Нейкія равы цягліся скрозь, з усіх бакоў далягляд закрываўся лесам, і ледзь заўважная дарога з-пад сялянскіх калёс вілася дзірваністым выганам. І каб выйсці да людзей, трэба было няйначай прайсці праз лес. Была адна асаблівасць у тутэйшым лесе: у ім многа было асінніку.

Той дзень, у які Вялічка ўпершыню як мае быць дайшоў да памяці, пачаўся для яго гаспадара вельмі рана. Яшчэ добра не развіднела, як ён ужо стаяў пасярод свайго двара, босы і ў шапцы са скураным казырком і шырокім верхам. У хаце спяваў певень. Стары падышоў да акна і знадворку адчыніў яго. Певень вылецеў з акна з крыкам і заняўся пошукамі яды. Стары гаварыў, гледзячы на пеўня:

— Сонца зараз узыдзе. І зноў пойдзе доўгі дзень. Лета ў самай сваёй пары. Нічога. Дзень пройдзе. Патроху. Лета. Восень. Ах, божа мой, божа. Ну што ж. Як мог, так стараўся. Родная мая галубка. Ну нічога...

Нешта ён яшчэ гаварыў, зусім знізіўшы голас, шаптаў, мыляючы губамі, і глядзеў угору. Некалькі разоў было чутно «родная галубка». Было падобна, што быццам моліцца. Пасля ён змоўк і задумаўся. Край сонца з'явіўся над лесам. Хударлявы твар яго стаў энергічны, у вачах засвілася думка. Гэта было момантнае выяўленне чагосьці таго, што жыло ў ім. Здавалася, што ён гатоў да незвычайных учынкаў, такі быў у гэты момант яго выгляд. Раптам усё патухла. Ён шпарка павярнуўся да адчыненых сенечных дзвярэй, узяў з парога збанок і замкнуў сенцы. Было відно, што ён выгнаў з свае галавы думку ці перамог у сабе свой парыў. Твар стаў сухі і спакойны. Шырока ступаючы доўгімі босымі нагамі, ён ішоў ледзь выезджанаю той дарогай па нізкарослай, як вытаптанай, траве. Сам сабе пад нос ён мармытаў, мабыць, толькі яму аднаму вядомую песню:

Крывавілі галовы.
Заганялі ў стадолы.
Забіралі авёс і жыта.
А бадай іх забіта.

Неўзабаве постаць яго скрылася за прылеснымі кустамі. Дробныя хмары стаялі на небе. Усё было нерухома і ў цішыні. Толькі адно сонца ішло ўгару і пачало заходзіць за хмару. Толькі ніжнім краем яно вісела над зямлёй, і святло яго стала цадзіцца, як праз туман. Такія водсветы бываюць хмурным адвячоркам. Бледнае праменне лілося на трухлявую хату. Справа ад сенечных дзвярэй у глухой сцяне было выразана акенца ў адным бервяне, без рамы і шкла яно здавалася чорным вокам. Пад гэтым акенцам у клеці і ляжаў Вялічка. Сноп прамення падаў праз акенца на супроцьлеглую сцяну і асвятляў сучок у бервяне і каліва моху, яно тырчэла з паза, было сухое і зялёнае. Гэта было тое першае, што ўбачыў Вялічка і праз што даходзіў да свядомасці таго, што яго абкружвае белы свет. У гэтую раніцу ён прачнуўся ад цішыні. Ніколі так дагэтуль не было: дзень пры дні ён то ляжаў у бяспамяцтве, то прыходзіў да памяці з пакутамі ад болю і ныццём усяго цела. З'яўлялася думка аб тым, у якім ён стане, смутак апаноўваў яго, і ён зноў паглыбляўся ў забыццё надоўга. Цяпер,

упершыню за ўсе часы, ён абудзіўся без думак аб сабе. Нейк і цела не ныла, і болю не было. Ён доўга ўглядаўся ў зялёную імшыну і так выходзіў з забыцця. Першая думка яго была, што ён гэтую імшыну ўжо недзе бачыў і ведаў яе колер. Пасля яна адлюстравалася ў яго свядомасці вялікай зялёнай прасторай. Зялёны мох, вада, дрэвы, вецер, сонца. Гэта свет і гэта шчасце быць у ім. Адсюль і пачалася яго радасць звароту ў свет з цеснай глыбіні хворых ваяўленняў і пакут. Ён ляжаў нерухома, але быццам вандраваў па свеце: яго думка ішла прасторамі зямлі. І цішыня лілася з-за сцен, пасля голас нейкай птушкі і раптоўны парыў ветру: зашумела вецце дрэва. Вялікая радасць і адчуванне поўнага шчасця скаланулі яго душу. Непераможная прагнасць ірвануцца і рынуцца ў свет заўладала ім на момант. А пасля прамень сонца патух — на дварэ ўсё неба зацягнулася хмарамі. Сцяна стала цёмная, згінула зялёная імшына. Вялічка глядзеў у змрок і пачаў засынаць. Але гэта быў ужо здаровы сон. Хвароба яго мінулася. Калі гаспадар гэтай клеці вярнуўся назад, то ён застаў Вялічку ў поўным сне. Ён дыхаў роўна і глыбока, і чалавек адчуў, што яго невядомы госць перамог хваробу і рану. На дварэ ў гэты час бушавала хмарнае неба. Струменні вады падалі на зямлю. Ляснуў гром. Уверсе над страхой гэтай хаты гуло і пагражала. Чалавек, босы і з мокрым тварам ад першых кропель дажджу, паставіў збанок малака на зямлі, каля Вялічкавай пасцелі, і стаў пад сонным Вялічкам. Ён гаварыў сам сабе:

— Бяда. Каторая пара, а не правіцца. Усё ляжыць без памяці. І бабы ведаюць, што ён тут ляжыць у мяле. Зараз і немцы ўведаюць.

Ён быў вельмі заклапочаны і стаяў у одуме, развёўшы рукамі. Вялічка заварушыўся і раскрыў вочы. Дождж зменшыўся і роўна шумеў на саламянай страсе.

— Дождж ідзе? — сказаў Вялічка такім тонам, быццам зноў пачынаў перарваную гаворку.

— Ідзе. Усё неба аблажыла хмарамі,— адказаў узрадаваны стары.

І раптам Вялічка ўспомніў, дзе ён і чаму ляжыць. Ён не ведае ні чалавека, ні месца, ні часу, ні таго, што на свеце робіцца і зрабілася за гэты час. І Настачка, і Марына, і родны дом!

I

Смольная хвоя — вельмі моцнае і даўгавечнае дрэва. Сцены з яе стаяць доўга. Ёсць будынкі з тоўстага бярвення, век якіх ідзе блізка не за сто год. Невялікае селішча Скіп'ёўскае Пераброддзе ўзнікла на голым месцы пры вялікім Скіп'ёўскім лесе адразу пасля рэвалюцыі. Дваццаць пяць год не кранулі перабродаўскіх будынкаў ні трухлінай, ні зменай колеру. Яшчэ і да самай Айчыннай вайны яны захавалі свой мацунак і свежы колер гладка вычасанага бярвення. Адно смала выступіла скрозь жоўтымі пацеркамі, якія за гады выветралі, высахлі і пачырванеліся. Усюды відна добрая работа, мацунак шчыльна прыпушчанага адно да аднаго бярвяна і добры догляд. Гаспадарлівыя рукі, у меру патрэбы, давалі сценам рамонт і трымалі іх у ашчадзе ад вільгаці. Усе дваццаць дзве хаты Скіп'ёўскага Пераброддзя паабрасталі вішняком і арабіннікам. За хатамі спеюць улетку антонаўкі, папяроўкі і слуцкія бэры, і да самых замаразкаў вісяць у голлі чырванабокія «цыганкі». Да самых маразоў пад вокнамі цвіце бабіна лета. З канца зімы і да лета пры кожнай хаце дыміцца вяндлярня, і па селішчы стаіць пах венджаных каўбас і шынак. Праз усё лета на вешалах пад застрэшшамі сушацца тварожныя сыры. Усюды крычаць гусі і крэкчуць качкі. Спяваюць аж разлягаюцца пеўні, і па хлевухах стогнуць ад гультайскай асалоды ружовыя ягамосці з кірпатымі лычамі і закручанымі ў тонкі абаранак хвастамі. Япрукі тут кормяцца пудоў на васемнаццаць. Дык якое дзіва, што вяндлярны дым на добрыя тры месяцы на год перабівае пах смалы, што шырокай хваляй вечна плыве з густых хвояў Скіп'ёўскага лесу.

У Скіп'ёўскім Пераброддзі аселі і забудаваліся пасля восені дзевяцьсот семнаццатага года тутэйшыя беззямельцы і бясхатнікі. Можна было б расказаць пра кожнага

з гэтых людзей, як жылося і што перажываецца цяпер і хто нарадзіўся на свет, каб стаць наступнікам і спадчыннікам таго, хто ставіў у новым часе новую хату. Гэтыя дваццаць дзве гісторыі маглі б навучыць жыццю ў працы, у сумленні або паведаміць аб хцівасці і няўдачах, аб злосці і зайздрасці, аб шчасці мець вялікую душу, сяброўства, злагаду з людзьмі і ясны розум. Мы маглі б убачыць, як поўніцца шчасцем чалавек са справядлівым сэрцам і замілаванасцю да роднай зямлі і роднага неба. І як сохне і марнатравіцца натура без сэрца і сумлення. Але ўсё гэта ўжо выходзіць за межы гэтай невялікай хронікі з жыцця перабродаўца Марціна Прыбыткоўскага.

У тыя гады, калі толькі яшчэ забудоўвалася Скіп'ёўскае Пераброддзе, Марцін Прыбыткоўскі быў яшчэ зусім малады чалавек, высокі, хударлявы, невялікі ахвотнік да слова і нядаўна жанаты. Жонка яго тады вельмі была падобна да дзяўчынкі. Зусім маладая, вельмі рухавая, нават трапяткая і не тое, каб малая ростам, але паводле росту свайго Марціна яна здавалася малая. Яна звалася Магдалена, і якраз неўзабаве, пасля таго як Марцін паклаў падваліны на новую хату, нарадзіла дачку. Прыбыткоўскія назвалі сваю дачку Ганна. Гэта было першае дзіця. Праз тры гады нарадзіўся сын. Яму далі імя Канстанцін. Праз чатыры гады пасля Канстанціна нарадзілася Галена. Яе звалі Гэля. У той меры, у якой ішоў час, Марцін Прыбыткоўскі, здавалася, станавіўся яшчэ больш ціхманы, як быў. Ён і зза́маладу не быў раскідака, а цяпер, казалі, нават як бы аскупеў. Усе яго думкі былі цяпер аб дзецях. Замілаванасць яго да дзяцей з гадамі яшчэ больш вырастала. На гэтым пункце адбылося поўнае ўраўнаважанне двух натур — Марціна і Магдалены. Бо адразу пасля шлюбу ў іх нешта не ладзілася добрая згода.

Магдалена была здатная на раптоўныя ўражанні, на ўспышкі пачуццёвасці і нават на нечаканыя ўчынкі. Яна была маладзейшая за Марціна намнога. Пайшла яна замуж толькі выбіўшыся з падлеткаў. Што да Марціна, то ён як бы ўцяміў тую праўду, што свет даўно ўжо стаіць на месцы і трапятаннем яго з месца не зрушыш. Марцін Прыбыткоўскі ў спакойным сабе одуме араў і сеяў, спускаў і часаў дрэва, і калі ішоў з поля, то заўсёды прыносіў дадому знойдзеную на дарозе ламачыну або палавіну коласа з зярнятамі. Ён вельмі часта і чыста галіўся і нізка падстрыгаў вусы. Хударлявы ён быў заўсёды і сілу меў у плячах.

Магдалена любіла многа пагаварыць. Ён моўчкі слухаў яе. Калі ж заходзіла справа аб дзецях, ён ажыўляўся і гаварыць мог не менш за Магдалену. Тут яны абое рабіліся роўныя, натура ў натуру. У хаце яна камандавала ўсім. Але як? Гаспадарлівыя планы і раптоўныя намеры ў яе ішлі адзін за адным. Яна была ўздумала, што льга ў адзін год забагацець на гусях. Меркаванне тут яшчэ ішло аб дзвюх дочках. Кожная з дачок, пакуль вырасце, павінна мець не менш як шэсць падушак. А няма на свеце лепшых падушак, як з гусінага пуху і пер'я. Праз нейкі час каля хаты Прыбыткоўскіх стаяў такі гусіны лямант, што Марцін затыкаў вушы і праклінаў гусіную пароду. Дзевяноста шэсць гусіных горлаў дзерлася на ўсю сілу. Дзюбастая птушка хваліла прыгоства свайго жытла на свеце не зусім далікатным голасам. Дзяўчаты і сама Магдалена збіліся з ног, бегаючы па выганах і пакошах. Казалі, што Магдалена бегла, каб падняць кожную пушыну, якую дзе-небудзь у полі губляла гусь. У Пераброддзі склалася была прымаўка: «З трапятання карысці, як з Магдаленінага пуху». Пасля ў Магдалены з'яўляліся іншыя планы. Быў план прадаваць штогод па тры кормныя япрукі, а самім сесці на малако. Марцін буркнуў сабе пад нос: «Аб малаку я ног не павалаку». Планы зменьваліся так, як зменьваліся і гады. І хоць нейкае нечуванае багацце раптоўна і не прыйшло, але праз усе гады добра елася і пілося, добра працавалася і слаўна дыхалася цудоўным скіп'ёўскім паветрам. І само сабой сталася, што калі дзяўчаты павырасталі, то ў кожнай з іх была гара падушак і поўная шафа адзення. Магдалена штодзень відна была ў клопаце на Пераброддскім селішчы, невялікая ростам, гаваркая, крыху занадта шумлівая і цікаўная ўсюды і да ўсяго. У яе быў драбнаваты твар і валасы, закручаныя ў высокую куксу пад хусткай. Так яна і не заўважыла, як мінуўся малады яе век і сталасць добра ўвайшла ў сярэднія гады, якія ўжо мяжуюцца са старасцю. Але ўсё гэта быў знадворны бок справы. Можна сказаць з пэўнасцю, што замілаванасць да дзяцей была тым самым большым з усяго, што жыло ў душы гэтай жанчыны. Вясёлая заўсёды, гаваркая, рагатуха, Магдалена Прыбыткоўская была аднак жа лёгкая на слязу, калі хто-небудзь з дзяцей захалоджваўся і пачынаў кашляць. Але і тут была адна акалічнасць.

Магдалена Прыбыткоўская насіла ў сабе вечнае пачуццё кожнай жанчыны: мець асаблівую замілаванасць да

свайго меншага дзіцяці. Чым больш жанчына мае дзяцей, тым гэтае пачуццё мацнейшае. Але яно мае сілу ў той меры, у якой жанчына старэе. Гады даводзяць гэтае пачуццё да найвялікшага ўздыму. Першыя дзеці ёсць адзнака маладосці жанчыны. Апошняе дзіця ёсць адзнака сталасці перад старасцю. У Магдалены Прыбыткоўскай самае глыбокае матчына пачуццё кіравалася да Галены (Гэлі). Галена была як бы вечным напамінкам Магдалене аб мінулай яе маладосці. На шчасце, тут усё склалася так, што лёгкая на жальбу і слязу Магдалена бадай-што не мела ўтрапення сваёй чулай душы. Як на тое ішлося: Галена мела моцнае здароўе. Перахварэўшы ў маленстве на адзёр, яна пасля нават і не кашлянула ніколі. І чым больш яна вырастала, тым больш магла б быць увасабленнем дзявочага здароўя і сілы. Разам з тым яна рабілася ўвасабленнем і дзявочай прыгажосці. Гэта была прыгажосць фізічная, пышная і заўсюды прывабная. Галена Прыбыткоўская была і вясёлая, і рухавая, і спрытная да ўсяго. Голас яе звінеў па Пераброддзі заўсёды. Калі яна збірала ягады або шукала грыбоў, то гэта адразу ўсе і ведалі. Ёй няйначай трэба было спяваць або гукаць, каб слухаць па лесе рэха ці перадражніваць птушак. Можна было б падумаць, што ніколі маршчына старасці не кране лоб гэтай асобы, хіба, можа, тольکі тады, калі ёй будзе год дзевяноста. Валасы ў яе былі чорныя і густыя. Вочы вялікія і быстрыя. Гаворка шпаркая, цвёрдая і рост добры. Мажная рагатуха і ўпраўная на рукі, яна, здавалася, не закідала думкамі далёка наперад, а жыла, як жылося, і (можна гэта смела сказаць) цешылася сама з сябе і з усяго, што толькі бачылі яе вочы. Вядома, такая, як мае быць, яна стала з часу свайго юнацтва. Юнацтва яе бралася ў сілу ў часе, калі ўжо ішла Вялікая Айчынная вайна. На восьмым месяцы вайны ёй стала роўна семнаццаць год. І хоць яна была заўсёды такая здаровая, Магдалена часамі сама сабе тужыла, што нішто на свеце не вечна і ці мала што бывае: хвароба якая, «не тут кажучы», наваліцца ці так якое няшчасце, і прыйдзе бяда. Аднак жа гэта не азначала, што Магдалена Прыбыткоўская мела ў аснове свае душы схільнасць да смутку і безнадзейнасці. Гэта было не так, нават наадварот. Тут усё залежала ад таго, што Галена была самая меншая з дзяцей.

Самая старэйшая з дзяцей, Ганна, і з натуры, і з усяго аблічча, была вельмі непадобная да сваёй маладзейшай

сястры. Гэта была натура з нахілам да задумёнай разважлівасці, да ціхай задумы і да павольнага паглядання навокал сябе. Рагатала яна толькі з сапраўды смешнага. Вядома, з усіх гэтых прычын яна не была занадта рухавая. Яна рабіла ўсё з грунтоўнай сталасцю, хоць і павальней. Змест яе душы Марцін Прыбыткоўскі ўцяміў яшчэ з самага яе маленства. Гэтым ён і кіраваўся каля яе. Калі яна скончыла сямігодку, ён першы падаў ёй думку, за якую яна і ўхапілася. Ён сам завозіў яе ў педагагічны тэхнікум і прыехаў назад з радасцю ў душы. Тое, што яго Ганна будзе настаўніца, цешыла яго вельмі. Прайшло ўсяго два дні, а ён напісаў ёй пісьмо. Часам нават і без пільнай патрэбы, але ён пісаў ёй часта. Паміж імі пачаліся дачыненні, падобныя да таго, што было ў Магдалены да Галены. Яны зблізіліся вельмі.

Ганна Прыбыткоўская мела цёмныя валасы, але не чорныя, як у Галены. У яе былі вочы спакойныя і голас ціхі. З постаці яна была дробная, тут яна мела падабенства да сваё маці. Калі пачалася вайна, ёй неўзабаве павінна было скончыцца дваццаць чатыры гады. Да гэтага часу ў яе жыцці адбыліся вялікія змены. Усё шпарка ішло адно за адным. І ўсё гэта змяніла жыццё сям'і Прыбыткоўскіх, а яе самую вывела ў новыя абсягі думак і паклала новую пячаць на ўсё яе аблічча.

Скіп'ёўскае Пераброддзе стаіць за сем кіламетраў ад вялікага мястэчка Якубавіч. Паміж горадам, дзе вучылася Ганна Прыбыткоўская, і Якубавічамі хадзіў аўтобус штодзень. Апошнім годам Ганнінай навукі аўтобус вадзіў нейкі Тодзік (Тодар) Рамашка, зусім яшчэ малады хлопец, на гадоў два старэйшы за яе. Пасля ўсё стала вядома як мае быць. Гэты Тодзік меў натуру гарачую і ў яго маладыя гады не зусім ураўнаважаную. Ён быў родам недзе адтуль, дзе на Уздзеншчыне шлях паміж Слуцкам і Мінскам праходзіць праз раку Лошу. Бацька яго Сабастыян Рамашка меў многа дзяцей, і ўсе ўжо былі ў ладу. Дзяўчаты былі замужам, а хлопцы добра выйшлі кожны на сваю дарогу. Шчыры і добры чалавек, Сабастыян Рамашка, выпіўшы чарку, любіў пахваліцца сваімі дзецьмі:

— У мяне адзін сын вучоны прафесар і акадэмік у Мінску, а другі найгалоўнейшы бухгалтар над усім Слуцкам. Колькі з Слуцку вывозяць вагонаў ігруш, яблык, сала, жыта, ячменю, яец, гусей, кнырчукоў на племя, то пакуль ён не запіша ў кнігу і не паставіць лічбу, дык ні-

водзін вагон з месца не кранецца. А яшчэ тры сыны і пяць дачок яшчэ больш таго. Даволі вам сказаць, што ўсе мае дочкі замужам за такімі людзьмі, якімі можна толькі хваліцца. Адзін мой зяць выдумаў такую машыну, якая ходзіць сабе па лесе, выкарчоўвае ўсялякую крывую непатрэбшчыну і сама глядзіць: калі дзе добрае месца, дык пасадзіць новае дрэва і пайшла далей. А яшчэ ёсць зяць, пад наглядам якога марынуецца штогод на вываз за граніцу тысяч семдзесят бочак грыбоў. Уся заграніца есць тыя грыбы і хваліць.

Тодзік быў самы маладзейшы з усіх Рамашкавых дзяцей. Ён прайшоў шафёрскія курсы і пачаў жыць сам сабою. Як бы ўвесь свет яму сышоўся ў аўтамабільным механізме. Яму ніколі не было часу. Ён калі не ехаў, то займаўся разборкаю і зборкаю аўтобуснага механізма. Хоць прыйшоў час, што ён нешта абвяў да гэтага свайго прафесіянальнага занятку. У яго з'явіліся іншыя думкі і новыя трывогі. Яму спабачылася нейкая задумёная дзяўчына, якая даволі-такі часта ездзіла ў яго аўтобусе да Якубавіч і назад у горад. Перш за ўсё ён дазнаўся, што гэта студэнтка з настаўніцкага вучылішча. Нарэшце ён ужо добра прывык да таго, што абы якія-небудзь два дні свят, то яна няйначай будзе ехаць да Якубавіч. А пасля свят назад. Перад святам ён сам чакаў з машынай каля тэхнікумаўскага інтэрната. І калі пасажыры давалі яму наконт гэтага заўвагі, ён адказваў цвёрда, але дзеля далікатнасці са знарочыстым гумарам:

— Тут жа яшчэ студэнтачка будзе ехаць.

Вядома, што такое першае каханне, калі яшчэ на верхняй губе і пуху людскага няма. Тодзік Рамашка нарэшце пачаў даводзіць аўтобус да Якубавіч праз Скіп'ёўскае Пераброддзе, хоць і даваў дзеля гэтага кругу. Улетку, калі «студэнтачка» была дома, у яго якраз бо каля яе хаты штонебудзь псавалася ў аўтобусе, а рамонт зацягваўся доўга. Так што яму трэба было і рамонт рабіць і адгырквацца ад чорствых душой пасажыраў, усе помыслы якіх ішлі толькі на тое, каб хутчэй даехаць да Якубавіч. Нарэшце Марцін Прыбыткоўскі здагадаўся, а Магдалена як мае быць прыгледзелася да Тодзіка Рамашкі. «Які мілы і залаты хлопец,— падумала яна.— Як ён завіхаецца каля машыны і які рухавы. Аж твар чырванее ад руху». Тодзік Рамашка быў рослы, здаровы і чарнявы хлопец. Прыбыткоўскаму штосьці не падабалася ў тым, што каля яго хаты бадай

штодзень рамантуецца аўтобус. Раз ён разгаварыўся з шафёрам:

— Сам адкуль?

— З Лошаўскага Перавозу.

— О, далёка, ад нас вёрст пад пяцьдзесят. Дык, кажаш, адзін і жывеш? Мусіць, ці не жаніцца думаеш?

— Мусіць такі трэба,— насцярожана адказаў Тодзік, напускаючы на сябе выгляд нясмелага і вельмі ўжо сталага чалавека, якога злая неабходнасць прымушае жаніцца.

Ціхманы Марцін Прыбыткоўскі хітра паглядзеў на Тодзіка Рамашку.

— Што ты, браце, вярзеш? Так і кажы, што закахаўся ў дзяўчыну. А то выдумляеш. Табе яшчэ рана жаніцца. Няхай яшчэ раней пух на губе ацвярдзее. Яно і так сказаць, будзеш жа ты браць не старэйшую за сябе, а маладзейшую. Значыцца, ты дзіця горкае зробіш сабе за жонку.

Тодзік нічога не адказаў і нешта вельмі хутка скончыў рамонт і паехаў. Устрывожаны Марцін пачаў гаварыць з Ганнаю:

— Гэта ён дзеля цябе тут спыняецца? Што? Вы ўжо згаварыліся? Ты яшчэ павінна пабыць настаўніцай, а тады ісці замуж. Чакай, дай сказаць, от бо натура!

Пасля гэтага Ганна пачала глядзець у акно. Марцін пачаў крышыць свой тытунь, а Магдалена выцерла рогам хусткі вочы і сказала:

— Вось і вырасла Ганна, а мы пастарэлі.

— Вырасла? — адарваўся ад тытуню Марцін.— Малая яшчэ зусім. Гэта свет такі настаў цяпер. Ты ж маці, ты ўгавары яе, няхай яшчэ добрых пяць год пачакае.

Магдалена тым жа вечарам пачала ўгаварваць дачку. Гэтае ўгаворванне скончылася тым, што яны ўдвух, абняўшыся, на ўсю ноч заснулі. А зранку Ганна напісала Тодзіку пісьмо: «Тодзік, каб ты толькі ведаў, што я выцерпела ўчора! Я не ведаю, як гэта бацька дазнаўся. Ён не дазваляе мне ісці замуж. А маці таксама. Маці мне сказала: я, кажа, пайшла замуж на два гады маладзейшая, як ты цяпер, і ўсё вельмі добра праз усё жыццё было, а ты не ідзі, бо ты занадта маладая. Дык мне так горна стала, і я плакала палавіну раніцы». У гэтым пісьме яна сумысля націскала на сваю трагедыю, на слёзы, на горач паняверкі і расчаравання. Але не менш было трагедыйнага націску і ў яго пісьме, якое ён назаўтра пакінуў ёй у Якубавічах. На ўвесь ход машыны праімчаўся ён па Скіп'ёўскім Пераброддзі і

нават не спыніўся, даручыўшы ўсё сіле выстылізаванага пісьма: «Ганна, я таксама не ведаю, адкуль твой бацька дазнаўся. Ён на мяне наваліўся і пачаў спавядаць мяне, калі я правіў ля вашай хаты аўтобус. Я першы раз бачу такога чэрствага чалавека. Ён здзекаваўся з мяне, што ў мяне яшчэ вусы не выраслі. Чаму мой бацька, дык ён узрадаваўся, калі ўведаў, што мы згаварыліся пажаніцца. Ён вельмі хоча пабачыць цябе, якая ты. Я таксама засумаваў. З нуды я скурыў учора дзве пачкі папярос, каб на душы было яшчэ гарчэй. Можа, хіба горач вытруціць мой смутак па табе». Ганна сумысля пакінула гэтае пісьмо на стале, і Марцін прачытаў яго. Вынік з гэтага быў такі, што ён сказаў Ганне:

— Няхай бы вы запаветрылі абое, дзеці горкія! Вам гэта гульня. А гэты Тодзік проста-такі малады дурань.

Ёй было непрыемна і брыдка гэта слухаць, але яна бачыла, што няма тае меры, якою льга было б вымераць бацькаву замілаванасць да яе. Ёй стала прыкра і сорамна. Яна адчувала сябе так, быццам бы нарабіла вялікай бяды. Розум падказваў ёй, што яна, як хітрае дзіця, сваім дурным пісьмом увяла сама сябе ў фальш. Значыцца, у галаве яе было больш сталых думак, чым нясталых учынкаў. Усё гэта рабілася ў палавіне лета. Да самай восені яна не магла так чыста і проста, як раней, глядзець бацьку ў вочы. Гэтым жа летам бацьку нешта забалела нага. Ганна пачала ўгаворваць яго колькі дзён паляжаць і нічога не рабіць. Ён усміхнуўся: нага забаліць, дык хіба гэта хвароба? А потым ён падумаў, што гэта яна шукае ранейшай блізасці з ім. І ён пачаў думаць, што, можа, трэба было з ёю як-небудзь інакш абысціся? Яна ўгаварыла яго пайсці ці паехаць у Якубаўскую амбулаторыю. Ён вярнуўся адтуль з рэцэптам, але не з лякарствам. У якубаўскай аптэцы лякарства тое выйшла на той час. Тады яна цвёрда сказала, што заўтра сядзе ў Якубавічах на аўтобус і паедзе з рэцэптам у горад. Ён ведаў: аўтобус жа павядзе Тодзік Рамашка. Але ён нічога не сказаў: ён бярог яе ласкавасць да сябе. Назаўтра яна паехала і ў той жа дзень увечары павінна была вярнуцца. Але прайшла ноч, новы дзень, яшчэ ноч і яшчэ дзень, і толькі яшчэ цераз адну ноч, удзень, яна вярнулася дадому. Але як? Да хаты пад'імчаўся каштанавы жарабок, запрэжаны ў маляваныя драбінкі. З драбінак саскочыла Ганна, а за ёю злез ужо ў добрых гадах чалавек, з вусамі ўніз і адзеты як бы па-святоч-

наму: шнурочак з кутасікамі на шыі пад адкладным каўняром вышыванай кашулі, кангеровы пінжак на камізэльцы і хромавыя боты. Ганна ўбегла ў хату, паставіла на стол лякарства і села, збянтэжаная, маўклівая, сама не свая. Бацька маўчаў у няпэўным одуме, які быў Ганне прыкры. Магдалена выцерла рогам хусткі слёзы і пачала гаварыць:

— Што з табою было? Дзе гэта ты дагэтуль? Чаму гэта так выйшла? Мы перадумаліся, перачакаліся, перакалаціліся. Гэля бегала ў Якубавічы пытацца, ці не прыходзіў аўтобус. А з якім гэта ты чалавекам прыехала? Хто гэта? І чаму гэты жарабок у пене ўвесь? Як бы ён на ўвесь дух паўсотні вёрст без аддыхі імчаўся? О, ён у двор заязджае, жарабка распрагае, да сена паставіў. Выцірае жарабка посцілкаю. Хто гэта?

— Мама, выйдзіце, пагаварыце з гэтым чалавекам і папрасіце яго ў хату,— дрыжачым голасам прагаварыла Ганна і, як бы хаваючыся ад усіх, спусціла вочы ў падлогу.

Больш нічога ўжо і не трэба было гаварыць. Марцін і Магдалена здагадаліся адразу. Марцін заварушыўся, узняўся з месца, затупаў па хаце і гукнуў:

— Гэля! На чорта гэты пук травы тырчыць з-за люстэрка? Выкінь!

— Гэта шоўкавая трава,— адказала Гэля, але Марцін ужо не слухаў. Ён ачышчаў стол ад свайго тытуню, і крышанага, і ліставога. Магдалена ўжо чутна была на двары. А ён, той самы, ужо ўваходзіў у хату, і Магдалена следам за ім. Ён увайшоў у хату і зняў шапку. Галава яго аж бліснула: яна спрэс была лысая, толькі над вушыма і на патыліцы былі валасы.

— Дзень добры вам у хату,— моцна і па-гаспадарску сказаў ён.— Я Сабастыян Рамашка, Тодзікаў бацька. Як той казаў, што маладыя да мітрэнгі здатныя, то гэта ўжо век-вяком чыстая праўда. Але нічога благога не скажу. Тодзік хлопец залаты. Працавітасці, здатнасці, развагі і сталасці ў яго хапае, каб жыць, як чалавек. Але ж маладыя яны абое. Прыехала яна аўтобусам у горад, адразу ў аптэку, узяла гэтае націранне ад болю ў назе, а Тодзік пачакаў, пакуль пасажыры высадзяцца, і трэба ставіць аўтобус на доўгі рамонт. Дык ён адпрасіўся ў начальства на двое сутак дадому. І Ганну ўгаварыў праехацца, каб з намі пазнаёміцца. Бо я ж вельмі прагнуў, каб убачыць яе. Я ж даўно ўжо ведаю пра яе. Мы з старою так былі

рады, што яе ўбачылі! Гэта ж свая родная робіцца. Прыехалі яны на дробным грузавічку. Вячэра ў нас зацягнулася да двух гадзін ночы. А на раніцу Ганна ўпала ў сумны одум, ірвецца дадому, душа яе не на месцы: у яе ж лякарства, якое дома так патрэбна! Тут яна пачала ўпікаць Тодзіка, што ўгаварыў яе ехаць. А ў таго і грузавічок прыпсаваны і бензіну таго толькі як панюхаць. Пакуль Тодзік круціў мазгамі, што рабіць, мы з старою ўгаварылі Ганну не сушыць думкамі галавы і неспакоем сэрца, паглядзець нашага жытла, пагуляць да вечара, яшчэ пераначаваць ноч, а там раніца, а там снеданне, а там, як той казаў, нешта ж будзе. Самае важнае, каб чалавек уночы выспаўся, а зранку паснедаў. Дык яна, залатая галава, паслухала. А я яе суцешыў, што ўсё адно аптэчнае лякарства болю ў назе адразу не ўтаймуе, і я сам паеду і нараю такога лякарства, што ўжо выпрабавана як мае быць. І мне ж самому даўно карціць пабачыцца і пагаварыць з вамі. Мы з старою не ведалі, як дзякаваць ёй, што яна асталася яшчэ. Пакуль там старая завіхалася каля печы, я павёў Ганну паказаць, як у агародзе шалеюць буракі і капуста, пасля паказаў ёй вешалы з венджанымі шынкамі і каўбасамі. Я ёй сказаў проста: перабірайся, кажу, хутчэй да нас, памагай есці, бо ратоў у мяне мала на гэтулькі надобасці. А тым часам у мяне ў хляве яшчэ два япрукі, як стагі сена, ляжаць. Аднаго буду калоць увосень, а другога ўзімку. Як той казаў, свіная маці не звялася. Потым Ганна стала з старою каля печы і люба-міла было глядзець, як яна ўпраўлялася. Залатыя рукі! Хто ж цябе, кажу, і выгадаваў такую? Напяклося ўсяго, насмажылася, наварылася, а як змеркла, папрыходзілі сваякі і сябрына ўся, і калі пачалі мы гаману за сталом, дык елі, пілі і гаманілі да трэціх пеўняў. А як толькі Ганна заснула, то мы выйшлі з старою з хаты і вокны завесілі, каб ёй была цішыня спаць. Мы з старою начавалі ў пуньцы. Дык Ганнуся да паўдня і праспала. Аж уміленне брала, як яна раскашэльвалася сабе на падушках. Ну, а потым жа пачалося снеданне. Ужо каровы збіраліся на дзень другі раз выганяць, як ад стала адкаціліся. Тут я ўзяў у калгасе жарабка вольнага, і мы з Ганнусяй селі сабе ў драбінкі і рванулі з месца. Вось і ўсё. І Ганнуся дома, і лякарства дома, і я на яе паглядзеўся, і да вас завітаў на добрае знаёмства, сваяўства і лад. Праўда ці не?

І ён так паглядзеў на Ганну, што Марцін Прыбыткоў-

скі адчуў нешта ніколі раней нязнанае. Душа яго раздвойвалася. Вялікае шчасце, што Ганну так любяць і так рады ёй, поўніла яго душу. І разам з тым смутак апаноўваў яго: Ганна ўжо толькі госця ў сваёй хаце. Магдалена выцерла вочы і пачала завіхацца ля стала.

— Гэля, памагай маці! — гукнуў Марцін.

Галена і Магдалена ўзнялі ў хаце вялікі рух, ставячы ўсё на стол. Але Сабастыян Рамашка так адразу за стол не сеў. Раней ён распытаўся, хто яшчэ ёсць у сям'і. Дазнаўся, што ёсць яшчэ хлопец Кастусь і што ён недзе на рабоце ў полі. Прыйшлося чакаць Кастуся. За стол селі толькі на самым змроку, калі вярнуўся з поля Кастусь, прыйшоў Магдаленін родны дзядзька Самусь Крамарэвіч і прыйшоў Марцінаў сваяк і сябар, швагер яго стрыечнага брата Мікалай Разважнік. І яшчэ хто-ніхто прыйшоў. Як узялі па першай чарцы, дык захацелі і па другой. Сабастыян Рамашка даваў волю сваёй натуры і стараўся, каб не залежваліся на языку словы. Але ён гаварыў не так сабе абышто, а ўсё патрэбнае і практычнае. Ён памятаў, што Ганна не знаходзіла сабе спакою, каб хутчэй завезці бацьку лякарства ад болю ў назе.

— Ага, дай божа памяць,— сказаў Сабастыян адразу пасля першай чаркі.— Што гэта ў цябе, браце ты мой, з нагою?

— Хто яго, або захаладзіў, або падверадзіў,— адказаў Марцін.

— Э-э, дык аптэчнае лякарства тут не заўсёды і поможа. Я табе параю такіх лекаў, што напэўна памогуць і ад захалоду, і ад падвяроду. Ты, пане браце, вазьмі бутэльку і налі ў яе крыху ў дно свежага салодкага малака. А тады занясі бутэльку ў лес і пастаў у мурашнік так, каб бутэлька роўна ўся была схавана і каб рыла яе прыходзілася роўна з верхам мурашніка, а можа, і ніжэй крыху, дык гэта назе не зашкодзіць. Мурашкі, як шляхта на фэст, мой пане, рынуцца ў малако. Іх адразу стане поўная пляшка. Ты іх там заткні і прынясі дадому, пастаў у цёплую печ, каб яны затхнуліся, а тады высып у макацёр іператры качалкаю, каб яны сокам накрыліся. А тады, разам з сокам, зноў у бутэльку і налі даверху спірытусу. Няхай яно яшчэ дзень пастаіць, перамяшаецца, нацягне, састоіцца як мае быць, а тады налівай сабе на далоню і вышмароўвай нагу. Чуеш? Не пі, а шмаруй. Гэта лякарства павярхоўнае. Бо практыка паказала, што пітвом тут нагі не вылечыш.

— А хто ж гэта дзе практыкаваўся? — зацікавіліся за сталом.

— Як гэта хто? Уга! У Цімкавічах быў такі Савасцей Панебра, дык у яго таксама нешта з нагою было. Я яму і нараіў шмаравацца спірытусам з мурашкамі. Але ён быў такі ласунчык, што пакуль вышмараваць нагу, дык няйначай адпіваў яшчэ з бутэлькі. Натуру меў такую, што не мог вытрымаць. Нарэшце ўжо так у яго і пайшло: калі сядзіцца шмараваць нагу, дык кладзе каля сябе закуску. І пакуль ён тую нагу лячыў, дык так уцягнуўся, што ўжо і нага пакінула балець, а ён не мог і дня пражыць каб паўлітра не выпіць.

— З мурашкамі? — аж устрапянуўся за сталом швагер Марцінавага стрыечнага брата, Мікалай Разважнік.

— Не, цяпер ужо без мурашак. Нашто ж яму тыя мурашкі, калі ўжо нага не балела. Бачыць жонка, што бяда з Савасцеем; трэба якую раду даваць, бо сап'ецца, як чорт ведае што. А там была такая Разэля з-пад Клецка, што ўсё на свеце ведала і вельмі добра вылечвала ад скрыпу ў касцях і ад свербу ў пятах. Савасцеіха пабегла да тае Разэлі: як вылечыць Савасцея ад магнасці да гарэлкі, а тая нараіла напаіць яго гарэлкаю, у якой вады больш як на тры чвэрткі і ў якой шэсць тыдняў мок нежывы крот. Ну што ж, кожны ратуецца як можа. Узяла Савасцеіха вады, боўтнула туды крыху гарэлкі, каб гарэлачны пах ішоў, і паклала туды мачыць на шэсць тыдняў крата. Праз шэсць тыдняў пачаставала Савасцея. Той як хапіў шклянку, дык каб яшчэ трохі, то богу душу аддаў бы. Два дні яго рвала, здавалася, што вантробы з яго вывальваюцца. Аднак жа памагло.

— Няўжо такі памагло?—аж заглушыў Мікалай Разважнік рогат усяго застолля.

— А як жа! Ад таго часу Савасцей ні разу не ўзяў у рот і кроплі гарэлкі з мочаным кратом.

— А так? А без крата? — паўгінаглі ўсе галовы ў стол, каб не рагатаць, хоць пакуль Сабастыян скончыць сваю гаворку.

— А без крата то браў як мае быць. І пяпер ужо меў на гэта прычыну: яму трэба было ачышчацца ад таго паскудства, якім яго былі пачаставалі.

Сабастыян Рамашка пачаў тут расказваць, як Савасцей Панебра пасля надумаўся быў чым-небудзь падобным адчаставаць жонку, але пеўні ўжо так спявалі недзе за Мар-

цінаваю хатаю, што Сабастыян з устрывожаным выглядам сціх, падумаў і сказаў:

— Няўжо гэта пеўні? А я ж яшчэ не сказаў самага патрэбнага.

— А скажы ты, браце, ці гэта ўсё, што ты казаў, было, ці магло быць? — запытаў Мікалай Разважнік.

— Ці было, ці магло быць, пытаеш? — заклапочана абазваўся Сабастыян.— А ліха яго, прызнацца вам, ведае. Здаецца, было недзе. А калі ты чалавек бывалы, то ты павінен ведаць, што добра ўсё тое, што гладка ідзе.

— А братка ж ты мой, от жа я люблю слухаць, калі хто вясёлую лухту вярзе!

Сабастыян паглыбіўся ў нейкую сваю задумёнасць. І ўжо здавалася, што ён і ўвесь час быў такі маўклівы. Займалася на дзень. Усе выйшлі з-за стала, і ніхто не ведаў, ці гэта праўду расказваў Сабастыян Рамашка, ці выдумляў. У яго праўда выходзіла, як выдумка, а выдумка, як праўда. Але шчыра нарагаталіся ўсе. Ён і дома быў такі.

Гэта была ўжо трэцяя ноч, калі Ганна позна заседжвалася. Цяпер яна адразу пабегла ў сена і кінулася спаць. Дрымота навалілася на яе ў той жа момант. Праз сон яна чула, як шастала сена і нехта хадзіў, але ёй цяжка было падняць галаву. А гэта была маці. Яна лягла шчыльна поплеч Ганны і пачала шаптаць:

— А ты ж у мяне ўжо толькі ў гасцях, а не дома... А ці памятаеш ты, Ганнуся, як, малая яшчэ, ты гнала босая карову ад калодзежа і прабіла была аб востры корч нагу да самай касці. І як ты ляжала напалоханая, і як бацька тужыў, што табе баліць, а ты прасіла, каб цябе вынеслі на двор...

Магдалена, лежачы пры Ганне, успаміпала і шаптала. Праз гэты шэпт прайшла і маладосць самой Магдалены, і маленства Ганны, і ўсё вялікае і значнае, і малое і няўзначнае, але што жыло ў чулай душы маці, якая выгадавала сваю дачку. Ганна спала вельмі моцна, а Магдалена, пакуль узышло сонца, нашапталася сама сабе ўволю. Душа яе раздвойвалася. Больш, як калі раней, уся яе істота хілілася да Ганны, думкі і сэрца поўніліся ёю. І шкада было Гэлі, якая перад Ганнаю быццам ужо занядбаная аставалася.

Усё адразу змянілася. За адну ноч устанавілася ў хаце нешта новае. Адчуванне таго, што Ганна толькі госцяю

стала, было ў кожнага і ў самой Ганны. У яе шчымела ў грудзях. Сабастыян Рамашка паехаў пасля дванаццатай гадзіны, і ўсе адчулі, што як бы чаго не хапае. Дзіўна было: толькі ўчора яго ўпершыню бачылі, а здавалася, што век-вечны яго ведалі і што не было такога часу, калі ён не бываў у гэтай хаце і калі Прыбыткоўскія не ведалі, што ён ёсць на свеце. Паехаў ён адсюль, як блізкі свой, і сам быў рад гэтаму. Усё было скончана. Марцін адчуваў, што Ганнін лёс ужо вызначыўся як мае быць. Сышлі на нямашто думкі, што Ганне яшчэ рана ісці замуж. Ужо і Тодзік стаў зусім добры і як свой. Ён зноў вадзіў аўтобус, кожны раз даваў кругу, выкіроўваўся на Пераброддзе і штодзень бачыўся з Ганнаю. Цяпер ужо добра яго ведалі. Як гэта раней не заўважалі, што ён не які-небудзь абы-хто, а працавіты і шчыры хлопец? Пад канец лета ён прывёз Ганне паперу: яго той брат у Мінску, «прафесар», выстараўся, што яна назначана настаўніцай у Лошаўскі Перавоз, а не куды інакш. Тодзік быў рад: зараз прыйдзе восень, і хіба можна цяпер адкладаць шлюб? Трэба зараз жа пераязджаць у той Перавоз.

Вяселле было на пачатку ранняй восені. Усё Скіп'ёўскае Пераброддзе і палавіна Якубавіч гуляла на вяселлі. Як толькі ў музык з аркестра якубаўскай пажарнай дружыны цэлыя асталіся шчокі? Два дні бесперастанку яны брадзьмулі ў дудкі і трубы. На трэці дзень музыкі сталі ў брамe і зайгралі марша. У Прыбыткоўскіх у хаце стала ціха.

## II

Усё сышлося разам, і Магдалена Прыбыткоўская ўбачыла, што вялікі клопат яе жыцця ўвайшоў у новую сваю квадру. Ганна першая пакінула бацькоўскую хату. Другі за ёю быў Канстанцін. Калі было Ганніна вяселле, ён толькі яшчэ дарастаў да ранняга свайго юнацтва. Але да гэтага часу натура яго ўжо выраўнялася як мае быць. Чалавек, чулы на здогадку, пазнаўшы яго крыху, ужо і цяпер мог бы сказаць, які ён будзе ў сталыя свае гады. Можа, льга было б у ім убачыць духоўнае падабенства да Ганны. Але гэта было б павярхоўнае ўражанне. Ганна была сталае дзіця, схільнае да задумёнасці, і толькі таго. Канстанцін жа быў схільны не да задумёнасці, а да думання. З гадамі пячаць думкі вельмі выразна пачала вызначацца на рысах яго твару. Праўда, пасля так усё пайшлося яму,

што думка няйначай павінна была стаць першай адзнакай усяго яго аблічча. Але да гэтага прайшло яшчэ колькі часу. Пакуль да тых падзей, то ў Скіп'ёўскім Пераброддзі ўсё было добра і шчасліва. Кастусь Прыбыткоўскі любіў гэты кут, дзе ён нарадзіўся і вырас. Тут было многа прасторнаі зямлі, неба, дрэў, вады. Тут бытавала паэзія простай працы. Чуламу чалавеку магло здавацца, што пад ціхім, роўным і вечным шумам у вяршалінах густых хвояў Скіп'ёўскага лесу цяжкае ўтрапенне не кране чалавечай душы. Калі праўда, што ў кожным чалавеку льга знайсці частачку душы паэта, то гэта магло мець дачыненне да Канстанціна Прыбыткоўскага. Раз ён сказаў быў бацьку: «Скіп'ёўскі лес стары. Дарога паўз яго ўжо, можа, дзвесце год такая, бо прыдарожныя дубы там маюць свайго веку не адну сотню гадоў. Дык магло быць, што мой прапрадзед, у такія самыя свае гады, як я цяпер, стаяў на той самай дарозе і глядзеў на тое, што я цяпер бачу? Мне нават страшна падумаць пра гэта».

Як той казаў, кожны знойдзе тое, чаго шукае. Магдалена Прыбыткоўская вельмі востра заўважала гэтую рысу ў натуры свайго сына. Яна думала пра яго, што ён маўклівы ахвотнік да адзіноты. Можа, гэта і была праўда, але яна не месціла ў сабе ўсёй Канстанцінавай натуры. Сваяк Марціна Прыбыткоўскага і яго добры сябар, на многа год за яго маладзейшы, перабродавец Мікалай Разважнік вельмі заўзята трымаўся іншай думкі. Гэта быў чалавек, дробны з твару і постаці. Ён гаварыў высокім, тонкім голасам і шпарка сыпаў словамі. Ён вельмі любіў парагатаць з чаго-небудзь смешнага і з гэтай прычыны так казаў пра Кастуся Прыбыткоўскага: «Гэты Прыбыткоўшчык вельмі здацен на слова. Я страх які лёгкі раблюся на ногі ў той бок, дзе добрую лухту вярзуць. Дык колькі разоў я бегаў на другі канец вуліцы рагатаць, як Прыбыткоўшчык прастарэкуе. А зялёненькі ж яшчэ. Губа яшчэ голая, як шкло на дажджы. Калі камар сядзе, дык за вярсту з губы відзён». Тут магло быць дзіўна: дзве зусім супроцьлеглыя думкі. Але і тая, і другая мелі ў сабе добрую трываласць. Канстанцін быў багаты душой малады чалавек.

Здавалася, што ён быў вельмі прывязаны душой да Скіп'ёўскага Пераброддзя і нікуды вельмі адсюль не імкнуўся. Ён найдасканалейшым парадкам ведаў тутэйшую мясцовасць на самую шырокую акругу. Ён меў здольнасць востра заўважаць і назаўсёды пакідаць у памяці раз бача-

нае ці чутае. Чалавек жа не жыве на свеце так, як ляжыць на месцы ўрослы ў зямлю камень. Ад самых зялёных год сваіх Кастусю Прыбыткоўскаму даводзілася бываць тут дзе-нідзе. Але ён, у жывым сваім уяўленні, пакідаў не толькі тое, што сам бачыў, але і ўсё, што чуў. У яго памяці назапашваліся і карціны мінуўшчыны, і падзеі сучаснасці, і аблічны малавядомых яму людзей, і дробныя здарэнні. Была і яшчэ адна асаблівасць гэтай натуры. Нешта занадта рана, сам сабе, ён даў ацэнку матчынай асобе. Яму пачало ўяўляцца, што яна імкнецца мець ад яго падтрымку і спагаду. Ён як бы меў ужо такую сілу, што з вышыні яе глядзеў на сваю маці. Практыка наступных год паказала, што Магдалена Прыбыткоўская была не зусім такая, як уяўлялася яна сваму сыну. Аднак жа наконт існасці яе душы ён не памыліўся. Усё збіралася і назапашвалася. Прыйшоў час, і неўзабаве гэтыя простыя душы скаланула небывалая катастрофа. Тады некаторыя моманты з таго, што ведаў і трымаў у сваім уяўленні і памяці Кастусь Прыбыткоўскі, сталі мець дачыненне да яго душы і дзейнасці і пэўным чынам спляліся з яго лёсам. Што-ніштo з таго тут трэба ўспомніць.

Ён ведаў, што кіламетраў за сорак ад Скіп'ёўскага Пераброддзя ёсць немалы лес, які завецца Богараўшчына. Гэтую Богараўшчыну рэжа напалам вузкая дарога, няроўная, крывая. Яна цягнецца на кіламетраў сем. Па трэцім кіламетры ад пачатку лесу дарога вялікім кругам абыходзіць лясное азярцо, берагі якога спрэс з дрыгвы. Там стаіць прасторная хата на дзве палавіны паабапал сянец. Вокны ў хаце вымаляваны чырвонаю фарбаю. У той хаце жыве дзевяць родных братоў Ярмаліцкіх. Самаму старэйшаму з іх сорак два гады, а самаму маладзейшаму дзевятнаццаць. Бацька іх, Антось Ярмаліцкі, мае цяпер год шэсцьдзесят тры. Ён перажыў двух сваіх жонак, ад іх і меў сваіх сыноў. Да рэвалюцыі Антось Ярмаліцкі быў леснікам на ўсю Богараўшчыну. Пасля рэвалюцыі асталіся тут за леснікоў два яго старэйшыя сыны, а ён сам толькі араў і сеяў сабе зямлю пры самым лесе, дзе стаяла вёска Вынь, у калгас якой і ўваходзілі ўсе Ярмаліцкія. Тры старэйшыя Ярмаліцкія пажаніліся былі ў адзін год. Другім годам ажаніліся яшчэ два. Наступным годам яшчэ адзін, а далей ужо як хто калі. Якраз цяпер кожны з іх ставіць сабе хату. Так што вёска Вынь вырастае на добрую чвэртку. А ў старой хаце пакуль што стаіць яшчэ такі дзіцячы

гармідар і тлум, што Антось Ярмаліцкі рагоча і прыгаворвае: «От жа Ярмаліцкіх расплядзілася, сказаць у добры час. І чарнявыя, і бялявыя, і даўганосыя, і кірпатыя. Адзін абзываецца з калыскі, другі з-за коміна, трэці думае, каб як гэта хутчэй з пялёнак вылезці, чацвёрты стараецца падвучыцца, каб як гэта самому порткі зашпільваць, а вунь дзеўка ўжо навучылася рогам хусткі нос абціраць. А дзяўчат навырастае! Божа літасцівы, дзе гэта будзе музык набрацца! Кожнай жа прыйдзецца некалі вяселле граць». Неўзабаве ўсе Ярмаліцкія пазабудоўваюць хаты і павыбіраюцца ў іх, а ў старой астанецца стары Ярмаліцкі з маладзейшым, яшчэ нежанатым сынам.

Кіламетраў з дзевяць ад Скіп'ёўскага Пераброддзя, на самым бярозавым гасцінцы, акрай вялікага сяла Ціхаміраўшчыны, жыла Нахама-мельнічыха, бяздзетная ўдава. Ёй было тады, калі яна заўдавела, гадоў пад трыццаць пяць. Пасля смерці мужа ёй асталася хата і млын-вятрак. З вятрака яна жыла, а дзяцей у яе не было ніколі. Яна наняла сабе ў млын малоць і прымаць завознікаў ціхаміраўца Юліка Сцяпуцкага, якога яна даўно і добра ведала. Гэты Юлік быў нежанаты хлопец гадоў пад сорак і гаспадаркі свае не меў, таму і не жаніўся. Нахама была вельмі мажная і здаровая асоба і добра спабачылася Юліку Сцяпуцкаму. Усё гэта рабілася ў часе польскай акупацыі дваццатага года. Юлік Сцяпуцкі таксама ўпаў у Нахаміны вочы. Трэба думаць, што тут было шчырае і даўгавечнае каханне. Доўгімі зімовымі начамі Юлік малоў у ветраку, а Нахама, замест таго каб спаць у хаце, сядзела штоночы ў млыне на мяшках, каб быць поблізу Юліка Сцяпуцкага. Як там усё ў іх ішлося, але пад сярэдзіну лета дзевяцьсот дваццатага года Нахама нарадзіла дачку. Імя ёй далі Люба. Юлік Сцяпуцкі быў у тыя месяцы ў Чырвонай Арміі і загінуў у баях на рацэ Бярозе пад Барысавам. Нахама адна гадавала Любу. Абнімаючы сваю малую адзіную дачку, Нахама памерла ад запалення лёгкіх у дваццаць сёмым годзе, калі Любе было поўных сем год. Пад апекаю ўсяго сяла Ціхаміраўшчыны Люба выгадавалася і вырасла, і ў юнацтве сваім жыла адна ў матчынай хаце па гасцінцы. Хаце гэтай было ўжо год пад восемдзесят, калі Люба дарасла да свайго юнацтва. Але хата яшчэ стаяла моцна, з усімі сваімі бакоўкамі, «спіжарняю» і прасторнымі сенцамі, хоць столь у ёй стала ўжо крыху нізкаватая.

Наконт гэтай Любы ўсе, хто ведаў яе, на ўсёй найшырэйшай акрузе, сыходзіліся на адной думцы: не тое, што яна была вельмі прыгожая, але яна была вельмі своеасаблівая. Яна яшчэ толькі нядаўна выйшла з падлеткаў, як пляменнік Мікалая Разважніка са Скіп'ёўскага Пераброддзя, малады хлопец Уладзя Арцёмчык, дамогся-такі таго, што яна пайшла за яго замуж. Такім парадкам гэтая Люба цяпер мела прозвішча Арцёмчык і жыла ў Скіп'ёўскім Пераброддзі. З той прычыны, што яна вельмі рана, яшчэ не даросшы паўналеццяя свайго, пайшла замуж, да пачатку Вялікай Айчыннай вайны яна ўжо мела даволі падгадаваную дачку Лізавету. Гэтай Лізавеце на пачатку вайны канчаўся нешта год шосты, а самой Любе было крыху менш за дваццаць тры гады. У сваім апавяданні я тут запабег наперад, але пра ўсё гэта трэба ведаць і не выпускаць з памяці, пакуль апавяданне не дойдзе да самых важных сваіх падзей.

Кіламетраў за шэсць ад таго горада, дзе вучылася ў настаўніцкім вучылішчы Ганна Прыбыткоўская, пры самай вялікай дарозе стаяў нізкі і доўгі дом, складзены з круглага бярвення. Дом быў стары, але яшчэ моцны. Калісьці, яшчэ задоўга да рэвалюцыі, у гэтым доме была так званая «станцыя земскіх коней», тыповая на той час транспартная ўстанова. Цяпер у гэтым доме жыў вядомы на ўсю шырокую акругу вінакур Язэп Уздышкевіч. Тут даволі-такі густа па мястэчках і сёлах стаялі невялікія броварні, вінныя заводзікі, на якіх калгасныя таварыствы гналі, і на продаж, і сабе на патрэбу, віно з яблык, ігруш, вішань, сліў, з лясных і агародных ягад, з арабіны і дзікіх ігруш, якіх тут былі цэлыя зараснікі. Язэп Уздышкевіч увёў тут гэтую вінагонную справу, і пад яго наглядам тут працавала цяпер больш за дзевятнаццаць такіх вінагонак. Сын яго недзе канчаў універсітэт, а дачка, вельмі яшчэ маладая, жыла дома. Яна звалася Волька. Кастусь Прыбыткоўскі яе ведаў. Колькі разоў яму даводзілася ехаць гэтай дарогай на аўтобусе, і ад яго вока нічога не ўхавалася. Ён усё ўжо ведаў як мае быць. Гэтай Вольцы мала было таго, што яна зіхацела тут сваім хараством. Дык не. Ёй яшчэ трэба было выстаўляць напаказ свае таленты. Тут штодзень хадзілі аўтобусы з пасажырамі і часта спыняліся каля Уздышкевічавага дома набіраць ваду. Студня з помпаю была тут жа. Пасажыры выходзілі размяць ногі і заўсёды бачылі Вольку. Яна стаяла ля свайго

дома ў сіняй спадніцы і белай вышыванай кофтачцы і або вышывала, або пляла з нітак прошвы, кружава ці што іншае. Трэба было дзівіцца, як спрытна ходзяць яе пальцы. Адным словам сказаць, усе бачылі: яна і прыгожая, і ўдалая. Маладыя пасажыры адразу даставалі з кішэняў люстэрачкі, папраўлялі на сваіх галовах «полькі», «боксы» і абкружвалі Вольку. Старыя пасажыры бубнілі сабе пад насы, седзячы ў аўтобусе:

— Зноў гэтая чартоўка хваліцца, што вышываць спрытная. Усё ўдаласці свае паказвае. Усё жаніха нейкага чакае, як бы тут ёй сваіх хлопцаў мала. О, ужо і шафёр стаіць перад ёю, бач як пакручваецца. Цяпер гатоў які рамонт выдумаць і да вечара рамантавацца будзе.

Кастусь Прыбыткоўскі сам колькі разоў быў у ліку тых маладых пасажыраў і разам з усімі стаяў перад Волькаю і гаварыў з ёю. Пявучы, мяккі і прыемны яе голас назаўсёды астаўся ў яго вушах. А вобраз яе пакінуў у яго душы смутак. Ён быў яшчэ занадта малады на тое, каб гаварыць з ёю аб сваіх пачуццях і каб усвядоміць тое, што гэта самыя першыя пачаткі першага кахання. Як бы там ні было, але смутак па той Вольцы ён павёз у душы ў сваю далёкую дарогу, калі пакідаў Скіп'ёўскае Пераброддзе ўвосень дзевяцьсот трыццаць восьмага года.

У тую восень ён прызываўся ў армію на службу. І яшчэ месяцаў за тры да гэтага Магдалена як бы забыла нават, што самая ўлюбёная ёю з усіх дзяцей гэта Галена і што Ганна недзе там у Лошаўскім Перавозе даўно ходзіць цяжарная і было б добра, каб быць пры ёй заўсёды. Магдалена проста як не рвалася на часткі. Не такую яна мела натуру, каб хоць на момант спусціць з вока хату і гаспадарку. І да Ганны штодзень душа яе рвалася. І прагла яна быць увесь гэты час блізка пры сваім Кастусю. У яе хапала ног на тое каб пешкам, калі не траплялася машына ў дарогу, колькі разоў хадзіць да Ганны. Бадай-што подбегам яна кожны раз спяшалася ў Лошаўскі Перавоз, а пасля так жа імкнулася назад, каб хутчэй быць з Кастусём, які рыхтаваўся неўзабаве пакінуць бацькаўскую хату. Апошнія два тыдні перад Кастусёвым ад'ездам Магдалена ўжо не думала пакідаць сваю хату. Сваю трывогу аб Ганне яна сцішвала развагаю, што «там жа жыва і здарова Тодзікава маці, і сам Сабастыян Рамашка не дае на Ганну і ветру падзьмуць». Яна наважыла цвёрда: не адысці ад Кастуся да самага апошняга моманту, пакуль

ён ужо не сядзе на воз або ў машыну. Яна перамагла сябе і сумысля старалася не думаць пра справы ў Лошаўскім Перавозе. Аднак жа часамі яе апаноўвала трывожная нецярплівасць. Ёй хацелася кінуць дома ўсё і як мага імчацца туды, дзе Ганна чакала свайго моманту, калі ёй прыйдзецца адчуць першы боль з таго, што яна дае жыццё чалавеку. У такія хвіліны ўзбуджанай трывогі Магдалена, з ясным розумам у галаве, старалася ачысціць душу ад непатрэбных парываў. Нарэшце настаў дзень. Гэта было на пачатку кастрычніка месяца. Кастусь ад паўдня і да вечара прасядзеў у хаце, і ціха ў яго ішла гаворка з бацькам. Назаўтра зранку ён паехаў. Марцін да самай зімы не мог прывыкнуць да таго, што Кастуся няма дома. А пасля ўстанавіўся цвёрды парадак: заўсёды тыдняў праз два прыходзіла ад Кастуся пісьмо. Усё ўвайшло ў звыкласць. Магдалена ж увесь час аніяк не магла выйсці з трывогі і клопату. Як толькі выехаў Кастусь, яна пачакала хвілін дзесяць і гукнула да Галены:

— Гэля! Бяжы на дарогу, пільнуй, можа якая машына трапіцца на Лошаўскі Перавоз!

Галена дзве гадзіны стаяла на вялікай дарозе, кіламетраў за два ад Пераброддзя. І такі прыгаварыла падарожнага шафёра, што якраз гнаў машыну яшчэ далей за Перавоз. Ён ахвотна завярнуў свой грузавік на Скіп'ёўскае Пераброддзе, яшчэ ахвотней пасадзіў каля сябе ў кабіну Гэлю, не менш ахвотна выпіў добра і не кепска закусіў разам з Марцінам.

— Толькі што сын мой паехаў у войска служыць,— гаварыў незнаёмаму шафёру Марцін,— а ў Перавозе дачка сабралася дзіця раджаць. Нейк усё сышлося адразу як з-пад маланкі. А самі адкуль едзеце і куды з пустою машынаю так далёка?

— Еду з Пералушчавіч у Кажушкавічы. Гэта наш калгас купіў там бугайчыка, дык забраць трэба.

— Ператрасецца ў дарозе гэты ваш бугай. Блізкі свет!

— А што яму зробіцца! Будзе адно пазіраць наўкола ды думаць: куды гэта мяне так імчаць?

Шафёр абцёр хустачкаю губы, страсянуў Марціна за руку і пабег да свае машыны. Магдалена рупыла за ім і села поплеч яго ў кабіну.

— Як, гэта не яна паедзе?!— кіўнуў шафёр галавой у бок Гэлі, якая стаяла ў браме.

— Не, гэта я паеду,— адказала Магдалена, і машына

рванулася з месца. Магдалена сядзела ўпурыўшыся. Можа, ехалі дзве хвіліны, а можа, дзве гадзіны, яна не заўважыла. Па той бок Лошаўскага моста яна сышла з машыны, а шафёр паімчаўся далей. Яна рушыла да Рамашкавай хаты, адчуваючы, як сэрца распірае ёй грудзі, і стрымліваючы хаду сваіх ног, каб не пабегчы. Колькі ўжо разоў яна падыходзіла так да гэтай хаты, і кожны раз ёй здавалася, што падыходзіць яна да зусім новага, яшчэ не бачанага раней месца. Тут ад усяго павявала ёй свежай навіною, і было вольна, прасторна, прыемна, утульна. Рамашкава хата відна была здалёк. Вяз і арабіна раслі з вуліцы перад яе вокнамі. Брамка з завостраных штыкецін, вымаляваная зялёнаю фарбаю, была адчынена. Куры грэбліся ў падмарожаным жвіры перад ганкам. Пукі сухога кмену, кропу і мяты тырчэлі з-пад страхі свіронка з высокім ганкам. Гусіны гвалт чуўся з саду. Хата была не новая, але дагледжаная, абшалёваная і абаткнутая. Пачынаўся час пасля паўдня. Дзень выбіваўся на яснасць. Магдалена нясмела і з трывогай адчыніла дзверы з сянец у знаёмую кухеньку. Там палала печ, і хлебнае цеста рвала ўгару века з дзяжы. Магдалена пераскочыла праз кухню трыма крокамі і ў большым пакоі ўбачыла за сталом Сабастыяна Рамашку. Ён сядзеў і нешта думаў. Магдалена перажыла пякельную пакуту. Ёй хацелася крыкнуць: «Дзе ж Ганна, што з ёю?» А яна перамагла сябе і сказала:

— Дзень добры вам, вы сёння з хлебам?

Сабастыян усхапіўся і падаў Магдалене руку:

— Але, сёння хлеб пяком. Я нікуды не іду, пільную, каб печ напалілася і каб цеста дзяжы не парвала.

— А дзе ж бабы?

Такім парадкам Магдалена падблізілася да таго, каб распытваць пра Ганну. А то яшчэ фацэтны Сабастыян падумае, што яна не верыць, што Ганне тут лепш, як у Скіп'ёўскім Пераброддзі. Ён вельмі заўзяты да таго, каб усе ведалі, што Ганне тут лепш, як у родных бацькоў. Твар яго расплыўся ад спакойнай усмешкі так, што вусы пайшлі далёка ў бакі, і ён сказаў:

— Ну, што ж, мая Анэта за раніцу намыла цэлую гору пялёнак і пайшла цяпер паласкаць на раку.

Магдалена ўздрыганулася і пабялела тварам.

— Ганна! — выгаварыла яна адразу ахрыплым голасам.

Сабастыян адчыніў дзверы ў бакоўку, і Магдалена ўба-

чыла Ганну. У гады свае маладосці Магдалена нарадзіла трое дзяцей. Але яна не магла бачыць, якая пячаць ляжала на яе твары праз многія дні пасля таго, як у яе нарадзілася Ганна, першае яе дзіця. Ганна ляжала ў пасцелі, уся пад лёгкаю коўдраю, і Магдалене здалося, што яна зараз скажа: «Як даўно было тое, калі я была малая! Прыйшоў час самой узяць на плечы вялікі клопат. Маці, не адыходзь ад мяне». Губы ў Магдалены задрыжэлі, і яна прыпала сваім ілбом да Ганнінага лба. Па твары ў Ганны прайшла вельмі рухавая рыса і знікла. Вось якая гаворка адбылася паміж Ганнаю і Магдаленай:

— Ганна, што гэта, дзе ж тваё дзіця?

— Мама, чаму ты пяць дзён таму не была тут?

— Дзе ж дзіця?

— Тодзік на двор панёс, як толькі выбліснула сонца.

— Дык чаму ж ты адразу не кажаш?.. А як ён, Тодзік, з табою цяпер? Глядзіць ён цябе? Шкадуе?

— Няўжо ж яшчэ пытаць пра гэта трэба? — як бы з крыўдай у голасе абазваўся Сабастыян. Ён праз увесь час стаяў у дзвярах, быццам бы без яго нагляду гэтыя дзве жанчыны павялі б гаворку не ў той бок.

— А можа, і трэба пытаць! — даволі-такі заўзята адказала Сабастыяну Магдалена.— Ганна ж не гаворыць сама. Гэта ж натура!.. А што, Ганнуся, хлопец ці дзяўчынка?

— Хлопец, мамачка.

— Дык чаму ж ты адразу сама не сказала!.. Ну, а як усё было, цяжка было ці нічога?

— Ой, а тады якраз дождж паўдня ліў, дык я і падумала была, што, можа, гэта ты дзе ў дарозе ад дажджу прыхавалася. А перад вечарам расчысцілася і высвеціла сонца, а цябе ўсё няма.

— Ганнуся, гэта ўсё ведаеш чаму? Я не магла адхіліцца. Сёння зранку Кастусь паехаў у войска служыць. Гэта ж на два ці на тры гады.

— А невядома яшчэ, у якія часці? — абазваўся Сабастыян Рамашка,— можа, у артылерыю? Бо гэта, відзіце, я чаму пытаю? Я сам служыў у артылерыі. А на тым тыдні Тодзіка пазывалі ў ваенкамат, дык пералічылі яго ў танкістыя. Вы тут сабе гаварыце, а я пайду знайду Тодзіка.

— Мама,— сказала Ганна,— а што бацька пра мяне гаворыць? Ці прыедзе ён сюды?

Гэта і быў той момант, калі Магдалена вельмі выраз-

б 4378

па адчула, што клопат аб дзецях не змеяшыўся, а ператвараецца ў штосьці большае, усеабдымнае. У гэтым адчуванні было месца на вялікую радасць: Ганна нязменна астаецца з ёю. Магдалена адразу выйшла з свае ўражанасці і як бы нерухомасці. Яна заварушылася і акінула вачыма ўсё. Яна ўвайшла ў гаспадарлівы рух, і разам з тым ліўся струмень яе слоў:

— Чаму ў цябе падушкі так пад галавою збіліся? Дай папраўлю. Гэта іхняя падушка з пршваю? Няхай бы ты на сваёй ляжала, што з дому. Нашы павінны быць мякчэйшыя. Я адмысловы пух дабірала. Я пры табе і астануся на тыдняў тры. А пасля бацька пад'едзе. Павінна быць неўзабаве пісьмо ад Кастуся. Падыміся плячыма, дай падушку паправіць. О, так. Добра. Ляжы. Цяпер пайду ў кухню, у іх жа хлеб сёння, а нікога няма. Можа, пара печ вымятаць.

Але сама што яна намерылася стаць пры печы за гаспадыню, як адчыніліся з сянец дзверы, і ў хату ўвайшлі: сама Сабастыяніха, Тодзік з дзіцем на руках і Сабастыян. Магдалена ўбачыла Тодзіка ў новым яго абліччы. Хто мог калі думаць, што ён такі будзе? Здавалася, ён ніколі і не пускаўся на тыя наіўныя хітрыкі, каб рамантаваць аўтобус ля хаты Прыбыткоўскіх, каб хоць на хвіліну пабачыцца з Ганнай. Можна было падумаць, што век меў ён гэтае сваё дзіця і так заўсёды насіў яго, спакойна і з роўным настроем. Сіла простай натуры ідзе ад прыроджанага ўмельства быць у спакойнай раўнавазе з першай жа хвіліны, як толькі праходзіць час маладога свавольства і пачынаецца патрэба быць сталым. Тут вялікую сілу мае ясны розум і развага простага чалавека. Што ж да парываў маладой душы, то яны вечна знойдуць сабе вялікі прастор у шчаслівым зліцці гэтага чалавека з навакольным светам. У наймаладзейшыя свае гады ён будзе думаць аб сталасці жыцця, а не аб своеасаблівых прынадах легкадумнай уцехі. Працавітасць яго пачынаецца з маленства. Магдалена Прыбыткоўская чулай сваёй душой зразумела да канца ўсе гэтыя рысы ў натуры Тодзіка Рамашкі. Яна была рада і шчаслівая. Ёй была радасць якраз з яго рук браць у свае рукі дзіця свае Ганны. Аднак жа радасць яе яшчэ пабольшылася, калі яна знайшла ў Ганнінага сына рыс ад Ганны больш, як ад Тодзіка. Адным словам, у душы Магдалены забытавала поўнае шчасце і, самае важнае, добры спакой. Але не надоўга. Яна

намервалася быць тут тры тыдні, а ледзьве выбыла тыдзень. У Ганны ўсё было добра, дык Магдалену пачала смактаць трывога, што там ужо недзе ёсць пісьмо ад Кастуся і яна не ведае, што ён піша. Выйшла якраз так, што тымі днямі аніякай падарожнай машыны на Скіп'ёўскае Пераброддзе не натрапілася, а калгасныя коні былі дзень пры дні ў раз'ездзе і на пільнай рабоце. Магдалена наважылася ісці пешкам. Сабастыянавы ўгаворы нічога не памаглі. На пачатку другога тыдня Магдалена рванулася ў дарогу. У душы яе панавала радасць. Клопат гэты быў ёй прыемны. Яна шпарка ішла сухою прамарожанаю дарогаю і дзівілася шпаркай хадзе часу. Ужо ж неўзабаве будзе каля двух год, як было Ганніна вяселле. Усё цешыла яе вочы: прыдарожныя дрэвы і сухая травіна над каляінай і сіняе «акно» ў неба ў глыбокім прарыве паміж хмар. Душа яе імкнулася абняць увесь свет і мець шчасце ў гэтым яднанні з усім жывым і ўсім тым, што існуе.

Калі яна прыйшла дадому, то ёй прыйшлося расчаравацца адразу: ад Кастуся пісьма яшчэ не было. Яно прыйшло толькі яшчэ праз тыдзень. Кастусь напісаў толькі некалькі радкоў з дарогі. Толькі цяпер ён ехаў на сталае сваё месца. Другое пісьмо было ўжо з горада Рыльска. Ён хваліў ціхі горад Рыльск на Куршчыне, «адно што хвоі тут няма, як у Скіп'ёўскім Пераброддзі. А навокал поле. На стрэльбішча ходзім далёка ў поле». Марцін разоў пяць моцна перачытаў гэтае пісьмо, і Магдалена зноў паімчалася ў Лошаўскі Перавоз. Там Ганна гадавала дзіця, а сюды прыходзілі пісьмы ад Кастуся і ўрастала ў вялікую сілу здаровая, як бура, Галена. Магдалена не магла разарвацца. Ёй усюды трэба было паспець. Мікалай Разважнік наконт гэтага так казаў:

— Магдалена Прыбыткоўская цяпер жыве на два асэдасы. Два тыдні сядзіць у Пераброддзі, а два ў Перавозе. От бо натура! Каб прыйшлося, то яна можа вытрымаць клопат аб усім свеце.

Мікалай Разважнік любіў пасмяяцца. Магдалена Прыбыткоўская не заўважала яго смеху. Душа яе ў гэтыя часы імкнулася да чагосьці, яшчэ невядомага ёй, у што яна верыла і чаго чакала. Гэта павінна быць шчаслівая дабрыня. Падрасце Ганніна дзіця, дарасце да паўналецця Галена, і праз два гады вернецца ўжо зусім сталы Кастусь. Праходзілі месяцы, прыходзілі ад Кастуся пісьмы, і Магдалене было добра адчуваць, што тое, чаго яна

чакае і што няйначай прыйдзе, усё бліжэй падыходзіць.
Можна сказаць пэўна, што Кастусёвы пісьмы, каб узяць іх усе, якія ён толькі напісаў з Рыльска ў Скіп'ёўскае Пераброддзе, маглі б паказаць, што натура і ўсё духоўнае аблічча яго вельмі цвёрда даходзілі цяпер ужо да свае сталай паўнаты назаўсёды. За ўвесь час, пакуль толькі льга было пісаць у Скіп'ёўскае Пераброддзе, ад Кастуся прыйшло сорак сем пісьмаў. З першых пісьмаў дваццаці льга было б уведаць, што ён вельмі многа думае аб Скіп'ёўскім Пераброддзі, аб Ганне і аб бацьку, аб Скіп'ёўскім лесе і аб усім, што ў гэтым баку робіцца. «Я служу ў артылерыі, але ўжо і з вінтоўкі добры цалок... Мусіць, ці не даслужуся да сержанта». Не раз у гэтых пісьмах адзначалася, што «артылерыя — цяжкая справа». Часта ў пісьмах гаварылася пра тамашнюю зямлю, як і што сеюць, і якія лясы, у якіх «хочацца ўбачыць хвою». Дубы пры дарогах і тапалі. Апісвалася дарога з Рыльска на Льгоў і выезд з Льгова на вялікі бярозавы гасцінец да Курска. Усё ён заўважаў і як бы да ўсяго меў інтэрас. А пасля яго пісьмы пачалі рабіцца скупейшыя на знадворныя ўражанні і апісанні. З'явілася жаданне ведаць больш аб бацьку і маці. Пачала гучэць нота, што як быццам бы ён урастае ў свядомасць таго, што можа быць апекуном іх усіх і здолее пакіраваць жыццём іх. Магдалена гэтую ноту ў пісьмах сына вельмі востра адчула і колькі разоў з радасным утрапеннем сэрца, сама сабе ціхом, выцірала рогам хусткі вочы. Пасля пісьмы сталі яшчэ скупейшыя. Ён або апаноўваўся нейкімі новымі думкамі, або, можа, пачыналася ў яго замыканне самога ў сабе? Ці, можа, ён пачаў жыць новым імкненнем і жаданнем? Сапраўды-такі здараюцца духоўныя пераварогы ў маладых людзей, здаецца часам, што перайначваецца ў чалавека натура. Нічога аднак наконт гэтага выразнага ў Канстанцінавых пісьмах не прарывалася. І нельга было ўгадаць, у які новы бок пачала гарнуцца яго думка.
Праўда, было пісьмо, самае апошняе з усіх прысланых, у якое трэба было б учытацца. Але ў яго ніхто не ўчытваўся, бо яно прыйшло ўжо за адзін дзень да вялікай трывогі і за шэсць дзён да страшнай катастрофы. Вось гэтае пісьмо. Яно было адрасавана Ганне. «Сястрыца, ужо ідзе трэці год, як я жыву далёка ад вас усіх. Я стаў салдатам і прывык быць дома там, дзе ёсць над галавою неба. Толькі што хіба столь у гэтым доме здаец-

ца мне западта высокая, калі густа свецяць зоры. Сваю службу я ўжо закончыў і збіраюся назусім дадому. Я намнога з'іначыўся і сам гэта бачу. З гэтай прычыны мне здаецца, што жыццё маё дома пойдзе нейк інакш, як раней. І не толькі гэта таму, што мне прыбавілася веку больш як два гады. А Гэля ўжо, мусіць, зусім стала дарослая... Шануйце бацьку і маці ад усялякіх прыкрасцей. Нешта апошнімі часамі на мяне находзіць одум пра нашу маці. Гэта прыкра і нядобра, але, як бы я наперад адчуваю, што яна ўпадзе ў гора за нас. Я ведаю: гэта ўсё ад таго, што я даўно яе не бачыў, а яна такая дбайная аб усіх нас. Вось якія непатрэбныя ў мяне думкі. Дык трэба хутчэй быць дома і ўбачыць маці ў добрым жыцці. Ад'езду свайго я чакаю праз тыдняў пяць, а калі праз сем, то гэта найбольш. Я цяпер сержант. Калі часамі вайна, то буду мець пад сваёй камандай гармату. Але дзеля практыкі мне на занятках даводзілася камандаваць і батарэяй. Усё ішло ў мяне як мае быць. Гэта практыка на тое, калі часамі на вайне выйдзе з строю камандзір батарэі, дык каб сержант мог стаць на месца лейтэнанта. Але табе гэта нецікава і непатрэбна. Хоць за ўвесь гэты доўгі час тут і не было вельмі калі, але я перачытаў гэтулькі кніг, што аж самому дзіва, колькі чалавек можа ўсяго перачытаць. Так што я вярнуся дадому з прывычкай многа чытаць. Ты адно гэтага пісьма не вельмі многа паказвай, а то маці, калі прачытае пра сябе, то будзе рогам хусткі выціраць вочы. А цяпер маленькая просьба да цябе, Ганнуся. Калі ты вучылася ў настаўніцкім вучылішчы, то часта ездзіла дадому і назад. Не даязджаючы да горада кіламетраў шэсць ці восем, каля доўгага і нізкага дома пры самай дарозе, аўтобусы часта спыняліся набіраць ваду. Той дом яшчэ ад старых часоў завецца «земская станцыя». Дробная вёсачка там збоку завецца Янаўшчына. Мне трэба туды напісаць пісьмо аднаму чалавеку, але я ніколі не ведаў, ці ёсць там у іх паштовае аддзяленне, ці трэба пісаць на горад. І які ў іх сельсавет, калі трэба на сельсавет пісаць. Дазнайся і напішы, бо я не хачу, каб маё пісьмо хадзіла па руках. Вось і ўся мая просьба. Твайму Тодзіку зрабіць гэта вельмі лёгка. Перакажы ў Скіп'ёўскае Пераброддзе, што перад самым сваім выездам я падам тэлеграму. Хутка будзе наша сустрэча. Цалую цябе моцна, сястрыца. Твой брат Канстанцін Прыбыткоўскі».

Ганна не паспела дазнацца і паслаць яму адрасу. Не да гэтага ўжо было. Пасля гэтага пісьма Ганна адно падумала, што Кастусь ужо ў новым абліччы вернецца дадому; гэта як мае быць пачаўся зусім сталы чалавек. Гэта ўжо не той хлапчук, які тады пакінуў Скіп'ёўскае Перабродздзе. І яна адразу забылася на гэтае пісьмо: пачалося вельмі шпаркае з'іначанне жыцця. Што ж да Кастуся, то ён ужо і не чакаў таго адраса. Адрас стаў яму не патрэбен адразу, праз колькі дзён пасля таго, як паслаў ён Ганне тое пісьмо. Справа была такая: ён сапраўды пісаў на Янаўшчыну ці на «земскую станцыю» «аднаму чалавеку», і чалавек гэты быў — Уздышкевічава Волька. Ён і прыехаў у Рыльск са смуткам аб ёй. Але гэта быў толькі пачатак і гэта магло б прайсці само сабою. Але яно не прайшло, а разраслося ў яго пакуты. Жанчына, у вобразе гэтай, малавядомай яму, а таму яшчэ больш прывабнай дзяўчыны, усё больш, мацней і ўпарцей стаяла ў яго ўяўленнях і думках. У той меры, у якой ішоў час, яго думкі аб ёй ператвараліся ў прагу. Пачаліся ночы з трывожнымі снамі. Фізічная пачуццёвасць распальвала яго фантазію, і ён сам стварыў сабе яе закончаны вобраз, які лагічна і дапоўніў жывую і сапраўдную постаць Уздышкевічавай Волькі. Можна было б сказаць, што ў гэтыя часы ўсе яго думкі і мары сыходзіліся на гэтым жаночым вобразе. Нарэшце ён не вытрымаў і пачаў пісаць ёй. У першым пісьме ён вельмі дакладна апісваў, як і калі адбылося іх знаёмства: «Аўтобус стаяў, і дзьмуў вецер з пылам, а вы вышывалі. Я быў у зялёнай шапцы. Вы вельмі многа рагаталі, калі я стараўся абсмяяць нейкага бялявага кавалера каля вас. А пасля мы яшчэ колькі разоў бачыліся і ўжо без смеху гаварылі». Ён пісаў, што гэтым пісьмом дае толькі напамінак аб тым, што ёсць такі чалавек, які пра яе заўсёды думае. Праз месяц пасля гэтага пісьма ён паслаў другое, ужо больш выразнае. А пасля і трэцяе. У апошнім пісьме ён ужо гаварыў выразна. Ён так проста і пісаў, як яно сапраўды было: ён пра яе толькі і думае. Яна вечна стаіць перад яго вачыма. Ясна адно: гэта праверана ўжо доўгім часам, што тут вялікае, сапраўднае каханне. Вядома, ён аніяк не думаў, што яна адразу адкажа яму. Гэта так заўсёды, што шчыра закаханы, сам таго не думаючы, ставіць сябе ніжэй за тую, да якой імкнецца. Яна не адказала на ўсе тры яго пісьмы. Яна магла толькі пасмяяцца з яго пісьмаў. Але ж

яны маглі і не дайсці да яе: ён не ведаў дакладнага адраса. Спачатку ён думаў, што больш нават і не будзе трывожыць яе, але пасля трэцяга пісьма прайшло даволі часу, і ён зноў не вытрымаў. Ён папрасіў Ганну дазнацца дакладны адрас. Але якраз у тыя дні прыйшло ад Волькі пісьмо. (Ад насылкі ім першага пісьма прайшло ўжо месяцаў сем.) Значыцца, пісьмы яго дайшлі да яе, дарма ён думаў, што пісаў недакладны адрас. Яна проста з нейкіх прычын марудзіла з адказам. Усё было добра, але пісьмо не прынесла яму спакою. Яно яшчэ больш паглыбіла яго ўражанасць. У такой жа меры і яго пісьмы выбілі яе з штодзённай звыклай раўнавагі. Пакуль што цяжка было б яшчэ сказаць, якія струны ў яе душы былі закрануты яго пісьмамі. Можа, тут найбольшае месца мела простая жаночая цікаўнасць. Але відаць, што было і штосьці іншае апроч цікаўнасці, можа, пачатак шчырага пачуцця. Бо яна сапраўдытакі памятала яго, і вельмі добра. Памятала дакладна ўсе сустрэчы і гутаркі і пра гэта цяпер пісала. Вельмі можа быць, што яна пра яго думала часта, і тры пісьмы падагрэлі тое, што толькі драмала ў душы. Яна яшчэ была вельмі маладая, яшчэ толькі дарасла да паўналецця. Ёй было цяжка пісаць гэтае пісьмо. Многа разоў яна яго пачынала і ўсё не магла выбіцца на патрэбны тон. Усё выходзіла не тое, што яна хацела б напісаць. Нарэшце, праз вельмі доўгі дзеля такой справы час, яна напісала тое, што вісела над душой. Яна імкнулася да вялікага пачуцця, і яно магло ўспыхнуць у яе душы з непераможнай сілай. Такі тон льга было адчуць у яе пісьме. І Канстанцін Прыбыткоўскі зразумеў усё. Пісьмо прыйшло зранку. Увесь той дзень і ўсю ноч да наступнай раніцы ён быў як у чадзе. Ніколі яшчэ яго пачуццё да яе не даходзіла да такой сілы. Прага хутчэй бачыць яе не адыходзіла ад яго ні на момант. Уночы ён не заснуў аніяк. Як толькі пачаўся дзень, ён пачаў пісаць ёй доўгае пісьмо. Тут ужо гаварылася ўсё адкрыта. Ён ужо быў з ёю ў душэўнай змове. Першыя радкі былі аб вечным і ўсеабдымным пачуцці. Яно будзе нязменнае заўсёды. Ён цяпер у гэта верыў. Пісьмо ён скончыў на пачатку адзінаццатай гадзіны ад ранку. А роўна ў адзінаццаць прыйшоў і быў абвешчан загад: рыхтавацца да раптоўнага выезду з горада Рыльска. Гэты дзень быў — дваццаць другога чэрвеня дзевяцьсот сорак першага года. Настаў час. Так, як і ўсіх, Кастуся Прыбыткоўскага агарнулі новыя турботы. Аднак жа пісьмо да Уздышкевічавай

Волькі ён паспеў яшчэ паслаць. Але гэта ён зрабіў ужо нейк механічна. Жаночы вобраз, які так доўга панаваў над яго душой, сцьмеў і адышоў. На пачатку шостай гадзіны таго самага дня артылерыйская часць, дзе служыў Канстанцін Прыбыткоўскі, пакінула сваё абжытае мэсца і выехала з горада Рыльска.

## III

Дваццаць шостага чэрвеня дзевяцьсот сорак першага года па ўсёй прасторы заходніх абласцей Савецкага Саюза стаяла яснае і гарачае надвор'е. Пад чацвёртую гадзіну таго дня артылерыйская часць, як толькі магла развіць свой рух, была на маршы. Сонца ўжо далёка схілілася з паўдня, але спёка стаяла вялікая. Яшчэ ўночы часць выгрузілася з цягніка і стала на колы. Гэта было не на станцыі і нават не на якім-небудзь глухім паўстанку, а проста пасярод дарогі, дзе машыніст спыніў цягнік.

Перш за ўсё гэта было так з той прычыны, што далей ужо не было куды ехаць. За два кіламетры наперад ад таго месца чыгуначнае палатно было паразрывана бомбамі з нямецкіх самалётаў. Усю ноч і ўвесь гэты дзень тыя самалёты бадай-што беспярастанку шнырылі ў небе, і шматпакутны цягнік, нагружаны артылерыяй, павінен быў выбіраць зручныя моманты на свой рух. Машыніст глядзеў менш наперад у дарогу і больш у неба. Дзе чыгунка ішла чыстым полем, цягнік браў самы шпаркі свой рух. Дзе ж чыгунка ішла лесам ці паўз яго, або толькі ўсяго паўз доўгі зараснік дрэў, там цягнік стаяў і чакаў, пакуль не ачышчаліся далягляды на небе. Гэта была пакута. У машыніста з твару праз увесь час не сыходзіла рухавая рыса. Яна перасмыквалася то пад скроняю, то пад вокам, а найчасцей каля губ. Камандзір часці сам стаяў на паравозе. Як мага ён стараўся хутчэй давезці часць да месца. Цягнік стаў там, дзе па адзін бок чыгункі быў малады бярозавы гай. Далей ужо дарогі не было. Гэта была першая прычына, чаму тут пачалі выгружацца.

Другая прычына была тая, што якраз адсюль ішла не кепская для артылерыі дарога на тое вялікае сяло, дзе і павінна была часць заняць сваю пазіцыю. Немцы з паветра рыхтавалі мясцовасць пад свой далейшы рух. Праз кожную паўгадзіну з усіх бакоў зводдалеку чуліся разрывы авіяцыйных бомбаў, і часта відны былі плывучыя дымныя

засцілы і ўскідзістыя ўгору слупы ўзарванай зямлі і пылу. Ад месца выгрузкі да вялікага сяла было кіламетраў пад дваццаць. А там ужо ішла шаша, кірункам паміж захадам і ўсходам. Гэтай шашою рваўся на ўсход нямецкі «клін». Камандзір артылерыйскай часці меў перад сабой задачу. Часць займе пазіцыю і возьме пад абстрэл шашу. Біць жа па шашы артылерыя пачне тады, калі па ёй пойдуць немцы. Гэта будзе азначаць, што немцы прарваліся адтуль (дзесяць кіламетраў на захад ад сяла), дзе зранку таго дня пачаўся і цяпер ішоў бой з імі. Артылерыя імчалася палявымі дарогамі і кіравалася на тое вялікае сяло. Пакуль адбываўся гэты марш, сонца ўжо добра сышло да захаду, але гарачы пыл яшчэ раз'ядаў людзям твары. Сонца яшчэ не зайшло, як камандзіры батарэяў і гарматных разлікаў пачалі ставіць гарматы і тэлефаністы пацягнулі тэлефонныя правады.

Канстанцін Прыбыткоўскі, сержант і камандзір гарматы, не ўяўляў сабе ўсёй карціны таго, што тут адбывалася. Ён не ведаў і поўнага дачынення свае артылерыйскай часці да таго, што называецца фронтам. Ён толькі збольшага ведаў, у якой мясцовасці ён цяпер апынуўся. Гэта было дзесьці ў зоне тых сёл і мястэчак, каля якіх лінія былой польскай граніцы на Беларусі пераходзіла на Украіну. Пасля выявілася, што лінія граніцы была кіламетраў за сорак на ўсход ад таго сяла, каля якога стала артылерыйская часць. Батарэі занялі вялікую разлегласць. Мясцовасць была з кустамі і невялікімі лясамі і шмат дзе была забалочаная. Чырвонаармейцы капалі зямлю, а на доўгую лінію паабапал шашы і тут усюды ўжо загадзя былі пастаўлены надаўбы. Сярод байцоў ішла гаворка, што страшнае непаразуменне неўзабаве скончыцца і змятушаныя ў баях нямецкія зграі рынуцца назад і больш ужо наперад не пойдуць. Аб гэтым думаў і Кастусь Прыбыткоўскі ўвесь час, пакуль улягоўвалася на месцы яго гармата і пакуль ён быў у клопаце каля яе. Як зусім зайшло сонца, на захадзе доўга ляжала чырвоная істужка пад броднымі рэшткамі хмары. У гэтыя моманты небывалы ніколі за ўсё жыццё смутак па Скіп'ёўскім Пераброддзі запаланіў душу Канстанціна Прыбыткоўскага. Прыстрэлачныя выбухі з гармат на шашу былі ў хвіліны поўнага згасання дня. Пасля гэтага гарматы ўсюды былі пастаўлены ў наводку на шашы, і пачалася ноч. Батарэі стаялі раскідзістым парадкам і за бярозавым гайком, і на ўзбалоцці ў кустах,

і ў штучнай маскіроўцы на паплаўным грудзе, і далёка за скрыжаваннем двух палявых дарог. А яшчэ адна батарэя стаяла зусім далёка ад усіх астатніх. Тут была шырокая прастора поля з нейкім запушчаным поплаўчыкам у адным месцы. На полі ўсюды рос ячмень, а на поплаўчыку многа было чубоў густога шыпшынніку. Тут і стаяла тая батарэя. У гэтай батарэі і быў Канстанцін Прыбыткоўскі. Ячмень усюды быў рослы, на ўзроўні гармат і часта дзе вышэйшы. Вузкая палявая дарога, як праехаць з калясьмі, ішла паўз самую батарэю і гублялася ў ячменным полі. Гарматы стаялі ў зарасніках шыпшыны. Камандзір гэтай батарэі меў загад: на той выпадак, калі прыйдзецца зняцца з месца ўсёй часці і адыходзіць, батарэя астаецца на месцы і сваім агнём прыкрывае ўсю часць, пакуль яна не выберацца на шырокую грунтавую дарогу, што была перад ляском, сінявы малюнак якога відзён быў удалечыні. Вялікая шаша, на якую былі наведзены гарматы ўсіх батарэяў, хавалася ў полі і хмызняках, на тарфяніках і ў дробных лясках, дзесьці на поўдзень адтуль.

Людзі пакідаліся спаць. Але не ўсе, хоць тыя дні і змучылі ўсіх. Постаць вартавога заўважалася поблізу. Хтосьці адзін сядзеў на зямлі і курыў. Два артылерысты спалі пры самай гармаце. Гул бою чуўся выразна з таго боку, дзе зайшло сонца. І там працавала артылерыя. Канстанцін Прыбыткоўскі мучыўся смуткам, і здавалася, што ўнімку не будзе гэтай пакуце. Ён як бы вярнуўся ў сваё, даўно мінулае, маленства. Незабыўныя малюнкі таго, што было, з вялікай сілай паўставалі перад ім. Вечна клапатлівая маці з'яўлялася ў яго думках. Нарэшце яму ўдалося задрамаць, і, можа, усяго на колькі хвілін. Яго пабудзіла цішыня. Ён доўга скідаў з сябе дрымоту, пакуль не дайшоў да поўнай свядомасці таго, дзе ён і што з ім. Ноч была з ціхім водсветам зорнага бясхмарнага неба. Панавала вялікая цішыня. Думка, што там недзе скончыўся бой, скаланула яго. Гэта і быў той момант, калі ён як мае быць выйшаў з дрымоты, і цяпер скончыўся яго смутак. У яго асталася толькі вострая трывога. І адна думка заўладала ім з вялікай сілай: невядома, як там скончыўся бой. А што, калі разбітыя нямецкія часці рушылі ўжо на захад?

У тую ноч ён больш не драмаў і не спаў. Невядома, колькі было часу, але зоры на ўсходняй старане неба не былі ўжо такія зыркія, як раней. Гэта толькі той мог заўважыць, хто змалку прывык бачыць, як зменьваецца зор-

нае неба ўночы. І Кастусь Прыбыткоўскі заўважыў гэта. Час ішоў дзіўна, ён не заўважаўся. Дзве ракеты ўзляцелі ў неба, далёка. А можа, гэта цемень ночы з'іначвала разлегласць. Незнаёмае, нязведанае ніколі раней пачуццё з'явілася ў кожнага з усіх тут. Яно пачыналася з думкі, што немцы ўжо на шашы, вось тут, недзе поблізу. Грукат іхніх машын не мог быць чуцён тут. Пасля ракет не больш як праз хвіліну пачалі страляць усе гарматы. Гармата Канстанціна Прыбыткоўскага стаяла крайняя злева ад усёй батарэі. Яна стрэліла адна з усіх першых. Цемень ночы ўздрыгвала пругкімі хвалямі, і ўспышкі рухавых водсветаў раз-поразу асвятлялі на момант траву, і куп'істую зямлю, і прыхілены ад плыні паветра ячмень, і чорную ваду ў крынічышчы на паплаўцы. І кожны раз, як толькі ўспыхваў водсвет, цемень адбягала далей на ўсе бакі і адразу ж зноў насоўвалася. Усё грукала і рвалася ў рух. Несціханы гул на высокай ноце бесперастанку імкнуўся ў бясканцовую прастору. Зоры не паспявалі з'явіцца ўваччу, як успышка святла зноў тушыла іх. Ноч стала чорная.

Гэта была вялікая работа. Людзі працавалі моўчкі. Час ішоў. Пачало світаць. На ўсходзе неба пачало ружавець. Ветру не было. Чорны дым паволі валокся над зямлёю. Нават не валокся, а вісеў і ўзнімаўся ўгару. Але дзень ужо вызначыўся. Ён пачынаўся ясным сонцам. Гарматы білі бесперастанку. І раптам секанула ў куст з густым зялёным лісцем. Яго зрэзала, як касою. Пасля слуп зямлі рвануўся ўгару. Гэта была чарната і грукат. Кастуся Прыбыткоўскага шатнула ўбок і дало ў твар і плечы. І на момант устанавілася цішыня. У наступныя хвіліны Прыбыткоўскі заўважыў, што яго гармата пачала ўязджаць коламі ў раскоўзаную зямлю, што яго наводчык ляжыць без палавіны твару, а на гарматным ствале павісла адарваная ад куста галіна шыпшыны з густым лісцем і ружовымі кветкамі. Гэта было дзіўна: як тут яшчэ магло існаваць на свеце зялёнае лісце і ружовы колер кветак? Ахоплены страшным утрапеннем, Прыбыткоўскі стаў на наводчыкава месца. Як і раней, ён пераймаў з батарэі каманду і камандаваў свайму разліку і стаяў на месцы наводчыка. Батарэі грымелі без канца.

Пасля вядома стала, што адбылося за тую раніцу на шашы. Пад канец ночы нямецкі «клін» вырваўся праз засцілы бою і рушыў па шашы кірункам на ўсход. Спачатку прайшло многа танкаў, за імі грузавікі з аўтаматчыкамі.

Дзве ракеты ўночы былі сігналам ад наглядальнікаў, што танкі ўвайшлі ў прыстрэленыя на гарматны агонь мясціны. Артылерыя з свае пазіцыі накрыла тады агнём усю тую калону. Праз увесь час кананады карэктыроўшчыкі ўладалі тэлефоннымі правадамі, і гарматы колькі разоў змянялі прыцэлы. Такім парадкам за час світання і за першыя гадзіны дня артылерыя заліла сваім агнём некалькі кіламетраў шашы і шырокую прастору паабапал яе. «Клін» больш не пацягнуўся на ўсход. Танкі асталіся на месцы. Што ж да аўтаматчыкаў, то яны кінулі грузавікі і разбегліся ў поле. Яны ляжалі ў ямах, у равах, грабліся ў зямлю і не маглі выбрацца з гэтага месца смерці. Нямецкі рух на шашы спыніўся. Новая нямецкая калона абмацвала сабе іншую дарогу. Тут стаяла артылерыя і з ночы да позняй раніцы біла па шашы і змяшала з зямлёю галаву ўсяго «кліна». Новая «галава» шукала, як выйсці на ўсход, тады, калі часці Чырвонай Арміі, з якімі быў бой уночы, адышлі кірункам на ўсход і там умацоўваліся на новых пазіцыях. Некалькі нямецкіх танкаў яшчэ аставаліся ў баі. Яны білі з усіх сваіх гармат і кулямётаў, але самае цяпер важнае ў іх было тое, што яны стараліся адысці на захад, выйшаўшы дзеля гэтага з абсягу агню. Іх было пяць. Іншая рада ім не служыла, як ісці напрапалую, біцца адкрыта. Яны спаўзлі з шашы і, падмінаючы пад сябе дрэвы і кусты, выйшлі якраз на батарэю, дзе быў Прыбыткоўскі. Ячменным полем яны імчаліся проста на гарматы. Батарэя перанесла агонь на іх. Але біла нямецкая танкавая артылерыя, і з танкаў і з-за іх пачалі з'яўляцца немцы-аўтаматчыкі. Яны і паўзлі, і падбягалі, гнучыся каля сваіх танкаў, і ўсё білі і білі з аўтаматаў. Артылерысты пачалі біць у іх простай наводкай. З дымных засцілаў вырысоўваліся адразу нямецкія аўтаматчыкі і крычалі на мноства прарэзлівых галасоў. Яны вылі. Трэба думаць, што гэта была іх апошняя спроба. У іх аставалася ўжо толькі тры танкі. І адзін быў ужо вельмі блізка ад батарэі. Ён кідаў на батарэю бясконцы струмень агню і раскрышанага гарачага металу. Адначасна далі ў яго з двух гармат. Ён ускінуўся ўгару перадам і так астаўся, быццам бы сеў, а астатнія два пайшлі назад і зніклі з вачэй.

Вось які быў агульны малюнак падзей і справаў у тым кутку вайны. Тая калона нямецкіх танкаў і матарызаванай пяхоты, што цягнула па шашы на ўсход увесь «клін» і прабівала яму дарогу, на некалькі кіламетраў ляжала мёртвым

плазам на самай шашы і паабапал яе. Сама ж шаша на ўсе тыя кіламетры была ўжо такая, што па ёй нельга было ехаць. Нават і пешаму трэба было б ужо абыходзіць гэтае месца. Усялякі рух тут мог быць толькі вялікім аб'ездам. А тут якраз ішла вялікая грунтавая дарога, раўналежная да шашы, кіламетраў за шэсць, а ў некаторых мясцінах і менш ад яе. Пры самай гэтай дарозе і стаялі батарэі. Больш тут на вялікую разлегласць добраязджалых шляхоў не было ў кірунак з захаду на ўсход. Па гэтай грунтавой дарозе і намерылася прайсці тут новая галава нямецкага «кліна». Але гэтае месца немцы яшчэ не разведалі. Як пасля стала відаць з нямецкіх паводзін, планы іхнія, на гэты момант, тут былі такія: як бы там ні было, а прайсці грунтавой дарогай, каб пасля зноў выбіцца на шашу. А перад гэтым праштурмаваць шырокім авіяцыйным налётам мясцовасць. Пасля гэтага будзе танкавая разведка і зноў пачнецца рух на ўсход.

З нашага ж боку тут ажыццяўляўся такі план. Гэтае месца ўжо стала тым, што заўсёды завецца фронтам. Новая часць, што адышла з захаду ад таго вялікага сяла, займала пазіцыю (рыхтавала яе сабе) крыху ўсходней ад артылерыйскай часці. Часць жа ўжо здымалася з месца, каб умацавацца на новай пазіцыі кіламетраў за дзесяць на поўнач, дзе немцы ўсю ноч і раніцу вялі сваю разведку. Батарэя, дзе быў Прыбыткоўскі, аставалася на месцы прыкрыць адыход свае часці. На батарэі гэта стала вядома праз колькі хвілін пасля таго, як яна адбіла ад сябе апошнія нямецкія танкі. Адна за адной гарматы ўсюды выязджалі на дарогі і сыходзілі на лясісты шлях. Чорны дым ужо знік адусюль. І шырокі малюнак вырысоўваўся перад вачыма ўсіх. Шырокая лагчына была наперадзе, і на ёй гойдаўся ячмень і над ім пабітыя нямецкія танкі. Яны стаялі бокам і перадам у зямлю. Прыбыткоўскі бачыў блізка перад сабою танк. Ён сядзеў, узняўшы пагнутае чэрава. Гэта быў той самы, апошні, у які далі адразу з дзвюх гармат. Вельмі хутка, бадай-што адразу, з'явіўся прыглушаны прастораю гул. У небе пачалі з'яўляцца нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Яны ішлі вялікімі плоймамі. Батарэя стаяла ў добрай маскіроўцы, але гэта не мела тут аніякага значэння. Немцы бамбардзіравалі з паветра ўвесь гэты куток па ўсю яго разлегласць. Бамбардзіроўка ішла наўдагад, ёю накрывалася зямля крок за крокам. Так няйначай павінна была знішчыцца артылерыя, што так спыніла тут увесь рух

на ўсход, абы толькі каб гэтая артылерыя аставалася дагэтуль на месцы.

Людзі з батарэі ляжалі ў зямлі, дзе толькі былі ямы, вывараты з-пад дрэў, акопы і насыпы. Ратунак мог быць толькі на месцы. Бамбардзіровачныя хвалі ішлі шырокімі кругамі і з усіх бакоў. Інтэрвалы паміж бомбавымі разрывамі бадай-што ўжо і не заўважаліся. І ўсё гэта адбылося за вельмі кароткі час. Цяжка было б угадаць, колькі прайшло часу. Магло здавацца, што ўсё адбылося за адну хвіліну. У такія моманты час як бы пакідае існаваць. Навала прайшла, і стала ціха. У небе аддаляўся і заціхаў гул. Ён тузаўся, як бурклівае гырканне раздражненага злога стварэння. Батарэйцы падніМаліся з зямлі. Твары ў іх былі чорныя ад дыму і вочы ў чырванаце ад змарнеласці. Усяго сабралася адзінаццаць чалавек. Не было і камандзіра батарэі. Дзве крайнія гарматы справа былі папсаваны і ўжо выйшлі са строю. Там былі тры разрывы. Трэцяя гармата ляжала зусім скалечаная. Аставался адна, Прыбыткоўскага. Яна стаяла, як і раней, на ўвесь вобад коламі ў мяккай раскоўзанай зямлі, пасярод змятага і ўбітага ў зямлю ячменю. Камандзіра батарэі ўбачылі мёртвага пад земляным насыпам. Каго не было — іх трэба было шукаць, раненых ці забітых. Навокал, як вокам акінуць, былі чорныя выбоіны ў чыстым і гладкім полі. Немец сцярогся кожнага кроку. Па ўсім шырокім полі густа ўзнімаліся ўгару струмені дыму, і ўсюды мігцелі агні. Было падобна, што нехта ўпарты раскладвае тут агонь на ўсё поле і падпальвае поле ўсюды адразу. Але быў дзень, і зіхацела сонца, агні былі блеклыя. Гэта яшчэ больш надавала ўсёй прасторы выгляд незвычайнага. Бо ўсё было відно шырока. І самі людзі не мелі ўжо свайго звыклага выгляду. Кастусь Прыбыткоўскі кожнаму з тых людзей, што ведалі яго даўно і што ўвесь час цяпер былі разам з ім, здаваўся больш высокім ростам, як ён сапраўды быў. За гэтыя колькі дзён і за апошнюю ноч і паўдня ён звастрэў тварам і пабыстрэў вачыма. Гэтае ж самае ён заўважаў і ў сваіх блізкіх. Блізкімі яму цяпер сталі ўсё тут. Разам з імі ён жыў гэтулькі часу ў Рыльску, але гэтыя дні нанава зблізілі іх. Быў тут каля гарматы чырвонаармеец Ціхон Мішурын са Смаленшчыны, з-пад самага горада Дарагабужа. Цэлымі гадамі ён быў добра знаёмы, а цяпер стаў, як брат родны. Былі моманты, што Кастусю Прыбыткоўскаму хацелася расказваць гэтаму Мішурыну аб сваіх сёстрах і аб маўклівым бацьку. Ён ірваў-

ся душой гаварыць яму аб Скіп'ёўскім Пераброддзі. Такі стаў за гэтую раніцу Кастусь Прыбыткоўскі. Разам з тым у яго душы не пакідала ісці вялікая работа. Такія хвіліны часам варты цэлых гадоў. Яны могуць змяніць натуру і вызначыць яе фармаванне там, дзе яна яшчэ не ўсталявалася. Таксама, як чалавек можа часам ссівець за адну ноч, Кастусь Прыбыткоўскі здаваўся цяпер хударлявы тварам і скуласты ў скронях, рухавы і маладзейшы сваіх год. Незаўважным парадкам і пакрысе, за тую ноч і за палову гэтага дня, у яго збіраліся цвёрдыя думкі, каб ацаніць тое, што адбылося. Да гэтага моманту, калі ўся артылерыйская часць ужо была на дарогах па той бок лесу, а тут асталася толькі адна гармата і адзінаццаць чалавек каля яе, у яго ўжо як мае быць склалася свядомасць таго, што настаў час вялікага няшчасця, з якога трэба ратавацца: настаў пералом ва ўсім жыцці, усё ўжо будзе пасля не такое, як было раней, і да канца з'іначыцца. Кастусь Прыбыткоўскі адчуваў цяпер з вялікай сілай, як сапраўдны змест жыцця не падобен да яснай паэзіі дзён былога яго маленства і пары, калі пачыналася яго маладосць у цудоўным кутку на свеце — Скіп'ёўскім Пераброддзі. Усё тое шчасце так было яшчэ нядаўна і так яно было ўжо далёка. Яму паклаў канец невядомы прышэлец, якога ён яшчэ па-сапраўднаму не бачыў. Нямецкія аўтаматчыкі нядаўна відны былі толькі абрысам сваіх постацей. Але ў іх жа ёсць нейкія рысы на тварах і нешта такое павінна быць напісана ў іх позірках. Цвёрдыя думкі ў Кастуся Прыбыткоўскага збіраліся, ясней фармаваліся, з'ядноўваліся ўражанай душой і гатовы былі ператварыцца ў адну ўсеабдымую ідэю. Цяпер быў кароткі момант чакання далейшых падзей. І раптам як бы электрычным токам страсянула яго: што б тут ні адбылося — усё ляжыць на яго клопаце. І ўсе зараз будуць глядзець на яго, як на таго, хто пакіруе ўсіх на шчасце. На яго будуць спадзявацца. Добра, што тут блізка гэты Ціхон Мішурын! Гэта быў чалавек высокі ростам, тонкі і малады. Першая рыса яго душы, што кідалася адразу кожнаму, гэта тое, што ён адразу даваў сваю ацэнку перад усімі кожнай рэчы. Напэўна што ў яго думках не было нічога такога, што аставалася б усім навокал невядомае. Вылезшы з земляной нары, адразу як толькі скончылася нямецкая бамбардзіроўка, ён сказаў Прыбыткоўскаму:

— Хочацца мець цяпер у руках жывога немца і тыцнуць яго носам у нашу зямлю, каб ён больш не ўстаў з яе.

Ён сказаў гэта праз сціснутыя зубы, і Прыбыткоўскі адчуў сябе так, што гэта яны як бы ўдвух змовіліся аб усім.

Усё пайшло вельмі шпарка. Чатыры нямецкія танкі высунуліся з далечыні і ішлі сюды зялёным ячменем. У Прыбыткоўскага схаладзела пад сэрцам, і рухавая рыса прайшла цераз губы. Шпаркім позіркам ён знайшоў Мішурына. Той глядзеў на яго збянтэжаны. І тут Прыбыткоўскі ўбачыў, што і ўсе не зводзяць з яго вачэй. Сэрца яго яшчэ больш схаладзела. Стук яго аддаваўся ў вушах. Кастусь Прыбыткоўскі ў гэты апошні момант меў адчуванне, падобнае да адчування смертніка, які ведае, што сваёю смерцю ён выратоўвае тых, хто яму даражэй за ўласнае жыццё. Адразу ён змяніўся з твару і паставы. Ён крыкнуў каманду біць простай наводкай. І цяпер усе заварушыліся. Твары ўсіх паяснелі: з'явіўся камандзір, якога так прагла душа ў такую страшную хвіліну. Цяпер кожны з радасцю браў на сябе працу, роўную пакуце. Усе зноў працавалі. Прыбыткоўскі крыкнуў сабраць усе гранаты і працаваць каля гарматы з аўтаматам на плячы. Танкі ішлі адзін за адным. Можна было думаць, што яны ўжо не спадзяваліся напаткаць тут каго жывога. Гармата стрэліла, і Кастусь Прыбыткоўскі выраўняўся настроем, ураўнаважыўся душой, перажыў момантную ўспышку радасці, і спакойная развага прыйшла да яго, ён падумаў, што камандзір часці калісьці тлумачыў усім: салдат у баі можа прапасці, калі будзе паддавацца ўспышкам радасці або смутку. Трэба холадна і шпарка думаць.

Гармата дала ў пярэдні танк. Цяжка было змагацца з уласнай радасцю. Яна ахапіла ўсіх. Відно было: танк гарэў. Усе пачулі голас Ціхона Мішурына:

— А братцы мае, танк! Гарыць!

Угнуўшыся перад высокім кустам травы, як бы гэтая трава магла засланіць яго ад смерці, Кастусь Прыбыткоўскі зноў крыкнуў каманду і сам кінуўся да гарматы. Ён сам наводзіў яе на цэль кожны раз, і гармата біла раз-пораз. Людзі распоўзваліся і зноў споўзваліся, працуючы каля яе. Тры нямецкія танкі ішлі сюды, але не проста, а зігзагамі і раптоўнымі рыўкамі з лагчын і з-за ўзгоркаў. Яны манеўравалі і слалі сюды струменні агню і расплаўленага металу. Апроч таго, ад іх недзе білі сюды з мінамёта. Навокал на шырокай гнутай лініі ўспыхвалі рухавыя агні і ўзнікалі павольныя струменьчыкі дыму. Бляск сон-

ца, дым і агні стваралі малюнак таго, што як бы гарыць увесь свет.

Адзінокая гармата сярод гэтага, рухавага на ўсю шырыню поля, бляску пачала здавацца ўсім тут малюсенькай. Людзі пра гэта не думалі, але ўражанне адкладалася ў іх памяці на далейшае. Раз ад разу гармата ўздрыгвалася і слала агонь насустрач тых прышэльцаў. Усе мелі такое адчуванне, што адтуль, з танкаў, глядзіць на іх і сочыць варожае вока, і кожны прагнуў бачыць, як тое вока, разам з танкам, парвецца агнём. Прага біць, ірваць, страляць папавала над усімі. Адзінокая гарматка здавалася жывою істотаю. Яна рвалася наперад. Кожны раз, калі чуўся яе грукат, яна парывалася назад і наперад на колькі сантыметраў. Колы яе раскоўзвалі зямлю і ўязджалі ў яе. А тым часам там і другі танк адразу нейк акамянеў на месцы, і полымя з дымам выбухнула з яго. Два астатнія танкі пайшлі адразу назад, зніклі, і ўсё стала ціха.

— А братцы мае! А родныя! — як бы праспяваў голасам, узнятым радасцю да высокіх нот, Ціхон Мішурын.

Высокі і малавядомы Прыбыткоўскаму артылерыст шпарка падняўся з зямлі і пацалаваў яго ў губы. У тую ж секунду тыя два танкі зноў з'явіліся і на ўвесь свой ход імчаліся сюды.

— Дзе Прыбыткоўскі?! — пачулася аднекуль злева і зводдалеку.

Гэта абазваўся артылерыст Якубоўскі, магілёвец, вясёлы чалавек, схільны да гаворкі і шпаркай змены ў настроях. Прыбыткоўскі не паспеў нават скамандаваць. Танкі ўжо не хаваліся і не манеўравалі, яны seклі перад сабою агнём. Гарматка стрэліла. Танкі былі ўжо тут, і адзін падмяў гармату. У тую ж секунду з танкаў пачалі саскакваць на зямлю аўтаматчыкі. Невядома, колькі іх было чалавек. Ужо ніхто не мог заўважыць гэтага. Тут не было і не патрэбна было каманды. Здаровая развага, момантнае меркаванне пакіравалі ўсімі. Кастусь Прыбыткоўскі толькі ў першы, самы найкарацейшы момант убачыў, што Мішурын шпурнуў гранату пад танк і сам кінуўся на зямлю і ўтуліўся ў яе. Якубоўскі таксама шпурнуў гранату. Разанец Касмачоў ляжаў жыватом на зямлі і страляў з аўтамата. Іван Арышчанка з сяла Баландзіна, што каля Чыгірына на Кіеўшчыне, закрычаў і кінуўся з паднятым штыком на вінтоўцы да немца. Быў тут яшчэ недзе Васюковіч з-пад Мінска, які ўсё чытаў у Рыльску кнігі аб гатунках яблынь і

ігруш. Быў і Рамушкоў з Арлоўшчыны, тонкі, рухавы і вялікі ахвотнік гаварыць пра коні. Яшчэ і Максімецкі быў з Оршы і Шкадарэвіч з-пад Слуцка. Праз нейкую частку секунды ўсё гэта прайшло праз свядомасць Кастуся Прыбыткоўскага, і ён убачыў перад сабою ворага. Упершыню быў перад ім блізка немец! Твар яго быў доўгі і з круглым носам. Ён бег, стаў на адно калена і пачаў біць з аўтамата. Вочы яго бадай-што нічога не адлюстроўвалі ў сабе. Ён страляў туды, дзе некалькі чалавек кідалі пад танкі гранаты. Кастусь Прыбыткоўскі трымаў у левай руцэ аўтаматычную вінтоўку, а правай даставаў з пояса гранату. Гэта рабілася нязручна. Ён падняў аберуч за рулю над галавою вінтоўку і падбег да немца. З усяго размаху ён даў вінтоўкаю па нямецкай галаве. Немец хістануўся, выпусціў з рук свой аўтамат і аб'ехаў на зямлю левым плячом, не варушачыся. Усё тут грукала, трашчала, ускідалася ў рух. Чалавечы крык і выгукі слоў, якіх ніхто не разабраў бы. Гранаты рваліся беспярастанку раз за разам, і дробна стукалі аўтаматы. Быў момант як бы непаразумення ў Кастуся Прыбыткоўскага пасля таго, як нерухомы немец пачаў карчанець: што ж далей рабіць? Усё гэта было ўпершыню ў жыцці і занадта вялікай нагрузкай лягло на душу. І пачуццё, блізкае ад шчаслівага задавалення, нарадзілася і пачало вырастаць у яго душы. Можна сказаць пэўна: гэта быў момант, калі Кастусь Прыбыткоўскі ўжо ясна ўсвядомліваў сваю вялікую нянавісць. Разам з усімі ён яшчэ хвілін тры кідаў гранаты, страляў з сваёй аўтаматычнай вінтоўкі, узмахваў над галавою вінтоўкай, хапаючы яе за рулю, і цяжка біў па плячах высокага і заядлага немца, які хапіў за шыю Шкадарэвіча. І раптам усё пачало аціхаць. Адзін танк ужо гарэў, і з яго стараўся выскачыць немец. Ён выцягнуў адну руку ўгару і махнуў ёю, а другою хапаўся за жалезны край свае нары. Раптам ён упаў у прорву свае ахопленай агнём машыны і знік там. Другі танк манеўраваў. Ён кідаўся ў бакі і грукаў з сябе гарматнымі выбухамі, паміж якімі шалела кулямётная страляніна. За яго хаваліся і, гнучыся, бегалі пры ім аўтаматчыкі. Шэсць чалавек байцоў Прыбыткоўскага глядзелі на яго і сачылі за ім адсюль, дзе толькі хто мог прыхавацца. Мішурын ляжаў ніцма па левы бок танка, прыцэльваўся ў яго з вінтоўкі і страляў раз-поразу. Проста перад танкам разарвалася граната, не даляцеўшы да яго. І Прыбыткоўскі кінуў гранату. І яна не даляцела. Усё ж такі танк быў далёка.

— Бліжэй да яго! З гранатамі! — закрычаў Прыбыткоўскі, і, напэўна, што яго голасу ніхто не пачуў. Прыбыткоўскі рвануўся і папоўз да танка напагатове з гранатаю ў руцэ.

— Кастусь! А братка! — выгукнуў з другога боку Ціхон Мішурын і папоўз пад танк. Прыбыткоўскі як мае быць пачуў яго голас. Абодва яны паўзлі, і над імі бушавала кулямётная стральба з танка. Спераду ж паўзлі да танка Шкадарэвіч і Арышчанка. Нямецкія аўтаматчыкі або асмялелі, або (напэўна, што так было) страх пагнаў іх наперад: яны пачалі выбягаць з-за танка, і іх аўтаматы пачалі бушаваць. Першы бег прысутулены тонкі немец і выў на адной ноце, перарываючыся і задыхваючыся. Шпаркім рухам у яго стрэліў Рамушкоў, і ён грымнуўся левым бокам і галавою аб правую старану танка, ад якой яшчэ не асмеліўся адысці. Гэта быў пераломны момант. Прыбыткоўскі ўсхапіўся на ногі, рынуўся на два крокі і шпурнуў гранату. Чарната рванулася пад танкам і адразу ж следам яшчэ два гранатныя разрывы спераду: гэта былі ўжо каля яго блізка Арышчанка і Шкадарэвіч. Нешта ў сярэдзіне танка шаргацела і стукала, але ён ужо не мог зрушыцца з месца. З яго выскачылі два немцы. Адзін пачаў круціцца на месцы, як ашалелы, а другі кінуўся на Мішурына, які ўжо на яго прыцэліўся. Мішурын стрэліў, і немец упаў. Але два аўтаматчыкі секанулі па Мішурыну. Прыбыткоўскі, як праз туман, заўважыў, што Мішурын пачаў хіліць набок галаву і раптам зваліўся на ўмяты ў зямлю зялёны ячмень. Як цьмяны сон, гэта дайшло да свядомасці Кастуся Прыбыткоўскага, і смутак здушыў яго душу. Нямецкія аўтаматчыкі вылі і мітусіліся, і Прыбыткоўскі, намерваючыся гранатай, кінуўся на іх. Яму здалося, што іх чалавек з дзесяць, а можа, больш. Ён яшчэ ўбачыў, як Касмачоў абхапіў аберуч нямецкага аўтаматчыка і грымнуў яго галавою і плячыма вобземлю і як Максімецкі адстрэльваўся ад двух немцаў, якія з праразлівым крыкам насядалі на яго. Абліваючыся крывёй (мусіць, ён ужо быў ранены), Максімецкі ўсхапіўся, хапіў сваю вінтоўку за рулю, размахнуў ёю навокал сябе і палажыў на месцы аднаго немца, а другі кінуўся наўцёкі і недзе знік адразу. Сам жа Максімецкі выпусціў з рук вінтоўку, падагнуў ногі і, як бы хапаючы рукамі паветра, упаў на зямлю. Кастусь Прыбыткоўскі збочыў улева. Некалькі немцаў нешта там — ці беглі сюды, ці мітусіліся на месцы. Яны трымаліся блізка, разам. Пры-

быткоўскі размахнуўся і шпурнуў туды сваю апошнюю гранату. Да яго свядомасці яшчэ дайшоў грукат і ўскідзісты слуп рухавай чарнаты там, дзе былі немцы. У наступныя моманты штосьці рванула яго ўсё цела і востры боль, як быццам бы дзесьці ў глыбіні грудзей і галавы, шпарка з'явіўся і ператварыўся ў адчуванне вялікага цяжару. Яму цяжка стала перадыхнуць, і бадай гэта было апошняе, што ён цяпер адчуў у сабе. Шпарка трацячы свядомасць, ён прабег колькі крокаў, і хада яго адразу аслабела. Ужо ён ішоў паволі, абвялыя яго ногі чапляліся за зямлю і траву, ён хістануўся і ўпаў. У тую ж секунду яго пакінула апошняя іскра свядомасці на ўражанні, што ўвесь свет поўніцца громам і зіхаціць вялікім бляскам.

Яшчэ далёка было да заходу сонца, і спёка стаяла страшэнная. Над змятым пакорпаным разрывамі і закурodымленым полем ужо вісела поўная цішыня. Яна была яшчэ большая ад звінючага шоргату конікаў і бзыкання мух. Але яшчэ нідзе ні разу не абазвалася аніводная птушка.

Кастусь Прыбыткоўскі ляжаў тварам угару, у сонца, адкуль, як з распаленай печы, дыхцела гарачая задуха. Вочы яго былі заплюшчаныя і нават запалыя, ішлі гадзіна за гадзінай. І ён ні разу не паварушыўся. Яму ўжо было ўсё роўна, што далей рабілася на гэтым пакалечаным ячменным полі, дзе ячменнае калоссе, яшчэ зялёнае, плазам ляжала, прытаптанае і прыпляісканае да зямлі, і дзе ўсё ж такі жылі яшчэ нейкія рэшткі чалавечага руху. Спачатку, адразу пасля таго як упаў Кастусь Прыбыткоўскі і як пакрысе заціхаў і знік грымучы шоргат і грукат бою, пакуль раставаў у прасторы і зусім разышоўся дым і яго ўедлівы пах, тады ні адтуль ні адсюль чуўся часамі стогн і енк; не адзін, але як бы і адзін: узнікаў дзесьці з прасторы і зноў знікаў. А пасля, калі прайшло ўжо колькі гадзін, калі сонца ўжо схілялася да захаду, відны былі на полі чалавечыя постаці. Моцна прыпадаючы на адну нагу, апіраючыся, замест кія, на вінтоўку, клыбаў полем высокі і танклявы чырвонаармеец. Каб хто глядзеў на яго з таго месца, дзе ляжаў Кастусь Прыбыткоўскі, то доўга, можа, больш за гадзіну, мог бы бачыць, як стараецца выйсці з гэтага поля ранены чалавек. Пасля і другі быў відзён. Гэтага вадзіла ў бакі, праз кожныя крокаў пяць ён садзіўся на зямлю і падоўгу адпачываў. Так што сонца ўжо нізка спусцілася над даляглядам, а ён яшчэ ўсё быў на ячменным полі. Трэці ў самую спёку праходзіў тут. Твар яго быў бледны і губы

шэрыя. Ён ішоў вельмі шпарка і прыціскаў абедзвюма рукамі крывавае месца на правым баку. На адной ноце і роўна ён праз кожныя крокаў дзесяць выгукваў: — Кастусь! Прыбыткоўскі! Абзавіся! — Неўзабаве ён апынуўся там, адкуль ужо яго і разглядаць было б цяжка. Там ужо сінеў далёкі лес. Магло быць, што і яшчэ тут праходзілі людзі. Як бы там ні было, але ўсё гэта аставалася ўжо Канстанціну Прыбыткоўскаму ў небыцці. Яму ўжо нічога гэтага не існавала. Было б няпраўда, каб сказаць, што ён у нейкай меры адчуваў толька адну спёку, гарачую задуху і бляск сонца. Гэта не было адчуванне. Гэта былі толькі нейкія, самыя найменшыя адзнакі адчування, і нават менш таго. Да свядомасці яго не даходзіла і не магло абудзіць яе. Блізка было да таго, што гарачыня, бляск і задуха дзейнічалі над чалавекам, як яго пакута, паглыблялі пакуту змучанага і параненага цела, і ўсё гэта станавілася адчуваным з сярэдзіны, з самой глыбіні чалавечай істоты, а не ад усяго таго, што існуе і жыве навокал чалавека. Гэта было падобна да сну, да кашмару, які тлеў, як іскра пад попелам, і не меў дачынення да думкі і поўнага пачуцця. Кашмар цягнуўся доўга, і гэта была непрытомнасць. У той меры, у якой ішоў час, пачалі з'яўляцца слабыя, зусім цьмяныя адзнакі ўяўлення таго, што гэта ўсё цягнецца гарачы і турботны дзень дваццаць шостага чэрвеня. Бо і цяпер так жа было горача і ясна, і бляск сонца чуўся нават і заплюшчанымі вачыма. І так жа трывожная турбота гняла душу. Але нават і з гэтым, хоць вельмі невыразным, уяўленнем непрытомнасць не канчалася. У ёй Кастусь Прыбыткоўскі быў да самага канца дня і ўвесь вечар. Пачалася ноч. Стала холадна. На траву лягла раса. Яна была такая густая, што зямля ад яе завільгатнела. Халодная вільгаць, мокры холад і абудзілі Кастуся Прыбыткоўскага. Праз некалькі гадзін ён выходзіў з свайго кашмару і варочаўся да сваё свядомасці. Вельмі многа прайшло часу, пакуль ён, мучачыся ад болю і холаду, ясна пачаў думаць, дзе ён і што з ім. Ён усё ляжаў у той самай паставе, тварам угару, раскінуўшы рукі і выцягнуўшыся. Цяпер ён ужо расплюшчыў вочы. Вельмі можа быць, што ён не менш як тры гадзіны [ляжаў тварам] угару, пакуль падумаў, што гэта перад ім ноч і неба, і пачынаецца світанне, і ясныя палосы пачынаюць вызначацца на ўсходзе, і зоры тухнуць. І ён ляжыць адзін на полі пасля бою. Яму баліць, але дзе — ён выразна не мог бы сказаць. Холадна, мокра, гняце пакута, мучыць

адзінота, сушыць смага, вялікая ціпіыня вісіць над светам, і яна нязвыклая пасля таго грому і грукату, і да яе трэба яшчэ прывыкнуць. Нарэшце думка яго падышла да таго, што ён, мусіць, ранены. А датуль ён быў змарнелы, стомлены, ад утрапення не еў колькі дзён і, апроч раны, яго яшчэ кантузіла. Ён як бы і цяпер яшчэ адчуваў той густы і дрыжачы рух паветра, яно ў адзін момант дало яму ў галаву і твар. Можа, гэта і быў той момант, калі ён тады адчуў боль і ўпаў. Цяпер ён мог ужо ўспамінаць, што тады боль з'явіўся ў галаве. Думка яго працавала ўжо як мае быць. Яснота на ўсходзе расла і шырылася. Ужо ўвесь край неба там палаў ружовым водбліскам, і хоць сонца яшчэ не было над зямлёю, але птушкі ўжо бачылі яго і спявалі, узнімаючыся высока. Тут прыйшоў вялікі смутак. Гледзячы на неба перад усходам сонца, Кастусь Прыбыткоўскі думаў аб ясных днях у Скіп'ёўскім Пераброддзі і як там за Скіп'ёўскім лесам заходзіць сонца. Горкая думка, што ўсё гэта ўжо далёка ад яго і недзе як бы за той мяжой, якую ён не пераступіць,— думка гэтая скаланула яго. Прага хоць раз яшчэ ў жыцці ўбачыць маці была цяпер самым большым яго пачуццём. Колькі год ён ужо яе не бачыў! Якая яна цяпер? Ці такая ўсё, як раней, рухавая і клапатлівая? Якія турботы цяпер апаноўваюць яе? Пачалося фізічнае і духоўнае ўзбуджанне ўсёй істоты. Ён пачаў спрабаваць свае сілы. Ад учарашняга дня гэта быў першы момант, калі ён паварушыўся, а то ўсё быў нерухомы. У гэтую хвіліну ён быў упэўнен у праўдзе свайго пачуцця, што самае важнае, вечнае і патрэбнае яму на свеце гэта тое, каб кожны дзень бачыць усход і заход сонца, адчуваць тварам вецер, чуць пах зямлі, травы і прасторы свету. Але ж і цяпер усё гэта ёсць, і якраз перад яго вачыма ўсходзіць сонца. Аднак жа гэта не тое. Адбылося ў жыцці нешта такое, што ўсё з'іначыла і зняпраўдзіла. Ён адчуваў вялікі боль, слабасць і смагу, але было яшчэ большае: калі льга так сказаць, то як бы ўся душа яго была стаптаная, здрасаваная і ныла заструпелая. Смутак быў востры і не даваў спакою. Ён заглушваў сабою фізічную пакуту. Кастусь Прыбыткоўскі заплюшчыў вочы сумысля, каб не бачыць усяго таго, што ўжо здавалася больш недаступным яму. Гэта была слабасць яго душы. Але неўзабаве ён зноў пачаў глядзець у неба. Уся істота яго рвалася не быць тут, а ісці, шукаць, старацца і ратавацца. Ён падумаў, што ўставаць трэба асцярожна, і падняў галаву. Ён

адчуў страшны боль у вушах і цемень у вачах. І падумаў, што трэба не паддацца. Ён абапёрся далонямі рук на зямлю і сеў. Сядзеў ён, можа, з паўгадзіны. Цемень у яго вачах кружылася, і ўсяго яго хіліла на левы бок. Галава яго і цела прывыклі да такога стану, боль зменшыўся, у вачах пасвятлела, і ён сеў вальней. Зноў ён сядзеў доўга, а пасля і пачаў уставаць. Тут ён заўважыў, што сухі і востры боль у баку як бы цягне яго ўніз. Інстынктыўна ён зірнуў туды і ўбачыў, што рубашка там у сухой крыві, прыліпла да цела і не дае яму ўзняць угару плячо і ўстаць. Значыцца, ён ранен у бок і напэўна страціў многа крыві! Станавіўся на ногі ён вельмі доўга. Найбольш было таго, што ён баяўся ўразіць сваю рану. Ужо астойваючыся на нагах, ён убачыў, што месца, дзе ён ляжаў, было чырвонае ад крыві. Бачачы і адчуваючы ўсё навокал сябе як бы па той бок рэальнага, сапраўднага, ён, нарэшце, пачаў ісці. Хада яго была страшная. Яму цяжка было перастаўляць ногі. Яго вяло ў правы бок, і ён не ішоў проста, а даваў круг. Сашчаміўшы зубы, ён наважыў выпрабаваць гэты апошні і першы ратунак і ішоў, растапырыўшы рукі і пальцы на іх, як бы стараючыся трымацца за паветра. Пакрысе ён разышоўся, і гэты пакутны рух стаў яму праз нейкі час аднастайнаю, крок за крокам, неабходнасцю, якая можа цягнуцца гады. Вельмі многа ён збочваў і не заўважаў гэтага. Пасля шырокая, пратаптаная ў жытах сцежка павяла яго проста. Сонца паднялося ўжо высока і ўжо смаліла і ліло бляск і задуху, і зноў яму стала ўяўляцца, што гэта цягнецца ўсё той самы ўтрапёны дзень дваццаць шостага чэрвеня. Калі ўжо ён гатоў быў упасці ад слабасці, сцежка адразу скончылася на зялёным абрыве ўніз. Гэта быў адкос паўз вялікую дарогу. Кастусь Прыбыткоўскі дайшоў да той вялікай шашы, па якой так многа біла артылерыя і, разам з тым, яго гармата. Сонца ўжо даўно рушыла з паўдня. Адчуваючы, што левая палавіна цела цяжэйшая за правую, Кастусь Прыбыткоўскі сеў на адкосе і спусціў ногі ўніз. Боль, смага і задушлівая калатня сэрца не маглі заглушыць прыемнага ныцця, якое раптам прайшло цераз усё цела.

## IV

Перад яго вачыма была шаша, і ён глядзеў туды. Адкос узвышаўся, і Кастусь Прыбыткоўскі ўглядаўся ў дарогу зверху ўніз. Там было ўсё змешана, згрувашчана і паразварочвана. На сярэдзіне дарогі стаяў схілены набок і аб-

куродымлены пажарам нямецкі танк. Нізка над танкам схіліўся звіслы на правадах тэлеграфны слуп. Ногі нямецкага салдата ў вялікіх ботах тырчэлі ўгару, ужо добра ўпруцянелыя. Немец сканаў на адкосе галавою ўніз. Нейкая гнутая жалезіна ўзнімалася побач танка, і на ёй матлялася крысо з нямецкага мундзіра, а сам немец, укарчапелы і скурчаны, як бы сядзеў збоку, угнуўшы ў грудзі галаву. Гэты немец ліпеў на самым краі ямы, выверненай на шашы артылерыйскім разрывам. Здалечыні тхнула асмалкамі. Валялася яшчэ афіцэрская шапка, і на самым дне адкосу ляжаў доўгі нежывы немец жыватом угару, прыкусіўшы ніжнюю губу і скурчыўшы пальцы. На правай скроні ў яго закарэла кроў.

Кастусь Прыбыткоўскі адчуваў і смагу, і пясок у роце, і цемень уваччу, і боль, і слабасць, але пакуты не заглушалі новага пачуцця: няхай гэтыя прышэльцы ўсюды енчаць і карчанеюць, як тут, на гэтым месцы. Будзе шчасце ад іх смерці і пакут. Аднак жа трэба было шукаць выразнейшай уцехі. Над ім панавала вялікае няшчасце. Яго тачыў смутак. У яго не было здароўя. Ён не ведаў, што дзе рабілася навокал яго. Ён апынуўся ў адзіноце і адарваўся ад усяго таго, чым жыла яго душа дагэтуль. Позірк яго пачаў кідацца паверх таго, што было тут блізка, і ён убачыў, што полем паўз шашу ішла жанчына. Пад нагамі ў яе быў роўны папар з дробнаю травою і рэдкімі калівамі рыжага шчаўлюку. Кастусю Прыбыткоўскаму гэтая жанчына здалася даволі-такі высокай і з шырокім размахам рук пры хадзе. Твар яе быў не тое што вельмі худы, але нейкі змарнелы і да таго ж асмалены сонцам: напэўна, што яна, можа, цэлыя дні не бачыла ценю і ўсё ішла або так была дзе пад спёкаю. Але было і яшчэ адно ў яе твары, і гэта ўжо ішло з яе душы. На ўсім яе аблічча ляжала пячаць таго, што ёю апанавала вялікая турбота. Здавалася, што яе есць адна думка, ад якой няма ратунку. Кастусь Прыбыткоўскі не зводзіў з яе вачэй. Яна ж углядалася ў дарогу на ўсход і на захад. Нічога, мусіць, сабе патрэбнага жанчына не ўбачыла, колькі ні прыглядалася, прыклаўшы да лба далоню ад сонца. Шаша не мела на сабе аніякага руху. Тады жанчына ўзышла на шашу і пачала разглядаць усё каля сябе. Яна акінула вачыма нежывых немцаў, закарэлую кроў на зямлі, нейкую паперыну, прыбітую паветрам да рулі перавернутай гарматы, і пасля ўбачыла Кастуся Прыбыткоўскага. Яна як бы здзівілася ці ўзрада-

валася. Рухавая рыса прайшла па яе твары. Яна адразу шпарка падышла да яго і сказала так, быццам бы даўно яго ведала:

— Ты тут адзін? Сядзіш? Жывы?

Голас у яе быў мяккі, пявучы, добры. Здавалася, што голас гэты гучыць там, дзе пануе шчасце.

— Ці даўно ты тут сядзіш? А ці не бачыў ты тут на дарозе: можа, праходзіў чалавек не вельмі з выгляду рослы, гладка выгалены, без вусоў, з паголенай галавою і ў чорным пінжаку паверх белай рубашкі. А то, можа, хлапчук блудзіў тут? Год на шэсць, такі хлапчучок. Але ж дзе табе прыглядацца да шырокага свету, калі ты сам з душою ледзь не разлучыўся. Не бачыў, мусіць, нікога? Ах, божа мой, божа!

— Я нікога тут не бачыў,— сказаў Кастусь Прыбыткоўскі, і тут выявілася, што ён не ўладаў сваім голасам: ён гаварыў хрыпатым пошапкам.

— Ты тут чакаеш чаго? Не? Сам не ведаеш, куды і як? Ідзі са мною. Паспрабуй. Нам абы дайсці да вялікай мяжы. Божа, якія ў цябе губы, аж да крыві асмяглыя. О так, трымайся за мяне, пакуль разгоіідаешся ў хадзе.

Ён за яе трымаўся мала. Найбольш яна трымала яго пад плячо і вяла. Можа, яно так і было, што яна, у новым сваім клопаце, пачала адрывацца ад ранейшай свае задумы. Здавалася, што на твары яе жылі і перасмыкваліся шматлікія рысы, аднак жа яны не знімалі сумнай пячаці ад вялікай турботы. Чым больш ішлі, тым больш яна пачынала гаварыць. Яна камандавала, дзе як ступаць, дзе будзе няроўная зямля, дзе пачнецца сцежка. Напэўна, што яна была тутэйшая і добра ведала гэтае месца. Нарэшце яна сказала:

— Вось мы і прыйшлі. Гэтая шырокая мяжа даходзіць унь аж да таго ляска. Бачыш? Божа мой, які ты. Ты ж ледзьве ногі цягнеш. Ты тут садзіся або я памагу табе прылегчы. І чакай мяне, я па цябе прыеду. Я не забаўлюся. Тут блізка, кіламетраў шэсць і ўсё, там, дзе вялікае сяло гарыць. Ты ваяваў, ты павінен ведаць. О так, ляжы. А калі той чалавек часамі праходзіцьме тут каля цябе, то напэўна запытае, ці не бачыў ты мяне. Скажы яму, што я дарма хадзіла. На след не напала. А калі хлапчанё будзе, пакінь пры сабе, я зараз прыеду.

Твар яе перасмыкнуўся, і яна шпарка пайшла і знік-

ла. Кастусь Прыбыткоўскі ляжаў на шырокай мяжы, падобнай да дарогі, і чуў пах чабору і падбелу. Не больш як праз гадзіну жанчына вярнулася. Яна прыехала на нейкім няскладным вялікім возе, у які быў запрэжаны высозны і худы конь. Адно біла ў возе было гнутае, фармальна зробленае, другое простае, з яловай жэрдкі. Адным словам, тут нешта не так было ў гаспадарцы, хоць жанчына здавалася сапраўднай сялянкай і добрай гаспадыняй. З добрым умельствам яна завярнулася паўз высокую мяжу і спыніла каня. Воз стаяў так, каб Прыбыткоўскаму было як найзручней узлезці на яго. На возе ляжала салома, пярэбірка са два. Кастусь Прыбыткоўскі аддаўся на чужую волю. Выявілася, што жанчына мае вялікую фізічную сілу. З сваім хворым яна ўправілася вельмі шпарка, проста-такі адразу, у адзін момант. Кастусь Прыбыткоўскі не меў вялікай натугі, покуль апынуўся на возе і ляжаў на саломе. Яна ўсё зрабіла сама. Можна сказаць, яна траха не падняла яго на рукі і ўмошчвала на саломе. І адразу яны паехалі. Вельмі мала ён што заўважыў навокал. Лежачы, ён бачыў толькі ўзнятую перад вачыма саломіну, пасля пачало праходзіць перад ім рэдкае стволле ялін і хвояў, сягды-тагды, дрэва за дрэвам. Калі гэта быў лес, то вельмі рэдкі, хоць і стары. Можа, толькі рэшткі вялікага лесу. Адчувалася, што дзень хмурнее, але гэта не быў яшчэ вечар. Жанчына ішла побач воза. Ехалі доўга, разоў у тры даўжэй за той час, пакуль жанчына паспела была схадзіць па каня і вярнуцца. Сюды яна, мусіць, моцна гнала каня. Калі прыехалі на месца, было ўжо блізка вечара. Але і так дзень ужо зусім быў хмурны. Збіралася на дождж. Яны спыніліся ў нейкай беднай сялібе, якая здавалася вельмі неўпарадкаваная. Больш таго. Тут нават былі адзнакі таго, што чалавек пачынаў паднаўленне старога і будаванне новага. Але не толькі да канца не давёў, але і пачаць як мае быць яшчэ не паспеў. Дзіўным парадкам усё гэта кідалася ў вочы адразу.

Сяліба была глухая і стаяла яна поблізу рэштак велізарнага лесу. Стары хвойны лес быў высечаны. Скрозь тырчэлі счарнелыя ўжо ад вільгаці пні з пацеркамі смалы. Паміж пнёў стаялі нечапаныя хвоі. Лес высякаўся на будаўнічы тавар, а гэтыя не падышлі пад вызначаную меру: каторая хвоя была крывая, каторая не вельмі выносістая, а ў якой і хапала цягласці, дык стромкасць зрабіла яе тонкай, і спрактыкаваны прамысловец на яе не пакваліў. На кі-

ламетраў шэсць цягнуўся гэты рэдкі лес, у якім хвоя ад хвоі стаяла на метраў пяцьдзесят ці часам сто і ў якім было больш пнёў, як дрэваў. Паміж пнёў буяў верас і купчасціўся ядловец. Скрозь паўз край гэтага хвойніку стракацілася і вузейшымі і шырэйшымі палосамі поле. Жыта межавалася з бульбаю, ячмень з грэчкаю, і пры аўсе ліпела палоска льну. Так тут уроскідку стаялі і забудовы. Стаялі добрыя дамкі і з імі дробныя хаціны. Былі навейшыя, былі і зляжалыя гнілым бярвеннем. Усё гэта цягнулася на кіламетраў два. Гэта не была вуліца. Вялікае селішча мела падабенства да сабраных разам дробных хутарцоў ці да зборных выселак. Сяло было крыху далей, за ўзгоркам. Адтуль тхнула пажарышчам, і там яшчэ ўсё куродымелі асмалкі: ужо другія суткі пажар не мог аніяк суняцца. Там якраз і было тое вялікае сяло, што служыла за арыенцір артылерыйскай часці, калі яна займала сваю пазіцыю. Артылерыйскія разрывы ў часе бою і падпалілі сяло.

Сяліба, куды прывезла жанчына Кастуся Прыбыткоўскага, стаяла ў суседстве двух малых і вельмі падобных адна на адну хацін, у якіх артылерыйскі бой вытрас усе шыбы з вокан. У сялібнай хаце таксама не было шкла ў вокнах. Хата — вялікая, з дробнымі прыбудоўкамі, з садам, у якім яблыні былі яшчэ ў самай сіле. Свіронак трухлявы, пуня з праваленаю страхою і навожанае на нейкую будоўлю адборнае дрэва, папрэлае і ссінелае пад карою. Гаспадар не меў сілы ці часу яго акарыць і хоць пачаць будоўлю, і яно пайшло на глум пад дажджамі. Такім жа парадкам ужо добра пайшлі ў вільготную трухліну падваліны нейкай дробнай будынінкі, на якіх так і не былі ўзведзены сцены. Відаць, што несамавіты лёс тут як мае быць марнатравіў жыццё. Але Кастусь Прыбыткоўскі ў гэты момант не мог яшчэ акінуць сваёю думкаю і наглядальнасцю ўвесь гэты шырокі малюнак. Як праз туман заўважыў ён, што жанчына спыніла каня пры сенцах вялікай хаты, а пасля доўга адмыкала дзверы і рабіла ўсё вельмі марудна, было падобна, што вялікая стома гняце яе. Нарэшце яна не так увяла, як унесла Кастуся Прыбыткоўскага ў тую вялікую хату. Тут было прасторна і нейк усё як бы да часу. Былі адчынены дзверы ў бакоўку, і там відзён быў стол, а тут стала не было. Варыстая печ, тапчаны, насценны гадзіннік (стрэлкі паказвалі сем гадзін надвечар), чыстая падлога і вазоны на вокнах: лэска, геранім, альяс і бальзамін. Жанчына ўвяла свайго госця ў бакоўку, зняла

з яго салдацкую абмундзіроўку, разрэзаўшы дзеля гэтага рукавы ў гімнасцёрцы. Бок быў увесь у закарэлай крыві. Жанчына паківала галавою і прыгатавала пасцель на ложку ў цёмным кутку бакоўкі. Яна паклала дзве падушкі і накрыла хворага лёгкаю коўдраю. Праз колькі хвілін яна паіла свайго госця малаком, а пасля недзе зусім знікла. Ужо як мае быць пачало змяркацца. Прайшло вельмі мала часу, стала бадай-што зусім цёмна, і пайшоў дождж. З хаты чутно было, як шуміць вада ў дрэвах за вокнамі.

Можна сказаць, што з гэтых момантаў і ўражанняў і пачалося новае бяспамяцтва ў Кастуся Прыбыткоўскага. Шум дажджу ўжо ледзь даходзіў да яго свядомасці, а пасля і зусім знік. Адно што сухі і пякучы боль у баку быў такі моцны, што калі-нікалі чуўся нават і ў часе вялікага забыцця, хоць і ўспрымаўся ён не як боль, а як нейкая іншая пакута. Праз такія ж самыя з'іначаныя формы адчувалася і яшчэ адна пакута: пачалася, узнікла аднекуль цяжкая валтузня. Яго пераварочвалі на другі бок, перакладалі на іншае месца, корпаліся ў балючым месцы, свяцілі ў самыя вочы, а то раптам рабілі цемень, пасля чаго зноў усё загарвалася агнямі і зіхацела. Яны хадзілі, шапталіся, і невядома як гэта ўсё і калі скончылася. Зноў пачалося забыццё. Калі ён дайшоў да памяці, то перш за ўсё падумаў, што прайшло ўсяго некалькі хвілін ад таго, як трапіў у гэтую хату і лёг на гэтую пасцель. Бо ўсё так жа сама змрочна, быццам змяркаецца добрым адвячоркам, і ўсё ідзе дождж: ён шуміць недзе ў дрэвах, і нават у шыбы засякаюць кроплі. Ён доўга прыходзіў да памяці, пакуль думкі яго сталі ясныя як мае быць. Тады ён пачаў заўважаць, што недзе зусім блізка гавораць людзі: жаночы і мужчынскі галасы. Трэба думаць, што яны даўно ўжо гавораць, але гаворка іхняя не даходзіла яшчэ да яго свядомасці. Бо заўважыў ён іх гаворку з паўслова. Не чуўшы пачатку, ён з канца здагадаўся, што гэта мужчына даводзіць жанчыне, што малы хлопец не загінуў, у кожным разе тут поблізу:

— Сёння ўжо трэці дзень пачаўся, як я ўсё шнырыў па ўсіх дарогах і, дзе льга было, у полі і ў лесе. Я ўсюды быў, дзе асталіся сляды якога-небудзь чалавечага прыпынку або ваенных сутычак ці нямецкага налёту зверху. І так па ўсёй акрузе кіламетраў пятнаццаць ушыркі. Нідзе ніякага следу. І ў людзей усюды распытваў. Нідзе не чуваць было, каб хлапчук такі загінуў. Крыві-то многа пра-

1649

лілося. На шашы, яшчэ на захад ад таго месца, па якім біла наша артылерыя, ратаваліся з нейкага мястэчка жанкі і дзеці, то наляцеў зверху немец і абстраляў гэты натоўп з кулямёта. Больш палавіны ўсіх і пераstraляў. Я сам быў на тым месцы і сядзеў там на прыдарожным камені з даволі-такі ўжо стараватым чалавекам, які знайшоў там труп сваёй семнаццацігадовай дачкі. Ён быў пры тым і ўсё мне як мае быць расказаў. Усе былі пабеглі і рассыпаліся былі па полі, а немец, як бы сказаць, ганяўся за імі і страляў зверху. Я сам налічыў там трыццаць два трупы. Ты думаеш, гэта я так сабе такі цікаўны? Я ж усё яго шукаў, жывога ці мёртвага. Ёсць яшчэ надзея, што яго маглі падхапіць на сваю машыну чырвонаармейцы. Гэта часта здаралася ў той дзень.

— А што дзе робіцца? Ці ідуць дзе баі і дзе ўжо немцы? На Старынскай забудове нямецкія салдаты прыходзілі па малако і казалі, што вайна гэтая скончыцца праз дзён пятнаццаць.

— Хто ведае. А на мінскім гасцінцы сеў вялікі нямецкі дэсант, нават людзі ведаюць месца тое: гэта якраз там, дзе з аднаго боку два бярозавыя гаі перад вёскай Дабрынёй. Па другі бок гасцінца жыта ўсё здрасавана і патаптана ўшчэнт на тры кіламетры. З бярозавых гаёў уночы ўчора людзі чулі кулямётную стральбу. Той дэсант, можа, там і даўно сядзеў. Але тут немцам не пашанцавала. Не памог і дэсант. Тут стала артылерыйская часць і змятушыла на шашы нямецкі танкавы клін. Па шашы немцам ходу не было. Дык яны ішлі абходам, кіламетраў за трыццаць пяць адсюль. Я тое месца на шашы бачыў, дзе біла артылерыя. А пасля яшчэ тая самая артылерыйская часць заняла другую пазіцыю і там другі нямецкі клін накрыла. А тут на ячменным полі аставалася некалькі чалавек, дык яны дакончылі і рэшткі нямецкага кліна. Яны ўміралі, а трымаліся. Так што немцы абышлі ўсю нашу мясцовасць вельмі далёкім кругам, так мы асталіся ўжо ў нямецкім тыле, немцы ўжо далёка па ўсходзе. Мы на занятай немцамі зямлі. А тут яшчэ бродзяць раненыя, нашы і немцы. Учора я сустрэў двух лейтэнантаў, адзін ранены ў руку, а другі — у галаву. Пабраліся на ўсход, каб выйсці па той бок фронту. Хочуць ваяваць, не вераць, што немец возьме верх. Яшчэ бачыў я і чырвонаармейца, раненага ў шыю. І той браўся на ўсход. Бачыў я і немца: ці ён які хворы, ці ранены, але валокся полем, азіраўся і кульгаў, угнуўшы-

ся сабе ў жывот. А па шашы ўсё завалена забітымі немцамі. А то яшчэ аднаго немца я ўбачыў вось тут ужо зусім блізка, за нашым лясным выцерабам, па той бок старога ельніку на самай Какорыцкай дарозе. Даволі яшчэ малады чалавек, афіцэр з жалезным крыжам на грудзях. Ляжыць ботамі на дарожнай каляіне і галавою ў ядлоўцавы куст. Нагавіцы яго на сцёгнах у крыві, і рот як бы залеплен чым. Ён вельмі часта міргаў вачыма, калі я прахо-дзіў паўз яго. Я ўбачыў, што ён жывы, і мяне ў першы момант пацягло было сарваць з яго падручную зброю і прыстрэліць яго: чаго ён тут, хто яго прасіў сюды? Я ўжо нават быў памкнуўся, але адумаўся ў апошні момант: браць на сябе ганьбу, страляючы ў ляжачага раненага. Я адвярнуўся і пайшоў. Ён наглядаў за мною. Можа, ён думаў, што я памкнуўся быў, каб памагчы яму. У апошні момант, калі я ўжо адыходзіў, ён штосьці прамармытаў. Я па-нямецку добра магу, але ён, відаць ад слабасці, ясней не мог выгаварыць. Калі я азірнуўся, ён ужо ляжаў з заплюшчанымі вачыма. Я пайшоў. Праз крокаў дзесяць я знайшоў на дарозе вось гэтае пісьмо, адрасаванае ў Германію. Напэўна, што гэта ён прыгатаваў яго і не паспеў адаслаць і згубіў, валтузячыся апошнімі хвілінамі, пакуль упасці ад раны. Бач, якое пісьмо змятае. От зараз я яго прачытаю, я па-нямецку добра магу. Слухай, я буду гаварыць табе, што напісана, па-беларуску: «Мілая Міна! Ты сабе і ўявіць не можаш, што мы ўсе перажываем. Ідзе пяты дзень, як пачалася вайна, а мы ўжо забралі многа іхняй тэрыторыі. Нямецкая зброя робіць цуды. Цяпер нам усім ясна, што вайну мы закончым за бліжэйшыя тыдні. Тут адбываецца тое самае, што і ў Заходняй Еўропе. Я сам там бачыў, бачу і тут. Перад намі ўжо ўвесь свет адкрыты. Праз некалькі тыдняў убачыш мяне дома. Тады наша радасць будзе большая за ўсе радасці свету. Мы лёгка пераносім маленькія цяжкасці гэтай вайны: гарачыню і пыл на тутэйшых дарогах. Мы ўсе ў захапленні ад саміх сябе. Нашы душы на ўздыме. Мы ідзем наперад так шпарка, як успыхвае іскра маланкі. Я перажываю радасць вайны і шчасце нашай будучыні. Праз некалькі дзён я напішу табе новае пісьмо ўжо з якога-небудзь тутэйшага вялікага горада. Уся гэтая зямля на тысячы кіламетраў ужо наша. Тут цудоўныя сады. Я заўсёды быў аптымістам і цяпер бачу, як правільна я разумеў свет. Мы ідзем вось ужо пяць дзён, і ніхто нам яшчэ не стаў на дарозе. Праўда, я не

на першай лініі, а на другім эшалоне. Але ж і перад намі таксама ідуць. За ўвесь час я ўбачыў толькі аднаго нашага раненага. Ён стагнаў, але ў нас выдатныя медыкі. Мы прысягнулі адпомсціць за пакуты нашага салдата. Канчаю. Сігнал рушыць далей. Цалую. Твой Фрыдрых. Дваццаць сёмага чэрвеня дзевяцьсот сорак першага года».

— Ну, чула? Якім шчасцем і захапленнем дыша гэтае пісьмо? Яшчэ і прозвішча яго стаіць тут збоку. Нейкі Фрыдрых Гаузэ. Яму здаецца, што ён будзе жыць на свеце яшчэ дзвесце год. Ён прывалокся сюды і яшчэ хоча помсціць за свайго раненага салдата. Увесь свет яму здаецца ружовым ад яснага шчасця, якое належыць толькі яму аднаму. Ён напісаў гэтае пісьмо дваццаць сёмага і ў той жа самы дзень, можа, нават праз некалькі хвілін, упаў абязвечаны ўпоперак Какорыцкай дарогі. І цяпер яшчэ там ляжыць, і ніякага шчасця і захаплення на яго твары не напісана. Пакута сціснула яму зубы, і ён глядзіць на мяне, як перацягнены кіем сабака на гаспадара. Твар яго белы, і губы ссінелі і ўсё нешта мыляюць, нібы што ён шэпча. Вось цана яго аптымізму і самахвальству.

Пасля гэтых слоў чалавек сціх, і Кастусь Прыбыткоўскі быццам бы пачуў, што плача жанчына. Праўдзівей сказаць, самога яе плачу ён не чуў. Пачуў толькі, як мужчына заўважыў ёй:

— Няўжо ты яшчэ і цяпер можаш так горна плакаць, як бы табе не сорак, а дваццаць год!

— Гэта таму,— адказала жанчына,— што праз усе гэтыя пятнаццаць год я ні разу не заплакала. Я сохла і душой і целам, але ад усіх сіл старалася, каб мне асталася прага чакаць і каб не згаснуць душой.

— Ну, але ж апошнія шэсць год ты ўжо не чакала ўсяго, чаго прагла раней? Ты і сама мне казала.

— Мы, здаецца, пра гэта ніколі і не гаварылі.

— А ў тую восень трыццаць дзевятага года!

— Мала мы тады гаварылі. Дык вось. У гэтыя шэсць год я не была без спадзявання.

— На што ж ты ўжо спадзявалася?

— Ні на што. Але ў мяне ўжо сталася прывычка навек думаць, што рана ці позна прыйдзе поўнае і яснае шчасце.

— І цяпер таксама?

— Цяпер не.

І тут Кастусь Прыбыткоўскі пачуў ужо сапраўды і як

мае быць, што жанчына такі плача. Раптам ірвануўся яе плач. Моцным пошапкам яна прыгаварвала, быццам гэта было галошанне: «Ты ж толькі адзін і аставаўся ў мяне! Можа, ты дзе бадзяешся па чужых і далёкіх дарогах! А можа, сканаў дзе на ветры ў адзіноце і пакуце!»

Гэта сапраўды было галошанне пошапкам. Заплюшчыўшы вочы, льга было ўявіць сабе сялянку ў горы. Уяўленне ўжо нарысавала Кастусю Прыбыткоўскаму поўны яе вобраз. Але тут не толькі мела месца гэтае галошанне. У яго памяці аставалася ўражанне таго, як яна пад'язджала на драбінах, як заварочвала і паганяла каня, як упраўлялася з возам, як выкіроўвалася каляіністымі і карчакаватымі дарогамі ў лесе і паўз яго. Рукі ў яе былі моцныя і агрубелыя ад працы, твар загарэлы і абветраны, хада размашная, голас на высокіх нотах і гаворка пявучая, з націскам на галосных гуках. Такі спосаб гаварыць выпрацоўваецца ў сялянак, якім трэба голасам і словамі перамагаць прастору ў полі, вецер і рэха ў лесе. Росту яна была даволі высокага. Рысы твару былі такія, што, убачыўшы яе, не хацелася думаць, што ў маладосці яна была вялікай прыгажосці, а хацелася сказаць, што яна цяпер вельмі прыгожая. Неўзабаве пасля свайго плачу, хвілін, можа, праз дзве, жанчына адчыніла дзверы з большай хаты ў бакоўку і ўвайшла. Ніякіх слёз ад плачу на яе твары ўжо не было. Гэта зноў быў як бы нават і халодны, суровы і затурбаваны твар. Ціха падышла яна да Кастуся Прыбыткоўскага і пільна паглядзела на яго. Ён увесь час глядзеў на яе, яшчэ ўсё не ведаючы, вечар гэта ці ноч, ці світанне, ці дзесяць хвілін прайшло, ці дваццаць ад таго, як яго паклалі на гэтую пасцель.

— А, ты ўжо глядзіш, але вочы твае ўсё яшчэ каламутныя,— праспявала жанчына.— Можа ты хацеў бы, каб святла больш было, дык я з акна прасцірадла здыму. Я тады была завесіла, каб табе ад мух цямней было, дык так і вісіць ужо два дні. Хто цябе ведае, ці ты гэтулькі часу спаў, ці без памяці быў. Я падыду, зірну, бачу — ляжыць сабе і не пацягнецца. Што ж турбаваць цябе. Я і адыдуся. Баліць табе што? Хочаш чаго? Зараз я цябе накармлю. Ці здалёк жа ты хаця родам, адкуль ты?

Яна адвесіла акно, і дождж знадворку зашумеў мацней. Быў дзень, хмурны і мокры. Але ўжо недзе блізка хадзіла сонца, напроці акна раслі дрэвы, і над імі пачынала яснець неба. Хмары рассмоктваліся, і дзень мог выбіцца на

яснасць. І першыя адзнакі яснасці на небе абудзілі ў Кастуся Прыбыткоўскага думкі аб ясным небе над лесам у Скіп'ёўскім Пераброддзі, і зноў пачаўся смутак і прага знайсці цвёрдую надзею і ўпэўненасць. Жанчына доўга карміла яго. Хоць яна і падганяла яго, быццам ёй трэба было кудысьці спяшацца, аднак жа сама марудзіла. Але гэта магло быць уласцівасцю яе натуры. Выпрацоўваюцца такія натуры, у якіх ніколі рука не ўздрыганецца, каб зрабіць што трэба хутчэй нават і пры вялікім спяшанні. Тут ёсць своеасаблівая прывычка бачыць горкую праўду таго, што як не старайся і не рвіся, а адзін, сам сабою, хады справаў не з'іначыш. Гэта кладзе свой след нават на самыя дробныя справы чалавека і найдрабнейшыя яго ўчынкі. Тады самы порсткі чалавек можа здавацца вялікай марудай. Можа, і тут было тое самае. Як бы там ні было, але можна здагадвацца ці адчуць, што тут жыццё ішлося нейк насуперак жаданняў і прагі чалавека і прывяло яго калі і не да трагічнай развязкі, то да горкай прыкрасці. У кожным разе, першыя адзнакі думак пра гэта пачалі ўжо з'яўляцца ў Кастуся Прыбыткоўскага.

Два дні ў пасцелі пад добрым доглядам і спакоем памаглі Прыбыткоўскаму. Ужо і цяпер пачынала ясней працаваць яго думка і было лягчэй трымаць вочы расплюшчаныя. Жанчына вельмі шпарка выйшла і недзе знікла. Тады ў бакоўку ўвайшоў мужчына. Кастусь Прыбыткоўскі ўбачыў яго і здагадаўся, што гэта той самы, пра якога тады на полі пыталася ў яго жанчына. Ён быў у чорным пінжаку па белай рубашцы. Чорныя нагавіцы навыпуск і росту не вялікага, але і не малога. Галава яго была чыста выгалена, і ён здаваўся лысы. Быў бледнаваты тварам, і гэта заўважалася нават і праз загар ад сонца. Здавалася, што ён рухавы і нават порсткі. Таксама, як і ў жанчыны, і на яго твары ляжала пячаць вялікай турботы, хоць тут было многа рухавых рыс, твар гэты зменьваўся, па ім праходзілі адзнакі таго неспакою, якім поўнілася душа. Тут шпарка маглі ісці думкі і будзіць утрапенне ўпартых пошукаў. Жанчынаю ж як быццам апанавала адна думка і адну рысу трымала на твары. Быстрыя і глыбокія вочы гэтага чалавека спаткаліся з запалым і ціхім позіркам Кастуся Прыбыткоўскага, і так, можа, хвілін тры яны глядзелі адзін на аднаго.

— Скажыце вы мне, як вы пачуваецеся? — сказаў чалавек.

— Часам мне здаецца, што лепш, як тады на полі, часам, што горш,— прашаптаў Кастусь Прыбыткоўскі.

— Колькі вам гадоў?

— Ідзе дваццаць пяты, нядаўна пачаўся.

— Дык вы ведаіце, што вашу рану перавязаў і давёў да парадку доктар. Усё пройдзе добра і следу не пакіне, рана так сабе, глупства. Як бачыш зажыве, а кантузія можа патрымаць вас яшчэ ў пасцелі. Да гэтага будзьце гатовы. Гаспадыня мне расказвала пра доктара, якога яна вам знайшла тут. Вам пашанцавала натрапіцца на вочы гэтай жанчыне, гэта вялікая душа... А я толькі прыйшоў, мяне ўвесь час не было. Я тут таксама госць. Але хто сёння разбярэ, хто дзе госць, а хто гаспадар. А пакуль што ваша справа ціха ляжаць і правіцца. Гэта вы з тых некалькіх чалавек, што бадай-што ўсе пaляглі, а не далі ходу немцам з іх танкамі і да канца давялі смяротэльны канец нямецкага кліна? Пра гэта перадавала ўжо радыё з Масквы, у аднаго яшчэ захаваўся быў радыёпрыёмнік. Ужо ходзіць погаласка. Вас трэба на руках насіць. На героях трымаецца жыццё народа. На вялікі жаль, чалавецтва яшчэ на такім стане свайго развіцця, што лепшым людзям трэба ісці на ахвяру сваім жыццём за агульнае шчасце. Прыйдзе час, што з'яўленне Гітлера будзе немагчымым... Ляжыце спакойна і праўцеся.

Чалавек гэты адагнаў з твару Кастуся Прыбыткоўскага муху і выйшаў. Пачалася цішыня ў доме і за вокнамі. Хмарнасць сышла з неба, і перад вечарам з'явілася сонца. Акно з гэтай бакоўкі было якраз на захад, і хворы бачыў, як разасласіся на небе над дрэвамі ружовыя палосы. Гэтае вечнае хараство ўціхамірыла яго душу. Ён перасіліў боль і свой неспакой і, калі ўжо зусім змеркла, сцішыўся ў сне ці ў глыбокай дрымоце. Ён не заўважыў і не чуў, як чалавек у чорным пінжаку два разы папацёмку заглядваў у бакоўку, бачыў, што хворы ляжыць ціха, і адразу выходзіў. Каб Кастусь Прыбыткоўскі быў здаровы і як мае быць мог наглядаць усё каля сябе, ён, маючы прыродную наглядальнасць, напэўна, заўважыў бы, што невядомы яму чалавек у чорным пінжаку не можа аніяк утаймаваць свайго неспакою, трывогі, узбуджання. Не можа перамагчы сваіх думак. Гэты чалавек папацёмку сядзеў доўга ў большым пакоі пры вакне, многа курыў, выходзіў на двор і стаяў падоўгу пры хаце ў одуме, пасля зноў вароочаўся ў хату. Нічога гэтага Кастусь Прыбыткоўскі не

заўважыў. Пайшла ноч, гадзіна за гадзінай. Уваходзіла ў большы пакой жанчына і моцным шэптам казала чалавеку:

— Божа мой, я не магу заснуць. Што мне рабіць! Дзе падзецца! Небарак малы стаіць перад маімі вачыма. Я павінна некуды ісці і нешта рабіць... Ты казаў, што на Кабырыцкай дарозе, пры самым лесе, канчаецца, а можа, і не канчаецца, а так ляжыць, немец. Дык жа гэта хвіліна хаду адгэтуль! Бяда будзе тут усім людзям. Мне расказвалі, што каля Турца нямецкі афіцэр доўга, больш за суткі, ляжаў, і ніхто яму раны не перавязаў, нічым не памог. Дык пасля праходзіла там другая нямецкая [1]

---

[1] На гэтым рукапіс аповесці абрываецца.

## КАМЕНТАРЫІ І ВАРЫЯНТЫ

Тэксты раманаў «Пошукі будучыні», «Млечны Шлях» і каментарыі да іх падрыхтаваны А. Ф. Харкевіч; раман «Вялікі дзень» і аповесць «Скіп'ёўскі лес» — У. М. Ларчанкам.

### ПОШУКІ БУДУЧЫНІ (стар. 5)

Раман не быў надрукаваны пры жыцці К. Чорнага. Упершыню — час. «Полымя», 1950, № 11 і № 12; затым у Зборы твораў у 6-ці тамах (1954—1955). Урывак пад назваю «Пошукі будучыні» — газ. «Літаратура і мастацтва», 1945, № 5, 10 мая; урывак пад назваю «Вялікае скрыжаванне» — час. «Беларусь», 1945, № 6; урывак пад назваю «Пошукі будучыні» — час. «Беларусь», 1950, № 6.

Друкуецца па аўтографу, які ўяўляе сабой рукапіс у двух агульных сшытках, пранумараваных з 2 па 128 стар. (сшытак першы) і з 129 па 304 стар. (сшытак другі). Аўтограф другой часткі рамана працягваецца ў блакноце (стар. 305—348). На вокладцы яго — загаловак «Пошукі будучыні» і аўтарскі малюнак — два дрэвы на першым плане і трэцяе ўдалечыні. Часткова аўтограф другой часткі напісаны на асобных лістах, пранумараваных з 349 па 408 стар.

У першым сшытку пасля вокладкі на першым лісце тоўстай паперы аўтар чарнілам намаляваў высокае дрэва і будынак, падобны да хлева або гумна; без вокан, коміна, замест дзвярэй — шырокія вароты. Каля будынка — кавалачак плота.

На 1-ай старонцы сшытка напісана і падкрэслена:

**Кузьма Чорны.**

**Пошукі будучыні**

(Раман у дзвюх частках).

На 2-ой старонцы прыведзены дзейныя асобы рамана ў наступным парадку:

Фельчар Максім Грынюк.
Волечка.
Нявада.
Кастусь Лукашэвіч.
Граф Паліводскі.
Густаў Шрэдэр (бацька).

Фрыдрых Шрэдэр (сын).
Сымон Ракуцька (бацька).
Тамаш Ракуцька (сын).

У другім сшытку на 2-ой старонцы выпісаны і падкрэслены дзейныя асобы ў іншым парадку:

1. Волечка.
2. Кастусь Лукашэвіч.
3. Нявада.
4. Сымон Ракуцька.
5. Тамаш.
6. Лізавета.
7. Паліводскі.
8. Густаў Шрэдэр (бацька).
9. Густаў Шрэдэр (сын).
10. Ракуцькава жонка.
11. Фельчар.
12. Шымха (карчмар).

Люцыян Акаловіч. (Не падкрэслена).

У канцы аўтографа аўтарская паметка:

Канец.

Кузьма Чорны

7 гадзін вечара, 18-га верасня 1943 г.

Масква. Гасцініца «Якорь».

Акрамя гэтага першага, закончанага аўтографа, прынятага за асноўны тэкст, ёсць яшчэ два аўтографы першага раздзела першай часткі рамана (умоўна абазначым іх «другі» і «трэці»).

Другі аўтограф, змешчаны ў агульным сшытку, мае 120 стар. Аднак сшытак пранумараваны з 2 па 192 стар. (стар. 121—192— чыстыя). Гэта рукапіс першага і пачатку другога раздзелаў першай часткі рамана. Апошні сказ аўтографа застаўся недапісаны. Ён абрываецца на словах: «...роўнай хадой...»

Трэці аўтограф уяўляе сабой рукапіс на асобных вялікіх лістах, пранумараваных з 2 па 64 стар., і з'яўляецца аўтографам толькі першага раздзела першай часткі рамана.

Аўтографы напісаны розным чарнілам: сінім, фіялетавым, чорным.

Параўнальны аналіз другога і трэцяга аўтографаў дае магчымасць меркаваць аб паслядоўнасці ў іх напісанні. Абодва яны ўяўляюць сабой далейшую працу пісьменніка па ўдасканальванню зместу, мовы, вобразаў. У асобных месцах тэкст другога і трэцяга аўтографаў супадае з першым, і яны маюць агульныя праўкі. Аднак большасць правак унесена толькі ў трэці аўтограф. І менавіта ў трэцім аўтографе даецца больш разгорнутая характарыстыка вобразаў фельчара і яго сям'і, дапісаны новыя сцэны, якіх няма ні ў першым, ні ў другім аўтографах.

Усё гэта дае магчымасць меркаваць, што трэці аўтограф — гэта канчатковая, але незавершаная дапрацоўка твора.

Тое, што К. Чорны перапісваў раман, дакладна вядома з яго «Дзённіка».

Цяжка хворы пісьменнік, калі яму стала трохі лепш, 2 ліпеня 1944 года запісаў: «А яшчэ шэсць месяцаў таму, калі пачынаў

перапісваць «Пошукі будучыні», мне была пакута выпісваць роўна загаловак і першы радок».

Такім чынам, раман «Пошукі будучыні» К. Чорны пачаў перапрацоўваць у студзені 1944 года. А гэта значыць, што другі і трэці аўтографы ўяўляюць сабой далейшую, на жаль, няскончаную працу над ім.

У адпаведнасці з прынцыпамі тэксталогіі мы павінны былі б узяць за асноўны тэкст «апошні па часу слой аўтарскай праўкі тэксту» [1]), або апошні рукапіс. У дадзеным выпадку — трэці аўтограф. Аднак паколькі праца над перапрацоўкай рамана не была даведзена аўтарам да канца, і ў выніку гэтага змены, унесеныя ім у змест твора, не атрымалі свайго лагічнага завяршэння ў наступных раздзелах рамана,— за асноўны тэкст бяром першы, закончаны аўтограф. А другі і трэці разглядаем як далейшыя рэдакцыі твора.

Аўтографы рамана захоўваюцца ў сям'і пісьменніка. Машынапісныя копіі — у рукапісным архіве Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

Разначытанні і варыянты другога і трэцяга аўтографаў прыведзены ў каментарыях і ўмоўна абазначаны рымскімі лічбамі II, III.

У выпадку супадзення варыянты адзначаны дзвюма лічбамі. Калі ж у варыянтах маюцца адрозненні, апошнія прыводзяцца ў дужках з адпаведнай лічбай.

## ВАРЫЯНТЫ ДРУГОГА АЎТОГРАФА:

Стар. 7

[18] Замест: Шаснаццацігоднія // Шаснаццацігадовыя (II, III)
[19] Замест: семнаццацігоднія // семнаццацігадовыя (II, III)
[24] Замест: не шле // ўжо не слаў
[26] Пасля: яна // была тады ўжо (II, III)
[31] Замест: якая // што

Стар. 7—8

[31–1] Замест: на фоне ∽ ад яго, // **паміж сінім** (сінімі — III) **засцілам лясоў** (ляснымі засціламі — III) і намі, (II, III)

Стар. 8

[1] Пасля: здавалася // нам (II, III)
[3] Дзень бадай-што ўжо канчаўся.— адсутнічае (II, III)
[4] засцілах — адсутнічае (II, III).
[5] роўная — адсутнічае.
[10] Замест: віленцы // віленчане.
і вілейчане.— адсутнічае.
Замест: гэтай // вялікай (II, III)
[11] Пасля: крыжоў // над імі (II, III)
[15] Нявадавых — адсутнічае (II, III).
Замест: кончыла // скончыла
[19] Замест: бачыць // бачыла (II, III)
[20] Пасля: постаці // і (II, III)
[28] рушыць — адсутнічае.

---

[1] Е. И. Прохоров. Текстология (Принципы издания классической литературы). Масква, 1966, стар. 49.

30 Замест: растрэсенай // растрыбушанай
35 Замест: к каню // да каня (II, III)

Стар. 9
4–5 Замест: ўсе хорам // разам усе (II, III)
12 Пасля: яго //, або самому кладзіся (II, III)
18 Замест: к каню // да каня (II, III)
20 Замест: вазіся з ім і // цераз вас (II, III)
27 Пасля: мястэчка. //
— Не.
31 Пасля: памагай // жа! (II, III)
35 Замест: к вечару // перад вечарам
39 Замест: закруціў // пачаў круціць (II, III)
40 яго — адсутнічае (II, III).
41 Пасля: скурай // у яго (II, III)
Пасля: ён // цяжка (II, III)
43 які цягнуў — адсутнічае (II, III).
Замест: плуг // з плугам (II, III)

Стар. 10
11 Замест: паслухаць // выканаць
12 Пасля: на вайне! // На нашых плячах было многа **ўсялякага клопату** (ўсяго іншага — III), апроч тых рыдлёвак. (II, III)
15–16 Замест: разышліся // пачалі разыходзіцца (II, III) // ставіць напач свае коні. (III)
16 ужо — адсутнічае (II, III).
29 Пасля: ратуецца // гэтак
34–35 Трэба было падаіць карову,— адсутнічае (II, III).
40 Замест: самаробнага // саматканага
вядома ў дарозе.— адсутнічае.
41 Пасля: шыі, // як **злямцаваныя** (злямцованыя — III) транты. (II, III)
41–42 Замест: ў жакетку // так (II, III)
42 Замест: да гэтага // назад (II, III)
43 Замест: так // гэтак (II, III)

Стар. 11
9 Гэта ж ужо — адсутнічае (II, III).
з усім гэтым — адсутнічае (II, III).
17 Пасля: падацца // напроці ночы (II, III)
35 Замест: свету // на свеце (II, III)

Стар. 12
8–9 Замест: Каля ∽ хаце // У адным вакне **Вольчынай** (Волеччынай — III) хаты (II, III)
11 Замест: з лыжкі // з кварты (II, III)
17 шпарка — адсутнічае (II, III).
24 Замест: сілуэты // абрысы (II, III)
25 Замест: вырысоўваліся ∽ дзесьці // стаялі (II, III)
26 пахучымі — адсутнічае (II, III).
27–28 Замест: І такая ∽ здавалася // Быццам бы (II, III)
[illegible] Замест: сочыць // сачыла (II, III)
31 Замест: галіны // дрэва (II, III)
35 Замест: Скора // Неўзабаве (II, III)
37 Замест: загінула // згінула (II, III)
39 Пасля: клапатны // дзень (II, III)
42 ночы і — адсутнічае (II, III).

Пасля: душы. // **Страшны смутак ныў і калаціўся ў ім.** (Страшным смуткам поўнілася яго душа.— III). Вялікая адзінота **гняла** яго і душыла. Ён ужо як ёсць адзін. Бацька з гэтага вечара **быў** (ляжаў — III) у магіле. Самым сапраўдным чынам, бадай-што фізічна, ён адчуваў, як цяжар душыць і **гняце** (адсутнічае — III) яго. (II, III)
42—43 Ён ∽ святло.— адсутнічае.

Стар. 13
2 Пасля: попелам. // Ратунак яго прыйшоў з таго, што стукнулі сенечныя дзверы, і ён заўважыў, што ў адным **хатным** (хатнім — III) вакне гарыць святло. (II, III)
2—3 І раптам ∽ дзверы.— адсутнічае.
9 Замест: для іх абаіх // **ім абаім** (кожнаму з іх — III)
9—10 Замест: такім бязлітасным // **такі** (гэтакі — III) бязлітасны (II, III)
13 Замест: хоча // просіць (II, III)
14 пакуль — адсутнічае (II, III).
18 Замест: мецъ // на (II, III)
18—19 і есці за ім.— адсутнічае (II, III).
22 Замест: Волька // Волечка (II, III)
31—32 Замест: пахаваць // хаваць (II, III)
40 Замест: ён ∽ паправіцца // гэты немец і **так** (сам — III) ачуняе (II, III)
41 Замест: і паправіцца. // і ачуняе. (II, III)

Стар. 14
2—3 Замест: і прывязем // паедзем па (II, III)
9 Замест: сталі // пачалі (II, III)
20 Замест: ў беспрытульным // ў беспрытульнасці на
30 Замест: адказала // сказала
31 Замест: ён // мой (II, III)
32 Замест: спакой // не прыціскаць лішне з работаю (II, III)
32—33 Пасля: вырабіў бы. //
Разам з гэтай фразай скончылася і снеданне, і пайшлі садзіцца на воз. (II, III)
34 Яму — адсутнічае (II, III).
37 Замест: выконваў свае абавязкі // пільнаваўся сваіх абавязкаў (II, III)
чалавека — адсутнічае.
38 Замест: які // як
40 Замест: здабылі // **дасталі** (знайшлі — III)

Стар. 15
1 Замест: мясцовы. // **і** (адсутнічае — III) родам тутэйшы. (II, III)
Замест: пры доктару // пры дактарох (II, III)
3 Пасля: а што, // а хто. (II, III)
4 Пасля: весялей, // і часу хапала, (II, III)
11 Пасля: усё //, што толькі ёсць, (II, III)
13—14 Патузваючы лейцы,— адсутнічае (II, III).
26 Пасля: тым жа // самым (II, III)
27 з лыжкі — адсутнічае (II, III).
Пасля: малаком //, **і поўна хата** (а ў хаце поўна — III) людзей, не прабіцца. Сумлічан найшло ў хату гэтулькі, колькі яна **магла** (магла яна — III) ўмясціць у сабе. Насыходзіліся не толь-

кі суседзі, але і з **самых далёкіх** (іншых — III) **вуліц,** (.—III) хто меў час. (//, той і прыйшоў.— III) **Хто** (Адзін — III) разглядаў немца, **а хто** (другі — III) даваў парады, чым яго лячыць, **хто** (трэці — III) ўспамінаў, як раз «у Танежычах старога Бранавіцкага было так скруціла, (// што — III) таксама як гэтага, **што** (адсутнічае — III) ледзьве адхаялі. Спірытусам церлі». Сумлічанкі ўздыхалі, божкалі, некаторыя выціралі вочы, і ўсе з вялікім спачуваннем глядзелі на немца. Адна жанчына стаяла сярод усіх як аслупянелая і ўсё гаварыла:

— Небарак гэты чалавек. Гэта ж падумаць! У чужой старане, (! — III) адзін сярод незнаёмых людзей, ды яшчэ ў палоне, узяў ды і захварэў. Каб бог даў ён хаця ачуняў. (II, III)

Замест: сядзіць // сядзеў (II, III)

[28] Замест: прыглядаецца // прыглядаўся (II, III) Пасля: да немца //, але спаміж **гэтым сваім медыцынскім заняткам,** (гэтага свайго медыцынскага занятку,— III) **ён** (адсутнічае — III) кідаў **вачыма** (вокам — III) туды, дзе было густа людзей, **і** (адсутнічае — III) відно было, што ён тут усіх ведае. Пакуль Волечка паіла немца малаком, ён **зачэпаў** (чапаў — III) то аднаго, то другога з сумлічан:

— Ці няма тут **Магдалены** (Марылі — III) Парыбчыхі? **А Ева Кахановічыха** (Галена Каханоўская — III) **тут? А сам Уладзя Кахановіч?** (адсутнічае — III) А Аляксандар Хрысцініч? (!— III) А Сымон (!—III) **Крыстынчык?** (адсутнічае — III) **А Светлік,** (Святловіч? — III) **а Грысюк, п Рудзік, а Раман Габрыельчык?** (адсутнічае — III) А чаму тут няма Андрэя **Ветрыка?** (Залядзелага? — III) Падайце мне сюды **Віктара Даменю, Тодзю Раманоўшчыка, Міхала** (Юзіка Целяфуна і двух Міхалаў: Будрыка і — III) Пранцішчыка, (//. А ты, Пятрок Махорка, можа ўжо ажаніўся? Не?! Дык жа ты сорак тры гады, не сціхаючы, усё сватаўся да Марцінюковай Агаты. Яна не пайшла, ці ты яе не ўзяў. Што? У яе і без цябе васьмёра дзяцей радзілася, а з жыватом на дзевятае ты браць яе не захацеў? А чаму гэта я тут не бачу Ярмалінщчыка, Міхала Раманоўскага, Тофіля Казлоўшчыка, Каятана Свярбіцкага, Пракопа Вяндзілу, Паўлюка Вальчэню, Змітра Арловіча? А дзе Фэлька Жыбурт і два Галляшы Булаты? А Мікалай Даменя і Віктар Міхалковіч? — III) **Зэнака Ярмалінскага і Базыля Андруковіча.** (адсутнічае — III). Усіх сюды збірайце. (//! Трэба, каб усе сумлічане сышліся.— III). Гуртам будзем лячыць (// гэтага — III) немца. (! — III). На лекі будзеце зносіць (// сюды — III) усё, што я скажу. Хто малако, а хто спірытус. (! — III). Набраліся ж **пэўна** (напэўна,— III) спірытусу, **нахапалі,** (адсутнічае — III) калі яго на пачатку вайны з бравароў у рэчку выпускалі. Без жартаў кажу! Дзе лёгкі на ногі (// і на язык — III) **Костусь** (Косцік — III) Кедыш? **А** (адсутнічае — III) дзе рухавы **Рыгор** (Зміцер — III) Маляўка? Дзе далікатны Міхал Аляксейчык? **А** (адсутнічае — III) дзе забіяцкі **Мікалай** (Антось — III) Сарафінчык? **Усе** (Дзе — III) казённы спірытус (//? — III) **з лужы хляпталі,** (// Дзе той, што хлябтаў яго з лужы? — III) **а** (А — III) каб прынесці гэтаму хвораму ваяку, (// з мокрым носам і сухімі мазгамі,— III) дык ніхто і не **зварухнецца!** (паварушыцца. Усе хвастом накрыліся. Скажыце вы мне, ці гэта вы кожны сваім хвастом накрываўся, ці ў вас знайшоўся адзін вялікі на ўсё мястэчка хвост? — III).

**Фэльчар крычаў на ўсіх, а ўсе давалі рогату на ўсю хату.** (Фэльчар крычаў і размахваў рукамі, а ўсе, хто быў у хаце, давалі такога гуртавога рогату, што немец з нейкім неспадзяваным яму самому жахам вадзіў вачыма па хаце і пачаў выходзіць з свае хворае замкнутасці і паглыбленасці самога ў сябе.— III).

[29] Замест: к // да

[31] Замест: некалькі // колькі (II, III)

[33] Пасля: Дык жа // дарма (II, III)

[34] Замест: напалохалі. // палохалі!

Замест: зараз // неўзабаве (II, III)

пешкам — адсутнічае.

[35] Замест: і // яно (II, III)

Замест: шкодзіла б // пашкодзіла б (II, III)

[36] Пасля: ўсе // з сваім нáрадам

Пасля: папруцянелі //. Каб вам гэтыя сквапныя вочы навек **зямля прысыпала.** (накрыла — III) (II, III)

а то — адсутнічае.

Пасля: неспакою // і гора

[37] Пасля: Павошта? // Што вы тут згубілі?! (II, III)

[40] Пасля: ўсё роўна? // — адказаў фэльчар. (II, III)

[41] Пасля: сам // здаровы (II, III)

[42] заваліць мне хату.— адсутнічае.

з ім — адсутнічае.

Стар. 16

[7] Замест: церабіць // перабіраць (II, III)

[16] Замест: якія // што

[27] Пасля: фельчар //, і ўсе, **хто быў** (што былі — III) у хаце, загулі і заварушыліся. Праз агульны **шум** (тлум — III) прарэзваўся востры голас нейкага сталага сумлічаніна:

— Дурань ты! Не можна быць такім недаверкам! Калі не верыць людзям, дык лепш (// тады ўжо — III) на свеце не жыць. (II, III)

Пасля: запаветраў! // — крычаў (сказаў — III) фэльчар.— Што ж ты думаеш, тут табе зброд які? (//, ці нáвалач з усяго свету? — III) Тут **усё** (усе — III) самыя сталыя людзі. (// Сумлічане! — III) Справядлівыя, добрыя, з праўдаю ў сэрцы і з розумам у галаве. **Гэта ж сумлічане!** (Адсутнічае — III). **А** (адсутнічае — III) ў Сумлічах ніхто ніколі дзвярэй не замыкае і сам чужога не зачэпіць. Гэта ж не тое што як некаторыя, раззявіўшы горла на чужое, аж пад Баранавічы з Берліна дапялі ў чужое! (//... — III) (II, III)

[28] Пасля: кажы, // дык (II, III)

[30] сваёй — адсутнічае (II, III).

[41] сам — адсутнічае (II, III).

Стар. 17

[2] Замест: пачаў гаварыць // **павольна** сказаў (адсутнічае — III) (II, III)

[2–5] Замест: які ∽ немца. // той адразу зразумеў, усміхнуўся і, на агульнае здзіўленне, **сказаў** (адсутнічае — III) штосьці коратка (// адказаў — III) немцу па-нямецку. (II, III)

[6] Пасля: яго // нямецкая (II, III)

па-нямецку — адсутнічае (II, III).

[7] Замест: на вусны // да вуснаў (II, III)

[8] Замест: ён ∽ немца: // немец сумным **пакіўваннем галавы даў ведаць** (паказаў — III) фэльчару, што той зразумеў (// яго — III), чаго ён хоча. (II, III)

Замест: той // Немец (II, III)

Пасля: прасіў // фэльчара (II, III)

[13] Замест: па паперы // паперу (II, III) ўсім — адсутнічае.

[14] Пасля: што // гэты (II, III)

[15–18] Замест: Вольцы ∽ з-пад Вілейкі». // таму, хто хоча. (// — Першы распісваюся я,— сказаў фэльчар і, распісваючыся, павольна выгаварыў сваё імя і прозвішча, расцягнуўшы гаворку ў тую меру, у якой выпісваліся літары:

— Пунктавы фэльчар Максім Грынюк.— III)

Следам за **фэльчарскім** (фэльчарам — III) **подпісам** (адсутнічае — III) распісаўся **малады выгнанец:** (адсутнічае — III) Костусь Лукашэвіч. Пасля малая гаспадыня (// гэтай хаты — III): Вольга Нявада. **А пасля,** (потым — III) у цішыні, з глыбокай павагай да справы, быццам (// бы — III) ратуючы (// гэтым — III) увесь свет не менш як ад касмічнай катастрофы, як на ўрачыстай царкоўнай адправе, пачалі падыходзіць і распісвацца сумлічане. Хоць гэта **і** (адсутнічае — III) было ўжо лішняе, хоць гэтых сведак (// можа — III) і зусім **можа** (адсутнічае — III) не трэба было, але яны падыходзілі і распісваліся, ахвотна, на добрую справу, робячы, як яны думалі, дабро хвораму немцу, **ці** (або — III) салдату пры ім. Васпаваты чалавек з абкусанымі вусамі распісаўся: Юзік Вальчэня. За ім падышоў высокі, плячысты, вусаты **і** здаровы **і** (I // як — III) быццам у судзе якім перад суддзямі растлумачыў фэльчару, салдату і немцу:

— Гэта ён мой родны брат, (// гэты — III) што распісаўся. Дык ці добра будзе, што два браты адзін за адным адразу распісваюцца. (? — III) Ён за мяне маладзейшы на **тры** (чатыры — III) гады. Пішамся мы «Вальчэні», так і ў мэтрыках, а (.А — III) пісар у воласці, трасца (ліха — III) яму, узяў ды запісаў **«Валькоўскія».** («Вальковічы» — III). Дык блытаніна пайшла, і ўжо назад не адпішаш.

— **Распісвайся,— сказаў фэльчар.** (адсутнічае — III). (// Дык як распісвацца?..

— Юзік, як ты распісаўся?

— Вальчэня,— абазваўся Юзік.

— Ну, дык і я так распішуся. Добра? — I ён уставіўся вачыма ў фэльчара.

— Добра, распісвайся, толькі рукавом у чарніла не мачай.

— Не, няхай лепш наш вораг носам у гарачую смалу мачае.

I ён распісаўся.— III) Пасля чалавек малога росту **распісаўся: Уладзімер Кахановіч.** (адсутнічае — III). (// падышоў да стала і сказаў:

— Тут, відзі-пан, гэтакая справа, што я не паспеў яшчэ сёння гарэлкі насцёбацца, дык не ведаю, ці літары ў мяне роўна пойдуць.

Ён узяў пяро і раўнютка, з добрым канцылярскім росчыркам, распісаўся: Якуб Фенюк.

— Добра,— сказаў фэльчар.— Роўна, як уліта.

— Не, не ўліта, але я стараўся, каб немец не разнёс па ўсей Еўропе, што ў нас гарэлкі няма.— III) Пасля (// яго — III) хударлявы чалавек з добрым тварам, (// і — III) яснымі вачыма **і шчы-**

**рай усмешкай** (адсутнічае — III) **напісаў** (распісаўся — III): Костусь **Цераховіч** (Мікалайскі.— III) **і** (I—III) сказаў салдату (// і немцу — III): — Я муляр. Следам распісаўся (// прыемны галасам і душой — III): мельнік **Іван** (Уладзімір — III) Даменя, (// і добрыя вочы яго абвялі ласкава ўсіх. Распісаліся: сальнік Антось Міхалевіч, стальмах Рыгор Ціхановіч — III) **каляснік Міхал Лушчыцкі,** цясляр Лонгін Даменяк, **Антось Карпейчук, Андрэй Ціхановіч, Павал Рудзік, Лізавета Фенюк,** (адсутнічае — III) Марфа Янушчык, Міхаліна Макарэвіч, а Матруна Гарашчэня сказала **салдату: — Я распісвацца не ўмею.** (//: — Я ўдава.— III)

— Годзе,— сказаў фэльчар, і (// сумлічане адзін за адным — III) **ўсе** (адсутнічае — III) пачалі разыходзіцца. (// Але тут фэльчар раптам адумаўся:

— Куды ж вы? Чакайце. Я думаў расказаць вам пра аднаго пісара, які за самую важную справу жыцця лічыў тое, каб смачна і многа з'есці.

— От жа добра было б паслухаць, але ў мяне дома карова нарыхтавалася цяліцца, дык трэба быць пры ёй,— сказаў адзін сумлічанін.

— Што там карова! — сказаў фэльчар тонам вялікага расчаравання, што мусіць такі не ўдасца расказаць яму пра абжорыстага пісара.— Карова ацеліцца і без цябе. У мяне дык была ўчора большая бяда: жонка гусі заганяла, а яны з яе спадніцу сцягнулі. Ну, дык ідзіце, а пагаворым іншым разам.

Усе пачалі выходзіць з хаты. Тут фэльчар раптам аж устрапянуўся:

— Чакайце! Забыўся! У каго тут ёсць добрыя парасята напродаж?

— У многіх ёсць, і ўсе добрыя,— пачуліся галасы.

— Мне каб у парасюка быў хвост абаранкам і каб вушы целяпаліся па-свінску. Бо калі ў яго вушы, як у каня, тырчаць, то гэта не свінюк, а недавярак з сабачаю натурай.

Так затрымаўшы ўсіх у парозе, ён выказаў свае погляды на гатункі і пароду парасюкоў і падсвінкаў, старгаваў у чалавека двое малых парасят, пачаставаў усіх папяросамі, запрасіў кожнага заходзіць да яго ў госці, сам закурыў, і Волеччына хата апусцела.— III). Раптам Костусь Лукашэвіч нешта **адумаўся** (надумаўся — III) і сказаў фэльчару, што ён мае паправіць свой подпіс.

— **Папраў,** (Праў,— III), але не вельмі пэцкай,— **сказаў** (адказаў — III) фэльчар. (// I — III) Той да свайго подпісу «Костусь Лукашэвіч» прыпісаў збоку: «выгнанец **з-пад Вілейкі».** (адсутнічае — III). (II, III)

[18] Замест: апошнія // гэтыя прыпісаныя (гэта прыпісанае — III) подпісу — адсутнічае.

[27] Замест: паўсутак // паўсуткі (II, III)

[35] Замест: паклаў // запячатаў (заклеіў — III) заклеіў — адсутнічае.

[37] Пасля: фельчару // ён (II, III)

[39] Замест: к вечару // на вечар (II, III)

[40] стала ніжэй і — адсутнічае (II, III).

[41] Замест: прастарней // прасторней (II, III)

Стар. 18

3–4 казаў ён.— адсутнічае (II, III).
5 Замест: жыў ∾ дадому // і (адсутнічае — III) жывым і здаровым (II, III)
6 Замест: памалу // пакрысе (II, III)
11 Пасля: дык // яшчэ вельмі многа часу, каб (II, III)
Замест: выветрацца і высахнуць, // выветрыліся і высахлі. (II, III)
24 Пасля: яго // не труцяць, (II, III)
29 Пасля: ганяў // аж
Пасля: у // другое
Пасля: мястэчка //, блізкі свет.
32 Пасля: фельчар // да
33 Замест: хлопцу // хлопца
35 Замест: хлопец // Костусь (II, III)

Стар. 19
7 Замест: лом // лому
8 Замест: запалі // падпалі (II, III)
9 ўсё — адсутнічае (II, III).
9–10 Замест: з кожнай хвілінай // ўсё (II, III)
16 Замест: на другога // да аднаго
17 Замест: аднаго // другога
і прывычкамі, і звычаямі,— адсутнічае (II, III).
37 Стары — адсутнічае (II, III).
39 Пасля: Ён // сумысля (II, III)
40 Замест: «чаго ў цябе слёзы?» // пра слёзы. (II, III)
43 Пасля: Няма,— // голасам (II, III)
Замест: сказала // адказала (II, III)

Стар. 20
2 Пасля: дзень //, як (II, III)
7 Замест: новы // другі (II, III)
16 Замест: к возу // да воза (II, III)
19 Замест: двое коней // два кані (II, III)
20 Замест: бесперапынна // безупынна (II, III)
21 Пасля: будзе. // Я чуў, як ты з фэльчарам гаварыла. Адно ж (II, III)
22 Пасля: даў // сала (II, III)
23 Замест: усімі // кожным (II, III)
31 салам.— адсутнічае (II, III).
39 быць — адсутнічае (II, III).
40 Пасля: Еў // і хваліў (II, III)
42 Замест: медыцынскую дарожную // лекарскую

Стар. 21
2 Замест: Аж ∾ ўзяў. // Аж яго гэтая малая **малачком** (малаком — III) **вылечыла,** (адпаіла — III) няхай ёй бог дасць самой **здароўе.** (здароўя — III) Дык дзе ж цяпер гэтыя кроплі дзець? (// Яны хвораму добра, а здароваму яшчэ лепш.— III) (II, III)
4 Пасля: ўтрох: // сам (II, III)
5 гэтай — адсутнічае (II, III).
Замест: заглядаючы // заглядваючы (II, III)
8 Замест: яго // таго (// добрыя і — III) (II, III)
9 Замест: ён скажа // я скажу (II, III)
якую ён — адсутнічае (II, III).
10 Пасля: з-за // самага
11 Замест: апомніўся, // апамятаўся, (// што ён не дарэчы

прыткнуў сваю капусту да салдацкага замілавання да дзяцей, і — III)
13 Пасля: нашто //, кажаш, (II, III)
14 Пасля: хаце // сабе
15 Замест: важна // трэба (II, III)
17 Замест: на ∽ Вілейшчыну // ў свой бок, у роднае мейсца. (II, III)
20 Цяжкі — адсутнічае (II, III).
22 стары — адсутнічае (II, III).
23 Пасля: Як жа // і **навошта** (нашто — III)
26 Пасля: сена. // Яму стала лягчэй ад гэтай разрыўкі. (II, III)
Пасля: увайшоў // ён (II, III)
28 Пасля: хто //, фельчар, (II, III)
30 Замест: Яна // Ноч (II, III)
30–31 І вядома — адсутнічае (II, III).
31 Пасля: ночы // і сапраўды (II, III)
32 Замест: Яно // Сонца (II, III)
39 Замест: Ружовенькі і свежы // Ружовы і пасвяжэлы (II, III)

Стар. 22
5 Замест: Ён ∽ Шрэдэр? // Ён завецца Фрыдрых? Фрыдрых Шрэдэр? (II, III)
8 Пасля: Волька. // А гэты ж таксама табе дабро зрабіў, што вёз цябе хворага на труне свайго бацькі, як сам казаў. Бачыш, ён мёртвага хаваў, а жывому ратунак даваў. (II, III)
І фэльчар пачаў устаўляць у сваю мову нямецкія словы.
19–20 Замест: рукі Волечцы // Волеччыны рукі (II, III)
25 Замест: Густаў // Фрыдрых (II, III)
32 Пасля: бацьку. //
Вочы яго былі ясныя, і (II, III)
26 яго — адсутнічае (II, III).
30 перад самім жыццём.— адсутнічае (II, III).
39 Замест: — Густаў, Густаў... // — Фрыдрых, Фрыдрых... (II, III)
43 Замест: — І тут жа ∽ усмешкі. // Пара знімаць антонаўкі...

Стар. 23
1 Замест: — Густаў... Густаў... // — Фрыдрых... Фрыдрых,— (II, III)
2 Пасля: душу. //
Здавалася, што ўсё стала ясна перад **гэтымі людзьмі** (імі ўсімі і паміж імі,— III) і нічога (// ўжо — III) няма **паміж імі** (адсутнічае — III) нявыказанага, і (адсутнічае — III) ўпалі (// паміж імі — III) **навек** (адсутнічае — III) усе перагародкі **паміж імі.** (адсутнічае — III) І што не мае на свеце ніякага мейсца тое, што адзін з іх **не тутэйшы, а** (адсутнічае — III) з далёкай чужой (// і варожай — III) дзяржавы **і да таго ж варожай** (адсутнічае — III). Другі толькі нядаўна прыблытаўся сюды, трэці **нідзе ніколі не быў** (мала калі бываў дзе — III) далёка, **апроч** (ад — III) гэтых мясцін. (II, III)
13 Замест: выйшаў // рушыў (II, III)
следам — адсутнічае.
13–14 Пасля: абавязак. // У дзвярах немец азірнуўся на Волечку і прагаварыў да яе нейкую доўгую фразу. А пасля гэтага ён і салдат (//, абодва хмурныя і панурыя,— III) рушылі **з хаты** (адсутнічае — III) ў сваю дарогу. Фэльчар сказаў да Волечкі:

— Ведаеш, што ён табе сказаў на развітанне? Ён сказаў, што жадае табе добрай будучыні, такой, якой жадае і свайму Фрыдрыху, і што самае важнае на свеце, гэта шукаць шчаслівай будучыні і дбаць аб дзецях, бо яны і ёсць чалавечая будучыня. (II, III)

14 Пасля: Фельчар // памаўчаў, (II, III)
Замест: якія // што (II, III)

16 Замест: сукін сын // **чорт лазаты** (Пабажыцца магу, што ён — III)

17 тое — адсутнічае (II, III).

21 Замест: Густавам // Фрыдрыхам (II, III)

23 Пасля: трэба? // Ці каб я паслаў яго куды напісана?

24 туды,— адсутнічае (II, III).

17 Замест: Густава // Фрыдрыха (II, III)

25 Замест: хата апусцела // фэльчар пакінуў хату (II, III)

29 маладых — адсутнічае (II, III).

30 Замест: якія // што (II, III)

36 Замест: даіць і карміць // паіць (//, карміць — III) і даіць (II, III)

41 Замест: рвануўся // выбухнуў (II, III)

43 Пасля: ідзе // сабе (II, III)

Стар. 24

1 устрапянуўшыся,— адсутнічае (II, III).

1–2 Пасля: Кастусь //, устрапянуўшыся і поўны жадання, вялікага, як смага, зачапіцца за якую-небудзь справу. (II, III)

3 Пасля: ўмееш // сеяць (II, III)

5 Пасля: думаеш // сеяць (II, III)

12 Замест: намалачу // памалачу (II, III)

17 Пасля: шчасце // мець (II, III)

19 Пасля: доктар // ад (II, III)

20 Пасля: вечнага // і вернага (II, III)
Замест: дапаможніка // памагатага (II, III)

34 Замест: век ∽ ёй. //, у меншай меры, пражыў на свеце год **семдзесят**, а (сорак, калі, як той казаў, не ўсе пяцьдзесят. І яшчэ можна было падумаць, што ён — III) да Волечкі вельмі блізак і век яе ведае. (II, III)

35 Замест: на тон // да тону (II, III)

38 Замест: ў хаце // з хаты (II, III)

40 Замест: асеннімі // восеннымі (II, III)

Стар. 25

14 Замест: чужым людзям // на стол чужому чалавеку (II, III)

15 Што ж,— адсутнічае (II, III).
Пасля: ён // хіба (II, III)

26 Замест: дзве // тры (II, III)

Стар. 26

5 з ім — адсутнічае (II, III).

7 Замест: забыла // забылася (II, III)

25 Каб ён быў згарэў! —адсутнічае (II, III).

34 Пасля: каўбасу //, яго не пачакаўшы? (II, III)

37 Замест: яна працуе // ходзяць яе пальцы (II, III)

Стар. 27

7–8 Пасля: нанач. // За **гэтыя** (тыя — III) дажджыстыя дні **з палавіну** (добрая палавіна — III) сумлічан пабывала на Волеччыным двары. Цягнуў іх сюды стук цэпа. Хто малоціць у Волечкі, так

## IV

Перад яго вачыма была шаша, і ён глядзеў туды. Адкос узвышаўся намнога ад шашы, і Кастусь Прыбыткоўскі ўглядаўся ў дарогу зверху ўніз. Там было ўсё змешана, згрувашчана, паразварочвана і апачварана. На сярэдзіне дарогі стаяў пахілены набок і абкурадымлены пажарам танк. Нізка над танкам схіліўся звіслы на правадах тэлеграфны слуп. Ногі нямецкага салдата ў вялікіх ботах тырчэлі ўгару, ужо добра ўпруцянелыя. Салдат сканаў на адкосе галавою ўніз. Нейкая гнутая жалезіна ўзнімалася побач танка, і на ёй матлялася крысо з нямецкага мундзіра, а сам немец, укарчанелы і скурчаны як бы сядзеў збоку, з угнутым у грудзі тварам. Гэты немец трымаўся на самым краі ямы, выверненай на шашы артылерыйскім разрывам. Здалечыні тхнула асмалкамі. Крокаў за колькі ад танка відна была яшчэ шапка нямецкага афіцэра, а ў сябе пад нагамі, на самым дне адкосу, Кастусь Прыбыткоўскі ўбачыў доўгага нежывога немца. Ён ляжаў жыватом угару, прыкусіўшы ніжнюю губу і сціснуўшы пальцы ў кулакі. На правай скроні яго засохла кроў. Трэба думаць, што смерць застала яго ў той момант, калі ён стараўся згасіць смагу, бо каля яго ляжала яшчэ зашрубаваная пляшка з нейкім пітвом. Кастусь Прыбыткоўскі адчуваў і смагу, і пясок у роце, і цемень уваччу, і боль, і слабасць, але тут усё ж білася ўжо наверх праз усё новае пачуццё: штосьці зроблена ўжо, каб мінулася няшчасце. Няхай гэтыя прышэльцы ўсюды енчаць і карчанеюць канаючы, каб усюды было так, як тут на шашы. Будзе шчасце ад іх смерці і пакут.

Аднак жа гэта была слабая ўцеха гэтаму маладому, бадай-што яшчэ зялёнаму хлопцу, што сядзеў тут на адкосе. Над ім панавала вялікае няшчасце. Яго тачыў смутак. У яго не было здароўя, ён не ведаў, што дзе рабілася навокал яго, ён апынуўся на адзіноце і адарваны ад усяго таго, чым жыла яго душа датуль. Яму хацелася сказаць слова: «мама». Яму здалося ўжо нават, што ён сказаў гэтае вялікае слова, і спазма здушыла яму грудзі. Дзе яна цяпер, тая мілая істота? Якія новыя турботы цяпер ужо не даюць ёй спакою? Кастусь Прыбыткоўскі змагаўся з слабасцю свае душы ў гэты момант. Ён адарваў вочы ад таго, на што дагэтуль глядзеў, і ўбачыў, як ішла полем жанчына. Яна ўжо была даволі блізка ад шашы і кіравалася проста сюды. Там, дзе яна ішла, не было ні сцежкі, ні дарогі. Гэта быў роўны папар з дробнаю травою і рэдкімі калівамі рыжага шчаўлюку. Кастусю Прыбыткоўскаму гэтая жанчына здавалася даволі-такі высокай і з шырокім размахам рук пры хадзе. Твар у яе быў худы і вельмі загарэлы. Напэўна што ёю апанавала нейкая вялікая турбота. Здавалася, што яе есць адна думка, ад якое няма ратунку. Кастусь Прыбыткоўскі не зводзіў з яе вачэй. Гэта была адзіная тут жывая істота, якая з'явілася сярод страшнай адзіноты. З поля яна ўзышла на шашу, і з твару яе не сышла ранейшая турботнасць, але ўся яна стала як бы рухавейшая. Трымаючы над вачыма далоню ад сонца, яна ўглядалася ў дарогу, і на ўсход і на захад. Нічога мусіць сабе патрэбнага жанчына не ўбачыла. Шаша не мела на сабе ніякага руху. Тады жанчына пачала разглядаць усё каля сябе. Яна акінула вачыма нежывых немцаў, гнутае жалеза, закарэлую кроў на зямлі, нейкую паперыну, прыбітую ветрам да ствала перавёрнутай гарматы, і ўбачыла Кастуся Прыбыткоўскага. Яна як бы

здзівілася ці ўзрадвалася: рухавая рыса прайшла па яе твары. Яна адразу шпарка падышла да яго і сказала:

— Ты тут адзін? Жывы? Сядзіш? — (быў яе голас мяккі і пявучы, здавалася, што голас гэты гучыць там, дзе пануе шчасце) — Ці даўно ты тут сядзіш? А ці не бачыў ты тут на дарозе: можа ішло куды ці бадзялася дзе тут дзіцянё ў сіняй суконачцы і белай хусцінцы, дзяўчынка гадоў тры. А то можа праходзіў мужчына, ну вось так, не вельмі з выгляду рослы, з голеным тварам, без вусоў, у чорным пінжаку па белай рубашцы?

Кастусю Прыбыткоўскаму здавалася, што ён зараз памрэ ад слабасці і смагі, і аднак жа была яму вялікая асалода чуць каля сябе чалавечы голас. Яго ўскрыляла надзея не прапасці тут і вярнуцца ў абсягі таго, з чаго яго раптоўна выбіла нечаканая катастрофа.

— Нікога тут не бачыў,— адказаў Кастусь Прыбыткоўскі, і тут выявілася, што ён цяпер не ўладаў сваім голасам. Ён гаварыў пошапкам і ледзьве адцягваў дух, каб выгаварыць слова. Жанчына падышла да яго бліжэй. Дзеля гэтага яна спусцілася з шашы ў роў пад адкосам і паднялася наверх. Калі яна апынулася на дне рова, то была зусім блізка ля нежывога немца. Магло здавацца, што яе душа аніяк не закранулася тым, што яна ўбачыла каля сябе на дне рова. Усё тая ж адзіная пячаць вялікай турботы ляжала на яе твары і забівала ўсё іншае, што магло лажыцца на гэты твар. Жанчына можа хвіліну ўглядалася ў Кастуся Прыбыткоўскага. І зноў яна пачала гаварыць:

— Ты ранены? Кроў на табе закарэла. А маладзенькі ж які! Недзе ж ў цябе і маці ёсць, а можа і ў цябе самога ўжо ёсць дзеці. Як жа гэта ты тут адзін? Нікога ж ужо і няма тут нідзе. Гэта ты тут гэтак абязвечыўся ці здалёку адкуль бярэшся? Тут?! Ну добра. Не старайся ты мне нічога тлумачыць, я і так магу ведаць ці здагадацца. Яно і так відно. Ведаеш што, хадзем са мною. Можа мне больш на свеце нічога і не асталося, каб яно ўсё было затанула навек з народам сваім. Я ж бачу, што ісці табе будзе не лёгка. Паспрабуем. Нам абы дайсці да вялікай мяжы. Там усё лепей будзе. Божа, якія ў цябе губы аж да крыві пасмяглыя! О так, трымайся за мяне, пакуль разгойдаешся ў хадзе. Пасля табе лягчэй будзе ісці. А ці далёкі ты родам, адкуль? Але ўсё роўна, калі табе цяжка гаварыць, дык ты маўчы. Хадзем, о так.

Ён за яе трымаўся мала. Найбольш яна яго падтрымлівала і вяла. Можа яно так і было, або яна была вышэйшая за яго ростам. Яна была рослая, і постаць яе выдавалася як хударлявая. Здавалася, што клопат аб гэтым раненым маладым салдаце пачаў адрываць яе ад той яе ранейшай усеабдымнай думкі. Яна вяла яго і гаварыла:

— Ты не думай пра сваю бяду, а думай пра тое, што ты жывы. Жывому ўсё прабудзецца. Ужо як мне на свеце ўсё ішлося і прыйшлося, дык, здаецца, і жыць немаведама нашто. А мне ўсё здаецца, што гэтакая дабрыня, калі я чакацьму, што зноў буду радавацца... А небарака ж ты мой. Вось мы і да тае мяжы, што я казала, дайшлі. Бачыш, колькі мы ўжо з табою поля перайшлі. Гэтая шырокая мяжа даходзіць унь аж да таго лесу. Бачыш? Ты тут садзіся, або я памагу табе прылегчы і чакай мяне. Я па цябе зараз прыеду. Я не забаўлюся, тут блізка, кіламетраў шэсць, і ўсё, там дзе вялікае сяло гарыць, раз ты тут ваяваў, то ты павінен

ведаць. Нічога не бойся і чакай мяне. А калі чалавек кірпаты, з голай галавой, навыпуск у нагавіцах і ў белай рубашцы пад чорным пінжаком прыходзіцьме тут каля цябе, то добра прыглядайся да яго, дык і пазнаеш, што гэта той самы, пра каго я кажу. Але ён і сам каля цябе прыпывіцца і пытацца будзе, ці не праходзіла тут я. Дык ты скажы яму, што пошукі былі марныя. Дзіця згінула без следу. То няхай ён тут каля цябе мяне пачакае, я прыеду, і няхай не бяжыць у пошукі, не пагаварыўшы са мною.

Жанчына шпарка пайшла, і Кастусь Прыбыткоўскі ў апошні момант убачыў, як перасмыкнуўся яе твар і вочы зачырваніліся. Неўзабаве і хада яе заціхла, а ён ляжаў на шырокай мяжы адзін. Было падобна да таго, што дзень як бы пачынаў хмурнець і гарачыня зменшвацца. Панавала цішыня. Востры пах травы, недаспелай збажыны і нагрэтай зямлі перамешваўся з тонкім струменем хвойнага лесу, якога тут Кастусь Прыбыткоўскі аднак жа нідзе яшчэ не заўважыў дагэтуль. Ён ляжаў на ўзбуялай траве і зеллі, і яму цяжка было да чаго прыглядацца. Ён не ўбачыў, а ўявіў сабе, і не памыліўся, што тут расце чабор і барконнік і цвітуць каштанні і тур з малачайнікам. Так ён ляжаў можа гадзіну, а можа і дзве ці тры: аніяк не мог ён вызначыць часу. Ён пачуў нечую вельмі шпаркую хаду каля сябе і прыўзняў галаву. Можна напэўна сказаць, што з таго моманту, калі з ім пагаварыла жанчына і сказала, што прыедзе па яго, з яго зусім сплыла ранейшая слабавольнасць, яго апаноўвала адчуванне, што няма ў яго адзіноты і ён не адзін на свеце, а таму не марныя яго будуць патугі да ратунку. Яму цяпер здавалася, што можа ён перамагчы ўсялякую гібель. У галаве яго было цяжка і стукнула болем у патыліцу, калі ён цяпер прыўзняў галаву. Таму ён адразу зноў застаўся ляжаць нерухома. Але ён ужо ўбачыў, што за чалавек падышоў да яго. Гэта і сапраўды быў чалавек у чорным пінжаку па белай рубашцы і кірпаты. Каб тая жанчына не назвала яго кірпатым, Кастусь Прыбыткоўскі і не думаў бы так пра яго. Сапраўды, такі кірпатым ён не быў, аднак жа твар яго быў ні то круглы, ні то кароткі. Але сказаць, што напэўна такое ўражанне было ад яго ў першы момант таму, што галава яго была выстрыжана так нізка, што здавалася лысаю. Ён быў без шапкі і росту — каб яшчэ крыху, дык ніжэй сярэдняга. У кожным разе, каб паставіць яго поплеч з той жанчынай, то ён здаваўся б нізкі, а яна высокая. Такі быў склад у кожнага з іх, хоць сапраўды яны маглі быць і роўныя ростам.

Гэты чалавек стаў над Канстанцінам Прыбыткоўскім і разглядаў яго з хвіліну. Ён яшчэ аддыхваўся ад шпаркай хады. Ён сказаў:

— Вы адзін тут?

— Адзін,— прашаптаў Прыбыткоўскі.

— А тут не праходзіла жанчына?

— Была. Казала, каб вы без яе больш у пошукі не ішлі. Яна зараз па мяне прыедзе.

Чалавек сеў на мяжу і моўчкі сядзеў, праходзілі хвіліны за хвілінай, пакуль чалавек аддыхаўся і ціха пачаў гаварыць.

— Гэта вы ў гэтым баі былі, што тут гэтулькі цягнуўся? Нічога, калі іх усюды будуць так біць, як на гэтым ячменным полі, то ў іх духу не хопіць надоўга. Я нядаўна бачыў шашу. Гэта ўжо

не шаша, а жвірыстая ямішча ўсюды. Вы чалавек малады зусім, у вас усё шпарка пойдзе на папраўку.

— А што робіцца на свеце, дзе вайна, як і што? — моцным і ўзбуджаным шэптам абазваўся Кастусь, ужо як мае быць ускрылены словамі невядомага дабрадумца.

Як бы там не было, а кашмар яго мінуўся, і ўжо як мае быць ён вярнуўся думкамі да рэальнасці свету. Сваю пакуту ён цярпеў цяпер з думкамі аб ёй, як аб чорнай непажаданасці, ад якое трэба вyратавацца. Можна сказаць, што яго думкі гатовы былі мець за верагоднасць самую ясную надзею: збітыя ўсюды немцы ўжо адышлі на сваю зямлю, і злы факт мінуўся назаўсёды.

— Мы ўжо ў нямецкім тыле,— сказаў чалавек.— Немцы ўвайшлі на ўсход, але не тут. Тут так было. Яшчэ ўчора і пазаўчора ўночы яны шашою рваліся на ўсход, але тут была артылерыйская часць. Увесь гэты іхні клін яна змяшала з зямлёй. А пасля новы клін рушыў і пусціў сюды сваю танкавую разведку. А тут аставалася ўсяго некалькі чалавек чырвонаармейцаў. Яны ўсе мусіць і ляглі касцьмі, але ад гэтае разведкі і попелу не пакінулі. Дык немцы больш сюды і не пасунуліся. Шаша вольная ад іх. Ад учарашняга дня я прайшоў па шашы на ўсход сорак кіламетраў і назад сюды, і нідзе немцаў не чутно, апроч нежывых тут на дарозе. Але немцы пайшлі віламі паабапал шашы і зводдалеку ад яе. На поўнач адгэтуль яны ішлі кіламетраў за дваццаць пяць. Яны абышлі гэтую дарогу, а як яны ўжо там наперадзе, нічога ў нас невядома яшчэ. Але ясна адно: наша мясцовасць ужо адрэзана, немцы ўжо на ўсходзе ад нас і шпарка далей ірвуцца, усё гэта так раптоўна сталася і чым гэта ўсё скончыцца. Але вы чалавек малады, і няма чаго дрэнна думаць. Збярэце разам усю волю душы... Але трэба ведаць, што адбылася катастрофа. Што ж, можа нам прыйдзецца пачынаць усё спачатку і з малога, каб праз доўгія гады вытрымліваць змаганне, тачыць і раскалоўваць ярмо на шыі. Хто ведае, як усё павернецца? Можа быць, што толькі нашым дзецям прыйдзецца дакончыць гэтае скіданне ярма. Мы будзем гатовы да доўгага змагання.

Кастусь Прыбыткоўскі павaрушыўся. Было падобна, што рвануўся з месца на ўсе свае сілы. Голас яго быў страшны, калі ён, перамогшы хрыпатасць і шэпт, бадай-што выгукнуў:

— Якім дзецям! Якое ярмо! Армія ж б'ецца!

На душы ў яго стала прыкра, і не тое што безнадзейнасць апанавала яго, але душа яго стала як прыгнечаная. Яго стан льга зразумець: ён не меў ніякіх дзяцей, бацькоўскага пачуцця ён не ведаў. Ён сам яшчэ нядаўна дарос да юнацтва і не паспеў яшчэ пажыць на ўсю сваю радасць. З усеабдымнай сілай ён прагнуў жыць так, як сам хацеў, і ўсімі яго помысламі ўладала прага як найхутчэй дарвацца зноў да жыцця. У гэтым якраз момапце і пачыналася яго нагатаванасць ісці на ўсялякія пакуты і самаахвярнасць, каб хоць праз гэта дайсці да ўсяго таго, чым жыло яго маленства, і з чаго пачалося юнацтва, і што ўжо страцілася так раптоўна.

— Не, я не думаю так, што немцы нас заваюють, але я, каб самога сябе больш нагартаваць на доўгія выпрабаванні, узяў самае горшае, што магло б быць. Усё, што я сказаў, мае дачыненне найбольш да мяне, а не да вас. Вы малады зусім, а мне ўжо сорак два гады. Гэта не старасць, але ж гэта і не маладосць. Але сіл у

мяне многа. За маё жыццё я іх не патраціў, хоць толькі ведаў, што з году ў год ірваў з шыі ярмо. Будзь смелы і прыўзняты душой, малады браце! Мы цябе паставім на ногі здаровага.

Так сказаў гэты дзіўны чалавек, і Кастусь Прыбыткоўскі адчуў да яго як бы прыхільнасць, бо быў нядаўна момант, што ў яго была толькі адна варожасць да гэтага невядомца. Немаведама што гэта за чалавек і што тая за жанчына, але хіба гэта важнасць вялікая? Самае важнае цяпер, гэта стаць хутчэй на здаровыя ногі, і ўсё іншае павінна служыць гэтай мэце. Напэўна, што за апошнія дзён два і за апошнюю паўгадзіну, Кастусь Прыбыткоўскі пасталеў і думкамі, і намерамі, і практыкай на некалькі год. Думкі яго ніколі не былі такія цвёрдыя і ўпэўненыя, як у гэтыя хвіліны. Ён ляжаў на цвёрдай траве і бачыў, як неба пачынае цьмець — ці то на блізкі вечар, ці то на хмурнае надвор'е. Невядомы чалавек сядзеў паблізу яго ў глыбокім одуме. У яго душы ішла нейкая вялікая работа, гэта льга было б заўважыць, каб хто наглядальны добра прыгледзеўся цяпер у яго твар. На гэтым твары рысы як бы мелі свой рух, на іх ляжалі сляды перажытага, і пячаць вялікіх турботаў не сыходзіла з іх. У гэтым сэнсе тут было пэўнае падабенства да той жанчыны. Адно што ў тае твар мог змяніцца ад прыходу шчасця, а гэты ўжо, відаць, навек з'яднаўся з сваімі думкамі. Чулы чалавек мог бы так падумаць, гледзячы на яго і на тую жанчыну. Больш гэты чалавек не пачынаў свае ранейшае гаворкі. Магло быць падобна, што ён ужо саромеецца перад Прыбыткоўскім нейкай той свае ўспышкі думак і панылых настрояў. Напэўна, што і сапраўды была ўспышка. У кожным разе, гэты чалавек жыў нейкім сваім жыццём нават і цяпер, калі, здавалася, грозныя падзеі і справы пачалі зводзіць усіх у адну меру.

— Калі жанчына казала, што прыедзе па вас, то гэта неўзабаве будзе: тут недалёка, і яна заўсёды ўсё шпарка робіць.— (Ён зноў маўчаў.) — Можа вам што трэба, пакуль яна прыедзе? — (Ён казаў так, як бы Прыбыткоўскі даўно ведаў і яго, і жанчыну. Гэта была мілая рыса ў яго, гэтая простая дабрата.)

— Вады,— сказаў Кастусь Прыбыткоўскі.

— Я не здагадаўся, а вы не сказалі,— затрапятаўся чалавек.— А тут зусім блізка рачулка цячэ. Зараз я вам вады прынясу.— Ён шпарка ўзняўся на ногі.— Тут забітыя немцы былі, і пляшкі каля іх, я сам бачыў. Тут многа немцаў бадзялася параненых і пакантужаных, яны выйшлі былі з бою і разбрыліся па ўсёй мясцовасці. Але тут і здаровыя немцы даходзілі былі. Тут паблізу праходзіць вялікі гасцінец на Мінск, дык па той дарозе яшчэ за дзень да бою тут, сеў нямецкі дэсант. Яны заўладалі дарогай, і яшчэ ў той дзень чутна была адтуль кулямётная стральба, яны, тыя дэсантнікі, удвух, абязвечылі і тую жанчыну.

Здавалася, што гэта ён гаворыць сам сабе. Ён шпарка пайшоў і адразу знік. Каб Кастусь Прыбыткоўскі мог разгледзець яго бліжэй і падумаць пра яго, то мог бы падумаць, што ў гэтага чалавека штосьці было ў жыцці такое, што павяло яго ў адмысловую дарогу. У кожным разе, ён быў выбіты з звыклае жыццёвае каляіны. Здавалася, што думка моцна точыць яго.

Не больш як праз хвілін дзесяць ён вярнуўся з двума плескатымі пляшкамі, якія тырчэлі ў яго з пінжачных ніжніх кішэняў....

## ЗМЕСТ



На белорусском языке
Кузьма Чорный
(Николай Карлович Романовский)
Собрание сочинений в восьми томах
ТОМ ШЕСТОЙ
Романы «Поиски будущего», «Млечный Путь», «Великий день». Повесть «Скипьевский лес»

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар А. Д. Куліш
Мастак Ю. К. Зайцаў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень
Карэктар Я. Ф. Харко.

АТ 04116. Здадзена ў набор 21/I 1974 г. Падп. да друку 20/VIII 1974 г. Тыраж 14 700 экз. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 27,3. Ул.-выд. арк. 30,11. Зак. 743. Цана 1 руб. 21 кап.

Надрукавана з матрыц ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарні выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі праспект, 79, паліграфкамбінатам імя Я. Коласа Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Чорны К.**
Ч 75 Збор твораў у васьмі тамах. Том 6. Мн., «Маст. літ.», 1974.
520 с. з іл.

У шосты том Збору твораў уключаны раманы: «Пошукі будучыні», «Млечны Шлях», «Вялікі дзень» і аповесць «Скіп'ёўскі лес».

Ч $\frac{0733\text{-}153}{М\ 302(05)\text{-}74}$ 102-74 Бел 2